# НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ ІСЦІНЫ



Дзіўныя дзеі адбываліся ў кватэры № 50 дома № 302-біс на Садовай, што даўно ўжо карысталася калі не благой, то, прынамсі, няпэўнай рэпутацыяй. Аднойчы ў нядзельку ў кватэры аб'явіўся міліцыянер у белых пальчатках, выклікаў у вітальню-пачакальню кватаранта, прозвішча якога забылася, і сказаў, што таго просяць зайсці на хвілінку ў аддзяленне міліцыі за нешта нейкае распісацца. Кватарант, у сваю чаргу, сказаў хатняй работніцы Анфісе, што неўзабаве, хвілін праз дзесяць, вернецца, і пайшоў разам з міліцыянерам. Але не вярнуўся не толькі праз дзесяць, а наогул ніколі не вярнуўся. Самае дзіўнае, што разам з ім знік і міліцыянер. Анфіса, якая верыла ў прымхі, заявіла, што гэта няйнакш чарадзейства і што яна ведае, хто гэта зрабіў, але не хоча казаць нанач гледзячы. Першы безыменны кватарант знік, як запомнілі, у панядзелак, а ў сераду як скрозь зямлю праваліўся другі, з прозвішчам Беламут. На світанку яго, як звычайна, забрала службовая машына, але назад нікога не прывезла. Тае ночы не засталі ў кватэры і грамадзянкі Беламут. Мала таго, дзверы пакоя былі апячатаны. На трэці дзень гаспадыня кватэры № 50 Ганна Францаўна дэ Фужэрэ, удава ювеліра дэ Фужэрэ, паехала на летнік. Ці варта казаць, што не вярнулася! Суседзі чулі, як у 50-й кватэры ўсю ноч нешта стукала і да ранку палілася ў вокнах электрыка. Раніцой выявілася, што і работніцы Анфісы няма! Хадзілі потым чуткі, нібыта дужа набожная Анфіса хавала ў сябе на грудзях у замшавым мяшэчку дваццаць пяць буйных гаспадыніных брыльянтаў, і што на летніку, куды ездзіла гаспадыня, у дрывотні знайшлі незлічоныя скарбы ў выглядзе тых самых брыльянтаў і залатых царскіх чырвонцаў. З новымі жыльцамі, Міхаілам Аляксандравічам Берліёзам, старшынёю адной з

маскоўскіх літаратурных асацыяцый, і Сцёпам Ліхадзеевым, дырэктарам тэатра Вар'етэ, як толькі яны засяліліся, таксама пачало рабіцца немаведама што...

Амаль тое самае, што адбывалася ў кватэры № 50 у доме на Садовай у Маскве, як гэта апісаў у рамане «Майстар і Маргарыта» Міхаіл Булгакаў, адбывалася ў другой палавіне 30-х гадоў і ў Кіеве, і ў Мінску. Раптам сярод белага дня, а больш сярод цёмнай начы, знікалі назусім бясследна людзі. Родныя, блізкія, сябры, суседзі, знаёмыя. Усім вядомыя, славутыя і самыя звычайныя людзі. І тыя, у каго сапраўды было ў мінулым нешта падазронае, і чыстыя, як анёлы ў белых апратках, нявіннікі. Тыя, на каго даносілі, стукалі, узводзілі паклёп, і тыя, хто верай і праўдай слугаваў д'яблу... Нармальны чалавечы розум марна біўся, шукаючы якой-небудзь элементарнай логікі ў гэтых дзіўных падзеях, не кажучы пра логіку вышэйшага парадку, прадыктаваную нацыянальнымі інтарэсамі маладой савецкай дзяржавы, або пра пэўную мэтазгоднасць, палітычную ці эканамічную, ваенную ці маральную. Што ж да так званай масавай свядомасці, не схільнай лішне паглыбляцца ў прычыны або зазіраць дужа далёка ў вынікі, дык яна без ніякага вагання тлумачыла ўсё варожымі падкопамі, зламыснымі інтрыгамі буржуазнага свету, планамі шматлікіх ідэалагічна чужых цэнтраў, створаных сіламі сусветнага зла, усюдыснага, адвечнага, ірацыянальнага. Адказ на пытанне «што здарылася?» шукалі не толькі савецкія пісьменнікі, якія ўжо мелі на той час магчымасць карыстацца перавагамі «перадавога творчага метаду», але і самыя разумныя галовы заходняй творчай інтэлігенцыі, якія з прычыны сваёй безнадзейнай адсталасці, вядома ж, бачылі і апісвалі толькі адно благое, памылкова прымаючы вонкавае за ўнутранае, а выпадковае за заканамернае. Адказ на гэта пытанне, як і на іншыя тыпова рускія запытанні, накшталт «хто вінаваты?» і «што рабіць?», вельмі актыўна шукаў і Міхаіл Афанасьевіч Булгакаў.

Як сёння відавочна, у яго было найбольш падстаў, каб творчы пошук быў самы плённы. І не толькі таму, што ён ад прыроды надзелены пушкінскім уменнем адным лёгкім штрыхом акрэсліць характар, прадмет, з'яву, гогалеўскім дарам прадбачыць ход падзей самае малое на паўсотню гадоў наперад, апантанасцю Фёдара Дастаеўскага ў пошуках «сарцавіны, самага цэнтра чалавечага ў гэтым чалавеку» (як бачым, амаль даслоўнае супадзенне думак: у класіка рускай літаратуры XIX стагоддзя — «пры самай бязлітаснай праўдзе шукаць чалавечае ў чалавеку»), схільнасцю, уласцівай лепшым прадстаўнікам сусветнай літаратуры, разглядаць чарговы акт чалавечай гісторыі як біблейскую містэрыю духу і яго прыгод на зямлі. У М. Булгакава быў свой адмысловы лёс, які мала чым

нагадваў лёс яго равеснікаў, савецкіх пісьменнікаў, у тым ліку і самых лепшых, самых таленавітых. Яго рэдкай сілы талент быў забяспечаны залатым запасам ягонага жыцця, якое пісьменнік выбудоўваў у поўнай адпаведнасці з сваімі маральнымі ўяўленнямі, не зважаючы на шматлікія нападкі братоў па пяры, хоць гэта духоўнае трыванне і супраціўленне яму дорага каштавала. Але, мабыць, такая цана ўсяго самага сапраўднага ў жыцці і ў творчасці, і інакшага не бывае.

У самога М. Булгакава заўсёды жыло адчуванне, што не ён распараджаецца сваім лёсам, а нехта невядомы, хто стаіць за ўсім, ён жа толькі ажыццяўляе нечую вышэйшую задуму. Выхаванне ў сям'і прафесара Кіеўскай духоўнай акадэміі (дзед быў святар, а бабуля — дачка царкоўнага служкі), чужой да атэістычнай пошасці, распаўсюджанай на пераломе стагоддзяў у Расіі і на Украіне, пакінула на яго ўражлівай натуры прыкметны след. З юнацкіх гадоў ён свядома рыхтаваў сябе да служэння людзям і хоць не стаў, на прыкладзе бацькі і дзеда, духоўнікам, усё ж дбаў пра здароўе простага люду як земскі ўрач спачатку на Смаленшчыне, а потым у Вязьме. Тут яго заспела рэвалюцыя, а неўзабаве і грамадзянская вайна, якая не дала юнаку магчымасці свабодна выбіраць свой шлях. Як пісаў ён пазней у рамане «Белая гвардыя», «народныя настаўнікі, фельчары, аднадворцы, семінарысты воляю лёсу сталі прапаршчыкамі», былі мабілізаваны спачатку петлюраўцамі, а потым белякамі. Малады пісьменнік, аўтар «Запісак юнага ўрача», міжволі стаў сведкам сцэн жорсткага кровапраліцця, калі разам з кіяўлянамі перажыў за кароткі час некалькі пераваротаў, а потым два гады ваяваў на баку белых. Ад эміграцыі яго выратавала тыфозная гарачка. Ад галечы і голаду ён ратаваўся сам: «Мяне ганяла па ўсёй неабсяжнай і дзіўнай сталіцы адно жаданне — здабыць сабе на пражытак». Як чалавек, «які змагаўся за існаванне», ён за кароткі час пабыў на самых фантастычных работах. Булгакаў з вясёлай адчайдушнасцю выпрабоўваў свой лёс, і лёс урэшце падпарадкаваўся энергічнаму аўтару бліскучых фельетонаў, які напісаў раман «Белая гвардыя» (1923—1924) і стаў вядомым у літаратурных колах Масквы.

Але менавіта тады, калі здавалася, што ўсё складваецца да лепшага, выявілася, што М. Булгакаў не стаў і ніколі не стане сваім у асяроддзі песняроў Вялікага Кастрычніка. На шчасце, ніхто з яго крытыкаў не здагадваўся пра ягонае белагвардзейскае мінулае, аднак з іх сапраўды сабачым нюхам яны ўсё ж чулі ў ім чужога. «Пісьменнік, які не пераапранаецца нават у прыблізныя колеры» — ацаніў, як прыпячатаў, першую кнігу М. Булгакава «Д'ябаліяда» крытык Л. Авербах. Перад пісьменнікам паўстаў выбар або, паводле слоў дужа крутога пралетарскага ідэолага

Г. Якубоўскага, «авалодаўшы разцом гістарычнага матэрыялізму, граніць свой чэрап і чарапы сучаснікаў», або «марудна, пакутліва загніваць у таварыстве масцітых і «неўміручых» — М. Зошчанкі, Б. Пільняка, В. Верасаева, В. Замяціна, А. Ахматавай, А. Белага, М. Валошына, «буржуазных пісьменнікаў», з якімі часцей за ўсё яго аб'ядноўвала тагачасная літпостаўская крытыка. У параўнанні з пралетарскімі пісьменнікамі, такімі, як Ф. Гладкоў, Д. Бедны, А. Вясёлы, А. Серафімовіч, М. Ляшко, ён яўна «выпадаў з агульнага, вельмі добранамеранага і вельмі прыстойнага тону», як пісалі аб ім у 20-я гады. Дарэчы, класавая нянавісць не толькі асляпляла, але часам рабіла гэту крытыку надзіва відушчай і досыць дакладна выяўляла сэнс твораў М. Булгакава. Так І. Гросман-Рошчын пісаў пра аповесць «Фатальныя яйкі»: «Аўтару ўдаецца прывіць чытачу пачуццё вострай трывогі... Булгакаў як бы кажа: вы зруйнавалі арганічныя змацаванні жыцця, вы падрываеце карані быцця. Свет ператвораны ў лабараторыю. У імя выратавання чалавецтва як бы адмяняецца натуральны парадак рэчаў і над усім бязлітасна пануе вялікі, але безразважны, ненармальны, а таму на пагібель асуджаны эксперымент... Эксперымент нарадзіў варожыя сілы, з якімі справіцца не можа. А вось натуральная стыхія, жывое жыццё, якое ўступае ў свае правы, паклала канец вялікаму народнаму няшчасцю». Зразумела, што сам аўтар «Фатальных яек» і «Белай гвардыі» не быў «наіўным» адлюстравальнікам, а выдатна бачыў, куды рухаецца ён у сваім творчым пошуку і куды рухаецца ўся Савецкая краіна. У фінале аповесці «Фатальныя яйкі» Булгакаў выразна намякае на магчымасць маразоў у жніўні.

Калі ў пачатку 20-х гадоў пра М. Булгакава пісалі, што ён стаіць асобна ў літаратуры, дык пасля прэм'еры «Дзён Турбіных» у тэатры ўсё часцей пачалі адкрыта называць яго белагвардзейцам і контррэвалюцыянерам. Неўзабаве пасля такіх відавочных сігналаў справа дайшла і да аргвывадаў. У справакаванай У. Біль-Белацаркоўскім перапісцы з Сталіным у сувязі з абмеркаваннем п'есы Булгакава «Бег» апошні назваў яе антысавецкай, тым самым надоўга вырашыўшы яе лёс і лёс самога пісьменніка. Імя Булгакава ў друку звязваецца з правай небяспекай, а яго творчасць — з кулацкімі настроямі, няўклюдна рыфмуючы кулакоў і падкулачнікаў, Булгакава і падбулгачнікаў. Пачынаючы з кастрычніцкага перавароту, пісьменнік «зразумеў канчаткова, што адбылося» (пісьмо да сястры ад 31 снежня 1917 года), і не выношваў ніякіх ілюзій наконт сапраўдных адносін новай улады да мастацтва і мастака. Але гістарычны аптымізм не пакідаў яго і ў горшыя моманты жыцця: «Упэўненасці, што Расія прыкончылася, я не падзяляю, і нават больш таго: па меры таго як я назіраю маскоўскі калейдаскоп, ува мне нараджаецца прадчуванне, што ўсё будзе добра».

Пасля зняцця ўсіх булгакаўскіх п'ес з рэпертуару вясной 1930 года, калі кампанія цкавання набірала разгон і празаік не меў сродкаў на элементарнае існаванне, ён міжволі звярнуўся да думкі аб эміграцыі і дабіваўся дазволу на выезд у пісьме ўраду, а па сутнасці, Сталіну, які ў тэлефоннай размове з ім у нейкай меры супакоіў яго. Хоць і пасля гэтага эпізоду ў яго лёсе мала што змянілася, ён меў магчымасць зарабіць сабе на хлеб у тэатры, але так і не атрымаў выхаду ў друк або на тэатральныя падмосткі. Пры гэтых акалічнасцях і выспявала задума рамана пра д'ябла: Булгакава мучыла адчуванне дзіўнага, няпэўнага, дэманічнага характару становішча, у якім ён апынуўся. Ратавала яго ад адчаю творчая праца. Паводле ўспамінаў А. С. Булгакавай, у 1937 годзе, калі ішлі масавыя арышты, пісьменнік «ужо не баяўся. Ён, ведаеце, неяк расправіўся, набыў упэўненасць... Ён адчуваў сябе ўжо вялікім пісьменнікам, з якім нічога не можа здарыцца». Самім жыццём М. Булгакаў быў належным чынам падрыхтаваны да стварэння сваёй Галоўнай кнігі, якою стаў раман «Майстар і Маргарыта». Лёс гэтага твора, апублікаванага толькі ў канцы 1966 — на пачатку 1967 гг. у часопісе «Масква», у сваю чаргу пацвердзіў прароцтвы аўтара, які насуперак шматлікім трагічным фактам сцвярджаў: «Рукапісы не гараць».

Задума рамана ўзнікла і выспела ў момант сутыкнення з д'ябальскай уладай і з самім д'яблам у асобе «вялікага правадыра». Аднак яна не зводзілася толькі да выкрыцця зла і сцвярджэння дабра ў іх шматлікіх штодзённых, бытавых праявах, якія таленавіты пісьменнік востра фіксаваў яшчэ тады, калі пісаў фельетоны. Рэальны побыт таго часу і асабліва спецыфічны характар жыцця масквічоў узнаўляецца ў творы з сапраўднай рэмбрантаўскай жывапіснай сілай. Пры гэтым аўтар свядома пазбягае бытапісання, якім звычайна злоўжывалі іншыя савецкія празаікі. Параўноўваючы ўсе восем існуючых рэдакцый рамана, лёгка заўважыць, як з кожным разам ён накіравана пазбаўляецца ад празмернай дэталізацыі і падрабязнасцей, якія абцяжарваюць сюжэт, замаруджваюць бег падзей, адцягваюць увагу ад галоўнага, што хацеў выказаць празаік. Можна заўважыць і сам працэс пераўтварэння побытавых драбніц у фізічна наглядныя і адчувальныя знакі самога быцця. Гэты працэс ідзе ўжо на стылістычным узроўні, пачынаючыся з малога: пісьменнік таленавіта выкарыстоўвае такую асаблівасць слова, як яго шматзначнасць. Варта Берліёзу раздражнёна згадаць чорта, як той адразу «выткаўся» з спякотнага паветра, што «згусцілася» вакол герояў. Знерваваны падзеямі, што адбываліся ў тэатры Вар'етэ, дырэктар Камісіі відовішчаў Прохар Пятровіч не паспеў вымавіць слоў «чорт мяне вазьмі!», як тут жа чорт яго ўзяў, пакінуўшы ў крэсле за

сталом пусты касцюм. У час сеансаў чорнай магіі ў Вар'етэ нехта з галёркі прапануе «голаў адарваць» канферансье Бенгальскаму, які ва ўсё ўмешваўся і ўсім абрыд сваімі матэрыялістычнымі тлумачэннямі,— і кот Бегемот ахвотна выконвае на вачах ашаломленай публікі гэта пажаданне. Нарэшце, галоўная гераіня твора Маргарыта, змучаная думкамі пра лёс Майстра, свайго каханага, у адчаі прамаўляе: «Дальбог, чорту б душу прадала, каб толькі даведацца, ці жывы ён!» — і тым самым назаўсёды вызначае свой лёс і лёс каханага: д'ябал ахвотна прымае ў заклад іх душы, узамен абяцаючы пацешыць іх самалюбства і даць нарэшце спакой. Далей — болей, чытач, які прыняў правілы гульні, прапанаваныя аўтарам, ужо не патрабуе дадатковых тлумачэнняў, дзе ляжыць мяжа паміж рэальным і фантастычным, і верыць ва ўсё, што паказвае і пра што апавядае раманіст. Ён адчувае, што пісьменніка захапляе не гульня дзеля гульні і не прыём дзеля прыёму, а нешта куды больш важнае, чаго нельга выявіць іншымі, традыцыйна-літаратурнымі спосабамі. У рамане «Майстар і Маргарыта» паступова выкрышталізоўваецца вельмі арыгінальная філасофская канцэпцыя эпохі, адзін змястоўны ўзровень якой следам за наступным, больш глыбокім, узроўнем вобразна засвойвае М. Булгакаў.

Якая ж гэта канцэпцыя? Ужо эпіграф да рамана, узяты з «Фаўста» Ё. Гётэ, выяўляе, на якую літаратурную традыцыю арыентуецца М. Булгакаў і якія сусветныя пытанні яго хвалююць як пісьменніка. Насуперак вымогам сацыялістычнага рэалізму апісваць жыццё ў яго рэвалюцыйным развіцці, як быццам яно пачалося не з Адама, а з Вялікага Кастрычніка, ён свядома ставіць перад сабой задачу знайсці адказ на самыя важныя для чалавека пытанні, якія заўсёды ставіла перад сабой сусветная класіка і якія ў абноўленым выглядзе ўзняла паслярэвалюцыйная рэчаіснасць. Перш за ўсё гэта пытанні пра паводзіны чалавека ў свеце, дзе ідзе рашучая бойка сусветнага дабра з глабальным злом. Рэальнасць савецкага часу і тут унесла свае унікальныя акцэнты: Воланд і тыя жыццёвыя прататыпы, якія праглядваюцца за яго вобразам, увасабляюць у творы «частку сілы той ліхой, дабро ўтвараецца з якой», як сказана ў эпіграфе. Савецкае грамадства, якое з першых дзён свайго існавання рашуча адкінула ідэю Бога («Але, мы не верым у бога», «мы — атэісты»,— весела аб'яўляе Воланду Берліёз) і вырашыла на аснове перадавога навуковага вучэння пабудаваць камуністычны рай на зямлі, ужо праз адно дзесяцігоддзе прыйшло да нечаканых вынікаў, калі ўсё было перавернута з ног на галаву, насуперак усялякаму элементарнаму здароваму сэнсу. Калі дабра ў свеце, як гэта абяцалі бальшавіцкія лідэры, не толькі не пабольшала, але яно было прыніжана і рас-

таптана ў выніку бесчалавечнай дзейнасці карных органаў, а зло паўстала ў якасці раўназначнай сілы, больш таго, бачачы, што кволая раўнавага парушана, змушана па-свойму ратаваць дабро, міжволі заступаючыся за яго. Такім у рамане паўстае спецыяліст па чорнай магіі, дух зла і валадар ценяў Воланд, такім у рэальнасці міжволі паўставаў і вялікі правадыр, настаўнік усіх працоўных, сябра дзяцей Сталін, калі сваім тэлефонным званком прыпыніў на нейкі час рэпрэсіўную махіну, якая ўжо ўцягвала ў кола свайго дзеяння і М. Булгакава, даў яму магчымасць напісаць свой «вячэрні раман». Ведамства Воланда задумана ад пачатку і з'яўляецца натуральным працягам ведамства Іешуа Га-Ноцры, але знаходзіцца, нягледзячы на сваю моц і распаўсюджанасць, у поўнай залежнасці ад апошняга: «Святло нараджае цень, але ніколі не было наадварот». А што да функцый, дык, паводле ўдакладнення Воланда, «кожнае ведамства павінна займацца сваёй справай», і гэты выразны падзел сфер выяўляецца ў тым, што Іешуа, гэты філосаф-бадзяга, прапаведуе свае погляды пры дапамозе слова, а Воланд, галава ведамства справядлівасці, які, паводле яго выказвання, больш за ўсё любіць праўду, наводзіць свой парадак у жыцці, актыўна ўмешваючыся ў ход падзей, пры гэтым, аднак, строга дазіруючы меру пакарання: «Цагліна ні з таго ні з сяго нікому і ніколі на галаў не ўпадзе». У гэтым князь цемры перaклікаецца з Іешуа, які ў спрэчцы з Понціем Пілатам сцвярджае тую самую думку пра існаванне тысячагадовага плана развіцця свету і чалавецтва, выказаную ў Евангеллі ў вядомых словах: «Без волі Божае ніводзін волас не ўпадзе з вашае галавы» або «А ў вас і валасы на галаве ўсе палічаны». Калі Понцій заяўляе, што жыццё Іешуа вісіць на валаску і што ён можа перарэзаць гэты валасок, Іешуа, «светла ўсміхнуўся, засланіўся рукой ад сонца» і запярэчыў: «...згадзіся, што перарэзаць валасок можа толькі той, хто павесіў?»

Можна згадзіцца з М. Булгакавым, які верыць, што свет пабудаваны ў адпаведнасці з законамі мэтазгоднасці і што ўсё ў ім так ці інакш пастаўлена ў адносіны ўзаемазалежнасці. Што плён чалавечай, у тым ліку і пісьменніцкай дзейнасці не знікае, раствaрыўшыся бясследна ў Леце. Што злачынства будзе пакарана, а добрыя ўчынкі ў любым выпадку належным чынам ацэнены. Што святло ісціны ўрэшце праб'ецца праз хмары хлусні. Што, навёўшы парадак у самім сабе, чалавек у выніку навядзе парадак і ў вялікім свеце, арганізуе хаос і стыхію ў адпаведнасці з законамі хараства. Можна згадзіцца і з думкай пісьменніка, што выключную ролю ў гэтым сусветным працэсе іграла і іграе хрысціянства і што чалавеку, з яго «кароценькімі» думкамі і ўяўленнямі пра ўсё, лепш не чапаць «напятых сусветных струн», каб незнарок

не парушыць не зразумелую яму гармонію. Але ў такім разе непазбежна ўзнікае патрэба даказаць, што Ісус Хрыстос існаваў на самай справе і што ўсё, расказанае пра яго вучнямі-евангелістамі Мацеем і Маркам, Лукой і Іаанам, праўда ад першага да апошняга слова. Гэта патрэба была асабліва вострая ў бязбожным савецкім грамадстве 30-х гадоў, калі і быў напісаны раман «Майстар і Маргарыта» і калі пісьменнік з адчаем назіраў, як адбывалася глумленне з вечных ісцін і якіх маштабаў набіраў працэс распаду чалавечай маралі. Гэты бок тагачаснага жыцця паказаны ў рамане з сарказмам, вартым пяра самога М. Салтыкова-Шчадрына, якога, дарэчы, М. Булгакаў цаніў надзвычай высока. Таталітарная сістэма, з д'ябальскай стараннасцю выбудаваная Сталіным і яго падручнымі, стварала ўмовы, у якіх стаўка рабілася на нізкія чалавечыя інстынкты, калі ў людзях абавязкова брала верх благое. Да якога стану вар'явання і ажыятажу даводзяцца гледачы сеанса чорнай магіі, калі бачаць магчымасць раптам разбагацець, не прыклаўшы дзеля таго ніякіх высілкаў! З якою лёгкасцю адкідваюцца ўсе нормы маралі, што неяк яшчэ стрымлівалі націск жывёльных інстынктаў! Сапраўды, усё па Ф. Дастаеўскаму: калі Бога няма, то ўсё дазволена. Дазволены паклёп, даносы, пошукі шпіёнаў і ворагаў, масавы псіхоз спеўнага грузавіка, оргіі наведнікаў дома Грыбаедава, пісьменнікаў ад станка і сахі, здрада і трусасць, махлярства і подласць. Стыхія антыкультуры, вырваўшыся на прасторы адной шостай часткі свету, адкінула буржаузны этыкет і растаптала рэшткі духоўнасці, абудзіўшы ў людзях нізкае, жывёльнае, д'ябальскае. Зруйнаваўшы векавы культурны пласт, новы чалавек, які прэтэндаваў на тое, каб стаць чалавекабогам, так і не змог пабудаваць новы свет. Бальшавіцкая вавілонская вежа ад самага пачатку была асуджана на знішчэнне.

Вялікасная містэрыя, трагіфарс з працяглымі актамі і дзеямі, што адбываліся на пасторнай сцэне нашай краіны, красамоўна пацвердзілі вечнасць біблейскіх ісцін і наглядна выявілі прысутнасць за ўсім Вышэйшага Розуму. Законы Духу такія ж адвечныя і неадольныя, як і фізічныя законы свету. Зло непазбежна будзе пакарана, за злачынствам ідзе помста, за грахом — адчуванне віны і неабходнасці ў каянні. Таму так і мітусяцца ўсе гэтыя старшыні дамкамаў, адміністратары ад культуры, кіраўнікі таямнічай арганізацыі пад назвай МАССАЛІТ, марнатраўцы сваіх і чужых талентаў — берліёзы, лапшоннікавы, латунскія, ліхадзеевы, лаўровічы, арыманы, што занядбалі ў сабе сваю неўміручую душу, прадаліся нячыстай сіле, якая пасля Ершалаіма аблюбавала сталінскую Маскву. Эпізадычным здаецца ў рамане вобраз Іешуа Га-Ноцры, які дзве тысячы гадоў назад прапаведаваў на зямлі філасофію дабра, сцвярджаючы, што чалавек па сваёй прыродзе

добры і што толькі нялюдскія акалічнасці вымушаюць яго быць інакшым, чым гэта задумаў Першатворца ўсяго існага. Аднак якая сіла і моц праўды ў яго пропаведзі, што здаецца таму ж Понцію Пілату кволай і маладзейснай, калі евангельскія думкі паўтарае, хоць і ў сваёй адпаведнай інтэрпрэтацыі, Воланд: як рэха слоў «чалавек добры» гучыць сумны вывад д'ябла «людзі як людзі», вось толькі «кватэрнае пытанне» іх сапсавала. Божыя законы ўсюдыісныя, з імі нельга абыходзіцца так легкадумна, як з чалавечымі, бо ў выніку адбудзецца апакаліпсіс. Варта было бяздарнаму паэту Івану Бяздомнаму напісаць заказную антырэлігійную паэму, дзе вобраз Ісуса Хрыста малюецца вельмі чорнымі фарбамі, як лёс яго быў канчаткова вызначаны: ён трапляе ў псіхбальніцу з дыягназам «шызафрэнія» і назаўсёды вылечваецца ад жадання пісаць вершы («...я болей вершаў пісаць не буду»). Але калі ў Бяздомнага Хрыстос, хоць і ў непрывабным выглядзе, усё ж атрымаўся як жывы, дык для яго крытыка і рэдактара Берліёза «галоўнае не ў тым, які быў Ісус, добры ці дрэнны, а ў тым, што Ісуса не існавала наогул і што ўсе расказы пра яго — усяго толькі выдумка, самыя звычайныя міфы». Пакаранне бязбожніка не замарудзіла наступіць: «Анечка ўжо купіла алей, і не толькі купіла, але нават і разліла», на ім паслізнуўся і трапіў пад трамвай Берліёз. Прысуд выконвае Воланд, які спакойна сцвярджае: «Ісус існаваў». А што да пяці ці шасці лагічных доказаў Божага існавання, то, на думку Воланда, «доказаў ніякіх не трэба». Свет без Бога і яго ценю, д'ябла, не свет, а першабытны хаос, дзе пануе цемра і забыццё. Сёння, калі наша грамадства вяртаецца да рэлігіі і знаходзіцца ў пошуку вышэйшых аўтарытэтаў, відавочна, што створаны М. Булгакавым вобраз па-дзіцячы наіўнага і прастадушнага, але ўнутрана цвёрда перакананага ў сваёй праўдзе Іешуа з'яўляецца ідэйным цэнтрам рамана, які надае духоўны сэнс пакутлівым пошукам пісьменніка.

Раман «Майстар і Маргарыта» М. Булгакава быў рэакцыяй выдатнага пісьменніка на падзеі. Яго як асобу і мастака асабліва абурала ўзаконеная ў 30-я гады «гульня на паніжэнне», калі чалавека як Божае стварэнне проста не прымалі ў разлік, а мастака прымалі толькі ў якасці праваднiка партыйнай лініі ў літаратуры, звычайнага ілюстратара рашэнняў ЦК. Такім чынам, размова ў творы ішла і аб свабодзе творчасці, бо літаратура, як яе разумеў Булгакаў, выступае ва ўмовах абароны на свабоднае выказванне думак, як адзін з апошніх афіцыйна дазволеных сродкаў сцвярджэння духоўнага пачатку і пранікнення ў таямніцу жыцця, гісторыі, творчасці. Вось чаму такое абурэнне выклікалі прыстасаванцы і баязлівыя абывацелі. Ён разумеў, напрыклад, трагедыю Івана Бяздомнага, якая тлумачылася тым, што ён, па сутнасці,

заставаўся невукам: пісаў паэму пра Ісуса, не прачытаўшы нават Евангелля. Іншая справа, начытаны і па-свойму адукаваны Берліёз: калі іншыя былі вінаватыя ў фізічным знішчэнні так званых ворагаў, дык берліёзы свядома ўдзельнічалі ў духоўным разбэшчванні народа. Парадокс у тым, што адплата наступае вельмі хутка і — самае цікавае — што яе несвядомай зброяй выступае чалавек з народа ў асобе Чумы-Анечкі. Відавочна, што пры такім развіцці падзей усё магло скончыцца катастрофай, калі збудзецца прадбачанне Іаана Багаслова: «...і галасы гусляроў, і песнапеўцаў, і жалейнікаў, і тых, што трубяць у трубы, у табе больш чутны не будуць; не будзе ўжо ў табе ніякага мастака, ніякага мастацтва...» (Адкрыцьцё, 18, 22).

Кожнаму герою ў рамане Булгакава, як і было абяцана, адплочваецца паводле веры яго. Левію Мацею, які, паверыўшы ў праўду Ешуа, усё ж застаўся задужа старанным вучнем і засвоіў хрысціянскае вучэнне як застылую догму. Па сутнасці, ён раб ідэі і не здольны ўспрыняць дыялектычную глыбіню думкі свайго настаўніка: «...ходзіць, ходзіць адзін з казліным пергаментам і няспынна піша. Але я аднойчы зазірнуў у гэты пергамент і жахнуўся. Абсалютна нічога, што там запісана, я не гаварыў». У Левія шмат агульнага з Майстрам: абодва яны, кожны па-свойму, пісьменнікі. Розніца паміж героямі ў тым, што Левій піша пра тое, што бачыць і чуе, а Майстар апавядае ў сваім рамане «пра Понція Пілата» тое, што толькі ўяўляе. Апісанне «з натуры» аказваецца бездапаможным, мёртвым злепкам, а вобразная фантазія — самай дакладнай, нават у дэталях, праўдай. «Во, як я ўгадаў! Во, як я ўсё ўгадаў!» — шчасліва ўсклікае Майстар, выслухаўшы свой твор у выкананні Воланда, сведкі падзей двухтысячагадовай даўнасці. Чаму ж тады Левій далучаны да «святла», якое знаходзіць ад хрысціянскага вучэння, а Майстру літасціва даруецца толькі спакой, якога так прагнула пры жыцці яго спакутаваная ад працы над творам і ад пазнейшых прыгод з яго рукапісам душа. Віна Майстра ў тым, што ён спалохаўся за свой раман, які трапіў у рукі афіцыйных крытыкаў накшталт Латунскага, і адмовіўся ад барацьбы за твор, дзе ўсё ад пачатку да канца была праўда. Ён аказаўся нявартым не толькі свайго таленту, але і кахання жанчыны, з якой так удала звёў яго лёс і якая натхняла яго якраз на барацьбу за твор. Нездарма Воланд, пабачыўшы Майстра, адзначыў: «Сапраўды... яго сапраўды моцна скалечылі». Аднак Левій адрокся ад сябе дзеля таго, каб выратаваць свайго настаўніка ад пакут, і яго ўжо нічым не спакусіш: ні грашыма, якія прапануе Пілат, ні «спакоем». Як асоба гэты герой ужо адбыўся. Майстар адмовіўся ад сваёй працы, спаліў раман, але не адмовіўся ад спакою, які спачатку

яму быў прапанаваны ва ўзорнай псіхбальніцы Стравінскага, а пазней у дараваным Воландам ціхім дамку пад вішнямі, дзе можна вечарамі гуляць з Маргарытай і слухаць Шуберта, а потым сядзець пры свечках, як Фаўст, «над рэтортай у спадзяванні, што вам удасца зрабіць новага гамункула». М. Булгакаў, як і яго герой, таксама атрымаў спакой і магчымасць пісаць. Але ў адрозненне ад Майстра, які ў рашучую хвіліну свайго жыцця, калі вырашаўся лёс яго твора, схібіў і здаўся, пісьменнік трываў да апошняга, спадзеючыся ўжо не на прыхамаць правадыра, у якой меў цудоўную магчымасць расчаравацца яшчэ на пачатку 30-х гадоў, а на канчатковую перамогу сіл дабра і элементарнага здаровага сэнсу. Нездарма ён сказаў аднойчы, як нешта вынашанае і для яго надзвычай важнае: «Пісьменнік павінен быць стойкім, як бы ні было яму цяжка. Без гэтага літаратуры не існуе». А ў самім рамане адзін са світы д'ябла, Азазела, маючы на ўвазе ўчынак Понція Пілата, які, па сутнасці, адмовіўся сваёй уладай памілаваць Іешуа, бо збаяўся даносчыкаў, сцвярджае, што няма грэху горшага за баязлівасць. Гэты чалавек быў храбры і вось, спужаўся кесара адзін раз у жыцці, за што і пацярпеў. М. Булгакаў не спужаўся кесара, наадварот, у рамане шмат адкрытых аналогій з эпохай, у якой яму давялося жыць і тварыць. Больш таго, ён нават паспрабаваў, выводзячы вобраз Пілата, зразумець псіхалогію ўладара: «Бяда ў тым, што ты занадта замкнуты і зусім страціў веру ў людзей». У сваім змаганні за творчую свабоду М. Булгакаў быў падобны да класікаў — такіх, як Пушкін, Лермантаў, Талстой, да сучаснікаў — такіх, як Караленка, Платонаў, Пастарнак, Купала, Гарэцкі, Чорны, да наступнікаў — такіх, як Твардоўскі, Салжаніцын, Быкаў... Таму ён перамог.

Сцвярджаючы ідэю неўміручасці людскіх спраў і творчых здзяйсненняў, усяго таго, што ўжо так ці інакш збылося на зямлі, няхай гэта будзе знішчаны грознай навальніцай Ершалаім ці спалены самім тварцом рукапіс выдатнага рамана, М. Булгакаў тым самым умешваўся адкрыта ў спрэчку з пашыранымі ў XX ст. уяўленнямі, што ўсё знікае гэтак жа лёгка і бясследна, як зніклі мільёны ахвяр сталінскіх рэпрэсій, як знікалі, здавалася, назаўсёды, праўдзівыя творы мастацтва, нарэшце, цэлыя сферы гісторыі і сучаснасці. У рамане «Майстар і Маргарыта» ёсць гэта няўлоўнае, таямнічае чацвёртае вымярэнне часу, якое злучае розныя эпохі ў адно цэлае, выводзіць народжаны ў пэўных гістарычных акалічнасцях твор мастацтва ў вечнасць, дзе героі вядуць сваю спрэчку і ў гэту спрэчку міжволі ўцягваюцца новыя і новыя пакаленні людзей:

«— І настане царства ісціны?

— Настане, ігемон,— пераканаўча адказаў Іешуа.

— Яно ніколі не настане! — раптам закрычаў Пілат...»

У фінале рамана Пілат меў магчымасць пераканацца, што царства ісціны настала, прынамсі, для яго самога, бо за дзве тысячы гадоў ён выпакутаваў сабе права на дараванне, і перад ім адкрылася шырокая, асветленая месяцам дарога да вяршынь ісціны. Сучаснае пакаленне чытачоў мае цудоўную магчымасць навочна пераканацца ў геніяльнай прадбачлівасці Міхаіла Булгакава, які, будучы на самым дне прорвы, у якую саштурхнуў краіну таталітарызм, прарочыў, што момант ісціны нарэшце настане. У іншым выпадку чалавечы рух у будучыню проста не мае ніякага сэнсу, а гісторыя свету канчаткова вычарпана. На мяжы трэцяга тысячагоддзя хрысціянскай цывілізацыі з'явіўся яшчэ адзін дараваны зверху шчаслівы шанец вырвацца нарэшце з «егіпецкага палону» і дасягнуць зямлі абяцанай.

*Міхась Тычына*



# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Дык хто ж ты?
— Частка сілы той ліхой,
Дабро ўтвараецца з якой.

*Гётэ. «Фаўст»*

## Раздзел I

### НІКОЛІ НЕ РАЗМАЎЛЯЙЦЕ З НЕВЯДОМЫМІ

Аднойчы вясною, у надзвычай душны адвячорак, на Патрыярхавых сажалках у Маскве з'явіліся двое. Першы, у шэранькім летнім гарнітуры, быў маленькі ростам, сыты, лысы, свой прыстойны на выгляд капялюш-булачку нёс у руцэ, а на чыста выгаленым твары меў велізарныя акуляры ў рагавой аправе. Другі — плячысты, рыжаваты, віхрасты малады чалавек у клятчастай шапачцы, ссунутай на патыліцу,— быў у каўбойцы, пакамечаных белых штанах і ў чорных тапачках.

Першы быў сам Міхаіл Аляксандравіч Берліёз, старшыня праўлення адной з буйнейшых маскоўскіх літаратурных асацыяцый, якая скарочана называлася МАССАЛІТ, і рэдактар тоўстага мастацкага часопіса, а малады яго спадарожнік — паэт Іван Мікалаевіч Паныроў, які падпісваўся псеўданімам Бяздомны.

Як толькі апынуліся ў цяні ледзь зазелянелых ліп, пісьменнікі найперш кінуліся да страката размаляванай будачкі з надпісам: «Піва і воды».

Тут варта адзначыць першую незвычайную акалічнасць гэтага страшнага майскага вечара. Не толькі ля будачкі, але і ва ўсіх прысадах уздоўж Малой Броннай вуліцы не аказалася ніводнага чалавека. У той час, калі, здаецца, не ставала сілы нават і дыхаць, калі сонца, пасля таго як напякло Маскву, падала кудысьці за Садовае кальцо,— ніхто не

прыйшоў пад ліпы, ніхто не сеў на лавачку, пуста было пад прысадамі.

— Дайце нарзану,— папрасіў Берліёз.

— Няма нарзану,— адказала жанчына ў будачцы і чамусьці пакрыўдзілася.

— Піва ёсць? — сіпла спытаў Бяздомны.

— Піва прывязуць вечарам,— адказала жанчына.

— А што ёсць? — дапытваўся Берліёз.

— Абрыкосавая, але цёплая,— сказала жанчына.

— Ну, давайце, давайце, давайце!..

Абрыкосавая пагнала шчодрую жоўтую пену, і ў паветры запахла цырульняй. Пасля таго як выпілі, літаратары пачалі адразу ж ікаць, разлічыліся і селі на лаўцы тварам да сажалкі і плячыма да Броннай.

Тут адбылося другое незвычайнае здарэнне, якое датычыла толькі аднаго Берліёза. Ён раптоўна перастаў ікаць, яго сэрца страпянулася і на імгненне кудысьці правалілася, потым вярнулася на сваё месца, але з тупою іголкаю, якая ўкалолася ў яго. Акрамя ўсяго, Берліёза апанаваў незразумелы, але вялікі страх, яму раптам захацелася бягом уцячы з Патрыярхавых сажалак без аглядкі. Берліёз сумна азірнуўся, не разумеючы, што яго гэтак напалохала. Ён пабялеў, выцер лоб хусцінкай, падумаў: «Што гэта са мною робіцца? Такога раней не было... сэрца падводзіць... я стаміўся. Відаць, трэба кідаць усё к чортавай матары і ў Кіславодск...»

І тут спякотнае паветра згусцілася перад ім, і з яго саткаўся празрысты грамадзянін, вельмі дзіўны на выгляд. На маленькай галоўцы жакейская шапачка, клятчасты кароценькі і лёгенькі пінжачок... Грамадзянін быў ростам з сажань, але вузкі ў плячах, надзвычай худы, а твар, вымушаны заўважыць, меў здзеклівы.

Берліёзава жыццё было такое, што да незвычайных з'яў ён не прывык, таму яшчэ болей спалатнеў, вылупіў вочы і ў разгубленасці падумаў: «Не можа гэтага быць!..»

Але было, і рослы празрысты грамадзянін, не кранаючыся зямлі, хістаўся перад ім і ўлева, і ўправа.

І гэтакі жах апанаваў Берліёза, што ён аж заплюшчыў вочы. А калі расплюшчыў, то зразумеў, што ўсё скончылася, мроіва прапала, клятчасты знік, а заадно і тупая іголка выскачыла з сэрца.

— Ну, д'ябал! — усклікнуў рэдактар.— Ты ведаеш, Іван, у мяне ад спякоты ледзь не ўдар быў! Нават галюцына-

цыі пачаліся,— ён паспрабаваў усміхнуцца, але ў яго ў вачах трымцела трывога і рукі дрыжалі.

Аднак пакрысе ён супакоіўся, абмахнуўся хусцінкай і даволі бадзёра вымавіўшы: «Ну, такім чынам...» — прадоўжыў гаворку, перапыненую піццём абрыкосавай.

Гаворка гэтая, як потым стала вядома, ішла пра Ісуса Хрыста. Справа ў тым, што рэдактар заказаў паэту ў чарговы нумар часопіса вялікую антырэлігійную паэму. Гэтую паэму Іван Мікалаевіч напісаў, і даволі хутка, але яна не задаволіла рэдактара. Намаляваў Бяздомны галоўную дзеючую асобу сваёй паэмы, гэта значыць Ісуса Хрыста, занадта чорнымі фарбамі, тым не меней, усю паэму, на думку рэдактара, трэба пісаць нанава. І вось цяпер рэдактар чытаў нешта накшталт лекцыі пра Ісуса, з мэтаю падкрэсліць асноўную паэтаву памылку. Цяжка сказаць, што канкрэтна падвяло Івана Мікалаевіча — ці выяўленчая сіла яго таленту, ці абсалютнае няведанне таго, пра што ён сабраўся пісаць, але Ісус атрымаўся ў яго зусім як жывы, хаця і непрываблівы персанаж. Берліёз жа хацеў даказаць паэту, што галоўнае не ў тым, які быў Ісус, добры ці дрэнны, а ў тым, што Ісуса не існавала наогул і што ўсе расказы пра яго — усяго толькі выдумка, самыя звычайныя міфы.

Трэба аддаць належнае: рэдактар быў чалавек начытаны і вельмі ўмела спасылаўся ў сваёй прамове на старажытных гісторыкаў, напрыклад на знакамітага Філона Александрыйскага, на бліскуча адукаванага Іёсіфа Флавія, якія і слова не сказалі пра існаванне Ісуса. Міхаіл Аляксандравіч дэманстраваў салідную эрудыцыю і, між іншым, даводзіў паэту, што тое месца ў пятнаццатай кнізе, у 44-м раздзеле вядомых Тацытавых «Аналаў», дзе гаворыцца пра пакаранне Ісуса,— не што іншае, як пазнейшая падробка і ўстаўка.

Паэт, якому ўсё, што паведамляў рэдактар, было навіною, уважліва слухаў Міхаіла Аляксандравіча, не адводзіў ад яго сваіх жывых зялёных вачэй, зрэдку ікаў, лаяў абрыкосавую ваду.

— Няма ніводнай усходняй рэлігіі,— гаварыў Берліёз,— у якой бы, як правіла, непарочная дзева не нарадзіла б бога. І хрысціяне не выдумалі нічога новага, гэтаксама стварылі свайго Ісуса, якога на самай справе ніколі не было жывога на гэтым свеце. Вось на гэта і трэба зрабіць асноўны акцэнт...

Берліёзаў тэнар уладарыў на пустым бульвары, і ў меру таго як Міхаіл Аляксандравіч улазіў у нетру, у якую лезуць і не баяцца скруціць сабе шыю толькі вельмі адукаваныя

людзі,— паэт даведваўся ўсё болей і болей цікавага і карыснага і пра егіпецкага Азірыса, добрага бога і сына Неба і Зямлі, і пра фінікійскага бога Фамуза, і пра Мардука, і нават пра меней вядомага грознага бога Віцліпуцлі, якога вельмі ўшаноўвалі некалі ацтэкі ў Мексіцы.

І вось якраз у той час, калі Міхаіл Аляксандравіч расказваў паэту пра тое, як ацтэкі ляпілі з цеста фігурку Віцліпуцлі, на бульвары паказаўся першы чалавек.

Пасля, калі, шчыра кажучы, было ўжо па часе, розныя ўстановы далі свае зводкі з апісаннем гэтага чалавека. Параўнанне іх не можа не выклікаць здзіўлення. Гэтак у першай зводцы сказана, што чалавек быў маленькі ростам, меў залатыя зубы і накульгваў на правую нагу. У другой — што чалавек высокі ростам, каронкі ў яго плацінавыя, кульгаў на левую нагу. У трэцяй лаканічна паведамляецца, што асаблівых прыкмет у чалавека не было наогул.

Трэба адзначыць, што ніводная з гэтых зводак нічога не вартая.

Перш за ўсё: ні на якую нагу чалавек не кульгаў і ростам быў і не маленькі і не вялікі, а сярэдні. Што датычыць зубоў, то з левага боку ў яго былі плацінавыя каронкі, а з правага — залатыя. Быў ён у дарагім шэрым гарнітуры, у замежных, пад колер гарнітура, туфлях. Шэры берэт зухавата ссунуты на вуха, пад пахай нёс кій з чорным набалдашнікам у выглядзе галавы пудзеля. З выгляду — гадоў за сорак. Рот нейкі крывы. Твар чыста выгалены. Брунет. Правае вока чорнае, левае чамусьці зялёнае. Бровы чорныя, але адно брыво вышэй за другое. Адным словам — чалавек з-за мяжы.

Чужаземец прайшоў паўз лаўку, на якой размясціліся рэдактар і паэт, скоса зірнуў на іх і раптам сеў на суседняй лаўцы, за два крокі ад сяброў.

«Немец»,— падумаў Берліёз.

«Англічанін,— падумаў Бяздомны,— бач ты, і не горача яму ў пальчатках».

А чужаземец зірнуў на высокія дамы, якія квадратам акружалі сажалку, і стала зразумела, што бачыць ён гэтае месца ўпершыню і што яно яго зацікавіла.

Ён спыніў позірк на верхніх паверхах, якія сліпуча адлюстроўвалі шклом паламанае і назаўсёды адыходзячае для Міхаіла Аляксандравіча сонца, потым паглядзеў уніз, дзе вокны надвячоркава зацямнеліся, нечага паблажліва ўсміхнуўся, прыплюшчыўся, рукі паклаў на набалдашнік, а падбародак на рукі.

— Ты, Іван,— гаварыў Берліёз,— вельмі добра і сатырычна, напрыклад, апісаў нараджэнне Ісуса, сына божага, але цымус у тым, што яшчэ да Ісуса нарадзіўся цэлы шэраг сыноў божых, як фрыгійскі Аціс, а карацей кажучы, ніводзін з іх не нараджаўся і ніводнага не было ніколі, у тым ліку і Ісуса, і таму неабходна, каб ты замест нараджэння і, скажам, прыходу валхвоў, напісаў аб недарэчных чутках пра гэтае нараджэнне... А то атрымліваецца з твайго расказу, што ён і сапраўды нарадзіўся!..

Тут Бяздомны паспрабаваў спыніць ікаўку, якая замучыла яго, затрымаў дыханне, а таму ікнуў яшчэ пакутлівей і мацней, і ў гэтае ж імгненне Берліёз перастаў гаварыць, таму што чужаземец устаў і накіраваўся да пісьменнікаў.

Тыя здзіўлена паглядзелі на яго.

— Прабачце, калі ласка,— загаварыў незнаёмец з чужаземным акцэнтам, але слоў ён не калечыў,— што я, незнаёмы, дазваляю сабе... але сам прадмет вашай вучонай гаворкі гэтакі цікавы, што...

Тут ён ветліва зняў берэт, і сябрам нічога іншага не заставалася, як устаць і пакланіцца.

«Не, хутчэй за ўсё француз...» — падумаў Берліёз.

«Паляк»,— падумаў Бяздомны.

Неабходна дадаць, што паэту чужаземец адразу ж здаўся непрыемным, а Берліёзу хутчэй за ўсё спадабаўся, ну, не зусім каб спадабаўся, як бы гэта сказаць... заінтрыгаваў, ці што.

— Дазвольце, я прысяду? — ветліва папрасіў чужаземец, і сябры неяк міжволі вызвалілі між сабой месца; чужаземец спрытна сеў паміж імі і адразу ж уключыўся ў гаворку.

— Калі я правільна пачуў, вы сказалі, што Ісуса не было на свеце? — спытаў чужаземец і зірнуў на Берліёза сваім левым зялёным вокам.

— Вы правільна пачулі,— ветліва адказаў Берліёз,— якраз гэтак я і гаварыў.

— Вой, як цікава! — усклікнуў чужаземец.

«А якога д'ябла яму ад нас трэба?» — падумаў Бяздомны і насупіўся.

— А вы згодны з вашым субяседнікам? — пацікавіўся незнаёмы, павярнуўшыся ўправа да Бяздомнага.

— На ўсе сто! — пацвердзіў той, бо любіў гаварыць з выкрунтасамі і фігуральна.

— Цудоўна! — усклікнуў няпрошаны субяседнік, чамусьці як злодзей азірнуўся і прыцішаным голасам ска-

заў: — Даруйце мне за настырнасць, але я зразумеў, што вы, акрамя ўсяго, і ў бога не верыце? — ён зрабіў спалоханыя вочы і дадаў: — Клянуся, я нікому не скажу.

— Але, мы не верым у бога,— паблажліва ўсміхнуўся з перапалоху турыста Берліёз,— пра гэта можна гаварыць зусім адкрыта.

Чужаземец адкінуўся да спінкі і спытаўся, нават аж віскнуўшы ад цікаўнасці:

— Вы — атэісты?!

— Але, мы — атэісты,— з усмешкаю адказаў Берліёз, і Бяздомны падумаў раззлавана: «Во прычапіўся, гусак замежны!»

— Вой, якое цуда! — ускрыкнуў дзіўны чужаземец і пакруціў галавою, гледзячы то на аднаго, то на другога літаратара.

— У нашай краіне атэізм не дзіва,— з дыпламатычнай ветлівасцю адказаў Берліёз,— большасць нашага насельніцтва свядома і даўно перастала верыць у казкі пра бога.

Тут чужаземец утварыў гэтакі фокус: устаў, паціснуў здзіўленаму рэдактару руку і прамовіў наступнае:

— Дазвольце падзякаваць вам ад усяго сэрца!

— За што вы дзякуеце? — заплюскаўшы вачыма, спытаў Бяздомны.

— За вельмі важныя звесткі. Яны мне, як падарожніку, надзвычай цікавыя,— шматзначна падняўшы палец, растлумачыў замежны дзівак.

Важныя звесткі, відаць, сапраўды зрабілі на падарожніка моцнае ўражанне, таму што ён спалохана правёў позіркам па дамах, нібы баяўся ў кожным доме ўбачыць атэіста.

«Не, ён не англічанін...» — падумаў Берліёз, а Бяздомны падумаў: «Дзе гэта ён насабачыўся гаварыць па-руску, вось што цікава!» — і зноў насупіўся.

— Але, дазвольце спытацца ў вас,— пасля трывожнага роздуму загаварыў замежны госць,— ну, а як быць з доказамі існавання бога, якіх, як вядома, існуе роўна пяць?

— На жаль,— спачувальна адказаў Берліёз,— ніводны з гэтых доказаў нічога не варты, і чалавецтва даўно спісала іх у архіў. Згадзіцеся, што ў разумовай сферы ніякага доказу існавання бога быць не можа.

— Брава,— ускрыкнуў чужаземец,— брава! Вы цалкам паўтарылі думку неспакойнага старога Імануіла на гэты конт. Але вось кур'ёз: ён ушчэнт знішчыў усе пяць доказаў, а потым, быццам на здзек з самога сябе, стварыў уласны шосты доказ!

— Доказ Канта,— тонка ўсміхнуўся і запярэчыў рэдактар,— таксама пераканаўчы. І недарэмна Шылер гаварыў, што кантаўскія развагі пра гэтае пытанне могуць задаволіць толькі рабоў, а Штраўс проста смяяўся з гэтага доказу.

Берліёз гаварыў, а сам думаў: «Але ўсё ж хто ён такі? І чаму гэтак добра гаворыць па-руску?»

— Узяць бы гэтага Канта, ды за такія доказы на тры гады на Салаўкі! — зусім нечакана бабахнуў Іван Мікалаевіч.

— Іван! — збянтэжана шапнуў Берліёз.

Але прапанова адправіць Канта на Салаўкі не толькі не збянтэжыла чужаземца, але выклікала ў яго захапленне.

— Вось правільна, правільна,— і левае зялёнае яго вока, якое глядзела на Берліёза, загарэлася,— яму толькі там і месца! Гаварыў я яму, калі мы разам снедалі: «Вы, прафесар, вядома, воля ваша, але не надта складна прыдумалі! Яно, можа, і разумна, але ж вельмі незразумела. З вас смяяцца будуць».

Берліёз вылупіў вочы. «У час снедання... Канту?.. Што ён вярзе?» — падумаў ён.

— Але,— працягваў чужаземец, якога не бянтэжыла Берліёзава здзіўленне і які звяртаўся да паэта,— адправіць яго на Салаўкі немагчыма, таму што ўжо сто гадоў з гакам знаходзіцца ў мясцінах яшчэ болей далёкіх, чым Салаўкі, і дастаць яго адтуль ніякім чынам, запэўніваю вас, нельга!

— Шкада! — адазваўся задзірака-паэт.

— І мне шкада! — пацвердзіў чужаземец, бліснуў вокам і працягваў: — Але вось якое пытанне мяне турбуе: калі няма бога, то, пытаюся, хто ж кіруе жыццём чалавечым і ўсім наогул распарадкам на зямлі?

— Сам чалавек і кіруе,— паспяшаўся сярдзіта адказаць Бяздомны на гэтае, прызнацца, не зусім зразумелае пытанне.

— Выбачайце,— мякка абазваўся незнаёмец,— на тое каб кіраваць, трэба як-ніяк мець дакладны план на нейкі даволі прыстойны тэрмін. Дазвольце ж запытацца ў вас, як можа кіраваць чалавек, калі ён пазбаўлены магчымасці не толькі складаць які-небудзь план на нейкі да смешнага кароткі тэрмін, ну, скажам, гадоў на тысячу, але не можа ручацца нават за свой заўтрашні дзень? І сапраўды,— тут незнаёмы звярнуўся да Берліёза: — Уявіце, што вы, напрыклад, пачняце кіраваць, распараджацца і іншымі, і сабою самім, наогул, пачняце толькі смак адчуваць, і раптам у вас... кхэ... кхэ... саркома лёгкага...— тут чужаземец салодка

ўсміхнуўся, быццам думка пра саркому лёгкіх прыносіла яму задавальненне,— ага, саркома,— ён прыплюшчыўся, як кот, паўтарыў гучнае слова,— і вось ваша кіраўніцтва і скончылася! Нічый лёс, акрамя вашага ўласнага, вас болей не цікавіць. Родныя пачынаюць хлусіць, вы адчуваеце, што нешта не тое, нядобрае, кідаецеся да вучоных-дактароў, потым да прайдзісветаў, а здараецца, да варажбітак. І першае, таксама другое і трэцяе рабіць не мае ніякага сэнсу, вы самі гэта разумееце. І ўсё канчаецца трагічна: той, хто яшчэ нядаўна думаў, што ён нечым кіруе, апынаецца раптам у драўлянай скрынцы, ляжыць нерухома, і ўсе навокал разумеюць, што цяпер ад яго ніякай карысці, спальваюць яго ў печы. А здараецца і горш: толькі чалавек збіраецца з'ездзіць у Кіславодск,— тут чужаземец прыплюшчана паглядзеў на Берліёза,— звычайная, здавалася б, справа, але і гэтага зрабіць не можа, таму што невядома чаму раптам паслізнуўся і трапіў пад трамвай! Няўжо вы скажаце пасля гэтага, што ён сам сабою гэтак кіраваў? Ці не правільней думаць, што кіраваў ім нехта іншы? — і тут раптам незнаёмы засмяяўся дзіўным смяшком.

Берліёз з вялікаю ўвагаю слухаў непрыемны расказ пра саркому і пра трамвай, і нейкія трывожныя думкі пачыналі мучыць яго. «Ён не чужаземец! Ён не чужаземец! — думаў ён.— Гэта вельмі дзіўны суб'ект... але, даруйце, хто ж ён такі?»

— Вы хочаце курыць, як я бачу? — нечакана звярнуўся да Бяздомнага незнаёмец.— Вы якія курыце?

— А ў вас хіба розныя ёсць? — панура спытаўся паэт, у якога кончыліся папяросы.

— Якія вам? — спытаўся невядомы.

— Ну, «Нашу марку»,— злосна адказаў Бяздомны.

Незнаёмы адразу ж дастаў з кішэні партабак і прапанаваў Бяздомнаму:

— «Наша марка».

І рэдактара і паэта не гэтак уразіла тое, што знайшлася ў партабаку менавіта «Наша марка», колькі сам партабак. Ён быў вялікі, з чырвоннага золата, і на ім, калі адчыняўся, бліснуў сінім і белым агнём брыльянтавы трохкутнік.

Тут літаратары падумалі рознае. Берліёз: «Не, чужаземец!», а Бяздомны: «Во, д'ябал яго вазьмі! Га?»

Паэт і гаспадар партабака закурылі, а Берліёз адмовіўся.

«Трэба будзе запярэчыць яму такім чынам,— рашыў Берліёз,— правільна, чалавек смяротны, ніхто гэта не аспрэчвае. А справа ў тым, што...»

Аднак ён не ўспеў сказаць гэтыя словы, як загаварыў чужаземец:

— Правільна, чалавек смяротны, але гэта толькі паўбяды. Дрэнна, што ён раптоўна смяротны, вось у чым фокус! І наогул цяжка сказаць, што з ім будзе сёння вечарам.

«Нейкая недарэчная пастаноўка пытання...» — падумаў Берліёз і запярэчыў:

— Ну, у гэтым ёсць перабольшанне. Я пра свой сённяшні вечар ведаю амаль дакладна. Само сабою разумеецца, калі мне на Броннай не ўпадзе на галаву цагліна...

— Цагліна ні з таго ні з сяго,— пераканаўча перапыніў невядомы,— нікому і ніколі на голаў не ўпадзе. У прыватнасці, запэўніваю вас, вам яна не пагражае. Вы памраце іншай смерцю.

— Можа, вы ведаеце і якой,— зусім натуральна, з іроніяй пацікавіўся Берліёз і такім чынам уцягваўся ў нейкую недарэчную размову,— і скажаце мне?

— Ахвотна,— адазваўся незнаёмы. Ён зірнуў на Берліёза, быццам зняў мерку на касцюм, скрозь зубы прамармытаў нешта: «Раз, два... Меркурый у другім доме... поўня сышла... шэсць — няшчасце... вечар — сем...» — і гучна і радасна абвясціў: — Вам адрэжуць галаву!

Бяздомны дзіка і злосна вылупіў вочы на нахабнага незнаёмца, а Берліёз спытаўся з крывой усмешкай:

— А хто канкрэтна? Вораг? Інтэрвенты?

— Не,— адказаў субяседнік,— руская жанчына, камсамолка.

— Гм...— прамармытаў раззлаваны жарцікамі незнаёмага Берліёз.— Ну, гэта, выбачайце, мала верагодна.

— Прашу прабачэння,— адказаў чужаземец,— але гэта праўда. Ага, мне хацелася спытаць у вас, што вы будзеце рабіць сёння вечарам, калі не сакрэт?

— Сакрэта няма. Зараз я зайду дадому на Садовую, а потым у дзесяць вечара ў МАССАЛІЦе адбудзецца пасяджанне, і я на ім буду старшыняваць.

— Не, гэтага не будзе,— цвёрда запярэчыў чужаземец.

— Гэта чаму?

— Таму,— адказаў чужаземец і прыплюшчанымі вачыма паглядзеў на неба, у якім у прадчуванні вячэрняй прахалоды нячутна кружылі чорныя птушкі,— што Анечка ўжо купіла алей, і не толькі купіла, але нават і разліла. Такім чынам пасяджанне не адбудзецца.

Тут, як зразумела, пад ліпамі запанавала маўчанне.

— Даруйце,— пасля маўчання загаварыў Берліёз, гле-

дзячы на чужаземца, які плёў абы-што,— пры чым тут алей, і якая Анечка?

— Алей тут вось пры чым,— раптам загаварыў Бяздомны, які, відаць, вырашыў аб'явіць няпрошанаму субяседніку вайну,— вам не даводзілася, грамадзянін, бываць у псіхбальніцы?

— Іван!..— ціха ўскрыкнуў Міхаіл Аляксандравіч.

Але чужаземец не пакрыўдзіўся і нават весела засмяяўся.

— Быў, быў і неаднойчы! — ускрыкнуў ён смяшліва, але не адводзіў сваіх вачэй, якія не смяяліся, ад паэта.— Дзе толькі я не быў! Шкада толькі, што мне не хапіла часу распытацца ў прафесара, што гэта такое шызафрэнія. Дык вы ўжо самі даведайцеся ў яго, Іван Мікалаевіч!

— Адкуль вы ведаеце, як мяне завуць?

— Злітуйцеся, Іван Мікалаевіч, хто ж вас не ведае? — тут чужаземец выцягнуў з кішэні нумар «Літаратурнай газеты», і Іван Мікалаевіч убачыў на першай паласе свой фотаздымак, а пад ім і ўласныя вершы. Але гэты доказ славы і вядомасці, які толькі яшчэ ўчора парадаваў бы, зараз радасці не прынёс.

— Выбачайце,— сказаў ён і пацямнеў з твару,— вы не можаце пачакаць хвілінку? Мне трэба таварышу сказаць два словы.

— Ну, з задавальненнем! — усклікнуў незнаёмы.— Тут гэтак добра пад ліпамі, і я, дарэчы, нікуды не спяшаюся.

— Вось што, Міша,— зашаптаў паэт, калі адвёў Берліёза ўбок,— гэта ніякі не інтурыст, а шпіён. Гэта рускі эмігрант, які прабраўся да нас. Патрабуй у яго дакументы, і то ўцячэ...

— Ты думаеш? — устрывожана шапнуў Берліёз, а сам падумаў: «А яго ж праўда!»

— Ты мне вер,— зашыпеў яму ў вуха паэт,— дурнем прытвараецца, каб выведаць нешта. Ты чуеш, як ён па-руску шпарыць? — паэт гаварыў і сачыў, каб незнаёмы не ўцёк.— Пайшлі, затрымаем яго, а то ўцячэ...

І паэт за руку пацягнуў Берліёза да лаўкі.

Незнаёмы ўжо не сядзеў, а стаяў ля яе, трымаў у руках нейкую кніжачку ў цёмна-шэрым пераплёце, канверт са шчыльнае, добрага гатунку, паперы і візітку.

— Прабачце мне, што я за спрэчкаю забыўся назвацца. Вось вам картачка, пашпарт і запрашэнне прыехаць у Маскву на кансультацыі,— важка прамовіў незнаёмы і ўважліва паглядзеў на абодвух літаратараў.

Тыя збянтэжыліся. «Д'ябал, усё пачуў...» — падумаў Берліёз і ветлівым жэстам даў зразумець, што ў паказе дакументаў патрэбы няма. Пакуль чужаземец соваў іх рэдактару, паэт успеў разгледзець на картачцы надрукаванае замежнымі літарамі слова «прафесар» і першую літару прозвішча — двайное «В».

— Вельмі прыемна,— тым часам збянтэжана мармытаў рэдактар, а чужаземец схаваў дакументы ў кішэню.

Адносіны такім чынам былі адноўлены, і ўсе ўтрох зноў селі на лаўку.

— Вы ў якасці кансультанта запрошаны да нас, прафесар? — спытаўся Берліёз.

— Ага, кансультантам.

— Вы — немец? — дапытваўся Бяздомны.

— Я?..— перапытаў прафесар і раптам задумаўся.— Ага, мабыць, немец...— сказаў ён.

— Вы добра гаворыце па-руску,— уставіў Берліёз.

— О, я наогул паліглот і ведаю вельмі многа моў,— адказаў прафесар.

— А якая ў вас спецыяльнасць? — спытаўся Берліёз.

— Я — спецыяліст па чорнай магіі.

«На табе!..» — стукнула ў галаве ў Міхаіла Аляксандравіча.

— І... вас па гэтай спецыяльнасці запрасілі да нас? — спытаўся ён, заікаючыся.

— Ага, па гэтай запрасілі,— пацвердзіў прафесар і растлумачыў: — Тут у дзяржаўнай бібліятэцы знойдзены арыгінальныя рукапісы чарнакніжніка Герберта Аўрылакскага, дзесятага стагоддзя. Дык вось, патрабуецца, каб я прачытаў іх. Я адзіны ў свеце спецыяліст.

— А-а! Вы гісторык? — з вялікай палёгкай і павагай спытаўся Берліёз.

— Я — гісторык,— пацвердзіў вучоны і дадаў ні к сялу ні к гораду: — Сёння вечарам на Патрыярхавых будзе цікавая гісторыя!

І зноў вельмі здзівіліся і рэдактар, і паэт, а прафесар паклікаў іх да сябе і, калі яны нахіліліся да яго, прашаптаў:

— Майце на ўвазе, што Ісус існаваў.

— Бачыце, прафесар,— адазваўся з вымучанай усмешкай Берліёз,— мы паважаем вашы вялікія веды, але самі маем наконт гэтага другое перакананне.

— Не трэба ніякіх перакананняў! — адказаў дзіўны прафесар.— Проста ён існаваў, а больш нічога.

— Але трэба ж хоць нейкі доказ...— пачаў Берліёз.

— І доказаў ніякіх не трэба,— адказаў прафесар і загаварыў ціхім голасам, акцэнт у яго адразу чамусьці знік: — Усё проста: у белым плашчы...

## Раздзел 2

### ПОНЦІЙ ПІЛАТ

У белым плашчы з крывавым падбоем, кавалерыйскаю хадою з падшарканнем на дасвецці чатырнаццатага чысла вясновага месяца нісана ў крытую каланаду, якая злучала два крылы палаца Ірада Вялікага, выйшаў пракуратар Іудзеі Понцій Пілат.

Больш за ўсё на свеце пракуратар ненавідзеў пах ружавага алею, і ўсё цяпер прадказвала нядобры дзень, бо пах гэты пачаў даймаць пракуратара з дасвецця. Пракуратару здавалася, што ружавы пах ідзе ад кіпарысаў і пальмаў у садзе, што да паху скур і канвою прымешваецца пракляты ружавы струмень. Ад флігеляў за палацам, дзе размясцілася першая кагорта Дванаццатага Маланкавага легіёна, якая прыйшла з пракуратарам у Ершалаім, зацягвала дымок у каланаду цераз верхнюю пляцоўку саду, і да гаркавага дыму, які сведчыў пра тое, што кашавары ў кентурыях пачалі гатаваць страву, прымешваўся ўсё той жа тлусты дух ружавага алею. Ах багі, багі, за што вы караеце мяне?

«Але, несумненна! Гэта яна, зноў яна — непераможная, страшная хвароба гемікранія, ад якое баліць палавіна галавы. Ад яе няма лякарства, няма ніякага ратунку. Паспрабую не варушыць галавой».

На мазаічнай падлозе ля фантана ўжо было падрыхтавана крэсла, і пракуратар, не гледзячы ні на кога, сеў на яго і працягнуў руку ўбок.

Сакратар паважліва ўклаў у гэтую руку кавалак пергаменту. У пракуратара ад болю скрывіўся твар, і ён скоса, мімаходзь паглядзеў на напісанае, вярнуў пергамент сакратару і з цяжкасцю прамовіў:

— Падследны з Галілеі? Да тэтрарха справу пасылалі?

— Пасылалі, пракуратар,— адказаў сакратар.

— І што ён?

— Ён адмовіўся даць заключэнне па справе і смяротны прысуд Сінедрыёна накіраваў вам на зацвярджэнне,— растлумачыў сакратар.

У пракуратара перасмыкнулася шчака, і ён сказаў ціха:

— Прывядзіце вінаватага.

І адразу ж з садовае пляцоўкі пад калоны на балкон два легіянеры прывялі і паставілі перад крэслам пракуратара чалавека гадоў дваццаці сямі. Чалавек гэты быў апрануты ў стары і парваны блакітны хітон. Галаву прыкрывала белая павязка з раменьчыкам вакол ілба, а рукі звязаны ззаду. Пад левым вокам у чалавека быў вялікі чарняк, у кутку губ — драпіна і скарэлая кроў. Прыведзены з трывожнай цікавасцю паглядзеў на пракуратара.

Той памаўчаў, потым ціха спытаўся па-арамейску:

— Дык гэта ты падбухторваў народ разбурыць ершалаімскі храм?

У гэты час пракуратар сядзеў, як каменны, і толькі губы ледзь-ледзь варушыліся, калі гаварыў. Пракуратар быў нібы каменны, таму што баяўся паварушыць галавой, якая палала ад пякельнага болю.

Чалавек са звязанымі рукамі крыху падаўся наперад і пачаў гаварыць:

— Добры чалавек! Павер мне...

Але пракуратар, які не паварушыўся і не павысіў голасу, адразу ж перапыніў яго:

— Гэта ты мяне называеш добрым чалавекам? Ты памыляешся. У Ершалаіме ўсе шэпчуць пра мяне, што я лютае страшылішча, і гэта праўда,— і гэтак жа роўна дадаў: — Кентурыёна Крысабоя да мяне.

Усім здалося, што на балконе пацямнела, калі кентурыён, камандуючы надзвычайнай кентурыяй, Марк, па мянушцы Крысабой, з'явіўся перад пракуратарам.

Крысабой быў на галаву вышэйшы за самага высокага салдата ў легіёне і гэтакі шырокі ў плячах, што зусім засланіў яшчэ нізкае сонца.

Пракуратар сказаў кентурыёну па-лацінску:

— Злачынец называе мяне «добрым чалавекам». Вывядзі яго адсюль на хвіліну, растлумач яму, як трэба гаварыць са мной. Але не скалеч.

І ўсе, акрамя нерухомага пракуратара, правялі позіркам Марка Крысабоя, які махнуў рукою арыштаванаму — загадаў ісці следам.

Крысабоя наогул усе праводзілі позіркамі, дзе б ён ні паказваўся, з-за яго росту, а яшчэ — тыя, хто бачыў яго ўпершыню,— таму што твар у кентурыёна быў скалечаны: нос у яго калісьці быў разбіты ўдарам германскае булавы.

Загрукалі цяжкія Маркавы боты па мазаіцы, звязаны пайшоў за ім нячутна, у каланадзе запанавала маўчанне, і было чуваць, як буркуюць галубы на садовай пляцоўцы перад балконам, ды яшчэ вада выспеўвала, вывівала з фантана прыемную песню.

Пракуратару захацелася ўстаць, падставіць скроню пад халодны струмень і гэтак застыць. Але ён ведаў, што і гэта яму не дапаможа.

Як толькі вывеў арыштаванага з-пад калонаў у сад, Крысабой узяў з рук у аднаго з легіянераў, які стаяў ля бронзавае статуі, біч, злёгку размахнуўся і ўдарыў арыштаванага па спіне. Зрабіў гэта кентурыён нібы лёгка і незнарок, але звязаны імгненна бухнуў на зямлю, быццам яму падрэзалі ногі, твар збялеў і вочы сталі пустыя. Марк адной леваю рукою лёгка, як пусты мяшок, падняў упаўшага, паставіў яго на ногі і загаварыў гугнява, дрэнна вымаўляючы па-арамейску:

— Рымскага пракуратара называць — ігемон. Іншых слоў не гаварыць. Стаяць смірна. Ты зразумеў мяне, ці яшчэ раз улупіць?

Арыштаваны пахіснуўся, але саўладаў з сабою, сышла з твару спалатнеласць, ён перавёў дух і адказаў хрыпла:

— Я цябе зразумеў. Не бі мяне.

Праз хвіліну ён зноў стаяў перад пракуратарам.

Прагучаў глухі, хворы голас:

— Імя?

— Маё? — паспешна адазваўся арыштаваны, усёй істотай ён паказваў гатоўнасць гаварыць талкова, не выклікаць болей гневу.

Пракуратар сказаў ціха:

— Маё — мне вядома. Не прытварайся дурнейшым, чым ёсць на самай справе. Тваё.

— Іешуа,— паспешна адказаў арыштант.

— Прозвішча ёсць?

— Га-Ноцры.

— Адкуль родам?

— З горада Гамалы,— адказаў арыштант, і галавой кіўнуў, што там, недзе далёка, направа ад яго, на поўначы, ёсць горад Гамала.

— Хто ты па крыві?

— Дакладна не ведаю,— жыва адказаў арыштант,— я не памятаю сваіх бацькоў. Мне гаварылі, што бацька мой сірыец...

— Дзе ты жывеш пастаянна?

— У мяне няма пастаяннага жытла,— сарамліва адказаў арыштант,— я падарожнічаю з горада ў горад.

— Пра гэта можна сказаць карацей, адным словам — валацуга,— сказаў пракуратар і спытаўся: — Сваякі ёсць?

— Няма нікога. Адзін на свеце.

— Грамату ведаеш?

— Ведаю.

— Якую яшчэ мову ведаеш, акрамя арамейскае?

— Грэцкую.

Распухлае павека паднялося, затуманенае пакутай вока глядзела на арыштанта. Другое вока было заплюшчана. Пілат загаварыў па-грэцку:

— Дык ты збіраўся разбурыць будынак храма і заклікаў на гэта народ?

Тут арыштант зноў ажывіўся, у вачах знік спалох, і ён загаварыў па-грэцку:

— Я, доб...— тут жах прамільгнуў у вачах у арыштанта, што ледзь не прагаварыўся,— я, ігемон, ніколі ў жыцці не збіраўся разбураць будынак храма і нікога не падбухторваў на гэту непатрэбную справу.

Здзіўленне з'явілася на твары ў сакратара, які згорбіўся над нізенькім столікам і запісваў паказанні. Ён падняў галаў і адразу ж зноў нахіліўся над пергаментам.

— Мноства розных людзей сцякаецца ў гэты горад перад святам. Бываюць сярод іх магі, астролагі, прадказальнікі і забойцы,— гаварыў аднатонна пракуратар,— а трапляюцца і хлусы. Ты, напрыклад, хлус. Ясна запісана: падбухторваў разбурыць храм. Гэта сведчаць людзі.

— Гэтыя добрыя людзі,— загаварыў арыштант і паспешна дадаў: — ігемон,— працягваў: — нідзе не вучыліся і ўсё зблыталі, што я гаварыў. Я наогул пачынаю баяцца, што блытаніна гэтая будзе працягвацца надта доўга. І ўсё з-за таго, што ён няправільна запісвае следам за мною.

Настала маўчанне. Цяпер ужо другое вока цяжка глядзела на арыштанта.

— Паўтараю табе, але апошні раз: перастань прытварацца, бандыт,— прамовіў Пілат мякка і роўна,— за табой запісана няшмат, але і запісанага дастаткова, каб цябе павесіць.

— Не, не, ігемон,— увесь напружыўся ад жадання пераканаць арыштант і загаварыў: — Ходзіць, ходзіць адзін з казліным пергаментам і няспынна піша. Але я аднойчы зазірнуў у гэты пергамент і жахнуўся. Абсалютна нічога,

што там запісана, я не гаварыў. Я яго ўмольваў: спалі ты, пабойся бога, свой пергамент! Але ён вырваў яго ў мяне з рук і ўцёк.

— Хто гэта? — пагардліва спытаў Пілат і дакрануўся рукой да скроні.

— Левій Мацей,— ахвотна растлумачыў арыштант,— ён раней быў зборшчыкам падаткаў, я з ім сустрэўся ўпершыню на дарозе ў Віфагіі, там, дзе вуглом выступае фігавы сад, і разгаварыўся з ім. Спачатку ён ставіўся да мяне непрыязна і нават зневажаў мяне, гэта значыць думаў, што зневажае, калі называе сабакам,— тут арыштант усміхнуўся,— я асабіста не бачу нічога дрэннага ў гэтым звеy, каб крыўдзіцца на такое слова...

Сакратар перастаў запісваць і спадцішка кінуў здзіўлены позірк, але не на арыштаванага, а на пракуратара.

— ...аднак пасля таго як выслухаў мяне, пачаў дабрэць,— працягваў Іешуа,— нарэшце кінуў грошы на дарогу і сказаў, што пойдзе падарожнічаць са мною...

Пілат усміхнуўся адной шчакою, выскаліў жоўтыя зубы і сказаў, завярнуўшыся ўсім тулавам да сакратара:

— Во, горад Ершалаім! Чаго толькі не пачуеш у ім. Зборшчык падаткаў, ці чулі вы, кінуў грошы на дарогу!

Сакратар не ведаў, што адказаць на гэта і палічыў за лепшае паўтарыць Пілатаву ўсмешку.

— А ён сказаў, што грошы яму сталі ненавісныя,— растлумачыў Іешуа дзіўны ўчынак Левія Мацея і дадаў: — І з гэтага часу ён зрабіўся маім спадарожнікам.

Усё яшчэ выскаляючыся, пракуратар паглядзеў на арыштанта, потым на сонца, якое няўмольна рухалася на захад, уставала над коннымі скульптурамі на гіпадроме, які ляжаў далёка ўнізе справа, і раптам з нейкаю прыкраю пакутай падумаў, што прасцей за ўсё было б прыбраць з балкона гэтага дзіўнага разбойніка толькі двума словамі: «Павесіць яго». Прагнаць потым канвой, пайсці з каланады ў палац, загадаць зацямніць пакой, зваліцца на ложак, запатрабаваць халоднай вады, жаласным голасам паклікаць сабаку Бангу, паскардзіцца яму на гемікранію. І думка пра атруту раптам спакусліва прамільгнула ў хворай пракуратаравай галаве.

Ён глядзеў каламутнымі вачыма на арыштанта і нейкі час маўчаў, пакутліва ўспамінаў, з-за чаго на бязлітасным ершалаімскім сонцы стаіць перад ім арыштант з тварам, пакалечаным ад удараў, і пра што яшчэ нікому не патрэбнае давядзецца пытацца.

— Левій Мацей? — хрыплым голасам спытаўся хворы і заплюшчыў вочы.

— Ага, Левій Мацей,— даляцеў да яго тонкі голас, які прыносіў яму пакуту.

— А вось што ўсё ж ты гаварыў натоўпу ля храма на базары?

Голас арыштанта, здавалася, калоў Пілату ў скроню, было невыносна пакутліва, голас гэты гаварыў:

— Я, ігемон, гаварыў пра тое, што разваліцца храм старое веры і ўзнясецца новы храм ісціны. Сказаў гэтак, каб лепш зразумела было.

— Нашто ж ты, валацуга, на базары абдурваў народ, расказваў пра ісціну, аб якой і сам нават не маеш уяўлення? Што гэта такое ісціна?

І пракуратар падумаў: «О багі мае! Я пытаюся ў яго пра зусім непатрэбнае на судзе... Мая галава зусім адурнела...» І зноў прымроілася яму чаша з цёмнаю вадкасцю. «Атруты мне, атруты!»

І зноў ён пачуў голас:

— Ісціна найперш тое, што ў цябе баліць галава, і баліць гэтак моцна, што ты маладушна падумваеш пра смерць. І ў цябе не толькі не стае сілы гаварыць са мной, але табе нават цяжка глядзець на мяне. І зараз я міжволі раблюся тваім катам, што мяне засмучае. Ты не можаш нават думаць ні пра што і марыш толькі пра тое, каб прыйшоў твой сабака, адзіная, відаць, істота, якую ты любіш. Але пакуты твае зараз кончацца, галава балець перастане.

Сакратар вылупіў вочы на арыштанта і не дапісаў слова.

Пілат падняў пакутлівыя вочы на арыштанта і ўбачыў, што сонца ўжо даволі высока над гіпадромам, што прамень прабраўся ў каланаду і падбіраецца да стаптаных сандаляў Іешуа, што той пазбягае сонца.

Тут пракуратар устаў, сціснуў галаву рукамі, а на жаўтлявым выгаленым яго твары адбіўся жах. Ён перасіліў яго і зноў апусціўся ў крэсла.

Арыштант тым часам працягваў гаварыць, але сакратар больш нічога не запісваў, а толькі выцягнуў шыю, як гусак, і стараўся не прамовіць і слова.

— Ну вось, усё і скончылася,— гаварыў арыштант, добразычліва паглядаючы на Пілата,— і я вельмі рады гэтаму. Я параіў бы табе, ігемон, пакінуць на нейкі час палац і пагуляць пешшу дзе-небудзь у наваколлі, ну хаця б у садзе на Елеонскай гары. Навальніца пачнецца,— арыштант за-

вярнуўся, прыплюшчыўся на сонца,— пад вечар. Прагулянка была б карысная табе, і я з задавальненнем суправаджаў бы цябе. У маёй галаве нарадзіліся сякія-такія новыя думкі, якія, думаю, былі б табе цікавыя, і я ахвотна расказаў бы іх табе, бо ты ствараеш ураж анне вельмі разумнага чалавека.

Сакратар смяротна пабялеў і ўпусціў звітак долу.

— Бяда ў тым,— прадаўжаў нікім не перапынены звязаны,— што ты занадта замкнуты і зусім страціў веру ў людзей. Нельга ж, пагадзіся, усю любоў аддаваць толькі сабаку. Беднае тваё жыццё, ігемон,— і пры гэтым арыштант яшчэ і ўсміхнуўся.

Сакратар цяпер думаў толькі пра адно — верыць вушам сваім альбо не. Даводзілася верыць. Тады ён пастараўся ўявіць, які будзе гнеў наравістага пракуратара з-за гэтае нечуванае дзёрзкасці арыштанта. І гэтага сакратар уявіць не мог, хоць і добра ведаў пракуратара.

Тады пачуўся асіплы, хрыплаваты голас пракуратара, які сказаў па-лацінску:

— Развяжыце яму рукі.

Адзін з канваіраў стукнуў кап'ём, перадаў яго суседу, падышоў і зняў вяроўкі з арыштанта. Сакратар падняў звітак, вырашыў пакуль што нічога не запісваць і нічому больш не здзіўляцца.

— Прызнайся,— ціха па-грэцку спытаўся Пілат,— ты вялікі доктар?

— Не, пракуратар, я не доктар,— адказаў арыштант і з асалодаю пацёр змучаную і апухлую барвовую руку.

Крута з-пад ілба свідраваў вачыма арыштанта Пілат, і ў вачах гэтых не было болей каламуты, у іх з'явіліся знаёмыя ўсім іскаркі.

— Я не спытаўся ў цябе,— сказаў Пілат,— магчыма, ты ведаеш і латынь?

— Ага, ведаю,— адказаў арыштант.

Чырвань выступіла на жаўтлявых Пілатавых шчоках, і ён спытаўся па-лацінску:

— Як ты даведаўся, што я хацеў паклікаць сабаку?

— Ды гэта зусім проста,— адказаў арыштант па-лацінску,— ты вадзіў рукой у паветры,— арыштант паўтарыў Пілатаў рух,— быццам хацеў пагладзіць, і губы...

— Ага,— сказаў Пілат.

Памаўчалі, потым Пілат спытаўся па-грэцку:

— Значыць, ты не доктар?

— Не, не,— жыва адказаў арыштант,— вер мне, я не доктар.

— Ну, добра. Калі хочаш, каб гэта было тайнай, няхай будзе. Да справы яно адносін не мае. Дык ты працягваеш сцвярджаць, што не заклікаў разбурыць... падпаліць ці іншым якім-небудзь спосабам разбурыць храм?

— Я, ігемон, нікога не заклікаў рабіць хоць што-небудзь падобнае. Хіба ж я дурань?

— Не, ты зусім не падобны на дурня,— ціха адказаў пракуратар і ўсміхнуўся нейкаю страшнаю ўсмешкаю,— тады пакляніся, што гэтага не было.

— Чым ты хочаш, каб я пакляўся? — даволі жвава спытаў развязаны.

— Ну, хаця б сваім жыццём,— адказаў пракуратар,— ім самы час паклясціся, бо яно вісіць на валаску, ведай пра гэта!

— Ці не думаеш, ігемон, што гэта ты яго павесіў? — спытаўся арыштант.— Калі гэта так, то ты вельмі памыляешся.

Пілат здрыгануўся і адказаў скрозь зубы:

— Я магу перарэзаць гэты валасок.

— І тут ты памыляешся,— арыштант светла ўсміхнуўся, засланіўся рукой ад сонца і запярэчыў: — Згадзіся, што перарэзаць валасок можа толькі той, хто павесіў?

— Ага, ага,— з усмешкаю сказаў Пілат,— цяпер я не сумняваюся, што нічым не занятыя зявакі ў Ершалаіме хадзілі ўслед за табою. Не ведаю, хто даў табе язык, але падвесіў яго добра. Дарэчы, скажы: ці праўда, што ты прыехаў у Ершалаім праз Сузскія вароты верхам на асле, а натоўп суправаджаў цябе і вітаў, быццам нейкага прарока? — тут пракуратар паказаў на пергаментны звітак.

Арыштант недаўменна паглядзеў на пракуратара.

— У мяне і асла няма ніякага, ігемон,— сказаў ён.— Прыйшоў я ў Ершалаім сапраўды праз Сузскія вароты, але пешшу, у суправаджэнні аднаго толькі Левія Мацея, і ніхто мне нічога не крычаў, бо мяне тады ў Ершалаіме ніхто не ведаў.

— Ці ведаеш ты такіх,— працягваў Пілат і не зводзіў вачэй з арыштанта,— нейкага Дзісмаса, другога — Гестаса і трэцяга — Вар-равана?

— Гэтых добрых людзей я не ведаю,— адказаў арыштант.

— Праўда?

— Праўда.

— А цяпер скажы мне, чаму ты ўвесь час гаворыш «добрыя людзі»? Ты ўсіх гэтак называеш, ці што?

— Усіх,— адказаў арыштант,— дрэнных людзей проста няма на свеце.

— Упершыню чую пра гэта,— сказаў Пілат і ўсміхнуўся,— але, магчыма, я дрэнна ведаю жыццё! Далей можаце не запісваць,— сказаў ён сакратару, хаця той і без гэтага нічога не запісваў, і працягваў гаварыць арыштанту: — У якой-небудзь грэцкай кнізе ты вычытаў пра гэта?

— Не, сваім розумам дайшоў.

— І ты прапаведуеш гэта?

— Ага.

— А вось, напрыклад, кентурыён Марк, яго мянушка Крысабой, ён — добры?

— Добры,— адказаў арыштант,— ён, праўда, няшчасны чалавек. З тае пары, як добрыя людзі скалечылі яго, ён зрабіўся жорсткі і чэрствы. Цікава было б ведаць, хто яго гэтак скалечыў?

— Ахвотна магу сказаць,— адазваўся Пілат,— бо быў сведка ўсяму. Добрыя людзі кідаліся на яго, як сабакі на мядзведзя. Германцы ўпіліся яму ў шыю, у рукі, у ногі. Пяхотны маніпул трапіў у мяшок, і калі б не ўрэзалася з фланга кавалерыйская турма, а камандаваў ёю я,— табе, філосаф, не давялося б размаўляць з Крысабоем. Гэта здарылася ў баі пад Ідзіставіза, у Даліне Дзеў.

— Калі б з ім пагаварыць, то я ўпэўнены, што ён моцна змяніўся б, я ўпэўнены,— раптам летуценна сказаў арыштант.

— Я думаю,— адказаў Пілат,— што мала радасці было б ад цябе легату легіёна, калі б ты ўздумаў гаварыць з кім-небудзь з яго афіцэраў альбо салдат. Дарэчы, гэта і не здарыцца, на шчасце ўсіх, і першы, хто пра гэта паклапоціцца, буду я.

У гэты час у каланаду імкліва заляцела ластаўка, зрабіла пад залатой столлю круг, знізілася, ледзь не зачапіла вострым крылом за твар меднае статуі ў нішы, і знікла за капітэллю калоны. Магчыма, ёй задумалася звіць там гняздо.

Пакуль яна ляцела, у светлай і лёгкай галаве пракуратара склалася формула. Яна была такая: ігемон разгледзеў справу валацужнага філосафа Іешуа па прозвішчы Га-Ноцры, і злачынства ў яго дзеяннях не знайшоў. У прыватнасці, няма ніякай сувязі між тым, што рабіў Іешуа і хваляваннямі, якія адбыліся ў Ершалаіме нядаўна. Валацужны філосаф аказаўся псіхічнахворым. У выніку чаго смяротны прысуд, вынесены Га-Ноцры Малым Сіне-

дрыёнам, пракуратар не зацвярджае. Але, маючы на ўвазе тое, што ненармальныя, утапічныя прамовы Га-Ноцры могуць стаць прычынаю хвалявання ў Ершалаіме, пракуратар забірае Іешуа з Ершалаіма і арыштоўвае яго ў Кесарыі Стратонавай на Міжземным моры, якраз там, дзе рэзідэнцыя пракуратара.

Заставалася толькі прадыктаваць гэта сакратару.

Ластаўчыныя крылы фыркнулі над самай галавой ігемона, птушка кінулася да фантана і вылецела на волю. Пракуратар падняў вочы на арыштанта і ўбачыў, што побач з ім слупам загарэўся пыл.

— Усё пра яго? — спытаўся Пілат у сакратара.

— На жаль, не,— нечакана адказаў сакратар і падаў Пілату другі кавалак пергаменту.

— Што яшчэ там? — спытаўся Пілат і спахмурнеў.

Пасля таго як прачытаў напісанае, ён яшчэ болей змяніўся з твару. Ці то цёмная кроў прыліла да шыі і да твару, ці здарылася нешта іншае, але скура яго страціла жаўтлявае адценне, пацямнела, і вочы быццам праваліліся.

Зноў, мабыць, была вінавата кроў, якая прыліла да скроняў і застукала ў іх, але ў пракуратара нешта здарылася з вачыма. Яму прымроілася, што арыштантава галава паплыла некуды, а на яе месцы з'явілася другая. На гэтай лысай галаве сядзеў рэдказубы залаты вянок; на лбе была круглая язва, якая раз'ядала скуру, памазаная маззю; запалы бяззубы рот з адвіслаю капрызнаю ніжняю губою. Пілату здалося, што зніклі ружовыя калоны балкона, дахі Ершалаіма ўдалечыні, унізе за садам, і ўсё танула вакол у густой зеляніне капрэйскіх садоў. І са слыхам здарылася нешта дзіўнае — нібы ўдалечыні ціха і грозна пратрубілі трубы і вельмі выразна пачуўся гугнявы голас, які пагардліва расцягваў словы: «Закон аб зняваге яго вялікасці...»

Думкі прамільгнулі кароткія, абрывістыя і незвычайныя: «Загінуў!», потым: «Загінулі!..» І адна зусім недарэчная сярод іх пра нейкую абавязковую — у сувязі з кім? — несмяротнасць, і гэтая несмяротнасць выклікала страшэнны сум.

Пілат напружыўся, прагнаў мроі, вярнуўся позіркам на балкон, і зноў перад ім апынуліся арыштантавы вочы.

— Слухай, Га-Ноцры,— загаварыў пракуратар і глядзеў на Іешуа неяк дзіўна: твар у пракуратара быў грозны, але позірк трывожны,— ты хоць калі-небудзь гаварыў з кім-небудзь пра вялікага кесара? Адказвай! Гаварыў?.. Ці... не

гаварыў? — Пілат расцягнуў слова «не» крыху болей, чым належала ў судзе, і паслаў Іешуа нейкую думку, быццам у нечым хацеў пераканаць арыштанта.

— Праўду гаварыць лёгка і прыемна,— заўважыў арыштант.

— Мне не трэба ведаць,— глухім, злосным голасам адазваўся Пілат,— прыемна ці непрыемна табе гаварыць, гавары праўду. Табе давядзецца яе гаварыць. Але калі будзеш гаварыць, думай, што гаворыш, калі не хочаш не толькі непазбежнай, але і пакутлівай смерці.

Ніхто не ведаў, што здарылася з пракуратарам Іудзеі, але ён дазволіў сабе падняць руку, быццам засланяўся ад сонечнага промня, і з-за гэтай рукі, як з-за шчыта, паслаў арыштанту нейкі позірк з намёкам.

— Дык вось,— гаварыў ён,— адказвай, ці ведаеш ты нейкага Юду з Карыяфа і што менавіта ты сказаў яму, калі гаварыў пра кесара?

— Усё было такім чынам,— ахвотна пачаў расказваць арыштант,— пазаўчора вечарам я пазнаёміўся ля храма з адным маладым чалавекам, які назваўся Юдам з горада Карыяфа. Ён запрасіў мяне да сябе дадому ў Ніжні Горад і пачаставаў...

— Добры чалавек? — спытаўся Пілат, і д'ябальскі агонь бліснуў у яго ў вачах.

— Вельмі добры і цікаўны чалавек,— пацвердзіў арыштант,— ён вельмі зацікавіўся маімі думкамі, шчыра сустрэў мяне...

— Свяцільнікі запаліў...— скрозь зубы ў лад арыштанту прамовіў Пілат, і яго вочы ў гэты час свяціліся.

— Ага,— крыху здзівіўшыся дасведчанасці пракуратара, працягваў Іешуа,— папрасіў мяне паразважаць пра дзяржаўную ўладу. Гэтае пытанне яго вельмі цікавіла.

— І што ж ты сказаў? — спытаўся Пілат.— Ці будзеш гаварыць, што забыўся? — але ў пракуратарскім голасе ўжо была безнадзейнасць.

— Акрамя ўсяго іншага, я казаў,— расказваў арыштант,— што ўсякая ўлада з'яўляецца гвалтам над чалавекам і што прыйдзе час, калі не будзе ні кесарскай, ніякай улады. Будзе чалавеку царства праўды і справядлівасці, дзе наогул не патрэбна будзе ніякая ўлада.

— Далей!

— Болей нічога не было,— сказаў арыштант,— тут убеглі людзі, звязалі мяне і прывялі ў турму.

Сакратар стараўся не прапусціць ніводнага слова і старанна крэмзаў па пергаменце.

— На свеце не было і не будзе ніколі большай і цудоўнейшай улады для людзей, чым улада імператара Цiверыя! — ахрыплы і хворы Пілатаў голас мацнеў.

Пракуратар чамусьці з нянавісцю глядзеў на сакратара і на канвой.

— І не трэба, шалёны злачынец, разважаць пра яе! — тут Пілат закрычаў: — Вывесці канвой з балкона! — завярнуўся да стала і дадаў: — Пакіньце мяне са злачынцам сам-насам, тут дзяржаўная справа.

Канвой падняў коп'і і, роўна стукаючы калігамі, выйшаў з балкона ў сад, а следам выйшаў і сакратар.

Маўчанне на балконе некаторы час парушала толькі песня вады ў фантане. Пілат бачыў, як уставала над трубачкамі вадзяная талерка, як адломліваліся яе краі і сцякалі струменьчыкамі.

Першы загаварыў арыштант:

— Я бачу, што здарылася нейкая бяда з-за таго, што я гаварыў з гэтым юнаком з Карыяфа. У мяне ёсць прадчуванне, што з ім здарыцца няшчасце, і мне вельмі шкада яго.

— Я думаю,— з дзіўнаю ўсмешкай адказаў пракуратар,— што ёсць сёй-той на свеце, каго табе трэба пашкадаваць больш, чым Юду з Карыяфа, і каму будзе намнога горш, чым Юду! Такім чынам, Марк Крысабой, халодны і закончаны кат, людзі, якія, як я бачу,— пракуратар паказаў на скалечаны твар Іешуа,— цябе білі за твае пропаведзі, бандыты Дзісмас і Гестас, якія са сваімі памагатымі забілі чатырох салдат, і, нарэшце, брудны здраднік Юда — усе яны добрыя людзі?

— Ага,— адказаў арыштант.

— І настане царства ісціны?

— Настане, ігемон,— пераканаўча адказаў Іешуа.

— Яно ніколі не настане! — раптам закрычаў Пілат такім страшным голасам, што Іешуа адхіснуўся. Гэтак многа гадоў назад у Даліне Дзеў крычаў Пілат сваім коннікам словы: «Сячы іх! Сячы іх! Велікан Крысабой папаўся!» Ён яшчэ мацней крыкнуў сарваным на камандах голасам, вымаўляў словы так, каб іх чулі ў садзе: — Злачынец! Злачынец! Злачынец!

А потым прыцішыў голас і спытаўся:

— Іешуа Га-Ноцры, ці верыш ты ў якіх-небудзь багоў?

— Бог адзін,— адказаў Іешуа,— я ў яго веру.

— Тады памаліся! Добра маліся! Хаця,— тут голас Пілата апаў,— гэта не дапаможа. Не жанаты? — чамусьці з сумам спытаўся Пілат, не разумеючы, што з ім адбываецца.

— Не, я адзін.

— Ненавісны горад,— чамусьці раптам прамармытаў пракуратар і перасмыкнуў плячыма, нібы змёрз, пацёр рукі, як абмыў іх,— калі б цябе зарэзалі перад тваім спатканнем з Юдам з Карыяфа, гэта было б лепш.

— А ты б адпусціў мяне, ігемон,— нечакана папрасіў арыштант, і голас у яго зрабіўся трывожным,— я бачу, што мяне хочуць забіць!

Твар Пілата сутаргава скрывіўся, ён паглядзеў на Іешуа чырвонымі гарачымі вачыма і сказаў:

— Ты думаеш, няшчасны, што рымскі пракуратар адпусціць чалавека, які гаварыў тое, што гаварыў ты? О багі, багі! Ты думаеш, што я гатовы заняць тваё месца? Я не твой аднадумец! І слухай мяне: калі з гэтае хвіліны ты прамовіш хаця б адно слова, загаворыш з кім-небудзь,— сцеражыся! Паўтараю табе: сцеражыся!

— Ігемон...

— Маўчаць! — закрычаў Пілат і шалёнымі вачыма правёў ластаўку, якая заляцела на балкон.— Сюды! — крыкнуў Пілат.

І калі сакратар і канвой вярнуліся на свае месцы, Пілат аб'явіў, што зацвярджае смяротны прысуд, які вынесены на сходзе Малога Сінедрыёна злачынцу Іешуа Га-Ноцры, і сакратар запісаў сказанае Пілатам.

Праз хвіліну перад пракуратарам стаяў Марк Крысабой. Яму пракуратар загадаў здаць злачынца начальніку сакрэтнае службы і перадаць яму загад пракуратара, каб Іешуа Га-Ноцры трымалі асобна, а таксама пра тое, што камандзе сакрэтнае службы пад страхам цяжкае кары было забаронена размаўляць з Іешуа і адказваць на любыя яго пытанні.

Па знаку Марка вакол Іешуа замкнуўся канвой і вывеў яго з балкона.

Затым перад пракуратарам з'явіўся стройны, светлабароды прыгажун з ільвінымі мордамі на грудзях, з арліным пер'ем на грэбені шлема, з залатымі бляшкамі на партупеі мяча, у зашнураваным да каленяў абутку на трайной падэшве, у накінутым на левае плячо барвовым плашчы. Гэта быў камандуючы легіёнам легат. У яго пракуратар спытаўся, дзе зараз знаходзіцца себасційская кагорта. Легат паведаміў, што себасційцы трымаюць ачапленне на плошчы

перад гіпадромам, дзе будзе аб'яўлены народу прысуд злачынцам.

Тады пракуратар загадаў, каб легат выдзеліў з рымскае кагорты дзве кентурыі. Адна з іх, пад камандай Крысабоя, павінна будзе канваіраваць злачынцаў, вазы з рыштункам для пакарання і катаў да Лысае Гары, а потым увойдзе ў верхняе ачапленне. Другая павінна быць зараз жа адпраўлена на Лысую Гару і пачаць ачапляць яе неадкладна. Дзеля аховы гары пракуратар папрасіў легата адправіць дадатковы кавалерыйскі полк — сірыйскую алу.

Калі легат пайшоў з балкона, пракуратар загадаў сакратару запрасіць прэзідэнта Сінедрыёна, двух яго членаў і начальніка храмавай варты Ершалаіма ў палац, але дадаў, што просіць усё гэта зрабіць так, каб да нарады з усімі гэтымі людзьмі ён змог пагаварыць з прэзідэнтам самнасам.

Загады пракуратара былі выкананы хутка і дакладна, і сонца, якое з незвычайнай лютасцю пякло ў гэтыя дні Ершалаім, не паспела яшчэ наблізіцца да самай верхняй кропкі свайго стаяння, калі на верхняй тэрасе ў садзе ля двух белых мармуровых ільвоў, якія вартавалі лесвіцу, сустрэліся пракуратар і выконваючы абавязкі прэзідэнта Сінедрыёна першасвяшчэннік іудзейскі Ёсіф Каіфа.

У садзе было ціха. Але калі выйшлі з-пад каланады на залітую сонцам верхнюю садовую пляцоўку з пальмамі на страшэнных слановых нагах, пляцоўку, з якое перад пракуратарам разгарнуўся ўвесь ненавісны яму Ершалаім з вісячымі мастамі, крэпасцямі і з самым галоўным: з глыбаю мармуру ў залатым драконаўскім лускавінні замест даху, які не паддаецца ніякаму апісанню,— храмам Ершалаімскім,— вострым слыхам улавіў пракуратар далёка ўнізе, там, дзе каменная сцяна адгароджвала ніжнія тэрасы дварцовага саду ад гарадское плошчы, глухое вурчанне, над якім узмывалі слабенькія, тонкія не то стогны, не то крыкі.

Пракуратар зразумеў, што на плошчы ўжо сабраўся незлічоны натоўп усхваляваных апошнімі падзеямі жыхароў Ершалаіма, што натоўп гэты з нецярпеннем чакае вынясення прысуду і што ў натоўпе крычаць нястомныя разносчыкі вады.

Пракуратар пачаў з таго, што запрасіў першасвяшчэнніка на балкон, каб схавацца ад бязлітаснай спякоты, але Каіфа ветліва папрасіў прабачэння і сказаў, што зрабіць гэта не можа. Пілат накінуў башлык на галаву, якая пачынала лысець, і пачаў размову. Размаўлялі па-грэцку.

Пілат сказаў, што ён разабраў справу Іешуа Га-Ноцры і зацвердзіў смяротны прысуд.

Такім чынам, да смяротнага пакарання, якое павінна адбыцца сёння, асуджаны тры разбойнікі: Дзісмас, Гестас, Вар-раван і, акрамя гэтага, Іешуа Га-Ноцры. Першыя двое, якія ўздумалі падбухторваць народ да бунту супраць кесара, узяты у боем рымскаю ўладаю, але лічацца за пракуратарам, і таму размовы пра іх быць не можа. Апошнія ж, Вар-раван і Га-Ноцры, схоплены мясцоваю ўладаю і асуджаны Сінедрыёнам.

Адпаведна з законам, аднаго з гэтых двух злачынцаў трэба будзе вызваліць у гонар надыходзячага сёння вялікага свята Пасхі.

Дык вось, пракуратар жадае ведаць, каго з двух злачынцаў збіраецца вызваліць Сінедрыён: Вар-равана ці Га-Ноцры? Каіфа схіліў галаву і тым самым даў знак, што пытанне зразумеў і адказаў:

— Сінедрыён просіць адпусціць Вар-равана.

Пракуратар добра ведаў, што гэтак яму адкажа першасвяшчэннік, але задача яго была ў тым, каб паказаць, што адказ гэты выклікае ў яго вялікае здзіўленне.

Пілат і зрабіў гэта з вялікім майстэрствам. Бровы на пагардлівым твары падняліся, пракуратар здзіўлена паглядзеў проста ў вочы першасвяшчэнніку.

— Прызнаюся, гэты адказ мяне здзівіў,— мякка загаварыў пракуратар,— баюся, ці няма тут непаразумення.

Пілат растлумачыў. Рымская ўлада не спрабуе замахвацца на правы духоўнай мясцовай улады, першасвяшчэнніку гэта добра вядома, але тут яўная памылка. І ў выпраўленні гэтае памылкі рымская ўлада зацікаўлена.

На самай справе: злачынствы Вар-равана і Га-Ноцры зусім непараўнальныя з-за цяжару зробленага. Калі другі яўна ненармальны чалавек, уся віна якога ў несусветных выдумках, якія бянтэжаць народ у Ершалаіме і ў іншых мясцовасцях, то злачынствы першага намнога цяжэйшыя. Мала таго што ён заклікаў да паўстання, дык ён яшчэ забіў вартаўніка, калі яго паспрабавалі затрымаць. Вар-раван намнога небяспечнейшы, чым Га-Ноцры.

У выніку ўсяго сказанага пракуратар просіць першасвяшчэнніка перагледзець рашэнне і пакінуць на волі таго з двух асуджаных, хто менш шкодны, а такім, без сумнення, з'яўляецца Га-Ноцры. Ну?

Каіфа проста ў вочы паглядзеў Пілату і сказаў ціхім, але цвёрдым голасам, што Сінедрыён уважліва азнаёміўся

са справай і другі раз паведамляе, што збіраецца вызваліць Вар-равана.

— Як? Нават пасля майго хадайніцтва? Хадайніцтва таго, вуснамі якога гаворыць рымская ўлада? Першасвяшчэннік, паўтары трэці раз!

— І трэці раз мы паведамляем, што вызваляем Варравана,— ціха сказаў Каіфа.

Усё было скончана, гаварыць больш не было пра што. Га-Ноцры адыходзіў назаўсёды, і страшны, люты пракуратараў боль няма каму вылечыць; ад яго няма сродку, акрамя смерці. Але не гэтая думка ўразіла зараз Пілата. Усё тая ж незразумелая туга, што прыходзіла на балконе, працяла ўсю яго істоту. Ён паспрабаваў вытлумачыць яе, і тлумачэнне было дзіўнае: здалося, што ён пра нешта не дагаварыў з асуджаным, а можа, нечага не даслухаў да канца.

Пілат адагнаў гэтую думку, і яна адляцела ў адно імгненне, як і прыляцела. Яна паляцела, а туга засталася невытлумачанай, бо не магла ж быць тлумачэннем кароткая, як маланка, другая думка: «Несмяротнасць... прыйшло бяссмерце...» Чыё бяссмерце прыйшло? Гэтага не зразумеў пракуратар, але думка пра гэтае загадкавае бяссмерце прымусіла яго пахаладзець на санцапёку.

— Добра,— сказаў Пілат,— няхай будзе па-вашаму.

Тут ён азірнуўся, акінуў позіркам бачны яму свет і здзівіўся перамене, якая адбылася. Знік цяжкі ад руж куст, зніклі кіпарысы, якія акружалі верхнюю тэрасу, і гранатавае дрэва, і белая статуя ў зеляніне,ды і сама зеляніна. Паплыла замест гэтага ўсяго нейкая барвовая гушча, у ёй загайдаліся водарасці і паплылі кудысьці, а разам з імі і сам Пілат. Цяпер яго нёс, душыў і паліў самы страшны гнеў, гнеў ад бяссілля.

— Цесна мне,— прамовіў Пілат,— цесна мне.

Ён халоднаю вільготнаю рукою рвануў спражку з каўняра плашча, і тая ўпала на пясок.

— Сёння душна, аднекуль ідзе навальніца,— адазваўся Каіфа, ён не зводзіў вачэй з пачырванелага пракуратаравага твару і прадбачыў усе пакуты, якія ў яго яшчэ наперадзе. «Вой, які страшны месяц нісан у гэтым годзе!»

— Не,— сказаў Пілат,— гэта не таму, што душна, а цесна мне з табой, Каіфа,— Пілат прыплюшчыў вочы, усміхнуўся і дадаў: — Беражы сябе, першасвяшчэннік.

Цёмныя вочы першасвяшчэнніка бліснулі, і ён, не горш чым толькі што пракуратар, зрабіў здзіўленым твар.

— Што я чую, пракуратар? — з годнасцю і спакойна адказаў Каіфа.— Ты пагражаеш мне пасля вынесенага прысуду, які табою ж і зацверджаны? Мы прывыклі да таго, што рымскі пракуратар выбірае словы, перш чым што-небудзь сказаць. Каб не пачуў нас хто, ігемон?

Пілат мёртвымі вачыма паглядзеў на першасвяшчэнніка, аскаліўся ўсмешкаю.

— Што ты, першасвяшчэннік? Хто можа пачуць нас тут зараз? Хіба ж я падобны на юнага валацугу-калеку, якога сёння тут пакараюць? Хіба я хлопчык, Каіфа? Ведаю, што гавару і дзе гавару. Ачэплены сад, ачэплены палац гэтак, што і мыш не праскочыць ні ў якую шчыліну! Ды не толькі мыш, не пранікне і гэты, як яго... з горада Карыяфа. Дарэчы, ты ведаеш такога, першасвяшчэннік? Ага... калі б гэтакі пранік сюды, то ён горка пашкадаваў бы, я думаю, ты верыш? Дык ведай жа, што не будзе табе з гэтага часу, першасвяшчэннік, спакою! Ні табе, ні народу твайму,— і Пілат паказаў направа ўдалечыню, туды, дзе ў вышыні ззяў храм,— гэта я табе гавару — Пілат Панційскі, коннік Залатая Піка!

— Ведаю, ведаю! — бясстрашна адказаў чорнабароды Каіфа. Ён падняў руку ўгору і працягваў: — Ведае і народ іудзейскі, што ты ненавідзіш яго лютай нянавісцю і шмат пакуты ты яму прынясеш, але зусім ты яго не загубіш! Бог яго абароніць! Пачуе нас, пачуе нас усемагутны кесар, уратуе ад губіцеля Пілата!

— Не-е! — усклікнуў Пілат, і з кожным словам яму рабілася лягчэй і лягчэй: не трэба было болей прытварацца і выбіраць словы.— Занадта шмат ты скардзіўся кесару на мяне, і цяпер прыйшоў мой час, Каіфа! Цяпер паляціць вестка ад мяне, і не намесніку ў Анціахію, і не ў Рым, а проста на Капрэю, самому імператару, вестка пра тое, як вы адкрытых бунтаўшчыкоў хаваеце ў Ершалаіме ад смерці. І не вадой з Саламонавай сажалкі, як я хацеў вам на карысць, напаю я тады Ершалаім! Не, не вадой! Успомні, як мне давялося з-за вас здымаць са сцен шчыты з вензелямі імператара, перакідаць войскі, давялося, бачыш, самому прыехаць, глядзець, што тут у вас творыцца! Успомніш мае словы, першасвяшчэннік. Убачыш ты не адну кагорту ў Ершалаіме, не адну! Прыйдзе да сцен горада цалкам легіён Фульмінтана, падыдуць арабскія коннікі, тады пачуеш ты і горкі плач і стогны! Успомніш ты тады вырататаванага Вар-равана і пашкадуеш, што адправіў на смерць філосафа з яго мірнай пропаведдзю!

Твар першасвяшчэнніка пакрыўся плямамі, вочы гарэлі. Ён, як і пракуратар, аскаліўся ўсмешкаю і адказаў:

— Ці верыш ты, пракуратар, сам таму, што гаворыш? Не, не верыш! Не мір, не мір прынёс нам гэты спакуснік народа ў Ершалаім, і ты, коннік, добра гэта разумееш. Ты хацеў таму яго выпусціць, каб ён затлуміў народ, з веры паздзекаваўся і павёў народ пад рымскія мячы! Але я, першасвяшчэннік іудзейскі, пакуль жывы, не дам веру на глум і не пушчу народ пад мячы! Ты чуеш, Пілат? — і тут Каіфа грозна падняў руку: — Прыслухайся, пракуратар!

Каіфа замоўк, і пракуратар пачуў зноў быццам марскі шум, які падкочваўся пад самыя сцены сада Ірада Вялікага. Гэты шум паднімаўся знізу да ног і ў твар пракуратару. А за плячыма ў яго, там, за крыламі палаца, чуліся трывожныя трубныя сігналы, цяжкі хрумст соцень ног, жалезнае пагрукванне,— тут пракуратар зразумеў, што рымская пяхота ўжо выступае, згодна з яго загадам ідзе на страшны бунтаўшчыкам і разбойнікам перадсмяротны парад.

— Ты чуеш, пракуратар? — ціха паўтарыў першасвяшчэннік.— Няўжо ты скажаш мне, што ўсё гэта,— тут першасвяшчэннік падняў абедзве рукі, і цёмны башлык упаў з галавы Каіфы,— зрабіў няшчасны разбойнік Вар-раван?

Пракуратар тыльным бокам рукі выцер мокры, халодны лоб, паглядзеў на зямлю, потым прыплюшчана ў неба, убачыў, што распалены шар вісіць над самай галавой, а цень Каіфы сцялася ля львінага хваста, і сказаў ціха і раўнадушна:

— Ужо поўдзень. Мы загаварыліся, а трэба працягваць.

Ён далікатна папрасіў прабачэння ў першасвяшчэнніка, запрасіў яго прысесці на лаўку ў цяні ад магноліі, пачакаць, пакуль ён выкліча астатніх, хто патрэбны на кароткай нарадзе, і аддасць яшчэ адзін загад, звязаны з пакараннем.

Каіфа ветліва пакланіўся, прытуліў руку да сэрца і застаўся ў садзе, а Пілат вярнуўся на балкон. Там ён загадаў сакратару запрасіць у сад легата легіёна, трыбуна кагорты, а таксама двух членаў Сінедрыёна і начальніка храмавай варты, якія чакалі выкліку на наступнай, ніжэйшай тэрасе ў садзе ў круглай альтанцы з фантанам. Пілат дадаў, што зараз вернецца, і пайшоў у глыб палаца.

Пакуль сакратар збіраў нараду, пракуратар у зацененым ад сонца глухімі занавескамі пакоі меў спатканне з нейкім чалавекам, твар якога быў напалову захінуты башлыком, хаця ў пакоі не было сонечных промняў. Спатканне было надзвычай кароткае. Пракуратар ціха сказаў чалавеку не-

калькі слоў, і той адразу ж пайшоў, а Пілат праз каланаду выйшаў у сад.

Там, у прысутнасці ўсіх, каго ён хацеў бачыць, пракуратар урачыста і суха паведаміў, што ён зацвярджае смяротны прысуд Іешуа Га-Ноцры, і афіцыйна пацікавіўся ў членаў Сінедрыёна пра тое, каго са злачынцаў варта пакінуць жывым. І калі пачуў, што гэта Вар-раван, сказаў ціха:

— Вельмі добра,— і загадаў сакратару адразу ж запісаць гэта ў пратакол, сціснуў у руцэ паднятую сакратаром спражку і ўрачыста прамовіў: — Пара!

І адразу ж усе рушылі ўніз па шырокай мармуровай лесвіцы паўз сцены з руж, ад водару якіх кружылася галава, сыходзілі ўсё ніжэй і ніжэй да варот з палаца, якія выходзілі на вялікую, гладка брукаваную плошчу, у канцы якой відаць былі калоны і статуі ершалаімскага рысталішча.

Як толькі група выйшла з саду на плошчу, паднялася на прасторны мураваны памост, які высіўся над плошчай, Пілат агледзеўся прыплюшчанымі вачыма і разабраўся ў сітуацыі. Тая прастора, якую ён толькі што прайшоў, гэта значыць ад дварцовай сцяны да памоста, была пустая, але затое ўперадзе Пілат плошчы ўжо не бачыў — яе з'еў натоўп. Ён запоўніў бы і памост, і ачышчанае месца, калі б трайны рад себасційскіх салдат злева ад Пілата і салдат ітурэйскай дадатковай кагорты справа не стрымлівалі яго.

Урэшце Пілат узышоў на памост. Ён міжволі сціскаў у руцэ спражку і глядзеў прыплюшчана. Прыплюшчваўся Пілат не толькі таму, што сонца сляпіла вочы, не! Ён не хацеў чамусьці бачыць асуджаных, якіх, а ён гэта добра ведаў, зараз следам за ім узводзяць на памост.

Ледзь толькі белы плашч з барвовым падбоем узнік увышыні на каменным уцёсе над краем людскога мора, Пілату ўдарыла ў вушы хваля: «Га-а-а...» Яна пачалася ціха, нарадзілася недзе ўдалечыні, ля гіпадрома, потым стала грамавой, пратрымалася некалькі секунд і пачала ападаць. «Убачылі мяне»,— падумаў пракуратар. Хваля не заціхла зусім, а нечакана пачала зноў уздымацца і, разгойдваючыся, паднялася вышэй, чым першая, і на другой хвалі, як на марской закіпае пена, ускіпеў свіст і асобныя, праз гром адметныя жаночыя стогны. «Гэта іх вывелі на памост...— падумаў Пілат,— а стогны таму, што задушылі некалькі жанчын, калі натоўп падаўся наперад».

Ён счакаў крыху, бо ведаў, што ніякая сіла не можа прымусіць замоўкнуць натоўп, пакуль ён сам не сціхне, не выдыхне ўсё, што сабралася ў ім.

I калі гэтае імгненне настала, пракуратар выкінуў уперад правую руку, і апошні шум быццам садзьмула з натоўпу.

Тады Пілат удыхнуў як мага гарачага паветра ў грудзі і закрычаў, і ахрыплы яго голас панесла над тысячамі галоў:

— Імем кесара імператара!

Тут яму па вушах ударыў некалькі разоў металічны крык — у кагортах, выкінуўшы ўгору пікі і значкі, страшна закрычалі салдаты:

— Няхай жыве кесар!

Пілат падняў галаў і ўткнуў яе проста ў сонца. Пад павекамі ў яго ўспыхнуў зялёны агонь, ад яго загарэліся мазгі, і над натоўпам паляцелі хрыплыя арамейскія словы:

— Чацвёра злачынцаў, арыштаваных у Ершалаіме за забойства, падбухторванне да паўстання і зневажанне закону і веры, асуджаны на ганебнае пакаранне — павешанне на слупах! І гэтае пакаранне зараз адбудзецца на Лысай Гары! Імёны злачынцаў — Дзісмас, Гестас, Вар-раван і Га-Ноцры. Вось яны перад вамі!

Пілат паказаў рукой управа, хоць і не бачыў ніякіх злачынцаў, але ведаў, што яны тут, што яны на тым месцы, дзе ім і належыць быць.

Натоўп адказаў доўгім гулам не то здзіўлення, не то палёгкі. Калі ён патух, Пілат працягваў:

— Але пакараны будуць толькі трое, бо ў адпаведнасці з законам і звычаем, у гонар свята Пасхі аднаму з асуджаных, па выбару Малога Сінедрыёна і са згоды рымскае ўлады, велікадушны кесар імператар вяртае яго нікчэмнае жыццё!

Пілат выкрыкваў словы і адначасова чуў, як на змену вялікаму гулу ідзе вялікая цішыня. Цяпер ні ўздыху, ні шолаху не далятала да яго вушэй, і нават наступіла імгненне, калі Пілату здалося, што ўсё навокал наогул знікла. Ненавісны яму горад вымер, і толькі ён адзін стаіць, гарыць ад промняў, упёршыся лбом у неба. Пілат яшчэ прытрымаў цішыню, а потым пачаў выкрыкваць:

— Імя таго, каго зараз пры вас адпусцяць на волю...

Ён яшчэ раз замоўк, правяраў, ці ўсё сказаў, таму што ведаў, што мёртвы горад уваскрэсне пасля вымаўленага прозвішча шчаслівчыка і ніякіх больш слоў нельга будзе пачуць.

«Усё? — шапнуў сам сабе Пілат.— Усё. Імя!»

І ён крыкам пракаціў літару «р» над замоўклым горадам.

— Вар-раван!

Тут яму здалося, што сонца са звонам лопнула над ім і заліло яму вушы агнём. У гэтым агні бушавалі крык, віск, стогны, смех і свіст.

Пілат завярнуўся і пайшоў назад па памосце да прыступак, не гледзячы ні на што, акрамя рознакаляровых шашак мазаікі пад нагамі, каб не спатыкнуцца. Ён ведаў, што цяпер у яго за плячыма градам ляцяць на памост бронзавыя манеты, фінікі, што ў азвярэлым натоўпе людзі душаць адзін аднаго, лезуць на плечы, каб сваімі вачыма ўбачыць дзіва — як чалавек, які ўжо быў у руках у смерці, вырваўся з гэтых рук! Як легіянеры здымаюць з яго вяроўкі, міжволі прычыняюць яму пякучы боль у выкручаных на допытах руках, як ён моршчыцца і вохкае, усміхаецца дурною ўсмешкаю.

Ён ведаў, што ў гэты ж самы час канвой вядзе да бакавых прыступак траіх са звязанымі рукамі, каб выводзіць іх на дарогу, якая ідзе на захад, за горад, да Лысае Гары. І толькі тады, калі зайшоў за памост, Пілат расплюшчыў вочы, ведаючы, што цяпер ён у бяспечным месцы — адсюль нельга ўбачыць асуджаных.

Да стогну пачаўшага заціхаць натоўпу прымешваліся і былі чуваць цяпер ужо і крыкі глашатаяў, якія паўтаралі на арамейскай, на грэцкай мовах тое, што пракрычаў з памоста пракуратар. Акрамя ўсяго гэтага,да яго слыху даляцеў дробны роўны строкат капытоў і гук трубы, якая пратрубіла нешта коратка і весела. На гэтыя гукі адказаў хлапчукоўскі свіст з дахаў дамоў на вуліцы, што вяла з базару на гіпадромную плошчу і крыкі «сцеражыся!».

Салдат, які адзінока стаяў на вызваленай ад людзей плошчы са значком у руцэ, трывожна ўзмахнуў ім, і тады пракуратар, легат легіёна, сакратар і канвой спыніліся.

Конная ала, забіраючы ўсё шырэй, вылецела на плошчу, каб перасекчы яе збоч, абмінуўшы збоішча людзей, і завулкам пад каменнаю сцяною, па якой слаўся вінаград, карацейшай дарогаю праімчаць да Лысае Гары.

Пралятаючы рыссю, маленькі, як хлопчык, цёмны, як мулат, камандзір алы — сірыец,— калі параўняўся з Пілатам, нешта тонка крыкнуў і выхапіў з похваў меч. Злосны мокры вараны конь шарахнуўся, устаў на дыбы. Камандзір укінуў меч у ножны, ударыў нагайкаю каня па шыі, выраўняў яго і паімчаў у завулак, пераходзячы ў галоп. За ім па тры ў рад паляцелі коннікі ў хмарах пылу, падскоквалі кончыкі тонкіх бамбукавых пік. Паўз пракуратара паімча-

ліся, здавалася, надзіва смуглыя пад белымі цюрбанамі твары з весела аскаленымі белымі зубамі.

Ала ўварвалася ў завулак, падняла да неба пыл, і паўз Пілата апошнім пранёсся салдат з бліскучай на сонцы трубою за плячыма.

Пілат рушыў далей. Ён закрываў ад пылу твар рукою і незадаволена моршчыўся. За ім да варотаў у сад пры палацы рушылі легат, сакратар і канвой.

Было каля дзесяці гадзін раніцы.

## Раздзел 3

### СЁМЫ ДОКАЗ

— Ага, было каля дзесяці гадзін раніцы, глыбокапаважаны Іван Мікалаевіч,— сказаў прафесар.

Паэт правёў рукою па твары, як чалавек, які толькі што прачнуўся і ўбачыў, што на Патрыярхавых сажалках вечар.

Вада ў сажалцы пачарнела, і лёгкая лодачка плыла ўжо па ёй, і чуўся плёскат вясла і смяшок нейкае гараджаначкі ў лодачцы. На алеях на лавачках з'явілася публіка, але на ўсіх трох баках квадрата, акрамя таго боку, дзе былі нашы субяседнікі.

Неба над Масквою быццам выліняла, і зусім выразна была відаць-увышыні поўня, яшчэ не залатая, а толькі белая. Дыхаць стала намнога лягчэй, і галасы пад ліпамі цяпер гучалі мякчэй, па-вечароваму.

«Як жа гэта я не заўважыў, калі ён паспеў сплесці цэлы расказ? — падумаў Бяздомны здзіўлена,— вось ужо і вечар! А можа, гэта і не ён мне расказваў, а я заснуў і ўсё мне снілася?»

Але трэба думаць, што ўсё ж расказваў прафесар, бо тое ж самае снілася і Берліёзу, і той сказаў, уважліва ўглядаючыся ў твар незнаёмца.

— Расказанае вамі надзвычай цікава, прафесар, хаця гэта зусім не супадае з евангельскімі апавяданнямі.

— Злітуйцеся,— паблажліва адазваўся з усмешкаю прафесар,— каму-каму, а вам трэба ведаць, што нічога з таго, што напісана ў Евангеллі, не было на самай справе ніколі, і калі мы пачнём спасылацца на Евангелле як на гістарычную крыніцу...— ён яшчэ раз усміхнуўся, і Берліёз асекся, таму што літаральна тое ж самае ён гаварыў Бяз-

домнаму, калі ішоў з ім па Броннай да Патрыярхавых сажалак.

— Гэта правільна,— заўважыў Берліёз,— але баюся, што ніхто не можа пацвердзіць, што і тое, пра што вы нам расказалі, адбывалася на самай справе.

— Э, не! Гэта можа хто пацвердзіць! — на ломанай мове надзвычай упэўнена адказаў прафесар і нечакана таямніча паклікаў абодвух сябрукоў бліжэй да сябе.

Тыя нахіліліся да яго з абодвух бакоў, і ён сказаў, але ўжо без усякага акцэнту, які ў яго бог ведае чаму то з'яўляўся, то знікаў:

— Справа ў тым...— тут прафесар спалохана азірнуўся і загаварыў шэптам,— што я сам прысутнічаў пры ўсім гэтым. І на балконе быў у Понція Пілата, і ў садзе, калі ён з Каіфам размаўляў, і на памосце, але таемна, інкогніта, як гаворыцца, таму прашу вас — нікому ні слова і поўны сакрэт!.. Ціха!..

Запанавала маўчанне, і Берліёз пабялеў.

— Вы... вы колькі ў Маскве? — спытаўся, і голас у яго задрыжаў.

— А я толькі што, хвіліну назад у Маскву прыехаў,— разгублена адказаў прафесар, і толькі тут сябры змаглі як след разгледзець яго вочы і пераканацца ў тым, што левае, зялёнае, зусім вар'яцкае, а правае — пустое, чорнае і мёртвае.

«Вось усё і стала зразумела! — падумаў Берліёз спалохана.— Прыехаў вар'ят немец ці толькі што звар'яцеў тут, на Патрыярхавых сажалках. Вось якая гісторыя!»

Сапраўды, усё тлумачылася вельмі проста: і дзіўны сняданак у прафесара Канта, і дзівацкія прароцтвы наконт алею і Анечкі, і прароцтва пра тое, што галава будзе адрэзана, і ўсё астатняе — прафесар быў вар'ят.

Берліёз адразу ж зразумеў, што трэба зрабіць. Ён адкінуўся на спінку, за плячыма ў прафесара заміргаў Бяздомнаму — не спрачайся, маўляў,— але разгублены паэт гэтых сігналаў не зразумеў.

— Так, так, так,— узбуджана гаварыў Берліёз,— між іншым, усё гэта магчыма! Вельмі нават магчыма, і Понцій Пілат, і балкон, і ўсё астатняе. А вы адзін прыехалі ці з жонкаю?

— Адзін, адзін, я заўсёды адзін,— горка адказаў прафесар.

— А дзе ж вашы рэчы, прафесар? — даверліва дапытваўся Берліёз.— У «Метраполі»? Дзе вы спыніліся?

— Я? Нідзе,— адказаў звар'яцелы немец, сумна і дзіка блукаючы позіркам па Патрыярхавых сажалках.

— Як? А... дзе вы будзеце жыць?

— У вашай кватэры,— раптам нахабна адказаў вар'ят і падміргнуў.

— Я... я вельмі рады,— замармытаў Берліёз,— але, паверце, вам у мяне будзе нязручна... А ў «Метраполі» цудоўныя нумары, гэта першакласны гатэль...

— А д'ябла таксама не існуе? — раптам весела папытаўся ў Івана Мікалаевіча хворы.

— І д'ябла...

— Не пярэч! — аднымі губамі шапнуў Берліёз, адкінуўся за плечы прафесара і паказваў на мігах.

— Ды няма ніякага д'ябла! — закрычаў зусім неўпапад Іван Мікалаевіч, разгубіўшыся ад усяго гэтага.— Вось насланнё! Хопіць вам псіхаваць!

Тут вар'ят зарагатаў гэтак, што з ліпы над галовамі субяседнікаў вылецеў верабей.

— Ну, гэта ўжо і сапраўды цікава,— трасучыся ад рагату, гаварыў прафесар,— што ж гэта ў вас, за што ні вазьміся — няма, нічога няма! — Ён перастаў рагатаць раптоўна, як і бывае пры псіхічнай хваробе, пасля смеху даўся ў другую крайнасць — крыкнуў сурова і злосна: — Значыць, усё ж няма?

— Супакойцеся, супакойцеся, супакойцеся, прафесар,— мармытаў Берліёз, каб болей не хваляваць хворага,— вы пасядзіце тут хвілінку з таварышам Бяздомным, а я толькі збегаю да перакрыжавання, дзынкну па тэлефоне, а потым мы вас і павядзём туды, куды вы хочаце. Вы ж не ведаеце горада...

Берліёзаў план варта прызнаць правільным: трэба было дабегчы да бліжэйшага тэлефона і паведаміць у замежнае бюро пра тое, што прыезджы з-за мяжы кансультант сядзіць на Патрыярхавых сажалках у зусім ненармальным стане. Дык вось, неабходна прыняць меры, а то атрымліваецца нейкае непрыемнае глупства.

— Пазваніць? Ну, што ж, пазваніце,— сумна згадзіўся хворы і раптам горача папрасіў: — Але малю вас на развітанне, паверце хаця таму, што ёсць д'ябал! Пра большае я ўжо не прашу. Майце на ўвазе, што на гэта ёсць сёмы доказ, і ён самы надзейны! І зараз вам ён будзе паказаны.

— Добра, добра,— з фальшываю ласкавасцю сказаў Берліёз, падміргнуў засмучанаму паэту, якому зусім не хацелася вартаваць звар'яцелага немца, і памчаў да таго

выхаду з Патрыярхавых, які знаходзіцца на рагу Броннае і Ермалаеўскага завулка.

А прафесар адразу ж зрабіўся здаровым і вясёлым.

— Міхаіл Аляксандравіч! — крыкнуў ён наўздагон Берлёзу.

Той здрыгануўся, азірнуўся, але супакоіў сябе тым, што імя яго і імя па-бацьку вядомы прафесару таксама з газеты. А прафесар крыкнуў, склаўшы рукі рупарам:

— Ці не загадаеце неадкладна адбіць тэлеграму вашаму дзядзьку ў Кіеў?

І зноў перасмыкнула Берлёза. Адкуль вар'ят ведае пра яго кіеўскага дзядзьку? Пра гэта ж у газетах не сказана. Эге, ці не праў тут Бяздомны? А калі дакумент ліпавы? Вой, дзіўны суб'ект. Званіць, званіць! Яго хутка высветляць!

Берлёз пабег далей, ні да чога болей не прыслухоўваючыся.

І тут ля самага выхаду на Бронную з лаўкі насустрач рэдактару ўстаў якраз гэтакі ж самы грамадзянін, што тады у сонечным святле вылепіўся з тлустае спякоты. Толькі цяпер ён быў ужо не паветраны, а звычайны, плоцкі, і ў прыцемку Берлёз добра разгледзеў, што вусікі ў яго як курынае пер'е, вочкі маленькія, іранічныя і п'янаватыя, а штаны клятчастыя, падцягнутыя гэтак, што відаць брудныя белыя шкарпэткі.

Міхаіл Аляксандравіч падаўся назад, але супакоіў сябе тым, што гэта недарэчнае супадзенне і што цяпер няма часу на роздум.

— Турнікет шукаеце, грамадзянін? — надтрэснутым тэнарам пацікавіўся клятчасты тып.— Сюды, калі ласка! Проста і выйдзеце куды трэба! З вас бы за падказку на чвэрць літра... падлячыцца... былому рэгенту! — суб'ект, крыўляючыся, наводмаш зняў сваю жакейскую шапачку.

Берлёз не стаў слухаць пабірушку і крыўляку рэгента, падбег да турнікета, узяўся за яго рукою. Ён павярнуў яго і збіраўся ўжо ступіць на рэйкі, як у твар пырснула чырвоным і белым святлом: у шкляной скрынцы засвяціўся надпіс: «Сцеражыся трамвая!»

Адразу ж падляцеў трамвай, які заварочваў на новую лінію з Ермалаеўскага на Бронную. Як толькі завярнуў і выйшаў на прамую, раптоўна асвятліўся ўнутры электрычнасцю, узвыў і дадаў ходу.

Асцярожны Берлёз, хоць і стаяў у бяспечным месцы, вырашыў вярнуцца за рагатку, пераклаў руку на вяртушцы, ступіў крок назад. І ў гэтае імгненне рука яго сарвалася,

нага няўмольна, як на лёдзе, слізганула па бруку да рэек, другую нагу падкінула, і Берліёз вылецеў на рэйкі.

Берліёз стараўся за што-небудзь ухапіцца, упаў дагары, злёгку ўдарыўся патыліцай аб каменне, і ўспеў угледзець увышыні, але справа ці злева, ён ужо не запомніў,— пазалочаную поўню. Ён успеў перавярнуцца на бок, імкліва падцягнуў ногі да жывата і, пасля таго як павярнуўся, угледзеў, як імчыць на яго з нястрымнаю сілаю зусім белы ад жаху твар жанчыны-вагонаважатай і яе чырвоную павязку. Берліёз не ўспеў ускочыць, але вакол яго адчайнымі жаночымі галасамі завішчала ўся вуліца. Важатая рванула за электрычны тормаз, вагон сеў носам у зямлю, пасля імгнення падскочыў, з грукатам і звонам з вокнаў пасыпалася шкло. Тут у мазгах у Берліёза нехта адчайна крыкнуў: «Няўжо?..» Яшчэ раз, ужо апошні раз, мільганула поўня, якая развальвалася на кавалкі, і потым стала цёмна.

Трамвай накрыў Берліёза, і пад агароджу Патрыярхавае алеі выкінула на брукаваны каменны адхон круглы цёмны прадмет. Ён скаціўся з гэтага адхону і заскакаў па бруку Броннае.

Гэта была адрэзаная галава Берліёза.

## Раздзел 4

### ПАГОНЯ

Сціхлі істэрычныя жаночыя крыкі, перасталі свідраваць паветра міліцэйскія свісткі, дзве санітарныя машыны павезлі: адна — абезгалоўленае цела і адрэзаную галаву ў морг, другая — параненую асколкамі шкла прыгожую важатую; дворнікі ў белых фартухах прыбралі асколкі шкла і засыпалі пяском крывавыя лужы, а Іван Мікалаевіч, як упаў на лаўцы, не дабегшы да турнікета, гэтак і застаўся на ёй.

Некалькі разоў ён спрабаваў устаць, але ногі не слухаліся,— з Бяздомным здарылася нешта накшталт паралiча.

Паэт кінуўся бегчы да турнікета, як толькі пачуў крык, і бачыў, як галава падскоквала, кацілася па бруку. Ён гэтак спалохаўся, што ўпаў і кусаў рукі да крыві. Пра звар'яцелага немца ён, вядома, забыўся і стараўся зразумець толькі адно, як гэта можа быць, што вось толькі што ён гаварыў з Берліёзам, а праз хвіліну — галава...

Усхваляваныя людзі прабягалі паўз паэта па алеі, нешта крычалі, але Іван Мікалаевіч іх не разумеў.

Нечакана ля яго сустрэліся дзве жанчыны, і адна з іх, вастраносая і проставалосая, закрычала над самым паэтам другой жанчыне:

— Анечка! Наша Анечка! З Садовае! Гэта яе работа! Узяла яна ў бакалеі алею, ды літроўку аб вяртушку і пабіла! Усю спадніцу сапсавала... Вой, як яна лаялася, як лаялася! А ён, бедны, выходзіць, паслізнуўся і паехаў на рэйкі...

З усяго сказанага жанчынамі ў збянтэжанай галаве ў Івана Мікалаевіча засталося адно слова: «Анечка...»

— Анечка... Анечка?..— пачаў мармытаць паэт і ўстрывожана азірацца.— Пачакайце, пачакайце...

Да слова «Анечка» прывязалася слова «алей», а потым чамусьці «Понцій Пілат». Пілата паэт адрынуў і пачаў вязаць ланцужок ад слова «Анечка». А ланцужок гэты вязаўся вельмі хутка і прывёў да звар'яцелага прафесара.

Прабачце! Ды ён жа сказаў, што паседжанне не адбудзецца, таму што Анечка разліла алей. І маеце — яно не адбудзецца! Мала гэтага: ён яшчэ сказаў, што галаву Берліёзу адрэжа жанчына?! Ага, ага! Важатая — жанчына?! Што ж гэта такое? Га? Цяпер не было і кропелькі сумнення ў тым, што таямнічы кансультант дакладна ведаў загадзя ўсю карціну жахлівае смерці Берліёза. Тут дзве думкі працялі галаву паэта. Першая: «Ён зусім не вар'ят! Усё гэта глупства!» і другая: «Ці не падстроіў усё гэта ён сам?!»

Але, дазвольце, якім чынам?!

— Не, пра гэта мы даведаемся!

Іван Мікалаевіч перасіліў сябе, устаў з лаўкі і кінуўся туды, дзе размаўляў з прафесарам. І аказалася, што той, на шчасце, яшчэ не пайшоў.

На Броннай ужо запаліліся ліхтары, а над Патрыярхавымі свяціла залатая поўня, і ў месячным, заўсёды падманным святле Івану Мікалаевічу здалося, што той стаіць і трымае пад пахай не кіёк, а шпагу.

Былы падліза-рэгент сядзеў на тым самым месцы, дзе сядзеў яшчэ нядаўна сам Іван Мікалаевіч. Цяпер рэгент начапіў сабе на нос відавочна непатрэбнае пенснэ, у якім не было аднаго шкельца, а другое — трэснутае. Ад гэтага клятчасты грамадзянін зрабіўся яшчэ брыдчэйшым, чым быў тады, калі паказваў Берліёзу дарогу на рэйкі.

З захаладзелым сэрцам Іван падняўся да прафесара,

зазірнуў яму ў твар, пераканаўся, што ніякіх прыкмет вар'яцтва няма на гэтым твары і не было.

— Прызнайцеся, хто вы такі? — глуха спытаўся Іван.

Чужаземец насупіўся, глянуў гэтак, нібы ўпершыню бачыць паэта, і адказаў непрыязна:

— Не панімай... рускій гаварыць...

— Яны не разумеюць! — умяшаўся з лаўкі рэгент, хаця яго ніхто і не прасіў тлумачыць за чужаземца.

— Не прытварайцеся! — грозна сказаў Іван і адчуў, як стала холадна ў грудзях.— Вы толькі што цудоўна гаварылі па-руску. Вы не немец і не прафесар! Вы — забойца і шпіён! Дакументы! — люта крыкнуў Іван.

Загадкавы прафесар гідліва скрывіў і без таго скрыўлены рот і пацінуў плячыма.

— Грамадзянін,— зноў умяшаўся праціўны рэгент,— вы што ж гэта палохаеце інтурыста? За гэта вы строга адкажаце! — А падазроны прафесар напусціў пагарду на твар, завярнуўся і пайшоў прэч ад Івана.

Іван адчуў, што разгубіўся. Задыхаючыся, ён звярнуўся да рэгента:

— Гэй, грамадзянін, дапамажыце затрымаць злачынца! Вы абавязаны гэта зрабіць!

Рэгент ажывіўся, усхапіўся і закрычаў:

— Які злачынец? Дзе ён? Чужаземны злачынец? — рэгентавы вочы радасна засвяціліся.— Гэты? Калі ён злачынец, то найперш трэба крычаць: «Каравул!» А то ён уцячэ. Давайце разам. Разам! — і тут рэгент разявіў пашчу.

У разгубленасці Іван паслухаўся штукара-рэгента і крыкнуў: «Каравул!», а рэгент яго абмануў і нічога не крыкнуў.

Адзінокі хрыпаты Іванаў крык нічога добрага не даў. Дзве нейкія дзяўчыны шарахнуліся ад яго, і ён пачуў слова «п'яны!».

— Э, дык ты з ім заадно? — злосна закрычаў Іван.— Ты што, здзекуешся з мяне? Пусці!

Іван кінуўся ўправа, і рэгент — управа. Іван — улева, і той мярзотнік таксама.

— Ты знарок пад нагамі блытаешся? — азвярэла закрычаў Іван.— Я цябе самога здам у міліцыю!

Іван паспрабаваў схапіць нягодніка за рукаў, але прамазаў і нічога не злавіў. Рэгент быццам скрозь зямлю праваліўся.

Іван вохнуў, глянуў удалечыню і ўгледзеў ненавіснага незнаёмца. Той ужо быў ля выхаду ў Патрыярхаў завулак,

і не адзін. Болей чым сумніцельны рэгент паспеў далучыцца да яго. Але гэта яшчэ не ўсё: трэцім у гэтай кампаніі аказаўся вялікі, як кармляк, чорны, як сажа альбо грак, кот з вялізнымі кавалерыйскімі вусамі, які невядома адкуль узяўся. Тройца рушыла ў Патрыярхаў завулак, прычым кот ішоў на задніх лапах.

Іван кінуўся ўслед за злачынцамі і адразу ж пераканаўся, што дагнаць іх будзе вельмі цяжка.

Тройца імгненна праляцела па Патрыярхавым і апынулася на Спірыдонаўцы. Колькі Іван ні прыбаўляў хады, адлегласць ніяк не скарачалася. І не паспеў паэт апамятацца, як пасля ціхае Спірыдонаўкі апынуўся ля Нікіцкіх варот, дзе становішча яго пагоршылася. Тут ужо было шмат людзей, Іван наляцеў на прахожага, яго аблаялі. Бандыцкая шайка тут вырашыла ўжыць выпрабаваны бандыцкі прыём — уцякаць уроссып.

Рэгент спрытна на хаду ўскочыў у аўтобус, які імчаў да Арбацкае плошчы, і знік. Пасля таго як згубіў аднаго ўцекача, Іван засярodзіў сваю ўвагу на каце і бачыў, як гэты дзіўны кот падышоў да падножкі маторнага вагона «А», што стаяў на прыпынку, нахабна адапхнуў жанчыну, якая аж віскнула, ухапіўся за парэнчу і нават паспрабаваў сунуць кандуктарцы грыўню праз адчыненае з-за духаты акно.

Паводзіны ката гэтак уразілі Івана, што ён нерухома замёр ля бакалейнага магазіна на рагу, і тут другі раз яшчэ больш быў уражаны паводзінамі кандуктаркі. Тая, як толькі ўгледзела ката, які лез у трамвай, аж закалацілася ад злосці і закрычала:

— Катам нельга! З катамі нельга! Псік! Злазь, а то міліцыю паклічу!

І кандуктарку, і пасажыраў уразіла тое, што кот лезе ў трамвай, а не тое, што ён збіраецца заплаціць!

Кот аказаўся не толькі здольны аплаціць, але і дысцыплінаваны. Пасля першага ж вокрыку ён спыніў наступ, злез з падножкі і сеў на прыпынку, паціраючы грыўняй вусы. Але як толькі кандуктарка тузанула за вяроўку і трамвай рушыў, кот зрабіў тое, што робяць усе, каго выганяюць з трамвая і каму трэба ехаць. Кот прапусціў усе тры вагоны, ускочыў на заднюю дугу апошняга, лапаю ўчапіўся за нейкую кішку, якая тырчала збоку, і паехаў, тым самым зэканоміўшы і грыўню.

Захапіўшыся брыдкім катом, Іван ледзь не ўпусціў галоўнага — прафесара. Але, на шчасце, той не ўспеў уцячы. Іван угледзеў шэры берэцік у натоўпе ў пачатку Вялікае

Нікіцкае, альбо па-цяперашняму Герцана. У адно імгненне Іван апынуўся там. Паэт і хады дадаваў, і спрабаваў подбегам, штурхаў прахожых, але і на сантыметр не наблізіўся да прафесара.

Як не быў засмучаны Іван, яго ўражвала тая ненатуральная хуткасць, з якою ішла пагоня. І дваццаць секунд не прамінула, як Іван быў ужо аслеплены агнямі Арбацкае плошчы. Яшчэ некалькі секунд — і цёмны завулак з крывымі тратуарамі, дзе Іван Мікалаевіч упаў і абабіў калена. Зноў асветленая магістраль — вуліца Крапоткіна, потым завулак, потым Астожанка і яшчэ адзін завулак, панылы, непрыгожы і малаасветлены. І вось тут Іван Мікалаевіч канчаткова згубіў таго, хто быў яму патрэбны. Прафесар знік.

Іван Мікалаевіч збянтэжыўся, але ненадоўга, таму што раптам здагадаўся, што прафесар абавязкова павінен апынуцца ў доме № 13 і абавязкова ў кватэры № 47.

Іван Мікалаевіч уварваўся ў пад'езд, узляцеў на другі паверх, адразу ж знайшоў гэтую кватэру і нецярпліва пазваніў. Чакаць давялося мала: адчыніла Івану нейкая дзяўчынка гадоў пяці, нічога не спыталася і пайшла некуды.

У вялізным, ушчэнт занядбаным пярэднім пакоі, які асвятляўся маленькай вугальнай лямпачкай пад высокай і чорнай ад бруду столлю, на сцяне вісеў веласіпед без шын, стаяў вялізны куфар, акаваны жалезам, а на паліцы над вешалкай ляжала зімовая шапка, і яе доўгія вушы звісалі ўніз. За аднымі з дзвярэй гулкі мужчынскі голас у радыёапараце сярдзіта крычаў нешта вершамі.

Іван Мікалаевіч не разгубіўся ў незнаёмых абставінах і пашыбаваў у калідор, разважаючы: «Ён, вядома, схаваўся ў ванным пакоі». У калідоры было цёмна. Патыкаўшыся ў сцены, Іван убачыў вузенькую палоску святла пад дзвярыма, намацаў ручку і пацягнуў за яе. Зашчапка адскочыла, і Іван апынуўся якраз у ванным пакоі, падумаў, што яму пашанцавала.

Аднак пашанцавала не гэтак, як трэба было! На Івана патыхнула вільготнай цеплынёй, і, пры святле вуголля ў калонцы, ён убачыў вялікія ночвы, якія віселі на сцяне, ванну з чорнымі плямамі там, дзе была абабіта эмаль. Дык вось, у гэтай ванне стаяла голая грамадзянка, уся ў мыле і з мачалкаю ў руках. Яна блізарука прыплюшчылася на Івана, які ўварваўся, відаць, памылілася пры гэтым пякельным асвятленні, сказала ціха і весела:

— Кірушка! Хопіць вытвараць! Вы што, здурнелі!.. Фёдар Іванавіч зараз вернецца. Марш адсюль зараз жа! — і махнула на Івана мачалкаю.

Непаразуменне было відавочнае, і вінаваты ў ім быў, вядома ж, Іван Мікалаевіч. Але прызнацца ў гэтым ён не захацеў і ўсклікнуў з дакорам: «Ай, распусніца!..» — і адразу чамусьці апынуўся на кухні. Там нікога не было і на пліце стаяла маўклівa каля дзесятка прымусаў. Толькі месячны праменьчык, які прабіўся скрозь запыленае, многія гады не выціранае шкло, скупа асвятляў куток, дзе ў пыле і павуціне вісела забытая ікона, з-за ківота якое высоўваліся два канцы вянчальных свечак. Пад вялікай іконай вісела прышпіленая маленькая — папяровая.

Ніхто не ведае, якая думка завалодала Іванам, але толькі перш чым выбегчы на чорны ход, ён узяў адну свечку, а таксама і папяровую ікону. Разам з гэтымі прадметамі ён пакінуў невядомую кватэру, нешта мармытаў, бянтэжыўся ад таго, што толькі што пераждыў у ванным пакоі, міжволі спрабаваў угадаць, хто быў гэты нахабны Кірушка і ці не яму належыць брыдкая шапка з вушамі.

У пустым змрочным завулку паэт азірнуўся, шукаючы ўцекача, але таго нідзе не было. Тады Іван цвёрда сказаў сабе самому:

— Ну вядома, ён ля Масквы-ракі! Наперад!

Варта было, мабыць, запытацца ў Івана Мікалаевіча, чаму ён думае, што прафесар менавіта ля Масквы-ракі, а не дзе-небудзь у іншым месцы. Ды бяда ў тым, што запытацца не было каму. Змрочны завулак быў зусім пусты.

Праз некаторы час можна было бачыць Івана Мікалаевіча на гранітных прыступках амфітэатра Масквы-ракі.

Пасля таго як распрануўся, Іван папрасіў сімпатычнага барадача, які курыў самакрутку каля парванае белае талстоўкі і расшнураваных стаптаных чаравікаў, павартаваць і яго адзенне. Іван памахаў рукамі, каб астыць, ластаўкай скочыў у ваду. Аж дух заняло, гэтакая халодная была вада, мільганула нават думка, што не ўдасца вынырнуць на паверхню. Аднак вынырнуць удалося, Іван аддыхваўся, фыркаў, з круглымі ад жаху вачыма плаваў у прапахлай нафтаю і мазутам вадзе між зігзагаў ад берагавых ліхтароў.

Калі мокры Іван прыскакаў па прыступках да таго месца, дзе засталося яго адзенне, высветлілася, што ўкрадзена не толькі яно, але і сам барадач. Якраз на тым самым месцы засталіся толькі паласатыя споднікі, парваная талстоўка,

свечка, ікона і карабок запалак. Іван пагразіў некаму ўдалячынь кулаком, адзеў тое, што засталося.

Цяпер яго пачалі турбаваць дзве думкі: першая — пра тое, што знікла пасведчанне МАССАЛІТа, з якім ён ніколі не разлучаўся, і другая — ці ўдасца яму ў такім выглядзе прайсці па Маскве? Усё ж у падштаніках... Хаця каму якая справа да гэтага, але каб не было якой-небудзь прыдзіркі альбо затрымкі.

Іван абарваў гузікі са споднікаў там, дзе тыя зашпільваліся знізу, разлічваў, што яны стануць падобнымі на летнія штаны, забраў іконку, свечку і запалкі і рушыў, на хаду загадаўшы самому сабе:

— Да Грыбаедава! Няма сумнення, што яны там!

Горад ужо жыў вячэрнім жыццём. У пыле праляталі, пазвоньваючы ланцугамі, грузавікі, на платформах якіх, на мяшках, жыватамі ўгору, ляжалі нейкія мужчыны. Усе вокны былі адчыненыя. У кожным з гэтых вокнаў гарэла пад аранжавым абажурам святло, з вокнаў і з усіх дзвярэй, з дахаў і гарышчаў, з падвалаў і двароў вырываўся ахрыплы гук паланеза з оперы «Яўгеній Анегін».

Тое, чаго Іван Мікалаевіч баяўся, збылося: прахожыя звярталі на яго ўвагу, азіраліся. Тады ён вырашыў пакінуць людныя вуліцы і прабірацца завулачкамі, дзе людзі не гэтакія надакучлівыя, што прыстаюць да босага чалавека з роспытамі пра споднікі, якія ніяк не робяцца падобнымі на штаны.

Іван гэтак і зрабіў — знік у глыбіні арбацкіх завулачкаў і пачаў прабірацца пад сценамі насцярожана, пужліва азіраючыся, часам хаваўся ў пад'ездах, пазбягаў перакрыжаванняў са святлафорамі, абыходзіў раскошныя дзверы пасольскіх асабнякоў.

І ўсю дарогу яго, незразумела чаму, мучыў неадступны аркестр, пад акампанемент якога цяжкі бас спяваў пра сваю любоў да Таццяны.

## Раздзел 5

### ДЗЕЯ АДБЫВАЕЦЦА Ў ГРЫБАЕДАВЕ

Старадаўні двухпавярховы дом крэмавага колеру стаяў на бульварным кальцы ў глыбіні зачахлага саду, адмежаванага ад тратуара каванаю чыгуннаю рашоткаю. Невялікая пляцоўка перад домам была заасфальтавана, зімой на

ёй высіўся сумёт з лапатаю, летам яна ператваралася ў цудоўнае аддзяленне рэстарана пад парусінавым тэнтам.

Дом называлі «Домам Грыбаедава» таму, што быццам бы некалі ён належаў цётцы пісьменніка — Аляксандра Сяргеевіча Грыбаедава. Ну, належаў ці не належаў — мы дакладна не ведаем. Нават памятаецца, што быццам бы ніякай цёткі-домаўладальніцы ў Грыбаедава і не было... Аднак дом гэтак звалі. Нават болей, адзін маскоўскі хлус расказваў, што нібы на другім паверсе, у круглай зале з калонамі, знакаміты пісьменнік чытаў урыўкі з «Гора ад розуму» гэтай самай цётцы, якая сядзела на сафе. А між іншым, д'ябал яго ведае, магчыма, і чытаў, не гэта важна!

А важна тое, што цяпер валодаў гэтым домам МАССАЛІТ, які ўзначальваў Міхаіл Аляксандравіч Берліёз да свайго з'яўлення на Патрыярхавых сажалках.

З лёгкае рукі членаў МАССАЛІТа ніхто не называў дом «Домам Грыбаедава», а ўсе гаварылі проста — «Грыбаедаў»: «Я ўчора дзве гадзіны правалэндаўся ў Грыбаедава».— «Ну, і як?» — «Дабіўся на месяц у Ялту».— «Малайчына!» Альбо: «Пайсці да Берліёза, ён сёння з чатырох да пяці прымае ў Грыбаедаве...» і гэтак далей.

МАССАЛІТ размясціўся ў Грыбаедаве гэтак, што лепш і ўтульней не можа і быць. Кожны, хто заходзіў у Грыбаедава, перш за ўсё міжволі знаёміўся з паведамленнямі розных спартыўных кружкоў і з групавымі, а таксама індывідуальнымі фотаздымкамі членаў МАССАЛІТа, якімі (фотаздымкамі) былі абвешаны лесвічныя сцены на другі паверх.

На дзвярах першага пакоя на гэтым жа паверсе быў відаць надпіс вялікімі літарамі: «Рыбна-дачная секцыя» і намаляваны карась, які трапіўся на вуду.

На дзвярах пакоя № 2 было напісана нешта не зусім зразумелае: «Аднадзённая творчая пуцёўка. Звяртацца да М. В. Падложнай».

Наступныя дзверы трымалі на сабе кароткі, але ўжо зусім незразумелы надпіс: «Пералыгіна». Потым у выпадковага наведвальніка Грыбаедава пачыналі разбягацца вочы ад надпісаў, якія стракацелі на арэхавых цётчыных дзвярах: «Запіс у чаргу на паперу ў Паклёўкінай», «Каса», «Асабісты разлік скетчыстаў»...

Перасекшы даўжэзную чаргу, якая пачыналася ўнізе ад швейцарскага пакоя, можна было ўбачыць надпіс на дзвярах, куды пёрся народ: «Кватэрнае пытанне».

За кватэрным пытаннем віднеўся раскошны плакат, на якім была намалявана скала, а на яе грэбені ехаў коннік у бурцы і з вінтоўкаю за плячыма. Ніжэй — пальмы і бал-

кон, на балконе сядзеў малады чалавек з чубчыкам, глядзеў некуды ўгору шустрымі вачыма і трымаў у руцэ самапіску. Подпіс: «Поўнааб'ёмныя творчыя адпачынкі ад двух тыдняў (апавяданне-навела) да аднаго года (раман, трылогія). Ялта, Суук-Су, Баравое, Цыхідзіры, Махінджаўры, Ленінград (Зімні палац)». Ля гэтых дзвярэй таксама была чарга, але невялікая, сотні на паўтары.

Далей ішлі адпаведна паваротам, пад'ёмам і спускам грыбаедаўскага дома,— «Праўленне МАССАЛІТа», «Касы № 2, 3, 4, 5», «Рэдакцыйная калегія», «Старшыня МАССАЛІТа», «Більярдная», розныя дапаможныя ўстановы і, нарэшце, тая самая зала з каланадаю, дзе цётка цешылася камедыяй геніяльнага пляменніка.

Кожны наведвальнік, калі ён, вядома, быў не зусім тупы, калі трапляў у Грыбаедава, адразу ж думаў пра тое, як добра жывецца шчаслівчыкам — членам МАССАЛІТа, і чорная зайздрасць пачынала пакрысе мучыць яго. І ўзнікаў горкі дакор за тое, што яго прырода не надзяліла пры нараджэнні літаратурным талентам, без чаго, натуральна, нярвата было і марыць, каб завалодаць білетам МАССАЛІТа, карычневым, які пах дарагою скураю, з залатою шырокаю аблямоўкаю,— вядомы на ўсю Маскву білет.

Хто будзе абараняць зайздрасць? Гэта пачуццё катэгорыі дрэнных людзей, але ўсё ж зразумець наведвальніка можна. Бо ўсё тое, што ён бачыў на верхнім паверсе, было яшчэ не ўсё, зусім не ўсё. Увесь ніжні паверх цётчынага дома займаў рэстаран, і які рэстаран! Справядліва ён лічыўся самым лепшым у Маскве. І не толькі таму, што месціўся ў двух вялікіх залах з высокай столлю, размаляванай ліловымі асірыйскімі конямі з грывамі, не толькі таму, што на кожным стале стаяла лямпа, прыкрытая шалем, не толькі таму, што туды не мог трапіць кожны з вуліцы, а яшчэ і таму, што якасцю прадуктаў Грыбаедаў перамагаў усе маскоўскія рэстараны і што іх тут прадавалі па даволі сходнай цане.

Таму няма нічога дзіўнага пачуць вось такую размову, якую аднойчы пачуў аўтар гэтых самых праўдзівых радкоў ля чыгуннае рашоткі Грыбаедава:

— Ты дзе сёння вячэраеш, Амбросій?

— Яшчэ пытаешся, вядома, тут буду, дарагі Фока! Арчыбальд Арчыбальдавіч шапнуў мне сёння, што будуць парцыённыя судачкі а нацюрэль. Віртуозная штучка!

— Умееш ты жыць, Амбросій! — уздыхаючы, гаварыў худы, зашморганы, з карбункулам на шыі Фока чырвана-

губаму волату, золатавалосаму, таўсташчокаму Амбросію-паэту.

— Ніякага асаблівага ўмення ў мяне няма,— пярэчыў Амбросій,— а звычайнае імкненне жыць па-чалавечы. Ты хочаш сказаць, Фока, што судачкі бываюць і ў «Калізеі»? Але ў «Калізеі» порцыя судачкоў каштуе трынаццаць рублёў пятнаццаць капеек, а ў нас — пяць пяцьдзесят! Акрамя таго, у «Калізеі» судачкі трохдзённыя, і, яшчэ, у цябе няма гарантыі, што ў «Калізеі» ты не атрымаеш ад першага сустрэчнага, які ўварваўся з Тэатральнага праезда, вінаграднаю гронкаю па мордзе. Не, я катэгарычна супраць «Калізея»,— грымеў на ўвесь бульвар пераборлівы Амбросій.— Не ўгаворвай мяне, Фока.

— Я не ўгаворваю цябе, Амбросій,— пішчаў Фока.— Дома можна павячэраць.

— Скажаш,— трубіў Амбросій,— уяўляю тваю жонку, якая спрабуе ў каструльцы на кухні зварганіць парцыённыя судачкі а нацюрэль! Гі-гі-гі!.. Арэвуар, Фока! — і з песенькаю Амбросій накіроўваецца да веранды пад тэнтам.

Э-ха-ха... Было, было! Памятаюць маскоўскія старажылы знакамітага Грыбаедава! Ды што там адвараныя парцыённыя судачкі! Дзяшоўка гэта, мілы Амбросій! А сцерлядзь, сцерлядзь у серабрыстых каструльках, сцерлядзь, перакладзеная ракавымі шыйкамі і свежаю ікрою? А яйкі-какот з шампіньёнавым пюрэ ў кубачках? А драздовыя філейчыкі вам не падабаліся? З труфелямі? Перапёлкі па-генуэску? Дзесяць з паловаю! Ды джаз, ды ветлівае абслугоўванне. А ў ліпені, калі ўся сям'я на дачы, а вас трымаюць у горадзе тэрміновыя літаратурныя справы,— на верандзе, у цяні ад вінаграду, залатою плямаю на чысценькім настольніку талерачка супу-прэнтаньер? Памятаеце, Амбросій? Чаго тут пытацца! Па губах вашых бачу, што памятаеце. Што вашы сіжкі, судачкі! А дупелі, гаршнепы, бакасы, слонкі ў сезон, перапёлкі, кулікі? Нарзан, які шыпіць у горле?! Але хопіць, ты захапіўся, чытач! За мною!..

А палове адзінаццатай у той самы вечар, калі загінуў Берліёз на Патрыярхавых, у Грыбаедаве наверсе свяціўся толькі адзін пакой, і ў ім пакутавалі дванаццаць літаратараў, якія сабраліся на паседжанне і чакалі Міхаіла Аляксандравіча.

Яны сядзелі на крэслах, на сталах і нават на падакон-

ніках у пакоі праўлення МАССАЛІТа і вельмі пакутавалі ад духаты. Ніводнага свежага струменя не пранікала ў адчыненыя вокны. Масква аддавала назапашаную за дзень цеплыню, і было зразумела, што і ноч не прынясе палёгкі. Пахла цыбуляй з падвала цётчынага дома, дзе працавала рэстаранная кухня, і ўсім хацелася піць, усе нерваваліся і злаваліся.

Белетрыст Бяскуднікаў — ціхі, прыстойна апрануты чалавек з уважлівымі і адначасна няўлоўнымі вачыма — дастаў гадзіннік. Стрэлка паўзла да адзінаццаці. Бяскуднікаў пстрыкнуў па цыферблаце, паказаў яго суседу, паэту Двухбрацкаму, які сядзеў на стале і ад няма чаго рабіць махаў нагамі, абутымі ў жоўтыя чаравікі на гумавай падэшве.

— Аднак,— прамармытаў Двухбрацкі.

— Хлопец, мабыць, на Клязьме зачапіўся,— густым голасам адазвалася Настасся Лукінічна Няпрыменава, маскоўская купецкая сірата, якая стала пісьменніцай і выдумляе батальныя марскія апавяданні пад псеўданімам «Штурман Жорж».

— Даруйце,— смела загаварыў аўтар папулярных скетчаў Загрываў.— Я і сам зараз бы з задавальненнем на балкончыку чаёк піў, замест таго каб тут варыцца. Паседжанне прызначана на дзесяць?

— А цяпер добра на Клязьме,— падагрэла прысутных Штурман Жорж, ведала, што дачны пасёлак пісьменнікаў Пералыгіна на Клязьме — балючае пытанне.— Цяпер, мабыць, салаўі там спяваюць. Мне заўсёды неяк лепш працуецца за горадам, асабліва вясною.

— Трэці год плачу грошы, каб хворую на базедаву хваробу жонку адправіць у гэты рай, ды нічога сярод хваль не маячыць,— ядавіта і горка сказаў навеліст Іеранім Папрыхін.

— Гэта ўжо як каму пашанцуе,— прагудзеў з падаконніка крытык Абабкаў.

Радасць загарэлася ў маленькіх вочках Штурман Жоржа, і яна сказала, змякчаючы сваё кантральта:

— Не трэба, таварышы, зайздросціць. Дач толькі дваццаць дзве, і будуецца яшчэ толькі сем, а нас у МАССАЛІЦе тры тысячы.

— Тры тысячы сто адзінаццаць чалавек,— уставіў нехта з кута.

— Ну вось бачыце,— працягвала Штурман Жорж,—

што ж рабіць? Натуральна, што дачы атрымалі самыя таленавітыя з нас...

— Генералы! — напрасткі ўрэзаўся ў сварку Глухараў-сцэнарыст.

Бяскуднікаў прытворна пазяхнуў і выйшаў з пакоя.

— Адзін у пяці пакоях у Пералыгіне,— услед яму сказаў Глухараў.

— Лаўровіч адзін у шасці,— крыкнуў Дзяніскін,— і сталоўка дубам абабіта.

— Э-э, цяпер не ў гэтым справа,— прагудзеў Абабкаў,— ■ ў тым, што палова дванаццатай.

Пачаўся шум, наспявала нешта накшталт бунту. Пачалі званіць у ненавіснае Пералыгіна, трапілі не на тую дачу, да Лаўровіча, даведаліся, што Лаўровіч пайшоў на рэчку, і зусім ад гэтага засмуціліся. Наўздагад пазванілі ў камісію па прыгожай славеснасці па дадатковым № 930 і, вядома, нікога там не знайшлі.

— Ён мог бы і пазваніць,— крычалі Дзяніскін, Глухараў і Квант.

Ды крычалі яны марна: не мог Міхаіл Аляксандравіч нікуды болей пазваніць. Далёка, далёка ад Грыбаедава, на трох цынкавых сталах ляжала тое, што яшчэ нядаўна было Міхаілам Аляксандравічам.

На першым — голае, у засохлай крыві цела з перабітаю рукою і раздушанаю грудзінаю, на другім — галава з выбітымі зубамі, ■ памутнелымі расплюшчанымі вачыма, якіх не палохала болей моцнае святло, а на трэцім — куча закарэлыхануч.

Ля абезгалоўленага стаялі: прафесар судовай медыцыны, паталагаанатам і яго празектар, прадстаўнік следства і выкліканы па тэлефоне ад хворае жонкі намеснік Міхаіла Аляксандравіча ў МАССАЛІЦе — літаратар Жаўдыбін.

Машына заехала па Жаўдыбіна і найперш, разам са следствам, адвезла яго (пад поўнач гэта было) на кватэру забітага, дзе былі апячатаны яго паперы, а потым ужо ўсе паехалі ў морг.

Вось цяпер тыя, хто стаяў над нябожчыкам, раіліся, як лепш зрабіць: ці прышыць адрэзаную галаву да шыі, ці выставіць цела ў грыбаедаўскай зале і проста акрыць яго чорным да самага падбародка.

Так, Міхаіл Аляксандравіч нікуды не мог пазваніць, і таму дарэмна абураліся і крычалі Дзяніскін, Глухараў і Квант з Бяскуднікавым. Роўна апоўначы ўсе літаратары пакінулі верхні паверх і сышлі ў рэстаран. Тут зноў нядоб-

рым словам успомнілі Міхаіла Аляксандравіча: усе столікі на верандзе, натуральна, былі ўжо занятыя, і давялося застацца вячэраць у гэтых прыгожых, але душных залах.

І роўна апоўначы ў адным з іх нешта моцна грукнула, зазвінела, пасыпалася, заскакала. І адразу ж тоненькі мужчынскі голас адчайна закрычаў: «Алілуйя!» Гэта ўрэзаў знакаміты грыбаедаўскі джаз. Пакрытыя потам твары нібы засвяціліся, здалося, што ажылі на столі намаляваныя коні, у лямпах быццам пабольшала святла, і раптам, як з ланцуга сарваліся, заскакалі абедзве залы, а за імі і веранда.

Заскакаў Глухараў з паэтэсай Тамарай Паўмесяц, заскакаў Квант, заскакаў Жукопаў-раманіст з нейкаю кінаактрысаю ў жоўтай сукенцы. Скакалі: Драгунскі, Чардакчы, маленькі Дзяніскін з гіганцкай Штурман Жоржам, скакала прыгажуня архітэктар Сямейкіна-Гал, моцна аблапленая невядомым у белых дзяружных штанах. Скакалі свае і запрошаныя госці, маскоўскія і прыезджы пісьменнік Ёган з Кранштата, нейкі Віця Куфцік ▪ Растова, здаецца, рэжысёр, з ліловым лішаём на ўсю шчаку, скакалі выдатнейшыя прадстаўнікі паэтычнага падраздзела МАССАЛІТа, а менавіта Павіянаў, Багахульскі, Салодкі, Шпічкін і Адэльфіна Буздзяк, скакалі невядомых прафесій маладыя людзі, стрыжаныя пад бокс, з падшытымі ватаю плячыма, скакаў нейкі пажылы з барадою, у якой засела пёрка зялёнае цыбулі, скакала з ім пажылая змарнаваная малакроўем дзяўчына ў аранжавай шаўковай пакамечанай сукеначцы.

Сплывалі потам афіцыянты і насілі над галовамі запацелыя куфлі з півам, хрыпла і з нянавісцю крычалі: «Выбачайце, грамадзянін!» Недзе з рупара голас камандаваў: «Карскі раз! Зубрык два! Флякі гаспадарскія!» Грукат залатых джазавых талерак у аркестры часам перакрываў грукат посуду, які пасудамыйкі па жолабе спускалі на кухню. Адным словам, пекла.

І было апоўначы ў пекле відовішча. Выйшаў на веранду чарнавокі прыгажун з кінжальнаю бародкаю, у сурдуце і царскім позіркам паглядзеў навокал. Гаварылі, гаварылі містыкі, што быў час, калі прыгажун не апранаў сурдута, а быў падпяразаны шырокай скураной папругаю, з якой тырчалі рукаяткі пісталетаў, а яго валасы пад колер крумкачовага крыла былі падвязаны чырвоным шоўкам, і плыў у Карыбскім моры пад яго камандаю брыг пад чорным мёртвым сцягам з Адамавай галавой.

Але не, не! Абманваюць спакушальнікі-містыкі, ніякага

Караібскага мора няма на свеце, і не плывуць там адчайныя флібусцьеры, і не даганяе іх карвет, і не сцелецца над вадою гарматны дым. Няма нічога, і нічога не было! Вунь ссохлая ліпа ёсць, ёсць чыгунная рашотка і за ёй бульвар... І растае лёд у вазачцы, і відаць за суседнім столікам набеглыя крывёй нечыя вочы, і страшна, страшна... О багі, багі літасцівыя, атруты мне, атруты!..

І раптам за столікам успырхнула слова: «Берліёз!»

Джаз разваліўся і знік, быццам нехта грукнуў па іх кулаком. «Што, што, што, што?!!» — «Берліёз!!!» І пачалі ўсхопліваацца з месцаў, пачалі ўскрыкваць...

Так паднялася хваля гора ад страшнае навіны пра Міхаіла Аляксандравіча. Нехта мітусіўся, крычаў, што трэба адразу тут жа скласці нейкую тэлеграму і тэрмінова адправіць яе.

Але якую тэлеграму, спытаемся мы, і куды? І навошта яе пасылаць? І сапраўды, куды? І навошта нейкая там тэлеграма таму, чыя раздушаная патыліца сціснута зараз празектарскімі рукамі, чыю шыю коле зараз крывымі іголкамі прафесар? Загінуў ён, і не трэба яму ніякай тэлеграмы. Усё скончана, не будзем болей загружаць тэлеграф.

Сапраўды, загінуў, загінуў... Але ж мы жывыя!

Ну, паднялася хваля гора, патрымалася-патрымалася і пачала ападаць, і сёй-той ужо вярнуўся да свайго століка і — спачатку крадком, а потым і адкрыта — выпіў гарэлачкі і закусіў. І на самай справе, не прападаць жа курыным катлетам дэ-валяй? Чым мы дапаможам Міхаілу Аляксандравічу? Тым, што застанемся галодныя? Але ж мы жывыя!

Натуральна, раяль замкнулі, джаз разышоўся, некалькі журналістаў паехалі ў свае рэдакцыі пісаць некралогі. Стала вядома, што прыехаў з морга Жаўдыбін. Ён размясціўся ў кабінеце нябожчыка наверсе, і адразу ж пракацілася чутка, што ён і будзе замест Берліёза. Жаўдыбін выклікаў да сябе з рэстарана ўсіх дванаццаць членаў праўлення, і на паседжанні, якое тэрмінова пачалося ў Берліёзавым кабінеце, пачалі абмяркоўваць тэрміновыя пытанні, як прыбраць грыбаедаўскую залу, пра перавоз цела з морга, пра адкрыццё доступу і пра ўсё астатняе, што звязана з сумным здарэннем.

А рэстаран зажыў сваім звычайным жыццём, і жыў бы ім да закрыцця, гэта значыць да чатырох гадзін, калі б не здарылася нешта такое, што ўразіла гасцей значна больш, чым вестка пра гібель Берліёза.

Першыя захваляваліся рамізнікі, якія дзяжурылі ля варот грыбаедаўскага дома. Чуваць было, як адзін з іх, прыўстаўшы на козлах, закрычаў:

— Цю, вы толькі гляньце!

І адразу ж ля чыгуннае рашоткі аднекуль успыхнуў агеньчык і пачаў набліжацца да веранды. Усе, хто сядзеў за столікамі, пачалі ўставаць і прыглядацца, і ўбачылі, што разам з агеньчыкам да рэстарана набліжаецца белая здань. Калі здань падышла да трыльяжа, усе нібы акасцянелі з кавалачкамі сцерлядзі на відэльцах і вылупленымі вачыма. Швейцар, які ў гэты час выйшаў з дзвярэй рэстараннага гардэроба, каб пакурыць, затаптаў папяроску і спачатку рушыў насустрач здані, каб перагарадзіць ёй дарогу ў рэстаран, але чамусьці не зрабіў гэтага, спыніўся з недарэчнаю ўсмешачкаю.

І здань прайшла праз адтуліну ў трыльяжы, вольна ступіла на веранду. І тут толькі ўсе ўгледзелі, што гэта ніякі не прывід, а Іван Мікалаевіч Бяздомны — вядомы паэт.

Ён быў босы, у парванай белай талстоўцы, да якое на грудзях шпількаю прышпілена папяровая іконка з вылінялым малюнкам нейкага святога, і ў паласатых споднiках. У руцэ Іван Мікалаевіч нёс запаленую вянчальную свечку. Правая шчака ў Івана Мікалаевіча была абадраная. Цяжка нават вымераць тую глыбіню маўчання, якое запанавала на верандзе. У аднаго з афіцыянтаў з нахіленага куфля цякло на падлогу піва.

Паэт падняў свечку над галавой і моцна сказаў:

— Здаровы, другі мае! — і адразу ж зазірнуў пад бліжэйшы столік і тужліва ўсклікнуў: — Не, яго няма тут!

Пачуліся два галасы. Бас сказаў бязлітасна:

— Усё ясна. Белая гарачка.

А другі, жаночы, спалохана прамовіў словы:

— Як жа гэта міліцыя прапусціла яго па вуліцах у такім выглядзе?

Гэта Іван Мікалаевіч пачуў і адазваўся:

— Двойчы хацелі затрымаць, у Скацертным і тут, на Броннай, ды я сігануў цераз плот, бачыце, шчаку раздраў! — Тут Іван Мікалаевіч падняў свечку і закрычаў: — Браты ў літаратуры! (Асіплы яго голас памацнеў і зрабіўся палымяным.) Слухайце мяне ўсе! Ён з'явіўся! Лавіце яго тэрмінова, бо ён наробіць бяды, якая і не снілася нам!

— Што? Што? Што ён сказаў? Хто з'явіўся? — пачуліся галасы з усіх бакоў.

— Кансультант,— адказаў Іван,— і гэты кансультант зараз забіў на Патрыярхавых Мішу Берліёза.

Тут з унутраных залаў паваліў на веранду народ, вакол Іванавага агню сабраўся натоўп.

— Выбачайце, выбачайце, скажыце дакладней,— пачуўся над вухам у Івана Мікалаевіча ціхі і ветлівы голас,— скажыце, як гэта забіў? Хто забіў?

— Замежны кансультант, прафесар і шпіён! — сказаў Іван і азірнуўся.

— А як яго прозвішча? — ціха спыталіся на вуха.

— Во, прозвішча! — сумна крыкнуў Іван.— Каб я ведаў прозвішча! Не запомніў я прозвішча на візітнай картцы... Памятаю толькі першую літару «Вэ», на «Вэ» прозвішча! Якое ж прозвішча на «Вэ»? — схапіўшыся за лоб, сам у сябе спытаўся Іван і раптам замармытаў: — Вэ... Вэ... Вэ! Ва... Вашнер? Вагнер? Вайнер? Вегнер? Вінтэр? — валасы на галаве ў Івана ад напругі пачалі варушыцца.

— Вульф? — жаласліва выкрыкнула нейкая жанчына.

Іван раззлаваўся.

— Дура! — крыкнуў ён і пачаў шукаць яе позіркам.— Пры чым тут Вульф? Вульф ні ў чым не вінаваты! Во, во... Не, ніяк не ўспомню! Ну, дык вось, грамадзяне: зараз жа званіце ў міліцыю, каб выслалі пяць матацыклаў з кулямётамі прафесара лавіць. Ды не забудзьце сказаць, што з ім яшчэ двое: адзін высозны, клятчасты... пенснэ пабітае і кот чорны, тлусты. А я пакуль што абшукаю Грыбаедава, я адчуваю, што ён тут!

Іван захваляваўся, расштурхаў акружэнне, пачаў размахваць свечкаю, абліваў сябе воскам, зазіраў пад сталы. Тут пачулася слова: «Доктара!» — і нечы твар, ласкавы і мясісты, выгалены і дагледжаны, у рагавых акулярах, з'явіўся перад Іванам.

— Таварыш Бяздомны,— загаварыў гэты твар юбілейным голасам,— супакойцеся! Вас уразіла смерць усімі намі любімага Міхаіла Аляксандравіча... не, проста Мішы Берліёза. Мы гэта добра разумеем усе. Вам трэба адпачыць. Зараз таварышы правядуць нас у пакой, і вы адпачняце...

— Ты,— выскаліўся Іван,— ці разумееш ты, што трэба злавіць прафесара? А ты лезеш да мяне з розным глупствам! Крэтын!

— Таварыш Бяздомны, злітуйцеся,— адказаў твар, пачырванеў, пачаў адступаць і ўжо раскайваўся, што ўвязаўся ў гэтую гісторыю.

— Не, з каго-каго, а з цябе я не злітуюся,— з ціхай нянавісцю сказаў Іван Мікалаевіч.

Твар яго сутаргава скрывіўся, ён хуценька перахапіў свечку з правае рукі ў левую, шырока размахнуўся і ўрэзаў спагадліваму твару ў вуха.

Тут здагадаліся кінуцца на Івана — і кінуліся. Свечка патухла, акуляры, якія ўпалі з твару, былі імгненна растаптаны. Іван выгукнуў страшны баявы кліч, які пачулі з задавальненнем нават на бульвары, і пачаў абараняцца. Зазвінеў са сталоў посуд, закрычалі жанчыны.

Пакуль афіцыянты звязвалі паэта ручнікамі, у раздзявалцы ішла гаворка паміж камандзірам брыга і швейцарам.

— Ты бачыў, што ён у споднім? — холадна пытаўся пірат.

— Ды, Арчыбальд Арчыбальдавіч,— спалохана апраўдваўся швейцар,— як я магу іх не пусціць, калі ён член МАССАЛІТа?

— Ты бачыў, што ён у споднім? — паўтарыў пірат.

— Злітуйцеся, Арчыбальд Арчыбальдавіч,— чырванеў швейцар,— што ж я магу зрабіць? Я сам разумею, што на верандзе пані сядзяць...

— Пані тут ні пры чым, ім гэта ўсё роўна,— адказваў пірат і папяліў швейцара позіркам,— а гэта міліцыі не ўсё роўна! Чалавек у бялізне можа ісці па вуліцах у Маскве толькі тады, калі яго суправаджае міліцыя, і толькі ў адно месца — у аддзел міліцыі! А ты, калі швейцар, павінен ведаць, што як толькі ўбачыў такога чалавека, ты павінен не траціць і секунды, пачынаць свістаць. Ты чуеш?

Ашалелы швейцар пачуў з веранды вухканне, звон пасуды і жаночыя крыкі.

— Ну што з табой зрабіць за гэта? — спытаўся флібусцьер.

Скура на твары ў швейцара зрабілася тыфознага колеру, а вочы змярцвелі. Яму здалося, што чорныя валасы, цяпер расчэсаныя на прабор, пакрыліся вогненным шоўкам. І зніклі пластрон і сурдут, а за скураной папругай паказалася ручка пісталета. Швейцар уявіў сябе павешаным на фор-марсарэі. Сваімі вачыма ён убачыў свой высалаплены язык і мёртвую галаву, якая звісла на плячо, і нават пачуў, як усхліпнула за бортам хваля. Калені швейцара падагнуліся. Але тут флібусцьер злітаваўся з яго і патушыў свой востры позірк.

— Глядзі, Мікалай! Гэта апошні раз. Нам такіх швейцараў у рэстаране і дарэмна не трэба. Ты ў царкву вартаў-

ніком пастулай.— Пасля гэтага камандзір скамандаваў коратка, ясна, хутка: — Панцялея з буфетнай. Міліцыянера. Пратакол. Машыну. У псіхіятрычную,— і дадаў: — Свішчы!

Праз чвэртку гадзіны ўражаная публіка не толькі ў рэстаране, але і на самім бульвары і ў вокнах дамоў, якія выходзілі на рэстаран, бачыла, як з варот Грыбаедава Панцялей, швейцар, міліцыянер і паэт Рохін выносілі спеленатага, як ляльку, маладога чалавека, які заліваўся слязьмі, пляваўся і цаляў менавіта ў Рохіна, захліпаўся ад слёз і крычаў:

— Сволач!

Шафёр грузавое машыны са злосным тварам заводзіў матор. Побач ліхач гарачыў каня, біў яго па крупе сінімі лейцамі, крычаў:

— А вось на бегунках! Я вазіў у псіхіятрычную!

Вакол гудзеў натоўп, абмяркоўваў нечуванае здарэнне; адным словам, адбыўся брыдкі, нясмачны, спакуслівы свінскі скандал, які скончыўся толькі тады, калі грузавік паімчаў на сабе ад варот Грыбаедава няшчаснага Івана Мікалаевіча, міліцыянера, Панцялея і Рохіна.

## Раздзел 6

### ШЫЗАФРЭНІЯ, ЯК І БЫЛО СКАЗАНА

Калі ў прыёмную славутай псіхіятрычнай клінікі, якую нядаўна пабудавалі пад Масквой на беразе рэчкі, зайшоў чалавек з востраю бародкаю, апрануты ў белы халат, была палова другой ночы. Трое санітараў не спускалі вачэй з Івана Мікалаевіча, які сядзеў на канапе. Тут быў і зусім расхваляваны паэт Рохін. Ручнікі, якімі звязвалі Івана Мікалаевіча, ляжалі кучаю на той жа канапе. Рукі і ногі ў Івана Мікалаевіча былі развязаны.

Угледзеўшы чалавека, Рохін пабялеў, кашлянуў і баязліва сказаў:

— Добры дзень, доктар!

Доктар пакланіўся Рохіну, але ў гэты час глядзеў не на яго, а на Івана Мікалаевіча.

Той сядзеў зусім нерухома, злосны з твару, насупіўшы бровы, і нават не варухнуўся, калі зайшоў доктар.

— Вось, доктар,— чамусьці таямнічым шэптам загаварыў Рохін і баязліва азірнуўся на Івана Мікалаевіча,— вядомы паэт Іван Бяздомны... вось, бачыце, мы баімося, што белая гарачка...

— Моцна піў? — скрозь зубы спытаўся доктар.

— Не, выпіваў, але не так каб ужо...

— Тараканаў, пацукоў, чорцікаў альбо сабак не лавіў?

— Не,— скалануўся Рохін,— яго я ўчора і сёння раніцай бачыў. Зусім здаровы быў...

— А чаму ў споднім? З ложка ўзялі?

— Ён, доктар, у рэстаран у гэтакім выглядзе прыйшоў...

— Ага, ага,— вельмі задаволена сказаў доктар,— а чаму абадраны? Біўся з кім-небудзь?

— Ён з плота ўпаў, а потым у рэстаране ўдарыў аднаго, а потым другога...

— Так, так, так,— сказаў доктар, завярнуўся да Івана і дадаў: — Добры дзень!

— Добры дзень, шкоднік! — злосна і гучна адказаў Іван.

Рохін збянтэжыўся гэтак, што не адважваўся вочы падняць на ветлівага доктара. Але той зусім не пакрыўдзіўся, а звычна зняў акуляры, прыпадняў крысо халата, спрытным рухам схаваў іх у заднюю кішэню штаноў, а потым спытаўся ў Івана:

— Колькі вам гадоў?

— Пайшлі вы ўсе к чорту, дальбог! — груба крыкнуў Іван і адвярнуўся.

— Чаго вы злуяцеся? Хіба я сказаў вам хоць штонебудзь непрыемнае?

— Мне дваццаць тры гады,— узбуджана загаварыў Іван,— і я падам скаргу на вас усіх. А на цябе асабліва, гніда,— выдзеліў ён асобна Рохіна.

— І чаму вы будзеце скардзіцца?

— Таму, што мяне, здаровага чалавека, схапілі і сілком прывалаклі ў дурдом! — абурана адказаў Іван.

Тут Рохін прыгледзеўся да Івана і пахаладзеў: нічога вар'яцкага не было ў Іванавых вачах. З каламутных, якія былі ў Грыбаедаве, яны ператварыліся ў ясныя, ранейшыя.

«Браточкі,— спалохана падумаў Рохін,— ды ён і сапраўды нармальны! Вось дурнота якая! Навошта ж мы тады, сапраўды, прывалаклі яго сюды? Нармальны, нармальны, толькі морда аблупленая...»

— Вы знаходзіцеся,— спакойна загаварыў доктар і сеў на белую табурэтку на бліскучай назе,— не ў вар'яцкім доме, а ў клініцы, дзе вас ніхто не будзе затрымліваць, калі няма патрэбы.

Іван Мікалаевіч зірнуў скоса і недаверліва, але ўсё ж прабурчаў:

— Слава богу! Знайшоўся хоць адзін нармальны сярод ідыётаў, найпершы з якіх — балбес і бяздар Сашка!

— Хто гэта Сашка-бяздар? — пацікавіўся доктар.

— А вось ён, Рохін! — адказаў Іван і тыцнуў брудным пальцам у Рохіна.

Той успыхнуў ад абурэння.

«Гэта ён мне замест дзякуй,— горка падумаў ён,— за тое, што я рашыў дапамагчы яму! На самай справе брыдота!»

— Тыповы кулачок па сваёй псіхалогіі,— загаварыў Іван Мікалаевіч, якому прыспічыла выкрыць Рохіна,— і прытым кулачок, які старанна маскіруецца пад пралетарыя. Паглядзіце на яго посную фізіяномію і параўнайце з тымі крыклівымі вершамі, якія ён выдумляе да святаў! Хэ-хэ-хэ... «Узвейцеся!» ды «развейцеся!»... а вы ў нутро яму зірніце — што ён там думае... вы ахнеце! — і Іван Мікалаевіч злавесна засмяяўся.

Рохін цяжка соп, быў чырвоны і думаў толькі пра тое, што ён прыгрэў у сябе на грудзях змяю, што ён рашыў дапамагчы таму, хто напавер аказаўся лютым ворагам. І галоўнае, што нічога не зробіш: не будзеш жа сварыцца з вар'ятам?!

— А чаму вас, скажыце, прывезлі да нас? — спытаўся доктар пасля таго, як уважліва выслухаў выкрыццё.

— Ды чорт іх ведае, дурняў! Схапілі, звязалі нейкімі анучамі і павалаклі на грузавіку!

— Дазвольце спытацца, а чаму вы ў рэстаран прыйшлі ў адной бялізне?

— А што тут такога,— адказаў Іван,— пайшоў я купацца на Маскву-раку, ну і свіснулі маё адзенне, а гэтыя рызманы пакінулі! Не голым жа мне па Маскве ісці? Надзеў, што было, таму што спяшаўся ў рэстаран да Грыбаедава.

Доктар запытальна паглядзеў на Рохіна, і той пахмура прамармытаў:

— Рэстаран гэтак называецца.

— Ага,— сказаў доктар,— а чаму вы спяшаліся? Спатканне якое?

— Кансультанта я лаўлю,— адказаў Іван Мікалаевіч і трывожна азірнуўся.

— Якога кансультанта?

— Вы Берліёза ведаеце? — спытаўся Іван шматзначна.

— Гэта... кампазітар?

Іван засмуціўся.

— Які кампазітар? А, ды не! Кампазітар — гэта супадзенне з прозвішчам Мішы Берліёза!

Рохіну не хацелася нічога гаварыць, але даводзілася тлумачыць.

— Сакратара МАССАЛІТа Берліёза сёння вечарам зарэзала трамваем на Патрыярхавых.

— Не гавары пра тое, чаго не ведаеш! — раззлаваўся на Рохіна Іван.— Я, а не ты быў там! Ён яго знарок пад трамвай прыстроіў!

— Папхнуў?

— Ды пры чым тут «папхнуў»? — злаваўся на агульную бесталковасць Іван.— Яму і папіхаць не трэба! Ён гэтакія штукі можа вытварыць, што толькі трымайся! Ён заранеи ведаў, што Берліёз трапіць пад трамвай!

— А хто-небудзь акрамя вас бачыў гэтага кансультанта?

— Вось у тым і бяда, што толькі я і Берліёз.

— Так. І якія ж меры вы прынялі, каб затрымаць забойцу? — тут доктар завярнуўся і кінуў позірк на жанчыну ў белым халаце, якая сядзела збоч за столікам. Тая дастала ліст з шуфлядкі і пачала запаўняць пустыя мясціны ў графах.

— Меры вось якія. Узяў я на кухні свечачку...

— Вось гэту? — спытаўся доктар і паказаў на паламаную свечку, якая ляжала побач з іконкай на стале перад жанчынаю.

— Гэтую і...

— А навошта іконка?

— Ага, і іконка...— Іван пачырванеў,— іконка больш за ўсё і спалохала,— ён зноў пальцам паказаў на Рохіна,— але справа ў тым, што ён, кансультант, ён, скажам шчыра... знаецца з нячыстаю сілаю... і проста так яго не зловіш.

Санітары чамусьці выцягнулі рукі па швах і не спускалі вачэй з Івана.

— Ага,— працягваў Іван,— знаецца! Тут факт бясспрэчны. Ён асабіста з Понціем Пілатам размаўляў. Ды не глядзіце вы гэтак на мяне! Праўду гавару! Усё бачыў — і балкон, і пальмы! Быў, адным словам, у Понція Пілата, я ручаюся.

— Ну, ну...

— Ну, значыць, я іконку на грудзі прычапіў і пабег...

І тут гадзіннік ударыў двойчы.

— Эге,— усклікнуў Іван і ўстаў з канапы,— дзве гадзіны, а я з вамі час марную! Я прашу прабачэння, дзе тэлефон?

— Прапусціце да тэлефона,— загадаў доктар санітарам.
Іван схапіў трубку, а жанчына тым часам спыталася ў Рохіна:
— Жанаты ён?
— Халасцяк,— спалохана адказаў Рохін.
— Член прафсаюза?
— Ага.
— Міліцыя? — закрычаў Іван у трубку.— Міліцыя? Таварыш дзяжурны, загадайце зараз жа, каб выслалі пяць матацыклістаў з кулямётамі лавіць замежнага кансультанта. Што? Заязджайце па мяне, я сам з вамі паеду... Гаворыць паэт Іван Бяздомны з вар'яцкага дома... Які ваш адрас? — шэптам спытаўся Бяздомны ў доктара, прыкрыўшы трубку далонню, а потым зноў закрычаў у трубку: — Вы слухаеце? Алё!.. Бесталач! — раптам зароў Іван і ляпнуў трубку аб сцяну. Потым ён завярнуўся да доктара, падаў руку, суха сказаў «да пабачэння» і сабраўся ісці.
— Злітуйцеся, куды ж вы хочаце ісці,— загаварыў доктар, гледзячы Івану ў вочы,— апоўначы, у адной бялізне... Вы сябе дрэнна адчуваеце, застаньцеся ў нас!
— Прапусціце,— сказаў Іван санітарам, якія заступілі дзверы.— Прапусціце вы ці не? — страшным голасам крыкнуў паэт.
Рохін затрымцеў, а жанчына націснула на кнопачку ў стале, і на яго бліскучую паверхню выскачыла бліскучая каробачка і запаяная ампула.
— Ах, так?! — дзіка і зацкавана прамовіў Іван і азірнуўся.— Ну ладна! Бывайце...— і галавою ён кінуўся ў акно. Пачуўся ўдар, але спецыяльнае шкло вытрымала, і праз імгненне Іван выкручваўся ў руках у санітараў. Ён хрыпеў, спрабаваў кусацца, крычаў:
— Дык вось якія вы шкельцы ў сябе завялі!.. Пусці!.. Пусці, кажу!
Шпрыц бліснуў у руках у доктара, жанчына адным узмахам разарвала рукаў талстоўкі і ўчапілася ў руку з нежаночаю сілаю. Запахла эфірам, Іван аслаб у руках у чатырох чалавек, і спрытны доктар выкарыстаў гэты момант, укалоў іголку ў Іванаву руку. Івана патрымалі яшчэ некалькі хвілін, потым паклалі на канапу.
— Бандыты,— закрычаў Іван і ўсхапіўся з канапы, але яго пасадзілі. Як толькі адпусцілі, ён зноў падхапіўся, але назад ужо сеў сам. Ён памаўчаў, дзікавата азірнуўся, потым нечакана пазяхнуў, потым злосна ўсміхнуўся.
— Упяклі ўсё ж,— сказаў ён, пазяхнуўшы яшчэ раз,

нечакана прылёг, галаву паклаў на падушку, кулак падзіцячы пад шчаку, замармытаў ужо сонным голасам, нязлосна: — Ну што ж, добра... самі ж за ўсё і расплаціцеся. Я папярэдзіў, а там як хочаце! Мяне ж зараз найбольш цікавіць Понцій Пілат... Пілат...— і ён заплюшчыў вочы.

— Ванну, сто семнаццатую асобную і пост да яго,— загадаў доктар, надзяваючы акуляры. Тут Рохін зноў здрыгануўся: нячутна адчыніліся белыя дзверы, за імі быў відаць калідор, асветлены сінімі начнымі лямпачкамі. З калідора выехала на гумавых колах канапа, на яе пераклалі заціхлага Івана, і дзверы за імі замкнуліся.

— Доктар,— шэптам спытаў уражаны Рохін,— ён што, сапраўды хворы?

— Вядома,— адказаў доктар.

— І што ж гэта з ім? — спалохана спытаў Рохін.

Стомлены доктар паглядзеў на Рохіна і вяла адказаў:

— Рухальнае і моўнае ўзбуджэнне... ліхаманкавыя інтэрпрэтацыі... выпадак, відаць, цяжкі... Шызафрэнія, мабыць. І да ўсяго гэтага алкагалізм...

Рохін зразумеў са сказанага доктарам, што справа ў Івана Мікалаевіча дрэнь, уздыхнуў і спытаўся:

— А што гэта ён усё пра нейкага кансультанта гаварыў?

— Бачыў, мабыць, некага, хто надта ўразіў яго хворае ўяўленне. А можа, і галюцынацыі...

Праз некалькі хвілін грузавік імчаў Рохіна ў Маскву. Світала, і святло не патушаных на шашы ліхтароў было ўжо непатрэбнае і непрыемнае. Шафёр злаваўся, што змарнавана ноч, гнаў машыну хутка, і яе заносіла на паваротах.

Вось і лес адпаў, застаўся недзе ззаду, і рэчка адышла некуды ўбок, насустрач грузавіку сыпалася celebrated рознае: нейкія платы з вартаўнічымі будкамі і штабелі дроў, высозныя валуны і нейкія мачты, а на іх нанізаныя катушкі, кучы каменнага друзу, зямля, парэзаная канавамі,— адным словам, адчувалася, што вось яна, Масква, побач, недзе за чарговым паваротам, і зараз наваліцца, абхопіць.

Рохіна калаціла і падкідала нейкая калодка, на якой ён прымасціўся, вылузвалася з-пад яго. Рэстаранныя ручнікі, што падкінуў міліцыянер, які раней ад'ехаў на тралейбусе разам з Панцялеем, коўзаліся па ўсім кузаве. Рохін паспрабаваў іх спачатку сабраць, але потым чамусьці злосна прашыпеў: «Ну іх к чорту! Чаго я, на самай справе, кручуся, як дурань?..» — адкінуў іх нагой і не глядзеў туды болей.

Настрой у яго быў жахлівы. Наведванне журботнага дома пакінула ў душы цяжкі след. Рохін спрабаваў зразумець, што яго мучыць. Калідор з сінімі лямпачкамі, які ўрэзаўся ў памяць? Думка пра тое, што горшае бяды, чым вар'яцтва, няма на свеце? Вядома, і гэта ўсё. Але яно так — агульная думка. А вось яшчэ ёсць нешта. Што ж гэта? Крыўда, вось што. Ага, крыўдныя словы, якія сказаў Бяздомны проста ў вочы. І бяда не ў тым, што яны крыўдныя, а ў тым, што гэта праўда.

Паэт не глядзеў болей па баках, а ўпёрся позіркам у падлогу, дрыготкую і брудную, пачаў нешта мармытаць, ныць, нішчыць самога сябе.

Ну, вершы... Яму — трыццаць два гады! А сапраўды, што ж будзе далей? І далей ён будзе выдумляць па некалькі вершаў у год. Да старасці? Ага, да старасці. Што ж дадуць яму гэтыя вершы? Славу? «Глупства! Хоць сам сябе не ашманвай. Ніколі не будзе славы ў таго, хто выдумляе недарэчныя вершыкі. Чаму недарэчныя? Праўда, праўда сказана! — бязлітасна пераконваў сябе Рохін,— не веру я нічому з таго, што пішу!..»

Атручаны выбухам неўрастэніі, паэт гайдануўся, падлога перад ім перастала трэсціся. Рохін падняў галаву і ўбачыў, што ён даўно ўжо ў Маскве і што над Масквою раніца, што воблака падсвечана золатам, што грузавік яго спыніўся ў калоне разам з іншымі ля павароту на бульвар і што блізенька ад яго стаіць на пастаменце металічны чалавек з ледзь нахіленай галавой і абыякава глядзіць на бульвар.

Нейкія дзіўныя думкі хлынулі ў галаў захварэламу паэту. «Вось прыклад сапраўднае ўдачы...— тут Рохін устаў у кузаве і руку падняў, напаў чамусьці на чалавека, які ніколі нікога не чапаў,— куды б не ступіў ён у жыцці, што толькі не здаралася з ім, усё яму на карысць было, усё ператваралася ў славу! Ну што ён зрабіў? Я не разумею... Ну што асаблівае ў гэтых словах: «Буря мглою...»? Не разумею!.. Пашанцавала, пашанцавала! — злосна падсумаваў Рохін і адчуў, што грузавік пад ім варухнуўся,— страляў, страляў у яго гэты белагвардзеец, разбіў бядро і забяспечыў несмяротнасць...»

Калона рушыла. Зусім хворы і нават пастарэлы паэт не болей чым праз дзве хвіліны ўваходзіў на веранду Грыбаедава. Яна ўжо апусцела. У куце дапівала нейкая кампанія, у цэнтры яе мітусіўся знаёмы канферансье ў цюбецейцы і з бакалам «Абраў» у руцэ.

Рохін, нагружаны ручнікамі, быў сустрэты Арчыбальдам Арчыбальдавічам вельмі прыязна і адразу ж пазбаўлены ад праклятых ануч. Калі б Рохін не быў гэтак змучаны клінікаю і грузавіком, ён, мабыць, з задавальненнем расказаў бы пра тое, як усё адбывалася ў лячэбніцы, упрыгожыў бы гэты расказ выдуманымі падрабязнасцямі. Але цяпер яму было не да гэтага і, акрамя ўсяго, хаця Рохін і не быў ніколі назіральным,— цяпер, пасля пакут на грузавіку, ён упершыню як след прыгледзеўся да піратавага твару і зразумеў, што хоць той і пытаецца пра Бяздомнага, і нават аяяйкае, але на самай справе зусім абыякавы да лёсу Бяздомнага і абсалютна не шкадуе яго. «І малайчына! І правільна!» — з цынічнаю самазнішчальнаю злосцю падумаў Рохін, абарваў расказ пра шызафрэнію і папрасіў:

— Арчыбальд Арчыбальдавіч, гарэлачкі б мне...

Пірат зрабіў спачувальны твар, шапнуў:

— Разумею... адну хвілінку...— махнуў афіцыянту.

Праз чвэрць гадзіны Рохін, зусім адзін, сядзеў, сагнуўшыся над рыбцом, глушыў кілішак за кілішкам, разумеў і прызнаваў, што паправіць хоць што-небудзь у жыцці ўжо нельга, можна толькі пра ўсё забыць і не думаць.

Паэт змарнаваў ноч, пакуль іншыя весяліліся, і цяпер разумеў, што вярнуць яе нельга. Варта толькі было падняць галаву ад лямпы ўгору на неба, каб зразумець, што ноч страчана назаўсёды. Афіцыянты спехам зрывалі настольнікі са сталоў. У катоў, якія шнырылі ля веранды, быў ранішні выгляд. На паэта няўмольна навальваўся дзень.

## Раздзел 7

### НЯЧЫСТАЯ КВАТЭРА

Калі б на наступную раніцу Сцёпу Ліхадзееву сказалі такое: «Сцёпа! Цябе расстраляюць, калі ты зараз жа не ўстанеш!» Сцёпа адказаў бы ледзь чутным голасам: «Расстрэльвайце, рабіце са мною што хочаце, але я не ўстану».

Не тое што ўстаць,— яму здавалася, што ён нават вочы не можа расплюшчыць, таму што калі ён гэта зробіць, бліснe маланка і галаву адразу ж разнясе на кавалкі. У гэтай галаве гудзеў цяжкі звон, між вочнымі яблыкамі і заплюшчанымі павекамі плылі карычневыя плямы з вогненназялёнымі абадкамі, у дадатак да ўсяго нудзіла і чамусьці здавалася, што нуджэнне гэтае звязана з гукамі нейкага назойлівага патэфона.

Сцёпа стараўся нешта ўспомніць, але памяталася толькі адно — што, здаецца, учора і невядома дзе ён стаяў з сурвэткаю ў руцэ і намагаўся пацалаваць руку нейкай пані і адначасна абяцаў ёй, што назаўтра, роўна апоўдні, ён прыйдзе да яе ў госці. Пані адмаўлялася ад гэтага, гаварыла: «Не, не, мяне не будзе дома!» — Сцёпа ўпарта настойваў на сваім: «А я вось вазьму і прыйду!»

Ні якая гэта была пані, ні колькі зараз гадзін, ні якая дата і які месяц — Сцёпа зусім не ведаў і, што горш за ўсё, нават не мог зразумець, дзе ён знаходзіцца. Ён пастараўся высветліць хаця б гэта і таму разляпіў сонныя павекі левага вока. У прыцемку нешта цьмяна блішчала. Сцёпа нарэшце пазнаў, што гэта трумо, і зразумеў, што ён ляжыць дома на ложку тварам угору, гэта значыць на былым ювеліршыным ложку, у спальні. Тут яму гэтак ударыла ў галаву, што ён заплюшчыў вочы і застагнаў.

Растлумачым: Сцёпа Ліхадзееў, дырэктар тэатра Вар'етэ, ачуняў раніцай на сваёй кватэры, якую займаў папалам з нябожчыкам Берліёзам, у вялікім шасціпавярховым доме, утульна размешчаным на Садовай вуліцы.

Трэба сказаць, што кватэра гэтая — № 50 — даўно ўжо карысталася калі не дрэннаю, то ў крайнім выпадку дзіўнаю рэпутацыяй. Яшчэ два гады назад валодала ёю ўдава ювеліра дэ Фужэрэ. Ганна Францаўна Фужэрэ, пяцідзесяцігадовая, паважная і вельмі дзелавая пані, тры пакоі з пяці здавала жыльцам: аднаму, здаецца, прозвішча якога было Беламут, і другому — з забытым прозвішчам.

І вось два гады, як пачаліся ў кватэры незразумелыя здарэнні: з гэтае кватэры людзі пачалі знікаць бясследна.

Аднойчы ў выхадны дзень з'явіўся на кватэру міліцыянер, выклікаў у пярэдні пакой другога жыльца (прозвішча якога забылася) і сказаў, што таго запрашаюць на хвілінку зайсці ў аддзел і там распісацца. Жылец наказаў Анфісе, адданай і даўняй служанцы Ганны Францаўны, сказаць, калі яму будуць званіць, што ён вернецца праз дзесяць хвілін, і пайшоў разам з ветлівым міліцыянерам у белых пальчатках. Але не вярнуўся ён не толькі праз дзесяць хвілін, а наогул ніколі не вярнуўся. Самае дзіўнае з усяго, што з ім разам, мабыць, знік і міліцыянер.

Набожная, а дакладней, забабонная Анфіса адкрыта сказала засмучанай Ганне Францаўне, што гэта чары і што яна добра ведае, хто павалок і жыльца і міліцыянера, толькі на ноч гаварыць не хоча. Ну, а чарам варта

толькі пачацца, і тады іх ніяк не спыніш. Другі жылец знік, памятаецца, у панядзелак, а ў сераду быццам скрозь зямлю праваліўся і Беламут, праўда, пры іншых акалічнасцях. Раніцай па яго, як і звычайна, заехала машына, каб завезці на службу, і завезла, але назад нікога не прывезла і сама больш не вярнулася.

Гора і жах пані Беламут нельга было апісаць. Але і адно і другое цягнулася нядоўга. У тую ж ноч, калі Ганна Францаўна вярнулася з Анфісаю з дачы, на якую чамусьці тэрмінова паехала, не заспелі ўжо грамадзянкі Беламут у кватэры. Але гэтага аказалася мала: дзверы абодвух пакояў, якія займалі Беламуты, былі апячатанымі.

Сяк-так прамінула два дні. На трэці дзень Ганна Францаўна, якая пакутавала ад бяссоння, зноў паспешна паехала на дачу... Ці трэба гаварыць, што адтуль яна не вярнулася?

Анфіса, якая засталася адна, наплакаўшыся ўволю, легла спаць а другой гадзіне ночы. Што з ёю было далей — невядома, але расказвалі жыльцы з іншых кватэр, што быццам бы ў № 50 усю ноч чуваць былі нейкія стукі і быццам бы да раніцы ў вокнах гарэла святло. Раніцай высветлілася, што няма і Анфісы!

Пра тых, хто знік з праклятай кватэры, доўга ў доме расказвалі розныя легенды накшталт такіх, напрыклад, што гэтая сухенькая і набожная Анфіса быццам бы насіла на сваіх высахлых грудзях у замшавым мяшочку дваццаць пяць вялікіх брыльянтаў, якія належалі Ганне Францаўне. Што быццам бы на той дачы, куды тэрмінова ездзіла Ганна Францаўна, выявіліся незлічоныя скарбы ў выглядзе тых самых брыльянтаў і залатых манет царскае чаканкі... І шмат іншага гаварылі. Але чаго не ведаем, за тое не ручаемся.

Як бы яно не было, а кватэра прастаяла пустая і апячатаная толькі тыдзень, а потым у яе ўсяліліся — нябожчык Берліёз з жонкаю і гэты самы Сцёпа таксама з жонкаю. Зусім натуральна, што як толькі яны трапілі ў праклятую кватэру, і ў іх пачалося чортведама што. А менавіта, на працягу аднаго месяца прапалі абедзве жонкі. Але гэтыя не бясследна. Пра Берліёзаву гаварылі, што яе быццам бы бачылі ў Харкаве з нейкім балетмайстрам, а жонка Сцёпы нібы знайшлася на Божадомцы, дзе, як балбаталі, дырэктар Вар'етэ, дзякуючы сваім бясконцым знаёмым, умудрыўся здабыць ёй кватэру, але з адной толькі ўмоваю, каб і духу яе не было на Садовай...

І вось Сцёпа застагнаў. Ён хацеў паклікаць хатнюю

работніцу Груню і запатрабаваць у яе пірамідон, але ўспеў здагадацца, што гэта глупства, што ніякага пірамідону ў Груні няма. Паспрабаваў паклікаць на дапамогу Берліёза, двойчы прастагнаў: «Міша... Міша...», але, як разумееце самі, не атрымаў адказу. У кватэры панавала поўная цішыня.

Паварушыў пальцамі на нагах, здагадаўся, што ляжыць у шкарпэтках, дрыжачаю рукою правёў па бядры, каб вызначыць, у штанах ці без штаноў, і не вызначыў.

Нарэшце, пакінуты ўсімі і адзінокі, вырашыў устаць, якое б нечалавечае намаганне не спатрэбілася.

Сцёпа разляпіў склееныя павекі і ўбачыў, што адлюстроўваецца ў трумо ў выглядзе чалавека з валасамі, якія тырчаць ва ўсе бакі, з апухлаю, пакрытаю чорнаю шчэццю фізіяноміяй, з вачыма, якія заплылі, у бруднай сарочцы з каўняром і гальштукам, у споднім і ў шкарпэтках.

Гэтакім ён угледзеў сябе ў трумо, а побач з люстрам ён убачыў незнаёмага чалавека, апранутага ў чорнае і ў чорным берэце.

Сцёпа сеў на ложку і як толькі мог вытрашчыў набеглыя крывёю вочы на незнаёмага.

Маўчанне парушыў незнаёмы, нізкім, цяжкім голасам з замежным акцэнтам наступнымі словамі:

— Добры дзень, сімпатычнейшы Сцяпан Багданавіч!

Адбылася паўза, пасля якой са страшным намаганнем Сцёпа прамовіў:

— Што вам трэба? — і сам быў уражаны тым, што не пазнаў свайго голасу. Слова «што» ён прамовіў дыскантам, «вам» — басам, а «трэба» ў яго зусім не атрымалася.

Незнаёмы па-сяброўску ўсміхнуўся, дастаў вялікі залаты гадзіннік з алмазным трохкутнікам на накрыўцы, які вызваніў адзінаццаць разоў, і сказаў:

— Адзінаццаць! І роўна гадзіна, як я чакаў, пакуль вы прачняцеся, бо вы сказалі мне быць у вас у дзесяць гадзін. Вось і я!

Сцёпа намацаў побач з ложкам штаны, шапнуў:

— Прабачце...— надзеў іх і хрыпла спытаўся: — Скажыце, калі ласка, ваша прозвішча!

Гаварыць яму было цяжка. З кожным словам яму ў мазгі з пякельным болем утыкалася іголка.

— Як, вы і прозвішча маё забылі? — тут незнаёмы ўсміхнуўся.

— Прабачце...— прахрыпеў Сцёпа і адчуў, што пахмелле адорвае яго новым сімптомам: яму здалося, што падлога

ля ложка правалілася і што зараз ён паляціць уніз галавою к чортавай матары ў пекла.

— Дарагі Сцяпан Багданавіч,— загаварыў наведвальнік, правідча ўсміхаючыся,— ніякі пірамідон вам не дапаможа. Ёсць старое мудрае правіла — лячыць хваробу хваробай. Адзінае, што вас верне да жыцця, гэта дзве чаркі гарэлкі з востраю і гарачаю закуссю.

Сцёпа быў хітры чалавек і, які б ні быў хворы, змікіціў, што калі засталі яго ў гэтакім выглядзе, трэба прызнацца.

— Шчыра сказаць,— пачаў ён, ледзьве варочаючы языком,— учора я крыху...

— Ні слова болей! — сказаў візіцёр і ад'ехаў з крэслам убок.

Сцёпа вытрашчыў вочы і ўбачыў, што на маленькім століку сервіраваны паднос, на якім ёсць нарэзаны белы хлеб, паюсная ікра ў вазачцы, марынаваныя баравічкі на талерачцы, нешта ў каструльцы і, нарэшце, гарэлка ў аб'ёмным ювеліршыным графінчыку. Асабліва ўразіла Сцёпу тое, што графін запацеў ад холаду. Дарэчы, гэта было зразумела — ён стаяў у паласкальніцы, поўнай лёду. Накрыта, адным словам, чыста, спраўна.

Незнаёмы не даў далей развівацца Сцёпаваму здзіўленню і спрытна наліў яму паўчаркі гарэлкі.

— А вы? — піскнуў Сцёпа.

— З задавальненнем!

Дрыжачай рукою паднёс Сцёпа гарэлку да вуснаў, а незнаёмы адным духам каўтнуў налітае. Пераржоўваючы ікру, Сцёпа выціснуў з сябе:

— А вы чаму не закусваеце?

— Дзякуй, я ніколі не закусваю,— адказаў незнаёмы і наліў па другой. Адкрылі каструльку — у ёй аказаліся сасіскі ў таматце.

І вось праклятая зелень перад вачыма растала, пачалі вымаўляцца словы, і, галоўнае, Сцёпа сёе-тое ўспомніў. Менавіта, што ўсё адбывалася на Сходні, на дачы ў аўтара скетчаў Хустава, куды гэты Хустаў і павёз Сцёпу на таксаматоры. Успомнілася нават, як наймалі таксаматор ля «Метраполя», быў яшчэ пры гэтым нейкі актор не актор... з патэфонам у чамаданчыку. Але, але, але, гэта было на дачы! Яшчэ памятаецца, выў сабака з-за гэтага патэфона. Вось толькі пані, якую Сцёпа хацеў пацалаваць, засталося невядомай... чорт яе ведае, хто яна... здаецца, на радыё служыць, а магчыма, і не.

Мінулы дзень такім чынам пакрысе высвятляўся, але Сцёпу зараз намнога болей цікавіў дзень сённяшні і, ў прыватнасці, з'яўленне ў спальні незнаёмага, ды яшчэ з закуссю і гарэлкаю. Вось што трэба было б растлумачыць!

— Ну, што ж, цяпер, я спадзяюся, вы ўспомнілі маё прозвішча?

Але Сцёпа толькі сарамліва ўсміхнуўся і развёў рукамі.

— Аднак! Я адчуваю, што пасля гарэлкі вы пілі партвейн! Божа, ды хіба ж гэтак можна рабіць?

— Я хачу папрасіць у вас, каб гэта засталося між намі,— паспрабаваў паддобрыцца Сцёпа.

— Ну, вядома, вядома! Але за Хустава я, само сабой разумеецца, не ручаюся.

— А вы хіба ведаеце Хустава?

— Учора ў вас у кабінеце бачыў гэтага чалавека мімаходзь, але варта толькі кінуць вокам на яго твар, каб зразумець, што сволач, зводнік, пляткар, прыстасаванец і падхалім.

«А ўсё праўда!» — падумаў Сцёпа, уражаны гэтакім правільным, дакладным і кароткім вызначэннем Хустава.

Сапраўды, учарашні дзень складаўся з кавалачкаў, але трывога не адпускала дырэктара Вар'етэ. Справа ў тым, што ў гэтым дні чарнела вялізная дзірка. Вось гэтага самага незнаёмца, воля ваша, Сцёпа ў сваім кабінеце ўчора ніяк не бачыў.

— Прафесар чорнай магіі Воланд,— важка прамовіў наведвальнік і расказаў усё па-парадку.

Учора ўдзень ён прыехаў з-за мяжы ў Маскву, адразу ж наведаў Сцёпу і прапанаваў свае гастролі ў Вар'етэ. Сцёпа пазваніў у Маскоўскую абласную камісію відовішчаў і пытанне гэтае ўзгадніў (Сцёпа пабялеў і заміргаў вачыма), падпісаў з прафесарам Воландам кантракт на сем выступленняў (Сцёпа разявіў рот), дамовіліся, што Воланд прыедзе да яго для ўдакладнення дэталяў у дзесяць гадзін раніцы сёння... Вось Воланд і прыехаў!

Як толькі ўвайшоў, яго спаткала хатняя работніца Груня, якая растлумачыла, што сама яна толькі што прыйшла, што яна прыходзячая, што Берліёза дома няма, а калі візіцёр хоча бачыць Сцяпана Багданавіча, то няхай ідзе ў спальню сам. Сцяпан Багданавіч гэтак моцна спіць, што пабудзіць яго яна не бярэцца. Пасля таго як артыст угледзеў, які Сцяпан Багданавіч, ён выправіў Груню ў гастраном па гарэлку і закусь, у аптэку па лёд і...

— Дазвольце разлічыцца з вамі,— праскуголіў знішчаны, пераможаны Сцёпа і пачаў шукаць кашалёк.

— Во, якое глупства! — усклікнуў гастралёр і не хацеў болей нічога слухаць.

Такім чынам, гарэлка і закусь зразумела адкуль, і ўсё ж на Сцёпу шкада было глядзець: ён зусім не памятаў нічога пра кантракт і, хоць забі, не бачыў учора гэтага Воланда. Так, Хустаў быў, а Воланда не было.

— Дазвольце зірнуць на кантракт,— ціха папрасіў Сцёпа.

— Калі ласка, калі ласка...

Сцёпа зірнуў на паперу і акамянеў. Усё было на сваіх месцах. Першае, уласнаручны заліхвацкі Сцёпаў подпіс! Касы надпіс збоку рукой фіндырэктара Рымскага з дазволам выдаць артысту Воланду ў лік ягоных трыццаці пяці тысяч за выступленні дзесяць тысяч рублёў. Нават болей: тут жа і распіска Воланда, што ён гэтыя дзесяць тысяч ужо атрымаў!

«Што ж гэта такое?!» — падумаў няшчасны Сцёпа, і галава ў яго закружылася. Пачынаюцца злавесныя правалы ў памяці?! Але далейшае здзіўленне пасля таго, як быў паказаны кантракт, было б проста непрыстойнае. Сцёпа папрасіў у госця дазволу на хвілінку выйсці і, як быў у шкарпэтках, пабег у пярэдні пакой да тэлефона. Па дарозе ён крыкнуў на кухню:

— Груня!

Але ніхто не адазваўся. Тут ён зірнуў на дзверы ў Берліёзаў кабінет, якія былі побач з пярэднім пакоем, і ўтрупянеў. На ручцы дзвярэй ён угледзеў вялізную сургучную пячатку на вяроўцы. «Прывет! — раўнуў у Сцёпавай галаве нехта.— Гэтага яшчэ не хапала!» І тут Сцёпавы думкі пайшлі ўжо па двайным рэйкавым пуці, але, як і заўсёды бывае ў час катастрофы, у адзін толькі бок і наогул чортведама куды. Кашу ў Сцёпавай галаве цяжка нават перадаць словамі. Тут і д'ябальшчына з чорным берэтам, халодную гарэлкаю і неверагодным кантрактам, а да гэтага ўсяго, наце вам, і пячатка на дзвярах! Каму хочаш скажы, што Берліёз нешта натварыў — не паверацць, дальбог, не паверацць! Аднак пячатка, вось яна!

І тут заварушыліся ў Сцёпавай галаве нейкія непрыемныя думкі пра артыкул, які ён, як на злосць, нядаўна ўпёр Міхаілу Аляксандравічу для друкавання ў яго часопісе. І артыкул, між намі кажучы, дурны! І нікчэмны, і грошы маленькія...

Адразу ж услед за ўспамінам пра артыкул прыйшла на памяць нейкая сумніцельная размова, якая, памятаецца, адбылася дваццаць чацвёртага красавіка вечарам вось тут, у сталоўцы, калі Сцёпа вячэраў разам з Міхаілам Аляксандравічам. Ну, па-сапраўднаму размову сумніцельнаю нельга называць (не пайшоў бы Сцёпа на такую размову), але гаворка была на нейкую непатрэбную тэму. Зусім можна было яе, грамадзяне, і не чапаць. Да пячаткі, несумненна, размова гэтая магла лічыцца глупствам, дробяззю, але вось пасля пячаткі...

«Ах, Берліёз, Берліёз! — ускіпала ў Сцёпавай галаве.— Што гэта ў голаў лезе?»

Але гараваць доўга не было калі, і Сцёпа набраў нумар фіндырэктара Вар'етэ Рымскага. Становішча ў Сцёпы было далікатнае: першае, чужаземец мог пакрыўдзіцца, што Сцёпа правярае яго пасля таго, як паказаны кантракт, ды і з фіндырэктарам гаварыць было цяжка. На самай справе, не спытаешся ж у яго адкрыта: «Скажыце, ці не заключаў я ўчора з прафесарам чорнай магіі кантракт на трыццаць пяць тысяч рублёў?» Гэтак пытацца нельга.

— Слухаю,— пачуўся ў трубцы рэзкі, непрыемны голас Рымскага.

— Дзень добры, Рыгор Данілавіч,— ціха загаварыў Сцёпа,— гэта Ліхадзееў. Вось якая справа... гм... гм... у мяне сядзіць гэты, як яго... э... артыст Воланд... Дык вось... я хацеў спытаць, як наконт сённяшняга вечара!..

— А, чорны маг? — адазваўся ў трубцы Рымскі.— Афішы зараз будуць.

— Ага,— слабым голасам сказаў Сцёпа,— ну, пакуль...

— А вы скора прыйдзеце? — спытаў Рымскі.

— Праз паўгадзіны,— адказаў Сцёпа, павесіў трубку і сціснуў гарачую галаву рукамі. Вось як атрымліваецца ўсё дрэнна! Што ж гэта з памяццю, грамадзяне?

Аднак болей затрымлівацца ў пярэднім пакоі было нязёмка, і Сцёпа адразу ж склаў план: як можна схаваць сваю няпамятлівасць, а цяпер найперш хітра выпытаць у чужаземца, што ён, уласна, збіраецца паказваць сёння ў даверaным Сцёпу Вар'етэ?

Тут Сцёпа адвярнуўся ад апарата і ў люстры, якое даўно не выціраала лянівая Груня, выразна ўбачыў нейкага дзіўнага суб'екта — доўгага, як пругло, і ў пенснэ (ах, каб быў тут Іван Мікалаевіч! Ён пазнаў бы гэтага суб'екта адразу!) А той адлюстраваўся і адразу ж знік. Сцёпа трывожна

зірнуў глыбей у пярэдні пакой і другі раз яго гайданула, бо ў люстры прайшоў вялізны чорны кот і знік.

У Сцёпы сэрца ёкнула, ён пахіснуўся.

«Што ж гэта такое? — падумаў ён.— Ці не вар'яцею я? Адкуль гэтыя постаці?!» — Ён зазірнуў у пярэдні пакой і спалохана закрычаў:

— Груня! Што гэта за кот тут у нас шляецца? Адкуль ён? І хто яшчэ з ім?

— Не хвалюйцеся, Сцяпан Багданавіч,— адазваўся голас, але не Грунін, а госця са спальні,— гэта мой кот. Не хвалюйцеся. А Груні няма, я адправіў яе ў Варонеж, на радзіму, яна скардзілася, што вы даўно не даяце ёй адпачынак.

Словы гэтыя былі такія нечаканыя і недарэчныя, што Сцёпа вырашыў: галюцынацыя. Спалохана ён пабег у спальню і замёр на парозе. Валасы заварушыліся, а на лбе дробненька выступіў пот.

Госць сядзеў у спальні, але ўжо не адзін, а з кампаніяй. На другім крэсле той самы тып, што ўзнік у пярэднім пакоі. Цяпер яго добра было відаць: вусы-пёркі, шкельца пенснэ паблісквае, ■ другога шкельца няма. Але ў спальні былі рэчы і намнога горшыя: на ювеліршыным пуфе пахабна разлёгся нехта трэці, а менавіта — жудасных памераў чорны кот з кілішкам гарэлкі ў адной лапе і відэльцам, на які ён успеў падчапіць марынаваны грыбок, у другой.

Святло, і так цьмянае ў спальні, зусім пачало знікаць у Сцёпавых вачах. «Вось як, аказваецца, вар'яцеюць!» — падумаў ён і ўхапіўся за вушак.

— Бачу я, вы крыху здзіўлены, дарагі Сцяпан Багданавіч? — спытаўся Воланд у Сцёпы, які дробна стукаў зубамі.— А між іншым здзіўляцца няма чаму. Гэта мая світа.

Тут кот выпіў гарэлку, і Сцёпава рука слізганула ўніз па вушаку.

— І світа гэтая патрабуе месца,— працягваў Воланд,— такім чынам сёй-той з нас у кватэры лішні. І мне здаецца, што гэты лішні — вы!

— Яны, яны,— казліным голасам заспяваў худы клятчасты, гаворачы пра Сцёпу ў множным ліку,— наогул, апошні час яны страшэнна свінячаць. П'янствуюць, блытаюцца з жанчынамі, выкарыстоўваючы сваё становішча, нічога не робяць ды і рабіць нічога не ўмеюць, таму што не разбіраюцца ў тым, што ім даручана. Абманваюць начальства!

— Машыну казённую ганяе дарэмна! — паклёпнічаў і кот, жуючы грыб.

І тут адбылося чацвёртае, апошняе дзеянне ў кватэры, калі Сцёпа зусім ужо абсунуўся на падлогу і аслабелаю рукою драпаў за вушак.

Проста з трумо выйшаў маленькі, але надзвычай шыракаплечы, у кацялку на галаве і з іклом, які тырчэў з рота, і рабіў брыдотнай і так страшную фізіяномію. І да ўсяго гэтага вогненна-рыжы.

— Я,— уступіў у гаворку гэты новы,— наогул не разумею, як ён стаў дырэктарам,— рыжы гугнявіў усё болей і болей: — Ён гэтакі ж дырэктар, як я архірэй!

— Ты не падобны на архірэя, Азазела,— заўважыў кот і наклаў сабе сасісак на талерку.

— Я пра гэта і гавару,— прагугнявіў рыжы, завярнуўся да Воланда і дадаў паважна: — Дазвольце, месір, яго выкінуць к чорту з Масквы!

— Апсік! — раптоўна раўнуў кот і ўздыбіў поўсць.

І тады спальня закруцілася вакол Сцёпы, ён ударыўся галавой аб вушак, але, пакуль страціў прытомнасць, успеў падумаць: «Я паміраю...»

Але ён не памёр. Калі расплюшчыў вочы, то ўбачыў, што сядзіць на нейкім мураваным збудаванні. Вакол нешта шумела. Калі ён добра разгледзеўся, то ўбачыў, што гэта шуміць мора, і нават болей — хвалі пагойдваюцца ля самых яго ног, і што, карацей, сядзіць ён на канцы мола, што пад ім блакітнае зіхоткае мора, а ззаду — прыгожы горад на гарах.

Сцёпа, не ведаючы, што робяць у такіх выпадках, устаў і пайшоў па моле да берага.

На моле стаяў нейкі чалавек, курыў і паплёўваў у мора. На Сцёпу ён паглядзеў дзікімі вачыма і перастаў пляваць. Тады Сцёпа адмачыў такую штуку: стаў на калені перад невядомым курцом і прамовіў:

— Малю, скажыце, які гэта горад?

— Аднак! — бяздушна адазваўся курыльшчык.

— Я не п'яны,— хрыпата адказаў Сцяпан,— са мною нешта здарылася, я хворы... Дзе я? Які гэта горад?..

— Ну. Ялта...

Сцёпа ціха ўздыхнуў, упаў на бок, галавой стукнуўся аб нагрэты мол.

# Раздзел 8

## ПАЯДЫНАК ПРАФЕСАРА І ПАЭТА

Якраз у гэты час, калі Сцёпа страціў прытомнасць у Ялце, гэта значыць а палове дванаццатай дня, да Івана Мікалаевіча Бяздомнага, які прачнууся пасля глыбокага і доўгага сну, вярнулася свядомасць. Нейкі час ён не мог здагадацца, якім чынам ён трапіў у незнаёмы пакой з белымі сценамі, з дзіўным столікам з нейкага белага металу і з белаю штораю, за якою адчувалася сонца.

Іван страсянуў галавою, пераканаўся, што яна не баліць, і ўспомніў, што ён знаходзіцца ў бальніцы. Гэта пацягнула за сабой успамін пра смерць Берліёза, але сёння яна не выклікала такога вялікага ўражання. Пасля таго як выспаўся, Іван Мікалаевіч паспакайнеў і пачаў ясней думаць. Ён паляжаў нейкі час нерухома ў чыстым, мяккім і зручным ложку, потым угледзеў кнопку званка побач з сабою. З-за прывычкі чапаць без патрэбы ўсё, ён націснуў на яе. Ён чакаў нейкага звону ці нейчага з'яўлення, але адбылося зусім іншае. Ля Іванавых ног над ложкам засвяціўся матавы цыліндр, на якім было напісана: «Піць». Цыліндр пастаяў на месцы, потым пачаў круціцца, пакуль не выскачыў надпіс: «Няня». Зразумела, што хітры цыліндр уразіў Івана. Надпіс «Няня» змяніўся надпісам «Выклічце доктара».

— Гм...— прамовіў Іван, бо не ведаў, што рабіць з гэтым цыліндрам далей. Але пашанцавала выпадкова: Іван націснуў на кнопку другі раз якраз на слове «Фельчарыца». Цыліндр ціха празвінеў у адказ і патух, а ў пакой увайшла поўная сімпатычная жанчына ў белым чыстым халаце і сказала Івану:

— Добрай раніцы!

Іван не адказаў, палічыў прывітанне недарэчным у такіх умовах. На самай справе, заперлі здаровага чалавека ў бальніцу і яшчэ выгляд робяць, што гэтак і трэба!

Жанчына тым часам з дабрадушным тварам націснула на кнопку, і штора паплыла ўгору, у пакой скрозь пятлястую рашотку, якая была да самае падлогі, хлынула сонца.

За рашоткай быў балкон, за ім бераг звілістае рэчкі і на супрацьлеглым беразе — вясёлы сасновы бор.

— Калі ласка, ванну прыміце,— запрасіла жанчына, і ў яе пад рукамі рассунулася ўнутраная сцяна, за якой было ваннае аддзяленне і туалет.

Іван, хоць і вырашыў з жанчынаю не размаўляць, але не

ўтрымаўся, калі ўбачыў, як шырокім струменем прэ ў ванну вада з бліскучага крана, сказаў з ірoніяй:

— Глядзі ты! Як у «Метраполі»!

— Э, не,— з гонарам сказала жанчына,— намнога лепш. Такога абсталявання і за мяжой няма. Вучоныя і дактары спецыяльна прыязджаюць глядзець нашу клініку. У нас кожны дзень інтурысты.

Пры слове «інтурыст» Івану адразу ж успомніўся ўчарашні кансультант. Іван затуманіўся, паглядзеў з-пад ілба і сказаў:

— Інтурысты!.. Як вы ўсе на інтурыстаў моліцеся! А сярод іх, між іншым, розныя трапляюцца. Я, напрыклад, учора з такім пазнаёміўся, што люба-дарага!

І ледзь не пачаў расказваць пра Понція Пілата, але стрымаўся, бо зразумеў, што жанчыне гэтыя расказы не трэба, што ўсё роўна дапамагчы яму яна не зможа.

Памытаму Івану Мікалаевічу адразу ж было выдадзена ўсё, што патрэбна мужчыну пасля ванны: адпрасаваная рубашка, кальсоны, наскі. Але гэтага мала: жанчына адчыніла дзверы шкафчыка, паказала ў глыб яго і спыталася:

— Што хочаце адзець — халацік альбо піжаму?

Прымацаваны да новага месца жыхарства сілком, Іван ледзь рукамі не ўспляснуў ад разбэшчанасці жанчыны і моўчкі ткнуў пальцам у піжаму з пунсовай байкі.

Пасля гэтага Івана павялі па пустым і глухім калідоры і прывялі ў велізарны па памерах кабінет. Іван, які вырашыў, што будзе адносіцца да ўсяго, што ёсць у гэтым надзіва абстаўленым будынку, іранічна, тут жа ахрысціў кабінет «фабрыкай-кухняй».

І было за што. Тут стаялі шафы і шкляныя шафачкі з бліскучымі нікіляванымі інструментамі. Былі крэслы надзвычай складанай канструкцыі, нейкія пузатыя лямпы з бліскучымі каўпакамі, многа шклянак, і газавыя гарэлкі, і электрычныя правады, і зусім нікому не вядомыя прыборы.

У кабінеце за Івана ўзяліся ўтраіх — дзве жанчыны і адзін мужчына, усе ў белым. Найперш Івана павялі ў куток, за столік, з яўным намерам нешта ў яго выпытаць. Іван пачаў думаць пра сваё становішча. Перад ім былі тры шляхі. Надзвычай спакушаў першы: кінуцца на гэтыя лямпы і мудрагелістыя рэчы і ўсе к чортавай матары пабіць і паламаць і такім чынам выказаць свой пратэст за тое, што яго дарэмна трымаюць тут. Але сённяшні Іван ужо ў многім адрозніваўся ад Івана ўчарашняга, і першы варыянт здаўся

яму сумніцельным: чаго добрага, яны ўваб'юць сабе ў галаў, што ён вар'ят. Таму першы шлях Іван адмёў. Быў і другі шлях: адразу ж пачаць расказваць пра кансультанта і Понція Пілата. Аднак учарашні вопыт паказаў, што гэтаму расказу не верацць альбо ўспрымаюць яго неяк наадварот. Таму Іван і ад гэтага шляху адмовіўся, вырашыў выбраць трэці: адгарадзіцца ганарлівым маўчаннем.

Цалкам гэта ажыццявіць не ўдалося, хочаш не хочаш, а давялося адказваць, хаця і скупа і панура, на многа пытанняў.

У Івана распыталіся пра ўсё яго ранейшае жыццё, аж да таго, калі і як ён хварэў на скарлатыну гадоў пятнаццаць назад. Спісалі ўслед за Іванам цэлую старонку, перагарнулі яе, і жанчына ў белым перайшла да роспытаў пра сваякоў. Пачалася цэлая мітрэнга: хто памёр, калі ды ад чаго, ці піў, ці хварэў венерычнымі хваробамі і ўсё ў гэтым плане. Пад канец папрасілі расказаць пра ўчарашняе здарэнне на Патрыярхавых сажалках, але не надта прыдзіраліся, паведамленню пра Понція Пілата не здзіўляліся.

І тут жанчына аддала Івана мужчыну, і той узяўся за яго інакш, ні пра што больш не распытваўся. Ён памераў тэмпературу, палічыў пульс, паглядзеў Івану ў вочы, свецячы ў іх нейкай лямпачкай. Потым на дапамогу прыйшла другая жанчына, і Івана калолі нечым небалючым у спіну, малявалі ручкай малаточка ў яго на грудзях, стукалі малаточкам па каленях, ад чаго ногі ў Івана падскоквалі, калолі палец і бралі з яго кроў, калолі ля локця, надзявалі на рукі нейкія гумавыя бранзалеты.

Іван толькі горка ўсміхаўся сам сабе і думаў пра тое, як усё недарэчна атрымалася. Падумаць толькі! Хацеў усіх папярэдзіць пра небяспеку, якую ўяўляе незнаёмы кансультант, сабраўся злавіць яго, а дабіўся толькі таго, што трапіў у нейкі таямнічы кабінет, каб расказваць рознае глупства пра дзядзьку Федзю, запойнага п'яніцу ў Волагдзе. Зусім недарэчна!

Нарэшце Івана адпусцілі. Яго прывялі назад у свой пакой, дзе ён атрымаў кубачак кавы, два яйкі ўсмятку і белы хлеб з маслам.

Іван з'еў і выпіў пададзенае і рашыў дачакацца галоўнага ў гэтай установе і ўжо ў гэтага галоўнага дамагчыся ўвагі і справядлівасці.

І ён дачакаўся яго. І даволі хутка пасля снедання. Нечакана адчыніліся дзверы ў пакой, і ўвайшло шмат людзей у белых халатах. Наперадзе ішоў, старанна, арты-

стычна, паголены чалавек гадоў сарака пяці, з прыемнымі, але вельмі ж праніклівымі вачыма і далікатнымі манерамі. Уся світа дэманстравала павагу і ўвагу да яго, і ўваход яго таму атрымаўся нейкі нават урачысты. «Як Понцій Пілат!» — падумалася Івану.

Так, гэта несумненна быў галоўны. Ён сеў на табурэтку, а ўсе засталіся стаяць.

— Доктар Стравінскі,— назваўся ён і паглядзеў дружалюбна.

— Вось, Аляксандр Мікалаевіч,— ціха сказаў нехта з акуратнаю бародкаю і падаў галоўнаму з двух бакоў спісаны Іванаў ліст.

«Цэлую справу сшылі!» — падумаў Іван. А галоўны прывычна прабег вачыма па паперы, прамармытаў: «Угу, угу...», перакінуўся са світай некалькімі сказамі на незнаёмай мове.

«І па-латыні, як Пілат, гаворыць...» — сумна падумаў Іван. Але тут адно слова прымусіла яго здрыгануцца, і гэта слова было «шызафрэнія» — яшчэ ўчора вымаўленае праклятым чужаземцам на Патрыярхавых сажалках, а сёння паўторанае тут прафесарам Стравінскім.

«І гэта ведаў!» — трывожна падумаў Іван.

Галоўны, відаць, меў за правіла згаджацца з усімі і радавацца ўсяму, што яму толькі не гавораць, і выказваць свае адносіны словамі «слаўна, слаўна...».

— Слаўна! — сказаў Стравінскі, вярнуў некаму аркуш і звярнуўся да Івана: — Вы — паэт?

— Паэт,— панура адказаў Іван і ўпершыню раптам адчуў нейкую агіду да паэзіі, і тыя свае вершы, якія ўспомніліся зараз, здаліся нечым непрыемным.

Ён зморшчыў твар і ў сваю чаргу спытаўся ў Стравінскага:

— Вы — прафесар?

У адказ на гэта Стравінскі загадзя далікатна нахіліў галаў.

— І вы — тут галоўны? — працягваў Іван.

Стравінскі ў адказ і на гэта пакланіўся.

— Мне трэба з вамі пагаварыць,— шматзначна сказаў Іван Мікалаевіч.

— Я для гэтага і прыйшоў,— адазваўся Стравінскі.

— Справа вось у чым,— пачаў Іван, адчуваючы, што прыйшоў яго час,— мяне ненармальным зрабілі, і ніхто не хоча слухаць!..

— Не, мы выслухаем вас вельмі ўважліва,— сур'ёзна

і з супакаеннем сказаў Стравінскі,— у ненармальныя вас запісваць ніколі не дазволім.

— Тады слухайце: учора вечарам я на Патрыярхавых сажалках сустрэўся з таямнічаю асобаю, чужаземцам ці нечужаземцам, які зараней ведаў пра смерць Берліёза і асабіста бачыў Понція Пілата.

Світа маўкліва, нават не варухнулася, слухала паэта.

— Пілата? Пілат, гэта — які жыў пры Ісусе Хрысце? — прыжмурыўся на Івана і спытаўся Стравінскі.

— Той самы.

— Ага,— сказаў Стравінскі,— а гэты Берліёз загінуў пад трамваем?

— Вось яго ўчора пры мне і зарэзала трамваем на Патрыярхавых, прычым гэты загадкавы грамадзянін...

— Знаёмы Понція Пілата? — спытаў Стравінскі, які, відаць, быў кемлівы.

— Менавіта ён,— пацвердзіў Іван, вывучаючы Стравінскага,— дык вось ён і сказаў, што Анечка разліла алей... А ён і паслізнуўся якраз на тым месцы! Як вам гэта падабаецца? — шматзначна запытаўся Іван, спадзеючыся на вялікі эфект ад сваіх слоў.

Але эфекту не было, і Стравінскі зусім проста папытаўся далей:

— А хто ж гэтая Анечка?

Гэтае пытанне крыху расчаравала Івана, твар яго перасмыкнуўся.

— Анечка тут не галоўнае,— прамовіў ён і захваляваўся,— бог яе ведае, хто яна такая. Проста нейкая дурніца з Садовае. А важна тое, што ён зараней, разумееце, зараней ведаў пра алей! Вы разумееце!

— Цудоўна разумею,— сур'ёзна сказаў Стравінскі, дакрануўся да паэтавага калена і дадаў: — Не хвалюйцеся і працягвайце.

— Працягваю,— сказаў Іван і стараўся трапіць у лад Стравінскаму, ведаючы з горкага вопыту, што толькі вытрымка дапаможа яму.— Дык вось, гэты страшны тып, а ён хлусіць, што ён кансультант, валодае нейкаю незвычайнаю сілаю... Напрыклад, за ім гонішся, а дагнаць не можаш. Ды з ім яшчэ парачка, і таксама прыгажуны свайго роду: нейкі доўгі з пабітымі шкламі і, акрамя таго, неверагодных памераў кот, які сам ездзіць у трамваі. Акрамя ўсяго,— Івана ніхто не перабіваў, і ён пачаў гаварыць з усё большым запалам і пераконанасцю,— ён асабіста быў на балконе ў Понція Пілата, у чым няма ніякага сумнення. Дык што ж

гэта такое? А? Яго трэба неадкладна арыштаваць, а то ён наробіць бяды, што і не апісаць!

— Дык вы і дабіваецеся, каб яго арыштавалі? Я вас правільна зразумеў? — спытаўся Стравінскі.

«Ён разумны,— падумаў Іван,— варта прызнаць, што і сярод інтэлігентаў таксама трапляюцца зрэдку разумныя. Гэта нельга адмаўляць!» — і адказаў:

— Правільна! А як не дабівацца, самі падумайце! А мяне сілаю затрымалі тут, суюць лямпаю ў вочы, у ванне купаюць, пра дзядзьку Федзю распытваюць!.. А яго ўжо даўно на свеце няма! Я патрабую, каб мяне неадкладна выпусцілі.

— Ну што ж, слаўна, слаўна,— адазваўся Стравінскі,— вось усё і высветлілася. Сапраўды, які сэнс трымаць у бальніцы здаровага чалавека? Добра. Я вас адразу ж выпішу, калі вы мне скажаце, што вы нармальны. Не дакажаце, а толькі скажаце. Ну, вы нармальны?

Тут запанавала поўная цішыня, і тоўстая жанчына, якая раніцай даглядала Івана, паглядзела на прафесара, як на бога, а Іван яшчэ раз падумаў: «Праўда, разумны».

Прапанова прафесара яму спадабалася вельмі, аднак перш чым адказаць яму, ён добра падумаў, наморшчыўшы лоб, і сказаў цвёрда:

— Я — нармальны.

— Ну вось і слаўна,— аблегчана ўздыхнуў Стравінскі,— а калі так, то давайце думаць лагічна. Возьмем ваш учарашні дзень,— тут ён завярнуўся, і яму адразу ж падалі Іванаў аркуш.— У пошуках невядомага чалавека, які назваўся чужаземцам, знаёмым Понція Пілата, вы ўчора ўчынілі наступнае,— тут Стравінскі пачаў загінаць доўгія пальцы, пазіраў то на паперу, то на Івана,— павесілі на грудзі ікону. Было?

— Было,— панура згадзіўся Іван.

— Упалі з плота, абабілі твар. Так? З'явіліся ў рэстаран з запаленаю свечкаю ў руцэ і ў адной бялізне, а ў рэстаране збілі некага. Прывезлі вас сюды звязанага. Адсюль вы званілі ў міліцыю і патрабавалі прыслаць кулямёты. Потым паспрабавалі выкінуцца з акна. Так? Спытаю: ці можна такім чынам каго-небудзь злавіць ці арыштаваць? І калі вы чалавек нармальны, то самі адкажаце — ніколі. Вы хочаце пайсці адсюль? Калі ласка. Але дазвольце запытацца, куды накіруецеся?

— Вядома, у міліцыю,— адказаў Іван і ўжо не гэтак упэўнена і цвёрда адчуваў сябе ад прафесарскага позірку.

— Адразу адсюль?

— Угу.

— А на кватэру сваю не заедзеце? — хутка спытаўся Стравінскі.

— Няма часу туды заязджаць! Пакуль я па кватэрах буду раз'язджаць, ён змыецца!

— Так. А што ж вы найперш скажаце ў міліцыі?

— Пра Понція Пілата,— адказаў Іван Мікалаевіч, і вочы ў яго затуманіліся.

— Ну вось і слаўна! — усклікнуў пакораны Стравінскі і звярнуўся да таго, што быў з бародкаю, загадаў: — Фёдар Васільевіч, выпішы, калі ласка, грамадзяніна Бяздомнага ў горад. Але гэты пакой не займаць, бялізну можна не мяняць. Праз дзве гадзіны грамадзянін Бяздомны будзе зноў тут. Ну што ж,— звярнуўся ён да паэта,— поспеху вам жадаць не буду, таму што ў поспех ні кропелькі не веру. Да хуткай сустрэчы! — І ён устаў, і світа яго варухнулася.

— А чаму я буду зноў тут? — трывожна спытаўся Бяздомны.

Стравінскі быццам і чакаў гэтага пытання, адразу ж сеў і загаварыў:

— А таму, што як толькі вы з'явіцеся ў міліцыю ў кальсонах і скажаце, што бачыліся з чалавекам, які асабіста ведаў Понція Пілата,— вас імгненна прывязуць сюды, і вы зноў апынецеся ў гэтым самым пакоі.

— Пры чым тут кальсоны? — разгублена азіраючыся, спытаўся Іван.

— Галоўным чынам Понцій Пілат. Але і кальсоны таксама. Казённае адзенне мы ж з вас здымем і выдадзім ваша адзенне. А вас прывезлі ў кальсонах. А між тым заехаць дадому вы не збіраецеся, хаця я вам і намякнуў на гэта. Далей будзе Пілат... і ўсё гатова!

Тут нешта страшнае адбылося з Іванам Мікалаевічам, і ён адчуў, што слабы, што яму патрэбна парада.

— Дык што ж рабіць? — спытаўся ён на гэты раз ужо нясмела.

— Ну вось і слаўна! — сказаў Стравінскі.— Гэта рэзоннае пытанне. Цяпер я скажу вам, што з вамі здарылася. Учора вас нехта моцна ўразіў расказам пра Понція Пілата і іншымі жахамі. І вось вы, нервовы, змучаны чалавек, пайшлі па горадзе з расказамі пра Понція Пілата. Натуральна, што вас прымаюць за вар'ята. Ваш паратунак цяпер толькі ў адным — у поўным спакоі. І вам абавязкова трэба застацца тут.

— Але яго патрэбна злавіць! — з мальбою ўсклікнуў Іван.

— Добра, але нашто ж самому бегаць? Запішыце на паперы пра ўсе вашы падазрэнні і абвінавачанні гэтага чалавека. Няма нічога прасцей, чым пераслаць вашу заяву куды трэба, і калі, як вы мяркуеце тут, ён злачынец, гэта высветліцца даволі хутка. Але адна ўмова: неператамляйцеся і старайцеся менш думаць пра Понція Пілата. Ці мала чаго можна нарасказваць! Не ўсяму ж трэба верыць.

— Зразумеў! — рашуча заявіў Іван.— Прашу выдаць мне паперу і пяро.

— Выдайце яму паперу і кароценькі аловак,— загадаў Стравінскі поўнай жанчыне, а Івану сказаў: — Але сёння пісаць не раю.

— Не, не, сёння, абавязкова сёння! — устрывожана ўскрыкнуў Іван.

— Ну добра, толькі не напружвайце галаву. Не атрымаецца сёння, атрымаецца заўтра.

— Ён уцячэ!

— Ды не,— упэўнена сказаў Стравінскі,— ён нікуды не ўцячэ, ручаюся. І памятайце, што тут вам памогуць, а без гэтага ў вас нічога не выйдзе. Вы чуеце мяне? — раптам шматзначна сказаў Стравінскі і ўзяў за абедзве рукі Івана Мікалаевіча. Ён трымаў за рукі, глядзеў проста ў вочы і паўтараў: — Вам тут памогуць... вы чуеце мяне?.. Вам тут памогуць... вам тут памогуць... Вам палягчае. Тут ціха, усё спакойна... Вам памогуць...

Іван Мікалаевіч нечакана пазяхнуў, твар яго падабрэў.

— Ага, ага,— ціха сказаў ён.

— Ну вось і слаўна! — як і звычайна сказаў прафесар, закончыўшы гаворку, устаў.— Да пабачэння! — ён паціснуў Івану руку і ўжо на выхадзе завярнуўся да таго, з барodкаю, і сказаў: — Ага, і кісларод паспрабуйце... і ванны.

Праз некалькі імгненняў перад Іванам не было ні Стравінскага, ні світы. За рашоткаю ў акне пад паўдзённым сонцам красаваўся радасны і вясновы бор на другім беразе, а бліжэй паблісквала рака.

# Раздзел 9

## КАРОЎЕЎСКІЯ ШТУЧКІ

Міканор Іванавіч Босы, старшыня жыллёвага кааператыва дома № 302-біс на Садовай вуліцы ў Маскве, дзе жыў нябожчык Берліёз, быў у вялікім клопаце, пачынаючы з учарашняе ночы з серады на чацвер.

Апоўначы, як мы ведаем, прыехала ў дом камісія, у якой удзельнічаў Жаўдыбін, выклікала Міканора Іванавіча, паведаміла яму пра смерць Берліёза і разам з ім накіравалася ў кватэру № 50.

Там былі апячатаны рукапісы і рэчы нябожчыка. Ні Груні, прыходзячай хатняй работніцы, ні легкадумнага Сцяпана Багданавіча ў гэты час у кватэры не было. Камісія аб'явіла Міканору Іванавічу, што рукапісы нябожчыка забяруць для разгляду, што жылплошча нябожчыка, гэта значыць тры пакоі (былыя ювеліршыны кабінет, гасцёўня і сталоўка), пераходзяць у распараджэнне жыллёвага таварыства, а рэчы нябожчыка будуць захоўвацца на гэтай жылплошчы, пакуль не з'явяцца спадкаемцы.

Вестка пра Берліёзаву гібель разляцелася па ўсім доме з нечуванаю хуткасцю, і з сямі гадзін раніцы ў чацвер Босаму пачалі званіць па тэлефоне, а потым і асабіста з'яўляцца з заявамі, у якіх былі прэтэнзіі на жылплошчу нябожчыка. За тры гадзіны Міканор Іванавіч атрымаў гэтакіх заяў трыццаць дзве штукі.

У заявах былі просьбы, грозьбы, паклёпы, даносы, абяцанні зрабіць рамонт за свой кошт, указанні на невыносную цесноту і немагчымасць жыць болей у адной кватэры з бандытамі. У ліку ўсяго іншага было забойчае па сваіх мастацкіх вартасцях апісанне крадзяжу пельменяў, якія паклалі проста ў кішэню ў кватэры № 31, два абяцанні скончыць жыццё самагубствам і адно прызнанне ў тайнай цяжарнасці.

Міканора Іванавіча выклікалі ў пярэдні пакой у яго кватэры, бралі за рукаў, нешта шапталі, падміргвалі і абяцалі не застацца ў даўгу.

Пакуты гэтыя цягнуліся да пачатку першай гадзіны дня, пакуль Міканор Іванавіч проста не ўцёк са сваёй кватэры ў памяшканне ўпраўлення, але, калі ўбачыў, што і там яго падпільноўваюць, уцёк і адтуль. Сяк-так адбіўшыся ад тых, хто ішоў следам па пятах цераз заасфальтаваны двор, Міканор Іванавіч знік у шостым пад'ездзе і ўзышоў на пяты паверх, дзе і знаходзілася гэтая паганая кватэра № 50.

Пасля таго як адсопся на пляцоўцы, тоўсты Міканор Іванавіч пазваніў, але яму ніхто не адчыніў. Ён пазваніў яшчэ раз і пачаў пад нос бурчаць і лаяцца. Але і тады яму не адчынілі. Цярпенне ў Міканора Іванавіча лопнула, ён дастаў з кішэні звязак дублікатаў ключоў, якія належалі домакіраўніцтву, уладарнаю рукою адамкнуў дзверы і зайшоў.

— Гэй, работніца! — крыкнуў Міканор Іванавіч у прыцемку пярэдняга пакоя.— Як цябе? Груня, ці што? Цябе няма?

Ніхто не адгукнуўся.

Тады Міканор Іванавіч зняў з дзвярэй кабінета пячатку, выняў з партфеля складны метр і ступіў у кабінет. Ступіць-то ён ступіў, але ўражана спыніўся ў дзвярах і аж скалануўся.

За сталом нябожчыка сядзеў незнаёмы чалавек, худы грамадзянін у клятчастым пінжачку, у жакейскай шапачцы і ў пенснэ... адным словам, той самы.

— Вы хто будзеце, грамадзянін? — спалохана спытаўся Міканор Іванавіч.

— А-а! Міканор Іванавіч,— закрычаў дрыготкім тэнарком незнаёмы грамадзянін, падхапіўся, прывітаў старшыню гвалтоўным і нечаканым поціскам рукі. Прывітанне гэта зусім не ўзрадавала Міканора Іванавіча.

— Я прашу прабачэння,— загаварыў ён падазрона,— хто вы такі будзеце? Вы — асоба афіцыйная?

— Эх, Міканор Іванавіч! — прыязна ўсклікнуў незнаёмы.— Якое мае значэнне, афіцыйная асоба альбо неафіцыйная? Усё гэта залежыць ад таго, з якога пункту гледжання глядзець на прадмет, усё гэта, Міканор Іванавіч, даволі хісткае і часова. Сёння я неафіцыйная асоба, а заўтра, глядзіш, афіцыйная! А бывае і наадварот, Міканор Іванавіч. І як яшчэ бывае!

Разважанні гэтыя ні ў якой ступені не задаволілі старшыню домакіраўніцтва. Ён быў ад прыроды чалавек насцярожаны і таму прыйшоў да вываду, што чалавек, які распінаецца перад ім, і ёсць якраз асоба неафіцыйная, а дакладней — валацуга.

— Ды хто вы такі? Як ваша прозвішча? — усё суровей дапытваўся старшыня і нават пачаў наступаць на незнаёмага.

— Прозвішча маё,— суровасць ніяк не збянтэжыла грамадзяніна,— ну, скажам, Кароўеў. Ды ці не хочаце чарачку, Міканор Іванавіч? Па-свойску! Га?

— Прабачце! — Міканор Іванавіч ужо абураўся.— Якія тут чарачкі? (Трэба прызнацца, хаця гэта і непрыемна, што Міканор Іванавіч быў ад прыроды чалавек грубаваты.) — На палавіне нябожчыка сядзець не дазволена! Вы што тут робіце?

— Ды вы прысядзьце, Міканор Іванавіч,— крычаў грамадзянін. Ён зусім не разгубіўся, круціўся, прапаноўваў старшыні крэсла.

Міканор Іванавіч даволі люта адапхнуў крэсла і закрычаў:

— Хто вы такі, нарэшце?

— Я, майце ласку ведаць, перакладчык пры асобе чужаземца, які мае рэзідэнцыю ў гэтай кватэры,— адрэкамендаваўся незнаёмы Кароўеў і грукнуў абцасам рыжага неваксаванага чаравіка.

Міканор Іванавіч разявіў рот. Наяўнасць нейкага чужаземца, ды яшчэ з перакладчыкам, у гэтай кватэры была яму неверагодным сюрпрызам, і ён запатрабаваў тлумачэння.

Перакладчык ахвотна растлумачыў. Замежны артыст пан Воланд быў прыязна запрошаны дырэктарам Вар'етэ Сцяпанам Багданавічам Ліхадзеевым пажыць у час сваіх гастроляў, прыкладна тыдзень, на яго кватэры, пра што ён яшчэ ўчора напісаў Міканору Іванавічу просьбу прыпісаць чужаземца часова, пакуль сам Ліхадзееў з'ездзіць у Ялту.

— Нічога ён мне не пісаў,— здзіўлена сказаў старшыня.

— А вы паглядзіце ў сваім партфелі, Міканор Іванавіч,— соладка прапанаваў Кароўеў.

Міканор Іванавіч паціснуў плячыма, расшпіліў партфель і знайшоў у ім пісьмо Ліхадзеева.

— Як жа я пра яго забыў? — тупа глядзеў на распячатаны канверт і мармытаў Міканор Іванавіч.

— Бывае і не такое, бывае, Міканор Іванавіч! — затрашчаў Кароўеў.— Няўважлівасць, няўважлівасць, і ператомленасць, і павышаны ціск, дарагі Міканор Іванавіч! Я сам жахліва няўважлівы. Як-небудзь пры чарцы я раскажу вам некалькі фактаў з мае біяграфіі, і ў вас жывот забаліць ад рогату.

— Калі ж Ліхадзееў едзе ў Ялту?

— Ды ён паехаў, паехаў! — закрычаў перакладчык.— Ён, ведаеце, імчыць ужо, імчыць! Ён ужо чортведама дзе! — І тут перакладчык замахаў рукамі, як млын крыламі.

Міканор Іванавіч заявіў, што яму трэба ўбачыць чужа-

земца асабіста, але тут атрымаў ад перакладчыка адмову: нельга, заняты. Дрэсіруе ката.

— Ката, калі хочаце, магу паказаць,— прапанаваў Кароўеў.

Ад гэтага, у сваю чаргу, адмовіўся Міканор Іванавіч, а перакладчык адразу ж зрабіў старшыні нечаканую, але надта цікавую прапанову.

Улічваючы тое, што пан Воланд нізавошта не хоча жыць у гатэлі, а жыць ён прывык прасторна, дык вось ці не дазволіць жылтаварыства заняць на тыдзень, пакуль працягваюцца гастролі Воланда ў Маскве, яму ўсю кватэру, гэта значыць і пакоі нябожчыка?

— Яму ж усё роўна, нябожчыку,— шэптам пеў Кароўеў,— яму цяпер, згадзіцеся самі, Міканор Іванавіч, кватэра гэтая да лямпачкі?

Міканор Іванавіч недаўменна запярэчыў, што чужаземцам належыць жыць у «Метраполі», а не на прыватных кватэрах.

— Кажу вам, капрызны, як чортведама што! — зашаптаў Кароўеў.— Ну не хоча! Не любіць ён гатэляў! Во яны дзе ў мяне сядзяць, гэтыя інтурысты! — інтымна паскардзіўся Кароўеў і ткнуў пальцам у сваю жылістую шыю.— Верыце, усю душу выматалі! Прыедзе... і ці нашпіёніць, як сучы сын, ці капрызамі ўсе нервы выматае: і тое яму не гэтак, і гэта яму не так!.. А вашаму таварыству, Міканор Іванавіч, поўная выгада і відавочны прафіт. А грошай ён не пашкадуе,— Кароўеў азірнуўся, потым шапнуў на вуха старшыні: — Мільянер!

У прапанове перакладчыка быў закладзены яўны практычны сэнс, прапанова была даволі аўтарытэтная, але нешта надзіва не аўтарытэтнае было і ў манеры перакладчыка гаварыць, і ў яго адзенні, і ў гэтым мярзотным, нічога не вартым пенснэ. У выніку гэтага нешта падсвядомае мучыла старшынёву душу, і ўсё ж ён вырашыў згадзіцца з прапановаю. Справа ў тым, што таварыства мела даволі вялікі дэфіцыт. Да восені трэба было выкупіць нафту на паравое ацяпленне, а за якую фігу — невядома. З інтурыставымі грашыма і можна будзе выкруціцца. Але дзелавы і асцярожны Міканор Іванавіч заявіў, што яму перш за ўсё трэба ўвязаць гэтае пытанне з інтурысцкім бюро.

— Я разумею,— крыкнуў Кароўеў,— як жа гэта без увязкі, абавязкова. Вось вам тэлефон, Міканор Іванавіч, і тэрмінова ўвязвайце. А наконт грошай не думайце,— шэптам дадаў ён і павёў старшыню ў пярэдні пакой да тэ-

лефона,— з каго ж узяць, як не з яго? Каб вы бачылі, якая ў яго віла ў Ніцы! На наступнае лета, як паедзеце за мяжу, знарок заязджайце паглядзець — ахнеце!

Справа з інтурысцкім бюро ўладзілася па тэлефоне з незвычайнаю хуткасцю, якая ўразіла старшыню. Аказалася, што там ужо ведаюць пра намер пана Воланда жыць у прыватнай кватэры Ліхадзеева і супраць не маюць нічога.

— Ну і цудоўна! — крычаў Кароўеў.

Крыху аглушаны яго траскатнёю, старшыня заявіў, што жылтаварыства згодна здаць на тыдзень кватэру № 50 артысту Воланду з платай па...— Міканор Іванавіч сумеўся крыху і сказаў:

— Па пяцьсот рублёў у дзень.

Тут Кароўеў канчаткова ўразіў старшыню. Ён жулікавата падміргнуў на спальню, адкуль чуваць было, як мякка скача кот, і прасіпеў:

— За тыдзень, выходзіць, тры з паловаю тысячы?

Міканор Іванавіч падумаў, што ён дадасць: «Аднак жа і апетыт у вас, Міканор Іванавіч!» — але Кароўеў сказаў зусім іншае:

— Прасіце пяць, ён дасць! Хіба гэта сума?

Міканор Іванавіч разгублена ўсміхнуўся і сам не заўважыў, як апынуўся ля пісьмовага стала нябожчыка, дзе Кароўеў хуценька напісаў кантракт у двух экземплярах. Пасля гэтага ён злятаў з ім у спальню і адразу ж вярнуўся, абодва экземпляры былі размашыста падпісаны чужаземцам. Падпісаў кантракт і старшыня. Тут Кароўеў запатрабаваў распісачку на пяць...

— Прапіссю, прапіссю, Міканор Іванавіч!.. тысяч рублёў...— і са словамі, якія не стасаваліся да сур'ёзнай справы: — Эйн, цвэй, дрэй! — паклаў старшыні пяць новенькіх банкаўскіх пачкаў.

Адбыўся пералік, перасыпаны жарцікамі і прымаўкамі Кароўева накшталт «грошыкі падлік любяць», «свае вочкі не глядзяць убочкі» і іншымі.

Пасля таго як пералічыў грошы, атрымаў ад Кароўева пашпарт чужаземца і кантракт і ўсё паклаў у партфель, старшыня не ўтрымаўся і сарамліва папрасіў кантрамарку...

— Пра што гаворка! — гаркнуў Кароўеў.— Колькі вам білецікаў, Міканор Іванавіч, дванаццаць, пятнаццаць?

Ашаломлены старшыня растлумачыў, што кантрамаркі яму патрэбны толькі дзве, яму і Пелагеі Антонаўне, яго жонцы.

Кароўеў адразу ж выхапіў блакнот і заліхвацка выпісаў Міканору Іванавічу кантрамарачку на дзве асобы на першым радзе. І гэту кантрамарачку перакладчык леваю рукою спрытна ўсунуў Міканору Іванавічу, а праваю ўклаў у руку старшыні тоўсты хрусткі пачак. Міканор Іванавіч кінуў на яго вокам, густа пачырванеў і пачаў адпіхаць ад сябе.

— Гэтага не паложана...— мармытаў ён.

— І слухаць не буду,— зашаптаў яму на вуха Кароўеў,— у нас не палагаецца, а за мяжой палагаецца. Вы пакрыўдзіце яго, Міканор Іванавіч, а гэта няёмка. Вы працавалі...

— Строга праследуецца...— ціхенька прашаптаў старшыня і азірнуўся.

— А сведкі дзе? — шапнуў на другое вуха Кароўеў.— Я ў вас пытаюся, дзе яны? Што вы?

І тут здарылася, як сцвярджаў потым старшыня, дзіва: пачак сам сабою ўпоўз яму ў партфель. Потым старшыня, нейкі расслаблены і нават разбіты, апынуўся на лесвіцы. Віхор думак бушаваў у яго ў галаве. У ім круціліся і віла ў Ніцы, і дрэсіраваны кот, і думка пра тое, што сведкаў сапраўды не было, і што Пелагея Антонаўна будзе рада кантрамарцы. Гэта былі блытаныя думкі, але ў цэлым прыемныя. І разам з тым нейкая іголачка ў самай глыбіні душы паколвала старшыню. Гэта была іголачка трывогі. Акрамя ўсяго, тут, на лесвіцы, старшыню, як удар, праняла думка: «А як трапіў у кабінет перакладчык, калі на дзвярах была пячатка?! І як гэта ён, Міканор Іванавіч, пра гэта не папытаўся?» Нейкі час старшыня, як баран, глядзеў на прыступкі лесвіцы, але потым вырашыў напляваць на ўсё гэта і не мучыць сябе непатрэбнымі пытаннямі...

Ледзь толькі старшыня выйшаў з кватэры, са спальні даляцеў густы голас:

— Мне гэты Міканор Іванавіч не спадабаўся. Ён абармот і ашуканец. Ці нельга зрабіць так, каб ён больш не прыходзіў сюды?

— Месір, вам варта толькі загадаць!..— адгукнуўся аднекуль Кароўеў, але не дрыготкім, а чыстым і гучным голасам.

І адразу ж пракляты перакладчык апынуўся ў пярэднім пакоі, накруціў там тэлефонны нумар і пачаў чамусьці плаксіва гаварыць у трубку:

— Галё! Лічу, што мой абавязак паведаміць, што наш старшыня жылтаварыства дома нумар трыста два-біс на

Садовай, Міканор Іванавіч Босы, спекулюе валютаю. Зараз у яго ў кватэры нумар трыццаць пяць, у прыбіральні, у газетнай паперы чатырыста долараў. Гаворыць жыхар адзначанага дома з кватэры нумар адзінаццаць Цімафей Квасцоў. Але богам прашу трымаць маё прозвішча ў тайне. Баюся помсты вышэйназванага старшыні.

І нягоднік павесіў трубку.

Што далей адбывалася ў кватэры № 50 невядома, што ў кватэры Міканора Іванавіча — вядома. Ён зашчапіўся дома ў прыбіральні, дастаў з партфеля пачак, пераканаўся, што ў ім чатырыста рублёў. Гэты пачак Міканор Іванавіч закруціў у абрывак газеты і сунуў у вентыляцыйную адтуліну.

Праз пяць хвілін старшыня сядзеў за сталом у сваёй чысценькай маленькай сталоўцы. Жонка яго прынесла з кухні акуратна парэзанага селядца, густа пасыпанага зялёнаю цыбуляю. Міканор Іванавіч наліў у лафітнічак гарэлкі, выпіў, другі раз наліў, выпіў, падхапіў на відэлец тры кавалачкі селядца... і ў гэты час пазванілі, а Пелагея Антонаўна прынесла каструлю, глянуўшы на якую абавязкова і адразу здагадаешся, што ў ёй, у гушчы вогненнага баршчу, знаходзіцца тое, смачней за што няма на свеце,— мазгавая костка.

Міканор Іванавіч скаўтнуў сліну і правурчаў, як сабака:

— А каб вы праваліліся! Пад'есці не дадуць. Не ўпускай нікога, мяне няма дома. Наконт кватэры скажы, каб перасталі балбатаць. Праз тыдзень будзе паседжанне...

Жонка пабегла ў пярэдні пакой, а Міканор Іванавіч апалонікам павалок з вогненнага возера — яе, костку, трэснутую ўдоўжкі. Але ў гэтае імгненне ў сталоўку ўвайшлі двое грамадзян, а за імі чамусьці спалатнелая Пелагея Антонаўна. Як толькі глянуў на грамадзян, адразу ж спалатнеў і Міканор Іванавіч. І ўстаў.

— Дзе сарцір? — заклапочана сказаў першы, які быў у касаваротцы.

На стале нешта грукнула (гэта Міканор Іванавіч упусціў лыжку на стол).

— Тут, тут,— скоранька загаварыла Пелагея Антонаўна.

І прышлыя адразу ж памкнуліся ў калідор.

— А што такое? — ціха спытаўся Міканор Іванавіч, які ішоў следам.— У нас нічога такога ў кватэры быць не можа... а ў вас дакуменцікі... я прашу прабачэння...

Першы на хаду паказаў Міканору Іванавічу дакуменцікі, а другі ўжо стаяў на табурэтцы ў прыбіральні з рукою ў вентыляцыйным ходзе. У вачах у Міканора Іванавіча пацямнела. Газету разгарнулі, але ў ёй аказаліся не рублі, а невядомыя грошы, не то сінія, не то зялёныя, з партрэтам нейкага старога. Між іншым, усё гэта Міканор Іванавіч бачыў ужо цьмяна, у вачах у яго плавалі нейкія плямы, плямы.

— Долары ў вентыляцыі,— задумліва сказаў першы і спытаўся ў Міканора Іванавіча ветліва: — Ваш пакецік?

— Не! — адказаў Міканор Іванавіч страшным галасам.— Вораг падкінуў!

— Гэта бывае,— згадзіўся той, першы, і зноў мякка дадаў: — Ну што ж, трэба здаваць і астатнія.

— Няма ў мяне! Няма, богам клянуся, ніколі ў руках не трымаў! — адчайна ўскрыкнуў старшыня.

Ён кінуўся да куфра, дастаў партфель і ўвесь час мармытаў незразумелае:

— Вось кантракт... перакладчык-гад падкінуў... Кароўеў у пенснэ!

Ён расшпіліў партфель, зірнуў у яго, усунуў руку, пасінеў з твару, упусціў партфель у боршч. У партфелі нічога не было: ні Сцёпкавага пісьма, ні кантракта, ні чужаземцавага пашпарта, ні грошай, ні кантрамаркі. Нічога, словам, акрамя складнога метра.

— Таварышы! — дзіка закрычаў старшыня.— Трымайце іх! У нашым доме нячыстая сіла!

І тут зусім невядома што здалося Пелагеі Антонаўне, але яна ўспляснула рукамі, ускрыкнула:

— Пакайся, Іванавіч! Табе скідка выйдзе!

З набеглымі крывёй вачыма Міканор Іванавіч падняў кулакі над жончынай галавою:

— У-у, дура праклятая!

Тут ён аслабеў і апусціўся на крэсла, мабыць, вырашыў пакарыцца непазбежнаму.

У гэты час Цімафей Кандратавіч Квасцоў на пляцоўцы прыпадаў да замочнае адтуліны старшынёвае кватэры то вухам, то вокам і канаў ад цікаўнасці.

Праз пяць хвілін жыхары дома, якія былі ў двары, бачылі, як старшыня з двума чалавекамі пайшоў проста ў вароты дома. Расказвалі, што на Міканору Іванавічу і твару не было, што ён хістаўся, як п'яны, і нешта мармытаў.

А яшчэ праз гадзіну невядомы грамадзянін з'явіўся ў кватэру нумар адзінаццаць, якраз у той час, калі Цімафей Кандратавіч, захлёбваючыся ад задавальнення, расказваў

іншым жыхарам пра тое, як замялі старшыню, пальцам паклікаў Цімафея Кандратавіча ў пярэдні пакой, нешта яму сказаў і знік разам з ім.

## Раздзел 10

### ВЕСТКІ З ЯЛТЫ

У гэты час, калі адбылося няшчасце з Міканорам Іванавічам, недалёка ад дома № 302-біс, усё на той самай Садовай, у кабінеце фінансавага дырэктара Вар'етэ Рымскага знаходзіліся двое: сам Рымскі і адміністратар Вар'етэ Варэнуха.

Вялікі кабінет на другім паверсе тэатра двума вокнамі выходзіў на Садовую, адным, якраз за плячыма ў фіндырэктара, які сядзеў за пісьмовым сталом, у летні сад, на Вар'етэ, дзе размяшчаліся буфеты, цір і адкрытая эстрада. Упрыгожвалі кабінет, акрамя пісьмовага стала, старыя афішы, якія віселі на сцяне, маленькі столік з графінам вады, чатыры крэслы і падстаўка ў куце, на якой стаяў стары запылены макет нейкага відовішча. Ну, і само сабой разумеецца, што, акрамя гэтага, была ў кабінеце невялікая аблупленая незгаральная каса, леваруч ад Рымскага, побач з пісьмовым сталом.

Рымскі, які сядзеў за сталом, зранку быў у дрэнным настроі, а Варэнуха, наадварот, быў ажыўлены, вясёлы і падазрона дзейсны. Але выйсця ягоная энергія не знаходзіла.

Варэнуха хаваўся цяпер у кабінеце фіндырэктара ад кантрамарачнікаў, якія не давалі яму продыху, асабліва калі мянялася праграма. А сёння якраз і быў такі дзень.

Як толькі пачынаў звінець тэлефон, Варэнуха браў трубку і хлусіў у яе:

— Хто? Варэнуха? Яго няма. Некуды пайшоў з тэатра.

— Пазвані ты, калі ласка, яшчэ раз Ліхадзееву,— раззлавана сказаў Рымскі.

— Ды няма яго дома. Я Карпава туды пасылаў. Нікога няма ў кватэры.

— Халера ведае што творыцца,— шыпеў Рымскі і пстрыкаў лічыльнаю машынкаю.

Дзверы адчыніліся, і капельдынер прывалок тоўсты пачак толькі што аддрукаваных дадаткова афіш. На зялёных аркушах вялікімі чырвонымі літарамі было надрукавана:

СЁННЯ І ШТОДЗЁННА Ў ТЭАТРЫ ВАР'ЕТЭ
ДАДАТКОВА ДА ПРАГРАМЫ:

ПРАФЕСАР ВОЛАНД

СЕАНСЫ ЧОРНАЕ МАГІІ З ПОЎНЫМ ЯЕ ВЫКРЫЦЦЁМ

Варэнуха адступіўся ад афішы, накінутай ім на макет, палюбаваўся ёю і загадаў капельдынеру неадкладна пусціць усе экземпляры на расклейку.

— Добра, кідка,— зазначыў Варэнуха пасля таго, як капельдынер выйшаў.

— А мне зусім не падабаецца гэтая выдумка,— злосна зірнуў праз рагавыя акуляры на афішу і прабурчаў Рымскі,— і наогул я здзіўляюся, як яму дазволілі гэта паказваць!

— Не, Рыгор Данілавіч, не гавары, гэта даволі тонкі манеўр. Тут уся соль у выкрыцці.

— Не ведаю, не ведаю, ніякага тут цымусу няма, і заўсёды ён выдумае ліха ведае што! Хаця б паказаў гэтага мага. Ты яго бачыў? Дзе ён яго адкапаў, ліха яго ведае!

Высветлілася, што Варэнуха, гэтаксама як і Рымскі, не бачыў мага. Учора Сцёпа («як звар'яцелы», сказаў Рымскі) прыбег да фіндырэктара з напісаным чарнавіком дагавора, загадаў яго перапісаць і адразу ж выдаць грошы. І маг гэты змыўся, і яго ніхто не бачыў, акрамя Сцёпы.

Рымскі дастаў гадзіннік, убачыў, што на ім пяць хвілін на трэцюю гадзіну, і зусім азвярэў. І сапраўды! Ліхадзееў званіў прыкладна ў адзінаццаць гадзін, сказаў, што прыйдзе праз паўгадзіны, і не толькі не прыйшоў, але і з кватэры знік!

— У мяне ж работа стаіць! — гыркаў Рымскі і тыцкаў пальцам у стос непадпісаных папер.

— Ці не трапіў і ён, як Берліёз, пад трамвай? — гаварыў Варэнуха і прыціскаў да вуха трубку, у якой чуліся густыя, працяглыя і зусім безнадзейныя сігналы.

— А добра было б...— ледзь чутна працадзіў скрозь зубы Рымскі.

У гэты момант у кабінет увайшла жанчына ў форменнай куртцы, у фуражцы, у чорнай спадніцы і ў тапках. З маленькай сумачкі на баку жанчына дастала беленькі квадрацік і сшытак, спыталася:

— Дзе тут Вар'етэ? Звышмаланка вам. Распішыцеся.

Варэнуха чаркануў у сшытку нейкую крывуліну і, як толькі зачыніліся за ёй дзверы, разгарнуў квадрацік.

Прачытаў тэлеграму, заміргаў вачыма і перадаў яе Рымскаму.

У тэлеграме было надрукавана наступнае: «Ялты Маскву. Вар'етэ. Сёння палове дванаццатай крымінальны вышук з'явіўся шатэн начной сарочцы штанах без ботаў псіхічны назваўся Ліхадзеевым дырэктарам Вар'етэ Маланкуйце ялцінскі вышук дзе дырэктар Ліхадзееў».

— Вось табе і маеш! — усклікнуў Рымскі і дадаў: — Яшчэ сюрпрыз!

— Лжэдзімітрый,— сказаў Варэнуха і загаварыў у тэлефонную трубку: — Тэлеграф? На рахунак Вар'етэ. Прыміце звышмаланку... Вы чуеце?.. «Ялта, крымінальны вышук... Дырэктар Ліхадзееў Маскве Фіндырэктар Рымскі»...

Незалежна ад паведамлення пра ялцінскага самазванца, Варэнуха зноў пачаў шукаць Сцёпу па тэлефоне дзе мог і, зразумела, нідзе не знайшоў. Якраз у той момант, калі Варэнуха трымаў у руцэ трубку і думаў, куды б яшчэ пазваніць, увайшла тая самая жанчына, што прынесла і першую маланку, і ўручыла Варэнуху новы канверцік. Варэнуха паспешна распячатаў яго, прачытаў надрукаванае і свіснуў.

— Што яшчэ? — спытаў Рымскі і нервова перасмыкнуўся.

Варэнуха моўчкі падаў тэлеграму, і фіндырэктар убачыў у ёй словы: «Малю верыць кінуты Ялту гіпнозам Воланда маланкуйце вышуку пацвярджэнне асобы Ліхадзееў».

Рымскі і Варэнуха, прытуліўшыся, перачыталі тэлеграму і моўчкі вылупіліся адзін на аднаго.

— Грамадзяне! — раптам раззлавалася жанчына.— Распісвайцеся, а потым будзеце маўчаць колькі вам хочацца! Я ж маланкі разношу!

Варэнуха, не адрываючы вачэй ад тэлеграмы, крыва чыркануў у сшытку, і жанчына знікла.

— Ты ж з ім на пачатку дванаццатай гаварыў па тэлефоне? — з поўным неразуменнем загаварыў адміністратар.

— Дык смешна гаварыць! — пранізліва закрычаў Рымскі.— Званіў я яму ці не званіў, а не можа ён зараз быць у Ялце! Гэта недарэчна!

— Ён п'яны...— сказаў Варэнуха.

— Хто п'яны? — спытаўся Рымскі, і абодва вытрашчыліся адзін на аднаго.

Што тэлеграфаваў з Ялты нейкі вар'ят ці самазванец, у гэтым не было сумнення, але вось што было дзіўна: адкуль той ялцінскі містыфікатар ведае пра Воланда, які

толькі ўчора прыехаў у Маскву? Адкуль ён ведае пра сувязь Ліхадзеева і Воланда?

— «Гіпнозам...» — паўтарыў Варэнуха словы з тэлеграмы.— Адкуль яму вядома пра Воланда? — ён недаўменна паміргаў вачыма і крыкнуў рашуча: — Ды не, глупства, глупства, глупства!

— Дзе ж ён спыніўся, гэты Воланд, чорт бы яго ўзяў? — спытаўся Рымскі.

Варэнуха адразу пазваніў у інтурысцкае бюро і, на вялікае здзіўленне Рымскага, паведаміў, што спыніўся Воланд на кватэры ў Ліхадзеева. Варэнуха пасля гэтага набраў нумар ліхадзееўскай кватэры і доўга слухаў, як густа гудзе ў трубцы. Сярод гэтых гудкоў аднекуль здалёку пачуўся цяжкі, пануры голас, які праспяваў: «...скалы, мой прыют...» — і Варэнуха вырашыў, што ў тэлефонную сетку аднекуль прарваўся голас з радыётэатра.

— Не адказвае кватэра,— сказаў Варэнуха і паклаў трубку на рычаг,— хіба яшчэ раз паспрабаваць пазваніць?

Ён не дагаварыў, у дзвярах паказалася тая самая жанчына, і абодва, Рымскі і Варэнуха, усталі ёй насустрач, а яна дастала з сумкі не белы, а нейкі цёмны аркушык.

— Гэта ўжо зусім цікава,— працадзіў скрозь зубы Варэнуха, правёў вачыма жанчыну, якая спяшалася. Першы аркушыкам завалодаў Рымскі.

«Доказ мой почырк і мой подпіс Маланкуйце пацверджанне наладзьце сакрэтны нагляд за Воландам Ліхадзееў».

За дваццаць гадоў працы ў тэатрах Варэнуха бачыў ўсякае, але тут ён адчуў, што розум яго быццам затуманьваецца, ён нічога не мог нават прамовіць, акрамя звычайнага:

— Гэтага быць не можа!

Рымскі зрабіў інакш. Ён устаў, адчыніў дзверы і раўнуў кур'ерны, якая сядзела на табурэтцы:

— Нікога, акрамя паштальёна, не ўпускаць! — і замкнуў кабінет на ключ.

Потым ён дастаў з пісьмовага стала стос паперы і пачаў старанна параўноўваць тлустыя, з нахілам улева, літары на фатаграме з літарамі на Сцяпанавых рэзалюцыях і яго подпісах з вінтавою закаручкаю. Варэнуха ўзлёг на стол і горача дыхаў у шчаку Рымскаму.

— Гэта яго почырк,— нарэшце прамовіў фіндырэктар, а Варэнуха адазваўся рэхам:

— Яго.

Адміністратар прыгледзеўся да твару Рымскага і здзі-

віўся перамене, якая адбылася з ім. І так худы фіндырэктар быццам яшчэ больш пахудзеў і нават пастарэў, а яго вочы ў рагавой аправе страцілі сваю звычайную калючасць, і з'явілася ў іх быццам не толькі трывога, але і смутак.

Варэнуха зрабіў усё, што робіць чалавек у хвіліны вялікага здзіўлення. Ён і па кабінеце прабег, і рукі двойчы ўскідаў угору, нібы распяты, і выпіў цэлую шклянку вады з жаўтаватага графіна, і ўсклікваў:

— Не разумею! Не ра-зу-ме-ю!

Рымскі ўсё глядзеў у акно і пра нешта напружана думаў. Становішча ў фіндырэктара было даволі цяжкае. Трэба тут жа, адразу прыдумаць звычайнае тлумачэнне незвычайным з'явам.

Фіндырэктар прыплюшчыўся і ўявіў Сцёпу ў начной сарочцы і без ботаў, як той улазіў недзе а палове дванаццатае ў нейкі невядомы звышхуткасны самалёт, а потым яго, Сцёпу, і таксама а палове дванаццатае, як ён стаяў у адных шкарпэтках на аэрадроме ў Ялце... чортведама што такое!

Можа, і не Сцёпа сёння гаварыў з ім па тэлефоне з уласнае кватэры? Не, гэта гаварыў Сцёпа! Каб ён ды не ведаў Сцёпаў голас! Ды калі б сёння і не Сцёпа гаварыў, то не пазней чым учора, пад вечар, Сцёпа са свайго кабінета прыйшоў у гэты самы кабінет з гэтым праклятым дагаворам і раззлаваў фіндырэктара сваёй легкадумнасцю. Як гэта ён мог паехаць ці некуды паляцець, нічога не сказаўшы ў тэатры? Ды каб ён і паляцеў учора вечарам, то да сённяшняга не даляцеў бы. Ці даляцеў бы?

— Колькі кіламетраў да Ялты? — спытаўся Рымскі.

Варэнуха перастаў бегаць і закрычаў:

— Думаў! Ужо думаў! Да Севастопаля чыгункаю амаль паўтары тысячы кіламетраў, ды да Ялты яшчэ дадаць восемдзесят кіламетраў. Паветрам, вядома, менш...

Гмы... Ага... Ні пра якія цягнікі не можа быць і гаворкі. Але што ж тады? Знішчальнік? Хто і на які знішчальнік прапусціць Сцёпу без ботаў? Навошта? Можа, ён зняў боты, як прыляцеў у Ялту? Але таксама: нашто? Ды нават і ў ботах яго ў знішчальнік не пусцяць! Ды і знішчальнік тут ні пры чым. Напісана ж у пасланні крымінальнага вышуку, што з'явіўся туды а палове дванаццатай удзень, а гаварыў ён па тэлефоне ў Маскве... дазвольце... тут перад вачыма ў Рымскага паўстаў цыферблат гадзінніка... Ён успомніў, дзе былі стрэлкі. Жах! Гэта было ў дваццаць хвілін на дванаццатую гадзіну. Дык гэта ж што атрымліваецца? Калі дапусціць, што імгненна пасля гаворкі Сцёпа кінуўся на

аэрадром і дапяў туды праз пяць, напрыклад, хвілін, што, дарэчы, таксама немагчыма, то атрымліваецца, што самалёт, калі ён адразу ўзляцеў, за пяць хвілін адолеў больш за тысячу кіламетраў!! Значыць, за гадзіну ён можа праляцець болей чым дванаццаць тысяч кіламетраў! Такога не можа быць, а значыць, яго няма ў Ялце.

Што ж застаецца? Гіпноз? Ніякага гіпнозу, каб закінуць чалавека болей чым за тысячу кіламетраў, няма на свеце! Значыць, яму толькі мроіцца, што ён у Ялце! Яму няхай сабе мроіцца, а ялцінскаму крымінальнаму вышуку таксама мроіцца?! Ну, не, прабачце, такога не бывае!.. Але ж тэлеграфуюць яны адтуль?

Фіндырэктараў твар быў проста страшны. За ручку ў дзвярах тым часам тузалі і круцілі, і было чуваць, як кур'ерша за дзвярыма адчайна крычала:

— Нельга! Не пушчу! Хоць рэжце мяне! Паседжанне!

Рымскі, як толькі змог, авалодаў сабой, узяў тэлефонную трубку і сказаў у яе:

— Дайце звыштэрміновую гаворку з Ялтай.

«Разумна!» — усклікнуў у думках Варэнуха.

Але размова з Ялтаю не адбылася. Рымскі паклаў трубку і сказаў:

— Як на злосць, сапсавалася лінія.

Прыкметна было, што няспраўнасць на лініі яго асабліва засмуціла і нават прымусіла задумацца. Ён крыху падумаў, зноў падняў трубку адной рукой, а другой пачаў запісваць тое, што гаварыў у трубку:

— Адпраўце звышмаланкаю. Вар'етэ. Ага. Ялта. Крымінальны вышук. Ага. «Сёння каля паловы дванаццатае Ліхадзееў гаварыў мною па тэлефоне Маскве, кропка. Пасля гэтага на работу не з'явіўся і знайсці яго па тэлефоне не можам, кропка. Почырк пацвярджаю, кропка. Меры па назіранні за названым артыстам ажыццяўляю. Фіндырэктар Рымскі».

«Вельмі разумна!» — падумаў Варэнуха, але не ўспеў раздумацца як след, у галаве прамільгнула слова: «Глупства! Не можа яго быць у Ялце!»

Рымскі тым часам зрабіў наступнае: акуратна склаў усе атрыманыя тэлеграмы і копію са сваёй у стосік, стосік паклаў у канверт, заклеіў яго, напісаў на ім некалькі слоў і ўручыў яго Варэнуху са словамі:

— Зараз жа, Іван Савельевіч, асабіста завязі. Няхай там разбіраюцца.

«А вось гэта на самай справе разумна!» — падумаў Ва-

рэнуха і схаваў канверт у свой партфель. Затым ён яшчэ раз набраў тэлефонны нумар Сцёпавай кватэры, прыслухаўся і таямніча і радасна заміргаў, пачаў падаваць знакі. Рымскі выцягнуў шыю.

— Артыста Воланда можна папрасіць? — салодка спытаўся Варэнуха.

— Яны занятыя,— адказала трубка трэснутым голасам.— А хто пытаецца?

— Адміністратар Вар'етэ Варэнуха.

— Іван Савельевіч? — радасна закрычала трубка.— Вельмі рады пачуць ваш голас! Як ваша здароўе?

— Мерсі,— ледзь адказаў Варэнуха,— а з кім я гавару?

— Памочнік яго, памочнік і перакладчык Кароўеў,— траішчала трубка,— гатовы да вашых паслуг, дарагі Іван Савельевіч! Распараджайцеся мной, як вам трэба. Слухаю?

— Выбачайце, а Сцяпана Багданавіча Ліхадзеева зараз няма дома?

— На жаль, няма! Няма! — крычала трубка.— Паехаў.

— А куды?

— За горад на прагулку на машыне.

— Я... як? На... прагулку?.. А калі ж ён вернецца?

— А сказаў, падыхаю свежым паветрам і вярнуся!

— Ага...— разгублена сказаў Варэнуха.— Мерсі. Майце ласку, перадайце мсье Воланду, што выступленне яго сёння, у трэцім аддзяленні.

— Слухаюся. А як жа. Абавязкова. Тэрмінова. Найабавязкова. Перадам,— коратка стукала трубка.

— Усяго добрага,— здзіўлена сказаў Варэнуха.

— Прашу выслухаць,— гаварыла трубка,— мае найлепшыя гарачыя прывітанні і пажаданні! Поспехаў! Удач. Поўнага шчасця. Усяго!

— Ну, вядома! Я ж гаварыў! — узбуджана крычаў адміністратар.— Ніякая не Ялта, а ён за горад паехаў!

— Ну, калі гэта сапраўды так,— пабялеў ад злосці фіндырэктар і сказаў: — Дык гэта сапраўды свінства. І слоў няма!

Тут адміністратар падскочыў і крыкнуў гэтак, што Рымскі здрыгануўся:

— Успомніў! Успомніў! У Пушкіне адчынілася чабурэчная «Ялта»! Усё зразумела. Паехаў туды, напіўся і зараз адтуль тэлеграфуе!

— Ну, гэта ўжо занадта,— у фіндырэктара торгалася шчака і ў вачах гарэла сапраўдная злосць,— ну што ж, до-

рага яму гэтая прагулянка абыдзецца,— тут ён раптам спатыкнуўся і нерашуча дадаў: — Але як жа, крымінальны вышук...

— Глупства гэта! Яго самога штучкі,— перабіў экспансіўны адміністратар і спытаўся: — А пакет везці?

— Абавязкова,— адказаў Рымскі.

І зноў адчыніліся дзверы, і зноў зайшла тая самая... «Яна!» — чамусьці з сумам падумаў Рымскі. І абодва ўсталі насустрач паштальёнцы.

Цяпер у тэлеграме былі наступныя словы:

«Дзякуй пацверджанне тэрмінова пяцьсот крымінальны вышук заўтра вылятаю Маскву Ліхадзееў».

— Ён зусім звар'яцеў...— слаба сказаў Варэнуха.

Рымскі пазваніў ключамі, дастаў з шуфлядкі незгаральнае шафы грошы, адлічыў пяцьсот рублёў, пазваніў, уручыў кур'еру грошы і адправіў яго на тэлеграф.

— Злітуйцеся, Грыгорый Данілавіч,— не верачы сваім вачам, прамовіў Варэнуха,— па-мойму, ты дарэмна грошы высылаеш.

— Яны вернуцца назад,— адказаў Рымскі ціха,— а вось ён на поўную катушку адкажа за гэты пікнічок,— і дадаў, паказваючы на партфель Варэнухі: — Едзь, Іван Савельевіч, не марудзь.

І Варэнуха з партфелем выбег з кабінета.

Ён сышоў на першы паверх, убачыў даўжэзную чаргу каля касы, даведаўся ад касіркі, што тая праз гадзіну чакае аншлагу, таму што публіка проста валам валіць, як толькі ўбачыла дадатковую афішу, загадаў касірцы загнуць і не прадаваць трыццаць лепшых месцаў у ложах і ў партэры, выскачыў з касы, адразу ж на хаду адбіўся ад надакучлівых кантрамарачнікаў і нырнуў у свой кабінет. У гэты час затрашчаў тэлефон.

— Слухаю! — крыкнуў Варэнуха.

— Іван Савельевіч? — спыталася трубка брыдкім гугнявым голасам.

— Яго няма ў тэатры! — крыкнуў спачатку Варэнуха, але трубка адразу ж перапыніла яго:

— Не прытварайцеся, Іван Савельевіч, а слухайце. Тэлеграмы гэтыя нікуды не нясіце і нікому не паказвайце.

— Хто гэта гаворыць? — зароў Варэнуха.— Хопіць, грамадзянін, гэтакіх штучак! Вас зараз жа знойдуць! Ваш нумар?

— Варэнуха,— адклікнуўся ўсё той жа брыдкі голас,— ты па-руску разумееш? Не насі нікуды тэлеграмы.

— А, дык вы не супакойваецеся? — люта закрычаў адміністратар.— Ну глядзіце ў мяне! Вы за гэта атрымаеце! — Ён крычаў у трубку яшчэ нейкія пагрозы, але змоўк, таму што адчуў, што ў трубцы яго ўжо ніхто не слухае.

Тут у кабінеце неяк хутка пачало цямнець. Варэнуха выбег, замкнуў дзверы і праз бакавы выхад пакіраваў у летні сад.

Адміністратар быў узбуджаны і поўны энергіі. Пасля нахабнага званка ён болей не сумняваўся, што хуліганская шайка вытварае брыдкія штучкі і што штучкі гэтыя звязаны са знікненнем Ліхадзеева. Жаданне вывесці на чыстую ваду ліхадзееў вяло адміністратара, і, як ні дзіўна, у ім нарадзілася прадчуванне чагосьці прыемнага. Гэтак бывае, калі чалавек імкнецца апынуцца ў цэнтры ўвагі, прынесці кудынебудзь сенсацыйнае паведамленне.

У садзе вецер павеяў у твар адміністратару і запарушыў яму вочы пяском, нібы перасцерагаў, заступаў дарогу. Ляпнула на другім паверсе рама гэтак, што ледзь не вылецела шкло, у вершалінах ліп і клёнаў трывожна прашумела. Пацямнела і пасвяжэла. Адміністратар працёр вочы і ўбачыў, што нізка над Масквою паўзе жаўтапузая навальнічная хмара. Удалечыні густа завуркатала.

Як ні спяшаўся Варэнуха, неадольнае жаданне прымусіла яго забегчы на хвілінку ў летнюю прыбіральню, каб на хаду праверыць, ці надзеў манцёр сетку на лямпачку.

Прабягаючы паўз цір, Варэнуха трапіў у густы зараснік бэзу, у якім стаяла блакітная будынінка прыбіральні. Манцёр аказаўся акуратным чалавекам, лямпачка пад дахам у мужчынскім аддзяленні ўжо была абцягнута металічнай сеткай, але адно засмучала адміністратара, што нават у пераднавальнічным прыцемку было відаць, што сцены ўжо размаляваны вугалем і алоўкам.

— Ну што гэта за!..— пачаў быў адміністратар і раптам пачуў за сабой голас, які мурлыкнуў:

— Гэта вы, Іван Савельевіч?

Варэнуха здрыгануўся, азірнуўся і ўбачыў нейкага невялічкага таўстуна, як здалося, з кашэчым тварам.

— Ну я,— непрыязна адказаў Варэнуха.

— Вельмі, вельмі прыемна,— пісклявым голасам абазваўся котападобны таўстунок і раптам замахнуўся і ўлупіў Варэнуху ў вуха гэтак, што шапачка зляцела з галавы ў адміністратара і знікла ў адтуліне.

Ад таўстуновага ўдару ўся прыбіральня на імгненне асвятлілася дрыготкім святлом, а з неба азваўся громавы

ўдар. Потым яшчэ раз бліснула, і перад адміністратарам узнік другі — маленькі, але з атлетычнымі плячыма, вогненна-рыжы, адно вока з бяльмом, рот з іклом. Гэты другі, мабыць, ляўша, упляжыў адміністратару ў другое вуха. У адказ зноў грымнула ў небе, і на драўляны дах прыбіральні абрынуўся лівень.

— Што вы, тавары...— прашаптаў ашалелы адміністратар, змікіціў, што слова «таварышы» ніяк не падыходзіць да бандытаў, якія напалі на чалавека ў грамадскім туалеце, прахрыпеў: — Грамадзя...— і спахапіўся, што і гэтае назвы яны не заслугоўваюць, і атрымаў трэці страшэнны ўдар, ужо невядома ад каго з гэтых двух, гэтак, што з носа на талстоўку хлынула кроў.

— Што ў цябе ў партфелі, паразіт? — пранізліва закрычаў падобны на ката.— Тэлеграмы? А цябе папярэджвалі па тэлефоне, каб ты іх нікуды не насіў? Папярэджвалі, я ў цябе пытаюся?

— Папярэдж... джвалі... джвалі...— задыхаючыся, адказаў адміністратар.

— А ты ўсё ж пабег? Давай сюды партфель, гад! — тым самым гугнявым голасам, які чуваць быў у тэлефоне, крыкнуў другі і вырваў партфель з дрыжачых рук у Варэнухі.

І абодва падхапілі адміністратара пад рукі, вывалаклі з саду і панесліся з ім над Садовай. Навальніца бушавала на ўсю сілу, вада з грукатам і ровам ляцела ў каналізацыйныя адтуліны, усюды пухірыліся, уздымаліся хвалі, з дахаў перла і паўз трубы, з падваротні цяклі пеністыя рэкі. Усё жывое змылася з Садовае, і выратаваць Івана Савельевіча не было каму. Падскокваючы ў каламутных рэках, асветленыя маланкамі бандыты ўміг давалаклі напаўжывога адміністратара да № 302-біс, уляцелі разам з ім у падваротню, дзе да сцяны туліліся дзве босыя жанчыны, якія свае туфлі і панчохі трымалі ў руках, затым кінуліся ў шосты пад'езд, і амаль звар'яцелы Варэнуха быў узнесены на пяты паверх і кінуты на падлогу ў добра знаёмым яму пярэднім пакоі ў кватэры Сцёпы Ліхадзеева.

Тут абодва бандыты згінулі, а замест іх з'явілася ў прыхожым пакоі зусім голая дзяўчуля — рыжая, з гарачымі фасфарычнымі вачыма.

Варэнуха зразумеў, што гэта і ёсць тое самае страшнае, што толькі можа здарыцца з ім, застагнаў, адступіўся да сцяны. А дзяўчуля падышла да адміністратара і паклала далоні на яго плечы. Валасы на Варэнуху ўсталі дыба, таму

што ён нават скрозь халодную вільготную тканіну талстоўкі адчуў, што далоні гэтыя яшчэ халаднейшыя, што яны халодныя смяротным холадам.

— Ну, дай я цябе пацалую,— пяшчотна сказала дзяўчуля, і ля самых ягоных вачэй апынуліся яе зіхатлівыя вочы. І тады Варэнуха страціў прытомнасць і пацалунка не адчуў.

## Раздзел 11

### ІВАНАВА РАЗДВОЕНАСЦЬ

Бор на супрацьлеглым беразе рэчкі, яшчэ гадзіну таму асветлены майскім сонцам, пацямнеў, размазаўся і растварыўся.

Вада суцэльнай сцяной стаяла за акном. У небе адзін за адным успыхвалі пісягі, неба трэскалася, пакой хворага залівала дрыготкае страшнае святло.

Іван ціха плакаў, седзячы на ложку і гледзячы на каламутную рэчку, якая кіпела бурбалкамі. Пры кожным грамавым удары ён жаласліва ўскрыкваў і закрываў твар рукамі. Спісаныя Іванам папяровыя лісткі валяліся на падлозе, іх здзьмула ветрам, які ўварваўся ў пакой у самым пачатку навальніцы.

Спробы паэта напісаць заяву наконт страшнага кансультанта нічога не далі. Як толькі Іван атрымаў ад тоўстае фельчарыцы, якую звалі Праскоўя Фёдараўна, агрызак алоўка і паперу, ён дзелавіта пацёр рукі і прымасціўся да століка. Пачаў даволі жыва:

«У міліцыю. Члена МАССАЛІТа Івана Мікалаевіча Бяздомнага. Заява. Учора вечарам я прыйшоў з нябожчыкам М. А. Берліёзам на Патрыярхавыя сажалкі...»

І адразу ж паэт заблытаўся, найперш з-за слова «нябожчык». З самага пачатку атрымлівалася нейкая недарэчнасць: як гэта — прыйшоў з нябожчыкам? Нябожчыкі не ходзяць! Сапраўды падумаюць, што вар'ят!

Падумаў пра гэта і пачаў папраўляць напісанае. Атрымалася наступнае: «...з М. А. Берліёзам, потым нябожчыкам...» І гэта не задаволіла аўтара. Давялося прыдумляць трэцюю рэдакцыю, а тая аказалася яшчэ горшая за першыя дзве: «...Берліёзам, які трапіў пад трамвай...» — і тут яшчэ прыплёўся гэты нікому не вядомы кампазітар — цёзка па прозвішчы, і давялося дапісваць: «...не кампазітарам...»

Напакутаваўся з гэтымі двума Берліёзамі, закрэсліў усё

і вырашыў пачаць з нечага вельмі моцнага, што адразу прыцягнула б увагу чытача, і напісаў, што кот садзіўся ў трамвай, а потым вярнуўся да эпізода з адрэзанай галавой. Галава і прароцтва кансультантава навялі на думку пра Понція Пілата, а дзеля большай пераконанасці Іван вырашыў увесь расказ пра пракуратара напісаць з самага пачатку, калі той у белым плашчы з крывавым падбоем зайшоў у каланаду Ірадавага палаца.

Іван працаваў засяроджана, крэсліў напісанае і ўстаўляў новыя словы і нават спрабаваў намаляваць Понція Пілата, а потым і ката на задніх лапах. Але і малюнак не дапамог, і чым далей — усё больш блытанай і незразумелай рабілася паэтава заява.

На той час, як здалёк з'явілася злавесная хмара з дымнымі краямі, накрыла бор і падзьмуў вецер, Іван адчуў, што знясілеў, што заяву яму не адолець, не стаў збіраць рассыпаныя лісткі, а ціха і горка заплакаў.

Дабрадушная фельчарыца Праскоўя Фёдараўна наведала паэта ў час навальніцы, устрывожылася, калі ўбачыла, што ён плача, зашморгнула на акне штору, каб маланка не палохала хворага, паперкі сабрала з падлогі і з імі пабегла да доктара.

Той адразу ж прыйшоў, зрабіў укол Івану ў руку, пераканаў Івана, што той болей плакаць не будзе, што цяпер нічога не здарыцца, што ўсё пройдзе, зменіцца і ўсё забудзецца.

Доктар сказаў праўду. Хутка зарэчны бор стаў ранейшым. У ім відаць было кожнае дрэва пад небам, якое ачысцілася да поўнага блакіту, а рэчка супакоілася. Нуда пачала адступацца ад Івана адразу ж пасля ўколу, і цяпер паэт ляжаў спакойна і глядзеў на вясёлку, якая выгнулася ў небе.

Гэтак працягвалася да вечара, і ён нават не заўважыў, як растала вясёлка і як засумавала і зліняла неба, як пачарнеў бор.

Іван выпіў гарачага малака, прылёг і сам здзівіўся з таго, як змяніліся яго думкі. Неяк падабрэў у памяці праклятый д'ябальскі кот, не палохала болей адрэзаная галава, і, адрынуўшы яе, пачаў раздумваць Іван пра тое, што на самай справе нядрэнна і ў бальніцы, што Стравінскі разумны і знакаміты і што быць у яго надзвычай проста і прыемна. І вечаровае паветра прыемнае і свежае пасля навальніцы.

Журботны дом засынаў. У ціхім калідоры матавыя белыя лямпачкі патухалі, і замест іх адпаведна раскладу запальваліся слабенькія блакітныя начнікі, і ўсё радзей за

дзвярыма чуліся асцярожныя крокі фельчарыц на гумавых дыванках у калідорах.

Цяпер Іван у салодкай млявасці ляжаў і пазіраў то на лямпачку пад абажурам, якая разлівала з-пад столі мяккае святло, то на поўню, якая выходзіла з-за чорнага бору, і гаварыў сам з сабою.

— Чаму, урэшце, я гэтак хвалююся, што Берліёз трапіў пад трамвай? — разважаў паэт.— Урэшце, ну яго ў балота! Хто я на самай справе, кум яму ці сват? Калі як след пракруціць гэтае пытанне, атрымліваецца, што я, па сутнасці, і не ведаў як след нябожчыка. Сапраўды, што мне пра яго вядома? Ды нічога, акрамя таго, што ён быў лысы і гаварун жахлівы. А потым, грамадзяне,— працягваў сваю прамову Іван і звяртаўся да некага невядомага,— разбяромся вось у чым: чаго гэта я, растлумачце, уз'еўся на гэтага загадкавага кансультанта, мага і прафесара з пустым чорным вокам? Нашто ўся гэтая недарэчная пагоня за ім у споднім і са свечкаю ў руках, а потым і ўся дзікая сцэна ў рэстаране?

— Ну-ну-ну,— раптам сурова сказаў нехта, але не ў ім самім, а быццам на вуха, ранейшы Іван новаму Івану,— пра тое, што адрэжуць Берліёзу галаву, ён ведаў загадзя? Як тут не хвалявацца?

— Пра што тут, таварышы, гаворка! — пярэчыў новы Іван ранейшаму Івану.— Нешта нячыстае тут, гэта і дзіцяці зразумела. Гэта асоба незвычайная і таямнічая на ўсе сто. Але ж гэта і самае цікавае! Чалавек асабіста быў знаёмы з Понціем Пілатам, што яшчэ цікавейшае вам патрэбна? І замест таго каб падымаць недарэчны гвалт на Патрыярхавых, ці не лепей было б ветліва распытацца пра тое, што далей было з Понціем Пілатам і гэтым арыштаваным Га-Ноцры?

А я д'ябал яго ведае што ўсчаў! Падумаеш — вялікае здарэнне — рэдактара часопіса зарэзала! Ды што, з-за гэтага часопіс закрыецца, ці што? Што рабіць: чалавек смяротны, і, як справядліва было сказана, смерць заўсёды раптоўная. Ну, царства яму нябеснае! Ну, будзе другі рэдактар і нават, магчыма, яшчэ большы гаварун за папярэдняга.

Пасля сну Іван новы з'едліва спытаўся ў старога Івана:

— І хто ж тады я выходзіць?

— Дурань! — выразна прамовіў недзе бас, які не належаў ніводнаму з Іванаў і вельмі ж быў падобны на кансультантаў.

Іван чамусьці не пакрыўдзіўся з-за «дурня», гэта яго нават прыемна ўразіла, усміхнуўся спрасонку і заціх. Сон падкрадваўся да Івана, і ўжо прымроілася яму і пальма на слановай назе, і кот прайшоў паблізу — не страшны, а вясёлы, адным словам, вось-вось накрые сон Івана, як раптам рашотка паехала ўбок без адзінага гуку, і на балконе ўзнікла таямнічая постаць, якая хавалася ад месячнага святла, і паківала Івану пальцам.

Іван зусім не спалохаўся, прыўстаў на ложку і ўбачыў, што на балконе знаходзіцца мужчына. І гэты мужчына прытуліў палец да губ і прашаптаў:

— Ціха!

## Раздзел 12

### ЧОРНАЯ МАГІЯ І ЯЕ ВЫКРЫЦЦЁ

Маленькі чалавек у дзіравым жоўтым кацялку і з падобным на грушу чырвоным носам, у клятчастых штанах і лакіраваных чаравіках выехаў на сцэну Вар'етэ на звычайным двухколавым веласіпедзе. Пад гукі факстрота ён праехаў укруга, а потым раптоўна ўскрыкнуў, ад чаго веласіпед устаў на дыбкі. Чалавек, праехаўшы на адным коле, стаў угору нагамі, умудрыўся на хаду адкруціць пярэдняе кола і пакаціць яго за кулісы, а потым працягваў ехаць на адным коле і круціў педалі рукамі.

На высокай металічнай мачце з сядлом наверсе і на адным коле выехала поўная бландзінка ў трыко і ў спаднічцы, усеянай бліскучымі срэбнымі зорачкамі, і пачала ездзіць укруга. Сустракаючыся з ёю, чалавек прывітальна ўскрыкваў і нагою здымаў з галавы кацялок.

Нарэшце выехаў малы гадоў васьмі са старэчым тварам, пачаў ныраць паміж дарослымі на маленькім двухколавіку з вялізным аўтамабільным сігналам.

Кампанія закруціла некалькі петляў, пад трывожны грукат барабана падляцела да самага краёчка сцэны, і гледачы на першых радах аж вухнулі і адхіснуліся, таму што публіцы здалося, што ўся тройка разам са сваімі веласіпедамі рухне на аркестр.

Але веласіпедысты спыніліся якраз у тое імгненне, калі пярэднія колы гатовы былі ўжо зляцець у пустату над галовамі ў музыкантаў. Веласіпедысты моцна крыкнулі «Ап!», саскочылі з машын і пачалі кланяцца, бландзінка пасылала

публіцы паветраныя пацалункі, а малы смешна сігналіў сваім аўтамабільным гудком.

Воплескі скаланулі будынак, блакітная заслона паплыла з абодвух бакоў і закрыла веласіпедыстаў, зялёныя агні з надпісам: «Выхад» над дзвярыма патухлі, а ў павуціне трапецый пад самым купалам, як сонцы, запаліліся белыя шары. Пачаўся антракт перад апошнім аддзяленнем.

Адзіным чалавекам, якога ніяк не цікавілі дзівосы веласіпеднай тэхнікі сям'і Джулі, быў Рыгор Данілавіч Рымскі. У абсалютнай адзіноце ён сядзеў у сваім кабінеце, кусаў тонкія губы і па яго твары час ад часу прабягала сутарга. Да незвычайнага знікнення Ліхадзеева дадалася зусім нечаканая прапажа і адміністратара Варэнухі.

Рымскі ведаў, куды ён пайшоў, але ён пайшоў і... не вярнуўся назад! Рымскі паціскаў плячыма і шаптаў сам сабе:

— Але за што?!

І дзіва дзіўнае: такому дзелавому чалавеку, як фіндырэктар, прасцей за ўсё было пазваніць туды, куды накіроўваў Варэнуху, і даведацца, што з ім здарылася, а між тым да дзесяці гадзін вечара ён не мог прымусіць сябе зрабіць гэта.

У дзесяць, лічыце, згвалтаваўшы сябе, Рымскі зняў трубку і пераканаўся, што тэлефон яго мёртвы. Кур'ер далажыў, што і астатнія апараты ў будынку сапсаваліся. Гэтае непрыемнае, але не звышнатуральнае здарэнне зусім дакапала дырэктара і адначасова ўзрадавала: адпала патрэба званіць. У гэты час над галавой у дырэктара ўспыхнула і заміргала чырвоная лямпачка, паведаміла, што пачаўся антракт, увайшоў кур'ер і папярэдзіў, што прыехаў замежны артыст. Фіндырэктара чамусьці аж скаланула ўсяго, ён пацямнеў з твару, як навальнічная хмара, і накіраваўся за кулісы сустракаць гастралёра, бо больш не было каму сустракаць.

У вялікую прыборную з калідора, дзе ўжо траршчалі сігнальныя званкі, знаходзілі прычыну зазірнуць занадта цікаўныя. Тут былі фокуснікі ў яркіх халатах і ў чалме на галовах, канькабежцы ў белых вязаных куртках, бледны ад пудры расказчык і грымёр.

Знакамітасць уразіла ўсіх сваім неверагодна доўгім фракам дзіўнага крою і тым, што з'явілася ў чорнай паўмасцы. Але яшчэ дзіўнейшыя былі спадарожнікі ў чорнага мага: доўгі клятчасты з пабітым пенснэ і чорны тлусты кот, які зайшоў у грымёрную на задніх лапах, зусім па-свойску сеў

на канапу і прыплюшчыўся на аголеныя грыміравальныя лампіёны.

Рымскі пастараўся напусціць на твар усмешку, але твар ад гэтага стаў кіслы і злосны, пакланіўся маўкліваму магу, які сядзеў побач з катом на канапе. Поціску рук не было. Затое бесцырымонны клятчасты сам назваўся, сказаў пра сябе «іхні памочнік». Гэта здзівіла фіндырэктара, і зноў непрыемна: у кантракце нават і ўпамінання не было ні пра якога памочніка.

Даволі вымушана і суха Рыгор Данілавіч папытаўся ў клятчастага, які навязаўся яму на галаву, пра тое, дзе апаратура артыста.

— Алмаз вы наш нябесны, найшаноўнейшы пан дырэктар,— трэснутым голасам адказаў памочнік мага,— наша апаратура заўсёды з намі. Вось яна! Эйн, цвэй, дрэй! — і пакруціў перад вачыма Рымскага вузлаватымі пальцамі, нечакана выцягнуў з-за вуха ў ката ўласны Рымскага залаты гадзіннік на ланцужку, які дагэтуль быў у фіндырэктаравай кішэні ў камізэльцы пад зашпіленым пінжаком і з ланцужком, прадзетым у пятліцу.

Рымскі міжволі ўхапіўся за жывот, прысутныя ахнулі, а грымёр, які зазіраў у дзверы, адабральна кашлянуў.

— Ваш гадзіннічак? Прашу атрымаць,— нахабна ўсміхаўся клятчасты і на бруднай растапыранай далоні падаў разгубленаму Рымскаму яго дабро.

— З такім у трамвай не садзіся,— ціха і весела шапнуў расказчык грымёру.

Але кот выкінуў штуку не раўня нумару з чужым гадзіннікам. Ён нечакана ўстаў з канапы, на задніх лапах падышоў да падлюстранага століка, пярэдняй лапай дастаў корак з графіна, наліў вады ў шклянку, выпіў яе, паставіў корак на месца і грыміравальнаю анучкаю выцер вусы.

Ніхто нават і не ахнуў, толькі раты разявілі, а грымёр у захапленні шапнуў:

— Вось дык клас!

Тут трэці раз трывожна загрымелі званкі, і ўсе ўзбуджаныя, у прадчуванні цікавага нумара, павалілі з грымёрнае.

Праз хвіліну ў глядзельнай зале патухлі шары, успыхнула і дала чырвоны водсвет на ніз заслоны рампа, і ў асветленай шчыліне заслоны паўстаў перад публікай поўны, вясёлы, як дзіця, чалавек з паголеным тварам, у пакамечаным фраку і ў нясвежай рубашцы. Гэта быў добра вядомы ўсёй Маскве канферансье Жорж Бенгальскі.

— Ну вось, грамадзяне,— загаварыў Бенгальскі і ўсміх-

нуўся дзіцячаю ўсмешкаю,— зараз перад вамі выступіць...— тут Бенгальскі сціх на імгненне і загаварыў з другой інтанацыяй: — Я бачу, што колькасць публікі на трэцяе аддзяленне яшчэ больш павялічылася. У нас сёння палавіна горада! Неяк на днях сустракаю я прыяцеля і гавару яму: «Чаму не заходзіш да нас? Учора ў нас была палавіна горада». А ён мне адказвае: «А я жыву ў другой палавіне!» — Бенгальскі вытрымаў паузу, чакаў выбуху смеху, але ніхто не засмяяўся, і ён працягваў: — ...Такім чынам, выступіць вядомы замежны артыст мсье Воланд з сеансам чорнае магіі! Але мы ж з вамі разумеем,— тут Бенгальскі мудра ўсміхнуўся,— што яе наогул не існуе на свеце і што яна не што іншае, як забабоны, а проста мсье Воланд у высокай ступені валодае тэхнікай фокусаў, што і будзе відаць з самае цікавае часткі, гэта значыць выкрыцця гэтай тэхнікі, а ўлічваючы тое, што мы ўсе як адзін і за тэхніку, і за яе выкрыццё, то папросім пана Воланда!

Пасля таго як сказаў усё гэтае глупства, Бенгальскі сашчапіў абедзве рукі далонь да далоні і прывітальна замахаў імі ў расхіл заслоны, і той з ціхім пошумам разышоўся ў бакі.

Выхад мага з яго рослым памочнікам і катом, які выйшаў на сцэну на задніх лапах, вельмі спадабаўся публіцы.

— Крэсла мне,— ціха загадаў Воланд, і імгненна, невядома як і адкуль, на сцэне з'явілася крэсла, на якое сеў маг,— скажы мне, шаноўны Фагот,— спытаўся Воланд у клятчастага гаера, які, відаць, меў і іншую назву акрамя «Кароўева»,— як па-твойму, маскоўскае насельніцтва значна змянілася?

Маг паглядзеў на прыціхлую, ураженую з'яўленнем крэсла публіку.

— Вельмі, месір,— ціха адказаў Фагот-Кароўеў.

— Твая праўда. Гараджане моцна пераменіліся, знешне, я кажу, як і сам горад, між іншым. Пра касцюмы нават і гаворкі няма, але з'явіліся гэтыя... як іх... трамваі, аўтамабілі...

— Аўтобусы,— пачціва падказаў Фагот.

Публіка ўважліва слухала размову, меркавала, што гэта прэлюдыя да магічных фокусаў. Кулісы былі забітыя артыстамі і рабочымі сцэны, і між іх відаць быў напружаны, белы твар Рымскага.

На фізіяноміі Бенгальскага, які прытуліўся з боку сцэны, з'явілася недаўменне. Ён ледзь-ледзь прыўзняў бровы, выкарыстаў паўзу і загаварыў:

— Замежны артыст выказвае сваё захапленне Масквою, якая значна вырасла ў тэхнічных адносінах, а таксама і масквічамі,— тут Бенгальскі двойчы ўсміхнуўся, спачатку партэру, потым галерэі.

Воланд, Фагот і кот павярнулі галовы да канферансье.

— Хіба я выказваў захапленне? — спытаў маг у Фагота.

— Зусім не, месір, вы ніякага захаплення не выказвалі,— адказаў той.

— Дык што ж гаворыць гэты чалавек?

— Ён проста схлусіў! — гучна, на ўвесь тэатр паведаміў клятчасты памочнік, завярнуўся да Бенгальскага і дадаў: — Віншую вас, грамадзянін хлус!

З галерэі шумнула смехам, а Бенгальскі скалануўся і вылупіў вочы.

— Але мяне, вядома, не гэтак цікавяць аўтобусы, тэлефоны і іншая...

— Апаратура! — падказаў клятчасты.

— Правільна, дзякуй,— паволі гаварыў маг цяжкім басам,— яшчэ больш значнае пытанне: ці змяніліся гэтыя гараджане ўнутрана?

— Ага, гэта важнейшае пытанне, месір.

У кулісах пачалі пераглядацца і паціскаць плячыма, Бенгальскі стаў чырвоны, а Рымскі быў белы. Але тут, быццам бы адгадаўшы трывогу, якая пачыналася, маг сказаў:

— Аднак мы загаварыліся, дарагі Фагот, а публіка пачынае сумаваць. Пакажы нам на пачатак што-небудзь просценькае.

Зала з палёгкаю заварушылася. Фагот і кот разышліся ў розныя бакі рампы. Фагот пстрыкнуў пальцамі і заліхвацка крыкнуў:

— Тры, чатыры! — злавіў у паветры калоду карт, låтасаваў яе і стужкаю пусціў да ката. Кот стужку перахапіў і адправіў назад. Атласная змяя фыркнула, Фагот разявіў рот, і ўсю яе, карта за картаю, праглынуў.

Пасля гэтага кот пакланіўся, шаркануў праваю задняю лапаю і выклікаў неверагодныя апладысменты.

— Клас, клас! — у захапленні крычалі за кулісамі.

А Фагот тыцнуў пальцам у партэр і аб'явіў:

— Калода гэтая цяперака, паважаныя грамадзяне, знаходзіцца ў сёмым радзе ў грамадзяніна Парчэўскага, якраз між траячкаю і павесткай аб выкліку ў суд за нявыплату аліментаў грамадзянцы Зяльковай.

У партэры зашавяліліся, пачалі прыўставаць, і, нарэшце, нейкі грамадзянін, у якога і сапраўды прозвішча было Парчэўскі, увесь чырвоны ад здзіўлення, дастаў з бумажніка калоду карт і пачаў тыцкаць ёю ў паветра, бо не ведаў, што трэба рабіць.

— Няхай яна застанецца вам на памяць! — крыкнуў Фагот.— Нездарма ж вы гаварылі ўчора, вячэраючы, што каб не покер, то ваша жыццё ў Маскве было б зусім пакутаю.

— Старыя штучкі,— пачулася з галёркі,— гэты ў партэры з тае ж самае кампаніі.

— Вы гэтак думаеце? — закрычаў Фагот і прыплюшчыўся на галерэю.— У такім выпадку і вы з намі ў адной шайцы, таму што яны ў вас у кішэні!

На галёрцы адбыўся рух, і пачуўся радасны голас:

— Праўда! У яго! Тут, тут... Стой! Ды гэта ж чырвонцы!

Тыя, хто сядзеў у партэры, завярнулі галовы. На галерэі нейкі збянтэжаны грамадзянін знайшоў у сваёй кішэні пачак перакрыжаваны па-банкаўску і з надпісам на абкладцы: «Адна тысяча рублёў».

Суседзі навaліліся на яго, а ён здзіўлена падкалупліваў пальцам упакоўку, стараўся даведацца, сапраўдныя гэта чырвонцы ці чараўнічыя.

— Дальбог, сапраўдныя! Чырвонцы! — крычалі радасна з галёркі.

— Згуляйце і са мною ў такую калоду,— весела папрасіў нейкі таўстун з сярэдзіны партэра.

— Авек плезір! — адазваўся Фагот.— Але чаму з адным вамі? Усе прымуць актыўны ўдзел! — і скамандаваў: — Прашу глядзець угору!.. Раз!..— у руцэ ў яго аказаўся пісталет, ён крыкнуў: — Два! — Пісталет падняўся ўгору. Ён крыкнуў: — Тры! — бліснула, бабахнула, і адразу ж з-пад купала, ныраючы між трапецый, пачалі падаць у залу белыя паперкі.

Яны кружыліся, іх разносіла ў бакі, забівала на галерэю, адкідвала ў аркестр і на сцэну. Праз некалькі секунд грашовы дождж дасягнуў крэслаў, пагусцеў, і гледачы пачалі яго лавіць.

Падымаліся сотні рук, гледачы скрозь паперкі глядзелі на асветленую сцэну і бачылі самыя сапраўдныя і дакладныя вадзяныя знакі. Пах таксама не пакідаў ніякага сумнення: гэта быў ні з чым не параўнальны па водары пах толькі што аддрукаваных грошай. Спачатку весялосць, а потым здзіўленне апанавала ўвесь тэатр. Скрозь гудзелі словы «чырвонцы, чырвонцы», чуліся ўсклікі «ах, ах!» і вясёлы смех. Сёй-

той ужо поўзаў па праходзе, шукаў пад крэсламі. Многія пасталі на крэслы, лавілі віхлястыя, капрызныя паперкі.

На тварах у міліцыі пакрысе пачало з'яўляцца здзіўленне, а артысты бесцырымонна палезлі з-за кулісаў.

У бельэтажы пачуліся крыкі: «Ты чаго хапаеш? Гэта мая! Да мяне ляцела!» і другі голас: «Ды ты не папіхайся, я цябе сам як піхану!» І раптам пачулася аплявуха. Адразу ж у бельэтажы з'явіўся міліцэйскі шлем, і з бельэтажа некага павялі.

Наогул узбуджанасць расла, і невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б Фагот не спыніў грашовы дождж, дзьмухнуўшы ў паветра.

Два маладыя чалавекі шматзначна пераглянуліся, усталі і праменька пакіравалі ў буфет. У тэатры стаяў гул, ва ўсіх гледачоў узбуджана блішчалі вочы. Так, так, невядома, у што б усё гэта вылілася, калі б Бенгальскі не сабраў у сабе сілы і не паварушыўся. Стараючыся мацней авалодаць сабой, ён прывычна пацёр рукі і як мог гучным голасам загаварыў:

— Вось, грамадзяне, мы з вамі бачылі выпадак гэтак званага масавага гіпнозу. Чыста навуковы вопыт, які як найлепш даказвае, што ніякіх дзівосаў і магіі не існуе. Папросім маэстра Воланда раскрыць нам гэты вопыт. Зараз, грамадзяне, вы ўбачыце, што гэтыя быццам бы грашовыя паперкі знікнуць гэтак жа раптоўна, як і з'явіліся.

Тут ён пачаў апладзіраваць зусім адзін, і на твары ў яго ў гэты час свяцілася ўпэўненая ўсмешка, але ў вачах упэўненасці не было, у іх хутчэй свяцілася просьба.

Публіцы гаворка Бенгальскага не спадабалася. Настала агульнае маўчанне, якое перапыніў клятчасты Фагот:

— Гэта зноў выпадак гэтак званае хлусні,— аб'явіў ён моцным казліным тэнарам,— паперкі, грамадзяне, сапраўдныя.

— Брава! — коратка раўнуў бас недзе ў глыбіні залы.

— Між іншым, гэты,— тут Фагот паказаў на Бенгальскага,— мне збрыдзеў. Лезе ўвесь час туды, куды яго не просяць, хлуслівымі заўвагамі псуе сеанс! Што б гэта нам такое з ім зрабіць?

— Голаў яму адарваць! — сказаў нехта сурова з галёркі.

— Што вы сказалі? Ась? — адразу ж адгукнуўся на гэтую дзікую прапанову Фагот.— Галаву адарваць? Гэта ідэя! Бегемот,— закрычаў ён кату,— рабі! Эйн, цвэй, дрэй!!!

І здарылася нечуванае. Шэрсць на чорным кату ўстала

дыбам, ён мяўкнуў гэтак, што душу распаласавала. Потым сцяўся ў камяк і, як пантэра, скочыў проста на грудзі Бенгальскаму, а адтуль пераскочыў на галаву. З вуркатаннем пухлымі лапамі кот учапіўся ў рэдзенькую шавялюру канферансье, дзіка завыў і за два павароты адарваў галаву ад таўставатае шыі.

Дзве з палавінаю тысячы чалавек у тэатры ўскрыкнулі ў адзін голас. Кроў фантанамі з разарваных артэрый на шыі ўдарыла ўгору і абліла манішку і фрак. Безгаловае тулава недарэчна загрэбала нагамі і села на падлогу. У зале пачуліся істэрычныя жаночыя крыкі. Кот перадаў галаву Фаготу, той за валасы падняў яе і паказаў публіцы, і галава гэтая адчайна крыкнула на ўвесь тэатр:

— Доктара!

— Ты будзеш і далей гаварыць усякае глупства? — грозна спытаўся Фагот у галавы, якая плакала.

— Не буду болей! — прахрыпела галава.

— Злітуйцеся, не мучце яе! — раптам, перакрыўшы шум у зале, пачуўся з залы жаночы голас, і маг павярнуў твар на гэты голас.

— Дык што ж, грамадзяне, даравайць яму, ці як? — спытаўся Фагот у залы.

— Даравацы! Даравацы! — пачуліся спачатку адзіночныя і пераважна жаночыя галасы, а потым яны зліліся ў адзін хор з мужчынскімі.

— Як загадаеце, месір? — спытаўся Фагот у замаскіраванага.

— Ну што ж,— задуменна адгукнуўся той,— яны — людзі як людзі. Любяць грошы, але ж гэта заўсёды было... Чалавецтва любіць грошы, з чаго б яны не былі зроблены — са скуры, з паперы, з бронзы альбо з золата. Ну, легкадумныя... ну, што ж... і літасцівасць часам кранае іх сэрца... звычайныя людзі... увогуле нагадваюць ранейшых... кватэрнае пытанне толькі сапсавала іх...— і гучна загадаў: — Надзеньце галаву.

Кот прымеркаваўся і акуратна ўздзеў галаву на шыю, і яна дакладна села на сваё месца, быццам ніколі і не здымалася. І галоўнае, што нават ніякага і шрама не засталося. Кот лапамі абмахнуў фрак і пластрон, і з іх зляцеў след крыві. Фагот падняў Бенгальскага, які ўсё сядзеў на падлозе, на ногі, сунуў яму ў кішэню пачак чырвонцаў і адправіў са сцэны:

— Каціцеся адсюль! Без вас тут весялей.

Няўцямна азіраючыся і хістаючыся, канферансье дай-

шоў толькі да пажарнага паста, і раптам яму стала дрэнна. Ён жаласліва ўскрыкнуў:

— Галава мая, галава!

Разам з усімі да яго кінуўся і Рымскі. Канферансье плакаў, лавіў нешта ў паветры, мармытаў:

— Аддайце мне маю галаву! Галаву аддайце! Кватэру забярыце, карціны забярыце, толькі галаву аддайце!

Кур'ер пабег па доктара. Бенгальскага спрабавалі пакласці на канапу, але ён пачаў адбівацца, разбуяніўся. Давялося выклікаць карэту. Калі няшчаснага канферансье забралі, Рымскі пабег назад на сцэну і ўбачыў, што на ёй адбываюцца новыя дзівосы. Дарэчы, у гэты час ці крышку раней, але маг разам са сваім вылінялым крэслам знік са сцэны, варта адзначыць, што публіка зусім гэтага не заўважыла, захопленая тым незвычайным відовішчам, якое разгарнуў на сцэне Фагот.

А Фагот, пасля таго як пазбавіўся ад няшчаснага канферансье, аб'явіў публіцы такое:

— Цяперака, калі гэтага назолу сплавілі, давайце адчынім дамскі магазін!

І адразу падлога сцэны пакрылася персідскімі дыванамі, узніклі вялізныя люстры, з бакоў асветленыя зеленаватымі трубкамі, а паміж люстрамі вітрыны, у іх гледачы ўбачылі з вясёлым ашаламленнем рознага колеру і фасону жаночыя сукенкі. Гэта ў адных вітрынах, а ў другіх з'явіліся сотні капялюшыкаў і з пёркамі і без пёрак, і са спражкамі і без іх, сотні туфляў — чорных, белых, жоўтых, скураных, атласных, замшавых, і з раменьчыкамі, і з каменьчыкамі. Паміж туфляў з'явіліся футаралы, а ў іх заззялі святлом бліскучыя грані крыштальных флаконаў. Горы сумачак са скуры антылопаў, замшавых, шаўковых, а паміж імі цэлыя кучы чаканных залатых прадаўгаватых футаральчыкаў, у якіх звычайна бывае губная памада.

Чортведама адкуль узялася рыжая дзяўчуля ў вячэрнім уборы, з усіх бакоў спраўная дзяўчуля, каб не псаваў яе толькі дзіўны шрам на шыі, заўсміхалася ля вітрын усмешкаю гаспадыні.

Фагот з салодкаю ўхмылкаю аб'явіў, што фірма зусім бясплатна мяняе старыя жаночыя сукенкі і абутак на парыжскія мадэлі і парыжскі абутак. Гэтае ж самае ён дадаў і ў дачыненні сумачак, духоў і ўсяго астатняга.

Кот пачаў расшаркваццa задняю лапаю, пярэдняй адначасна выкручваў нейкія жэсты, падобныя да жэстаў швейцара, які адчыняе дзверы.

Дзявуля хоць і хрыплавата, але соладка заспявала, крышку картава, нешта мала зразумелае, але, мяркуючы па жаночых тварах, надта спакусліваe:

— Герлен, Шанэль нумар пяць, Міцука, Нарсіс Нуар, вячэрнія сукенкі, сукенкі кактэйль...

Фагот выгінаўся, кот кланяўся, дзявуля адчыняла шкляныя вітрыны.

— Прашу! — крычаў Фагот.— Без усякага сораму і аглядкі!

Публіка хвалявалася, але ісці на сцэну пакуль што ніхто не адважваўся. Нарэшце нейкая брунетка выйшла з дзесятага рада, а ў партэры ўсміхнулася гэтак, што ёй, маўляў, усё дазволена і на ўсё напляваць, прайшла па бакавым трапе, узышла на сцэну.

— Брава! — закрычаў Фагот.— Вітаю першую наведвальніцу! Бегемот, крэсла! Пачнём з абутку, мадам.

Брунетка села на крэсла, і Фагот адразу вывернуў перад ёй цэлую кучу туфляў.

Брунетка зняла свой правы туфель, памерала бэзавы, патупала аб дыван, агледзела абцас.

— А ціснуць не будуць? — задумліва спыталася яна.

У адказ Фагот пакрыўджана ўсклікнуў:

— Што вы, што вы! — а кот ад крыўды нават мяўкнуў.

— Я бяру гэтую пару, масье,— сказала брунетка з гонарам і абула другі туфель.

Старыя туфлі брунеткі былі выкінуты за фіранку, туды пайшла і сама яна ў суправаджэнні рыжае дзявулі і Фагота, які нёс на плечках некалькі мадэльных сукенак. Кот мітусіўся, дапамагаў і каб выглядаць салідней, пачапіў сабе на шыю кравецкі метр.

Праз хвіліну з-за фіранкі выйшла брунетка ў такой сукенцы, што ўвесь партэр аж уздыхнуў. Смелая жанчына, якая надзіва папрыгажэла, спынілася ля люстра, павяла агодзенымі плячыма, папраўіла валасы на патыліцы і выгнулася, стараючыся зірнуць сабе на спіну.

— Фірма просіць вас узяць гэта на памяць,— сказаў Фагот і падаў брунетцы адчынены футарал з флаконам.

— Мерсі,— ганарліва адказала брунетка і пайшла па трапе ў партэр. Пакуль яна ішла, гледачы ўсхопліваліся, мацалі за футарал.

І тады прарвала ўшчэнт, і з усіх бакоў на сцэну пайшлі жанчыны. У агульнай узбуджанай гамане, усмешачках, уздыхах пачуўся мужчынскі голас: «Я не дазваляю табе!» —

і жаночы: «Дэспат і мешчанін, не выкручвай мне руку!» Жанчыны знікалі за фіранкай, пакідалі там свае сукенкі і выходзілі ў новых. На табурэтачках з пазалочанымі ножкамі сядзеў цэлы рад і энергічна тупаў абутымі нагамі. Фагот станавіўся на калені, дапамагаў ражком, кот знясільваўся, носячы горы сумачак і туфляў, снаваў ад вітрыны да табурэтак, дзявуля з пакалечанай шыяй то з'яўлялася, то знікала і дайшла да таго, што зусім пачала тарабаніць па-французску, і дзіўна было, што яе з паўслова разумелі ўсе жанчыны, нават тыя, хто не ведаў ніводнага французскага слова.

Агульнае здзіўленне выклікаў мужчына, які таксама ўзбіўся на сцэну. Ён аб'явіў, што ў яго жонкі грып, і таму ён просіць перадаць што-небудзь. А каб даказаць, што ён і сапраўды жанаты, мужчына гатоў быў паказаць пашпарт. Заява клапатлівага мужа была сустрэта агульным рогатам, Фагот закрычаў, што верыць яму, як і самому сабе, і без пашпарта, і ўручыў грамадзяніну дзве пары шаўковых панчох, кот ад сябе дадаў футаральчык з памадай.

Жанчыны, якія спазніліся, рваліся на сцэну, са сцэны плылі шчаслівыя ў бальных сукенках, у піжамах з драконамі, у строгіх візітных касцюмах, у капялюшыках, насунутых на адно брыво.

Тады Фагот аб'явіў, што з-за позняга часу магазін зачыняецца да заўтрашняга вечара роўна праз адну хвіліну, і неверагодная мітусня ўсчалася на сцэне. Жанчыны хуценька, без усякае прымеркі хапалі туфлі. Адна, як бура, уварвалася за фіранку, скінула там сваё адзенне, ухапіла першае, што толькі трапіла пад руку,— шаўковы, у вялізныя букеты халат і, акрамя таго, успела ўхапіць два футаралы з духамі.

Роўна праз хвіліну пачуўся пісталетны стрэл, люстры зніклі, прапалі вітрыны і табурэткі, дыван растаў у паветры гэтаксама, як і фіранка. Апошняй знікла вялікая куча старых сукенак і абутку, і зрабілася сцэна зноў строгая, парожняя і голая.

І тут у падзеі ўмяшалася новая дзеючая асоба.

Прыемны, моцны і настойлівы барытон пачуўся з ложы № 2:

— Усё ж пажадана, грамадзянін артыст, каб вы зараз жа раскрылі перад гледачамі тэхніку вашых фокусаў, асабліва фокуса з грашыма. Пажадана таксама вярнуць на сцэну канферансье. Лёс яго хвалюе гледачоў.

Барытон належаў не каму-небудзь, а паважанаму госцю

сённяшняга вечара Аркадзію Апалонавічу Семпляраву, старшыні акустычнай камісіі маскоўскіх тэатраў.

Аркадзій Апалонавіч размяшчаўся ў ложы з дзвюма жанчынамі: пажылою, дорага і модна апранутаю, і другой — маладзенькаю і прыгожанькаю, апранутай прасцей. Першая з іх, як потым высветлілася ў час складання пратакола, была жонка Аркадзія Апалонавіча, а другая — далёкая сваячка яго, пачынаючая і падаючая спадзяванні артыстка, якая прыехала з Саратава і жыла на кватэры ў Аркадзія Апалонавіча і яго жонкі.

— Пардон! — адазваўся Фагот.— Я прашу прабачэння, але тут няма чаго раскрываць, тут усё ясна.

— Не, выбачайце! Выкрыццё патрэбна абавязкова. Без яго вашы бліскучыя нумары пакідаюць гнятлівае ўражанне. Глядацкая маса патрабуе выкрыцця.

— Глядацкая маса,— перапыніў Семплярава нахабны гаер,— як быццам нічога не гаварыла? Але, улічваючы ваша глыбокапаважанае жаданне, Аркадзій Апалонавіч, я, няхай будзе па-вашаму, зраблю выкрыццё. Але для гэтага дазвольце яшчэ адзін маленькі нумарок.

— Калі ласка,— велікадушна адказаў Аркадзій Апалонавіч,— але абавязкова з выкрыццём!

— Слухаюся, слухаюся. Тады дазвольце запытацца ў вас, дзе вы былі ўчора вечарам, Аркадзій Апалонавіч?

У час гэтага зусім непатрэбнага і хамскага пытання твар у Аркадзія Апалонавіча змяніўся, і вельмі моцна змяніўся.

— Аркадзій Апалонавіч учора вечарам быў на паседжанні акустычнай камісіі,— даволі пагардліва сказала жонка Аркадзія Апалонавіча,— але я не разумею, якія адносіны гэта мае да магіі.

— Вой, мадам! — пацвердзіў Фагот.— Натуральна, вы не разумееце. А наконт паседжання вы цалкам памыляецеся. Выехаўшы на тое паседжанне, якое, дарэчы, учора і не намячалася, Аркадзій Апалонавіч адпусціў свайго шафёра ля будынка акустычнай камісіі на Чыстых сажалках (увесь тэатр заціх), а сам у аўтобусе паехаў на Ялохаўскую вуліцу ў госці да артысткі раз'язнога раённага тэатра Міліцы Андрэеўны Пакабацька і правёў у яе ў гасцях каля чатырох гадзін.

— Вой,— пакутліва ўскрыкнуў нехта ў поўнай цішыні.

Маладая ж сваячка Аркадзія Апалонавіча засмяялася глухім і страшным смехам.

— Усё зразумела! — ускрыкнула яна.— І я даўно ўжо падазравала гэта. Цяпер мне зразумела, чаму гэта бездар атрымала ролю Луізы!

І неспадзявана замахнулася кароткім і тоўстым ліловым парасонам і ўдарыла Аркадзія Апалонавіча па галаве.

Нягоднік Фагот, ён жа і Кароўеў, крыкнуў:

— Вось, паважаныя грамадзяне, адзін з выпадкаў выкрыцця, якога гэтак назойліва дабіваўся Аркадзій Апалонавіч!

— Як магла ты, нягодніца, закрануць Аркадзія Апалонавіча? — грозна спыталася жонка Аркадзія Апалонавіча і ўстала ў ложы на ўвесь свой гіганцкі рост.

Другі кароткі прыступ сатанінскага смеху авалодаў маладой сваячкаю.

— Ужо хто-хто,— адказала тая з рогатам,— а я магу зачапіць! — і другі раз пачуўся сухі трэск парасона, які адскочыў ад галавы Аркадзія Апалонавіча.

— Міліцыя! Узяць яе! — гэтакім страшным голасам пратрубіла жонка Семпляярава, што ў многіх пахаладзела сэрца.

А тут яшчэ кот выскачыў да рампы і раўнуў на ўвесь тэатр чалавечым голасам:

— Сеанс скончаны! Маэстра! Урэжце марша!

Ашалелы дырыжор, не разбіраючыся, што робіць, узмахнуў палачкаю, і аркестр не заіграў, і нават не грымнуў, і нават не хватануў, а менавіта, адпаведна мярзотнаму пажаданню ката, урэзаў нейкі неверагодны, ні з чым не параўнальны па разбэшчанасці марш.

На нейкае імгненне здалося, што быццам чуваць сталі колішнія, пад зоркамі паўднёвымі, у кафэшантане, нейкія малазразумелыя, паўсляпыя, але разгульныя словы з гэтага марша:

Его превосходительство
Любил домашних птиц
И брал под покровительство
Хорошеньких девиц!!!

А магчыма, і не было ніякіх гэтакіх слоў, а былі іншыя, на гэтую ж самую музыку, зусім непрыстойныя. Галоўнае не гэта, а тое, што ў Вар'етэ пасля пачалося нейкае стоўпатварэнне вавілонскае. Да семпляяраўскае ложы бегла міліцыя, на бар'ер лезлі цікаўныя, чуліся страшэнныя выбухі рогату, шалёныя крыкі, якія глушыў залаты звон аркестравых талерак.

І відаць было, што сцэна раптоўна апусцела і што ашуканец Фагот і нахабны каціла Бегемот растралі ў паветры, зніклі, як знік раней маг у крэсле з вылінялаю абіўкаю.

## Раздзел 13

### З'ЯЎЛЕННЕ ГЕРОЯ

Дык вось, невядомы паківаў Івану пальцам і прашаптаў: «Ціха!»

Іван звесіў ногі з ложка і прыгледзеўся. З балкона асцярожна зазіраў у пакой паголены, цёмнавалосы, з вострым носам, устрывожанымі вачыма і са звешанай на лоб пасмай валасоў чалавек прыкладна гадоў трыццаці васьмі.

Пераканаўшыся, што Іван адзін, і прыслухаўшыся, таямнічы наведвальнік асмялеў і ўвайшоў у пакой. Тут Іван убачыў, што прышэлец апрануты ў бальнічнае. На ім была бялізна, чаравікі на босую нагу, на плечы накінуты руды халат.

Прышэлец падміргнуў Івану, схаваў у кішэню звязак ключоў, шэптам спытаўся: «Можна прысесці?» — атрымаў згоду кіўком галавы і ўмасціўся ў крэсла.

— Як вы сюды трапілі? — падпарадкуючыся знаку сухога пальца, шэптам спытаўся Іван.— На балконных рашотках замкі.

— Рашоткі на замках,— пацвердзіў госць,— ды Праскоўя Фёдараўна,— добры, але няўважлівы чалавек. Я ўкраў у яе месяц таму звязак ключоў і такім чынам атрымаў магчымасць выходзіць на агульны балкон, а ён ідзе вакол усяго будынка, і цяпер я магу наведваць суседзяў.

— Калі вы можаце выходзіць на балкон, то вы можаце і ўцячы. Ці высока? — пацікавіўся Іван.

— Не, я не магу ўцячы адсюль не таму, што высока, а таму, што мне ўцякаць зусім няма куды.— І пасля паўзы ён дадаў: — Значыць, сядзім!

— Сядзім,— адказаў Іван, узіраючыся ў карычневыя, надта неспакойныя прышэльцавы вочы.

— Ага...— тут госць раптам затрывожыўся,— але вы, спадзяюся, не буйны? А? Бо я, ведаеце, не люблю шуму, барацьбы, гвалту і астатняга ў гэтым родзе. Асабліва ненавісны мне людскі крык, ці гэта крык ад пакут, злосці, ці нейкі іншы крык. Супакойце мяне, скажыце, што вы не буйны?

— Учора ў рэстаране я аднаму тыпу ў морду засвяціў,— мужна прызнаўся паэт.

— За што? — строга спытаў госць.

— Калі шчыра, то і без прычыны,— збянтэжана адказаў Іван.

— Непарадак,— асудзіў Івана госць і дадаў: — Акрамя таго, што гэта за слоўцы: у морду засвяціў? Невядома, што ў чалавека, морда ці твар. Мабыць, усё ж твар. Таму, ведаеце, кулакамі... Не, гэта вы кіньце раз і назаўсёды.

Госць пасварыўся на Івана такім чынам і спытаў:

— Прафесія?

— Паэт,— чамусьці неахвотна прызнаўся Іван.

Прышэлец засмуціўся.

— Вой, як мне не шанцуе! — усклікнуў ён, але тут жа спахапіўся, папрасіў прабачэння і спытаў: — А як ваша прозвішча?

— Бяздомны.

— Вой, вой...— сказаў госць і паморшчыўся.

— А вам што, мае вершы не падабаюцца? — зацікавіўся Іван.

— Жах, як не падабаюцца.

— А што вы чыталі?

— Ніякіх я вашых вершаў не чытаў! — нервова ўсклікнуў госць.

— Дык чаму ж вы гаворыце?

— Ну, а што тут такога,— адказаў госць,— быццам я іншых не чытаў? Між іншым... Хіба што цуд? Добра, я гатовы паверыць. Добрыя вашы вершы, скажыце самі?

— Пачварныя! — раптам смела і шчыра прызнаўся Іван.

— Не пішыце болей! — папрасіў умольна прышэлец.

— Абяцаю і клянуся! — урачыста прамовіў Іван.

Клятва была замацавана поціскам рук, і ў гэты час у калідоры пачуліся мяккія крокі і галасы.

— Ціха,— прашаптаў госць, выскачыў на балкон і замкнуў за сабою рашотку.

Зазірнула Праскоўя Фёдараўна, спытала, як Іван сябе адчувае і як хоча спаць — у цемры ці са святлом. Іван папрасіў святло пакінуць, і Праскоўя Фёдараўна пайшла, пажадаўшы хвораму спакойнае ночы. І калі ўсё сціхла, зноў вярнуўся госць.

Ён шэптам паведаміў Івану, што ў 119-ты пакой прывезлі новенькага, нейкага таўстуна з чырвоным тварам, які ўвесь час мармыча пра нейкую валюту ў вентыляцыі і клянецца, што ў іх на Садовай пасялілася нячыстая сіла.

— Пушкіна лае, як толькі можа, і ўвесь час крычыць: «Куралесаў, біс, біс!» — гаварыў госць і трывожна перасмыкаўся ўсім целам. Потым супакоіўся і сказаў: — А ўвогуле, бог з ім,— і працягваў гутарку з Іванам: — Дык з-за чаго вы трапілі сюды?

— З-за Понція Пілата,— пахмура паглядзеў долу і адказаў Іван.

— Як?! — забыўшы пра асцярожнасць, крыкнуў госць і закрыў сабе рот рукой.— Неверагоднае супадзенне! Прашу, малю, раскажыце!

Іван чамусьці адчуваў давер да незнаёмага, спачатку нясмела, заікаючыся, а потым упэўнена пачаў расказваць пра ўчарашнюю гісторыю на Патрыярхавых сажалках. Сапраўды, удзячнага слухача займеў Іван Мікалаевіч у асобе таямнічага злодзея ключоў! Госць не рабіў Івана вар'ятам, выказваў вялікую цікаўнасць да расказанага і на працягу апавядання прыйшоў у захапленне. Ён час ад часу перапыняў Івана воклічамі захаплення:

— Ну, ну! Далей, далей, прашу вас. Але толькі дзеля ўсяго самага святога на свеце, не прапускайце нічога!

Іван не прамінаў нічога, яму самому было гэтак лягчэй расказваць, і пакрысе дабраўся да таго імгнення, калі Понцій Пілат у белай мантыі з крывавым падбоем выйшаў на балкон.

Тады госць малітоўна склаў рукі і прашаптаў:

— Во, як я ўгадаў! Во, як я ўсё ўгадаў!

Апісанне жахлівае смерці Берліёза слухач суправадзіў загадкавай заўвагаю, а вочы ў яго злосна ўспыхнулі.

— Аб адным шкадую, што на месцы гэтага Берліёза не было крытыка Латунскага альбо літаратара Мсціслава Лаўровіча,— і адчайна, але ціха ўскрыкнуў: — Далей!

Кот, які плаціў кандуктарцы, надзвычай развесяліў госця, і ён ажно душыўся ад ціхага смеху, глядзеў, як, усхваляваны поспехам свайго расказу, Іван падскокваў на чацьвярэньках, паказваў ката з грыўняй каля вусоў.

— І вось,— пасля таго як расказаў прыгоду ў Грыбаедаве, Іван закончыў сумна і затуманена,— я і апынуўся тут.

Госць спачувальна паклаў руку на плячук беднаму паэту і сказаў:

— Няшчасны паэт! Але вы самі, галубок, ва ўсім вінаваты. Нельга было паводзіць сябе з ім гэтак разбэшчана і нават нахабна. Вось вы і маеце. І трэба сказаць, што з гэтае сітуацыі вы яшчэ добра вырабіліся.

— Ды хто ён, урэшце? — узбуджана патрос кулакамі Іван.

Госць паглядзеў на Івана і адказаў пытаннем:

— А вы не расхвалюецеся? Мы ўсе тут людзі ненадзейныя... Выклікаў доктара, уколаў і рознае турботы не будзе?

— Не! Не! — усклікнуў Іван.— Скажыце, хто ён такі?

— Ну, добра,— адказаў госць і важка і раздзельна прамовіў: — Учора на Патрыярхавых сажалках вы сустрэліся з сатаной.

Іван не расхваляваўся, як і абяцаў, але быў надзвычай уражаны.

— Не можа гэтага быць! Яго не існуе.

— Злітуйцеся! Каму-каму гэта гаварыць, а вам... Вы былі, мабыць, адзін з першых, хто ад яго пацярпеў. Седзіце, як самі разумееце, у псіхіятрычнай бальніцы, а ўсё даўнаеце, што яго няма. Сапраўды, дзіўна гэта!

Збіты з панталыку Іван замоўк.

— Як толькі вы пачалі яго апісваць,— працягваў госць,— я ўжо пачаў здагадвацца, з кім вы ўчора мелі гонар гаварыць. І я шчыра дзіўлюся з Берліёза! Ну, вы чалавек неадукаваны,— тут госць зноў папрасіў прабачэння,— але той, як я чуў пра яго, усё ж нешта чытаў! Першыя выказванні гэтага прафесара развеялі ўсе мае сумненні. Яго нельга не пазнаць, мой дарагі! Дарэчы, вы... вы мне выбачайце, але я не памыляюся, вы чалавек неадукаваны?

— Несумненна,— згадзіўся Іван.

— Ну вось... гэтая асоба, пра якую вы расказвалі... розныя вочы, бровы! Даруйце, магчыма, вы нават і оперы «Фаўст» не слухалі?

Іван чамусьці страшэнна збянтэжыўся і пачырванеў, пачаў штосьці мармытаць пра нейкую паездку ў санаторый у Ялту...

— Ну вось, няма нічога дзіўнага! А Берліёз мяне ўражвае. Ён чалавек не толькі начытаны, але нават і хітры. Хаця, каб абараніць яго, я магу сказаць, што, вядома, Воланд можа зацьміць вочы і хітрэйшаму чалавеку.

— Як? — у сваю чаргу ўскрыкнуў Іван.

— Ціха!

Іван з размаху шлёпнуў сябе па лбе і зашыпеў:

— Разумею, разумею. У яго літара «В» была на візітнай картцы. Ая-яй, вось дык штука! — ён памаўчаў крыху ўсхвалявана, паглядзеў на месяц, які плыў за рашоткаю, і загаварыў: — Дык ён, выходзіць, сапраўды мог быць у Понція Пілата? Ён ужо тады нарадзіўся? А мяне вар'ятам называюць! — дадаў Іван і абурана паказаў на дзверы.

Горкая маршчына абазначылася ля губ у госця.

— Будзем глядзець праўдзе ў вочы,— і госць павярнуў свой твар да лятучага скрозь воблака начнога свяціла.— І вы, і я — вар'яты, што прытварацца! Разумееце, ён вас узрушыў — і вы звіхнуліся, таму што ў вас, мабыць, для гэтага падыходзячая аснова. Але тое, пра што вы расказваеце, несумненна было на самай справе. Ды гэта такая незвычайнасць, што нават Стравінскі, геніяльны псіхіятр, вам, вядома, не паверыў. Ён аглядаў вас? (Іван кіўнуў.) Ваш субяседнік быў у Пілата і на снеданні ў Канта, а цяпер ён наведаў Маскву.

— Дык ён тут чортведама чаго наробіць! Як-небудзь яго трэба злавіць? — не зусім упэўнена, але ўсё ж падняў галаву ў новым Іване Іван ранейшы, яшчэ не да канца дабіты.

— Вы ўжо паспрабавалі, і хопіць з вас,— іранічна адгукнуўся госць,— іншым таксама спрабаваць не раю. А тое, што навытварае, у гэтым не сумнявайцеся. Ай, ай! Але як шкада, што спаткаліся з ім вы, а не я! Хоць усё і перагарэла і вуголле зашарэла попелам, але ўсё ж клянуся, што за гэтую сустрэчу я аддаў бы звязак ключоў. Я жабрак!

— Нашто ён вам?

Госць доўга сумаваў, перасмыкаўся ўсім целам, але нарэшце загаварыў:

— Бачыце, даволі дзіўная гісторыя, я сяджу тут з-за таго, што і вы, менавіта з-за Понція Пілата,— тут госць спалохана азірнуўся і сказаў: — Справа ў тым, што год таму я напісаў раман пра Понція Пілата.

— Вы пісьменнік? — зацікаўлена спытаўся паэт.

Госць пацямнеў з твару, пагразіў Івану кулаком, потым сказаў:

— Я майстар,— ён стаў суровым і дастаў з кішэні халата зусім защмальцаваную чорную шапачку з вышытай на ёй жоўтым шоўкам літарай «М». Ён надзеў гэтую шапачку, паказаўся Івану і ў профіль, і ў фас, каб даказаць, што ён — майстар.— Яна сваімі рукамі пашыла яе мне,— таямніча дадаў ён.

— А як ваша прозвішча?

— У мяне болей няма прозвішча,— з чорнаю пагардаю адказаў дзіўны госць,— я адмовіўся ад яго, і наогул ад жыцця. Забудзем пра яго.

— Дык вы хаця пра раман скажыце,— далікатна папрасіў Іван.

— Калі ласка. Мая гісторыя сапраўды не зусім звычайная,— пачаў госць.

...Гісторык згодна адукацыі, ён яшчэ год назад працаваў у адным з маскоўскіх музеяў, акрамя таго, займаўся перакладамі.

— З якое мовы? — зацікаўлена спытаўся Іван.

— Я ведаю пяць моў, акрамя роднае,— адказаў госць,— англійскую, французскую, нямецкую, лацінскую і грэцкую. Ну, яшчэ крыху чытаю па-італьянску.

— Бач ты! — зайздросна шапнуў Іван.

Жыў гісторык адзінока, родных не меў нідзе і знаёмых у Маскве таксама. І, уявіце сабе, аднойчы выйграў сто тысяч рублёў.

— Уявіце маё здзіўленне,— шаптаў госць у чорнай шапачцы,— калі я ўсунуў руку ў кош з бруднаю бялізнаю і гляджу: на ёй той жа нумар, што ў газеце! Аблігацыю,— растлумачыў ён,— мне ў музеі далі.

Пасля выйгрышу ста тысяч загадкавы Іванаў госць зрабіў так: накупіў кніг, пакінуў свой пакой на Мясніцкай...

— У-у, праклятая яма! — прабурчаў госць.

...І наняў кватэру ў забудоўшчыка ў завулку ля Арбата...

— Вы ведаеце, што такое — забудоўшчыкі? — спытаўся госць у Івана і сам растлумачыў: — Гэта невялікая група жулікаў, якая нейкім чынам уцалела ў Маскве...

Наняў у забудоўшчыка два пакоі ў падвале маленькага доміка ў садзе. Службу ў музеі пакінуў і пачаў выдумляць раман пра Понція Пілата.

— Ах, гэта быў казачны час,— шаптаў расказчык, і вочы ў яго блішчалі,— зусім асобная кватэра, і яшчэ пярэдні пакойчык, а там ракавіна з вадою,— чамусьці з асаблівым гонарам падкрэсліў ён,— маленькія акенцы над самым тратуарчыкам, які ідзе да варотцаў. Насупраць, крокі за чатыры, пад плотам бэз, ліпа і клён. Ай, ай, ай! Зімой я вельмі рэдка бачыў у акенцы чые-небудзь чорныя ногі і чуў хрумст снегу пад імі. А ў печцы ў мяне вечна палаў агонь! Але раптоўна прыйшла вясна, і скрозь туманныя шыбы ўбачыў я перш голыя, а потым апранутыя ў зялёніну кусты бэзу. І вось тады, мінулаю вясною, адбылося нешта намнога больш цудоўнае, чым сума ў сто тысяч рублёў. А гэта, пагадзіцеся, вялікія грошы.

— Гэта праўда,— згадзіўся Іван, які ўважліва слухаў.

— Я адчыніў акенца і сядзеў у другім, зусім маленькім пакойчыку,— госць пачаў адмерваць рукамі,— ага... вось

канапа, а насупраць другая канапа, а між імі столік, на ім цудоўная начная лямпа, а да акенца бліжэй кнігі, тут маленькі пісьмовы столік, а ў першым пакоі — вялікі пакой, чатырнаццаць метраў,— кнігі, кнігі і печка. Ай, якая ў мяне была мэбля!

Незвычайна пахне бэз! І галава мая робіцца лёгкая ад стомленасці, і Пілат падлятаў да канца...

— Белая манція, чырвоны падбой! Разумею! — усклікнуў Іван.

— Зусім правільна! Пілат падлятаў да свайго канца, і я ўжо ведаў, што апошнія словы рамана будуць: «...пяты пракуратар Іудзеі, коннік Понцій Пілат». Ну, вядома, я выходзіў пагуляць. Сто тысяч — вялізная сума, і ў мяне быў цудоўны шэры касцюм. Ішоў у які-небудзь недарагі рэстаран. На Арбаце быў цудоўны рэстаран, не ведаю, ці ёсць ён цяпер.

Тут вочы ў госця шырока расплюшчыліся,і ён працягваў шаптаць, гледзячы на поўню:

— Яна несла ў руках зусім дрэнныя, трывожныя жоўтыя кветкі. Чортведама як іх завуць, але яны чамусьці першыя з'яўляюцца ў Маскве. І гэтыя кветкі вельмі выразна віднеліся на чорным яе вясновым паліто. Яна несла жоўтыя кветкі! Нядобры колер. Яна завярнула з Цвярское вуліцы ў завулак і тут азірнулася. Ну, Цвярскую вы ведаеце? Па Цвярской ішлі тысячы людзей, але я ручаюся, што ўгледзела яна толькі мяне аднаго і паглядзела не сказаць каб трывожна, а нават неяк балюча. І мяне ўразіла не гэтак яе прыгажосць, як незвычайная, нікім нязведаная адзінота ў вачах!

Падпарадкуючыся гэтаму жоўтаму знаку, я таксама скіраваў у завулак і пайшоў па яе слядах. Мы ішлі па звілістым цесным завулку моўчкі, яна па адным баку, я — па другім. І не было, уявіце, у завулку ні душы. Я пакутаваў, таму што мне здалося, што з ёй неабходна загаварыць, і баяўся, што не змагу прамовіць і слова, а яна пойдзе, і я ніколі болей яе не спаткаю.

І, уявіце, раптам загаварыла яна:

— Вам падабаюцца мае кветкі?

Я цудоўна памятаю, як прагучаў яе голас, нізкі даволі, са зрывам, і, як гэта ні недарэчна, здалося, што рэха ўдарыла ў завулку і адбілася ад бруднае жоўтае сцяны. Я хутка перайшоў на яе бок, наблізіўся і адказаў:

— Не.

Яна паглядзела на мяне здзіўлена, а я раптам і зусім

нечакана зразумеў, што ўсё жыццё любіў вось гэтую жанчыну! Вось дык штука, га? Вы, вядома, скажаце, вар'ят?

— Нічога я не гавару,— усклікнуў Іван і дадаў: — Прашу, далей!

І госць працягваў:

— Ага, яна паглядзела на мяне здзіўлена, а потым спыталася:

— Вы наогул не любіце кветкі?

У яе голасе, як мне здалося, была варожасць. Я пайшоў побач з ёю, стараючыся ісці ў нагу, і, надзіва, не адчуваў сябе няёмка.

— Не, я люблю кветкі, але не гэтакія,— сказаў я.

— А якія?

— Я ружы люблю.

Тут я пашкадаваў, што сказаў такое, таму што яна вінавата ўсміхнулся і кінула свае кветкі ў канаву. Крыху разгублены, я ўсё ж падняў іх і падаў ёй, але яна ўсміхнулася, не ўзяла кветкі, і я панёс іх у руках.

Гэтак ішлі нейкі час моўчкі, пакуль яна не вырвала кветкі з маіх рук і не кінула іх на брук, потым усунула сваю руку ў пальчатцы з раструбам у маю, і мы пайшлі далей побач.

— Далей,— сказаў Іван,— і не прапускайце, калі ласка, нічога.

— Далей? — перапытаў госць.— Што ж, далей вы можаце і самі ўсё ўгадаць.— Ён раптам нечакана выцер слязу правым рукавом і прадоўжыў: — Каханне з'явілася нам, як з-пад зямлі выскаквае забойца ў завулку, і спапяліла нас абаіх.

Гэтак б'е маланка, гэтак працінае фінскі нож!

Яна ж, дарэчы, сцвярджала потым, што гэта праўда, што кахалі мы адно аднаго даўным-даўно, але не ведалі адно аднаго, ніколі не бачыліся, і што яна жыла з другім чалавекам, і я там тады... з гэтай, як яе...

— З кім? — спытаўся Бяздомны.

— З гэтай... ну... з гэтай, ну...— адказаў госць і запстрыкаў пальцамі.

— Вы былі жанаты?

— Ага, вось я вам і пстрыкаю... На гэтай... Варачцы, Манечцы... не, Варачцы... яшчэ сукенка паласатая... музей... хаця я не памятаю.

Дык вось, яна гаварыла, што з жоўтымі кветкамі ў руках яна выйшла ў той дзень, каб я яе нарэшце знайшоў, і калі б

гэта не здарылася, яна атруцілася б, таму што жыццё ў яе было пустое.

Так, каханне пранізала нас імгненна. Я ведаў пра гэта ў той самы дзень, ужо праз гадзіну, калі мы апынуліся неўпрыкмет ля Крамлёўскае сцяны, на набярэжнай.

Мы размаўлялі гэтак, быццам развіталіся толькі ўчора, быццам ведалі адно аднаго многа гадоў. Мы дамовіліся спаткацца заўтра там, на Маскве-рацэ, і сустрэліся. Майскае сонца свяціла нам. І хутка, хутка стала гэтая жанчына маёй тайнаю жонкаю.

Яна прыходзіла да мяне кожны дзень, а чакаць яе я пачынаў зранку. Чаканне гэтае ўвасаблялася ў перастаўлянне на стале прадметаў. За дзесяць хвілін я сядаў да акенца і пачынаў прыслухоўвацца, ці не грукнуць старэнькія варотцы. І які кур'ёз: да спаткання з ёй у наш дворык мала хто прыходзіў, а дакладней, ніхто не прыходзіў, а цяпер мне здавалася, што ўвесь горад накіраваўся сюды. Грукнуць варотцы, грукне сэрца, і, уявіце, на ўзроўні майго твару за акенцам абавязкова нечыя брудныя боты. Тачыльшчык. Ну, каму патрэбны тачыльшчык у нашым двары? Што тачыць? Якія нажы?

Яна заходзіла праз варотцы адзін раз, а ўдараў сэрца я адчуваў не меней чым дзевяць. Я не хлушу. А потым, калі прыходзіў прызначаны час і стрэлка паказвала поўдзень, яно нават і не пераставала біцца да таго часу, пакуль без стуку, амаль бясшумна не раўняліся з акном туфлі з чорнымі замшавымі накладкамі-бантамі, са сталёвымі спражкамі.

Часам яна затрымлівалася ля другога акенца, пагруквала наском у шкло. У адно імгненне я апынаўся ля акна, але туфлік знікаў, чорны шоўк, які засланяў святло, знікаў,— я ішоў ёй адмыкаць.

Ніхто не ведаў пра нашу сувязь, за гэта я ручаюся, хаця так ніколі не бывае. Не ведаў яе муж, не ведалі знаёмыя. У старым асабнячку, дзе мне належаў гэты падвал, ведалі, вядома, бачылі, што прыходзіць да мяне нейкая жанчына, але імя яе не ведалі.

— А хто яна такая? — спытаўся Іван, страшэнна зацікаўлены любоўнаю гісторыяй.

Госць зрабіў жэст, які абазначаў, што ён ніколі і нікому пра гэта не скажа, і працягваў свой расказ.

Іван даведаўся, што майстар і незнаёмка пакахалі адно аднаго гэтак моцна, што сталі зусім неразлучныя. Іван выразна ўяўляў ужо і два пакойчыкі ў падвале асабнячка, у якіх заўсёды было прыцемна з-за кустоў бэзу і з-за плота.

Чырвоную абшарпаную мэблю, бюро, на ім гадзіннік, які звінеў праз кожнае паўгадзіны, і кнігі, кнігі ад пафарбаванае падлогі да закуранае столі, і печку.

Іван даведаўся, што яго госць і тайная жонка ўжо ў першыя дні прыйшлі да вываду, што звёў іх на рагу Цвярское сам лёс і што створаны яны адно для аднаго навек.

Іван даведаўся з госцевага расказу, як бавілі дзень закаханыя. Яна прыходзіла і спачатку падвязвала фартух, у вузкім пярэднім пакойчыку, дзе знаходзілася тая самая ракавіна, якой чамусьці гэтак ганарыўся бедны хворы, на драўляным стале запальвала газавую плітку і гатавала страву і ставіла яе ў першым пакоі на авальным стале. Калі ішлі майскія навальніцы і ля самых падслепаватых вокнаў шумна імчала да падваротні вада з пагрозай затапіць апошні прытулак, закаханыя запальвалі ў печцы і пяклі бульбу. Ад бульбы ішла пара, прыгарэлая чорная бульбяная скарыначка чарніла пальцы. У падвальчыку чуўся смех, дрэвы ў садзе скідалі зломаныя галінкі і суквецці. Калі скончыліся навальніцы і прайшло душнае лета, у вазе з'явіліся доўгачаканыя абаімі ружы.

Той, хто назваў сябе майстрам, працаваў, а яна запускала ў валасы тонкія, з востра наточанымі пазногцямі пальцы, перачытвала напісанае, а скончыўшы, шыла вось гэтую самую шапачку.Часам яна прысядала ля ніжніх паліц або стаяла на крэсле ля верхніх і анучкаю выцірала сотні пыльных пераплётаў. Яна абяцала яму славу, яна падганяла яго і вось тады і пачала называць яго майстрам. Яна чакала гэтых паабяцаных ужо апошніх слоў пра пятага пракуратара Іудзеі, нараспеў і гучна паўтарала асобныя сказы, якія ёй падабаліся, і гаварыла, што ў гэтым рамане яе жыццё.

Ён быў дапісаны ў жніўні месяцы, быў аддадзены нейкай невядомай машыністцы, і тая перадрукавала яго ў пяці экземплярах. І нарэшце прыйшоў час, калі давялося пакінуць тайны прытулак і выйсці ў жыццё.

— І я выйшаў у жыццё, трымаючы яго ў руках, і тады маё жыццё скончылася,— прашаптаў майстар і апусціў галаву, і доўга хісталася журботная чорная шапачка з літарай «М». Ён павёў далей свой расказ, але той зрабіўся крыху блытаным. Можна было зразумець толькі, што з Іванавым госцем адбылася нейкая катастрофа.

— Я ўпершыню трапіў у літаратурны свет, але цяпер, калі ўсё ўжо скончылася і мая пагібель відавочная, успамінаю пра яго з жахам! — урачыста прашаптаў майстар і падняў руку.— Так, ён надзвычай уразіў мяне, ай, як уразіў!

— Хто? — ледзь чутна шапнуў Іван, баючыся перабіць усхваляванага расказчыка.

— Ды рэдактар, я ж гавару пра рэдактара. Ага, ён прачытаў. Ён глядзеў на мяне, нібы ў мяне шчака распухла ад флюсу, неяк касавурыўся ў кут і быццам хіхікнуў. Ён без патрэбы камячыў манускрыпт і нават крахтаў. Пытанні, якія ён мне задаваў, здаліся мне вар'яцкімі. Не гаварыў нічога пра сутнасць рамана, а пытаўся ў мяне, хто я такі і адкуль узяўся, ці даўно я пішу і чаму пра мяне нічога не было чуваць раней, і нават задаў, па-мойму, зусім ідыёцкае пытанне: хто гэта падбухторыў мяне напісаць раман на гэту дзіўную тэму?

Нарэшце ён мне надакучыў, і я спытаўся ў яго ў лоб — будзе ён друкаваць мой раман ці не будзе.

Тут ён замітусіўся, пачаў пра нешта мармытаць і заявіў, што сам вырашыць гэтае пытанне не можа, што з маім творам павінны пазнаёміцца іншыя члены рэдкалегіі, асабіста крытыкі Латунскі і Арыман і літаратар Мсціслаў Лаўровіч. Ён папрасіў мяне прыйсці праз два тыдні.

Я прыйшоў праз два тыдні, са мной гаварыла нейкая дзяўчына з касымі ад пастаяннай хлусні вачыма.

— Гэта Лапшоннікава, сакратар рэдакцыі,— з усмешкаю сказаў Іван, які добра ведаў той свет, пра які гэтак гнеўна гаварыў яго госць.

— Магчыма,— адрэзаў той,— дык вось, у яе я атрымаў свой раман, ужо добра зашмальцаваны і растрапаны. Стараючыся не сустракацца позіркамі, Лапшоннікава паведаміла мне, што рэдакцыя мае матэрыялаў на два гады наперад і таму пытанне аб надрукаванні майго рамана адпадае, як яна сказала.

— Што я памятаю пасля гэтага? — мармытаў майстар і паціраў скроню.— Ага, апалыя чорныя пялёсткі на тытульным лісце і яшчэ вочы маёй сяброўкі. Так, гэтыя вочы я памятаю.

Расказ Іванавага госця рабіўся ўсё больш блытаным, усё больш узнікала недагаворак. Ён гаварыў нешта пра касы дождж і адчай у падвальным прытулку, пра тое, што хадзіў яшчэ некуды. Шэптам ускрыкваў, што ён яе, якая падахвочвала яго на барацьбу, ні ў чым не вінаваціць, не, не вінаваціць!

— Памятаю, памятаю гэты праклятый ўкладны ліст у газету,— мармытаў госць і абмалёўваў у паветры газетны ліст, і Іван здагадаўся з далейшых блытаных сказаў, што

нейкі іншы рэдактар надрукаваў вялікі ўрывак з рамана таго, хто назваў сябе майстрам.

З яго слоў, не болей як праз два дні ў другой газеце з'явіўся артыкул крытыка Арымана, які называўся «Вораг пад крылом у рэдактара», у ім гаварылася, што Іванаў госць, выкарыстаўшы няўважлівасць і неадукаванасць рэдактара, зрабіў спробу працягнуць у друк апалогію Ісуса Хрыста.

— А, памятаю, памятаю! — ускрыкнуў Іван.— Але я забыў ваша прозвішча!

— Не будзем чапаць маё прозвішча, паўтараю, яго болей няма,— адказаў госць.— Справа не ў ім. Праз дзень у другой газеце за подпісам Мсціслава Лаўровіча з'явіўся другі артыкул, дзе аўтар яго прапаноўваў ударыць, і як след ударыць, па пілатчыне і па тым багамазе, які ўздумаў працягнуць (зноў гэтае праклятае слова!) яе ў друк.

Аслупянелы ад гэтага слова «пілатчына», я разгарнуў трэцюю газету. Тут былі два артыкулы: адзін Латунскага, а другі — падпісаны літарамі «Н. Э.». Запэўніваю вас, што творы Арымана і Лаўровіча можна лічыць толькі жартам у параўнанні з напісаным Латунскім. Дастаткова вам сказаць, што называўся артыкул «Ваяўнічы старавер». Я гэтак захапіўся чытаннем артыкула пра сябе, што нават не заўважыў, як яна (дзверы не былі замкнёныя) паўстала перада мной з мокрым парасонам у руках і з мокрымі газетамі. У яе ў вачах быў агонь, рукі дрыжалі і былі халодныя. Спачатку яна кінулася цалаваць мяне, потым ахрыплым голасам, стукаючы кулаком па стале, сказала, што атруціць Латунскага.

Іван неяк збянтэжана пакрахтаў, але нічога не сказаў.

— Надышлі зусім чорныя дні. Раман быў напісаны, рабіць больш не было чаго, і мы абое жылі тым, што сядзелі на дыванку перад печкай і глядзелі на агонь. Хаця цяпер мы часцей разлучаліся. Яна пачала хадзіць на прагулку. А са мной здарылася прыгода, як гэта было нярэдка ў маім жыцці... У мяне раптам з'явіўся сябра. Так, так, уявіце сабе, я наогул не схільны збліжацца з людзьмі, маю гэтакую д'ябальскую схільнасць: сыходжуся з людзьмі цяжка, недаверлівы, падазроны. І — уявіце сабе, пры ўсім гэтым абавязкова мне ў душу пранікае хто-небудзь непрадбачаны, нечаканы і з выгляду чортведама на каго падобны, і ён мне больш за ўсіх і спадабаецца.

Дык вось, у тую праклятую пару адчыніліся варотцы нашага садзіка, дзянёк, яшчэ памятаю, быў гэтакі прыемны,

восеньскі. Яе не было дома. І праз варотцы ўвайшоў чалавек, ён зайшоў у дом па нейкай справе да майго забудоўшчыка, потым зайшоў у сад і неяк вельмі хутка пазнаёміўся са мной. Назваўся ён журналістам. Спадабаўся ён мне гэтак, што я дасюль, уявіце, часам успамінаю пра яго і сумую без яго. Далей — болей, ён пачаў зазіраць да мяне. Я даведаўся, што ён халасцяк, што жыве побач прыкладна ў гэтакай самай кватэрцы і што яму цесна там, і шмат іншага. Да сябе ён чамусьці не клікаў. Жонцы маёй ён не спадабаўся надзвычай. Але я заступіўся за яго. Яна сказала:

— Як сабе хочаш, але гэты чалавек робіць на мяне ўражанне самае нядобрае.

Я засмяяўся. Ага, а за што, уласна, ён мне спадабаўся? Справа ў тым, што чалавек без сюрпрыза знутры, у сваім куфэрачку, не цікавы. Гэтакі сюрпрыз у сваім куфэрку Алаізій (я забыўся сказаць, што майго новага знаёмага звалі Алаізій Магарыч) — меў. Канкрэтна, нідзе да гэтага я не сустракаў і не ўпэўнены, што яшчэ сустрэну такога разумнага чалавека, як Алаізій. Калі я не разумеў сэнсу ў якой-небудзь газетнай заметцы, Алаізій растлумачваў яе мне літаральна за адну хвіліну, і было відаць, што тлумачыць яму было зусім проста. Гэтаксама і жыццёвымі з'явамі і праблемамі. Але мала і гэтага. Зачараваў мяне Алаізій сваім апантаным захапленнем літаратурай. Ён не супакоіўся да таго часу, пакуль не ўгаварыў мяне прачытаць яму мой раман ад пачатку да канца, прычым пра раман ён адгукнуўся вельмі добра, але з неверагоднай дакладнасцю, быццам прысутнічаў пры гэтым, расказаў пра ўсе заўвагі рэдактара, што датычылі гэтага рамана. Ён трапляў дакладна. Акрамя гэтага, ён зусім пераканаўча растлумачыў мне, і я здагадваўся, што ён не памыляецца, чаму мой раман не можа быць надрукаваны. Ён гаварыў проста: раздзел вось гэты існі не можа...

Артыкулы не канчаліся. З першых я смяяўся. Але чым болей іх з'яўлялася, тым болей мяняліся і мае адносіны да іх. Другая стадыя была — здзіўленне. Нешта на рэдкасць фальшывае і няўпэўненае адчувалася літаральна ў кожным радку кожнага з гэтых артыкулаў, нягледзячы на іх пагрозлівы і ўпэўнены тон. Мне ўсё здавалася, што аўтары гэтых артыкулаў гавораць — і я не мог пазбавіцца гэтага адчування,— не тое што хочуць сказаць і што лютасць у іх ад гэтага. А потым, уявіце сабе, прыйшла і трэцяя стадыя, стадыя страху. Не, не ад саміх артыкулаў, зразумейце, але страх з-за іншых, якія не маюць адносін да рамана, рэчаў. Гэтак,

да прыкладу, я пачаў баяцца цемры. Адным словам, пачалася стадыя псіхічнае хваробы. Варта мне было перад сном патушыць лямпу ў маленькім пакойчыку, як пачынала здавацца, што праз акенца, хоць яно было і маленькае, улазіць нейкі спрут з вельмі доўгімі і халоднымі шчупальцамі. І спаць мне давялося са святлом.

Мая каханая вельмі змянілася (пра спрута я ёй, вядома, не гаварыў, але яна бачыла, што са мной нешта нядобрае), пахудзела і пабялела, перастала смяяцца і ўсё прасіла ў мяне прабачыць ёй за тое, што яна раіла мне, каб я надрукаваў урывак. Яна гаварыла, каб я кінуў усё, паехаў на поўдзень да Чорнага мора, патраціў на гэта грошы, якія засталіся ад ста тысяч.

Яна вельмі настойвала, а я, каб не спрачацца (нешта падказвала мне, што ехаць да Чорнага мора не давядзецца), абяцаў ёй зрабіць гэта на днях. Але яна сказала, што сама возьме мне білет. Тады я дастаў усе свае грошы, тысяч дзесяць, і аддаў ёй.

— Нашто гэтак многа? — здзівілася яна.

Я сказаў нешта пра тое, што баюся зладзеяў і прашу патрымаць грошы да майго ад'езду. Яна ўзяла іх, паклала ў сумачку, пачала цалаваць мяне і гаварыць, што ёй было б лягчэй памерці, чым пакідаць мяне ў такім становішчы аднаго, але яе чакаюць, яна не можа не падпарадкавацца гэтай неабходнасці, што яна прыйдзе заўтра. Яна ўпрошвала мяне не баяцца нічога.

Гэта было надвячоркам, у сярэдзіне кастрычніка. І яна пайшла. Я лёг на канапу і заснуў з незапаленай лямпаю. Прачнуўся я ад адчування, што спрут тут. Вобмацкам у цемры ■ ледзьве змог запаліць лямпу. Кішэнны гадзіннік паказваў дзве гадзіны ночы. Я лёг захварэлым, а прачнуўся зусім хворы. Я зрабіўся чалавекам, які ўжо не валодае сабой. Я ўскрыкнуў, у мяне з'явілася думка ўцякаць да некага, хаця б да майго забудоўшчыка наверх. Я змагаўся сам з сабою, як ашалелы. У мяне хапіла сілы дабрацца да печкі і запаліць дровы. Калі яны затрашчалі і аж забрыньчалі дзверцы, мне зрабілася крыху лягчэй... Я кінуўся ў пярэдні пакой, запаліў святло, знайшоў бутэльку белага віна, адкаркаваў яе і пачаў піць віно з рыльца. Ад гэтага страх крыху прыглух, і, урэшце, я не пабег да забудоўшчыка і вярнуўся назад да печкі. Я адчыніў дзверцы гэтак, што жар пачаў апальваць мне твар і рукі, і шаптаў:

— Здагадайся, што са мной здарылася бяда. Прыйдзі, прыйдзі, прыйдзі!

Але ніхто не прыйшоў. У печцы роў агонь, у вокны лупіў дождж. Тады здарылася апошняе. Я дастаў з шуфляды такія цяжкія спісы рамана і чарнавыя сшыткі і пачаў паліць іх. Гэта страшэнна цяжка рабіць, таму што спісаная папера гарыць неахвотна. Я, ламаючы пазногці, раздзіраў сшыткі, ставіў іх паміж паленамі і качаргою разварушваў лісты. Часам попел перамагаў мяне, душыў полымя, але я змагаўся, і раман з упартым супраціўленнем усё ж гінуў. Знаёмыя словы мільгалі перада мной, жаўцізна няўмольна паўзла знізу ўгору па старонках, але словы ўсё ж праступалі на іх. Яны знікалі толькі тады, калі папера чарнела, і я з лютасцю дабіваў яе.

У гэты час у акно нехта пачаў ціхенька драпацца. Сэрца маё падскочыла, і я апусціў апошні сшытак у агонь і падбег адмыкаць дзверы. Цагляныя прыступкі вялі з падвала да дзвярэй на двор. Спатыкаючыся, я падбег да дзвярэй і ціха спытаўся:

— Хто там?

І голас, яе голас, адказаў мне:

— Гэта я.

Не памятаю, як я справіўся з ланцужком і ключом. Як толькі ўвайшла, яна адразу ж прыпала да мяне, уся мокрая, з мокрымі шчокамі і растрапанымі валасамі. Яна ўся калацілася. Я мог толькі прамовіць адно слова:

— Ты... ты? — і голас мой абарваўся, мы пабеглі ўніз. Яна вызвалілася ў пярэднім пакоі ад паліто, і мы хуценька ўвайшлі ў першы пакой. Яна ціха ўскрыкнула і голымі рукамі выкінула з печкі на падлогу апошняе, што там заставалася, пачак, які ўжо заняўся знізу. Дым напоўніў пакой адразу. Я нагамі затаптаў агонь, а яна ўпала на канапу і заплакала адчайна і нястрымна.

Калі яна заціхла, я сказаў:

— Я ўзненавідзеў гэты раман, і я баюся. Я хворы. Мне страшна.

Яна ўстала і загаварыла:

— Божа, які ты хворы! За што, за што гэта? Але я выратую цябе, я цябе выратаю! Што ж гэта такое?

Я бачыў яе апухлыя ад дыму і слёз вочы, адчуваў, як халодныя рукі гладзяць мой лоб.

— Я цябе вылечу, вылечу,— мармытала яна і ўпівалася мне ў плечы,— ты адновіш яго. Чаму, чаму я не пакінула сабе адзін экземпляр!

Яна аскалілася ад злосці, нешта яшчэ гаварыла незразумелае. Потым сціснула губы і пачала збіраць і разгладжваць

абгарэлыя аркушы. Гэта быў нейкі раздзел з сярэдзіны рамана, не памятаю які. Яна акуратна склала абгарэлыя лісткі, загарнула іх у паперу, звязала стужкай. Яна авалодала сабой і дзейнічала рашуча. Яна запатрабавала віна, выпіла і загаварыла спакойна.

— Вось як даводзіцца плаціць за хлусню,— гаварыла яна,— і болей я не хачу лгаць. Я засталася б у цябе зараз, але мне не хочацца гэта рабіць такім чынам. Я не хачу, каб у яго ў памяці засталося, што я ўцякла ад яго ноччу. Ён ніколі не зрабіў мне нічога благога. Яго выклікалі нечакана, у іх на заводзе пажар. Але ён хутка вернецца. Я пагавару з ім заўтра раніцай, скажу, што я кахаю другога, і назаўсёды вярнуся да цябе. Скажы мне, можа, ты не хочаш гэтага?

— Бедная мая, бедная,— сказаў я ёй,— я не дапушчу, каб ты гэта зрабіла. Мне будзе дрэнна, і я не хачу, каб ты гінула разам са мной.

— Толькі гэта перашкода? — спыталася яна і наблізіла свае вочы да маіх.

— Толькі гэта.

Яна страшэнна ажывілася, прыпала да мяне, абвіла шыю рукамі і сказала:

— Я гіну разам з табою. Раніцай я буду ў цябе.

І вось апошняе, што я памятаю ў сваім жыцці, гэта — палоска святла з пярэдняга пакоя і ў гэтай палосцы святла яе лятучую пасмачку, яе берэт і яе поўныя рашучасці вочы. Яшчэ памятаю яе чорную постаць на парозе ў дзвярах і белы пакунак.

— [redacted] правёў бы цябе, але няма сілы вярнуцца назад, я баюся.

— Не бойся. Пацярпі некалькі гадзін. Заўтра раніцай я буду ў цябе.— Гэта былі яе апошнія словы ў маім жыцці.— Ціха,— раптам перапыніў сам сябе хворы і падняў вялікі палец,— неспакойная сёння месячная ноч.

Ён знік на балконе. Іван чуў, як праехалі калёсікі па калідоры, нехта слаба ўсхліпнуў ці ўскрыкнуў.

Калі ўсё заціхла, госць вярнуўся і паведаміў, што 120-ты пакой атрымаў жыхара. Прывезлі нейкага, ён просіць, каб яму вярнулі галаву. Абодва субяседнікі трывожна памаўчалі, але супакоіліся і вярнуліся да перапыненага апавядання. Госць толькі адкрыў рот, але ночка сапраўды была неспакойная. Галасы яшчэ былі чуваць на калідоры, і госць пачаў гаварыць Івану гэтак ціха на вуха, што тое, што ён расказаў, стала вядома толькі аднаму паэту, за выключэннем хіба толькі першага сказа:

— Праз чвэрць гадзіны пасля таго, як яна пакінула мяне, мне ў акно пагрукалі...

Тое, пра што расказваў хворы на вуха, відаць, вельмі хвалявала яго. Сутаргі час ад часу прабягалі па твары. У яго ў вачах плавалі і ўспыхвалі страх і лютасць. Расказчык паказваў рукою некуды на поўню, якая даўно пайшла з балкона. Толькі тады, калі перасталі чуцца звонку ўсялякія гукі, госць адхіліўся ад Івана і пачаў гаварыць гучней.

— Ага, дык вось, у сярэдзіне студзеня, ноччу, у тым самым паліто, але з адарванымі гузікамі, я туліўся ад холаду ў маім дворыку. Ззаду ў мяне былі гурбы, якія пахавалі бэзавыя кусты, а наперадзе і ўнізе — слабенька асветленыя, зашторaныя акенцы маёй кватэры, я прыпаў да аднаго з іх, прыслухаўся — у маіх пакоях іграў патэфон. Гэта ўсё, што мне ўдалося пачуць. Але ўбачыць нічога не мог. Я пастаяў крыху і выйшаў за варотцы ў завулак. У ім гуляла мяцеліца. Сабака, які кінуўся пад ногі, спалохаў мяне, і я перабег на другі бок вуліцы. Холад і страх, якія зрабіліся маімі спадарожнікамі, даводзілі мяне да адчаю. Ісці мне не было куды, і прасцей за ўсё было кінуцца пад трамвай на той вуліцы, куды выходзіў мой завулак. Здалёк я бачыў гэтыя напоўненыя святлом, абледзянелыя скрынкі і чуў іх мярзотны скрыгат на марозе. Але, дарагі мой сусед, уся штука ў тым, што страх валодаў кожнаю клетачкаю майго цела. І гэтак жа, як і сабакі, я баяўся трамвая. Так, горшай за маю хваробу ў гэтым будынку няма, запэўніваю вас.

— Але ж вы маглі паведаміць ёй,— сказаў Іван, спачуваючы бедалагу,— акрамя таго, у яе ж вашы грошы? Яна ж іх, вядома, захавала?

— Не сумнявайцеся, вядома захавала. Але вы, відаць, мяне не разумееце? Альбо, правільней, я страціў былую здольнасць апісваць што-небудзь. Мне, дарэчы, не надта гэтага шкада, бо мне болей гэта не спатрэбіцца. Перад ёй бы легла,— госць свята паглядзеў у начную цемру,— легла б пісьмо з вар'яцкага дома. Хіба ж можна пасылаць пісьмы, калі ў цябе такі адрас? Душэўнахворы? Вы жартуеце, мой дарагі! Не, зрабіць яе няшчаснаю, на гэта я няздольны.

Іван не змог запярэчыць, але маўклівы Іван спачуваў госцю, перажываў за яго. А той ківаў ад пакутлівых успамінаў галавою ў чорнай шапачцы і гаварыў:

— Бедная жанчына. Дарэчы, у мяне ёсць спадзяванне, што яна забыла пра мяне!

— Але ж вы можаце вылечыцца...— нясмела сказаў Іван.

— Я невылечны,— спакойна адказаў госць,— калі Стравінскі гаворыць, што верне мяне да жыцця, я яму не веру. Ён гуманны чалавек і проста хоча суцешыць мяне. Не гавару, што мне не палягчэла намнога. Ага, дзе я спыніўся? Мароз і гэтыя лятучыя трамваі. Я ведаў, што клініка гэтая ўжо адчынілася, і праз увесь горад пяшком пайшоў да яе. Вар'яцтва! За горадам я, мабыць, замёрз бы, але выратавала выпадковасць. Нешта сапсавалася ў машыне, я падышоў да шафёра, гэта было кіламетры чатыры за заставаю, і, на маё здзіўленне, ён паспагадаў мне. Машына ехала сюды. І ён павёз мяне. Я адкупіўся толькі тым, што адмарозіў пальцы на левай назе. Але іх вылечылі. І вось чацвёрты месяц я тут. І ведаеце, [redacted] зразумеў, што тут даволі добра. Не трэба на многае замахвацца, дарагі мой сусед, дальбог! Я вось, напрыклад, хацеў аб'ехаць увесь зямны шар. Але, аказваецца, мне гэта не суджана. Я бачу толькі маленькі кавалачак гэтага шара. Думаю, што гэта не самае лепшае, што ёсць на ім, але, паўтараю, што гэта не так ужо і дрэнна. Вось прыйдзе лета да нас, на балконе заўецца плюшч, як абяцае Праскоўя Фёдараўна. Ключы далі мне прастору. А ноччу будзе поўня. А, яна ўжо пайшла! Свяжэе. Ноч пераваліла за поўнач. Мне пара.

— Скажыце, [redacted] што было далей з Іешуа і Пілатам,— папрасіў Іван,— я хачу ўсё ведаць.

— Ай, не, не,— хваравіта перасмыкнуўся і адказаў госць,— я не магу без дрыжыкаў успамінаць мой раман. А ваш знаёмы з Патрыярхавых зрабіў бы гэта лепш за мяне. Дзякуй за гаворку. Да сустрэчы.

І пакуль Іван успеў апамятацца, рашотка з ціхім звонам зачынілася, і госць знік.

## Раздзел 14

### СЛАВА ПЕЎНЮ!

Не вытрымалі нервы, як гаворыцца, і Рымскі не дачакаўся, пакуль скончаць складаць пратакол, уцёк у свой кабінет. Ён сядзеў за сталом і пачырванелымі вачыма глядзеў на магавы чырвонцы, якія ляжалі перад імі. Фіндырэктар адчуваў, што сыходзіць з глузду. Звонку чуваць быў роўны гул. Публіка плынню вырывалася з Вар'етэ на вуліцу. Да надзвычай абвостранага фіндырэктаравага слыху раптам данёсся залівісты свіст міліцэйскага свістка. Сам па сабе ён

ніколі не абяцае нічога прыемнага. А калі ён паўтарыўся і да яго далучыўся другі, больш уладны і працяглы, а потым магутны рогат і быццам нейкае галёканне, фіндырэктар зразумеў, што на вуліцы адбылося яшчэ нешта скандальнае і брыдотнае. І што гэта, як бы табе не хацелася адмахнуцца, знаходзіцца ў самай цеснай сувязі з мярзотным сеансам, які вытварыў чорны маг і яго памочнікі. Чуйны фіндырэктар ні ў чым не памыляўся.

Як толькі ён зірнуў у акно, якое выходзіла на Садовую, твар у яго скрывіўся, і ён не прашаптаў, а прашыпеў:

— Я гэта ведаў!

У яркім святле магутных вулічных ліхтароў ён убачыў на тратуары ўнізе пад сабой жанчыну ў адной сарочцы і панталонах фіялетавага колеру. На галаве ў жанчыны, праўда, быў капялюшык, а ў руцэ парасон.

Вакол гэтай жанчыны, якая была зусім разгубленая і то прысядала, то парывалася некуды бегчы, хваляваўся натоўп, з тым самым рогатам, ад якога ў фіндырэктара па плячах праходзіў мароз. Каля пані мітусіўся нейкі грамадзянін, здзіраў з сябе летняе паліто і ад хвалявання ніяк не мог справіцца з рукавом, у якім заблыталася рука.

Крык і трубны рогат пачуліся і з другога месца, канкрэтна — ад левага пад'езда. Рыгор Данілавіч павярнуў туды галаву і ўбачыў другую пані, у ружовай бялізне. Тая скочыла з бруку на тратуар і спрабавала схавацца ў пад'ездзе, але натоўп заступаў ёй дарогу, і бедная ахвяра сваёй легкадумнасці і прагі да строяў, абманутая фірмай паганага Фагота, хацела зараз толькі аднаго — праваліцца скрозь зямлю. Міліцыянер кіраваўся да няшчаснае і свідраваў паветра свістком, а за міліцыянерам спяшаліся нейкія вясёлыя маладыя людзі, і ад іх чуліся той самы рогат і галёканне.

Вусаты ліхач падляцеў да першае раздзетае і з ходу спыніў старога кастлявага каня. Вусачоў твар радасна ўхмыляўся.

Рымскі стукнуў сябе кулаком па галаве, плюнуў і адскочыў ад акна.

Ён пасядзеў нейкі час за сталом, прыслухаўся да вуліцы. Свіст у розных месцах дасягнуў найбольшай сілы, а потым пачаў аціхаць.

Скандал, на здзіўленне Рымскага, ліквідавалі неспадзявана хутка.

Настаў час дзейнічаць, даводзілася выпіваць горкую чашу адказнасці. Апараты былі адрамантаваны ў час трэцяга

аддзялення, трэба было званіць, паведамляць пра здарэнне, прасіць дапамогі, выкручвацца, звальваць усё на Ліхадзеева, выгароджваць самога сябе і гэтак далей. Цьфу ты, чорт! Два разы засмучаны дырэктар клаў руку на трубку і два разы здымаў яе. І раптам у мёртвай цішыні кабінета апарат сам ударыў звонам проста ў твар фіндырэктару, той здрыгануўся і ўтрупеў. «Аднак у мяне здорава разгуляліся нервы»,— падумаў ён і падняў трубку. І адразу адхіснуўся ад яе і стаў бялейшы за паперу. Ціхі і адначасна ласкавы і вульгарны жаночы голас шапнуў у трубку:

— Не звані, Рымскі, нікуды, а то будзе табе дрэнна.

Трубка адразу ж апусцела. Адчуваючы мурашкі на спіне, фіндырэктар паклаў трубку і чамусьці азірнуўся на акно за плячыма. Скрозь рэдкія і яшчэ слаба ўкрытыя зеленню кляновыя галіны ён убачыў поўню, якая бегла ў празрыстым воблачку. Рымскі чамусьці прыкіпеў позіркам да галін, глядзеў на іх, і чым болей глядзеў, тым мацней і мацней яго апаноўваў жах.

З намаганнем фіндырэктар адвярнуўся нарэшце ад месячнага акна і ўстаў. Ніякае гаворкі пра тое, каб званіць. Цяпер фіндырэктар думаў толькі пра адно — каб як хутчэй пайсці з тэатра.

Ён прыслухаўся: будынак тэатра маўчаў. Рымскі зразумеў, што ён даўно адзін на ўсім другім паверсе, і дзіцячы неадольны жах апанаваў яго ад гэтае думкі. Ён аж скалануўся ад думкі, што зараз яму давядзецца ісці па парожніх калідорах і сыходзіць уніз па лесвіцы. Ён ліхаманкава схапіў са стала гіпнатызёрскія чырвонцы, схаваў іх у партфель, кашлянуў, каб крышку падбадзёрыць сябе. Кашаль атрымаўся слабы і хрыплаваты.

І тут яму здалося, што з-пад дзвярэй у кабінет пацягнула раптам гнілаватай вільгаццю. Дрыжыкі прайшлі па спіне ў фіндырэктара. Але сэрца ўпала зусім, калі ён пачуў, што ў дзвярным замку ціха паварочваецца англійскі ключ. Фіндырэктар учапіўся за партфель вільготнымі халоднымі рукамі і адчуваў, што калі яшчэ хоць крышку прадоўжыцца гэты шоргат, то ён не вытрымае і дзіка закрычыць.

Нарэшце дзверы паддаліся нечыім намаганням, адчыніліся, і ў кабінет нячутна ўвайшоў Варэнуха. Рымскі як стаяў, гэтак і сеў у крэсла, таму што ногі самі падагнуліся. Набраў у грудзі паветра, усміхнуўся нейкай жабрачай усмешкаю і ціха сказаў:

— Божа, як вы мяне напалохалі!

Сапраўды, гэтае нечаканае з'яўленне магло напалохаць

каго хочаш, але яно было і вялікаю радасцю. Паказаўся хоць адзін кончык у гэтай заблытанай справе.

— Ну, гавары ж хутчэй! Ну! Ну! — прахрыпеў Рымскі, чапляючыся за гэты кончык.— Што ўсё гэта абазначае?!

— Прабач, калі ласка,— глухім голасам адазваўся Варэнуха і зачыніў дзверы,— я думаў, што ты ўжо пайшоў.

І Варэнуха, не зняўшы шапкі, падышоў і сеў у крэсла насупраць стала.

Трэба сказаць, што ў адказе Варэнухі прамільгнула нешта дзіўнае, што адразу кальнула фіндырэктара, у чуйнасці сваёй які мог паспаборнічаць з сейсмографам любой з лепшых станцый у свеце. А як жа? Чаго Варэнуха ішоў у кабінет фіндырэктара, калі думаў, што там яго няма? У яго ёсць свой кабінет. Гэта адно. А другое: праз які ўваход ні ўвайшоў бы Варэнуха, ён абавязкова павінен быў сустрэцца з адным з начных дзяжурных, а тым усім было аб'яўлена, што Рыгор Данілавіч затрымліваецца ў сваім кабінеце.

Але доўга пра гэта фіндырэктар не раздумваў. Не да таго было.

— Чаму ты не пазваніў? Што абазначае ўся гэтая мітрэнга з Ялтаю?

— Ну, тое, што я і гаварыў,— прыцмокваючы, нібы яму не даваў спакою хворы зуб, адказаў адміністратар,— знайшлі яго ў карчме ў Пушкіне.

— Як у Пушкіне? Гэта пад Масквой? А тэлеграмы з Ялты?!

— Якая там чортава Ялта! Напаіў пушкінскага тэлеграфіста, і пачалі абодва вытвараць, у тым ліку і тэлеграмы пасылаць з адзнакай «Ялта».

— Ага... Ага... Ну, добра, добра,— не прамовіў, а быццам праспяваў Рымскі. Вочы ў яго засвяціліся жоўценькім святлом. У галаве паўстала святочная карціна ганебнага выгнання Сцяпана з работы. Вызваленне! Доўгачаканае вызваленне фіндырэктара ад гэтага наслання ў асобе Ліхадзеева! А можа, Сцяпан Багданавіч даб'ецца чаго-небудзь і горшага, чым вызваленне...

— Падрабязнасці! — сказаў Рымскі і грукнуў прэс-пап'е па стале.

І Варэнуха пачаў расказваць падрабязнасці. Ледзь толькі ён з'явіўся туды, куды быў накіраваны фіндырэктарам, яго адразу сустрэлі і выслухалі ўважліва. Вядома, ні ў кога і думкі не было, што Сцёпа можа быць у Ялце. Усе адразу згадзіліся з меркаваннем Варэнухі, што Ліхадзееў, вядома ж, у пушкінскай «Ялце».

— Дзе ён цяпер? — перапыніў адміністратара ўсхваляваны фіндырэктар.

— Ну, дзе яму быць,— адказаў з крывой усмешкай адміністратар,— натуральна, у выцвярэзніку.

— Ну, ну! Во, дзякуй!

А Варэнуха працягваў свой расказ. І чым болей ён расказваў, тым выразней разгортваўся перад фіндырэктарам даўжэзны ланцуг ліхадзееўскага хамства і непатрэбшчыны, і кожнае наступнае звяно ў гэтым ланцугу было горшае за папярэдняе. Чаго вартыя былі п'яныя танцы ў абдымку з тэлеграфістам на траве перад пушкінскім тэлеграфам пад нейкі выпадковы валацужны гармонік! А спроба пабіцца з буфетчыкам у самой «Ялце»? Раскідванне зялёнае цыбулі па падлозе ў той жа «Ялце». Біццё васьмі бутэлек белага сухога «Ай-Даніля». Ламанне лічыльніка ў таксі, якое не захацела везці Сцёпу. Пагроза арыштаваць грамадзян, якія спрабавалі спыніць Сцёпава свінства. Адным словам, проста жах.

Сцёпа быў добра вядомы ў тэатральным асяроддзі Масквы, усе ведалі, што гэты чалавек — не падаруначак. Але ўсё ж тое, пра што расказваў адміністратар, нават і для Сцёпы было занадта. Ага, занадта... Нават вельмі занадта...

Калючыя вочы Рымскага цераз стол упіліся ў твар адміністратару, і чым далей той гаварыў, тым больш цямнелі гэтыя вочы. Чым жыццёвей і красамоўней рабіліся ўсе мярзотныя падрабязнасці, якімі ўпрыгожваў сваю аповесць адміністратар... тым усё менш верыў расказчыку фіндырэктар. Калі ж Варэнуха паведаміў, што Сцёпа гэтак растанцаваўся, што паспрабаваў аказаць супраціўленне тым, хто па яго прыехаў, каб вярнуць у Маскву, фіндырэктар ужо цвёрда ведаў, што ўсё, пра што расказвае адміністратар, усё — хлусня! Хлусня ад першага да апошняга слова.

Варэнуха не ездзіў у Пушкіна, і самога Сцёпы таксама ў Пушкіне не было. Не было п'янага тэлеграфіста, не было пабітага шкла ў карчме. Сцёпу не звязвалі вяроўкаю — нічога гэтага не было.

Як толькі фіндырэктар пераканаўся, што адміністратар яму хлусіць, страх папоўз па ўсім яго целе, пачынаючы з ног; і двойчы зноў здалося фіндырэктару, што пацягнула ад падлогі гнілой малярыйнай вільгаццю. Фіндырэктар ні на імгненне не зводзіў вачэй з адміністратара, які неяк дзіўна курчыўся ў крэсле, увесь час стараўся заставацца ў блакітным цені ад настольнае лямпы і прыкрываўся газетаю ад святла лямпы, якое перашкаджала яму, і думаў толькі пра

адно — што ўсё гэта абазначае? Чаму гэтак нахабна хлусіць яму ў пустым і маўклівым будынку адміністратар, які гэтак позна вярнуўся? І ўсведамленне небяспекі, невядомае, але грознае небяспекі, пачало мучыць фіндырэктарава душу. Прытварыўшыся, што не заўважае адміністратаравага выкручвання і фокусаў з газетай, фіндырэктар разглядаў яго твар, амаль не слухаў таго, пра што плёў Варэнуха. Было яшчэ нешта, што зусім не паддавалася тлумачэнню, болей, чым невядома нашто выдуманы паклёпніцкі расказ аб прыгодах у Пушкіне,— гэта перамена і ў паводзінах адміністратара.

Як той ні нацягваў брыль на вочы, каб цень падаў на твар, як ні круціў газетай,— фіндырэктару ўдалося разглядзець вялізны сіняк з правага боку на твары ля самага носа. Акрамя таго, чырвоненькі звычайна адміністратар быў цяпер хваравіта белы, як мел, а на шыі ў яго ў душную ноч было закручана невядома нашто старэнькае паласатае кашнэ. Калі да гэтага дадаць новыя жэсты адміністратара, якія з'явіліся ў яго за час адсутнасці, рэзкую перамену голасу, які стаў глухі і грубы, зладзеяватасць і баязлівасць у вачах,— можна было смела сказаць, што Іван Савельевіч Варэнуха змяніўся непазнавальна.

Штосьці яшчэ пякуча турбавала фіндырэктара, але што менавіта, ён не мог зразумець, як ні напружваў гарачую галаву, колькі ні прыглядаўся да Варэнухі. Адно ён мог сцвярджаць, што было нешта ненатуральнае ў гэтым адзінстве адміністратара і добра знаёмага крэсла.

— Ну, падужалі ўрэшце, пагрузілі ў машыну,— гуў Варэнуха, вызіраючы з-за газеты і далонню прыкрываючы сіняк.

Рымскі раптам працягнуў руку і, нібыта машынальна, далонню, перабіраючы пальцамі па стале, націснуў на кнопку электрычнага званка і зжахнуўся.

У пустым будынку абавязкова быў бы чуваць гучны сігнал. Але гэтага сігналу не было, а кнопка мёртва ўтапілася ў дошку стала. Кнопка была мёртвая, званок сапсаваны.

Фіндырэктарава хітрасць была заўважана Варэнухам, які аж перасмыкнуўся, пры гэтым у яго ў вачах мільгануў відавочны люты агеньчык:

— Ты чаго звоніш?

— Машынальна,— глуха адказаў фіндырэктар, адхапіў руку і, у сваю чаргу, слабым голасам спытаўся: — Што гэта ў цябе на твары?

— Машыну занесла на павароце, стукнуўся аб ручку,— адказаў Варэнуха і адвёў вочы.

«Хлусіць!» — у думках усклікнуў фіндырэктар. І тут вочы ў яго раптоўна зрабіліся круглымі і вар'яцкімі, і ён вылупіўся на спінку крэсла.

Ззаду крэсла, на падлозе, ляжалі два перакрыжаваныя цені, адзін гусцейшы, другі слабы, шэры. Выразна была відаць на падлозе ценевая спінка крэсла і яго завостраныя ножкі, але над спінкаю на падлозе не было ценю ад галавы Варэнухі, гэтак жа, як пад ножкамі не было і ценю ад ног адміністратара.

«Ад яго няма ценю!» — адчайна ў думках закрычаў Рымскі. Яго пачало калаціць.

Варэнуха па-зладзейску азірнуўся, высачыў ашалелы позірк Рымскага за спінку крэсла і зразумеў, што выкрыты.

Ён устаў з крэсла (гэтае ж самае зрабіў і фіндырэктар) і адступіў ад стала, сціскаючы партфель.

— Здагадаўся, пракляты! Заўсёды быў змысны,— злосна ўсміхнуўся і адкрыта ў твар фіндырэктару прамовіў Варэнуха, нечакана адскочыў ад крэсла да дзвярэй і хуценька націснуў уніз кнопку англійскага замка. Фіндырэктар адчайна азірнуўся, адступіў да акна, якое выходзіла ў сад, і ў гэтым акне, залітым месячным святлом, убачыў прыліплы да шкла твар голае дзяўчулі і яе голую руку, прасунутую ў фортку, якая старалася адкінуць ніжнюю зашчапку, а верхняя ўжо была адкінута.

Рымскаму здалося, што святло ў настольнай лямпе патухае і што пісьмовы стол нахіляецца. Рымскага абліло ледзяной хваляй, але, на шчасце, ён перамог сябе і не ўпаў. Астатка сілы хапіла на тое, каб не крыкнуць, а толькі прашаптаць:

— Дапамажыце...

Варэнуха вартаваў дзверы, падскокваў ля іх, падоўгу павісаў у паветры і пагойдваўся. Сагнутым пальцам ён пагражаў Рымскаму, шыпеў і чмокаў, падміргваў дзяўчулі ў акне.

Тая заспяшалася, усунула рыжую галаву ў фортку, як магла працягнула руку, пазногцямі пачала драпаць за ніжнюю зашчапку і трэсці за раму. Рука яе пачала расцягвацца, нібы гумавая, пакрылася трупнай зеленню. Нарэшце зялёныя пальцы дасталі да зашчапкі, адкінулі яе, і рама пачала адчыняцца. Рымскі слаба ўскрыкнуў, прысланіўся да сцяны і выставіў перад сабой партфель, нібы шчыт. Ён зразумеў, што прыйшла яго пагібель.

Рама шырока адчынілася, але замест начной свежасці і

ліпавага водару ў пакой уварваўся пах паграбу. Нябожчыца ступіла на падаконнік. Рымскі добра бачыў гнілыя плямы ў яе на грудзях.

І ў гэты час радасны нечаканы пеўняў крык даляцеў з саду, з той нізенькай будыніны за цірам, дзе трымалі птушак, якія ўдзельнічалі ў праграмах. Гарласты дрэсіраваны певень трубіў, абвяшчаў, што на Маскву з усходу ідзе світанне.

Дзікая лютасць скрывіла твар дзяўчулі, яна хрыпла вылаялася, а Варэнуха ля дзвярэй завішчаў і ўпаў з паветра на падлогу.

Пеўнеў крык паўтарыўся, дзяўчуля кляцнула зубамі, і рыжыя валасы яе ўсталі дыбам. З трэцім крыкам пеўня яна завярнулася і вылецела вон. І следам за ёй падскочыў, выцягнуўся ў паветры, нібы лятучы купідон, паволі выплыў у акно цераз пісьмовы стол і Варэнуха.

Белы, як снег, без адзінага чорнага валаска стары, які яшчэ нядаўна быў Рымскім, падбег да дзвярэй, пстрыкнуў кнопкай, адчыніў дзверы і кінуўся бегчы па калідоры. Ля павароту лесвіцы ён, стогнучы ад жаху, намацаў выключальнік, і лесвіца асвятлілася. На лесвіцы стары ўпаў, таму што яму здалося, што на яго зверху мякка абрынуўся Варэнуха.

Калі збег уніз, Рымскі ўгледзеў дзяжурнага, які заснуў ля касы ў вестыбюлі. На пальчыках Рымскі пракраўся паўз яго і выскачыў праз парадныя дзверы. На вуліцы стала крыху лягчэй. Ён настолькі ачомаўся, што, хапаючыся за галаву, здагадаўся, што капялюш яго застаўся ў кабінеце.

Зразумела, што па яго ён не вярнуўся, а задыхаючыся пабег цераз шырокую вуліцу на супрацьлеглы рог ля кінатэатра, каля якога відаць быў цьмяны чырвоны агеньчык. Праз хвіліну ён быў ля яго. Ніхто не ўспеў перахапіць машыну.

— Да ленінградскага кур'ерскага, дам на чай,— цяжка дыхаючы і трымаючыся за сэрца, прамовіў стары.

— У гараж еду,— з нянавісцю адказаў шафёр і адвярнуўся.

Тады Рымскі расшпіліў партфель, дастаў адтуль пяцьдзесят рублёў і падаў іх праз адчыненае пярэдняе акно шафёру.

Праз некалькі секунд машына брыньчала і, як віхор, імчала па Садовым кальцы. Пасажыра падкідвала на сядзенні, і ў асколку люстэрка, якое вісела перад шафёрам, Рымскі бачыў то радасныя шафёравы вочы, то ашалелыя свае.

Як толькі выскачыў з машыны перад будынкам вакзала, Рымскі крыкнуў першаму чалавеку ў белым фартуху і з бляхай:

— Першую катэгорыю, адзін, трыццаць дам,— ён камякамі даставаў з партфеля чырвонцы,— няма першай — другую, калі няма — бяры жорсткі.

Чалавек з бляхай аглядваўся на асветлены гадзіннік, рваў з рук у Рымскага чырвонцы.

Праз пяць хвілін з-пад шклянога купала вакзала знік кур'ерскі і прапаў у цемры. З ім разам знік і Рымскі.

## Раздзел 15

### СОН МІКАНОРА ІВАНАВІЧА

Няцяжка здагадацца, што таўстун з чырвоным тварам, якога памясцілі ў бальніцы ў пакоі № 119, быў Міканор Іванавіч Босы.

Трапіў ён, аднак, да прафесара Стравінскага не адразу, а папярэдне пабыўшы ў іншым месцы.

Ад гэтага месца ў Міканора Іванавіча ў памяці засталося мала. Памятае толькі пісьмовы стол, шафу і канапу.

Там з Міканорам Іванавічам, у якога ў вачах увесь час неяк каламуцілася ад прыліваў крыві і ад душэўнай узбуджанасці, пачалі гаворку, але гаворка атрымалася нейкая дзіўная, блытаная, а правільней сказаць, гаворкі і зусім не атрымалася.

Першае пытанне, якое задалі Міканору Іванавічу, было наступнае:

— Вы Міканор Іванавіч Босы, старшыня дамкама нумар трыста два-біс на Садовай?

На гэта Міканор Іванавіч засмяяўся страшным смехам і адказаў:

— Я — Міканор, вядома, Міканор! Але які ж з мяне старшыня!

— Як гэта? — спыталіся ў Міканора Іванавіча.

— А вось так,— адказаў ён,— калі я старшыня, дык я адразу павінен быў вызначыць, што ён нячыстая сіла! А то што ж гэта такое? Пенснэ трэснула... увесь у абарваным... Які ж гэта можа быць перакладчык у чужаземца!

— Пра каго гаворыце? — спыталі ў Міканора Іванавіча.

— Кароўеў! — закрычаў Міканор Іванавіч.— У пяцідзе-

сятай у нас засеў! Пішыце: Кароўеў. Яго неадкладна трэба злавіць! Пішыце, шосты пад'езд, там ён.

— Адкуль валюту ўзяў? — задушэўна спыталіся ў Міканора Іванавіча.

— Бог мой, бог усемагутны,— загаварыў Міканор Іванавіч,— усё бачыць, а мне туды і дарога. У руках ніколі не трымаў і нават не падазраваў, якая яна, валюта! Гасподзь мяне пакарае за скверну маю,— з пачуццём працягваў Міканор Іванавіч і то зашпільваў рубашку, то расшпільваў, то хрысціўся,— браў! Браў, але браў нашыя, савецкія! Прапісваў, здаралася, за грошы. Штучка і наш сакратар Пролежнеў, добрая штучка! Скажу прама, усе зладзеі ў нашым домакіраўніцтве. Але валюты не браў!

У адказ на просьбу не прытварацца дурнем, а расказаць, як трапілі долары ў вентыляцыю, Міканор Іванавіч апусціўся на калені, кінуўся долу, разявіў рот, быццам хацеў праглынуць паркетную шашку.

— Хочаце,— прамармытаў ён,— зямлю буду есці, што не браў? А Кароўеў — ён чорт.

Усякае цярпенне мае мяжу, і за сталом павысілі голас, намякнулі на тое, што пара гаварыць па-чалавечы.

Тут пакой з гэтаю самаю канапаю аглушыў дзікі крык Міканора Іванавіча, які ўсхапіўся з каленяў:

— Вось ён! Вось ён за шафай! Вось ухмыляецца! І пенснэ яго... Трымайце яго!.. Акрапіць памяшканне!

Кроў адліла з твару ў Міканора Іванавіча, ён калаціўся, хрысціў паветра, кідаўся да дзвярэй і назад, заспяваў нейкую малітву і, урэшце, пачаў плесці абы-што.

Стала зразумела, што Міканор Іванавіч ні да якіх размоў непрыгодны. Яго вывелі, размясцілі ў асобным пакоі, дзе ён крыху прыціх і толькі маліўся і ўсхліпваў.

На Садовую, вядома, з'ездзілі і ў кватэры № 50 пабылі. Але ніякага Кароўева там не знайшлі, і ніхто ніякага Кароўева ў доме не ведаў і не бачыў. Кватэра, якую займалі нябожчык Берліёз і Ліхадзееў, які паехаў у Ялту, была пустая, і ў кабінеце мірна віселі нікім не пашкоджаныя сургучныя пячаткі на шафах. З тым і паехалі з Садовае, заадно захапілі з сабой разгубленага і прыгнечанага сакратара домакіраўніцтва Пролежнева.

Вечарам Міканор Іванавіч быў прывезены ў клініку Стравінскага. Там ён вёў сябе гэтак неспакойна, што яму давялося зрабіць ін'екцыю па рэцэпце Стравінскага, і толькі пасля апоўначы Міканор Іванавіч заснуў у пакоі 119, зрэдку цяжка і пакутліва стогнучы.

Але чым далей, тым лягчэйшым рабіўся сон. Ён перастаў варочацца і стагнаць, пачаў дыхаць лёгка і роўна, і яго пакінулі аднаго.

Тады Міканору Іванавічу сасніўся сон, у аснове якога, несумненна, былі сённяшнія перажыванні. Пачалося з таго, што Міканору Іванавічу саснілася, быццам нейкія людзі з залатымі трубамі ў руках падводзяць яго, і вельмі ўрачыста, да вялікіх палакіраваных дзвярэй. Перад гэтымі дзвярыма спадарожнікі нібыта сыгралі туш Міканору Іванавічу, а гулкі бас з неба весела сказаў:

— Калі ласка! Міканор Іванавіч! Здавайце валюту!

Зусім здзіўлены Міканор Іванавіч убачыў над сабой чорны рэпрадуктар.

Потым ён чамусьці апынуўся ў тэатральнай зале, дзе пад пазалочанай столлю ззялі крыштальныя люстры, а на сценах кенкеты. Усё было як след, як у невялікім па памеры, але сапраўдным тэатры. Была сцэна з аксамітавай заслонай, па цёмна-вішнёвым полі ўсеянай, як зорачкамі, малюнкамі залатых павялічаных дзесятак, суфлёрская будка і нават публіка.

Здзівіла Міканора Іванавіча тое, што ўся гэтая публіка была толькі аднаго полу — мужчынскага, і ўся чамусьці з барадамі. Акрамя гэтага, уражвала, што ў тэатральнай зале не было крэслаў і ўся публіка сядзела на падлозе, добра нацёртай і коўзкай.

Збянтэжаны новым і вялікім таварыствам, Міканор Іванавіч патаптаўся крыху, а потым, як і ўсе, сеў на паркеце па-турэцку, умасціўся між рыжым здаравяком-барадачом і другім, бледным і моцна зарослым шчэццю грамадзянінам. Ніхто з прысутных не звярнуў увагі на новага гледача.

Тут пачуўся мяккі звон званочка, святло ў зале патухла, заслона раскінулася, і стала відаць асветленая сцэна з крэслам, столікам, на якім і быў залаты званочак, і з глухім чорным аксамітным заднікам.

З-за куліс выйшаў артыст у смокінгу, чыста паголены і расчасаны на прабор, малады і з вельмі прыемным тварам. Публіка ў зале ажыла, усе павярнуліся да сцэны. Артыст падышоў да будкі і пацёр рукі.

— Седзіце? — спытаў ён мяккім барытонам і ўсміхнуўся зале.

— Седзімо, седзімо,— хорам адказалі яму з залы тэнары і басы.

— Гм...— загаварыў задумліва артыст,— і як вам не надакучыць, я не разумею? Усе людзі як людзі — ходзяць

зараз па вуліцах, цешацца вясновым сонцам і цяплом, а вы тут на падлозе тырчыце ў душнай зале! Няўжо праграма гэтакая цікавая? Што ж, можа, каму і падабаецца,— па-філасофску закончыў артыст.

Потым ён змяніў і тэмбр голасу, і інтанацыю і гучна аб'явіў:

— Такім чынам, наступны нумар нашай праграмы — Міканор Іванавіч Босы, старшыня дамавога камітэта і загадчык дыетычнай сталоўкі. Папросім Міканора Іванавіча!

Дружныя воплескі былі адказам артысту. Здзіўлены Міканор Іванавіч вылупіў вочы, а канферансье, закрыўшыся рукой ад святла рампы, знайшоў яго позіркам сярод тых, хто сядзеў, і ласкава паклікаў пальцам на сцэну. І Міканор Іванавіч апынуўся на сцэне.

У вочы яму знізу і спераду ўдарыла святло рознакаляровых лямпаў, а таму адразу праваліласся ў цемру зала з публікаю.

— Ну-с, Міканор Іванавіч, пакажыце нам прыклад,— задушэўна загаварыў малады артыст,— і здавайце валюту.

Наступіла цішыня. Міканор Іванавіч перавёў дух і загаварыў ціха:

— Богам клянуся, што...

Але не ўспеў ён прамовіць гэтыя словы, як уся зала абурана закрычала. Міканор Іванавіч разгубіўся і замоўк.

— Як я вас зразумеў,— загаварыў вядучы праграмы,— вы хацелі паклясціся богам, што ў вас няма валюты? — і ён спачувальна паглядзеў на Міканора Іванавіча.

— Так точна, няма,— адказаў Міканор Іванавіч.

— Так,— адазваўся артыст,— тады прабачце за нясціпласць: адкуль узяліся чатырыста долараў, якія знойдзены ў прыбіральні ў вашай кватэры, адзінымі жыхарамі якое з'яўляецеся вы з жонкаю?

— Чары! — яўна іранічна прамовіў нехта з залы.

— Так точна, чары,— нясмела адказаў Міканор Іванавіч не то артысту, не то ў цёмную залу і растлумачыў: — Нячыстая сіла, клятчасты перакладчык падкінуў.

І зноў абурана зараўла зала. Калі ж наступіла цішыня, артыст сказаў:

— Вось якія байкі Лафантэна даводзіцца мне выслухоўваць! Падкінулі чатырыста долараў! Вось вы: вы ўсе тут валютчыкі! Звяртаюся да вас як да спецыялістаў — ці магчыма такое?

— Мы не валютчыкі,— пачуліся асобныя пакрыўджаныя галасы ў тэатры,— але гэта немагчыма.

— Цалкам да вас далучаюся,— цвёрда сказаў артыст,— і спытаюся ў вас: што могуць падкінуць?

— Дзіця! — крыкнуў нехта з залы.

— Вось гэта праўда,— пацвердзіў вядучы праграмы,— дзіця, ананімнае пісьмо, пракламацыю, адскую машыну ці мала што яшчэ, але чатырыста долараў ніхто не будзе падкідаць, бо гэтакага ідыёта няма на свеце,— і, звярнуўшыся да Міканора Іванавіча, артыст дадаў з дакорам і сумам: — Засмуцілі вы мяне, Міканор Іванавіч! А я на вас спадзяваўся. Дык вось, нумар ваш не праходзіць.

У зале пачуўся свіст у адрас Міканора Іванавіча.

— Валютчык ён,— выкрыквалі ў зале,— з-за такіх мы, невіноўныя, пакутуем!

— Не сварыцеся на яго,— мякка сказаў канферансье,— ён пакаецца.— І, паглядзеўшы на Міканора Іванавіча поўнымі ад слёз блакітнымі вачыма, дадаў: — Ну, ідзіце, Міканор Іванавіч, на месца!

Пасля гэтага артыст пазваніў званочкам і гучна аб'явіў:

— Антракт, нягоднікі!

Уражаны Міканор Іванавіч, які зусім нечакана стаў удзельнікам нейкай тэатральнай праграмы, зноў апынуўся на сваім месцы на падлозе. Тут яму сснілася, што ў зале запанавала цемра і што на сценах выскачылі чырвоныя палкія словы: «Здавайце валюту!» Потым зноў расхінулася заслона, і канферансье запрасіў:

— Прашу на сцэну Сяргея Герардавіча Дунчыля.

Дунчыль аказаўся дабрачынным, але моцна занядбаным мужчынам гадоў пяцідзесяці.

— Сяргей Герардавіч,— звярнуўся да яго канферансье,— вось ужо паўтара месяца вы седзіце тут, упарта адмаўляецеся здаць валюту, якая засталася ў вас, у той час як краіне яна патрэбна, а вам зусім не, а вы ўсё ўпарціцеся. Вы — чалавек інтэлігентны, цудоўна ўсё гэта разумееце і ўсё ж не хочаце пайсці нам насустрач.

— На жаль, нічога зрабіць не магу, бо валюты ў мяне больш няма,— спакойна адказаў Дунчыль.

— Дык, можа, ёсць брыльянты? — спытаўся артыст.

— І брыльянтаў няма.

Артыст апусціў галаву і задумаўся, а потым пляснуў у ладкі. З-за кулісаў выйшла на сцэну пані сярэдняга ўзросту, модна апранутая, у паліто без каўняра і ў маленькім капялюшыку. Пані была ўстрывожаная, а Дунчыль пагля дзеў на яе і нават вокам не міргнуў.

— Хто гэтая пані? — спытаў вядучы праграмы ў Дунчыля.

— Гэта мая жонка,— з годнасцю адказаў Дунчыль і паглядзеў на доўгую шыю пані крыху непрыязна.

— Мы патрывожылі вас, пані Дунчыль,— звярнуўся да жанчыны канферансье,— вось чаму: мы хацелі спытаць, ці ёсць у вашага мужа валюта?

— Ён тады ўсё аддаў,— усхвалявана сказала пані Дунчыль.

— Ну,— сказаў артыст,— ну што ж, калі так, дык так. Калі ўсё здаў, то вам давядзецца зараз разлучыцца з Сяргеем Герардавічам, нічога не зробіш! Калі хочаце, вы можаце пакінуць тэатр, Сяргей Герардавіч,— і артыст зрабіў царскі жэст.

Дунчыль завярнуўся і з годнасцю пайшоў за кулісы.

— Адну хвілінку! — спыніў яго канферансье.— Дазвольце мне на развітанне паказаць вам яшчэ адзін нумар нашае праграмы,— і зноў пляснуў у ладкі.

Чорная задняя заслона расхінулася, і на сцэну выйшла юная прыгажуня ў бальнай сукенцы, якая трымала ў руцэ залаты падносік, на ім ляжаў тоўсты пакунак, перавязаны цукеркавай стужкаю, і брыльянтавае калье, ад якога ва ўсе бакі адскоквалі сінія, жоўтыя і чырвоныя агні.

Дунчыль ступіў крок назад, твар яго пабялеў. Зала замерла.

— Васемнаццаць тысяч долараў і калье на сорак тысяч золатам,— урачыста аб'явіў артыст,— хаваў Сяргей Герардавіч у горадзе Харкаве на кватэры ў сваёй каханкі Іды Геркуланаўны Ворс, якую мы маем радасць бачыць зараз і якая ахвотна дапамагла нам гэтае багацце знайсці, марнае і мёртвае ў руках прыватнае асобы. Вялікі дзякуй, Іда Геркуланаўна.

Прыгажуня ўсміхнулася, бліснула зубамі, і пушыстыя яе павекі здрыгануліся.

— А за ўсёй вашай важнасцю і прыстойнасцю,— сказаў артыст Дунчылю,— хаваецца прагны павук, умелы ачмурала і лгун. Вы замучылі за месяц усіх сваёй тупой упартасцю. Ідзіце цяпер дадому, і тое пекла, якое наладзіць там ваша жонка, будзе вам пакараннем.

Дунчыль пахіснуўся, і здавалася, упадзе, але нечыя спагадлівыя рукі падхапілі яго. Тут апусцілася пярэдняя заслона і схавала ўсіх, хто быў на сцэне.

Шалёныя апладысменты скаланулі залу гэтак, што Міканору Іванавічу здалося, быццам у люстрах задрыжалі агні. А калі першая чорная заслона пайшла ўгору, на сцэне ўжо

нікога не было, акрамя адзінокага артыста. Ён сарваў другі залп апладысментаў, раскланяўся і загаварыў:

— У асобе гэтага Дунчыля перад вамі выступаў у нашай праграме тыповы асёл. Я ж гаварыў учора, што тайнае захоўванне валюты не мае ніякага сэнсу. Выкарыстоўваць яе ніхто не можа ні пры якіх умовах, запэўніваю вас. Возьмем хаця б гэтага Дунчыля. Ён атрымлівае цудоўны аклад, у яго ўсё ёсць, цудоўная кватэра, жонка і прыгажуня каханка. Дык не, замест таго каб жыць ціха і мірна, без усякіх непрыемнасцей, здаўшы валюту і каменьчыкі, гэты зайздросны дурань дамогся таго, што быў выкрыты пры ўсіх, і на закуску атрымаў вялізную сямейную непрыемнасць. Ну, дык хто здае? Няма жадаючых? У такім разе наступны нумар нашае праграмы — вядомы драматычны талент, артыст Сава Патапавіч Куралесаў, які знарок запрошаны, каб выканаць урыўкі са «Скупога рыцара» паэта Пушкіна.

Абяцаны Куралесаў не марудзіў, з'явіўся на сцэне і аказаўся рослым і мясістым голеным мужчынам у фраку і белым гальштуку.

Без усякага ўступу ён зрабіў хмуры твар, насупіў бровы і загаварыў ненатуральным голасам, касавурачыся на залаты званочак:

— Как молодой повеса ждет свидания с какой-нибудь развратницей лукавой...

І Куралесаў расказаў пра сябе многа нядобрага. Міканор Іванавіч чуў, як Куралесаў прызнаваўся, што нейкая няшчасная ўдава выла, стоячы перад ім на каленях у дождж, але не кранула чорствага артыставага сэрца. Міканор Іванавіч да свайго сну зусім не ведаў твораў паэта Пушкіна, але самога яго ведаў цудоўна і кожны дзень па некалькі разоў гаварыў нешта падобнае на такое: «А за кватэру Пушкін плаціць будзе?» альбо «Лямпачку на лесвіцы, значыць, Пушкін выкруціў?», «Нафту, значыць, Пушкін купляць будзе?»

Цяпер, пасля знаёмства з адным з яго твораў, Міканор Іванавіч засумаваў, уявіў жанчыну на каленях, з сіратамі на дажджы, і міжволі падумаў: «А гэты Куралесаў усё ж тып!»

А той усё мацней і мацней каяўся і зусім заблытаў Міканора Іванавіча, таму што раптам пачаў звяртацца да некага, каго на сцэне і не было, і за гэтага адсутнага сам і адказваў, і называў сябе то «гасударам», то «баронам», то «бацькам», то «сынам», то на «вы», то на «ты».

Міканор Іванавіч зразумеў толькі адно, што памёр ар-

тыст нядобраю смерцю, закрычаўшы напаследак: «Ключы! Ключы мае!» — пасля гэтага ўпаў на падлогу, хроп і асцярожна зрываў з сябе гальштук.

Пасля таго як памёрлы Куралесаў абтрос пыл з фрачных штаноў, пакланіўся, усміхнуўся фальшываю ўсмешкаю і пайшоў пад слабенькія апладысменты, канферансье загаварыў:

— Мы з вамі паслухалі ў цудоўным выкананні Савы Патапавіча «Скупога рыцара». Гэты рыцар спадзяваўся, што лёгкія німфы збягуцца да яго і адбудзецца яшчэ многа прыемнага. Але, як бачыце, нічога не здарылася, ніякія німфы не збегліся да яго, а музы не прынеслі яму даніны, палацаў ён ніякіх не пабудаваў, а наадварот, скончыў вельмі дрэнна, памёр к чортавай матары ад інсульта на сваёй скрынцы з валютаю і камянямі. Папярэджваю вас, што і з вамі можа здарыцца нешта такое, а то і горшае, калі вы не здасце валюту!

Паэзія Пушкіна зрабіла гэтакае ўражанне ці празаічная прамова канферансье, але нечакана з залы пачуўся сарамлівы голас:

— Я здаю валюту!

— Калі ласка, прашу на сцэну! — ветліва запрасіў канферансье, углядаючыся ў цёмную залу.

І на сцэне апынуўся маленькага росту бялявы грамадзянін, які з выгляду не браў ужо тры тыдні ў рот.

— Вінаваты, як ваша прозвішча? — папытаўся канферансье.

— Канаўкін Мікалай,— сарамліва абазваўся незнаёмы.

— А! Вельмі прыемна, грамадзянін Канаўкін, ну?

— Здаю! — ціха сказаў Канаўкін.

— Колькі?

— Тысячу долараў і дваццаць залатых дзесятак.

— Брава! Усё, што маеце?

Вядучы праграмы паглядзеў у вочы Канаўкіну, і Мікanору Іванавічу здалося нават, што з гэтых вачэй пырснулі промні, якія пранізалі Канаўкіна наскрозь, нібы рэнтгенаўскія. У зале перасталі нават дыхаць.

— Веру! — нарэшце ўскрыкнуў артыст і патушыў свой позірк.— Веру! Гэтыя вочы не хлусяць. Колькі ж я вам гаварыў, што асноўная ваша памылка заключаецца ў тым, што вы недаацэньваеце значэння чалавечага позірку. Зразумейце, язык можа ўтоіць праўду, а вочы — ніколі! Вам задаюць нечаканае пытанне, вы нават не ўздрыгваеце, імгненна авалодваеце сабою і ведаеце, што трэба сказаць,

каб утаіць праўду, і пераканаўча гаворыце, і ніводная маршчынка на вашым твары не здрыганецца, але ўстрывожаная пытаннем ісціна на імгненне скача з дна душы ў вочы, і ўсё скончана. Яна заўважана, а вы злоўлены!

Артыст прамовіў гэта палымяна і пераканаўча, ласкава пацікавіўся ў Канаўкіна:

— А дзе ж схаваныя?

— У маёй цёткі, Парахоўнікавай, на Прачысцінцы...

— А! Гэта... пачакайце... гэта ў Клаўдзіі Ільінічны?

— Ага.

— Ах, ну, ну, ну, ну! Такі маленькі асабнячок? Насупраць яшчэ агародчык? Ведаю, а як жа! А куды вы іх там запхнулі?

— У пограбе, у каробцы з-пад Эймена...

Артыст успляснуў рукамі.

— Ці бачылі вы нешта падобнае? — ускрыкнуў ён засмучана.— Ды яны там заплеснеюць, адсырэюць! Ну ці можна такім людзям давяраць валюту?! Га? Ну зусім як дзеці, дальбог!

Канаўкін, і сам зразумеўшы, што нарабіў і як праштрафіўся, панурыў чубатую галаву.

— Грошы,— працягваў артыст,— павінны захоўвацца ў дзяржбанку, у спецыяльных сухіх і ахоўваемых памяшканнях, а не ў цётчыных паграбах, дзе іх могуць, напрыклад, папсаваць пацукі! Дальбог, сорамна, Канаўкін! Вы ж дарослы чалавек.

Канаўкін ужо не ведаў, куды і дзецца, толькі і мог калупаць пальцам абшлаг свайго пінжака.

— Ну, добра,— злітаваўся артыст,— хто старое ўспомніць...— і раптам дадаў нечакана: — Ага, дарэчы: за адзін заход, каб машыну дарэмна не ганяць... у цёткі ў самое таксама нешта ёсць? Га?

Канаўкін не чакаў такога павароту, разгубіўся, і ў тэатры настала маўчанне.

— Э-э, Канаўкін,— з ласкавым дакорам сказаў канферансье,— а я яго яшчэ і пахваліў! Вось табе і маеш, узяў ды і схаваў ні з таго ні з сяго! Глупства гэта, Канаўнік! Я што гаварыў пра вочы? Відаць жа, што ў цёткі ёсць. Навошта вы дарэмна нас мучыце?

— Ёсць! — па-заліхвацку крыкнуў Канаўкін.

— Брава! — крыкнуў канферансье.

— Брава! — зараўла зала.

Калі ўсё сціхла, канферансье павіншаваў Канаўкіна, пацiснуў яму руку, прапанаваў адвезці на машыне ў горад

і ў той жа машыне загадаў некаму ў кулісах заехаць па цётку і запрасіць яе ў жаночы тэатр на праграму.

— Ага, я хацеў спытацца, не гаварыла цётка, дзе хавае сваё? — пацікавіўся канферансье, паслужліва прапаноўваючы папяроску і запаленую запалу. Той закурыў і неяк сумна ўсміхнуўся.

— Веру, веру,— уздыхнуў і адазваўся артыст,— гэта старая качарга не толькі сваяку, чорту не скажа пра такое. Ну што ж, паспрабуем абудзіць у ёй чалавека. Можа, яшчэ не ўсе струны пагнілі ў яе ліхвярскай душы. Усяго добрага, Канаўкін!

І шчаслівы Канаўкін паехаў. Артыст спытаў, ці няма жадаючых здаць валюту, але атрымаў у адказ маўчанне.

— Дальбог, дзівакі,— паціснуўшы плячыма, прамовіў артыст, і заслона схавала яго.

Патухлі лямпачкі, было цёмна, і з цемры быў чуваць тэнар, які спяваў:

«Там груды золата лежат, и мне они принадлежат!»

Потым аднекуль здалёк двойчы пачуліся апладысменты.

— У жаночым тэатры дамачка нейкая здае,— нечакана загаварыў рыжы барадаты сусед Міканора Іванавіча, уздыхнуў і дадаў: — Эх, каб не мае гусі! У мяне, дарагі мой чалавеча, байцовыя гусі ў Лікнозаве. Здохнуць, баюся, без мяне. Птушка баявая, далікатная, патрабуе догляду... Эх, каб не гусі!.. Пушкіным мяне не праймеш,— і ён зноў уздыхнуў.

Тут зала асвятлілася, і Міканору Іванавічу пачало сніцца, што з усіх дзвярэй у залу пасыпаліся кухары ў белых каўпаках з рознымі лыжкамі ў руках. Кухарчукі ўцягнулі ў залу чан з супам і латок з нарэзаным чорным хлебам. Гледачы ажывіліся. Вясёлыя кухары снавалі між тэатраламі, налівалі суп у міскі і раздавалі хлеб.

— Абедайце, хлопцы,— крычалі кухары,— і здавайце валюту! Чаго вам тут дарэмна сядзець? Ахвота вам сёрбаць гэтую баланду. Паехаў дадому, выпіў як след, добра закусіў!

— Ну чаго ты тут, напрыклад, сядзіш, бацька? — звярнуўся непасрэдна да Міканора Іванавіча тоўсты, з малінавай шыяй кухар, працягваючы яму міску, дзе ў поліўцы плаваў адзін капусны ліст.

— Няма! Няма! Няма ў мяне! — страшным голасам закрычаў Міканор Іванавіч.— Разумееш, няма!

— Няма? — грозным басам зароў кухар.— Няма? — жаночым ласкавым голасам папытаўся ён.— Няма, няма,—

дабрадушна замартымаў і ператварыўся ў фельчарыцу Праскоўю Фёдараўну.

Яна ласкава штурхала Міканора Іванавіча, які стагнаў спрасонку. Тады зніклі кухары і разваліўся тэатр з заслонаю. Міканор Іванавіч скрозь слёзы разгледзеў свой пакой у бальніцы і двух у белых халатах, але не нахабных кухараў, якія лезлі да людзей са сваімі парадамі, а доктара і тую ж Праскоўю Фёдараўну, якая трымала ў руках не міску, а талерачку, на якой ляжаў прыкрыты марляй шпрыц.

— Дык што ж гэта,— горка гаварыў Міканор Іванавіч, пакуль яму рабілі ўкол,— няма ў мяне валюты! Няхай ім Пушкін здае валюту. Няма!

— Няма, няма,— супакойвала добрая Праскоўя Фёдараўна,— а на няма і суду няма.

Міканору Іванавічу стала лягчэй пасля ўкола, і ён заснуў, і яму больш нічога не снілася.

Але, дзякуючы яго выкрыкам, трывога перадалася ў 120-ты пакой, дзе хворы прачнуўся і пачаў шукаць сваю галаву, у 118-м, дзе захваляваўся невядомы майстар і ў адчаі заламаў рукі, глядзеў на поўню, успамінаў горкую, апошнюю ў жыцці асеннюю ноч, палоску святла з-пад дзвярэй і растрапаныя валасы.

З 118-га трывога пераляцела ў пакой да Івана па балконе, ён прачнуўся і заплакаў.

Але дактары хутка супакоілі ўсіх устрывожаных, і яны пачалі засынаць. Сама пазней заснуў Іван, калі над ракой ужо днела. Пасля лекаў, якія напаілі ўсё яго цела, супакаенне прыйшло да яго як хваля, што накрыла коўдраю. Цела было лёгкае, а галаву лёгкім ветрыкам абвявала дрымота. Ён заснуў, і апошняе, што ён чуў наяве, было ранішняе птушынае шчабятанне. І яму пачало сніцца, што сонца ўжо апускалася над Лысаю Гарою і была гэтая гара ахоплена двайным ачапленнем...

## Раздзел 16

### ПАКАРАННЕ

Сонца ўжо апускалася над Лысаю Гарою, і была гэтая гара ахоплена двайным ачапленнем.

Тая кавалерыйская ала, якая перарэзала шлях пракуратару апоўдні, рыссю выйшла да Хеўроўскіх варотаў горада. Дарога ёй ужо была падрыхтавана. Пехацінцы кападакій-

скай кагорты адціснулі ў бакі збоішча людзей, мулаў і вярблюдаў, і ала рыссю, падымаючы да неба белыя слупы пылу, выйшла на перакрыжаванне, на якім сыходзіліся дзве дарогі: паўднёвая — у Віфлеем, і паўночна-заходняя — у Яфу. Ала паімчала па паўночна-заходняй дарозе. Кападакійцы таксама былі рассыпаны ўскрай дарогі і загадзя сагналі з яе ўсе караваны, якія спяшаліся на свята ў Ершалаім. Натоўпы багамольцаў выйшлі са сваіх часовых паласатых шатроў, раскінутых проста на траве, і стаялі за кападакійцамі. Ала праімчала амаль кіламетр, абмінула другую кагорту Маланкавага легіёна і першая падышла праз кіламетр да падножжа Лысай Гары. Тут яна спешылася. Камандзір падзяліў алу на ўзводы, і яны ачапілі ўсё падножжа невысокага пагорка, пакінулі свабодным толькі адзін пад'ём на яго з Яфскай дарогі.

Праз нейкі час услед за алай да ўзгорка прыйшла другая кагорта, паднялася на адзін ярус вышэй і вянком аперазала гару.

Нарэшце падышла кентурыя пад камандаваннем Марка Крысабоя. Яна ішла двума расцягнутымі ланцугамі абапал дарогі, а паміж гэтымі ланцугамі, пад канвоем патаемнае варты, ехалі ў павозцы трое асуджаных з белымі дошкамі на шыях, на якіх было напісана: «Бандыт і бунтаўшчык» на дзвюх мовах — арамейскай і грэцкай. За павозкаю з асуджанымі рухаліся астатнія, нагружаныя свежаабчасанымі слупамі з перакладзінамі, вяроўкамі, рыдлёўкамі, вёдрамі і сякерамі. На гэтых павозках ехалі шэсць катаў. За імі конна кентурыён Марк, начальнік храмавай варты Ершалаіма, і той самы чалавек у башлыку, з якім у Пілата была вокамгненная нарада ў цёмным пакоі ў палацы. Заканчвалася працэсія салдацкім ланцугом, а за ім ужо ішлі амаль дзве тысячы цікаўных, хто не пабаяўся пякельнае спякоты і пажадаў прысутнічаць на гэтым цікавым відовішчы.

Да гэтых цікаўных гараджан далучыліся і багамольцы, якіх без перашкод прапусцілі ў хвост працэсіі. Пад тонкія пранізлівыя крыкі глашатаяў, якія суправаджалі калону і крычалі тое, што апоўдні крыкнуў Пілат, яна ўсплыла на Лысую Гару.

Ала прапусціла ўсіх на другі ярус, а другая кентурыя наверх прапусціла толькі тых, хто меў адносіны да пакарання, а потым хуткімі манеўрамі рассыпала натоўп вакол усяго ўзгорка гэтак, што ён апынуўся між пяхотным ачапленнем наверсе і кавалерыйскім унізе. Цяпер натоўп мог бачыць пакаранне скрозь няшчыльны ланцуг пехацінцаў.

Тры гадзіны прайшло, пакуль працэсія ўзышла наверх, і сонца апускалася ўжо над Лысай Гарой, але спякота яшчэ была невыносная, і салдаты ў абодвух ачапленнях пакутавалі ад яе, нудзіліся ад суму і ў душы праклінালі разбойнікаў, шчыра жадалі ім хуткае смерці.

Маленькі камандзір алы, з мокрым ілбом і ў пацямнелай ад поту на спіне рубашцы, які знаходзіўся ля падножжа ўзгорка пры адкрытым праходзе, час ад часу падыходзіў да скуранога вядра, чэрпаў з яго прыгаршчамі ваду, піў і мачыў свой цюрбан. Гэта давала на нейкі час палёгку, ён адыходзіў і пачынаў мераць крокамі туды-сюды пыльную дарогу, якая вяла на вяршыню ўзгорка. Доўгі меч яго стукаў аб скураны зашнураваны бот. Камандзір хацеў паказаць салдатам сваю трывучасць, але салдат пашкадаваў, дазволіў ім з пік, уваткнутых у зямлю, зрабіць піраміды і накінуць на іх белыя плашчы. У гэтых шалашах і хаваліся ад бязлітаснага сонца сірыйцы. Вёдры апаражняліся хутка, і кавалерысты з розных узводаў па чарзе накіроўваліся па ваду ў ярок пад гарою, дзе ў рэдзенькім цяньку ад чэзлых тутавых дрэў дажываў апошнія дні каламутны ручаёк. Тут стаялі, хаваючыся пад хісткі цень, і сумавалі канаводы, трымалі прыціхлых коней.

Пакуты салдат і іхнюю лаянку можна было зразумець. Боязь пракуратара, што можа пачацца бунт у час пакарання ў ненавісным горадзе Ершалаіме, на шчасце, не апраўдалася. І калі пайшла чацвёртая гадзіна пакарання, між двух ланцугоў, верхняй пяхотай і кавалерыяй ля падножжа, не засталося, насуперак чаканню, ніводнага чалавека. Сонца спякло натоўп і пагнала яго назад у Ершалаім. За ланцугом двух рымскіх кентурый засталіся толькі два невядома чые сабакі, якія чамусьці апынуліся на ўзгорку. Але і іх змучыла спякота, яны палеглі з высунутымі языкамі, цяжка дыхалі і не звярталі ўвагі на зялёных яшчарак, адзіных істот, якія не баяліся сонца і шнырылі між гарачага камення і нейкімі раслінамі з вялікімі калючкамі, якія віліся па зямлі.

Ніхто і не спрабаваў адбіваць асуджаных ні ў самім Ершалаіме, напоўненым войскам, ні тут, на ачэпленым узгорку, і натоўп вярнуўся ў горад, бо на самай справе нічога цікавага не было ў гэтым пакаранні, а там, у горадзе, усе рыхтаваліся да надыходзячага вялікага свята Пасхі.

Рымская пяхота ў другім ярусе пакутавала яшчэ больш, чым кавалерысты. Кентурыён Крысабой адзінае дазволіў салдатам — зняць шлемы і накрыцца белымі павязкамі,

намочанымі вадой, але трымаў салдат стоячы і з коп'ямі ў руках. Сам ён у гэтакай самай павязцы, толькі сухой, паходжваў непадалёку ад групкі катаў, не зняўшы нават са свае рубашкі накладныя срэбныя львіныя морды, не зняўшы нагалённікаў, мяча і нажа. Сонца біла проста ў кентурыёна і не рабіла яму ніякае шкоды, а на львіныя морды нельга было зірнуць, вочы выядала зіхоткае ззянне быццам закіпаючага на сонцы срэбра.

На скалечаным Крысабоевым твары не было ні стомленасці, ні незадаволенасці, і здавалася, што велікан кентурыён можа хадзіць вось гэтак цэлы дзень,— адным словам, гэтулькі, колькі трэба будзе. Усё гэтак жа з рукамі на цяжкой, з меднымі бляхамі папрузе, усё гэтак жа сурова пазіраць то на слупы з асуджанымі, то на салдат у ланцугу, усё гэтак жа раўнадушна адкідаць калматым ботам выбеленыя ад часу чалавечыя косці і невялічкія крэмені, якія траплялі пад ногі.

Той чалавек у башлыку размясціўся непадалёку ад слупоў на трохногай табурэтцы і сядзеў задаволены і нерухомы, зрэдку толькі ад няма чаго рабіць палачкаю калупаў пясок.

Сказанае пра тое, што за ланцугом легіянераў не было ніводнага чалавека, не зусім праўда. Адзін чалавек быў, але яго проста не ўсе бачылі. Ён размясціўся не з таго боку, дзе быў адкрыты пад'ём на гару і адкуль зручней было назіраць пакаранне, а з паўночнага боку, там, дзе ўзгорак быў не адлогі і даступны, а няроўны, перарэзаны ярамі і абрывамі, там, дзе ў трэшчыне, учапіўшыся за праклятую небам бязводную зямлю, спрабавала выжыць адзінокае фігавае дрэўца.

Якраз пад ім, дзе не было ніякага ценю, і размясціўся гэты адзінокі глядач, а не ўдзельнік пакарання, і сядзеў на камені з самага пачатку, гэта значыць чацвёртую гадзіну. Сапраўды, каб бачыць пакаранне, ён выбраў не лепшае, а горшае месца. Але ўсё ж і адсюль слупы відаць, відаць за ланцугом і дзве бліскучыя плямы на грудзях у кентурыёна, а гэтага чалавеку, які, відавочна, хацеў застацца амаль не прыкмечаным і нікім не патрывожаным, было дастаткова.

Але чатыры гадзіны таму, на пачатку пакарання, чалавек паводзіў сябе зусім інакш і вельмі нават мог быць прыкмечаны, таму, відаць, ён і змяніў свае паводзіны і схаваўся.

Толькі тады, як працэсія ўзышла на самы верх за ланцуг, ён і паказаўся ўпершыню, нібы чалавек, які спазніўся. Ён цяжка дыхаў і не ішоў, а бег на ўзгорак, штурхаўся, а калі ўгледзеў, што перад ім, як і перад іншымі, замкнуўся

ланцуг, зрабіў наіўную спробу, прытварыўшыся, што не разумее вокрыкаў, прарвацца між салдатамі да самога месца пакарання, дзе ўжо асуджаных здымалі з павозкі. За гэта ён атрымаў цяжкі ўдар тупым канцом кап'я ў грудзі і адскочыў ад салдат, ускрыкнуў ці то ад болю, ці то ў адчаі. На легіянера, які ўдарыў яго, ён паглядзеў туманным, зусім абыякавым позіркам, як чалавек, які не адчувае болю.

З кашлем і задышкаю, трымаючыся рукой за грудзіну, ён абабег вакол узгорка, хацеў на паўночным баку знайсці шчыліну ў ланцугу, каб можна было праслізнуць. Але спазніўся. Кола замкнулася, і чалавек з болем на твары вымушаны быў адмовіцца ад спроб прарвацца да павозак, з якіх ужо знялі слупы. Гэтыя спробы нічога не давалі, акрамя таго, што яго маглі схапіць, а быць затрыманым у гэты дзень ён не збіраўся.

І вось ён адышоў убок, да трэшчыны, дзе было спакойна і ніхто яму не перашкаджаў.

Цяпер гэты чорнабароды чалавек з гноем у вачах ад сонца і бяссоння сумна сядзеў на камені. Ён то ўздыхаў, расхінаў свой, зашмальцаваны за час бадзяння, калісьці блакітны, а цяпер брудна-шэры таліф, агаляў ударанаю кап'ём грудзіну, па якой цёк брудны пот, то з нечалавечаю пакутаю падымаў вочы ў неба, сачыў за трыма каршунамі, якія даўно ўжо плавалі ў вышыні кругамі ў прадчуванні блізкага піру, потым апускаў безнадзейны позірк на зямлю і бачыў на ёй амаль збуцвелы сабачы чэрап і яшчарак, якія бегалі вакол яго.

Чалавек гэтак пакутаваў, што час ад часу пачынаў загаворваць сам з сабой.

— Ой, дурань я! — мармытаў ён, пагойдваючыся з боку у бок на камені ад душэўнага болю і пазногцямі драпаючы смуглую грудзіну.— Дурань, дурная баба, баязлівец! Падла я, а не чалавек!

Ён заціхаў, апускаў галаву, потым піў цёплую ваду з драўлянае флягі, зноў ажываў, пачынаў хапацца то за нож, схаваны пад таліфам на грудзях, то за кавалак пергаменту, які ляжаў перад ім на камені побач з палачкаю і бутэлечкай з тушшу.

На гэтым пергаменце былі ўжо накрэслены запісы:

«Пралятаюць хвіліны, і я, Левій Мацей, знаходжуся на Лысай Гары, а смерці ўсё няма!»

Потым:

«Сонца на схіле, а смерці ўсё няма».

Зараз Левій Мацей безнадзейна запісаў востраю палачкаю вось такое:

«Божа! За што ты маеш крыўду на яго? Пашлі яму смерць».

Пасля запісу ўсхліпнуў без слёз і зноў пазногцямі драпнуў грудзіну.

Адчай Левія быў з-за тае вялікае няўдачы, якая спасцігла яго і Іешуа, у дадатак да ўсяго яшчэ і страшэнная памылка, якую ён, Левій, на яго думку, зрабіў. Пазаўчора ўдзень Іешуа і Левій знаходзіліся ў Віфаніі пад Ершалаімам, гасцявалі ў аднаго агародніка, якому надзвычай спадабаліся пропаведзі Іешуа. Цэлую раніцу госці працавалі на агародзе, дапамагалі, а пад вечар, халадком, сабраліся ісці ў Ершалаім. Але Іешуа чамусьці заспяшаўся, сказаў, што ў яго тэрміновы клопат у горадзе, і апоўдні пайшоў адзін. Вось гэта і была першая памылка Левія Мацея. Чаму, чаму ён адпусціў яго аднаго!

Вечарам Мацею не ўдалося пайсці ў Ершалаім. Нейкая нечаканая і жахлівая хвароба раптоўна навалілася на яго. Яго калаціла, цела гарэла, зубы стукалі, і ён бясконца прасіў піць. Нікуды ісці болей не мог. Ён зваліўся на дзяружку ў будане агародніка і праваляўся на ёй да раніцы ў пятніцу, калі хвароба гэтак жа раптоўна, як і навалілася, адпусціла Левія. Хаця ён яшчэ быў слабы і ногі дрыжалі, ён развітаўся з гаспадаром і накіраваўся ў Ершалаім, бо мучыла нейкае прадчуванне бяды. Там ён даведаўся, што прадчуванне не падманула. Няшчасце здарылася. Левій быў у натоўпе і чуў, як пракуратар аб'явіў прысуд.

Калі асуджаных павялі на Лысую Гару, Левій Мацей бег побач з ланцугом у натоўпе зявак, стараўся як-небудзь непрыкметна падаць знак Іешуа хаця б пра тое, што ён, Левій, тут, з ім, што ён не пакінуў яго на апошняй дарозе і што ён за яго, каб смерць да Іешуа прыйшла як мага хутчэй. Але Іешуа, які глядзеў удалечыню, туды, куды яго везлі, вядома, Левія не заўважыў.

І вось калі працэсія прайшла амаль паўвярсты па дарозе, Мацею, якога штурхалі ў натоўпе паўз самы ланцуг, прыйшла простая і геніяльная думка, і адразу ж, у гарачцы, ён пракляў сябе за тое, што не падумаў пра гэта раней. Салдаты ішлі няшчыльным ланцугом. Паміж імі былі прамежкі. Пры добрым спрыце і дакладным разліку можна было сагнуцца, праскочыць паміж двума легіянерамі, дарвацца да павозкі і ўскочыць на яе. Тады Іешуа будзе выратаваны ад пакут.

Аднаго імгнення дастаткова, каб ударыць Іешуа нажом у спіну, крыкнуць яму: «Іешуа! Я ратую цябе і адыходжу разам з табой! Я, Мацей, твой адданы і адзіны вучань!»

І калі б бог быў літасцівы і даў яму яшчэ адно імгненне, можна было б зарэзацца і самому, пазбегнуць смерці на слупе. Хаця апошняе мала турбавала Левія, былога зборшчыка падаткаў. Яму было ўсё роўна, як загінуць. Ён хацеў толькі аднаго, каб Іешуа, які не зрабіў нікому нічога дрэннага ў жыцці, пазбег катаванняў!

План быў вельмі добры, але справа ў тым, што Левій не меў з сабой нажа. Не было ў яго і ніводнага грошыка.

Злосны на самога сябе Левій выбраўся з натоўпу і пабег назад у горад. У гарачай яго галаве білася адна толькі ліхаманкавая думка: здабыць у горадзе нож і паспець дагнаць працэсію.

Ён дабег да гарадскіх варот, прабіраючыся ў натоўпе і таўкатні караванаў, якія ўцягваліся ў горад, і злева ўбачыў адчыненыя дзверы крамкі, у якой прадавалі хлеб. Цяжка задыханы пасля бегу па спякотнай дарозе, Левій авалодаў сабой, паважна зайшоў у крамку, прывітаў гаспадыню, якая стаяла ля прылаўка, папрасіў яе зняць з паліцы верхні каравай, які яму чамусьці спадабаўся болей, і, як толькі яна адвярнулася, хутка і моўчкі схапіў з прылаўка тое, што лепшым і быць не можа,— навостраны, як брытва, доўгі хлебны нож, і адразу кінуўся прэч з крамы. Праз некалькі хвілін ён быў зноў на Яфскай дарозе. Але працэсіі ўжо і не было відаць. Ён пабег. Час ад часу ён падаў проста на пыл і ляжаў нерухома, пакуль аддыхваўся. Гэтым ляжаннем ён здзіўляў тых, хто ехаў на мулах і ішоў пешшу ў Ершалаім. Ён ляжаў і слухаў, як калоціцца яго сэрца не толькі ў грудзях, але ў галаве і ў вушах. Аддыхаўшыся крыху, ён усхопліваўся і бег далей, але ўсё павольней і павольней. Калі ён нарэшце ўгледзеў запыленую ўдалечыні працэсію, яна была ўжо ля падножжа ўзгорка.

— Мой божа...— прастагнаў Левій, бо разумеў, што спазняецца. І ён спазніўся.

Пасля чатырох гадзін пакарання Левій не мог болей трываць пакут і разлютаваўся. Устаў з каменя, кінуў на зямлю непатрэбны цяпер ужо, як думалася яму, нож, растаптаў нагою біклагу з вадой, скінуў з галавы кефі, ухапіўся за рэдзенькія валасы на галаве і пачаў праклінаць сябе самога.

Ён праклінаў сябе, выкрыкваў незразумелыя словы, выў

і пляваўся, лаяў свайго бацьку і маці за тое, што нарадзілі на свет божы дурня.

Праклёны і лаянка не дзейнічалі, і нічога пад спякотным сонцам не мянялася, ён бачыў гэта, і таму заплюшчыў вочы, сціснуў маленькія кулачкі, падняў іх угору ў неба, да сонца, якое апускалася ўсё ніжэй і ніжэй, доўжыла цені і адыходзіла, каб упасці ў Міжземнае мора, і запатрабаваў у бога неадкладнага цуду. Ён патрабаваў, каб бог адразу паслаў Іешуа смерць.

Калі ён расплюшчыў вочы, то пераканаўся, што на ўзгорку нічога не змянілася, хіба толькі патухлі бліскучыя плямы на грудзях у кентурыёна. Сонца пякло ў спіны пакараным, якія віселі тварамі да Ершалаіма. Тады Левій закрычаў:

— Божа, я праклінаю цябе!

Асіплым голасам ён крычаў пра тое, што пераканаўся ў божай несправядлівасці і больш не будзе верыць яму.

— Ты глухі! — крычаў Левій.— Калі б ты быў не глухі, ты пачуў бы мяне і забіў бы яго адразу!

Левій заплюшчыў вочы, чакаў агню, які абрынецца на яго з неба і спапяліць. Гэтага не здарылася, і Левій з заплюшчанымі вачыма працягваў крычаць зняважлівыя і крыўдныя словы небу. Ён крычаў пра тое, што зусім расчараваўся, што ёсць на свеце іншыя багі і іншыя рэлігіі. Другі бог не дапусціў бы такога, ніколі не давёў бы, каб такі чалавек, як Іешуа, згараў ад сонца на слупе.

— Я памыляўся! — крычаў зусім ахрыплы Левій.— Ты бог злосці, а не дабра! Ці табе засціў вочы дым ад куродымніц у храмах, а вушы твае ўжо нічога не чуюць, акрамя папоўскіх трубных галасоў? Ты не ўсемагутны бог. Ты чорны бог. Пракляцце табе, бог бандытаў, іхні абаронца і іх душа!

І тут нешта павеяла ў твар быламу зборшчыку падаткаў і шорхнула ў яго пад нагамі. Павеяла яшчэ раз, і тады Левій расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ўсё навокал, ці ад яго праклёнаў, ці з-за нечага іншага, перамянілася. Знікла сонца, якое гэтак і не дайшло да мора, у якім танула штовечар. Навальнічная хмара праглынула яго і ўставала з захаду грозна і няўмольна. Краі хмары ўжо закіпалі белаю пенаю, чорнае дымнае чэрава адсвечвала жаўцізною. Хмара бурчала, і з яе час ад часу вывіваліся вогненныя пісягі. Па Яфскай дарозе, па беднай Гіёнскай даліне, над буданамі багамольцаў, узнятыя раптоўным ветрам, ляцелі пыльныя слупы. Левій змоўк, спрабаваў угадаць, ці прынясе навальні-

ца, якая зараз накрые сабой Ершалаім, якую-небудзь перамену ў лёсе няшчаснага Іешуа. І адразу ж, гледзячы на вогненныя пісягі, якія паласавалі хмару, пачаў прасіць, каб маланка ўдарыла ў слуп, да якога быў прывязаны Іешуа. Левій з раскаяннем глядзеў у неба, якое яшчэ не накрыла хмара і дзе каршачкі клаліся на крыло, каб уцячы ад навальніцы, і думаў, што, як дурань, паспяшаўся з праклёнамі. Цяпер бог не паслухае яго.

Левій паглядзеў на падножжа ўзгорка, на тое месца, дзе стаяў рассыпаны кавалерыйскі полк, і заўважыў, што там адбыліся вялікія перамены. З вышыні Левію добра было відаць, як салдаты мітусіліся, вырывалі з зямлі пікі, ахіляліся плашчамі, каняводы подбегам спяшаліся да дарогі з варанымі конькмі на павадах. Полк ад'язджаў, гэта было зразумела. Левій прыкрываў твар ад пылу, пляваўся і стараўся здагадацца, што гэта значыць, калі кавалерыя збіраецца ад'язджаць? Ён перавёў позірк вышэй і ўгледзеў маленькую постаць у барвовай вайсковай хламідзе, якая ўзыходзіла да пляцоўкі, на якой адбывалася пакаранне. І тут прадчуванне радаснага канца пахаладзіла сэрца былога зборшчыка падаткаў.

Той, хто ўзыходзіў на гару на пятай гадзіне пакут асуджаных, быў камандзір кагорты, які прыехаў з Ершалаіма ў суправаджэнні ардынарца. Салдацкі ланцуг па камандзе Крысабоя разамкнуўся, і кентурыён адсалютаваў трыбуну. Той адвёў убок Крысабоя і нешта шапнуў яму. Кентурыён другі раз адсалютаваў і рушыў да групкі катаў, якія сядзелі на камянях ля слупоў. Трыбун сам накіраваўся да таго, хто сядзеў на трохногай табурэтцы, і чалавек ветліва ўстаў насустрач трыбуну. І яму штосьці ціха сказаў трыбун, і яны абодва падышлі да слупоў. Да іх далучыўся і начальнік храмавай варты.

Крысабой гідліва зірнуў на брудныя анучы, якія ляжалі на зямлі ля слупоў, тое, што нядаўна было адзеннем злачынцаў, ад якога адмовіліся каты, паклікаў двух і загадаў:

— За мною!

З бліжэйшага слупа чулася хрыплая незразумелая песенька. Павешаны на ім Гестас на трэцяй гадзіне звяр'яцеў ад мух і ад сонца, і цяпер нешта ціхенька спяваў пра вінаград, але галавой, якая была прыкрыта чалмою, зрэдку варушыў, і тады мухі нехаця ўзляталі з твару і потым зноў садзіліся назад.

Дзісмас на другім слупе пакутаваў болей за астатніх,

таму што не траціў прытомнасці, і ён размерана матляў галавой у бакі, каб вухам дставаць да пляча.

Шчаслівейшы быў Іешуа. На першай гадзіне ў яго пачаліся вобмаракі, а потым ён і зусім самлеў, звесіў галаву ў развязанай чалме. Мухі і слепакі ўшчэнт абляпілі яго, гэтак, што і твару не было відаць пад чорнай масай, якая варушылася. На пахвіне, на жываце, пад пахамі сядзелі тлустыя слепакі і ссалі жоўтае голае цела.

Падпарадкуючыся загаду чалавека ў башлыку, адзін з катаў узяў кап'ё, а другі прынёс да слупа вядро з вадой і губку. Першы кат падняў кап'ё і пастукаў ім спачатку па адной, потым па другой руцэ Іешуа. Рукі былі выпрастаны і прывязаны да папярэчыны на слупе. Цела здрыганулася худымі рабрынамі. Кат правёў кончыкам кап'я па жываце. Іешуа падняў галаву, мухі загулі, узляцелі, адкрыўся твар павешанага, распухлы ад укусаў, з заплыўшымі вачыма, твар, які нельга было пазнаць.

Га-Ноцры разляпіў павекі і зірнуў уніз. Вочы ў яго, заўсёды ясныя, цяпер былі каламутныя.

— Га-Ноцры! — сказаў кат.

Га-Ноцры паварушыў распухлымі губамі і адазваўся хрыплым бандыцкім голасам:

— Чаго ты хочаш? Чаго прыйшоў да мяне?

— Пі! — сказаў кат, і набрынялая ад вады губка на вастрыі кап'я прытулілася да губ Іешуа. Радасць блснула ў яго ў вачах, ён прыпаў да губкі і прагна пачаў смактаць ваду. З суседняга слупа пачуўся голас Дзісмаса:

— Несправядліва! Я гэтакі ж бандыт, як і ён.

Дзісмас напружыўся, але паварушыцца не змог, яго рукі ў трох месцах на перакладзіне былі прывязаны вяроўкамі. Ён уцягнуў жывот, пазногцямі ўпіўся ў канцы перакладзіны, галава была павернута да слупа, на якім быў Іешуа, злосць палала ў Дзісмасавых вачах.

Пыльная хмара закрыла пляцоўку, моцна пацямнела. Калі пыл праляцеў, кентурыён крыкнуў:

— Маўчаць на другім слупе!

Дзісмас змоўк. Іешуа адарваўся ад губкі, намогся, каб голас прагучаў ласкава і пераканаўча, але не змог, і хрыпла папрасіў у ката:

— Дай яму напіцца.

Рабілася ўсё цямней. Хмара ўжо ахапіла паўнеба, імкнула на Ершалаім, белыя воблакі закіпалі і імчаліся паперадзе напоенай чорнай вільгаццю і агнём хмары. Блснула і грымнула над самым узгоркам. Кат зняў губку з кап'я.

— Праслаўляй высакароднага ігемона! — урачыста прамовіў ён і ціхенька кальнуў Іешуа ў сэрца. Той здрыгануўся, шапнуў:

— Ігемон...

Кроў пацякла ў яго па жываце, ніжняя сківіца сутаргава ўздрыгнула, і галава абвісла.

У час другое грымоты кат паіў ужо Дзісмаса і з тымі самымі словамі:

— Праслаўляй ігемона! — забіў і яго.

Звар'яцелы Гестас спалохана ўскрыкнуў, як толькі кат апынуўся ля яго, але калі губка дакранулася да яго губ, нешта забурчаў, упіўся ў яе зубамі. Праз некалькі хвілін абвісла і яго цела, як толькі дазвалялі вяроўкі.

Чалавек у башлыку ішоў услед за катам, а за ім начальнік храмавай варты. Чалавек у башлыку спыніўся ля першага слупа, уважліва агледзеў скрываўленага Іешуа, дакрануўся белай рукою да ступака і сказаў спадарожнікам:

— Мёртвы.

Тое ж самае паўтарылася і каля двух астатніх слупоў.

Пасля гэтага трыбун падаў знак кентурыёну, завярнуўся і пачаў сыходзіць з вяршыні разам з начальнікам храмавай варты і чалавекам у башлыку. Зрабілася змрочна, маланкі кроілі неба. З яго раптам палыхнула агнём, і крык кентурыёна «Здымай ланцуг!» патануў у грымотах. Шчаслівыя салдаты кінуліся бегчы з узгорка і надзявалі шлемы. Цемра накрыла Ершалаім.

Лівень абрынуўся нечакана і заспеў кентурыі на паўдарозе на ўзгорку. Вада лілася гэтак, што, калі салдаты беглі ўніз, наўздагон ім ужо ляцелі бурлівыя раўчукі. Салдаты слізгаліся і падалі на размоклай гліне, спяшаліся да роўнае дарогі, па якой — ужо ледзь бачная скрозь дождж,— прамоклая ўшчэнт, уваходзіла ў Ершалаім кавалерыя. Праз некалькі хвілін у дымным варыве навальніцы, вады і агню на ўзгорку застаўся толькі адзін чалавек. Ён пагражаў недарэмна ўкрадзеным нажом, зрываўся са слізкіх выступаў, чапляўся за што толькі можна было зачапіцца, часам поўз на каленях,— ён імкнуўся да слупоў. Ён то знікаў у суцэльнай імгле, то раптам асвятляўся дрыготкім святлом.

Як толькі дабраўся да слупоў, ужо па костачкі ў вадзе, ён скінуў з сябе цяжкі, набрынялы ад вады таліф, застаўся ў адной рубашцы і прыпаў да ног Іешуа. Ён перарэзаў вяроўкі на нагах, узлез на ніжнюю папярочку, абняў Іешуа і вызваліў яго рукі ад верхніх вяровак. Голае мокрае цела Іешуа ўпала на Левія і паваліла яго на зямлю. Левій хацеў

адразу ўскінуць яго на плечы, але нейкая думка затрымала яго. Ён пакінуў на зямлі ў вадзе цела нябожчыка з адкінутай галавой і раскінутымі ў бакі рукамі і пабег да астатніх слупоў. Ногі ў яго раз'язджаліся на мокрай гліне. Ён перарэзаў вяроўкі і на астатніх слупах, і два целы ўпалі на зямлю.

Праз некалькі хвілін на вяршыні ўзгорка засталіся толькі гэтыя два целы і тры пустыя слупы. Вада гнала і пераварочвала нябожчыкаў.

Ні Левія, ні цела Іешуа на вяршыні ўзгорка ў гэты час ужо не было.

## Раздзел 17

### ТУРБОТНЫ ДЗЕНЬ

Раніцай у пятніцу, гэта значыць назаўтра пасля праклятага сеанса, увесь штат служачых Вар'етэ — бухгалтар Васіль Сцяпанавіч Ластачкін, два рахункаводы, тры машыністкі, абедзве касіршы, кур'еры, капельдынеры і прыбіральшчыцы,— адным словам усе, хто быў тут, не займаліся справаю кожны на сваім месцы, а ўсе сядзелі на падаконніках вокнаў, якія выходзілі на Садовую, і глядзелі на тое, што рабілася пад сцяною Вар'етэ. Пад гэтаю сцяною ў два рады ляпілася шматтысячная чарга, хвост якой быў ажно на Кудрынскай плошчы. У пачатку гэтае чаргі стаялі дзесяткі два добра вядомых усёй тэатральнай Маскве перакупшчыкаў.

Чарга паводзіла сябе ўсхвалявана, прыцягвала да сябе ўвагу грамадзян, якія цяклі паўз яе, і абмяркоўвала спакуслівыя расказы пра ўчарашні небывалы сеанс чорнае магіі. Гэтыя расказы ўшчэнт збянтэжылі бухгалтара Васіля Сцяпанавіча, які на спектаклі не быў. Капельдынеры расказвалі чортведама што, а таксама і пра тое, як пасля сеанса некаторыя грамадзяне ў непрыстойным выглядзе бегалі па вуліцы, і яшчэ, і яшчэ... Сціплы і ціхі Васіль Сцяпанавіч толькі вачыма лыпаў, слухаючы гэтыя расказы пра ўсе тыя дзівосы, і канчаткова не ведаў, што яму рабіць, а рабіць нешта трэба было, і рабіць яму, бо цяпер ён быў самы старшы з усяе каманды ў Вар'етэ.

Пад дзесяць гадзін раніцы чарга гэтак разбрыняла, што пра яе дайшлі чуткі да міліцыі, і надзіва хутка былі прысланы не толькі пешыя, але і конныя нарады, якія гэтую чаргу крыху давялі да ладу. Аднак і гэтая ўпарадкаваная

вужака, даўжынёю з добры кіламетр, сама па сабе была спакуслівая і здзіўляла грамадзян на Садовай.

Гэта звонку, а ў самім Вар'ерэ таксама не было ладу. З самага ранку пачалі званіць бесперастанку тэлефоны ў кабінеце ў Ліхадзеева, у кабінеце ў Рымскага, у бухгалтэрыі, у касе і ў кабінеце ў Варэнухі. Васіль Сцяпанавіч спачатку нешта спрабаваў адказваць, адказвала і касірка, мармыталі нешта ў трубку капельдынеры, а потым і яны перасталі адказваць, таму што на пытанні, дзе Ліхадзееў, Варэнуха, Рымскі, адказаць было немагчыма. Спачатку паспрабавалі адгаварыцца «Ліхадзееў дома», а з горада адказвалі, што званілі дадому і што там адказваюць, што Ліхадзееў у Вар'етэ. Пазваніла ўсхваляваная пані, пачала патрабаваць Рымскага, ёй параілі пазваніць жонцы, у адказ трубка заплакала і адказала, што яна і ёсць яго жонка і што Рымскага няма нідзе. Усчалося чортведама што. Прыбіральшчыца ўжо расказала ўсім, што калі зайшла ў кабінет фіндырэктара, каб прыбраць, убачыла, што дзверы адчынены насцеж, лямпы гараць, акно ў сад пабіта, крэсла валяецца на падлозе і няма нікога.

На пачатку адзінаццатае гадзіны ўварвалася ў Вар'етэ пані Рымская. Яна плакала і заломлівала рукі. Васіль Сцяпанавіч зусім разгубіўся і не ведаў, што параіць. А палове адзінаццатае з'явілася міліцыя. Першае і зусім правамернае пытанне было:

— Што тут у вас, грамадзяне, адбываецца? Што здарылася?

Каманда падалася назад, выставіла наперад збялелага і ўсхваляванага Васіля Сцяпанавіча. Давялося гаварыць тое, што ёсць, прызнацца, што адміністрацыя Вар'етэ, якую ўвасаблялі дырэктар, фіндырэктар і адміністратар, знікла і дзе знаходзіцца — невядома, што канферансье пасля ўчарашняга сеанса завезлі ў псіхіятрычную бальніцу і што, калі коратка сказаць, учарашні сеанс быў скандальны сеанс.

Заплаканую пані Рымскую як маглі супакоілі, адправілі дадому і больш за ўсё зацікавіліся расказам прыбіральшчыцы пра тое, які быў кабінет фіндырэктара, калі яна зайшла. Служачых папрасілі разысціся на свае месцы і пачаць работу, і хутка ў памяшканні Вар'етэ з'явілася следства з вастравухім, мускулістым, пад колер папяроснага попелу сабакам з надзвычай разумнымі вачыма. Служачыя Вар'етэ адразу пачалі шушукацца, што сабака той самы знакаміты Тузбубен. Вядома, гэта быў ён. Яго паводзіны здзівілі ўсіх. Як толькі Тузбубен убег у фіндырэктарскі

кабінет, адразу загырчаў, выскаліў страшныя жаўтаватыя іклы, потым лёг на жывот, з нейкім сумам і лютасцю ў вачах папоўз да выбітага акна. Пераадолеў страх, раптоўна ўскочыў на падаконнік, задраў угору вострую морду, люта і злосна завыў. Ён не хацеў пакідаць акно, гырчаў і ўздрыгваў, парываўся саскочыць уніз.

Сабаку вывелі з кабінета і пусцілі ў вестыбюлі, адтуль ён выйшаў праз галоўны ўваход на вуліцу і прывёў следства да таксаматорнага прыпынку. Каля яго ён след, па якім ішоў, згубіў. Пасля гэтага Тузабубена адвезлі.

Следства размясцілася ў кабінеце ў Варэнухі, куды і пачало па чарзе выклікаць тых служачых у Вар'етэ, якія ўчора былі сведкамі здарэнняў на вячэрнім спектаклі. Варта адзначыць, што следству на кожным кроку даводзілася пераадольваць непрадбачаныя цяжкасці. Нітачка рвалася і рвалася ў руках.

Афішы былі? Былі. Але за ноч іх пазаклейвалі новымі, і цяпер няма ніводнае, хоць ты забіся. Адкуль узяўся гэты самы маг? Бог яго ведае. Атрымліваецца, [illegible] ім быў заключаны дагавор?

— Павінен,— адказаў усхваляваны Васіль Сцяпанавіч.

— А калі быў дагавор, то ён павінен прайсці праз бухгалтэрыю.

— Абавязкова,— адказаў усхвалявана Васіль Сцяпанавіч.

— Дык дзе ж ён?

— Няма,— адказаў бухгалтар, яшчэ больш пабялеў і развёў рукамі. І сапраўды, ні ў папках у бухгалтэрыі, ні ў фіндырэктара, ні ў Ліхадзеева, ні ў Варэнухі і следу дагавора няма.

Якое прозвішча ў гэтага мага? Васіль Сцяпанавіч не ведае, ён учора не быў на сеансе. Капельдынеры не ведаюць, білетная касірка моршчыла лоб, моршчыла, думала-думала, нарэшце сказала:

— Во... Здаецца, Воланд.

А магчыма, і не Воланд? Магчыма, што і не. Магчыма, Фоланд.

Высветлілася, што ў замежным бюро ні пра якога мага Воланда, а таксама і пра Фоланда і чуць нічога не чулі.

Кур'ер Карпаў паведаміў, што нібыта гэты самы маг спыніўся на кватэры ў Ліхадзеева. На кватэру, вядома ж, адразу з'ездзілі. Ніякага мага там не аказалася. Самога Ліхадзеева таксама няма. Хатняе работніцы Груні няма, і

ніхто не ведае, дзе яна дзелася. Старшыні праўлення Міканора Іванавіча няма, Пролежнева няма!

Атрымлівалася нешта зусім несусветнае — знікла ўся галоўка адміністрацыі, учора адбыўся дзіўны скандальны сеанс, а хто яго арганізаваў і па чыёй падказцы — невядома.

А час ішоў, набліжаўся поўдзень, калі павінна адчыніцца каса. Але пра гэта і гаворкі быць не можа! На дзвярах Вар'етэ неадкладна павесілі вялізны кавалак кардону з надпісам: «Сёння спектакль адмяняецца». У чарзе пачалося хваляванне, з галавы спачатку, але чарга пахвалявалася-пахвалявалася і пакрысе пачала распадацца, і прыкладна праз гадзіну ад яе і следу не засталося. Следства паехала працягваць работу ў іншым месцы, служачых адпусцілі, пакінулі толькі дзяжурных, і дзверы Вар'етэ замкнулі.

Бухгалтару Васілю Сцяпанавічу тэрмінова трэба было выканаць два заданні. Першае, з'ездзіць у Камісію відовішчаў і забаў аблегчанага тыпу з дакладам пра ўчарашнія здарэнні, другое — пабыць у фінглядацкім сектары, каб здаць учарашнюю выручку — 21 711 рублёў.

Акуратны і паслухмяны Васіль Сцяпанавіч запакаваў грошы ў газетную паперу, вяровачкаю перавязаў пакет накрыж, паклаў яго ў партфель і, згодна інструкцыі, вядома ж, пайшоў не на аўтобус, а на таксаматорны прыпынак.

Як толькі шафёры трох машын угледзелі чалавека з туга напакаваным партфелем, які спяшаўся на прыпынак, усе трое з-пад самага носа паехалі ўпустую ды яшчэ чамусьці і злосна азіраліся.

Уражаны гэтай акалічнасцю, бухгалтар доўга стаяў слупком, не мог зразумець, што гэта магло абазначаць.

Хвіліны праз тры пад'ехала парожняя машына, і твар у шафёра адразу скрывіўся, як толькі ён убачыў пасажыра.

— Машына свабодная? — здзіўлена кашлянуў і спытаўся Васіль Сцяпанавіч.

— Грошы пакажыце,— злосна сказаў шафёр і не глянуў на пасажыра.

Бухгалтар, усё болей і болей нічога не разумеючы, ціснуў партфель пад пахай, дастаў з кашалька чырвонец і паказаў шафёру.

— Не паеду! — коратка адказаў той.

— Прабачце...— пачаў Васіль Сцяпанавіч, але шафёр перапыніў яго:

— Траячкі ёсць?

Зусім збіты з панталыку бухгалтар дастаў дзве траячкі і паказаў шафёру.

— Сядайце,— крыкнуў той і гэтак ляпнуў па сцяжку лічыльніка, што ледзь не зламаў яго.— Паехалі.

— Рэшту даваць няма чым, ці што? — нясмела спытаўся бухгалтар.

— Цэлая кішэня рэшты! — крыкнуў шафёр, і ў люстэрку нават былі відаць яго набеглыя крывёй вочы.— Сёння трэці выпадак у мяне. Ды і з іншымі было. Дае нейкі сучы сын чырвонец, я яму рэшту — чатыры пяцьдзесят... вылез, свалата! Хвілін праз пяць гляджу: замест чырвонца наклейка з нарзаннае бутэлькі! — Тут шафёр выдаў некалькі слоў не для друку.— Другі — на Зубаўскай. Чырвонец. Даў тры рублі рэшты. Пайшоў! Я палез у кашалёк — адтуль пчала — джыг у палец! Ух ты...— шафёр зноў уклеіў словы не для друку,— а чырвонца няма. Учора ў гэтым Вар'етэ (зноў лаянка) нейкая гадзіна-фокуснік сеанс з чырвонцамі ўтварыў (лаянка).

Бухгалтар аслупянеў, сцяўся ўвесь і прытварыўся, што нават і само слова «Вар'етэ» чуе ўпершыню, а сам падумаў: «Ну і ну!...»

Даехалі добра, бухгалтар разлічыўся, увайшоў у будынак і пакіраваў па калідоры туды, дзе знаходзіўся кабінет загадчыка, і ўжо па дарозе зразумеў, што прыехаў не ў час. Нейкая мітусня панавала ў канцылярыі Камісіі відовішчаў. Паўз бухгалтара прабегла кур'ерша з хусткаю на патыліцы і з вытрашчанымі вачыма.

— Няма, няма, даражэнькія мае,— крычала яна невядома каму,— пінжак і штаны тут, а ў пінжаку нічога няма!

Яна знікла за нейкімі дзвярыма, і адразу пачулася, як там б'юць посуд. З сакратарскага пакоя вылецеў знаёмы бухгалтару загадчык першага сектара камісіі, але ў такім стане, што бухгалтара не пазнаў, і знік бясследна.

Уражаны ўсім гэтым, бухгалтар дайшоў да сакратарскага пакоя, які папярэднічаў кабінету старшыні камісіі, і тут канчаткова быў уражаны.

Праз зачыненыя дзверы чуўся грозны голас, які несумненна належаў Прохару Пятровічу — старшыні камісіі. «Дае некаму дыхту, ці што?» — падумаў спалоханы бухгалтар, азірнуўся і ўбачыў іншае: на скураным крэсле, з адкінутай галавой, нястрымна плачучы, ляжала, выцягнуўшы ногі амаль на сярэдзіну сакратарскага пакоя, асабістая сакратарка Прохара Пятровіча — прыгажуня Ганна Рычардаўна.

Увесь падбародак у Ганны Рычардаўны быў у памадзе,

а па персікавых шчоках паўзлі з павек чорныя струмені раскіслае фарбы.

Ганна Рычардаўна ўбачыла, што нехта зайшоў, усхапілася, кінулася да бухгалтара, учапілася за адвароты яго пінжака, пачала трэсці і крычаць:

— Дзякуй богу! Хоць адзін смелы знайшоўся! Усе разбегліся! Усе здрадзілі! Пайшлі, пайшлі да яго, я не ведаю, што мне рабіць! — Яна працягвала плакаць наўзрыд і цягнула бухгалтара ў кабінет.

Як толькі ўвайшоў у кабінет, бухгалтар упусціў долу партфель, і ў галаве ў яго ўсё пайшло кругам. І было з-за чаго.

За вялізным пісьмовым сталом з вялізнаю чарніліцай сядзеў пусты касцюм і сухім пяром вадзіў па паперы. Касцюм быў з гальштукам, з кішэнькі тырчала пяро самапіскі, але над каўняром не было ні шыі, ні галавы, гэтаксама як з рукавоў не відаць было і рук. Касцюм засяроджана працаваў і зусім не заўважаў усяго таго вэрхалу, які панаваў навокал. Касцюм пачуў, што нехта ўвайшоў, адкінуўся да спінкі сядзення, і над каўняром прагучаў добра знаёмы бухгалтару голас Прохара Пятровіча:

— Што такое? На дзвярах напісана, што я не прымаю.

Прыгажуня сакратарка аж віскнула, заламала рукі і закрычала:

— Вось бачыце? Бачыце? Няма яго! Няма! Вярніце яго, вярніце!

Тут нехта ўсунуўся ў дзверы і адразу ж вылецеў прэч. Бухгалтар адчуў, што ногі ў яго задрыжалі, прысеў на краёк крэсла, але партфель падняць не забыўся. Ганна Рычардаўна танцавала вакол бухгалтара, скубла яго за пінжак і крычала:

— Я вечна гаварыла яму, калі ён чорта ўспамінаў! Вось і даўспамінаўся,— тут прыгажуня падбегла да пісьмовага стала і напеўным пяшчотным голасам, крыху гугнявым пасля плачу, усклікнула:

— Проша! Дзе вы?

— Хто тут вам «Проша»? — пыхліва пацікавіўся касцюм, і яшчэ мацней усеўся ў крэсле.

— Не пазнаяце! Мяне не пазнаяце! Вы разумееце? — загаласіла сакратарка.

— Папрашу не галасіць у кабінеце! — ужо зазлаваў касцюм у палосачку і рукавом падсунуў да сябе стосік папер, каб напісаць на іх рэзалюцыі.

— Не, не, не магу гэтага вытрываць, не магу! — за-

крычала Ганна Рычардаўна і вылецела ў прыёмны пакой, а за ёй куляю і бухгалтар.

— Уяўляеце, сяджу,— расказвала і калацілася ад хвалявання Ганна Рычардаўна, зноў учапіўшыся за рукаў бухгалтара,— і ўваходзіць кот. Чорны, вялікі, як бегемот. Я, вядома, крычу на яго «апсік». Ён прэч, а замест яго ўваходзіць таўстун з гэтакай самай кашэчаю мордаю і гаворыць: «Гэта чаму вы, грамадзянка, на наведвальнікаў «псік» крычыце?» І напрасткі шусь да Прохара Пятровіча, сядае насупраць яго ў крэсла! Ну вось, ён дабрадушны чалавек, але нервовы. Зазлаваўся! Што казаць. Знерваваны чалавек, працуе, як вол,— зазлаваў. «Вы чаму, гаворыць, без даклада лезеце?» А той, нахаба, уяўляеце, разваліўся ў крэсле і гаворыць з усмешкаю: «А я, гаворыць, з вамі пра справу пагаварыць прыйшоў». Прохар Пятровіч зноў раззлаваўся: «Я заняты!» А той, падумаць толькі, адказвае: «Нічым вы не заняты...» Ну? Тут, вядома, цярпенне ў Прохара Пятровіча лопнула, і ён закрычаў: «Ды што ж гэта робіцца? Вывесці яго вон, чорт мяне вазьмі!» А той, уяўляеце, усміхнуўся і гаворыць: «Каб чорт узяў? Чаму ж, гэта можна!» І — бабах, я нават крыкнуць не ўспела, гляджу: няма гэтага з кашэчаю галавою і ся... сядзіць... касцюм... Э-э! — скрывіла разяўлены рот і завыла зноў Ганна Рычардаўна.

Удавілася ад плачу, перавяла дух і пачала гаварыць зусім абы-што:

— І піша, піша, піша! Звар'яцець можна! Гаворыць па тэлефоне! Касцюм! Усе разбегліся, як зайцы!

Бухгалтар стаяў і калаціўся. Але тут сам лёс з яго зліта-ваўся. У сакратарскі пакой дзелавою хадою ўваходзіла міліцыя ў асобе двух чалавек. Як толькі ўгледзела іх, прыгажуня заплакала яшчэ мацней, паказала пальцам на дзверы ў кабінет.

— Давайце не будзем плакаць, грамадзянка,— спакойна сказаў першы, і бухгалтар адчуў, што ён тут зусім непатрэбны, выскачыў з сакратарскага пакоя і праз хвіліну ўжо быў на свежым паветры. У галаве ў яго гуляў нейкі скразняк, гуло, як у коміне, а сярод гэтага гуду чуліся абрыўкі капельдынерскіх расказаў пра ўчарашняга ката, які ўдзельнічаў у сеансе. «Э-ге! Ды ці не наш гэта коцік?»

Пасля таго як не дабіўся толку ў камісіі, добрасумленны Васіль Сцяпанавіч рашыў наведаць філіял, які размяшчаўся ў Ваганькаўскім завулку. І каб крыху супакоіцца, пайшоў туды пешшу. Гарадскі філіял відовішчаў размяшчаўся ў

аблупленым старым будынку ў глыбіні двара і быў знакаміты сваімі парфіравымі калонамі ў вестыбюлі.

Алс не гэтыя калоны ўражвалі наведвальнікаў у той дзень, а тое, што адбывалася пад імі.

Некалькі наведвальнікаў здранцвела стаялі і глядзелі на заплаканую паненку, што сядзела за столікам, на якім ляжала спецыяльная відовішчная літаратура, якую яна прадавала. У гэты момант паненка нікому нічога не прапаноўвала і ў адказ на спачувальныя пытанні толькі адмахвалася, а зверху, і знізу, і з бакоў, з усіх аддзелаў філіяла сыпаўся звон сама мала з дваццаці тэлефонных апаратаў.

Паненка паплакала, раптам скаланулася, істэрычна ўскрыкнула:

— Вось ізноў! — і неспадзявана заспявала дрыготкім сапрана:

Славное море священный Байкал...

Кур'ер, які паказаўся на лесвіцы, пагразіў некаму кулаком і заспяваў разам з паненкаю глухім, цьмяным барытонам:

Славен корабль, омулевая бочка!..

Да кур'еравага голасу далучыліся далёкія галасы, хор пачаў разрастацца, і, нарэшце, песня грымела з усіх куткоў філіяла. У бліжэйшым пакоі, дзе размяшчаўся падліковаправерачны аддзел, асабліва вылучалася нечая магутная хрыплаватая актава. Акампанаваў хору трэск тэлефонных апаратаў, які ўсё мацнеў.

Гей, баргузин... пошевеливай вал!..—

роў кур'ер на лесвіцы.

Слёзы цяклі па твары ў дзяўчыны, яна спрабавала сціснуць зубы, але рот разяўляўся сам, і яна спявала на актаву вышэй, чым кур'ер:

Молодцу быть недалечко!

Уражвала анямелых наведвальнікаў філіяла тое, што харысты, раскіданыя ў розных месцах, спявалі вельмі зладжана, быццам увесь хор стаяў і не зводзіў воч з нябачнага дырыжора.

Людзі спыняліся ля агароджы двара, дзівіліся з весялосці, якая панавала ў філіяле.

Як толькі першы слупок скончыўся, спеў адразу сціх, нібыта па загадзе дырыжора. Кур'ер ціха вылаяўся і знік. Тут адчыніліся і галоўныя дзверы, паказаўся грамадзянін

у летнім паліто, з-пад якога відаць быў белы халат, а побач з ім міліцыянер.

— Доктар, зрабіце што-небудзь, прашу,— істэрычна ўскрыкнула дзяўчына.

На лесвіцу выбег сакратар філіяла, ён гарэў ад сораму і збянтэжанасці, загаварыў заікаючыся:

— Бачыце, доктар, у нас нейкі масавы гіпноз... Дык вось, неабходна...— ён не дагаварыў, пачаў давіцца словамі і раптам заспяваў тэнарам:

Шилка и Нерчинск...

— Дураны! — успела крыкнуць дзяўчына, але не растлумачыла, на каго лаецца, а замест гэтага сама замармытала і вывела пра Шылку і Нерчынск.

— Вазьміце сябе ў рукі! Перастаньце спяваць! — звярнуўся доктар да сакратара.

Яно і так відаць было, што сакратар аддаў бы што хочаце, каб толькі перастаць спяваць, але спыніцца ён ужо не мог і данёс да людскіх вушэй у завулку навіну пра тое, што ў нетрах не зачапіў яго пражорлівы звер і што куля стралка не здагнала!

Як толькі слупок скончыўся, дзяўчына першаю атрымала порцыю валяр'янкі ад доктара, а потым ён пабег следам за сакратаром да іншых — паіць і іх.

— Прабачце, грамадзяначка,— неспадзявана звярнуўся Васіль Сцяпанавіч да дзяўчыны,— да вас чорны кот не прыходзіў?

— Які там яшчэ кот? — злосна закрычала дзяўчына.— Асёл сядзіць у нас у філіяле, асёл! — і дадала да гэтага: — Няхай чуе! Я пра ўсё раскажу!

І сапраўды расказала, што адбылося.

Высветлілася, што загадчык гарадскога філіяла, які «дашчэнту разваліў аблегчаныя забавы» (гэтак сказала дзяўчына), пакутаваў маніяй арганізоўваць розныя гурткі.

— Начальства абманваў! — крычала дзяўчына.

На працягу года загадчык паспеў арганізаваць гурток па вывучэнні Лермантава, шахматна-шашкавы, пінг-понгавы і гурток коннікаў. На лета пагражаў арганізаваць гурток веславання на прэснай вадзе і гурток альпіністаў.

І вось сёння раніцай уваходзіць ён, загадчык...

— І вядзе пад руку нейкага абармота,— расказвала дзяўчына,— які невядома адкуль узяўся, у клятчастых штанах, у пабітым пенснэ... і морда, што глядзець немагчыма!

І адразу ж, як расказала дзяўчына, усім назваў яго як выдатнага спецыяліста арганізоўваць харавыя гурткі.

Твары будучых альпіністаў пазмрачнелі, але загадчык адразу заклікаў усіх не журыцца, а спецыяліст пажартаваў, і пасмяшыў, і пакляўся, што спевы часу забяруць зусім мала, а карысці ад гэтага будзе цэлы воз.

Ну, вядома, як расказвала дзяўчына, першыя выскачылі Фанаў і Касарчук, самыя першыя ў філіяле падхалімы, аб'явілі, што запісваюцца. Тут і астатнія служачыя пераканаліся, што спеваў не пазбегнуць, давялося запісвацца ў гурток і ім. Спяваць вырашылі ў абедзенны час, бо астатні займалі Лермантаў і шашкі. Загадчык, каб паказаць прыклад, аб'явіў, што ў яго тэнар, а далей усё пачалося як у страшным сне. Клятчасты спецыяліст-хармайстар закрычаў:

— До-мі-соль-до! — вывалак самых сарамлівых з-за шафаў, дзе яны спрабавалі ўратавацца ад спеваў, Касарчуку сказаў, што ў яго выключны слых, пачаў жаліцца, скуголіць, прасіць, каб не крыўдзілі старога рэгента-певуна, стукаў камертонам па пальцах, папрасіў заспяваць «Славное море».

Грымнулі. І выдатна грымнулі. Клятчасты сапраўды быў майстар свае справы. Скончылі першы слупок. Тут рэгент папрасіў прабачэння, сказаў, што яму трэба на хвілінку — і... знік. Думалі, што і сапраўды ён праз хвілінку вернецца назад. Але і праз дзесяць яго не было. Узрадаваліся філіяльцы — уцёк.

І раптам міжволі заспявалі другі слупок, усіх павёў за сабой Касарчук, у якога, можа, і не было абсалютнага слыху, але быў даволі прыемны тэнар. Праспявалі. Рэгента няма! Пайшлі кожны на сваё месца, але не ўспелі сесці, як зноў міжволі заспявалі. А спыніцца не атрымлівалася. Памаўчаць хвіліны са тры і зноў запяваюць. Памаўчаць — і зноў! Тут здагадаліся, што бяда. Загадчык замкнуўся ад сораму ў сваім кабінеце.

Расказ перапыніўся. Валяр'янка ніяк не дапамагала.

Праз чвэрць гадзіны ў двор у Ваганькаўскім завулку пад'ехалі тры грузавікі, у яго загрузілі ўвесь штат філіяла разам з загадчыкам.

Як толькі машына гайданулася ў варотах і выехала ў завулак, служачыя, якія стаялі ў кузаве і трымаліся за плечы адзін у аднаго, разявілі раты, і завулак напоўніўся папулярнаю песняй. Другі гразувік падхапіў, а за ім і трэці. Гэтак і паехалі. Людзі на вуліцы толькі незнарок кідалі вокам на

машыны і не здзіўляліся, думалі, што гэта экскурсія едзе за горад. Ехалі і на самай справе за горад, але толькі не на экскурсію, а ў клініку прафесара Стравінскага.

Праз паўгадзіны зусім звар'яцелы бухгалтар дабраўся да фінглядацкага сектара ў спадзяванні ўрэшце пазбавіцца грошай. Навучаны ўжо вопытам, ён спачатку асцярожна зазірнуў у прадаўгаватую залу, дзе за матавым шклом і залатымі надпісамі сядзелі служачыя. Ніякае трывогі ці непарадку бухгалтар тут не западозрыў. Было ціха, як і належыць у прыстойнай установе.

Васіль Сцяпанавіч усунуў галаву ў тое акенца, дзе было напісана: «Прыём сум»,— павітаўся з нейкім незнаёмым служачым і ветліва папрасіў прыходны ордэр.

— А нашто вам? — спытаўся служачы праз акенца.

Бухгалтар здзівіўся.

— Хачу здаць грошы. Я з Вар'етэ.

— Хвілінаку,— адказаў служачы і імгненна зачыніў рашоткай дзірку ў шкле.

«Дзіўна!» — падумаў бухгалтар. Здзіўленне яго было зусім натуральнае. Упершыню ў яго жыцці адбывалася такое. Усім вядома, як цяжка атрымаць грошы, тут абавязкова знойдуцца перашкоды. Але за трыццаць гадоў работы бухгалтарам не было ніводнага выпадку, каб хто-небудзь, прыватная альбо юрыдычная асоба, не спяшаўся ўзяць грошы.

Нарэшце рашотка адсунулася, і бухгалтар зноў нахіліўся да акенца.

— А многа ў вас? — спытаўся служачы.

— Дваццаць адна тысяча семсот адзінаццаць рублёў.

— Ого! — чамусьці іранічна адказаў служачы і падаў бухгалтару зялёны квіток.

Бухгалтар хуценька запоўніў добра вядомую форму і пачаў развязваць аборачку на пакеце. Калі ён распакаваў свой груз, у вачах у яго застракацела, ён нешта хваравіта прамармытаў.

Перад вачыма мільгалі замежныя грошы. Тут былі пачкі канадскіх долараў, англійскіх фунтаў, галандскіх гульдэнаў, латвійскіх латаў, эстонскіх крон...

— Вось ён, адзін з гэтых штукароў з Вар'етэ,— пачуўся грозны голас над анямелым бухгалтарам. І адразу ж Васіля Сцяпанавіча арыштавалі.

# Раздзел 18

## НЯЎДАЧЛІВЫЯ НАВЕДВАЛЬНІКІ

Якраз у той час, калі сумленны бухгалтар імкнуў у таксаматоры, каб нарвацца на самапішучы касцюм, з плацкартнага мяккага вагона № 9 кіеўскага цягніка, які прыбыў у Маскву, разам з іншымі выйшаў прыстойны грамадзянін з маленькім фібравым чамаданчыкам у руцэ. Гэта быў не хто іншы, як сам дзядзька нябожчыка Берліёза, Максіміліян Андрэевіч Паплаўскі, эканаміст-планавік, які жыў у Кіеве на былой Інстытуцкай вуліцы. Прымусіла яго прыехаць у Маскву атрыманая пазаўчора тэлеграма наступнага зместу:

«Мяне толькі што зарэзаў трамвай на Патрыярхавых.

Пахаванне пятніцу, тры гадзіны апоўдні. Прыязджай. Берліёз».

Максіміліян Андрэевіч заслужана лічыўся адным з разумнейшых людзей у Кіеве. Але і самага разумнага чалавека падобная тэлеграма паставіць у тупік. Калі чалавек тэлеграфуе, што яго зарэзала, то зразумела, што зарэзала не на смерць. Але пры чым тады пахаванне? Ці ён у такім стане, што прадбачыць смерць? Такое магчыма, але самае дзіўнае — дакладнасць. Адкуль ён ведае, што хаваць яго будуць у пятніцу ў тры гадзіны? Дзіўная тэлеграма!

Аднак разумныя людзі таму і разумныя, што ўмеюць разабрацца ў самых складаных абставінах. Зусім проста. Адбылася памылка. Тэлеграму перадалі наблытаную. Слова «мяне» несумненна трапіла сюды з другой тэлеграмы, замест слова «Берліёза», якое стала «Берліёз» і трапіла ў канец тэлеграмы. З такою папраўкаю сэнс тэлеграмы робіцца зразумелым, але, вядома ж, трагічным.

Калі заціх выбух гора, які спасціг жонку Максіміліяна Андрэевіча, той неадкладна пачаў збірацца ў Маскву.

Трэба сказаць пра адну таямніцу Максіміліяна Андрэевіча. Што казаць, шкада было жончынага пляменніка, які загінуў у самым росквіце. Але ён, як чалавек дзелавы, разумеў, што ніякае асаблівае патрэбы прысутнічаць яму на пахаванні не было. І ўсё роўна Максіміліян Андрэевіч спяшаўся ў Маскву. Якая была прычына? Адна — кватэра. Кватэра ў Маскве? Гэта сур'ёзна. Невядома чаму, але Кіеў не падабаўся Максіміліяну Андрэевічу, і думка пра пераезд у Маскву гэтак мучыла яго апошні час, што ён нават пачаў спаць дрэнна. Яго не радавалі вясновыя разлівы Дняпра, калі, затапляючы астравы на нізкім беразе, вада злівалася з небакраем. Яго не радаваў цудоўны краявід,

які адкрываўся ад падножжа помніка князю Уладзіміру. Яго не цешылі сонечныя водсветы, якія пераліваліся па цагляных сцяжынках Уладзімірскае горкі. Нічога гэтага яму не трэба было, ён хацеў аднаго толькі — пераехаць у Маскву.

Аб'явы ў газетах пра абмен кватэры на Інстытуцкай вуліцы ў Кіеве на меншую плошчу ў Маскве не давалі ніякага выніку. Ахвотнікаў не знаходзілася, а калі зрэдку і знаходзіліся, то іхнія прапановы былі нячыстыя.

Тэлеграма ўразіла Максіміліяна Андрэевіча. Гэта быў той момант, які пратраціць грэх. Сапраўдныя дзелавыя людзі ведаюць, што гэтакія моманты не паўтараюцца.

Адным словам, не зважаючы на цяжкасці, трэба было забраць у спадчыну кватэру пляменніка на Садовай. Гэта было складана, вельмі складана, але перашкоды трэба абавязкова пераадолець. Вопытны Максіміліян Андрэевіч ведаў, што на гэтым шляху першы і самы неабходны крок — прапіска, чаго б яна ні каштавала, няхай нават часовая, у трох пляменнікавых пакоях.

У пятніцу ўдзень Максіміліян Андрэевіч адчыніў дзверы пакоя, у якім мясцілася домакіраўніцтва дома 302-біс на Садовай вуліцы ў Маскве.

У вузенькім пакойчыку, дзе на сцяне вісеў старэнькі плакат, на якім на некалькіх малюнках былі паказаны спосабы ажыўлення тапельцаў, за драўляным сталом у адзіноце сядзеў чалавек сярэдняга ўзросту, непаголены, з устрывожанымі вачыма.

— Ці магу я бачыць старшыню праўлення? — ветліва пацікавіўся эканаміст-планавік, зняў капялюш і паставіў свой чамаданчык на пустое крэсла.

Гэтае, на першы погляд простае пытанне чамусьці збянтэжыла чалавека за сталом гэтак, што ён з твару змяніўся. Ён трывожна, скоса паглядзеў, прамармытаў, што старшыні няма.

— Ён дома? — спытаўся Паплаўскі.— У мяне неадкладнае пытанне.

Чалавек за сталом зноў нешта прамармытаў. Але і з гэтага можна было здагадацца, што старшыні і дома няма.

— А калі ён будзе?

Чалавек нічога не адказаў і з нейкаю тугою паглядзеў у акно.

«Ага!» — сказаў сам сабе разумны Паплаўскі і папытаўся, дзе сакратар.

Дзіўны чалавек за сталом аж пачырванеў ад натугі і зноў

прамармытаў, што сакратара таксама няма... невядома, калі ён прыйдзе... і што сакратар захварэў...

«Ага,— сказаў сам сабе Паплаўскі,— але ж хто-небудзь ёсць у праўленні?»

— Я,— слабым голасам абазваўся чалавек.

— Ці ведаеце,— пераканаўча загаварыў Паплаўскі,— я адзіны спадчыннік нябожчыка Берліёза, майго сваяка, які загінуў, як вам вядома, на Патрыярхавых, і я абавязаны, адпаведна закону, забраць спадчыну — нашу кватэру нумар пяцьдзесят...

— Не ў курсе справы я, таварыш,— нудна перапыніў чалавек.

— Выбачайце,— зычным голасам сказаў Паплаўскі,— вы член праўлення і абавязаны...

І вось тут у пакой увайшоў нейкі грамадзянін. Той, за сталом, як угледзеў яго, спалатнеў.

— Вы член праўлення Пятнажка? — спытаўся ў чалавека за сталом наведвальнік.

— Я,— ледзь чутна адказаў той.

Чалавек нешта пашаптаў Пятнажку, і той, зусім засмучаны, устаў з крэсла, і праз некалькі секунд Паплаўскі застаўся сядзець адзін у пустым пакойчыку праўлення.

«Э-э, якая прыгода! І трэба ж было, каб іх усіх адразу...» — з прыкрасцю думаў Паплаўскі, напрасткі праз двор спяшаючыся ў кватэру № 50.

Дзверы адразу ж, як толькі пазваніў эканаміст-планавік, адамкнулі, і Максіміліян Андрэевіч увайшоў у прыцемнены пярэдні пакой. Яго здзівіла тая акалічнасць, што было незразумела, хто яму адамкнуў: у пярэднім пакоі нікога не было, акрамя велізарнага чорнага ката, які сядзеў на крэсле.

Максіміліян Андрэевіч пакашляў, патупаў нагамі, і тады дзверы адчыніліся і ў пярэдні пакой выйшаў Кароўеў. Максіміліян Андрэевіч пакланіўся яму ветліва, але з годнасцю і сказаў:

— Маё прозвішча Паплаўскі. Я дзядзька...

Не паспеў ён дагаварыць, як Кароўеў выхапіў з кішэні брудную хусцінку, уткнуў у яе нос і заплакаў.

— ...нябожчыка Берліёза...

— А як жа, а як жа,— перапыніў Кароўеў, адняў хусцінку ад твару.— Я адразу здагадаўся, як толькі зірнуў на вас, што гэта вы! — І затросся ад плачу, пачаў выкрыкваць:— Гора якое, га? Што ж гэта творыцца? Га?

— Трамвай задушыў? — шэптам спытаўся Паплаўскі.

— На месцы,— крыкнуў Кароўеў, і слёзы пацяклі ў яго з-пад пенснэ ручаямі,— насмерць! Я быў сведка. Паверце — раз! Галава — прэч! Правая нага — хрась, папалам! Левая — хрась, папалам! Вось да чаго гэтыя трамваі даводзяць! — І ўжо, мабыць, не могучы сябе болей стрымліваць, Кароўеў клюнуў носам у сцяну побач з люстрам і пачаў уздрыгваць ад плачу.

Берліёзаў дзядзька быў шчыра ўражаны паводзінамі незнаёмца. «Вось, а кажуць, што не бывае ў наш век спагадлівых людзей!» — падумаў ён і адчуў, што ў самога яго пачынаюць свярбець вочы. Аднак у той самы час непрыемная хмарка наплыла на яго душу, як вужык, мільгнула думка пра тое, а ці не прапісаўся ўжо гэты добры чалавек у кватэры нябожчыка, бо і такое ў жыцці неаднойчы здаралася.

— Выбачайце, вы былі сябрам майго нябожчыка Мішы? — спытаўся ён, выціраючы рукавом левае сухое вока, а правым прыглядаўся да Кароўева, які сцінаўся ад скрухі. Але той гэтак расплакаўся, што нельга было нічога разабраць зусім, акрамя паўтараў слоў «хрась» і «папалам». Наплакаўшыся ўволю, Кароўеў нарэшце адліп ад сценкі і прамовіў:

— Не, не магу болей! Пайду вып'ю трыста кропель эфірнае валяр'янкі! — ён павярнуўся да Паплаўскага ўшчэнт заплаканым тварам і дадаў: — Вось яны, трамваі!

— Выбачайце, гэта вы мне адбілі тэлеграму? — спытаўся Максіміліян Андрэевіч, пакутліва думаючы, хто ён, гэты дзіўны плакса.

— Ён! — адказаў Кароўеў і тыцнуў пальцам на ката.

Паплаўскі вылупіў вочы, падумаў, што недачуў.

— Не, не магу, не стае сілы,— шморгаючы носам, працягваў Кароўеў,— як успомню: кола паназе... адно кола пудоў дзесяць будзе... Хрась! Пайду лягу, паспрабую заснуць,— і ён адразу знік з пярэдняга пакоя.

А кот паварушыўся, саскочыў з крэсла, стаў на заднія лапы, прыхарашыўся, разявіў пашчу і сказаў:

— Ну, я даў тэлеграму. А што далей?

У Максіміліяна Андрэевіча адразу закружылася галава, адняліся рукі і ногі, ён упусціў чамаданчык і сеў на крэсла насупраць ката.

— Я ж, здаецца, у вас па-руску пытаюся,— сурова сказаў кот,— а што далей?

Паплаўскі нічога не адказаў.

— Пашпарт! — мяўкнуў кот і працягнуў пульхную лапу.

Паплаўскі нічога не цяміў і не бачыў, акрамя дзвюх іскраў у кашэчых вачах, ён выхапіў з кішэні пашпарт, як кінжал. Кот узяў з падлюстравага століка акуляры ў тоўстай чорнай аправе, начапіў іх на морду, з-за чаго зрабіўся яшчэ больш важны, і выняў з дрыжачае рукі ў Паплаўскага пашпарт.

«Цікава, самлею я ці не?» — падумаў Паплаўскі. Здалёк чуваць былі ўсхліпы Кароўева, увесь пярэдні пакой напоўніўся эфірным пахам, пахам валяр'янкі і яшчэ нейкае моташнай мярзотнасці.

— Якім аддзяленнем выдадзены ваш дакумант? — спытаўся кот і прыгледзеўся да старонкі. Адказу не было.

— Чатырыста дванаццатым,— сам сабе сказаў кот, водзячы лапай па пашпарце, які ён трымаў дагары,— ну, вядома! [redacted] ведаю гэтае аддзяленне! Там абы-каму пашпарты выдаюць! А я, напрыклад, такому, як вы, не выдаў бы! Нізавошта не выдаў бы! Толькі паглядзеў на твар і адразу б адмовіў! — кот гэтак раззлаваўся, што шпурнуў пашпарт на падлогу.— Ваша прысутнасць на пахаванні адмяняецца,— працягваў кот афіцыйным голасам,— едзьце на месца жыхарства.— І раўнуў за дзверы:— Азазела!

На яго голас у пярэдні пакой выбег маленькі, кульгавенькі, у чорным у абліпку трыко, з нажом за скураной папругаю, рыжы, з жоўтым іклом, з бяльмом на левым воку.

Паплаўскі адчуў, што яму не хапае паветра, устаў з крэсла і пачаў адступаць задам, трымаючыся за сэрца.

— Азазела, правядзі! — загадаў кот і выйшаў з пярэдняга пакоя.

— Паплаўскі,— ціха прагугнявіў маленькі,— спадзяюся, усё зразумела?

Паплаўскі кіўнуў галавой.

— Вяртайся неадкладна ў Кіеў,— працягваў Азазела,— сядзі там цішэй вады ніжэй травы і ні пра якую кватэру ў Маскве нават і не думай, зразумела?

Гэты маленькі, які да смерці палохаў Паплаўскага сваім іклом, нажом і крывым вокам, даставаў эканамісту толькі да пляча, але дзейнічаў энергічна, складна і спраўна.

Найперш ён падняў пашпарт і падаў яго Максіміліяну Андрэевічу, і той узяў кніжачку змярцвелаю рукою. Потым названы Азазелам адной рукою падняў чамадан, другою адчыніў дзверы, узяў пад руку Берліёзавага дзядзьку, вывеў яго на лесвічную пляцоўку. Паплаўскі прыхіліўся да сцяны. Без усякага ключа Азазела адамкнуў чамадан, дастаў з яго вялізную смажаную курыцу без аднае нагі, загорнутую

ў прамасленую газету, і паклаў яе на пляцоўцы. Потым дастаў дзве пары бялізны, брытвенны прыбор, папругу, нейкую кніжку і футарал і ўсё гэта згроб нагой у лесвічны пралёт, акрамя курыцы. Туды паляцеў і апусцелы чамадан. Чуваць было, як ён грымнуўся ўнізе і ад яго адляцела вечка.

Потым рыжы бандыт ухапіў курыцу за нагу і ўсёй гэтай курыцай так моцна і страшна ўлупіў Паплаўскаму па шыі, што курынае тулава адляцела, а нага засталася ў руцэ ў Азазелы. Усё пераблыталася ў доме Аблонскіх, як справядліва сказаў знакаміты пісьменнік Леў Талстой. Гэтае самае паўтарыў бы ён і зараз. Сапраўды, усё замітусілася ў вачах у Паплаўскага. Доўгая іскра праляцела ў яго перад вачыма, потым змянілася на жалобнага змея, які на імгненне патушыў майскі дзень, і Паплаўскі паляцеў уніз па лесвіцы, трымаючы пашпарт у руцэ. Ён даляцеў да павароту, выбіў нагою шкло ў акне на наступнай пляцоўцы і сеў на прыступку. Паўз яго праскакала бязногая кура і ўпала ў пралёт. Азазела наверсе імгненна абгрыз курыную нагу, костку ўсунуў у бакавую кішэню трыко, вярнуўся ў кватэру і грукнуў за сабою зачыненымі дзвярыма. У гэты час знізу пачуліся асцярожныя крокі чалавека, які ішоў угору.

Паплаўскі прабег яшчэ адзін пралёт і, сеўшы на канапку, перавёў дух.

Нейкі маленькі пажылы чалавек з надзвычай сумным тварам, у часучовым старадаўнім касцюме і ў цвёрдым саламяным капелюшы з зялёнаю стужкаю, ішоў па лесвіцы ўгару і спыніўся ля Паплаўскага.

— Можна ў вас папытаць, грамадзянін,— сумна пацікавіўся часучовы чалавек,— а дзе кватэра нумар пяцьдзесят?

— Вышэй! — коратка адказаў Паплаўскі.

— Шчыра вам дзякую, грамадзянін,— гэтак жа сумна сказаў чалавек і пайшоў угору, а Паплаўскі пабег уніз.

Узнікае пытанне, ці не ў міліцыю заспяшаўся Максіміліян Андрэевіч скардзіцца на бандытаў, якія ўчынілі над ім гвалт сярод белага дня? Не, ні ў якім выпадку, гэта можна сказаць смела. Пайсці ў міліцыю і сказаць, што вось кот у акулярах, маўляў, чытаў мой пашпарт, а потым чалавек у трыко з нажом... не, грамадзяне, Максіміліян Андрэевіч сапраўды быў чалавек разумны!

Ён ужо быў унізе, калі ўбачыў ля самых парадных дзвярэй дзверы ў нейкую каморку. Шкло ў гэтых дзвярах

было пабіта. Паплаўскі схаваў пашпарт у кішэню, азірнуўся, каб угледзець свае рэчы, але іх і след прастыў. Паплаўскі здзівіўся, што гэта яго амаль не засмуціла. Ім валодала другая цікавая і спакуслівая думка — праверыць на маленькім чалавечку яшчэ раз гэтую праклятую кватэру. На самай справе: калі ён пытаўся, дзе яна знаходзіцца, значыць, ішоў у яе ўпершыню. Выходзіць, зараз ён прастуе ў кіпцюры да тае кампаніі, якая засела ў кватэры № 50. Нешта падказвала Паплаўскаму, што чалавечак гэты вельмі хутка выйдзе з кватэры. Ні на якое пахаванне ніякага пляменніка Максіміліян Андрэевіч, вядома, ужо не збіраўся, а да цягніка на Кіеў часу хапала. Эканаміст азірнуўся навокал і нырнуў у каморку. У гэты час далёка наверсе грукнулі дзверы. «Гэта ён увайшоў!» — падумаў Паплаўскі, і сэрца ў яго замёрла. У каморцы было халаднавата, пахла мышамі і ботамі. Максіміліян Андрэевіч усеўся на нейкай драўлянай калодзе і пачаў чакаць. Пазіцыя зручная, з каморкі відаць былі парадныя дзверы шостага пад'езда.

Аднак чакаць давялося даўжэй, чым меркаваў кіяўлянін. Лесвіца ўвесь час чамусьці пуставала. Чуваць было добра, і нарэшце на шостым паверсе грукнулі дзверы. Паплаўскі замёр. Ага, яго крокі. Ідзе ўніз. Адчыніліся дзверы ніжэйшага паверха. Жаночы голас. Голас сумнага чалавека... сапраўды, яго голас... Прамовіў нешта падобнае на «адчапіся, богам прашу...». Вуха Паплаўскага тырчала ў пабітым шкле. Гэтае вуха ўлавіла жаночы смех. Хуткія і бойкія крокі ўніз, і вось прамільгнула жаночая спіна. Гэтая жанчына з цыратавай зялёнаю сумкаю выйшла з пад'езда ў двор. А крокі таго чалавечка пачуліся зноў. «Дзіўна, ён назад вяртаецца ў кватэру. Вось зноў наверсе дзверы адчыніліся. Ну што ж, пачакаем яшчэ».

На гэты раз чакаць давялося нядоўга. Грукат дзвярэй. Крокі сціхлі. Адчайны крык. Кацінае мяўканне. Крокі хуценькія, дробненькія, уніз, уніз, уніз!

Паплаўскі дачакаўся. Хрысцячыся і штосьці мармычучы, праімчаў журботны чалавек, без капелюша, з вар'яцкім тварам, паабдзіранаю лысінаю і ў зусім мокрых штанах. Ён пачаў тузаць ручку выхадных дзвярэй, ад страху забыўся, у які бок дзверы адчыняюцца — вонкі ці ўсярэдзіну,— нарэшце справіўся з дзвярыма і вылецеў пад сонца на двор.

Кватэра была праверана. Максіміліян Андрэевіч не думаў болей ні пра нябожчыка пляменніка, ні пра кватэру, шаптаў толькі два словы: «Усё зразумела! Усё зразумела!», выле-

цеў на двор, сцінаючыся ўвесь ад аднае толькі думкі пра тую небяспеку, якая яму пагражала. Праз некалькі хвілін тралейбус імчаў эканаміста-планавіка на Кіеўскі вакзал.

З маленькім чалавечкам, пакуль эканаміст сядзеў унізе ў каморцы, адбылася надзіва непрыемная гісторыя. Чалавек гэты быў буфетчык у Вар'етэ і звалі яго Андрэй Фокавіч Сакаў. Пакуль ішло следства ў Вар'етэ, Андрэй Фокавіч трымаўся збоч ад усяго, што дзеелася, можна было толькі прыкмеціць, што з выгляду зрабіўся ён яшчэ больш сумным, чым быў звычайна, і, акрамя ўсяго, ён пацікавіўся ў кур'ера Карпава пра тое, дзе спыніўся прыезджы маг.

Такім чынам, пасля таго як развітаўся на пляцоўцы з эканамістам, буфетчык дабраўся да пятага паверха і паваніў у кватэру № 50.

Яму адразу ж адчынілі, але буфетчык скалануўся, адступіў назад і ўвайшоў не адразу. Гэта зразумела. Адамкнула дзверы дзяўчына, на якой нічога не было, акрамя какетлівага карункавага фартушка і белае наколкі на галаве. Ды на нагах яшчэ былі залатыя туфлі. Сама сабою дзяўчына была — ні да чога не прыдзярэшся, усё як след, калі не лічыць барвовага шрама на шыі.

— Ну што ж, заходзьце, калі званілі! — сказала дзяўчына, гледзячы на буфетчыка зялёнымі распуснымі вачыма.

Андрэй Фокавіч толькі вохкнуў, заміргаў вачыма, ступіў у пярэдні пакой і зняў капялюш. У гэты момант у пярэдняй зазваніў тэлефон. Бессаромная пакаёўка паставіла адну нагу на крэсла, зняла трубку з рычага і сказала ў яе:

— Алё!

Буфетчык не ведаў, куды глядзець, пераступаў з нагі на нагу і думаў: «Ну і пакаёўка ў чужаземца! Цьфу ты, брыдота якая!» І каб уратавацца ад брыдоты, глядзеў па баках. Увесь вялікі і прыцемны пярэдні пакой быў завалены нязвыклымі прадметамі і адзеннем. Напрыклад, на спінку крэсла быў накінуты жалобны плашч з вогненнай чырвонаю падкладкаю, на падлюстравым століку ляжала доўгая шпага з бліскучым залатым тронкам. Тры шпагі з тронкамі срэбнымі стаялі ў кутку гэтак жа звычайна, як нейкія парасоны альбо кавенькі. А на аленевых рагах віселі берэты з арліным пер'ем.

— Так,— гаварыла пакаёўка ў тэлефон,— як? Барон Майгель? Слухаю. А! Пан артыст сёння дома. Ага, будзе рады сустрэцца з вамі. Ага, госці... Фрак ці чорны касцюм. Што? А дванаццатай ночы.— Пакаёўка скончыла размову і сказала буфетчыку: — Што вам трэба?

— Мне трэба бачыць пана артыста.
— Што? Усяго толькі яго самога?
— Яго,— сумна адказаў буфетчык.
— Спытаюся,— сказала няўпэўнена пакаёўка, прачыніла дзверы ў пакой нябожчыка Берліёза і паведаміла: — Рыцар, тут з'явіўся маленькі чалавек, які гаворыць, што яму патрэбен месір.
— А няхай заходзіць,— пачуўся з кабінета голас Караўева.
— Заходзьце ў гасцёўню,— сказала дзяўчына звычайна, быццам была адзета па-чалавечы, прачыніла дзверы ў гасцёўню, а сама выйшла з пярэдняга пакоя.
Увайшоўшы туды, куды яго запрасілі, буфетчык забыўся, дзеля чаго ён сюды прыйшоў, гэтак уразіла яго ўбачанае. Праз каляровыя шкельцы ў вялікіх вокнах (фантазіі ювеліршы, якая знікла бясследна) наплывала незвычайнае, падобнае на царкоўнае, святло. У старадаўнім вялізным каміне, хоць быў гарачы вясновы дзень, палалі дровы. А ў пакоі не было ні кроплі гарачыні, наадварот нават, чалавека ахоплівала нейкая падвальная вільготнасць. Перад камінам на тыгравай шкуры сядзеў і дабрадушна прыплюшчваўся на агонь чорны каціла. Быў стол, на які набожны буфетчык зірнуў і аж скалануўся — стол засланы царкоўнаю парчою. На парчовым настольніку стаяла мноства бутэлек — пузатых, зацвілых і запыленых. Між бутэлькамі паблісквала блюда, і было відаць, што блюда гэтае з чыстага золата. Ля каміна маленькі рыжанькі на доўгай сталёвай шпазе пёк на агні кавалкі мяса, сок капаў на агонь, і дым вывіваўся ў комін. Пахла не толькі смажаным, але яшчэ і нейкім моцным адэкалонам і ладанам, ад чаго ў буфетчыка, які ўжо ведаў пра гібель Берліёза і пра месца яго пражывання, мільганула думка, ці не служылі, чаго добрага, царкоўную паніхіду, і ад думкі гэтае ён адмахнуўся адразу ж, як ад недарэчнае.
Ашаломлены буфетчык нечакана пачуў цяжкі бас:
— Ну, што вам трэба ад мяне?
Тут буфетчык і заўважыў у цяні таго, хто быў яму патрэбен.
Чорны маг разваліўся на нейкай вялізнай канапе з раскіданымі на ёй падушкамі. Буфетчыку здалося, што на артысце была адна толькі чорная бялізна і чорныя востраносыя туфлі.
— Я,— горка сказаў буфетчык,— з'яўляюся загадчыкам буфета ў Вар'етэ...

Артыст працягнуў руку, на пальцах якой ззялі каштоўныя камяні, быццам затыкаў буфетчыку рот, і загаварыў палымяна:

— Не, не, не! Ні слова болей! Нізашто і ніколі! У рот нічога болей не вазьму ў вашым буфеце! Я, шаноўны, праходзіў учора паўз вашу стойку і да гэтага часу не магу забыць ні пра асятрыну, ні пра брынзу. Залаты мой! Брынза не бывае зялёнага колеру, гэта нехта абмануў вас. Яна павінна быць белая. Ага, а чай? Ды гэта ж памыі! Я сваімі вачыма бачыў, як нейкая неахайная дзяўуля падлівала з вядра ў ваш вялізарны самавар негатаваную ваду, а чай працягвалі прадаваць. Не, дарагі мой, гэтак нельга!

— Я перапрашаю,— загаварыў, ашаломлены гэтым нечаканым нападам, Андрэй Фокавіч,— я не з-за гэтага, і асятрына тут ні пры чым.

— Як гэта — ні пры чым, калі яна сапсаваная!

— Асятрыну прывезлі другое свежасці,— паведаміў буфетчык.

— Галубок, глупства кажаш!

— Што — глупства?

— Другая свежасць — вось што глупства! Свежасць бывае толькі адна — першая, яна і апошняя. А калі асятрына другое свежасці, то гэта абазначае, што яна пратухлая!

— Я перапрашаю...— пачаў ізноў буфетчык, не ведаючы, як адчапіцца ад артыста.

— Прабачце, не магу,— цвёрда сказаў той.

— Я не з-за гэтага прыйшоў! — зусім засмучана прамовіў буфетчык.

— Не з-за гэтага? — здзівіўся чужаземны маг.— А з-за чаго ж яшчэ вы можаце прыйсці да мяне? Калі памяць служыць мне, то з такіх людзей я знаёмы быў усяго з адной маркітанкаю, але ж гэта даўно, калі вас і на свеце не было. Усё роўна я рады. Азазела! Табурэтку пану загадчыку буфета.

Той, што смажыў мяса, павярнуўся, жахнуў буфетчыка сваімі ікламі і спрытна падаў яму адну з цёмных дубовых табурэтак. Іншае мэблі ў пакоі не было.

Буфетчык прамовіў:

— Вялікі дзякуй,— і сеў на табурэтку. Задняя яе ножка адразу з трэскам адламалася, буфетчык балюча ўдарыўся задам аб падлогу і вохнуў. Калі падаў, зачапіў нагою другую табурэтку, якая стаяла перад ім, і выліў сабе на штаны поўную чашу чырвонага віна.

Артыст усклікнуў:

— Вой! Ці не скалечыліся?

Азазела памог буфетчыку ўстаць, падаў другую табурэтку. Гаротным голасам буфетчык адмовіўся ад прапановы гаспадароў зняць штаны і высушыць іх перад камінам на агні, адчуваючы сябе няёмка ў прамоклым да бялізны адзенні, з аглядкаю прысеў на другую табурэтку.

— Я люблю сядзець на нізкім,— сказаў артыст,— з нізкага лягчэй падаць. Ага, дык мы спыніліся на асятрыне! Галубок мой! Свежасць, свежасць і свежасць, вось што павінна быць дэвізам у кожнага буфетчыка. Дык вось, ці не паспытаеце...

Адразу ў барвовым святле ад каміна бліснула перад буфетчыкам шпага, і Азазела паклаў на залатую талерку кавалак мяса, паліў яго лімонным сокам і падаў буфетчыку залаты двухзубы відэлец.

— Я шчыра...

— Ды не, паспытайце, паспытайце!

Буфетчык дзеля ветлівасці паклаў кавалачак у рот і адразу зразумеў, што жуе нешта сапраўды вельмі свежае і, галоўнае, надзвычай смачнае. Пасля таго як пражаваў духмянае сакаўное мяса, буфетчык ледзь не ўдавіўся і ледзь не ўпаў другі раз. З суседняга пакоя ўляцела вялікая цёмная птушка і лёгенька абмахнула крылом буфетчыкаву лысіну. Птушка, якая села на камінную паліцу, была сава. «Божачка ты мой! — падумаў нервовы, як і ўсе буфетчыкі, Андрэй Фокавіч,— вось кватэрка!»

— Чашу віна? Белага? Чырвонага? Віно з якое краіны вы любіце ў гэтую пару дня?

— Шчыра... я не п'ю...

— Дарэмна! Тады згуляем партыю ў косці? Ці вы любіце нейкія іншыя гульні? У даміно, у карты?

— Не гуляю,— стомлена адазваўся буфетчык.

— Зусім дрэнна,— зрабіў вывад гаспадар,— што ж, як хочаце, нешта нядобрае ёсць у мужчынах, якія пазбягаюць віна, гульні, прыгожых жанчын, бяседы за сталом. Такія людзі альбо цяжкахворыя, альбо ненавідзяць усіх вакол. Праўда, здараюцца выключэнні. Сярод людзей, якія садзіліся са мной за гасцінны стол, трапляліся часам надзвычайныя нягоднікі! Такім чынам, я слухаю вас!

— Учора вы мелі ласку рабіць фокусы...

— Я? — здзіўлена ўсклікнуў маг.— Злітуйцеся. Гэта мне ніяк нельга!

— Вінаваты,— сказаў ашаломлены буфетчык,— але ж сеанс чорнае магіі...

— А, ну так, ну так, дарагі мой! Я прызнаюся вам: зусім я не артыст, а проста захацелася мне ўбачыць масквічоў агулам, а зручней за ўсё зрабіць гэта было ў тэатры. Ну вось мая світа,— ён кіўнуў на ката,— і наладзіла гэты сеанс, а я толькі сядзеў і глядзеў на масквічоў. Ну што гэта на вас твару не стала? Скажыце мне, што ў сувязі з гэтым сеансам прывяло вас да мяне?

— Бачыце, акрамя ўсяго, паперкі зляталі са столі,— буфетчык прыцішыў голас і сканфужана азірнуўся,— ну, іх і пахапалі. І вось заходзіць да мяне ў буфет малады чалавек, падае чырвонец, а я рэшты яму восем з паловай... Потым другі.

— Таксама малады чалавек?

— Не, пажылы. Трэці, чацвёрты. А я ўсё рэшту даю. А сёння пачаў правяраць касу, глянуў, а там замест грошай нарэзаная папера. На сто дзевяць рублёў пакараны буфет.

— Ай-яй-яй! — усклікнуў артыст.— Ды няўжо яны думалі, што гэта сапраўдныя грошы? Не магу нават і падумаць, што зрабілі яны гэта свядома.

Буфетчык неяк крыва і кісла азірнуўся, але нічога не сказаў.

— Няўжо махляры? — трывожна спытаўся ў госця маг.— Няўжо сярод масквічоў ёсць махляры?

У адказ буфетчык гэтак горка ўсміхнуўся, што развеяліся ўсякія сумненні: ёсць сярод масквічоў махляры.

— Як брыдка! — абурыўся Воланд.— Вы чалавек бедны... Вы ж — бедны чалавек?

Буфетчык гэтак уцягнуў галаву ў плечы, што стала відаць: ён чалавек бедны.

Пытанне было спачувальнае, але ўсё роўна нельга сказаць, што далікатнае. Буфетчык замуляўся.

— Дзвесце сорак дзевяць тысяч рублёў у пяці ашчадных касах,— адазваўся з суседняга пакоя трэснуты галасок,— і дома пад падлогаю дзвесце залатых дзесятак.

Буфетчык ажно прыкіпеў да свае табурэткі.

— Вядома, гэта не грошы,— паблажліва сказаў Воланд свайму госцю,— хаця, між іншым, і яны, уласна, вам не патрэбны. Вы калі памраце?

На гэты ўжо раз буфетчык абурыўся.

— Ну, гэта нікому не вядома і нікога не датычыць,— адказаў ён.

— Ага, невядома,— пачуўся ўсё той самы праціўны

галасок з суседняга кабінета,— падумаць толькі, біном Ньютона! Памрэ праз дзевяць месяцаў, у лютым наступнага года, ад рака печані ў клініцы Першага МДУ, у чацвёртай палаце.

Буфетчык пажаўцеў з твару.

— Дзевяць месяцаў,— задуменна лічыў Воланд,— дзвесце сорак дзевяць тысяч... Атрымліваецца па дваццаць сем тысяч на адзін месяц? Малавата, але калі сціпла жыць, хопіць. Ды яшчэ гэтыя дзесяткі.

— Дзесяткі збыць не ўдасца,— увязаўся ўсё той самы голас зноў, і ад яго ў буфетчыка ледзянела сэрца,— пасля смерці Андрэя Фокавіча дом неўзабаве знясуць і дзесяткі будуць адпраўлены ў Дзяржбанк.

— Такім чынам, я не раіў бы вам класціся ў бальніцу,— працягваў артыст,— які сэнс паміраць у палаце пад стогны і хрыпы безнадзейна хворых. Ці не лепей наладзіць пір на гэтыя дваццаць сем тысяч, выпіць атруту і перасяліцца на той свет пад музыку струн, у акружэнні захмялелых прыгажунь і адчайных сяброў?

Буфетчык сядзеў нерухомы і вельмі пастарэлы. Цёмныя кругі з'явіліся вакол вачэй, шчокі абвіслі і ніжняя сківаца адвісла.

— Хаця мы тут захапіліся марамі,— усклікнуў гаспадар,— пара за работу. Пакажыце вашы нарэзаныя паперкі.

Буфетчык усхвалявана дастаў з кішэні пакунак, разгарнуў яго і аслупянеў. У газетным абрыўку ляжалі чырвонцы.

— Мілы мой, вы і сапраўды хворы,— сказаў Воланд і пацiснуў плячыма.

Буфетчык ашалела заўсміхаўся, устаў з табурэткі.

— А,— заікаючыся, прамовіў ён,— а калі яны зноў...

— Гм...— задумаўся артыст,— ну тады прыходзьце да нас яшчэ. Калі ласка! Рады быў пазнаёміцца.

Адразу ж выскачыў з кабінета Кароўеў, ухапіў буфетчыка за руку, пачаў трэсці яе і прасіць Андрэя Фокавіча ўсім, усім перадаваць прывітанні. Буфетчык нічога ўжо не цяміў і рушыў з пакоя.

— Гела, правядзі! — крычаў Кароўеў.

Зноў гэтая рыжая і голая ў пярэднім пакоі! Буфетчык праціснуўся ў дзверы, піскнуў «да пабачэння» і, як п'яны, пайшоў уніз па лесвіцы. Потым ён спыніўся, сеў на прыступку, дастаў пакет, праверыў — чырвонцы былі на месцы.

Якраз з кватэры, якая выходзіла на пляцоўку, паказалася жанчына з зялёнаю сумкаю. Угледзела чалавека, які сядзеў на прыступцы і тупа глядзеў на чырвонцы, усміхнулася і сказала задумёна:

— Што ў нас за дом! З самай раніцы п'яныя. Зноў шкло выбілі на лесвіцы,— прыгледзелася ўважліва да буфетчыка і дадала: — Во, ды ў вас, грамадзянін, грошай і куры не клююць. Даў бы мне крыху! Га?

— Адчапіся ад мяне, богам прашу,— спалохаўся буфетчык і хуценька схаваў грошы. Жанчына засмяялася:

— Ну цябе к чорту, скнара! Пажартавала я,— і пайшла ўніз.

Буфетчык паволі ўстаў, падняў руку, каб паправіць капялюш, і пераканаўся, што яго няма на галаве. Жахліва не хацелася вяртацца, але капелюша шкода было. Ён памуляўся крыху і вярнуўся ўсё ж, пазваніў.

— Чаго яшчэ? — спыталася праклятая Гела.

— Капялюшык я забыў,— шапнуў буфетчык і тыцнуў сябе ў лысіну. Гела завярнулася, буфетчык у думках плюнуў, заплюшчыў вочы. Калі расплюшчыў іх, убачыў, што Гела падае яму яго капялюш і шпагу з цёмнаю ручкаю.

— Не маё,— шапнуў буфетчык, адапхнуў шпагу і хуценька надзеў капялюш.

— А хіба вы без шпагі прыйшлі? — здзівілася Гела.

Буфетчык штосьці мармынуў і заспяшаўся ўніз. Але галаве было чамусьці нязручна і залішне горача ў капелюшы; ён зняў яго і ажно падскочыў ад перапалоху, ціхенька ўскрыкнуў. У руках у яго быў аксамітны берэт з пеўневым пакамечаным пяром. Буфетчык перахрысціўся. І ў тое ж самае імгненне берэт мяўкнуў, ператварыўся ў чорнае кацянё і ўскочыў назад на голаў Андрэю Фокавічу, усімі кіпцюрамі ўпіўся ў лысіну. Буфетчык адчайна залямантаваў і бегма кінуўся ўніз, а кацянё звалілася з галавы і кінулася ўгору па прыступках.

Вырваўшыся на свежае паветра, буфетчык подбегам і назаўсёды пакінуў гэты д'ябальскі дом № 302-біс.

Добра вядома, што з ім адбылося потым. Як толькі вырваўся за падваротню, буфетчык шалёна азірнуўся, нібы штосьці шукаў. Праз хвіліну ён быў на другім баку вуліцы ў аптэцы. Не ўспеў ён прамовіць: «Скажыце, калі ласка...» — як жанчына за прылаўкам усклікнула:

— Грамадзянін! У вас ўся галава парэзана!..

Праз хвілін пяць буфетчык быў перабінтаваны марляю, даведаўся, што лепшымі спецыялістамі па хваробах печані з'яўляюцца прафесары Бернадскі і Кузьмін, спытаўся, хто бліжэйшы, засвяціўся ад радасці, калі даведаўся, што Кузьмін жыве літаральна цераз двор, у маленькім беленькім асабнячку, і праз дзве хвіліны быў у гэтым асабнячку. Па-

мяшканне было старое, але вельмі ўтульнае. Запомніў буфетчык, што першай трапілася насустрач старэнькая нянька, якая хацела ўзяць у яго капялюш, але капелюша не было, нянька пайшла кудысьці, шамкаючы бяззубым ротам.

Замест яе з'явілася побач з люстрам і, здаецца, пад нейкаю нават аркаю, жанчына сярэдняга ўзросту і адразу сказала, што запісацца можна толькі на дзевятнаццатае, не раней. Буфетчык адразу змікіціў, у чым выратаванне. Зірнуў патухлым вокам за арку, дзе ў прыхожым пакоі чакалі чалавекі тры, шапнуў:

— Смяротна хворы...

Жанчына здзіўлена паглядзела на забінтаваную галаву буфетчыка, падумала і сказала:

— Ну што ж...— і прапусціла буфетчыка за арку.

У тое самае імгненне супрацьлеглыя дзверы адчыніліся, у іх бліснула залатое пенснэ, жанчына ў халаце сказала:

— Грамадзяне, гэты чалавек пойдзе без чаргі...

І не паспеў буфетчык аглянуцца, як ён апынуўся ў кабінеце прафесара Кузьміна. Нічога страшнага, урачыстага і медыцынскага не было ў гэтым прадаўгаватым пакоі.

— Што ў вас? — спытаўся прыемным голасам прафесар Кузьмін і з трывогай зірнуў на забінтаваную галаву.

— Толькі што дакладна даведаўся,— адказаў буфетчык і здзічэла паглядзеў на нейкую фатаграфічную групу за шклом,— што ў лютым наступнага года памру ад рака печані. Прашу спыніць.

Прафесар Кузьмін як сядзеў, гэтак і адкінуўся да высокае гатычнае спінкі крэсла.

— Прабачце, не разумею вас... вы што, у доктара былі? Чаму ў вас галава забінтаваная?

— У якога доктара?.. Бачылі б вы таго доктара! — зубы ў яго раптоўна заляскалі.— А на голаў не звяртайце ўвагі, не мае дачынення,— адказаў буфетчык,— на галаву плюньце, яна тут ні пры чым. Рак печані прашу спыніць.

— Выбачайце, але хто вам гэта сказаў?

— Яму трэба верыць,— палка папрасіў буфетчык,— ён ведае!

— Нічога не разумею,— прафесар пацiснуў плячыма і разам з крэслам ад'ехаў ад стала.— Як гэта ён можа ведаць, калі вы памраце? Болей таго, ён не доктар!

— У чацвёртай палаце,— адказаў буфетчык.

І тут прафесар паглядзеў на свайго пацыента, на яго голаў, на яго вільготныя штаны і падумаў: «Вось яшчэ не хапала! Вар'ят!» Спытаўся:

— Вы п'яце гарэлку?

— Ніколі і ў рот не браў,— адказаў буфетчык.

Праз хвіліну ён быў распрануты, ляжаў на халоднай цыратавай канапе, і прафесар ціскаў яму жывот. Тут трэба сказаць, што наш буфетчык павесялеў. Прафесар катэгарычна сцвярджаў, што зараз, у крайнім выпадку, на гэты момант, ніякіх прыкметаў раку ў яго няма. Але калі атрымалася, што нейкі прайдзісвет яго напалохаў і ён баіцца, то трэба зрабіць усе аналізы... Прафесар шпарыў па паперках, тлумачыў, куды пайсці і што аднесці. Акрамя таго, ён даў запіску да прафесара-неўрапатолага Бурэ, растлумачыў буфетчыку, што нервы ў яго зусім дрэнныя.

— Колькі вам заплаціць, прафесар? — пяшчотным і трапяткім голасам спытаўся буфетчык і дастаў тоўсты кашалёк.

— Колькі хочаце,— коратка і суха адказаў прафесар.

Буфетчык дастаў трыццаць рублёў і паклаў іх на стол, а потым нечакана мякка, як быццам кашачаю лапкаю, паклаў наверх чырвонцаў слупок, які металічна дзынкнуў.

— А гэта што? — спытаўся Кузьмін і падкруціў вусы.

— Не грэбуйце, грамадзянін прафесар,— прашаптаў буфетчык,— малю вас — спыніце рак.

— Забярыце зараз жа ваша золата,— сказаў прафесар з гонарам за сябе самога,— вы лепш пра нервы свае падумалі б. Заўтра аддайце мачу на аналіз, не піце многа чаю і ешце зусім без солі.

— Нават суп не саліць? — спытаўся буфетчык.

— Нічога не саліць,— загадаў Кузьмін.

— Эх!..— сумна ўсклікнуў буфетчык, замілавана паглядзеў на прафесара, забраў дзесяткі і задам адступіў да дзвярэй.

Хворых у той вечар у прафесара было няшмат, як толькі змерклася, пайшоў і апошні. Прафесар здымаў халат і, калі зірнуў на стол на тое месца, дзе буфетчык пакінуў тры чырвонцы, угледзеў, што ніякіх чырвонцаў там болей няма, а ляжаць тры наклейкі з бутэлек «Абраў-Дзюрсо».

— Чортведама што! — прамармытаў Кузьмін, цягнучы крысо халата па падлозе і мацаючы паперкі.— Ён, аказваецца, не толькі шызафрэнік, але яшчэ і жулік! Але я не разумею, што яму было патрэбна ад мяне? Няўжо толькі запіска на аналіз мачы? А! Ён сцырыў паліто! — і прафесар кінуўся ў пярэдні пакой усё з тым жа халатам, надзетым у адзін рукаў.— Аксеня Мікітаўна,— пранізліва закрычаў ён у дзвярах у пярэдні пакой,— паглядзіце, усе паліто на месцы?

Высветлілася, што ўсе паліто ёсць. Але затое, калі прафесар вярнуўся да стала, нарэшце сцягнуў з сябе халат, ён нібы прырос да паркету і не мог адарваць вачэй ад стала. На тым месцы, дзе ляжалі наклейкі, сядзеў чорны коцік-сірата з няшчаснаю мордачкаю і мяўкаў над сподачкам з малаком.

— А гэта што такое, выбачайце? Гэта ўжо...— ён адчуў, як холадна зрабілася ў патыліцы.

На ціхі і жаласны прафесарскі крык прыбегла Аксеня Мікітаўна і супакоіла яго, адразу сказала, што хто-небудзь з пацыентаў падкінуў коціка, гэта часта здараецца ў прафесараў.

— Жывуць, мабыць, бедна,— растлумачыла Аксеня Мікітаўна,— ну а ў нас, вядома...

Пачалі думаць і гадаць, хто б мог падкінуць. Падазрэнне выпала на бабульку з язваю ў страўніку.

— Вядома, яна,— гаварыла Аксеня Мікітаўна,— яна гэтак раздумала: я ўсё роўна памру, а коціка шкада.

— Але выбачайце,— закрычаў Кузьмін,— а малако адкуль? Яна таксама прынесла? І сподачак?

— У пасудзіне прынесла, а тут наліла ў сподачак,— растлумачыла Аксеня Мікітаўна.

— Як бы ні было, прыбярыце і коціка, і сподачак,— сказаў Кузьмін і сам правёў Аксеню Мікітаўну да дзвярэй. Калі ён вярнуўся, абставіны змяніліся.

Прафесар вешаў халат на цвічок, калі пачуў рогат на дварэ, выглянуў і аслупянеў. Праз двор бегла ў супрацьлеглы флігелёк пані ў адной сарочцы. Прафесар нават ведаў, як завуць яе,— Марыя Аляксандраўна. Рагатаў хлапчук.

— Што гэта? — пагардліва сказаў Кузьмін.

Але тут за сценкаю ў даччыным пакоі патэфон зайграў факстрот «Алілуя», і ў тое самае імгненне пачулася верабʼінае чырыканне за плячыма ў прафесара. Ён завярнуўся і ўгледзеў на сваім стале вялікага вераб'я.

«Гм... спакойна...— падумаў прафесар,— ён заляцеў, калі я падыходзіў да акна. Усё нармальна»,— загадаў сам сабе прафесар, адчуваючы, што, наадварот, ненармальна з-за гэтага самага вераб'я. Калі прыгледзеўся да яго, прафесар пераканаўся, што верабей не зусім звычайны. Паскудны верабей і накульгваў на левую лапку, знарок выдурняўся, прытанцоўваў факстрот пад патэфон, як п'яны ля стойкі. Хаміў як мог і нахабна пазіраў на прафесара. Рука Кузьміна легла на тэлефон, ён сабраўся пазваніць аднакурсніку

Бурэ, каб спытацца, што абазначаюць гэтыя вераб'і ў шэсцьдзесят гадоў ды яшчэ калі, у дадатак, галава кружыцца?

Верабей тым часам сеў на падараваную чарніліцу, нагадзіў у яе (я не жартую), потым узляцеў, павіс у паветры, з налёту нібы стальной дзюбай дзеўбануў у шкло фотаздымка, на якім быў поўны універсітэцкі выпуск 94-га года, пабіў шкло на кавалачкі і потым вылецеў праз акно. Прафесар набраў другі нумар па тэлефоне і, замест таго каб пазваніць Бурэ, пазваніў у бюро п'явак, сказаў, што звоніць прафесар Кузьмін і просіць неадкладна прынесці п'явак яму дадому.

Прафесар паклаў трубку, зноў азірнуўся на стол і дзіка закрычаў. За гэтым сталом у касыначцы сястры міласэрнасці сядзела жанчына з сумачкай з надпісам на ёй: «П'яўкі». Закрычаў прафесар таму, што ўбачыў яе рот. Ён быў мужчынскі, крывы, да вушэй, з адным іклом. Вочы ў сястры былі мёртвыя.

— Грошыкі я забяру,— мужчынскім басам сказала сястра,— чаго ім тут валяцца.— Згрэбла птушынаю лапаю наклейкі і пачала раставаць у паветры.

Прамінулі дзве гадзіны. Прафесар Кузьмін сядзеў у спальні на ложку, а п'яўкі віселі ў яго на скронях, за вушамі, на шыі. Ля ног у Кузьміна на шаўковай шытай коўдры сядзеў сівавусы прафесар Бурэ і супакойваў, што ўсё гэта лухта. За акном ужо была ноч.

Што яшчэ болей дзіўнае адбывалася ў Маскве ў гэтую ноч, мы не ведаем і шукаць не будзем яшчэ і таму, што прыйшоў час перайсці нам да другой часткі нашага праўдзівага расказа. За мною, чытач!



# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Раздзел 19

### МАРГАРЫТА

За мною, чытач! Хто сказаў табе, што няма на свеце сапраўднага, вечнага кахання? За гэта адрэжуць хлусу яго паганы язык!

За мною, мой чытач, і толькі за мною следам, і я пакажу табе такое каханне!

Не! Майстар памыляўся, калі горка гаварыў Іванку ў бальніцы ў тую пару, як ноч пераваліла на другую палавіну, што яна забылася пра яго. Гэтага не магло быць. Яна, вядома, не забылася.

Найперш адкрыем таямніцу, якую майстар не захацеў сказаць Іванку. Яго каханую звалі Маргарыта Мікалаеўна. Усё, што майстар гаварыў пра яе беднаму паэту, была чыстая праўда. Ён апісаў сваю каханую дакладна. Яна была прыгожая і разумная. Да гэтага трэба дадаць яшчэ адно — з упэўненасцю можна сказаць, што многія жанчыны аддалі б усё, што хочаш, каб памяняць сваё жыццё на жыццё Маргарыты Мікалаеўны. Бяздзетная трыццацігадовая Маргарыта была жонкаю даволі вялікага спецыяліста, які нават зрабіў адкрыццё дзяржаўнае значнасці. Муж яе быў малады, прыгожы, добры, чэсны і горача любіў сваю жонку. Маргарыта Мікалаеўна, удваіх са сваім мужам, займала ўвесь верх цудоўнага асабняка ў садзе ў адным з завулкаў на Арбаце. Цудоўная мясціна! Кожны можа ў гэтым пераканацца, калі паглядзіць на гэты сад. Няхай спытаецца ў мяне, я скажу яму адрас, пакажу дарогу — асабняк цэлы яшчэ дасюль.

У Маргарыты Мікалаеўны хапала грошай. Маргарыта

Мікалаеўна магла купіць усё, што ёй падабалася. Сярод знаёмых яе мужа трапляліся цікавыя людзі. Маргарыта Мікалаеўна ніколі не запальвала прымус. Маргарыта Мікалаеўна ніколі не ведала, як гэта жыць у камунальнай кватэры. Адным словам... яна была шчаслівая? Ні хвіліны! З таго часу, як яна дзевятнаццацігадовай выйшла замуж і трапіла ў асабняк, яна не зведала шчасця. Божа літасцівы! Чаго яшчэ не хапала гэтай жанчыне?! Што патрэбна было ёй, у вачах у якое заўсёды гарэў нейкі незразумелы агеньчык, што патрэбна было ёй, гэтай вядзьмарцы, якая ўпрыгожыла ў тую вясну сябе мімозаю? Не ведаю. Мне невядома. Мабыць, яна гаварыла шчыра, ёй патрэбен быў ён, майстар, а не гэты асабняк, не асобны сад і не грошы. Яна кахала яго, яна гаварыла праўду. Нават у мяне, чэснага расказчыка, але чалавека староннягa, сэрца балела з-за таго, што перажыла Маргарыта, калі прыйшла на наступны дзень у жытло майстра, на шчасце, не паспеўшы пагаварыць з мужам, які ўпору не вярнуўся дадому, і даведалася, што майстра ўжо няма.

Яна зрабіла ўсё, каб даведацца хоць што-небудзь пра яго, і, вядома, нічагусенькі не даведалася. Тады яна вярнулася ў асабняк і пачала жыць на ранейшым месцы.

— Але, але, але, гэта самая вялікая памылка! — гаварыла Маргарыта зімою перад печкаю, гледзячы на агонь.— Чаму я тады ноччу пайшла ад яго? Навошта? Гэта вар'яцтва! Я назаўтра вярнулася, чэсна, як і абяцала, але было ўжо позна. Так, я вярнулася, як і няшчасны Левій Мацей, залішне позна!

Словы гэтыя, вядома, былі бязглуздыя, таму што на самай справе: што змянілася б, калі б яна ў тую ноч засталася ў майстра? Хіба яна выратавала б яго? Смешна! — ускліінулі б мы, але мы гэтага не зробім з-за жанчыны, якая даведзена да адчаю.

Гэтак пакутавала Маргарыта Мікалаеўна ўсю зіму і дажыла да вясны. У той самы дзень, калі адбывалася розная недарэчная калатнеча, выкліканая з'яўленнем чорнага мага ў Маскве, у пятніцу, калі быў прагнаны назад у Кіеў дзядзька Берліёза, калі арыштавалі бухгалтара і адбылося яшчэ мноства недарэчных і незразумелых падзей, Маргарыта прачнулася амаль апоўдні ў сваёй спальні.

Маргарыта не заплакала пасля сну, як гэта часта было, таму што прачнулася з прадчуваннем, што сёння, нарэшце, нешта здарыцца. Гэтае прадчуванне цешыла і саргравала душу, і яна баялася, каб яно не пакінула яе.

— Я веру,— шаптала Маргарыта ўрачыста,— я веру! Нешта здарыцца! Не можа не здарыцца, бо за што тады, на самай справе, мне пакутаваць усё жыццё! Прызнаюся, што я хлусіла і жыла двайным жыццём, якога людзі не ведалі, але ўсё ж нельга за гэта караць гэтак бязлітасна. Нешта абавязкова здарыцца, таму што не бывае так, каб штонебудзь працягвалася вечна. Акрамя таго, сон мой быў правідчы, за гэта магу паручыцца.

Гэтак шаптала Маргарыта Мікалаеўна, глядзела на пунсовыя шторы, якія напаўняліся сонцам, трывожна адзявалася, расчэсвала перад трайным люстрам кароткія завітыя валасы.

Сон, які сасніўся Маргарыце Мікалаеўне гэтай ноччу, сапраўды быў незвычайны. Справа ў тым, што на працягу ўсіх сваіх зімовых пакут яна ніколі не бачыла ў сне майстра. Ноччу ён пакідаў яе, і пакутавала яна толькі ўдзень. А тут сасніўся.

Саснілася невядомая Маргарыце мясцовасць — безнадзейная, панылая, пад пахмурым небам ранняе вясны. Прыснілася касмыкаватае плывучае шэранькае неба, а пад ім маўклівая чарада гракоў. Нейкі каструбаваты масток. Пад ім каламутная вясновая рэчачка, невясёлыя, бедныя, голыя дрэвы, адзінокая асіна, а далей,— паміж дрэў, за нейкім агародам,— драўляная будынінка, ці то асобная куханька, ці лазня, ці бог ведае што. Нежывое ўсё нейкае і гэтакае панылае, што хочацца павесіцца на той асіне пры мосціку. Ні подыху ветрыку, ні руху аблачынак і ніводнае жывое душы. Во пякельная мясціна для жывога чалавека!

І вось, уяўляеце, адчыняюцца дзверы гэтага драўлянага будыначка, і з'яўляецца ён. Усё даволі далёка, але відаць добра. Абарваны, але не разгледзіш, у што адзеты. Валасы ўскудлачаныя, няголены. Вочы хворыя, устрывожаныя. Махае ён рукой, кліча. Маргарыта пабегла, пабегла па купінах да яго, захлёбваючыся ў мёртвым паветры, і ў гэты час прачнулася.

«Гэты сон можа абазначаць толькі адно з двух,— разважала сама з сабою Маргарыта Мікалаеўна,— калі ён мёртвы і паклікаў мяне, то і я хутка памру. Гэта вельмі добра, таму што прыйдзе тады канец і пакутам. Калі ён жывы, то сон можа абазначаць, што ён нагадвае пра сябе! Ён хоча сказаць, што хутка мы спаткаемся. Так, мы спаткаемся вельмі хутка».

Уся ўзбуджаная, Маргарыта адзелася і пачала пераконваць сябе, што на самай справе ўсё атрымліваецца даво-

лі ўдала, а гэтакія моманты трэба ўмець лавіць і выкарыстоўваць іх. Муж паехаў у камандзіроўку на цэлыя тры дні. На працягу трох сутак яна вольная, ніхто не перашкодзіць ёй думаць пра што захочацца, марыць пра тое, што ёй падабаецца. Усе пяць пакояў на верхнім паверсе ў асабняку, уся гэтая кватэра, якой у Маскве пазайздросцілі б дзесяткі тысяч людзей, у поўным яе распараджэнні.

Аднак вольная на цэлыя тры дні, з усяе гэтае раскошнае кватэры Маргарыта выбрала не самае лепшае месца. Выпіла чаю і пайшла ў цёмны, без вокнаў, пакойчык, дзе захоўваліся чамаданы і розная старызна ў дзвюх вялізных шафах. Яна прысела, адчыніла ніжнюю шуфляду першай і з-пад шаўковых абрэзкаў дастала тую адзіную каштоўнасць, што была ў яе ў жыцці. У Маргарыціных руках апынуўся стары альбом з карычневае скуры, у якім была фотакартка майстра, ашчадная кніжка з дзесяцітысячным укладам на яе імя, засохлыя паміж аркушамі папяроснае паперы ружовыя пялёсткі і частка сшытка ў поўны аркуш з друкаваным на машынцы тэкстам і абгарэлым ніжнім краем.

Маргарыта Мікалаеўна вярнулася з усім гэтым багаццем у сваю спальню, паставіла на трумо фотаздымак і прасядзела амаль гадзіну, трымаючы на каленях пакалечаны агнём сшытак, перагортвала і перачытвала тое, у чым пасля спальвання не было ні пачатку ні канца: «...цемра, якая насунулася з Міжземнага мора, накрыла ненавісны пракуратару горад. Зніклі вісячыя масты, якія злучалі храм са страшнаю Антоніевай вежаю, абрынулася з неба прорва і заліла крылатых багоў над гіпадромам, Хасманейскі палац з байніцамі, базары, караван-сараі, завулкі, сажалкі... Знік Ершалаім — вялікі горад, быццам і не існаваў на свеце...»

Маргарыце хацелася чытаць далей, але далей нічога не было, акрамя няроўна абгарэлага вугальнага карунку.

Маргарыта Мікалаеўна выцерла слёзы, паклала сшытак, абаперлася на падлюстравы столік і доўга сядзела, не адводзячы вачэй ад фотаздымка, адлюстроўвалася ў люстры. Потым слёзы высахлі. Маргарыта акуратна склала свае пажыткі, і праз некалькі хвілін яны былі схаваны пад шаўковымі анучкамі; са звонам у цёмным пакоі замкнуўся замок.

Маргарыта Мікалаеўна ў пярэднім пакоі апранула паліто, каб пайсці на прагулку. Прыгажуня Наташа, яе хатняя работніца, спыталася, што прыгатаваць на другое, пачула ў адказ, што гэта не мае значэння, каб сумна не было, пачала размову з гаспадыняй і пачала расказваць бог ведае

пра што, быццам бы ўчора ў тэатры фокуснік гэтакія фокусы паказваў, што ўсе толькі ахнулі, усім выдавалі па два флаконы замежных духоў і панчохі бясплатна, а потым, пасля таго як сеанс скончыўся і публіка выйшла на вуліцу, усе аказаліся голыя! Маргарыта Мікалаеўна ажно ўпала на крэсла ад смеху перад люстрам у пярэднім пакоі.

— Наташа, ну як вам не сорамна,— гаварыла Маргарыта Мікалаеўна,— вы адукаваная, разумная дзяўчына; у чэргах хлусяць немаведама што, а вы паўтараеце!

Наташа зачырванелася і горача запярэчыла, што нічога не хлусіць і што яна сёння ў гастраноме на Арбаце бачыла адну грамадзянку, якая прыйшла ў гастраном у туфлях, а як пачала разлічвацца, туфлі зніклі з ног, і яна засталася ў адных панчохах! Вочы вытрашчаныя! На пятцы дзірка. А туфлі тыя зачараваныя, з таго самага сеанса.

— Гэтак і пайшла?

— Гэтак і пайшла! — усклiквала Наташа і ўсё болей чырванела з-за таго, што ёй не вераць.— Ды ўчора, Маргарыта Мікалаеўна, міліцыя чалавек сто забрала ноччу. Грамадзяне з гэтага сеанса беглі па Цвярской у адных панталонах.

— Ну, вядома, гэта Дар'іны расказы,— гаварыла Маргарыта Мікалаеўна,— я даўно прыкмячала, што яна вялікая хлусіха.

Смешная размова закончылася прыемным сюрпрызам для Наташы. Маргарыта Мікалаеўна схадзіла ў спальню і вярнулася адтуль з парай панчохаў і флаконам адэкалону. Яна сказала Наташы, што таксама хоча паказаць фокус, падарыла ёй панчохі і адэкалон і сказала, што просіць яе толькі пра адно — не хадзіць у адных панчохах па Цвярской і не слухаць Дар'ю. Гаспадыня і домработніца пацалаваліся і развіталіся.

Маргарыта Мікалаеўна ехала па Арбаце, адкінуўшыся да мяккае зручнае спінкі ў тралейбусе, і то думала пра сваё, то прыслухоўвалася да таго, пра што шапталіся двое грамадзян наперадзе.

Тыя зрэдку насцярожана азіраліся, ці не чуе хто, шапталіся пра нейкае глупства. Мясісты здаравяк з мітуслівымі свінымі вочкамі, які сядзеў ля акна, ціха гаварыў маленькаму свайму суседу пра тое, што давялося накрыць труну чорным пакрывалам...

— Ды быць не можа,— уражана шаптаў маленькі,— гэта нешта нечуванае... А што зрабіў Жалдыбін?

Сярод роўнага тралейбуснага гуду чуліся словы ад акна:

— Крымінальны вышук... скандал... ну, адным словам, містыка!

З гэтых кавалкаў Маргарыта Мікалаеўна склала нешта болей-меней лагічнае. Грамадзяне шапталіся, што ў нейкага нябожчыка, а ў каго — яны не называлі, сёння раніцай з труны ўкралі галаву! Вось таму Жалдыбін гэтак і хвалюецца цяпер. Абодва гэтыя, што шэпчуцца пра нябожчыка, таксама маюць нейкае дачыненне да абакрадзенага.

— Ці ўспеем па кветкі заехаць? — турбаваўся маленькі.— Крэмацыя, гаворыш, у дзве гадзіны?

Нарэшце Маргарыце Мікалаеўне надакучыла слухаць гэтую таямнічую балбатню пра ўкрадзеную з труны галаву, яна ўзрадавалася, што трэба выходзіць.

Праз некалькі хвілін Маргарыта Мікалаеўна ўжо сядзела пад Крамлёўскаю сцяною на адной з лавачак гэтак, каб быў бачны манеж.

Маргарыта прыплюшчвалася ад яркага сонца, успамінала свой сённяшні сон, успамінала, як роўна год назад, дзень у дзень і ў адну і тую гадзіну, на гэтай самай лаўцы яна сядзела побач з ім. І якраз гэтак чорная сумачка ляжала побач з ёй на лаўцы. Яго не было сёння побач, але ў думках Маргарыта Мікалаеўна размаўляла з ім: «Калі цябе выслалі, то чаму не прысылаеш вестачку? Людзі ж неяк перадаюць. Ты разлюбіў мяне? Не, я чамусьці ў гэта не веру. Значыць, цябе выслалі, і ты памёр... Тады прашу цябе, адпусці мяне, дай мне, нарэшце, жыць, дыхаць паветрам». Маргарыта Мікалаеўна сама адказвала сабе за яго: «Ты вольная... Хіба я трымаю цябе?» Потым пярэчыла яму: «Не, гэта не адказ! Не, ты пакінь маю памяць, тады я зраблюся вольнаю».

Людзі ішлі паўз Маргарыту Мікалаеўну. Нейкі мужчына кінуў позірк на прыгожа апранутую жанчыну, захоплены яе прыгажосцю і адзінотаю. Ён кашлянуў, прысеў на краёк лаўкі, на якой сядзела Маргарыта Мікалаеўна. Нарэшце адважыўся і загаварыў:

— А сёння і сапраўды цудоўнае надвор'е...

Але Маргарыта гэтак цяжка паглядзела на яго, што ён устаў і пайшоў.

«Вось і прыклад,— у думках гаварыла Маргарыта таму, хто валодаў ёю,— чаму я прагнала гэтага мужчыну? Мне сумна, а гэты гуляка нядрэнны, хіба што яго пустая гаворка пра надвор'е? Чаму я сяджу, як сава, адна пад сцяною? Чаму я выключана з жыцця?»

Яна зусім зажурылася і звяла. Але раптам тая самая ранішняя хваля чакання і ўзбуджанасці скаланулася ў

грудзях. «Сапраўды здарыцца!» Хваля ўдарыла другі раз, і тут яна зразумела, што хваля гэтая гукавая. Скрозь гарадскі шум усё выразней чуліся ўдары барабана і гук крыху фальшывых труб, якія набліжаліся.

Першым паказаўся конны міліцыянер, які ехаў паўз рашотку сада, а за ім тры пешыя. Потым паволі поўз грузавік з музыкантамі. За імі — адкрытая новенькая пахавальная машына, якая павольна рухалася, на ёй уся ў вянках труна, а па кутах пляцоўкі — чатыры чалавекі стойма: тры мужчыны і адна жанчына. Нават здалёку Маргарыта разгледзела, што твары ў тых, хто стаяў у пахавальнай машыне і праводзіў нябожчыка ў апошнюю дарогу, нейкія дзіўна разгубленыя. Асабліва заўважна было гэта па грамадзянцы, якая стаяла ў левым заднім куце. Тоўстыя шчокі гэтае грамадзянкі быццам знутры распірала нейкая пікантная таямніца, у заплылых вачах блукалі двухсэнсоўныя агеньчыкі. Здавалася, яшчэ крыху, і грамадзянка не вытрымае, падміргне нябожчыку і скажа: «Ніколі такога не было! Проста містыка!» Гэтакія ж разгубленыя твары былі і ў тых, хто праводзіў пешкі, іх прыкладна чалавек трыста паволі ішло следам за пахавальнаю машынаю.

Маргарыта правяла вачыма шэсце, прыслухалася да таго, як заціхае панылы турэцкі барабан, які паўтараў адно і тое ж самае — «бумс, бумс, бумс», і думала: «Якое незвычайнае пахаванне... І якая нуда ад гэтага «бумса». Дальбог, чорту б душу прадала, каб толькі даведацца, ці жывы ён! Цікава, каго гэта хаваюць з гэтакімі збянтэжанымі тварамі?»

— Берліёза Міхаіла Аляксандравіча,— пачуўся побач крыху гугнявы мужчынскі голас,— старшыню МАССАЛІТа.

Здзіўленая Маргарыта Мікалаеўна завярнулася і ўбачыла на сваёй лаўцы грамадзяніна, які, мабыць, нячутна прысеў у той час, калі Маргарыта загледзелася на працэсію і, бадай, у разгубленасці сваё пытанне вымавіла гучна.

Працэсія тым часам пачала прыпыняцца, мабыць, затрыманая наперадзе святлафорамі.

— Сапраўды,— працягваў незнаёмы,— незвычайны ў іх настрой. Вязуць нябожчыка, а думаюць толькі пра тое, дзе дзелася яго галава!

— Якая галава? — спыталася Маргарыта і прыгледзелася да неспадзяванага суседа. Ён аказаўся маленькі ростам, вогненна-рыжы, з іклом, у крухмальнай бялізне, у паласатым дарагім касцюме, у лакавых туфлях і з капелюшом на галаве. Гальштук яркі. Дзіўнае было яшчэ тое, што

з кішэнькі, у якой мужчыны звычайна носяць насоўкі альбо самапіскі, у гэтага грамадзяніна тырчала абгрызеная курыная костачка.

— Ага, будзьце ласкавы ведаць,— растлумачыў рыжы,— сёння раніцай у грыбаедаўскай зале галаву ў нябожчыка ўкралі з труны.

— Як гэта можа быць? — міжволі спыталася Маргарыта і адразу ўспомніла шэпт у тралейбусе.

— А чорт яго ведае! — нахабна адказаў рыжы.— Я думаю, што пра гэта трэба было б у Бегемота спытацца! Надта лоўка свіснулі. Гэтакі скандал! І галоўнае, незразумела, каму і нашто яна патрэбна, гэтая галава!

Як не была занята сваім Маргарыта Мікалаеўна, яе ўсё ж уразіла дзіўная хлусня невядомага грамадзяніна.

— Выбачайце,— раптам ўсклікнула яна,— якога Берліёза? Гэтага, што ў газетах сёння...

— Ага, ага...

— Дык гэта, выходзіць, літаратары за труною ідуць? — спыталася Маргарыта і на паўслове замоўкла.

— Ну вядома ж, яны!

— А вы іх ведаеце?

— Усіх да аднаго,— адказаў рыжы.

— Скажыце,— загаварыла Маргарыта, і голас яе зрабіўся глухім,— а сярод іх ёсць крытык Латунскі?

— А як жа,— адказаў рыжы,— вось ён крайні, у чацвёртым радзе.

— Гэты бландзін? — прымружылася Маргарыта.

— Попельнага колеру... Бачыце, глядзіць у неба.

— На папа падобны?

— Во-во!

Больш Маргарыта ні пра што не пыталася, прыглядалася да Латунскага.

— А вы, я бачу, ненавідзіце гэтага Латунскага,— усмешліва загаварыў рыжы.

— Я яшчэ сяго-таго ненавіджу,— праз зубы адказала Маргарыта,— але гэта нецікавая гаворка.

Працэсія ў гэты час рушыла далей, за людзьмі паплылі большасцю пустыя аўтамабілі.

— Сапраўды, што ў гэтым цікавага, Маргарыта Мікалаеўна!

Маргарыта здзівілася.

— Вы ведаеце, хто я?

Замест гэтага рыжы зняў капялюш і ўзяў яго ў руку.

«Зусім бандыцкая морда!» — падумала Маргарыта і прыгледзелася да свайго субяседніка.

— А я вас не ведаю,— суха адказала Маргарыта.

— Адкуль вам мяне ведаць! А між тым я да вас пасланы.

Маргарыта пабялела і адхіснулася.

— З гэтага адразу і трэба было пачынаць,— загаварыла яна,— а не балбатаць чортведама што пра адрэзаную галаву! Вы мяне арыштаваць хочаце?

— Зусім не,— усклікнуў рыжы,— чаму гэта: толькі загаварыў, дык абавязкова і арыштаваць! Проста, ёсць клопат.

— Нічога не разумею, які клопат?

Рыжы азірнуўся і сказаў таямніча:

— Мяне прыслалі, каб сёння вечарам вас запрасіць у госці.

— Вы што, трызніце, якія яшчэ госці?

— Да аднаго вельмі знакамітага чужаземца,— важна сказаў рыжы і прыплюшчыў вока.

Маргарыта зусім раззлавалася.

— Новая парода вывелася: вулічны зводнік,— яна ўстала, каб пайсці.

— Во дзякуй за такія даручэнні! — пакрыўджана ўскрыкнуў рыжы і прабурчаў услед Маргарыце: — Дура!

— Мярзотнік! — адазвалася тая, азірнулася і адразу пачула за сабой голас рыжага:

— Цемра, якая насунулася з Міжземнага мора, накрыла ненавісны пракуратару горад. Зніклі вісячыя масты, якія злучалі храм са страшнаю Антоніевай вежаю... Знік Ершалаім — вялікі горад, быццам і не існаваў на свеце... Дык прападайце вы пропадам з вашым абгарэлым сшыткам і сухою ружаю! Сядзіце тут адна на лавачцы і маліце ў яго, каб ён адпусціў вас на волю, даў вольна дыхаць, знік з памяці!

Спалатнелая з твару Маргарыта вярнулася да лаўкі. Рыжы прыплюшчана глядзеў на яе.

— Я нічога не разумею,— ціха загаварыла Маргарыта Мікалаеўна,— пра лісткі яшчэ можна даведацца... прабрацца, падгледзець... Наташу падкупілі? Але як вы маглі даведацца, пра што я думаю? — Яна пакутліва скрывілася і дадала: — Скажыце мне, хто вы такі? З якое ўстановы?

— Во нудота,— прабурчаў рыжы і загаварыў мацней:— Выбачайце, але я ўжо сказаў, што ні з якое я не ўстановы! Сядайце, калі ласка.

Маргарыта пакорліва падпарадкавалася, але ўсё ж спыталася яшчэ раз:

— Хто ж вы?

— Ну добра, мяне завуць Азазела, але вам гэта нічога не гаворыць.

— А вы не скажаце мне, як і адкуль вы даведаліся пра ліcткі і пра мае думкі?

— Не скажу,— суха адказаў Азазела.

— А вы ведаеце хоць што-небудзь пра яго? — з мальбою зашаптала Маргарыта.

— Ну, няхай будзе ведаю.

— Малю вас: скажыце толькі адно — ён жывы? Не мучце мяне.

— Ну, жывы, жывы,— неахвотна адазваўся Азазела.

— Божачка!

— Калі ласка, не хвалюйцеся і не крычыце,— пахмура сказаў Азазела.

— Даруйце, даруйце,— мармытала пакорлівая Маргарыта,— я, вядома, раззлавалася на вас. Але, пагадзіцеся, калі на вуліцы запрашаюць жанчыну некуды ў госці... Я не старамодная, запэўніваю вас,— Маргарыта нявесела ўсміхнулася,— але я ніколі не сустракалася з чужаземцамі, і сустракацца ў мяне з імі няма ніякае ахвоты... і, акрамя таго, мой муж... Мая драма ў тым, што ■ жыву з тым, каго не кахаю, але псаваць яму жыццё не хачу. Ад яго я нічога не мела, акрамя дабра...

Азазела з паказным сумам слухаў гэтае блытанае мармытанне і сурова сказаў:

— Прашу вас, памаўчыце хвілінку.

Маргарыта пакорліва замоўкла.

— Я запрашаю вас да чужаземца зусім бяспечнага. І ніводная душа не будзе ведаць пра гэтае наведванне. Вось за гэта я магу паручыцца.

— А навошта я яму? — ліслівa спыталася Маргарыта.

— Пра гэта вы даведаецеся пазней.

— Разумею... Я павінна буду аддацца яму,— сказала Маргарыта задумліва.

У адказ на гэта Азазела пагардліва хмыкнуў і адказаў:

— Любая жанчына ў свеце, магу запэўніць вас, толькі і марыла б пра гэта,— твар Азазелы скрывіўся ад смяшку,— але я расчарую вас, гэтага не будзе.

— І што гэта за чужаземец такі? — разгублена ўсклікнула Маргарыта гэтак моцна, што на яе азірнуліся прахожыя.— І што за інтарэс мне ісці да яго?

Азазела нахіліўся да яе і шматзначна шапнуў:

— Ну, інтарэс, скажам, вялікі... Вы скарыстаеце выпадак...

— Што? — усклікнула Маргарыта, і вочы ў яе зрабіліся круглыя.— Калі я вас правільна зразумела, вы намякаеце на тое, што я магу даведацца пра яго?

Азазела моўчкі кіўнуў галавой.

— Еду! — цвёрда ўсклікнула Маргарыта і ўхапіла Азазелу за руку.— Еду куды хочаце!

Азазела з палёгкаю аддыхаўся, адкінуўся да спінкі, закрыў плячыма выразанае вялікімі літарамі «Нюра» і загаварыў іранічна:

— Цяжкі народ гэтыя жанчыны! — ён усунуў рукі ў кішэні і далёка наперад выцягнуў ногі.— Нашто, напрыклад, мяне паслалі? Няхай бы Бегемот хадзіў, ён прыгожы, абаяльны...

Маргарыта загаварыла, кісла і па-жабрачы ўсміхаючыся:

— Досыць вам мучыць мяне містыфікацыямі і загадкамі... Я чалавек і так няшчасны, а вы выкарыстоўваеце гэта. Улажу я ў нейкую дзіўную гісторыю, але, клянуся, толькі таму, што вы спакусілі мяне словамі пра яго! У мяне галава кругам ідзе ад усіх гэтых бед...

— Не драматызуйце, не драматызуйце,— адазваўся Азазела і скрывіў морду,— мяне таксама зразумець трэба. Даць па мордзе адміністратару, выгнаць дзядзьку з дома, альбо падстрэліць каго-небудзь, ці яшчэ якую дробязь зрабіць, гэта мая непасрэдная спецыяльнасць, але размаўляць з закаханымі жанчынамі — злітуйцеся. Я ўжо вас паўгадзіны ўломліваю. Дык едзеце?

— Еду,— проста адказала Маргарыта Мікалаеўна.

— Тады, калі ласка, трымайце,— Азазела дастаў з кішэні круглую залатую каробачку, падаў яе Маргарыце і сказаў: — Ды схавайце, а то прахожыя глядзяць. Яна вам спатрэбіцца, Маргарыта Мікалаеўна. Вы вельмі пастарэлі ад гора за апошнія паўгода. (Маргарыта ўспыхнула, але нічога не сказала, а Азазела працягваў.) Сёння вечарам, роўна а палове дзесятай, майце ласку, раздзеўшыся дагала, нацерці гэтай маззю твар і ўсё цела. Далей можаце рабіць што хочаце, але не адыходзьце ад тэлефона. У дзесяць я пазваню вам і скажу пра ўсё, што трэба. Вы не будзеце мець ніякага клопату, вас прывязуць куды патрэбна, і вам нічога не зробяць благога. Зразумела?

Маргарыта памаўчала і сказала:

— Зразумела. Гэтая рэч з чыстага золата, адчуваецца на вагу. Ну што ж, я цудоўна разумею, што мяне купляюць

і ўкручваюць у нейкую непрыстойную гісторыю, за гэта я дорага заплачу.

— Ну, ды што ж гэта такое? Вы зноў за сваё? — амаль зашыпеў Азазела.

— Не, пачакайце!

— Аддайце назад памаду.

Маргарыта мацней сціснула ў руцэ каробачку і працягвала:

— Не, пачакайце... Я ведаю, на што згаджаюся. Але згаджаюся з-за яго, таму болей спадзявацца няма на што ва ўсім белым свеце. Але я хачу сказаць вам, што калі загубіце мяне, вам будзе сорамна! Сорамна! Я гіну з-за кахання! — Маргарыта ўдарыла сябе ў сэрца і падняла вочы на сонца.

— Аддайце назад,— злосна шыпеў Азазела,— аддайце назад, і на д'ябла мне ўсё гэта. Няхай пасылаюць Бегемота.

— Э, не! — працягвала Маргарыта, прахожыя здзіўлена азіраліся на яе.— Я згодная на ўсё, згодная на гэту камедыю з намазваннем, згодная да чорта на рогі. Не аддам!

— Во! — раптоўна зароў Азазела, вытрашчыўся на садовую рашотку і паказаў пальцам.

Маргарыта павярнулася туды, куды паказваў Азазела, але нічога там не заўважыла. Тады яна адвярнулася назад да Азазелы, каб растлумачыў сваё недарэчнае «Во!», але тлумачыць не было каму: таямнічы субяседнік Маргарыты Мікалаеўны знік. Маргарыта хуценька сунула руку ў сумачку, куды схавала каробачку, і пераканалася, што яна там. Тады Маргарыта Мікалаеўна бяздумна пабегла прэч з Аляксандраўскага саду.

## Раздзел 20

### КРЭМ АЗАЗЕЛЫ

Поўня ў вячэрнім чыстым небе вісела, бачная скрозь кляновае голле. Ліпы і акацыі размалёўвалі зямлю стракатым плямістым карункам. Акно было адчынена, завешана фіранкай, але свяцілася шалёным электрычным святлом. У спальні ў Маргарыты Мікалаеўны гарэлі ўсе свяцільнікі і асвятлялі поўны рэзрух. На ложку на коўдры ляжалі сарочкі, панчохі, бялізна, пакамечаная бялізна валялася на падлозе побач з растаптаным у мітусні папяросным карабком. Туфлі стаялі на начным століку, побач з недапітым кубачкам

кавы і попельніцай, у якой дыміўся недакурак, на спінцы крэсла вісела чорная вячэрняя сукенка. У пакоі пахла духамі, акрамя гэтага, патыхала аднекуль нагрэтым прасам.

Маргарыта Мікалаеўна сядзела перад трумо ў адным купальным халаце, ускінутым на голае цела, у замшавых чорных туфлях. Залатая бранзалетка з гадзіннікам ляжала перад Маргарытай Мікалаеўнай, побач з каробачкаю, якую яна атрымала ад Азазелы, і Маргарыта не адводзіла вачэй ад цыферблата. Часам ёй пачынала мроіцца, што гадзіннік зламаўся і стрэлкі спыніліся. Але яны рухаліся, хаця і павольна, быццам прыклейваліся, і нарэшце доўгая стрэлка легла на дваццаць дзевятую хвіліну. Маргарыціна сэрца моцна грукнула, гэтак, што яна не магла адразу ўзяцца за каробачку. Саўладала з сабою, адчыніла і ўбачыла ў каробачцы тлусты жаўтлявы крэм. Ёй здалося, што запахла балотнаю тванню. Кончыкам пальца Маргарыта паклала невялікі мазок крэма на далоню, і адразу яшчэ мацней запахла балотнымі травамі і лесам, потым далонямі пачала расціраць крэм па лбе, па шчоках. Крэм лёгка мазаўся і, як здалося Маргарыце, адразу і выпараўся. Пасля некалькіх расціранняў Маргарыта зірнула ў люстра і ўпусціла каробачку проста на шкло гадзінніка, і тое адразу пакрылася трэшчынамі. Маргарыта заплюшчыла вочы, потым зірнула яшчэ раз і гучна засмяялася.

Вышчыпаныя па краях у нітачку пінцэтам бровы пагусцелі і чорнымі роўнымі дугамі леглі над зазелянелымі вачыма. Тонкая вертыкальная маршчынка над пераноссем, якая з'явілася тады, у кастрычніку, калі не стала майстра, знікла бясследна. Зніклі і жоўтыя цені ля скроняў, і дзве ледзь прыкметныя сетачкі маршчынак ля воч. Скура на шчоках налілася роўным ружовым колерам, лоб зрабіўся белы і чысты, а завіўка рассыпалася. На трыццацігадовую Маргарыту з люстра глядзела ад прыроды кучаравая чорнавалосая жанчына гадоў дваццаці, нястрымна рагатала, скаліла зубы.

Нарагатаўшыся, Маргарыта выскачыла з халата, адным махам зачарпнула лёгкі тлусты крэм і пругкімі мазкамі пачала расціраць яго па ўсім целе. Яно адразу паружавела і загарэлася. Потым імгненна, быццам з мазгоў выцягнулі іголку, сціхла боль у скроні, якая не пакідала ўвесь вечар пасля спаткання ў Аляксандраўскім садзе, мускулы рук і ног памацнелі, а потым усё Маргарыціна цела стала бязважкім.

Яна падскочыла і павісла ў паветры невысока над ды-

ваном, потым яе паволі пацягнула ўніз і яна апусцілася.

— Вось дык крэм! Вось дык крэм! — закрычала Маргарыта і кінулася на крэсла.

Расціранне змяніла яе не толькі знешне. Цяпер ва ўсёй ёй, у кожнай частачцы цела ўскіпала радасць, якую яна адчувала, як паветраныя бурбалачкі, якія паколваюць па ўсім целе. Маргарыта адчула сябе вольнай, вольнай ад усяго. Акрамя гэтага, яна даволі выразна зразумела, што здарылася якраз тое, пра што яшчэ зранку гаварыла прадчуванне, і што яна пакідае гэты асабняк і гэтае жыццё назаўсёды. Але ад былога жыцця ўсё ж адкалолася адна думка пра тое, што трэба споўніць адзін апошні абавязак перад пачаткам чагосьці новага, незвычайнага, якое імкнула ўгору, у паветра. І яна, голая, са спальні перабегла ў мужаў кабінет, запаліла святло, кінулася да пісьмовага стала. На вырваным з блакнота аркушы яна хутка, буйна і без памылак напісала запіску:

«Даруй мне і як мага хутчэй забудзь. Я пакідаю цябе навек. Не шукай мяне, гэта будзе марна. Я стала ведзьмаю ад гора і бед, якія абрынуліся на мяне. Мне час. Бывай. Маргарыта».

Са спакойнай душой Маргарыта прыляцела ў спальню, следам за ёй туды ўбегла і Наташа, нагружаная рэчамі. І адразу ўсе гэтыя рэчы — драўляныя плечыкі з сукенкамі, карункавыя хусцінкі, сінія шаўковыя туфлі на распялках і паясок,— усё гэта пасыпалася на падлогу, і Наташа ўспляснула рукамі.

— Што, прыгожая? — моцна крыкнула ахрыплым голасам Маргарыта.

— Як гэта? — шаптала Наташа і адступалася назад.— Як вы гэта робіце, Маргарыта Мікалаеўна?

— Гэта крэм! Крэм, крэм,— адказала Маргарыта, паказала на залатую каробачку і павярнулася перад люстрам.

Наташа забылася пра пакамечаныя сукенкі на падлозе, падбегла да трумо, прагнымі вачыма вытрашчылася на астаткі крэму. Вусны яе нешта шапталі. Яна зноў завярнулася да Маргарыты Мікалаеўны і прамовіла з нейкім утрапеннем:

— Скура! Скура, га? Маргарыта Мікалаеўна, ваша скура ажно свеціцца.— Тут яна апамяталася, падбегла да адзення і пачала абтрэсваць яго.

— Кіньце! Кіньце! — крычала ёй Маргарыта.— На чорта яно, усё кіньце! Хаця не, бярыце яго сабе на памяць.

Кажу, на памяць бярыце! Усё забірайце, што тут ёсць!

Наташа аслупянела, глядзела на Маргарыту, потым павісла ў яе на шыі, цалавала і крычала:

— Атласная! Свеціцца! Атласная! А бровы, бровы якія!

— Бярыце ўсе анучы, бярыце духі і цягніце да сябе ў куфэрак, хавайце,— крычала Маргарыта,— але каштоўнасцей не бярыце, а то абвінавацяць у кражы.

Наташа згрэбла ў клунак усё, што ёй трапляла пад руку — сукенкі, туфлі, панчохі, бялізну, і вылецела прэч са спальні.

У гэты час, аднекуль з другога боку завулка, з адчыненага акна вырваўся і паляцеў грамавы віртуозны вальс, і пачулася пыхканне машыны, якая пад'ехала да варот.

— Хутка пазвоніць Азазела! — усклікнула Маргарыта, слухаючы вальс з завулка.— Ён пазвоніць! Ён пазвоніць! А чужаземец не шкодны. Цяпер я разумею, што ад яго не будзе шкоды!

Машына зашумела, ад'ехала ад варот. Грукнулі варотцы, па плітках на сцяжынцы пачуліся крокі.

«Гэта Мікалай Іванавіч, па хадзе пазнаю,— падумала Маргарыта,— трэба зрабіць нешта на развітанне смешнае і забаўнае».

Маргарыта махнула штору ўбок і села на падаконнік бокам, абхапіла калені рукамі. Месячнае святло лізнула яе з правага боку. Маргарыта паглядзела ўгору на поўню і зрабіла твар задуменным і паэтычным. Крокі шухнулі яшчэ два разы і раптоўна заціхлі. Маргарыта яшчэ палюбавалася на поўню, дзеля прыліку ўздыхнула, павярнула галаў у сад і сапраўды ўбачыла Мікалая Іванавіча, які жыў на першым паверсе ў гэтым самым асабняку. Поўня залівала Мікалая Іванавіча святлом. Ён сядзеў на лаўцы, і зразумела было, што апусціўся на яе ён міжволі. Пенснэ ў яго на твары неяк перакасілася, а партфель ён сціскаў у руцэ.

— А, добры вечар, Мікалай Іванавіч,— з сумам у голасе сказала Маргарыта,— добры вечар! Вы з паседжання?

Мікалай Іванавіч нічога не адказаў.

— А я,— працягвала Маргарыта і ўсё больш высоўвалася з акна,— сяджу адна, бачыце, сумую, гляджу на поўню і слухаю вальс.

Левай рукой Маргарыта правяла па скроні, папраўляла пасмачку валасоў, потым сказала сярдзіта:

— Ну, гэта няветліва, Мікалай Іванавіч! Усё ж я жанчына! Гэта хамства — не адказваць, калі з вамі гавораць!

Мікалай Іванавіч, на якім пры месячным святле відаць

быў кожны гузічак на шэрай камізэльцы, кожны валасок у светлай бародцы клінком, раптам усміхнуўся дзікаю ўсмешкаю, падхапіўся з лаўкі і, відаць, ад збянтэжанасці, замест таго, каб зняць капялюш, махнуў партфелем убок і прысеў, нібы збіраўся танцаваць упрысядку.

— Вой, які вы зануда, Мікалай Іванавіч,— працягвала Маргарыта,— наогул, вы ўсе мне гэтак абрыдзелі, што і сказаць немагчыма, і я такая шчаслівая, што пакідаю вас! Пайшлі вы к чортавай мацеры!

У гэты час за плячыма ў Маргарыты грымнуў тэлефон. Маргарыта сарвалася з падаконніка, забылася пра Мікалая Іванавіча, схапіла трубку.

— Гаворыць Азазела,— сказалі ў трубцы.

— Мілы, мілы Азазела! — усклікнула Маргарыта.

— Пара! Вылятайце,— загаварыў Азазела, і па яго голасе адчувалася, што яму прыемны шчыры і радасны Маргарыцін парыў,— калі будзеце пралятаць над варотамі, крыкніце: «Нябачная!» Потым палятайце над горадам, каб прывыкнуць, а затым на поўдзень, прэч з горада, і адразу на рэчку. Вас чакаюць!

Маргарыта павесіла трубку, і тут у суседнім пакоі нешта драўляна закульгала і пачало грукаць у дзверы. Маргарыта адчыніла іх, і швабра, якой мыюць падлогу, вехцем угору, прытанцоўваючы, уляцела ў спальню. Тронкам сваім яна танцавала па падлозе, падбрыквала і рвалася ў акно. Маргарыта ажно віскнула ад захаплення і ўскочыла на швабру верхам. І толькі тады ў амазонкі прамільгнула думка, што забылася адзецца. Галопам падскочыла да ложка і схапіла блакітную сарочку, якая першай трапіла пад руку. Узмахнула ёю, як штандарам, і вылецела ў акно. І вальс над садам загучаў яшчэ мацней.

З акна Маргарыта саслізнула ўніз і ўбачыла Мікалая Іванавіча на лавачцы. Той акамянеў на ёй, зусім ашалелы, прыслухоўваўся да крыкаў і грукату, які чуўся са спальні верхніх жыльцоў.

— Бывайце, Мікалай Іванавіч! — закрычала Маргарыта, прытанцоўваючы перад Мікалаем Іванавічам.

Той войкнуў і пасунуўся ўбок, сапхнуў на зямлю свой партфель.

— Бывайце навек! Я адлятаю,— крычала Маргарыта, заглушаючы вальс. Тут яна здагадалася, што сарочка ёй наогул не патрэбна, зларадна рагатнула і накрыла ёю галаву Мікалаю Іванавічу. Аслеплены Мікалай Іванавіч зваліўся з лаўкі на выкладзеную цэглай сцяжынку.

Маргарыта азірнулася, каб апошні раз убачыць асабняк, дзе яна гэтак доўга пакутавала, і ўгледзела ў палаючым святле не падобны на сябе здзіўлены Наташын твар.

— Бывай, Наташа! — крыкнула Маргарыта, ірванула швабру ўгору.— Нябачная, нябачная.— Яшчэ мацней крыкнула яна і між кляновых галін, якія хвасянулі па твары, пераляцела над варотамі, вырвалася ў завулак. І следам за ёй ляцеў ушчэнт звар'яцелы вальс.

## Раздзел 21

### ПАЛЁТ

Нябачная і вольная! Нябачная і вольная! Праляцела па сваім завулку, трапіла ў наступны, які перасякаў яго пад прамым вуглом. Гэты залаплены, стары, крывы і доўгі завулак з абвіслымі дзвярыма нафтакрамкі, у якой кубкамі прадаюць газу і вадкасць ад паразітаў у флаконах, яна праляцела імгненна і тады засвоіла, што нават калі ты нябачны і вольны, усё ж цешыцца трэба асцярожней. Дзякуючы толькі цуду, яна затармазіла і не разбілася насмерць аб стары пахілены ліхтарны слуп на перакрыжаванні. Абмінуўшы яго, Маргарыта мацней сціснула швабру і паляцела павольней, прыглядаючыся да электрычных дратоў і да шыльдаў, якія віселі ўпоперак тратуараў.

Трэці завулак вёў проста на Арбат. Цяпер Маргарыта зусім асвойталася, як кіраваць швабрай, зразумела, што тая падпарадкуецца самаму лёгкаму дотыку рук альбо ног, і што ў палёце над горадам трэба быць вельмі ўважлівай і не шалець. Акрамя ўсяго, ужо ў завулку стала зразумела, што прахожыя лятуху не бачаць.

Ніхто не задзіраў галаву, ніхто не крычаў «глядзі, глядзі!», не шарахаўся ўбок, не вішчаў і не траціў прытомнасці, не рагатаў дзікім рогатам.

Маргарыта ляцела нячутна, паволі і невысока, прыкладна на ўзроўні другога паверха. Але і пры павольным лёце, перад самым выхадам на зіхатліва асветлены Арбат, яна крыху не патрапіла і ўдарылася плячом аб нейкі асветлены дыск, на якім была намалявана страла. Гэта раззлавала Маргарыту. Яна спыніла паслухмяную швабру, адляцела ўбок, а потым рынулася на дыск раптоўна і канцом тронка разнесла яго ўшчэнт. З грукатам пасыпаліся асколкі, недзе засвісталі, а Маргарыта пасля гэтага зусім недарэчнага

ўчынку разрагаталася. «На Арбаце трэба быць яшчэ асцярожней,— падумала Маргарыта,— тут гэтулькі ўсяго на блытана, што і не разбярэшся». І яна пачала ныраць паміж дратоў. Пад Маргарытай праплывалі дахі тралейбусаў, аўтобусаў, легкавых машын, а па тратуарах, як здавалася зверху, плылі цэлыя рэчкі шапак. Ад гэтых рэчак аддзяляліся ручайкі і ўліваліся ў вогненныя пасткі начных магазінаў. «Фу, якое збоішча! — сярдзіта падумала Маргарыта.— Тут і павярнуцца нават нельга». Яна перасекла Арбат, паднялася вышэй, да чацвёртых паверхаў, і паўз сліпуча зіхоткія трубачкі на вуглавым будынку тэатра паплыла ў вузкі завулак з высокімі дамамі. Усе вокны ў іх былі паадчыняныя, і ўсюды ў вокнах чуваць была радыёмузыка. З-за цікаўнасці Маргарыта зазірнула ў адно з іх. Убачыла кухню. Два прымусы раўлі на пліце, каля іх стаялі дзве жанчыны з лыжкамі і гыркаліся.

— Свет пасля сябе трэба тушыць у прыбіральні, вось што я вам скажу, Пелагея Пятроўна,— гаварыла тая жанчына, перад якой стаяла каструля з нейкай стравай, з якой валіла пара,— а то мы вас пападзім на высяленне!

— Сама не лепшая,— адказала другая.

— Абое рабое,— моцна сказала Маргарыта і перавалілася цераз падаконнік у кухню. Абедзве завярнуліся на голас і замёрлі з бруднымі лыжкамі ў руках. Маргарыта асцярожна працягнула руку між імі, пакруціла краны і выключыла абодва прымусы. Жанчыны вохнулі і разявілі раты. Але Маргарыце ўжо надакучыла кухня, і яна вылецела ў завулак.

У самым канцы завулка ўвагу Маргарыты прыцягнула раскошная аграмадзіна васьміпавярховага, мабыць, толькі нядаўна пабудаванага дома. Маргарыта спусцілася ўніз, прызямлілася і ўбачыла, што фасад дома абкладзены чорным мармурам, што дзверы шырокія, што за шклом іх відаць фуражка з залатым галуном і гузікі швейцара і што над дзвярыма золатам выпісана: «Дом Драмліта».

Маргарыта прыплюшчылася на надпіс, думала, што магло абазначаць слова «Драмліт». Узяла швабру пад паху, увайшла ў пад'езд, таўханула дзвярыма здзіўленага швейцара і ўбачыла побач з ліфтам на сцяне вялізную чорную дошку, а на ёй выпісаныя белымі лічбамі і літарамі нумары кватэр і прозвішчы жыхароў. Спісак пад шыльдай «Дом Драматурга і Літаратара» прымусіў Маргарыту драпежна і хрыпла ўскрыкнуць. Яна паднялася вышэй, прагна пачала чытаць прозвішчы: Хустаў, Двубрацкі, Квант, Бяскуднікаў, Латунскі...

— Латунскі! — завішчала Маргарыта.— Латунскі! Ды гэта ж ён! Гэта ён загубіў майстра!

Швейцар ля дзвярэй вытрашчыў вочы і ажно падскокваў ад здзіўлення, глядзеў на чорную дошку, спрабаваў зразумець: чаго гэта раптам вішчыць спіс жыхароў. А Маргарыта тым часам ужо ляцела ўгору па лесвіцы і паўтарала чамусьці з асалодаю:

— Латунскі — восемдзесят чатыры! Латунскі — восемдзесят чатыры!..

Вось злева — 82, справа — 83, яшчэ вышэй злева — 84. Вось і шыльдачка — «А. Латунскі».

Маргарыта саскочыла са швабры, і гарачыя яе ступакі прыемна астудзіла мураваная пляцоўка. Маргарыта пазваніла раз, яшчэ раз. Але ніхто не адчыняў. Маргарыта пачала мацней ціснуць на званок і сама чула звон, які стаяў у кватэры Латунскага. Сапраўды, да самае смерці павінен быць удзячны нябожчыку Берліёзу гаспадар кватэры № 84 на восьмым паверсе за тое, што старшыня МАССАЛІТа трапіў пад трамвай і што жалобнае паседжанне прызначылі якраз у гэты вечар. Пад шчасліваю зоркаю нарадзіўся крытык Латунскі. Яна выратавала яго ад сустрэчы з Маргарытай, якая ператварылася ў ведзьму ў гэтую пятніцу.

Ніхто не адчыняў дзвярэй. Тады адным духам Маргарыта зляцела ўніз, лічачы паверхі, вырвалася на вуліцу, вылічыла, якія вокны кватэры Латунскага. Несумненна, гэта былі пяць цёмных вокнаў на рагу будынка на восьмым паверсе. Маргарыта пераканалася ў гэтым, узмыла ў паветра і праз некалькі секунд праз адчыненае акно заходзіла ў цёмны пакой, у якім серабрылася толькі вузенькая палосачка ад поўні. Маргарыта прабегла па ёй, намацала выключальнік. Праз хвіліну ўся кватэра была асветлена. Швабра стаяла ў куце. Маргарыта пераканалася, што дома няма нікога, адамкнула дзверы і паглядзела на шыльдачку. Шыльдачка была на месцы. Маргарыта трапіла туды, куды ёй трэба было.

Ага, гавораць, што і дасюль крытык Латунскі палатнее з твару, калі ўспамінае гэты страшны дзень, і да гэтага часу як святое вымаўляе Берліёзава імя. Нікому невядома, якою б страшнаю і мярзотнаю крымінальшчынаю быў бы пазначаны гэты вечар,— Маргарыта вярнулася з кухні з вялікім малатком.

Голая і нябачная лятуха стрымлівала і супакойвала сябе, рукі ў яе калаціліся ад нецярпення. Маргарыта старанна прыцэлілася і ўдарыла па клавішах раяля, і па ўсёй кватэры

пранеслася першае жаласнае завыванне. Ашалела выў ні ў чым не павінны бекераўскі кабінетны інструмент. Клавішы ў ім праваліліся, касцяныя накладкі ляцелі ва ўсе бакі. Інструмент гудзеў, выў, хрыпеў, звінеў. Пад ударам малатка лопнула верхняя паліраваная дэка, быццам стрэлілі з рэвальвера. Маргарыта жыўцом вырывала струны, задыхалася ад гэтае работы. Нарэшце стомлена бухнулася ў крэсла, каб аддыхацца.

У ванным пакоі страшна гудзела вада і на кухні таксама. «Здаецца, ужо пацякло на падлогу...» — падумала Маргарыта і дадала ўголас:

— Аднак няма чаго расседжвацца.

З кухні ў калідор ужо цёк струмень. Маргарыта шлёпала босымі нагамі па вадзе, насіла ваду з кухні і вёдрамі вылівала ў кабінеце ў шуфляды пісьмовага стала крытыка. Потым разламала малатком дзверы шафы ў гэтым самым кабінеце і кінулася ў спальню. Пабіла шафу з люстрам, дастала з яе касцюм крытыка і ўтапіла яго ў ванне. Поўную чарніліцу з чарнілам з кабінета выліла ў пышна засланы двухспальны ложак у спальні. Рэзрух, які яна тварыла, прыносіў вялізнае задавальненне, але ўвесь час здавалася, што ўсяго гэтага мала, што гэта мізер. Таму яна пачала рабіць абы-што. Біла вазоны з фікусамі ў тым пакоі, дзе стаяў раяль. Не скончыўшы гэтую работу, вярталася ў спальню і кухонным нажом паласавала прасціны, біла зашклёныя фотаздымкі. Стомленасці не адчувала, і толькі пот з яе цёк раўчукамі.

У гэты час у кватэры № 82, пад кватэрай Латунскага, хатняя работніца драматурга Кванта піла чай на кухні і не разумела, чаго зверху чуецца гэтакі грукат, бегатня і звон. Паглядзела ўгору і ўбачыла, што столь увачавідкі з белай ператвараецца ў нейкую мярцвяцка-сінюю. Пляма расла хутка, і раптам на ёй накіпелі кроплі. Хвіліны дзве сядзела работніца і дзіву давалася, пакуль са столі не паліў сапраўдны дождж і не зацупаў па падлозе. Тады яна падхапілася, падставіла пад струмені міску, але гэта нічуць не дапамагло, бо дождж пабольшаў і пачаў заліваць і газавую пліту, і стол з посудам. Тады работніца ўскрыкнула, выбегла на лесвіцу, і адразу ў кватэры ў Латунскага пачуліся званкі.

— Ну, зазванілі... Пара выбірацца,— сказала Маргарыта. Яна асядлала швабру, прыслухалася да жаночага голасу, які крычаў у замочную адтуліну.

— Адчыніце, адчыніце! Дуся, адчыні! Гэта ў вас вада цячэ? Нас заліло.

Маргарыта паднялася на метр угору і ўдарыла па люстры, лямпачкі лопнулі, і ва ўсе бакі паляцелі падвескі. Крыкі пад дзвярыма спыніліся, на лесвіцы пачуўся тупат. Маргарыта выплыла ў акно, апынулася звонку, злёгку ўзмахнула і ўдарыла малатком па шкле. Яно ўсхліпнула, і па аздобленай мармурам сцяне каскадам пасыпаліся ўніз асколкі. Маргарыта паехала да наступнага акна. Далёка ўнізе забегалі па тратуары людзі, адна з дзвюх машын, якія стаялі ўнізе, загудзела і ад'ехала далей.

Маргарыта скончыла біць вокны Латунскага, паплыла да суседняе кватэры. Удары пачуліся часцей, завулак напоўніўся звонам і грукатам. З першага пад'езда выбег швейцар, паглядзеў угору, не адразу вырашыў, што яму рабіць, упхнуў у рот свісток і ашалела засвістаў. З асаблівым задавальненнем пад гэты свіст Маргарыта размалаціла апошняе шкло на восьмым паверсе, спусцілася на сёмы паверх і пачала граміць шкло і там.

Змучаны доўгім марным сядзеннем за шклянымі дзвярыма пад'езда, швейцар укладваў у свіст усю сваю душу, пры гэтым бегаў за Маргарытай, быццам акампаніраваў ёй. У паўзах, калі яна пералятала ад акна да акна, ён набіраўся духу, і пры кожным удары надзімаў шчокі і заліваўся, свідраваў начное паветра да самага неба.

Яго намаганні ў суладдзі з намаганнямі раз'ятранай Маргарыты далі добры вынік. У доме пачалася паніка. Цэлыя яшчэ вокны расчыняліся, у іх з'яўляліся галовы людзей і адразу ж хаваліся, адчыненыя вокны, наадварот, зачыняліся. У супрацьлеглых дамах на асветленым фоне ўзнікалі цёмныя постаці людзей, якія стараліся зразумець, чаго гэта без дай прычыны лопаецца шкло ў новым будынку Драмліта.

З завулка людзі беглі да дома Драмліта, і ў ім самім па лесвіцах людзі тупацелі і бегалі невядома чаго. Хатняя работніца Кванта крычала, што іх заліло, да яе хутка далучылася і хатняя работніца Хустава з кватэры № 80, якая была пад кватэрай Кванта. У Хуставых хлынула са столі на кухні і ў прыбіральні. Нарэшце ў Квантаў на кухні адваліўся вялікі кавалак тынкоўкі, пабіў увесь непамыты посуд, пасля чаго хлынуў ужо сапраўдны лівень: з клетак абвіслае мокрае дранкі плюхнула, як з вядра. Тады на лесвіцы на першым паверсе пачуліся крыкі. Маргарыта, калі пралятала паўз апошняе акно чацвёртага паверха, зазірнула ў яго і ўбачыла там чалавека, які з перапалоху ўспёр на твар проці-

вагаз. Маргарыта ўдарыла малатком па яго шкле, спалохала чалавека, і ён знік з пакоя.

Неспадзявана дзікі пагром спыніўся. Маргарыта слізганула на трэці паверх, зазірнула ў акно, завешанае лёгенька цёмнаю фіранкаю. У пакойчыку гарэла слабенькая лямпачка пад абажурам. У маленькім ложачку з сетачкамі з бакоў сядзеў хлопчык гадкоў чатырох і спалохана прыслухоўваўся. Дарослых не было ў пакоі. Мабыць, усе выбеглі з кватэры.

— Вокны б'юць,— сказаў хлопчык і паклікаў: — Мама!

Ніхто не адгукнуўся, і тады ён сказаў:

— Мама, я баюся.

Маргарыта адхіліла фіранку і ўляцела ў акно.

— Я баюся,— паўтарыў хлопчык і задрыжаў.

— Не бойся, не бойся, маленькі,— сказала Маргарыта, прыцішыўшы свой асіплы ад ветру злачынны голас,— гэта дзеці вокны білі.

— З рагатак? — спытаўся хлопчык.

— З рагатак, з рагатак,— пацвердзіла Маргарыта,— а ты спі!

— Гэта Сітнік,— сказаў хлопчык,— у яго ёсць рагатка.

— Ну, вядома, ён!

Хлопчык хітра зірнуў некуды ўбок і спытаўся:

— А ты дзе, цёця?

— А мяне няма,— адказала Маргарыта,— я табе снілася.

— Я гэтак і думаў,— сказаў хлопчык.

— Ты кладзіся,— загадала Маргарыта,— пакладзі руку пад шчочку, а я табе буду сніцца.

— Ну, сніся, сніся,— згадзіўся хлопчык і адразу лёг, паклаў руку пад шчочку.

— Я табе казку раскажу,— загаварыла Маргарыта і паклала гарачую руку на астрыжаную галоўку.— Жыла на свеце адна цёця. Дзяцей у яе не было, і шчасця таксама не было. І вось яна спачатку доўга плакала, а потым зрабілася злоснаю...— Маргарыта замоўкла, прыняла руку — хлопчык спаў.

Маргарыта ціхенька паклала малаток на падаконнік і вылецела з акна. Вакол дома была неразбярыха. Па асфальтавым тратуары, усланым бітым шклом, бегалі і нешта крычалі людзі. Між імі ўжо былі міліцыянеры. Раптоўна ўдарыў звон, і з Арбата ў завулак уехала чырвоная пажарная машына з лесвіцай...

Але гэта ўжо было не цікава Маргарыце. Яна прыцэлі-

лася, каб не зачапіцца за які-небудзь дрот, мацней асядлала швабру і імгнення апынулася вышэй за няшчасны дом. Завулак пад ёй пахіліўся і праваліўся ўніз. Замест яго пад нагамі ў Маргарыты ўзнікла скопішча дахаў, перарэзанае зіхоткімі сцяжынкамі. Усё гэта нечакана паехала ўбок, а ланцужкі агнёў размазаліся і зліліся.

Маргарыта зрабіла яшчэ адзін рывок, і тады ўсё збоішча дахаў праваліласяскрозь зямлю, а замест яго з'явілася ўнізе цэлае возера мігатлівых электрычных агеньчыкаў, і гэтае возера раптам паўстала вертыкальна, а потым з'явілася над галавой у Маргарыты, а пад нагамі бліснула поўня. Маргарыта зразумела, што перакулілася, вярнулася ў нармальнае становішча, азірнулася, але і возера ўжо не было, яно засталося там, ззаду, засталося толькі ружовае зарыва над небакраем. І яно знікла праз секунду, і Маргарыта ўбачыла, што яна сам-насам з поўняй, якая ляцела вышэй за яе і злева. Валасы ў Маргарыты даўноператварыліся ў стог, а месячнае святло са свістам абмывала яе цела. Па тым, як унізе два рады рэдзенькіх агеньчыкаў зліліся ў дзве суцэльныя лініі, па тым, як хутка яны зніклі ззаду, Маргарыта здагадалася, з якою вар'яцкаю хуткасцю яна ляціць, дзівілася, што не задыхаецца ад гэтага лёту.

Праз некалькі секунд далёка ўнізе, у зямной чарнаце, успыхнула новае возера электрычнага святла і падкацілася пад ногі на ляту, але яно адразу ж закружылася віхрам і праваліласяў зямлю. Яшчэ некалькі секунд — гэтакае ж самае відовішча.

— Гарады! Гарады! — закрычала Маргарыта.

Пасля гэтага яна разы два ці тры бачыла пад сабою цьмяна адсвечаныя нейкія шаблі, якія ляжалі ў расчыненых чорных похвах, і яна здагадалася, што гэта рэкі.

Лятуха задзірала галаву ўгору і ўлева, любавалася тым, што поўня імчыцца за ёю, як звар'яцелая, назад у Маскву і адначасова нейкім дзіўным чынам стаіць на адным месцы, гэтак, што выразна бачны на ёй нейкі загадкавы, цёмны — ці то дракон, ці канёк-гарбунок, востраю мордачкаю звернуты да пакінутага горада.

Тут Маргарыта падумала, што на самай справе яна дарэмна гэтак гоніць швабру, пазбаўляе сябе асалоды разгледзець што-небудзь як след, нацешыцца палётам. Ёй нешта падказвала, што там, куды яна ляціць, яе пачакаюць і што няма патрэбы сумаваць ёй ад гэтакае шалёнае хуткасці і вышыні.

Маргарыта нахіліла швабру вехцем наперад, гэтак, што

тронак падняўся ўгору, запаволіла ход і пайшла ўніз, да зямлі. І гэтае імчанне, быццам на паветраных саначках, прынесла найвялікшую асалоду. Зямля падалася да яе, і з незразумелай да гэтага чорнае гушчы паказаліся яе таямніцы і прыгажосць у месячную ноч. Зямля ішла насустрач Маргарыце, і Маргарыту ўжо абвявала водарам зялёных лясоў. Маргарыта ляцела над самым туманам роснага луга, потым над сажалкай. Пад Маргарытаю хорам спявалі жабы, а недзе ўдалечыні хваляваў сэрца, шумеў цягнік. Маргарыта хутка ўбачыла яго. Ён поўз павольна, як вусень, пыхкаў у паветра іскрамі. Маргарыта абагнала яго, праляцела яшчэ над адным водным люстэркам, у якім праплыла пад нагамі другая поўня, яшчэ больш апусцілася ўніз і паплыла, ледзь не кранаючыся нагамі вершалін векавых сосен.

Цяжкі шум распоратага паветра пачуўся ззаду і пачаў даганяць Маргарыту. Пакрысе да гэтага шуму чагосьці лятучага, як снарад, далучыўся жаночы рогат. Маргарыта азірнулася і ўбачыла, што яе даганяе нейкі дзіўны цёмны прадмет. Ён даганяў Маргарыту і ўсё болей абазначаўся, можна было пазнаць, што нехта ляціць вершкі. Нарэшце ён і зусім абазначыўся: запаволіўшую хуткасць Маргарыту дагнала Наташа.

Яна, зусім голая, з растрапанымі на ветры валасамі, ляцела верхам на тоўстым япруку, які ў пярэдніх капыціках трымаў партфель, а заднімі люта перабіраў у паветры. Пенснэ яго ляцела побач на шнурку, зрэдку пабліськвала пры месяцы і патухала, а капялюш увесь час спаўзаў япруку на вочы. Маргарыта прыгледзелася і пазнала ў япруку Мікалая Іванавіча, і тады рогат яе загрымеў над лесам, змяшаўся з Наташыным рогатам.

— Наташка! — пранізліва закрычала Маргарыта.— І ты намазалася крэмам?

— Галубка мая! — будзіла сваім лямантам у адказ сасновы бор Наташа.— Каралева мая французская, ды я намазала лысіну і яму!

— Прынцэса! — плаксіва зароў япрук і галопам панёс далей Наташу.

— Галубка мая, Маргарыта Мікалаеўна! — крычала Наташа і імчала побач з Маргарытаю.— Прызнаюся, узяла крэм! І мы ж таксама хочам жыць і лётаць! Даруйце мне, уладарка мая, а я не вярнуся, нізашто не вярнуся! Вой, як добра, Маргарыта Мікалаеўна!.. Сватаўся да мяне,— Наташа пачала тыкаць пальцам у шыю збянтэжанаму япру-

ку,— сватаўся! Ты як мяне называў, га? — крычала яна на вуха япруку.

— Багіня! — завываў той.— Не магу я гэтак хутка ляцець! Я паперы важныя магу пагубіць. Наталля Пракопаўна, я пратэстую!

— Пайшоў ты к чортавай мацеры са сваімі паперамі! — дзёрзка рагатала і крычала Наташа.

— Ну што вы, Наталля Пракопаўна! Пачуе хто-небудзь! — слязліва прасіўся япрук.

Наташа ляцела голая побач з Маргарытай і расказвала пра тое, што адбылося ў асабняку пасля таго, як Маргарыта Мікалаеўна вылецела праз акно.

Наташа прызналася, што не дакранулася нават да тых рэчаў, якія ёй падарылі, яна скінула з сябе ўсё адзенне і кінулася да крэму і адразу ім намазалася. І з ёй адбылося тое самае, што і з яе гаспадыняю. У той час як Наташа цешылася перад люстрам сваёй чароўнай прыгажосцю, дзверы адчыніліся, і перад ёй з'явіўся Мікалай Іванавіч. Ён быў усхваляваны, у руках трымаў сарочку Маргарыты Мікалаеўны, свой капялюш і партфель. Мікалай Іванавіч аж абамлеў, як угледзеў Наташу. Як толькі крыху ачомаўся, увесь чырвоны, як рак, ён заявіў, што палічыў сваім абавязкам падняць кашульку і прынесці яе...

— Што ты гаварыў, нягоднік? — вішчала і рагатала Наташа.— Што гаварыў, на што падбухторваў? Якія грошы прапаноўваў! Гаварыў, што Клаўдзія Пятроўна ні пра што не даведаецца. Ну, што скажаш, хлушу? — крычала Наташа япруку, і той толькі збянтэжана адварочваў рыла.

Раздурэўшыся ў спальні, Наташа мазанула крэмам Мікалая Іванавіча і сама аж аслупянела ад здзіўлення. Твар саліднага жыльца з ніжняга паверха звяло ў свінячы пятачок, а рукі і ногі ператварыліся ў капыткі. Мікалай Іванавіч зірнуў на сябе ў люстэрка, дзіка і адчайна завішчаў, але было па часе. Праз некалькі секунд ён быў асядланы і ляцеў некуды к чортавай мацеры з Масквы і плакаў ад гора.

— Патрабую вярнуць мне маё нармальнае аблічча! — раптам не то адчайна, не то з мальбою ў голасе зарохкаў япрук.— Я не збіраюся ляцець на невядомае зборышча. Маргарыта Мікалаеўна, вы абавязаны паставіць на месца сваю прыслугу!

— Ах, дык я табе цяпер прыслуга? Хатняя работніца? — выкрыквала Наташа і шчыпала япрука за вуха.— А была багіня? Ты мяне гэтак называў?

— Венера! — плаксіва адказваў япрук, якраз пралятаю-

чы над ручаём, які шумеў між камення, і капыцікам з шолахам чапляўся за кусты арэшніку.

— Венера! Венера! — пераможна закрычала Наташа і адну руку выставіла ўбок, а другую працягнула да поўні.— Маргарыта! Каралева! Папрасіце, каб і мяне пакінулі ведзьмаю! Дзеля вас усё зробяць, вам улада дадзена!

І Маргарыта адазвалася:

— Добра, я дапамагу.

— Дзякуй! — крыкнула Наташа і раптам закрычала моцна, пранізліва і журботна: — Гэй! Гэй! Хутчэй! Хутчэй! Ану, давай хутчэй! — Яна сціснула каленямі схудалыя ад шалёнага бегу япруковыя бакі, і той гэтак ірвануўся, што зноў распароў паветра, і праз нейкае імгненне Наташа была ўжо відаць наперадзе толькі чорнаю кропачкаю, а потым і зусім знікла, і шум яе палёту растаў таксама.

Маргарыта ляцела па-ранейшаму паволі ў пустэльнай і незнаёмай мясцовасці, над узгоркамі, усеянымі рэдкімі валунамі, якія ляжалі між адзінокіх агромністых сосен. Маргарыта ляцела і думала пра тое, што яна, відаць, дзесьці вельмі далёка ад Масквы. Швабра ляцела не над верхавінамі сосен, а ўжо між ствалоў, з аднаго боку пасрэбраных поўняй. Лёгкі цень слізгаў па зямлі наперадзе — поўня свяціла ў спіну Маргарыце.

Маргарыта адчувала, што вада блізка, і здагадвалася, што і мэта блізка. Сосны расступіліся, і Маргарыта паволі пад'ехала ў паветры да мелавага абрыву. За гэтым абрывам унізе, у цяні, плыла рака. Туман вісеў і чапляўся за кусты ўнізе вертыкальнага абрыву, а супрацьлеглы бераг быў роўны, нізінны. На ім, над адзінокаю купкаю раскідзістых дрэў трымцеў агеньчык вогнішча і былі відаць нейкія мітуслівыя постаці. Маргарыце здалося, што адтуль пачулася нейкая вясёленькая музыка. Далей, наколькі можна было бачыць, на срэбнай раўніне не віднелася ніякіх прыкмет ні жытла, ні людзей.

Маргарыта скочыла з абрыву ўніз і хутка спусцілася да вады. Вада вабіла яе пасля паветранае гонкі. Яна адкінула швабру, разбеглася і кінулася ўніз галавой у ваду. Яе лёгкае цела, як страла, увайшло ў ваду, і вадзяны слуп устаў аж да самае поўні. Вада аказалася цёплая, нібы ў лазні, і Маргарыта пасля таго, як вынырнула з бяздоння, уволю наплавалася ў поўнай адзіноце ноччу ў рацэ.

Побач з Маргарытаю нікога не было, але крыху далей за кустамі чуліся ўсплёскі і пафыркванне, там нехта таксама купаўся.

Маргарыта выбегла на бераг. Цела яе гарэла пасля купання. Стомленасці ніякай яна не адчувала і радасна прытанцоўвала на вільготнай траве. Раптам яна перастала танцаваць і насцярожылася. Фырканне пачало набліжацца, з-за ракітавых кустоў вылез нейкі голы таўстун у чорным шаўковым цыліндры, ссунутым на патыліцу. Ступакі яго былі ў ілістай гразі, і здавалася, што купальшчык у чорных чаравіках. Калі меркаваць па тым, як ён аддыхваўся іікаў, то быў ён на добрым падпітку, што, дарэчы, пацвярджалася і тым, што раптам запахла каньяком.

Таўстун убачыў Маргарыту, пачаў прыглядацца, а потым радасна закрычаў:

— Што такое? Каго я бачу? Кладзіна, ды гэта ж ты, вясёлая ўдава! І ты тут? — ён палез вітацца.

Маргарыта адступілася і з гонарам адказала:

— Пайшоў ты к чортавай мацеры. Якая я табе Кладзіна? Ты глядзі, з кім гаворыш,— падумала крыху і дадала да свае прамовы доўгую лаянку, якую не друкуюць. Усё гэта ацверазіла легкадумнага таўстуна.

— Вой! — ціха ўсклікнуў ён і здрыгануўся.— Даруйце велікадушна, светлая каралева Марго! Я памыліўся. А вінаваты каньяк, гары ён гарам! — таўстун стаў на адно калена, цыліндр аднёс убок, пакланіўся і залапатаў на мяшанцы рускае і французскае нейкае глупства пра крывавае вяселле свайго сябра Гесара ў Парыжы, і пра каньяк, і што ён перажывае з-за прыкрае памылкі.

— Ты б штаны надзеў, сучы сын,— сказала мякчэй Маргарыта.

Таўстун радасна ўхмыльнуўся, калі ўбачыў, што Маргарыта не злуецца, паведаміў, што застаўся зараз без штаноў таму, што з-за няўважлівасці пакінуў іх на Енісеі, дзе купаўся перад гэтым, і што ён зараз злётае, добра, што туды рукой падаць, і яшчэ рады добрым адносінам да сябе. Ён пачаў адступаць задам, пакуль не паслізнуўся і не ўпаў у ваду. Але і пасля гэтага на твары з невялікімі бакенбардамі засталася ўсмешка захаплення і адданасці.

Маргарыта пранізліва свіснула, асядлала падляцелую швабру і пакіравала на супрацьлеглы бераг. Цень ад мелавае гары сюды не дастаўваў, і ўвесь бераг залівала поўня.

Як толькі Маргарыта дакранулася да вільготнае травы, музыка пад вербамі зайграла мацней і весялей, узляцеў сноп іскраў над вогнішчам. Пад галінамі вербаў, аздобленых пяшчотнымі, пушыстымі «коцікамі», якія былі відаць пры поўні, сядзелі ў два рады таўстамордыя жабы, раздзіма-

ліся, быццам гумавыя, і гралі на драўляных дудачках вясёлы марш. Гнілушкі-светлячкі віселі на вербавых галінках перад музыкантамі, асвятлялі ноты, на жабіных мордах гулялі водсветы ад вогнішча.

Марш выконваўся ў гонар Маргарыты. Сустракалі яе як мага ўрачыста. Празрыстыя русалкі спынілі свой карагод каля ракі і замахалі Маргарыце водарасцямі, і над пустэльным зеленаватым берагам прастагнала іхняе далёка чутнае прывітанне. Голыя ведзьмы выскачылі з-за вербаў, пастроіліся ў шарэнгу і пачалі прысядаць і кланяцца прыдворнымі паклонамі. Нехта казланогі падляцеў і прыпаў да рукі, раскінуў на траве шоўк і пацікавіўся, ці добра купалася каралеве, прапанаваў прылегчы і адпачыць.

Маргарыта гэтак і зрабіла. Казланогі падаў ёй бакал шампанскага, яна выпіла яго, і сэрца яе адразу сагрэлася. Пацікавілася, дзе Наташа, і ёй адказалі, што Наташа ўжо пакупалася і паляцела на сваім япруку наперад, у Маскву, каб папярэдзіць пра тое, што Маргарыта хутка прыляціць, і дапамагчы прыгатаваць ёй убранне.

За кароткае Маргарыціна гасцяванне пад вербамі адбыўся адзін эпізод. У паветры пачуўся свіст, і чорнае цела, якое відавочна прамазала, рухнула ў ваду. Праз некалькі секунд перад Маргарытай паўстаў той самы таўстун-бакенбардыст, што гэтак няўдачна знаёміўся на рачным беразе. Ён успеў, відаць, скружыць на Енісей, бо быў у фраку, але мокры з галавы да ног. Каньяк падвёў яго другі раз: пры высадцы ён трапіў у ваду. Але ўсмешку сваю збярог нават у гэтых сумных абставінах і быў Маргарытаю, якая шчыра смяялася, дапушчаны да рукі.

Потым усе пачалі збірацца. Русалкі датанцавалі свой танец пры месячным святле і раставалі ў ім. Казланогі далікатна пацікавіўся ў Маргарыты, на чым яна прыляцела. Калі даведаўся, што верхам на швабры, сказаў:

— Чаму? Гэта нязручна,— імгненна змайстраваў з дзвюх галінак нейкі падазроны тэлефон і запатрабаваў у некага тэрмінова прыслаць машыну, што было і зроблена ў тую ж самую хвіліну. На бераг абрынулася буланая адкрытая машына, толькі на шафёрскім месцы сядзеў не звычайны шафёр, а чорны даўгадзюбы грак у цыратавай фуражцы і ў пальчатках з раструбамі.

Бераг пусцеў. У месячным святле раставалі адляцеўшыя ведзьмы. Вогнішча дагарала, і вуголле зацягвала шэрым попелам.

Бакенбардыст і казланогі падсадзілі Маргарыту, і яна

села на шырокае задняе сядзенне. Машына завыла, скокнула і паднялася амаль да самае поўні, востраў знік, знікла рака, Маргарыта панеслася ў Маскву.

## Раздзел 22

### ПРЫ СВЕЧКАХ

Роўнае гудзенне машыны, якая ляцела высока над зямлёй, закалыхвала Маргарыту, а месячнае святло прыемна саграваnа яе. Яна заплюшчыла вочы, падставіла твар ветру і думала з сумам пра пакінуты ёй невядомы бераг ракі, якую, яна адчувала, болей не пабачыць. Пасля ўсіх чараў і цудаў, якія з ёю адбыліся за вечар, яна ўжо здагадвалася, да каго яе вязуць у госці, але гэта не палохала яе. Надзея на тое, што там ёй удасца дабіцца вяртання свайго шчасця, зрабіла яе бясстрашнай. Дарэчы, доўга марыць у машыне пра гэта шчасце ёй не давялося. Ці грак добра ведаў сваю справу, ці машына была добрая, толькі хутка Маргарыта, калі расплюшчыла вочы, убачыла перад сабой не лясную цемру, а мігатлівае возера маскоўскіх агнёў. Чорная птушка-шафёр на ляту адвінціў правае пярэдняе кола і пасадзіў машыну на нейкіх зусім бязлюдных могілках у раёне Дарагамілава.

Грак высадзіў Маргарыту, якая нічога не пыталася, з яе швабрай каля аднаго надмагілля, завёў машыну і накіраваў яе проста ў яр за магілкамі. Туды яна з грукатам абрынулася і там загінула. Грак пачціва казырнуў, сеў верхам на кола і паляцеў.

Адразу з-за аднаго помніка ўзнік чорны плашч. Ікол блiснуў пры поўні, і Маргарыта пазнала Азазелу. Той паказаў ёй сесці на швабру, сам ускочыў на доўгую рапіру, абое ўзвіліся ўгору нікім не заўважаныя і праз некалькі секунд высадзіліся ля дома № 302-біс на Садовай вуліцы.

Калі са швабраю і рапіраю пад пахамі яны заходзілі ў падваротню, Маргарыта заўважыла чалавека ў шапачцы і высокіх ботах, які нечага чакаў. Як ні лёгка ступалі Азазела і Маргарыта, адзінокі чалавек пачуў іх і трывожна скалануўся, бо не разумеў, адкуль чуваць крокі.

Другога, надзіва падобнага на першага чалавека, сустрэлі ля шостага пад'езда. І зноў паўтарылася тая самая гісторыя. Крокі... Чалавек неспакойна павярнуўся і нахмурыўся. Калі дзверы адчыніліся, а потым зачыніліся, кінуўся следам, зазірнуў у пад'езд, але, вядома, нічога не ўгледзеў.

Трэці, дакладная копія другога, а значыць, і першага, дзяжурыў на пляцоўцы трэцяга паверха. Ён курыў моцныя папяросы, і Маргарыта закашлялася, калі праходзіла побач. Курэц, быццам яго шылам кальнулі, усхапіўся з лаўкі, на якой сядзеў, пачаў трывожна азірацца, падышоў да парэнчаў, зірнуў уніз. Маргарыта са сваім праважатым ужо была ля кватэры № 50. Не званілі, дзверы Азазела адамкнуў сваім ключом.

Першае, што ўразіла Маргарыту, гэта цемра, у якую яны трапілі. Было цёмна, як у сутарэнні, і яна міжволі ўхапілася за плашч Азазелы, бо баялася спатыкнуцца. Але тут далёка ўверсе замільгаў агеньчык нейкае лямпачкі і пачаў набліжацца. Азазела на хаду забраў у Маргарыты з-пад пахі швабру, і тая нячутна знікла ў цемры. Яны пачалі ўзыходзіць па нейкіх шырокіх прыступках, і Маргарыце здалося, што ім не будзе канца. Яе дзівіла, як у пярэднім пакоі звычайнае маскоўскае кватэры можа размясціцца гэтая незвычайная, нябачная, затое добра адчувальная, бясконцая лесвіца. Але пад'ём канчаўся, і Маргарыта зразумела, што яна стаіць на краі пляцоўкі. Агеньчык наблізіўся ўшчыльную, і Маргарыта ўбачыла асветлены твар мужчыны, рослага і чорнага, які і трымаў у руцэ лампаду. Тыя, хто меў няшчасце за гэтыя дні трапіцца яму на дарозе, нават пры гэтым слабенькім святле лампадкі, вядома, адразу б пазнаў яго. Гэта быў Кароўеў, ён таксама і Фагот.

Праўда, знешне Кароўеў вельмі змяніўся. Мігатлівы агеньчык адлюстроўваўся не ў трэснутым пенснэ, якое даўно трэба было выкінуць на сметнік, а ў манаклі, хаця таксама трэснутым. Вусікі на нахабным твары былі падкручаны і намазаны, а чарната тлумачылася проста — ён быў у фрачным убранні. Бялела толькі грудзіна.

Маг, рэгент, чараўнік, перакладчык ці д'ябал яго ведае хто на самай справе — адным словам, Кароўеў — пакланіўся, шырока правёў у паветры перад сабою лампадкаю — запрасіў Маргарыту ісці следам. Азазела знік.

«Надзіва незвычайны вечар,— думала Маргарыта,— ■ ўсякага чакала, толькі не гэтага! Электрычнасць у іх патухла, ці што? Але самае дзіўнае — памеры гэтага памяшкання. Як усё гэта можа ўціснуцца ў маскоўскую кватэру? Ды ніяк не можа!»

Як ні слабенька свяціла кароўеўская лампадка, Маргарыта зразумела, што знаходзіцца ў зусім неабдымнай зале, ды яшчэ з каланадай, цёмнаю і, на першае ўражанне, бясконцаю. Каля нейкае канапкі Кароўеў спыніўся, паставіў

лампадку на нейкую тумбу, жэстам прапанаваў Маргарыце сесці, а сам размясціўся побач у даволі маляўнічай позе — абапёрся локцем на тумбу.

— Дазвольце мне пазнаёміцца з вамі,— зарыпеў Кароўеў,— Кароўеў. Вы здзіўлены, што няма святла? Эканомія, вы гэтак падумалі? Ні-ні-ні! Няхай першы, які трапіцца, кат, нават адзін з тых, якія сёння, крыху пазней, будуць за гонар мець пацалаваць ваша калена, на гэтай жа тумбе адсячэ мне галаву, калі гэта так! Проста месір не любіць электрычнае святло, і мы ўключым яго ў самы апошні момант. І тады, паверце, недахопу ў ім не будзе. Мабыць, нават добра было б, каб яго было меней.

Кароўеў спадабаўся Маргарыце, траскучая яго балбатня супакойвала.

— Не,— сказала Маргарыта,— болей за ўсё мяне здзіўляе, дзе ўсё гэта размяшчаецца.— Яна павяла рукою, падкрэсліла гэтым неабдымнасць залы.

Кароўеў соладка ўхмыльнуўся, і цені варухнуліся ў складках каля яго носа.

— Гэта самае простае з усяго! — адказаў ён.— Тым, хто добра знаёмы з пятым вымярэннем, невялікі клопат рассунуць памяшканне да жаданых памераў. Скажу нават болей, паважаная валадарка, да чортведама якіх абсягаў! Я, дарэчы,— працягваў балбатаць Кароўеў,— ведаў людзей, якія не мелі ніякага ўяўлення пра пятае вымярэнне ды наогул нічога не петрылі, але вытваралі такія дзівосы ў сэнсе павелічэння свайго памяшкання. Вось, напрыклад, адзін гараджанін, мне расказвалі, атрымаў трохпакаёвую кватэру на Земляным вале, без усякага пятага вымярэння і іншых рэчываў, ад якіх шарыкі за ролікі чапляюцца, імгненна ператварыў яе ў чатырохпакаёвую — перагарадзіў адзін пакой папалам.

Потым гэтую ён памяняў на дзве асобныя кватэры ў розных раёнах Масквы — адну трохпакаёвую, другую двухпакаёвую. Цяпер пакояў стала пяць. Трохпакаёвую ён размяняў на дзве двухпакаёвыя, і займеў шэсць пакояў, праўда, раскіданых па ўсёй Маскве. Ён збіраўся ўжо зрабіць апошні і самы бліскучы кульбіт, даў аб'яву ў газеце, што мяняе шэсць пакояў у розных кутках Масквы на адну пяціпакаёвую кватэру на Земляным вале, але яго дзейнасць на гэтым спынілася, вядома, не па яго волі. Цяпер ён, можа, і мае які-небудзь пакойчык, але, запэўніваю вас, што гэта ўжо не ў Маскве. Вось які пранырa, а вы гаворыце пра пятае вымярэнне!

Маргарыта, хаця і не гаварыла ні пра якое пятае вымярэнне, а гаварыў пра яго сам Кароўеў, весела засмяялася з расказу аб прыгодах кватэрнага пралазы. Кароўеў працягваў:

— Але цяпер пра галоўнае, Маргарыта Мікалаеўна. Вы жанчына разумная і, вядома, здагадаліся, хто наш гаспадар.

Маргарыціна сэрца здрыганулася, і яна кіўнула галавою.

— Ну, вось, вось,— гаварыў Кароўеў,— мы ворагі ўсякіх розных таямніц і намёкаў. Штогод месір дае адзін баль. Называецца ён вясновым балем поўні, альбо балем ста каралёў. Народу!..— Тут Кароўеў ухапіўся за шчаку, нібы ў яго забалеў зуб.— Але ж вы самі пераканаецеся. Дык вось: месір халасцяк, вы гэта таксама разумееце. Але патрэбна гаспадыня балю,— Кароўеў развёў рукамі,— згадзіцеся, нам без гаспадыні...

Маргарыта слухала Кароўева, старалася не вымавіць і слова, пад сэрцам у яе было холадна, спадзяванне на шчасце туманіла галаву.

— Склалася традыцыя,— працягваў далей Кароўеў,— гаспадыню балю павінны зваць Маргарытаю, гэта першае, а другое, яна павінна быць мясцовая. А мы, як бачыце, падарожнічаем і ў гэты час знаходзімся ў Маскве. Сто дваццаць адну Маргарыту знайшлі мы ў Маскве, і, паверце,— тут Кароўеў у адчаі ляпнуў сябе па ляжцы,— ніводная не падыходзіць! І, вядома, шчаслівы лёс...

Кароўеў красамоўна ўхмыльнуўся, нахіліўся, і зноў пахаладзела Маргарыціна сэрца.

— Карацей! — крыкнуў Кароўеў.— Зусім коратка: вы не адмовіцеся ўзяць гэты абавязак на сябе?

— Не адмоўлюся,— цвёрда адказала Маргарыта.

— Вядома! — сказаў Кароўеў, падняў лампадку і дадаў: — Прашу за мной.

Яны пайшлі між калон і нарэшце выбраліся ў нейкую другую залу, у якой чамусьці моцна пахла лімонамі, дзе чуваць былі нейкія шолахі і дзе штосьці зачапіла Маргарыту за галаву.

— Не палохайцеся,— соладка супакоіў Кароўеў і ўзяў Маргарыту пад руку,— гэта бальныя выдумкі Бегемота, нішто іншае. І наогул, я адважуся вам параіць, Маргарыта Мікалаеўна, нікога і нічога не баяцца. Гэта неразумна. Баль будзе раскошны, не буду ўтойваць. Мы пабачым тых, чыя ўлада ў свой час была надзвычай вялікая. Але, чэсна, калі падумаеш пра тое, як мікраскапічна маленькія іх

магчымасці ў параўнанні з магчымасцямі таго, у чыёй свіце я маю гонар быць, робіцца смешна і нават, я сказаў бы, сумна... Ды вы і самі каралеўскага роду.

— Чаму каралеўскага роду? — спалохана шапнула Маргарыта і прытулілася да Кароўева.

— Ах, каралева,— гулліва трашчаў Кароўеў,— пытанні падобныя — самыя складаныя ў свеце! І каб распытацца ў прабабак, асабліва тых, каго за ціхоняў мелі, дзіўныя таямніцы адкрыліся б, Маргарыта Мікалаеўна. Я не вазьму грэх на душу, калі скажу, што гэта як калодаператасаваных карт. Ёсць рэчы, у якіх зусім не дзейнічаюць саслоўныя перашкоды, ні нават межы між дзяржавамі. Намякну: адна з французскіх каралеў, якая жыла ў шаснаццатым стагоддзі, трэба думаць, вельмі здзівілася б, калі б хто-небудзь сказаў ёй, што яе красуню прапрапрапраўнучку праз мноства гадоў я буду весці пад руку ў Маскве па вялікіх бальных залах. Але мы прыйшлі!

Тут Кароўеў патушыў сваю лампадку, і яна знікла ў яго з рук, і Маргарыта ўбачыла на падлозе перад сабою паласку святла пад нейкімі цёмнымі дзвярыма. У гэтыя дзверы Кароўеў ціха грукнуў. Тут Маргарыта гэтак захвалявалася, што ў яе ажно кляцнулі зубы і па спіне прайшоў мароз.

Дзверы адчыніліся. Пакой быў зусім невялікі. Маргарыта ўбачыла шырокі дубовы ложак са скамечанымі і бруднымі прасцінамі і падушкамі. Перад ложкам стаяў дубовы, на разных ножках стол, на ім свечнік з гнёздамі ў выглядзе кіпцюрыстых птушыных лап. У гэтых сямі лапах гарэлі тоўстыя свечкі. Акрамя гэтага, на століку была вялікая шахматная дошка з надзвычай па-майстэрску зробленымі фігуркамі. На маленькім вытаптаным дыванку стаяў маленькі нізенькі ўслончык. Быў яшчэ адзін стол з нейкаю залатою чашаю і другім свечнікам, галіны якога былі зроблены ў выглядзе змей. У пакоі пахла сераю і смалою. Цені ад свяцільнікаў перакрыжоўваліся на падлозе.

Сярод прысутных Маргарыта адразу пазнала Азазелу, ужо апранутага ў фрак. Ён стаяў ля спінкі ложка. Гэты Азазела нічым не нагадваў таго разбойніка, у выглядзе якога ён аб'явіўся да Маргарыты ў Аляксандраўскім садзе, і пакланіўся ён Маргарыце надзвычай далікатна.

Голая ведзьма, тая самая Гела, што гэтак збянтэжыла самавітага буфетчыка з Вар'етэ, і тая самая, якую спалохаў певень у ноч знакамітага сеанса, сядзела на падлозе на дыванку пры ложку, памешвала нешта ў каструлі, з якой валіла серная пара.

Акрамя іх, быў яшчэ у пакоі вялізны каціла, які сядзеў на высокай табурэтцы перад шахматным столікам і трымаў у правай лапе шахматнага каня.

Гела прыўстала і пакланілася Маргарыце. Тое самае зрабіў і кот, саскочыўшы з табурэткі. Ён шаркануў праваю лапаю, згубіў каня і палез па яго пад ложак.

Маргарыта замірала ад страху і разгледзела ўсё гэта ў падманлівых ценях ад свечак збольшага. Позірк яе прыцягваў ложак, на якім і сядзеў той, каго яшчэ зусім нядаўна бедны Іван на Патрыярхавых пераконваў у тым, што д'ябла не існуе. Гэты неіснуючы і сядзеў зараз на ложку.

Два вокі ўперліся ў Маргарыцін твар. Правае — з залатою іскаркаю на дне, якое прасвідроўвала любога да самага дна душы, і левае — парожняе і чорнае, падобнае на вузкае іголкавае вушка, як уваход у бяздонны калодзеж цемры і ценяў. Воландаў твар быў скрыўлены, правы куток рота аб'ехаў уніз, на высокім аблыселым ілбе прарэзаліся глыбокія маршчыны, паралельныя вострым бровам. Скуру на Воландавым твары нібы навек спёк загар.

Воланд шырока раскінуўся на ложку, быў ён у адной доўгай начной сарочцы, бруднай і залапленай на левым плячы. Адну голую нагу ён падклаў пад сябе, а другую выцягнуў на ўслончык. Калена гэтай нагі і націрала нейкаю дымнаю маззю Гела.

Яшчэ разгледзела Маргарыта на раскрытай безвалосай грудзіне Воланда па-майстэрску выразанага з чорнага каменя жука на залатым ланцужку з нейкім пісаннем на спінцы. Побач з Воландам на ложку, на цяжкім пастаменце, стаяў дзіўны, быццам жывы і асветлены з аднаго боку сонцам, глобус.

Некалькі секунд панавала маўчанне. «Ён вывучае мяне»,— падумала Маргарыта і намаганнем прымусіла стрымаць дрыжыкі ў нагах.

Нарэшце Воланд загаварыў усмешліва, і яго іскрыстае вока нібыта засвяцілася.

— Вітаю вас, каралева, і прашу прабачыць мне за мой хатні выгляд.

Воландаў голас быў гэтакі глухі, што асобныя гукі чуліся з адцяжкаю і хрыпам.

Воланд узяў з ложка доўгую шпагу, нахіліўся, паварушыў ёй пад ложкам і сказаў:

— Вылазь! Гульня адмяняецца. Госця тут.

— Нізавошта,— трывожна свіснуў, як суфлёр, над Маргарыцiным вухам Кароўеў.

— Нізавошта...— пачала Маргарыта.

— Месір...— дыхнуў Кароўеў у вуха.

— Нізавошта, месір,— саўладала сама з сабою Маргарыта, усміхнулася і дадала: — Я прашу вас не перапыняць гульню. Я думаю, што шахматныя часопісы заплацілі б добрыя грошы, каб маглі надрукаваць гэтую партыю.

Азазела ціха і адабральна закрахтаў, а Воланд уважліва паглядзеў на Маргарыту і сказаў нібы сам сабе:

— Праўда Кароўева. Гэтак замыславата тасуецца калода! Спадчынна!

Ён працягнуў руку і паклікаў да сябе Маргарыту. Тая падышла, але падлогі пад босымі нагамі не адчувала. Воланд паклаў сваю цяжкую, каменную руку, якая была гарачая, як агонь, на Маргарыціна плячо, памкнуў яе да сябе і пасадзіў на ложак побач.

— Ну, калі вы такая добрая і спагадлівая,— прамовіў ён,— [redacted] я іншага ад вас і не чакаў, тады будзем па-простаму.— Ён зноў схіліўся з ложка і крыкнуў: — Доўга будзе гэты балаган пад ложкам? Вылазь, пракляты Ганс!

— Каня не магу знайсці,— сцішана і фальшыва адазваўся з-пад ложка кот,— некуды паляцеў, а замест яго нейкая жаба трапляецца.

— Ці не думаеш ты, што на кірмашы знаходзішся? — прытварыўся, што злуецца, Воланд.— Ніякае жабы няма пад ложкам! Гэтыя прымітыўныя фокусы пакінь для Вар'етэ. Калі ты зараз не з'явішся, мы будзем лічыць, што здаўся, пракляты дэзерцір.

— Нізашто, месір! — зароў кот і ў адну секунду вынырнуў з-пад ложка з канём у лапе.

— Знаёмцеся...— пачаў Воланд і сам сябе спыніў: — Не, глядзець не магу на гэтае пудзіла. Паглядзіце, у што ён сябеператварыў пад ложкам!

Выкачаны ў пыле кот тым часам стаяў на задніх лапах і кланяўся Маргарыце. Цяпер на грудзіне ў ката быў белы фрачны гальштук-банцік, а на раменьчыку перламутравы дамскі бінокль. Акрамя таго, вусы ў ката былі пазалочаныя.

— Ну што гэта такое! — усклікнуў Воланд.— Нашто ты пазалаціў вусы? І нашто табе патрэбен гальштук, калі ты без штаноў?

— Штаны кату не патрэбны, месір,— з адчуваннем сваёй годнасці адказаў кот.— Ці не загадаеце вы мне, месір, абуць і боты? Кот у ботах бывае толькі ў казках, месір. Але ці бачылі вы хоць каго-небудзь на балі без гальштука, месір? Я не збіраюся спакушаць лёс і не хачу, каб

мне далі ў каршэнь. Кожны ўпрыгожвае сябе як ўмее. Лічыце, што сказанае датычыць і бінокля, месір!

— Але вусы?..

— Не разумею,— суха запярэчыў кот,— чаму, калі галіліся сёння, Азазела і Кароўеў пасыпалі сябе белаю пудраю, а чым яна лепшая за залатую? Я пафарбаваў вусы, вось і ўсё! Іншая справа, каб я пагаліўся! Паголены кот гэта сапраўды чортведама што, я згодзен. А наогул,— тут голас у ката затрымцеў пакрыўджана,— я бачу, што вы да мяне прыдзіраецеся і што пытанне ставіцца, ці быць мне наогул на балі? Што вы мне адкажаце на гэта, месір?

І кот гэтак надзьмуўся ад крыўды, што здавалася — вось-вось лопне.

— Ай, абармот, абармот,— Воландківаў галавой і гаварыў,— кожны раз, калі прайграе, ён пачынае загаворваць зубы, як самы апошні падманшчык на мосце. Сядай зараз жа і перастань балбатаць глупства!

— Я сяду,— адказаў кот і сеў,— але запярэчу наконт сказанага. Гаворка мая зусім не балбатня, як вы сказалі ў прысутнасці пані, а ланцуг прадуманых сілагізмаў. Гэта маглі б па-сапраўднаму ацаніць такія знатакі, як Сэкс Эмпірык, Марцыян Капела, а не выключана, што і сам Арыстоцель...

— Шах каралю,— сказаў Воланд.

— Калі ласка, калі ласка,— сказаў кот і пачаў праз бінокль глядзець на дошку.

— Такім чынам,— звярнуўся да Маргарыты Воланд,— рэкамендую вам, донна, маю світу. Гэты прытварака — кот Бегемот. З Кароўевым і Азазелам вы ўжо пазнаёміліся, знаёмлю з маёй служанкаю Гелаю. Увішная, змысная, і няма такое паслугі, якую яна не змагла б аказаць.

Прыгажуня Гела ўсміхнулася, зірнула на Маргарыту зялёнымі вачыма, не пераставала чэрпаць прыгаршчамі мазь і накладваць яе на калена.

— Ну вось і ўсё,— скончыў Воланд і зморшчыўся, калі Гела залішне моцна сціснула яго калена,— гурт, як бачыце, невялікі, розны і просты.— Ён змоўк і пачаў круціць перад сабой свой глобус, зроблены гэтак па-майстэрску, што сінія акіяны на ім рухаліся, а шапка на полюсе ляжала як сапраўдная, ледзяная і снежная.

На дошцы тым часам адбывалася мітусня. Зусім разгублены кароль у белай мантыі таптаўся на клетцы і ў адчаі падымаў рукі. Тры белыя пешкі-ландскнехты з алебардамі разгублена глядзелі на афіцэра, які размахваў шпагаю і

паказваў наперад, дзе ў сумежных клетках, белай і чорнай, былі відаць два коннікі Воланда на гарачых конях, якія білі капытамі.

Маргарыту надзвычай зацікавіла і ўразіла, што шахматныя фігуркі былі жывыя.

Кот апусціў бінокль, ціхенька падапхнуў свайго караля ў плечы. Той адчайна захіліў твар рукамі.

— Цяжкавата, дарагі Бегемот,— ціха сказаў Кароўеў з'едлівым голасам.

— Становішча сур'ёзнае, але не безнадзейнае,— адазваўся Бегемот,— нават болей: я цалкам перакананы ў перамозе. Трэба добра прааналізаваць становішча.

Гэты аналіз ён пачаў праводзіць крыху дзіўным метадам, пачаў крыўляцца і нешта паказваць свайму каралю.

— Нічога не дапамагае,— заўважыў Кароўеў.

— Ай! — ускрыкнуў Бегемот.— Папугаі, як я і прарочыў!

Сапраўды, недзе здалёк пачуўся шум шматлікіх крылаў. Кароўеў і Азазела зніклі, Бегемот яшчэ мацней заміргаў. Белы кароль нарэшце здагадаўся, чаго ад яго хочуць. Ён раптам скінуў з сябе мантыю, кінуў яе на клетку і ўцёк з дошкі. Афіцэр накінуў на сябе пакінутае каралеўскае адзенне і заняў каралеўскае месца.

Кароўеў і Азазела вярнуліся.

— Падман, як і заўсёды,— бурчаў Азазела і скоса глядзеў на Бегемота.

— Мне здалося,— адказаў кот.

— Ну што ж, доўга гэта будзе працягвацца? — спытаўся Воланд.— Шах каралю.

— Я, мабыць, недачуў, мой мэтр,— адказаў кот,— шаха каралю няма і быць не можа.

— Паўтараю, шах каралю.

— Месір,— трывожна-фальшывым голасам адазваўся кот,— вы ператаліліся: няма шаха каралю!

— Кароль на клетцы г-два,— сказаў Воланд і не зірнуў на дошку.

— Месір, я ў адчаі! — завыў кот, на мордзе ў яго нібы адбіўся жах.— Але на гэтай клетцы няма караля!

— Што такое? — недаўменна спытаўся Воланд і пачаў прыглядацца да дошкі, дзе афіцэр, які стаяў на каралеўскай клетцы, адварочваўся і захіляўся рукою.

— Ах ты нягоднік! — задумліва сказаў Воланд.

— Месір! Я зноў звяртаюся да логікі,— загаварыў кот і прыціснуў лапу да грудзей.— Калі партнёр аб'яўляе

шах каралю, а караля ўжо і ў паміне няма на дошцы, шах прызнаецца несапраўдным.

— Ты здаешся ці не? — страшным голасам крыкнуў Воланд.

— Дазвольце падумаць,— пакорліва адказаў кот, абапёрся локцямі на стол, заткнуў вушы лапамі і пачаў думаць. Думаў ён доўга і нарэшце сказаў: — Здаюся.

— Забіць упартае стварэнне,— шапнуў Азазела.

— Ага, здаюся,— сказаў кот,— але здаюся выключна таму, што не магу гуляць у атмасферы цкавання! — Ён устаў, і шахматныя фігуркі самі палезлі ў скрынку.

— Гела, час,— сказаў Воланд, і Гела знікла з пакоя.— Нага разбалелася, а тут гэты баль...— працягваў Воланд.

— Дазвольце мне,— ціха папрасіла Маргарыта.

Воланд уважліва паглядзеў на яе і падставіў калена.

Гарачая, быццам лава, жыжка апякала рукі, але Маргарыта старалася не моршчыцца, расцірала ёю калена.

— Світа пераконвае, што гэта рэўматызм,— гаварыў Воланд і не спускаў позірку з Маргарыты,— але ў мяне вялікае падазрэнне, што гэты боль мне пакінула на памяць чароўная ведзьма, з якой я блізка пазнаёміўся ў тысяча пяцьсот семдзесят першым годзе на Брокенскіх гарах, на Чортавай Кафедры.

— Ці праўда гэта! — сказала Маргарыта.

— Глупства! Гадоў праз трыста гэта пройдзе. Мне параілі мноства лекаў, але я карыстаюся бабулінымі рэцэптамі. Дзіўныя травы пакінула мне ў спадчыну паганая старая бабка, мая бабка! Дарэчы, а вас нішто не трывожыць? Магчыма, у вас ёсць нейкая бяда, якая мучыць душу, смутак?

— Не, месір, нічога гэтага няма,— адказала разумная Маргарыта,— а цяпер, калі я ў вас, я адчуваю сябе вельмі добра.

— Спадчыннасць — вялікая справа,— невядома з-за чаго весела сказаў Воланд і дадаў: — Бачу я, што вас зацікавіў мой глобус.

— Праўда, я ніколі такога не бачыла!

— Добрая рэч. Я, шчыра, не люблю апошніх паведамленняў па радыё. Паведамляюць іх заўсёды нейкія дзяўчаткі, якія невыразна прамаўляюць назвы мясцін. Акрамя таго, кожная трэцяя з іх не ўмее як след гаварыць, быццам знарок гэтакіх падбіраюць. Мой глобус намнога зручней, асабліва калі ўлічыць, што падзеі мне трэба ведаць дакладна. Вось, напрыклад, бачыце гэты кавалак зямлі, бок якому

абмывае акіян? Бачыце, вось ён наліваецца агнём. Там пачалася вайна. Калі вы прыгледзіцеся лепш, вы ўбачыце дэталі.

Маргарыта нахілілася да глобуса і ўбачыла, што квадрацік зямлі павялічыўся, шматколерна расфарбаваўся і ператварыўся ў рэльефную карту. А потым яна ўбачыла і стужачку ракі, і нейкае паселішча ля яе. Хатка, якая была з гарошынку, разраслася і стала карабком запалак. Раптоўна дах гэтага дома ўзляцеў угору ў клубах чорнага дыму, а сцены ўпалі, і ад двухпавярховае каробачкі нічога не засталося, акрамя дымнай кучкі. Яшчэ ўгледзела Маргарыта зблізку маленькую жаночую постаць, якая ляжала на зямлі, а каля яе раскінула ручкі маленькае дзіця.

— Вось і ўсё,— з усмешкаю сказаў Воланд,— ён не ўспеў награшыць. Работа Абадоны бездакорная.

— Я не хацела б быць з тымі, супроць каго Абадона,— сказала Маргарыта,— з кім ён?

— Чым болей я гавару з вамі,— прыязна адазваўся Воланд,— усё больш пераконваюся, што вы разумная. Я супакою вас. Ён надзіва аб'ектыўны і роўна спачувае абодвум супернікам. Урэшце, і вынікі для абодвух бакоў заўсёды аднолькавыя. Абадона! — нямоцна паклікаў Воланд, і адразу ж са сцяны з'явілася постаць нейкага худога чалавека ў цёмных акулярах. Гэтыя акуляры зрабілі на Маргарыту моцнае ўражанне, яна ціхенька ўскрыкнула і ўткнулася тварам у Воландаву нагу.— Ну не трэба! — ускрыкнуў Воланд.— Якія нервозныя сучасныя людзі! — Ён гэтак шлёпнуў Маргарыту па спіне, што звон пайшоў па целе.— Вы ж бачыце, што ён у акулярах. Акрамя ўсяго, не было выпадку, ды і не будзе, каб Абадона з'явіўся перад кім-небудзь раней часу. Ды, нарэшце, я сам тут. Вы ў мяне ў гасцях! Я проста хацеў вам яго паказаць.

Абадона стаяў нерухома.

— А можа ён зняць акуляры хоць на адну секундачку? — спыталася Маргарыта з-за цікаўнасці, прыціскаючыся да Воланда і ўздрыгваючы.

— А вось гэта нельга,— сур'ёзна адказаў Воланд, махнуў рукою, і той знік.— Што ты хочаш сказаць, Азазела?

— Месір,— адказаў Азазела,— дазвольце мне сказаць. У нас двое пастаронніх: прыгажуня, якая плача і просіць, каб яе пакінулі пры гаспадыні, акрамя таго, прашу прабачэння, яе япрук.

— Дзіўна паводзяць сябе прыгажуні,— адзначыў Воланд.

— Гэта Наташа, Наташа! — усклікнула Маргарыта.

— Ну, пакінь пры пані. А япрука — кухарам.

— Закалоць? — спалохана ўскрыкнула Маргарыта.— Злітуйцеся, месір, гэта Мікалай Іванавіч, ніжні жылец. Тут непаразуменне, яна ўзяла і мазанула яго крэмам...

— Даруйце,— сказаў Воланд,— якога д'ябла яго калоць будуць? Няхай пасядзіць разам з кухарамі, вось і ўсё! Згадзіцеся, што не магу я ўпусціць яго ў бальную залу?

— Ды ўжо ж...— дадаў Азазела і далажыў: — Поўнач набліжаецца, месір.

— А, ну добра,— Воланд звярнуўся да Маргарыты: — Тады прашу вас... Зараней удзячны вам. Не бянтэжцеся і нічога не бойцеся. Нічога не піце, акрамя вады, а то разамлееце, і вам будзе цяжка. Пара!

Маргарыта ўстала з дыванка, і тады ў дзвярах паказаўся Кароўеў.

## Раздзел 23

### ВЯЛІКІ САТАНІНСКІ БАЛЬ

Поўнач набліжалася, трэба было спяшацца. Маргарыта бачыла ўсё, што адбывалася навокал, як у тумане. Запомніліся свечкі і нейкі рознакаляровы басейн. Калі Маргарыта стала на дно гэтага басейна, Гела з дапамогаю Наташы абліла яе нейкаю гарачаю, густою і чырвонаю вадкасцю. Маргарыта адчула салёны прысмак на губах і здагадалася, што мыюць крывёй. Крывавая мантыя змянілася другою — празрыстаю, густою, ружоваю, і Маргарыціна галава закружылася ад ружавага алею. Потым Маргарыту паклалі на крыштальны ложак і да бляску пачалі націраць нейкім зялёным лісцем. Тут уварваўся кот і пачаў дапамагаць. Ён сеў ля Маргарыціных ступакоў і пачаў іх націраць з такім выглядам, быццам ваксаваў боты на вуліцы.

Маргарыта не памятае, хто пашыў ёй туфлі з ружавых пялёсткаў і як гэтыя туфлі самі зашпіліліся на залатыя спражкі. Нейкая сіла падняла Маргарыту і паставіла перад люстрам, і ў валасах у яе заззяў алмазны каралеўскі вянок. Аднекуль з'явіўся Кароўеў і павесіў на грудзі Маргарыце выяву чорнага пудзеля на цяжкім ланцугу. Гэтае ўпрыгожанне было цяжкім для каралевы. Ланцуг пачаў муляць шыю, хацелася сагнуцца ад цяжару. Але штосьці прыйшло і акрамя нязручнасці ад чорнага пудзеля і ланцуга. Гэта тая павага, з якой пачалі ставіцца да яе Кароўеў і Бегемот.

— Нічога, нічога, нічога! — мармытаў Кароўеў у дзвярах пакоя з басейнам.— Нічога не зробіш, трэба, трэба, трэба... Дазвольце, каралева, даць вам апошнюю параду. Сярод гасцей будуць розныя, вой, вельмі розныя, але нікога каралева Марго, нікога не павінна выдзяляць! Калі нават хто і не спадабаецца... я ўпэўнены, што па вашым твары ні пра што нельга будзе здагадацца... Нават і думаць пра такое нельга! Заўважаць, заўважаць імгненна! Трэба палюбіць іх, каралева, палюбіць! Вельмі шчодра будзе за гэта ўзнагароджана каралева балю. І яшчэ: не прамінуць нікога! Хоць усмешку падарыць, калі не хопіць часу сказаць слова, хаця б маленькі паварот галавы. Усё, што хочаце, толькі не няўвага. Бо яны ад гэтага зачахнуць...

Маргарыта ў суправаджэнні Кароўева і Бегемота ступіла з басейна ў суцэльную цемру.

— Я, я,— шаптаў кот,— я падам знак!

— Давай! — адказаў у цемры Кароўеў.

— Баль! — пранізліва віскнуў кот, і адразу ж Маргарыта ўскрыкнула і на некалькі секунд заплюшчыла вочы. Баль абрынуўся на яе святлом і адначасова — гукамі і пахамі. Кароўеў нібы панёс Маргарыту пад руку, і яна ўбачыла сябе ў трапічным лесе. Чырванагрудыя зялёнахвостыя папугаі чапляліся за ліяны, скакалі па іх і глушылі сваім крыкам: «Я ў захапленні!» Але лес хутка скончыўся, і духата, як у лазні, змянілася прахалодаю бальнае залы з калонамі з нейкага жаўтлявага іскрыстага каменю. Гэтая зала, як і лес, была зусім пустая, і толькі ля калон нерухома стаялі голыя негры са срэбнымі павязкамі на галовах. Твары іх зрабіліся чорна-рудымі ад хвалявання, калі ў залу ўляцела Маргарыта са сваёй світай, у якой аднекуль узяўся Азазела. Тут Кароўеў выпусціў Маргарыціну руку і шапнуў:

— Прама на цюльпаны!

Невысокая сцяна з белых цюльпанаў вырасла перад Маргарытай, а за ёй яна ўбачыла шматлікія агеньчыкі пад каўпачкамі і перад імі белыя грудзіны і чорныя плечы фрачнікаў. Тады Маргарыта зразумела, адкуль чуліся бальныя гукі. На яе абрынуўся гук труб, а ўзлёт скрыпак, які вырваўся з-пад яго, быццам ашпарыў яе цела крывёй. Аркестр з паўсотні чалавек іграў паланез.

Чалавек у фраку, які ўзвышаўся перад аркестрам, калі ўбачыў Маргарыту, пабялеў, заўсміхаўся і раптам узмахам рукі падняў увесь аркестр. Аркестр ні на імгненне не перапыніў музыку, стоячы, абмываў Маргарыту гукамі. Чалавек

над аркестрам адвярнуўся ад яго, пакланіўся нізка, шырока раскінуў рукі ў бакі, Маргарыта ўсміхнулася і памахала яму рукой.

— Не, мала, мала,— зашаптаў Кароўеў,— ён не будзе спаць цэлую ноч. Крыкніце: «Вітаю вас, кароль вальсаў!»

Маргарыта крыкнула і здзівілася, што голас яе аб'ёмны, як звон, перамог аркестр. Чалавек здрыгануўся ад шчасця і левую руку прытуліў да грудзей, а правай працягваў махаць аркестру белым жэзлам.

— Мала, мала,— шаптаў Кароўеў,— гляньце налева, на першыя скрыпкі і кіўніце гэтак, каб кожны падумаў, што вы пазналі яго асабіста. Тут толькі сусветна вядомыя знакамітасці. Вось гэты, за першым пультам,— гэта Уетан. Вельмі добра. Цяпер — далей!

— Хто дырыжор? — спыталася Маргарыта, калі ўжо адлятала.

— Ёган Штраўс! — закрычаў кот.— І няхай мяне павесяць на ліяне ў трапічным лесе, калі хоць дзе-небудзь на балі іграў гэтакі аркестр! Я запрашаў яго! Заўважце, і ніводзін не захварэў і не адмовіўся.

У наступнай зале не было калон, замест іх сцены з чырвоных, ружовых, малочна-белых ружаў з аднаго боку, а з другога — сцяна японскіх махровых камелій. Між гэтых сцен ужо білі, шыпелі фантаны, і шампанскае кіпела бурбалкамі ў трох басейнах, адзін з якіх быў празрыста-фіялетавы, другі — рубінавы, трэці — крыштальны. Каля іх мітусіліся негры ў пунсовых павязках, срэбнымі чарпакамі напаўнялі з басейна пляскатыя чаны. У ружавай сцяне быў праём, і ў ім на эстрадзе кіпеў чалавек у чырвоным фраку з ластаўчыным хвастом. Перад ім нясцерпна грымеў джаз. Як толькі дырыжор угледзеў Маргарыту, ён сагнуўся перад ёй гэтак, што рукавы дасталі да падлогі, потым разагнаўся і пранізліва закрычаў:

— Алілуя!

Ён ляпнуў сябе па калене, потым накрыж па другім, вырваў з рук у крайняга музыканта талерку і ўдарыў ёй па калоне.

Маргарыта ўжо адлятала, але ўгледзела, што віртуоз-джазіст змагаецца з паланезам, які дзьмуў Маргарыце ў спіну, б'е па галовах сваіх джазбандыстаў талеркай, і тыя прысядаюць з камічным жахам.

Нарэшце вылецелі на пляцоўку, дзе, як зразумела Маргарыта, яе ўпоцемку сустракаў Кароўеў з лампадкай. Цяпер на гэтай пляцоўцы вочы слеплі ад святла, якое лілося з

крышталёвых вінаградных гронак. Маргарыту паставілі на месца, і пад леваю рукою ў яе з'явілася нізкая аметыставая калонка.

— Руку можна будзе на яе пакласці, калі стане зусім цяжка,— шаптаў Кароўеў.

Якісьці чарнаскуры падкінуў пад ногі Маргарыце падушку з вышытым на ёй залатым пудзелем, і на яе, падпарадкоўваючыся нечыім рукам, яна паставіла сагнутую ў калені правую нагу.

Маргарыта паспрабавала агледзецца. Кароўеў і Азазела стаялі побач, як на парадзе. Побач з Азазелам — яшчэ трое маладых, якія чымсьці крыху нагадвалі Маргарыце Абадону. У плечы павявала халадком. Маргарыта азірнулася і ўгледзела, што з мармуровай сцяны ззаду ў яе фантанам струменіць шыпучае віно і сцякае ў ледзяны басейн. Ля левае нагі яна адчувала нешта цёплае і кудлатае. Гэта быў Бегемот.

Маргарыта была на вышыні, і з-пад яе ног уніз вяла грандыёзная лесвіца, пакрытая дыванам. Унізе, гэтак далёка, нібы Маргарыта глядзела ў перавернуты бінокль, яна бачыла агромністы швейцарскі пакой з неабдымным камінам, у халодную і чорную пашчу якога мог свабодна ўехаць пяцітонны грузавік. Швейцарскі пакой і лесвіца, да болю ў вачах залітыя святлом, былі пустыя. Трубы цяпер чуліся здалёку. Гэтак прастаялі нерухома цэлую хвіліну.

— Дзе ж госці? — спыталася Маргарыта ў Кароўева.

— Будуць, каралева, зараз будуць. І недахопу не будзе. Я, сапраўды, лепш бы дровы калоў, замест таго каб сустракаць іх тут на пляцоўцы.

— Што дровы калоць,— падхапіў гаваркі кот,— я згадзіўся б быць кандуктарам на трамваі, а горшае за гэту работу няма ў свеце!

— Усё павінна быць гатова загадзя, каралева,— тлумачыў Кароўеў і гарэў вокам праз сапсаваны манокль.— Няма нічога горшага, як тое, што госць прыедзе першы і не ведае, дзе падзецца, а законная мегера шэптам пілуе яго за тое, што яны прыехалі раней за ўсіх. Гэтакія балі трэба на памыйніцу выкідаць, каралева.

— Толькі на памыйніцу,— пацвердзіў кот.

— Да апоўначы не болей чым дзесяць секунд,— дадаў Кароўеў,— зараз пачнецца.

Гэтыя дзесяць секунд Маргарыце надзвычай здоўжыліся. Мабыць, яны і скончыліся, і нічога не адбылося. Але тут раптоўна штосьці грымнула ўнізе ў вялізным каміне, і з

яго выскачыла шыбеніца, на якой матляўся амаль зусім згнілы прах. Гэты прах сарваўся з вяроўкі, грукнуўся аб падлогу, і з яго выскачыў чорнавалосы прыгажун у фраку і ў лакіраваных туфлях. З каміна выбегла напалову гнілая труна, века адскочыла, і з труныываліўся другі прах. Прыгажун па-кавалерску падскочыў да яго, падаў руку, другі прах склаўся ў голую вяртлявую жанчыну ў чорных туфліках і з чорным пер'ем на галаве, і тады абое, мужчына і жанчына, заспяшаліся ўгору па лесвіцы.

— Першыя! — усклікнуў Кароўеў.— Пан Жак з жонкаю. Рэкамендую вам, каралева, адзін з найцікавейшых мужчын. Пераканаыны фальшывамачетчык, дзяржаўны здраднік, але даволі добры алхімік. Праславіўся тым,— шапнуў на вуха Маргарыце Кароўеў,— што атруціў каралеўскую каханку. А гэта не з кожным здараецца! Паглядзіце, які прыгажун!

Спалатнелая Маргарыта, разявіўшы рот, глядзела ўніз і бачыла, як знікаюць у нейкім бакавым ходзе швейцарскага пакоя труна і шыбеніца.

— Я ў захапленні! — закрычаў проста ў твар пану Жаку кот.

У гэты час з каміна паказаўся безгаловы, з адарванаю рукою шкілет, ударыўся аб зямлю і ператварыўся ў мужчыну ў фраку.

Жонка пана Жака ўжо станавілася перад Маргарытай на адно калена і, пабялелая ад хвалявання, цалавала Маргарыціна калена.

— Каралева...— мармытала жонка пана Жака.

— Каралева ў захапленні! — крычаў Кароўеў.

— Каралева...— ціха сказаў прыгажун, пан Жак.

— Мы ў захапленні,— завываў кот.

Маладыя людзі, памочнікі Азазелы, усміхаліся мёртвымі, але прыветлівымі ўсмешкамі і адцяснялі пана Жака з жонкаю ўбок, да чашаў з шампанскім, якія негры трымалі ў руках. Па лесвіцы ўзбягаў адзінокі фрачнік.

— Граф Роберт,— шаптаў Маргарыце Кароўеў,— як і раней, цікавы чалавек. Звярніце ўвагу, каралева, як смешна,— адваротны выпадак: гэты быў каханкам каралевы і атруціў сваю жонку.

— Мы рады, граф,— ускрыкнуў Бегемот.

З каміна адна за аднойываліліся і лопнулі тры труны, затым хтосьці ў чорнай мантыі, якога наступны выхадзец з чорнае камінная пашчы ўдарыў у спіну нажом. Унізе пачуўся здушаны крык. З каміна выбег амаль зусім згнілы

труп. Маргарыта заплюшчыла вочы, і нечая рука паднесла ёй пад нос флакон з белаю соллю. Маргарыце здалося, што гэта была Наташына рука. Лесвіца пачала запаўняцца. Цяпер ужо на кожнай прыступцы былі, падобныя здалёку адзін на аднаго, фрачнікі і голыя жанчыны з імі, якія адрозніваліся адна ад аднае толькі колерам пер'я на галовах і туфляў.

Да Маргарыты кульгава набліжалася ў адзіным драўляным боце на левай назе пані з апушчанымі, як у манашкі, вачыма, худзенькая, сціплая і чамусьці з зялёнаю павязкаю на шыі.

— Хто зялёная? — механічна спыталася Маргарыта.

— Самая чароўная і салідная пані,— шаптаў Кароўеў,— рэкамендую вам: спадарыня Тафана. Была надзвычай папулярнаю між маладых чароўных неапалітанак, а таксама жыхарак Палерма, і асабліва сярод тых, каму надаелі свае мужы. Бывае ж гэтак, каралева, што надакучае ўласны муж...

— Бывае,— глуха адказала Маргарыта, і ў той жа час усміхалася двум фрачнікам, якія адзін за адным схіліліся перад ёй і цалавалі калена і руку.

— Ну, вось,— умудраўся шаптаць Кароўеў Маргарыце і адначасова крычаць некаму: — Герцаг! Бакал шампанскага! Я ў захапленні!.. Дык вось, пані Тафана разумела гэтых бедных жанчын і прадавала ім нейкую ваду ў бутэлечках. Жонка вылівала гэтую ваду ў мужаву страву, той з'ядаў, дзякаваў за ласку і адчуваў сябе цудоўна. Праўда, праз некалькі гадзін яму пачынала страшэнна хацецца піць, потым ён клаўся ў ложак, а праз дзень прыгожая неапалітанка, якая накарміла свайго мужа, была вольная, як вясновы вецер.

— А што гэта ў яе на назе? — пыталася Маргарыта, нястомна працягваючы руку гасцям, якія перагналі кульгавую пані Тафану.— І нашто гэтая зелень на шыі? Шыя белая?

— Я ў захапленні, князь! — крычаў Кароўеў і шаптаў Маргарыце: — Цудоўная шыя, але з ёю непрыемнасць здарылася ў турме. На назе ў яе, каралева, іспанскі боцік, а стужка вось чаму: калі турэмшчыкі даведаліся, што амаль пяцьсот няўдала выбраных мужоў пакінулі Неапаль і Палерма назаўсёды, яны ў гарачцы задушылі пані Тафану ў турме.

— Якая я шчаслівая, чорная каралева, што маю гонар,— пакорліва шаптала Тафана і спрабавала стаць на калена.

Іспанскі боцік перашкаджаў ёй. Кароўеў і Бегемот дапамаглі Тафане.

— Я рада,— адказала ёй Маргарыта і тым часам падавала руку іншым.

Цяпер па лесвіцы знізу ўгору падымалася суцэльная плынь. Маргарыта ўжо не магла бачыць, што робіцца ў швейцарскім пакоі. Яна механічна падымала і апускала руку, аднолькава ўсміхалася гасцям. У паветры на пляцоўцы стаяў гул, з пакінутых Маргарытаю бальных залаў, як мора, чулася музыка.

— А вось гэта — нудная жанчына,— ужо не шаптаў, а гаварыў моцна Кароўеў, ведаў, што ў гуле галасоў яго не будзе чуваць,— любіць балі і ўсё марыць пажаліцца на сваю насоўку.

Маргарыта знайшла вачыма сярод плыні тую, на каго паказваў Кароўеў. Гэта была маладая жанчына гадоў дваццаці, надзвычай прыгожае паставы, але з нейкімі неспакойнымі і надакучлівымі вачыма.

— Якую насоўку? — спыталася Маргарыта.

— Да яе камерыстка прыстаўлена,— растлумачыў Кароўеў,— і трыццаць гадоў кладзе ёй на ноч на столік насоўку. Як толькі прачнецца, насоўка ёсць. Яна паліла яе ў печы і тапіла ў рацэ, але нічога не дапамагае.

— Якую насоўку,— шаптала Маргарыта, падымаючы і апускаючы руку.

— З сіняй аблямовачкай. Справа ў тым, што, калі яна служыла ў кафэ, гаспадар неяк зазваў яе ў каморку, а праз дзевяць месяцаў нарадзіўся хлопчык, якога яна занесла ў лес і запхнула яму ў роцік насоўку, а потым закапала хлопчыка ў зямлю. На судзе яна гаварыла, што ёй не было чым карміць дзіця.

— А дзе ж гаспадар гэтага кафэ? — спыталася Маргарыта.

— Каралева,— раптам зашыпеў унізе кот,— дазвольце мне запытацца: пры чым тут гаспадар? Ён не душыў немаўля ў лесе!

Маргарыта не пераставала ўсміхацца і махаць праваю рукою, а вострымі пазногцямі левае рукі ўпілася ў Бегемотава вуха і зашаптала яму:

— Калі ты, сволач, яшчэ раз пасмееш умяшацца ў размову...

Бегемот неяк не па-бальнаму піскнуў і захрыпеў.

— Каралева... вуха распухне... Навошта баль псаваць распухлым вухам?.. Я гаварыў юрыдычна... з юрыдычнага

боку... Маўчу, маўчу... Лічыце, што я не кот, а рыба, толькі пусціце вуха.

Маргарыта адпусціла вуха, і надакучлівыя, цёмныя вочы апынуліся перад ёй.

— Я шчаслівая, каралева-гаспадыня, што запрошана на гэты вялікі баль поўні.

— А я,— адказала Маргарыта,— рада вас бачыць. Вельмі рада. Вы любіце шампанскае?

— Што вы робіце, каралева?! — адчайна, але амаль нячутна ўскрыкнуў на вуха Кароўеў.— Затор атрымаецца!

— Я люблю! — з мальбою гаварыла жанчына і раптам пачала паўтараць: — Фрыда, Фрыда, Фрыда! Мяне завуць Фрыдай, каралева!

— Дык вы напіцеся сёння, Фрыда, і ні пра што не думайце,— сказала Маргарыта.

Фрыда працягнула абедзве рукі да Маргарыты, але Кароўеў і Бегемот спрытна падхапілі яе пад рукі, і яна знікла ў натоўпе.

Цяпер народ знізу ішоў сцяною, быццам штурмаваў пляцоўку, на якой стаяла Маргарыта. Голыя жаночыя целы відаць былі між фрачнымі мужчынамі. На Маргарыту наплывалі іх смуглыя, белыя, шакаладныя і зусім чорныя целы. У валасах рыжых, чорных, каштанавых, белых, як лён,— у моры святла зіхацелі і пераліваліся іскрамі каштоўныя ўпрыгожанні. І быццам нехта акрапіў святлом штурмавую калону мужчын кропелькамі святла,— з грудзей пырскалі святлом брыльянтавыя заколкі. Маргарыта кожную секунду адчувала дотык губ да калена, кожную секунду падавала руку для пацалунка, твар яе акамянеў прыветнаю маскаю.

— Я ў захапленні,— аднастайна вёў Кароўеў,— мы ў захапленні...

— Каралева ў захапленні...— гугніў за плячыма Азазела.

— Я ў захапленні,— выкрыкваў кот.

— Маркіза,— мармытаў Кароўеў,— бацьку атруціла, двух братоў і дзвюх сясцёр з-за спадчыны... Каралева ў захапленні!.. Пані Мінкіна... Ах, якая прыгожая! Крыху нервовая. Навошта ж было пячы твар служанцы шчыпцамі для завіўкі? Вядома, за такое зарэжуць... Каралева ў захапленні!.. Каралева, секундачку ўвагі! Імператар Рудольф, чараўнік і алхімік.. Яшчэ алхімік, павешаны... Ах, вось і яна! Ах, які цудоўны публічны дом трымала ў Страсбургу!.. Мы ў захапленні!.. Маскоўская краўчыха, мы любім усе яе

за бясконцую фантазію... трымала атэлье і прыдумала надзвычай смешную штуку: прасвідравала дзве дзірачкі ў сцяне...

— А пані не ведалі? — спыталася Маргарыта.

— Усе да адной ведалі, каралева,— адказаў Кароўеў.— Я ў захапленні!.. Гэты дваццацігадовы хлопец з дзяцінства меў дзіўную фантазію, летуценнік і дзівак. Яго палюбіла адна дзяўчына, а ён узяў і прадаў яе ў публічны дом...

Знізу цякла рака. Канца гэтай рацэ не было відаць. Яе выток, вялізны камін, працягваў напаўняць яе. Гэтак прайшла гадзіна, другая. Тут Маргарыта пачала прыкмячаць, што яе ланцуг зрабіўся цяжэйшым, чым раней. Нешта дзіўнае адбывалася і з рукою. Цяпер, перад тым як падняць яе, Маргарыта міжволі моршчылася. Цікавыя каментары Кароўева перасталі забаўляць Маргарыту. І касавокія мангольскія твары, і твары белыя і чорныя сталі абыякавымі, часам зліваліся ў нешта адно, а паветра паміж імі пачынала трымцець і струменіць. Востры боль, быццам укалолі іголкаю, працяў раптам правую руку. Маргарыта сціснула зубы і абаперлася на тумбу. Нейкі шолах, нібы ад крылаў па сценах, чуўся цяпер ззаду з залы, і было зразумела, што там танцуе незлічонае мноства гасцей. І Маргарыце здавалася, што нават цяжкія мармуровыя, мазаічныя і крыштальныя падлогі ў гэтых незвычайных залах рытмічна пульсуюць.

Ні Гай Кесар Калігула, ні Месаліна ўжо не цікавілі Маргарыту, гэтаксама як і ніводзін з каралёў, герцагаў, кавалераў, самагубцаў, атручальнікаў, вісельнікаў і зводніц, турэмшчыкаў і шулераў, катаў, даносчыкаў, здраднікаў, вар'ятаў, сышчыкаў, разбэшчвальнікаў. Усе іх імёны пераблыталіся ў галаве, твары змяшаліся ў адну вялізную аладку, і толькі адзін твар застаўся ў памяці, аблямаваны сапраўды вогненнай барадой, твар Малюты Скуратава. Ногі Маргарыціны падгіналіся, яна кожную хвіліну баялася, што пачне плакаць. Найбольшыя пакуты былі ад правага калена, якое цалавалі. Яно распухла, скура на ім пасінела, хаця некалькі разоў Наташыны рукі з'яўляліся з губкаю і чымсьці духмяным абціралі яго. У канцы трэцяе гадзіны Маргарыта зірнула ўніз зусім безнадзейна і радасна здрыганулася: плынь гасцей парадзела.

— Законы з'езду на баль усюды аднолькавыя, каралева,— шаптаў Кароўеў,— зараз наплыў пачне спадаць. Клянуся, што мы пакутуем апошнія хвіліны. Вунь групка брокенскіх гулякаў. Яны заўсёды прыязджаюць апошнія. Ага,

гэта яны. Два п'яныя крывапіўцы... усе? А не, вунь яшчэ адзін, не, двое!

Па лесвіцы ўзыходзіла двое апошніх гасцей.

— Ды гэта хтосьці новенькі,— гаварыў Кароўеў, прыплюшчыўшыся праз шкельца.— Ага, ага. Неяк аднойчы яго наведаў Азазела і на вушка нараіў, як пазбавіцца ад аднаго чалавека, які мог яго выкрыць. І вось ён загадаў свайму падначаленаму апырскаць сцены кабінета ядам.

— Як яго завуць? — спыталася Маргарыта.

— А чорт яго, я і сам не ведаю,— адказаў Кароўеў,— трэба папытацца ў Азазелы.

— А з ім хто?

— А гэта той самы яго старанны падначалены. Я ў захапленні! — крыкнуў Кароўеў двум апошнім.

Лесвіца апусцела. На ўсякі выпадак пачакалі яшчэ некалькі хвілін. Але з каміна ніхто болей не выходзіў.

Праз секунду, Маргарыта і не памятала, як гэта здарылася, яна апынулася ў тым самым пакоі з басейнам і там заплакала ад болю ў руцэ і ў назе, упала проста на падлогу. Але Гела і Наташа суцешылі яе, зноў падвялі пад крывавы душ, зноў размасіравалі, расцерлі ёй цела, і Маргарыта зноў ажыла.

— Яшчэ, яшчэ, каралева Марго,— шаптаў Кароўеў, які зноў з'явіўся побач,— трэба абляцець залы, каб шаноўныя госці не адчувалі сябе пакінутымі.

І Маргарыта зноў паляцела з пакоя з басейнам. На эстрадзе за цюльпанамі, дзе іграў аркестр караля вальсаў, цяпер шалеў малпавы джаз. Вялізная, з кудлатымі бакенбардамі гарыла з трубою ў руках, цяжка прытанцоўваючы, дырыжыравала. У радок сядзелі арангутангі, дзьмулі ў бліскучыя трубы. На плячах у іх размясціліся шымпанзе з гармонікамі. Два гамадрылы з ільвінымі грывамі ігралі на раялях, і гэтыя раялі не было чуваць сярод шуму, піску і бубухання саксафонаў, скрыпак і барабанаў у лапах у гібонаў, мандрылаў і мартышак. На люстранай падлозе незлічоная колькасць пар, як адна суцэльная маса, якая ўражвала спрытнасцю і чысцінёю рухаў, круцілася ў адным накірунку, ішла сцяною і гатова была ўсё змесці са свае дарогі. Жывыя атласныя матылькі пырхалі над полчышчамі танцораў, са столі сыпаліся кветкі. У капітэлях калон, калі патухла электрычнасць, засвяціліся міразды светлячкоў, а ў паветры плавалі балотныя агні.

Потым Маргарыта апынулася ў велізарным басейне, акружаным каланадаю. Гіганцкі чорны Нептун ліў з пашчы

шырокі ружовы струмень. Хмельны пах шампанскага стаяў над басейнам. Тут панавала сапраўдная весялосць. Пані смяяліся, скідалі туфлі, аддавалі сумачкі сваім кавалерам альбо неграм, якія стаялі тут з прасцінамі ў руках, і з крыкам, ластаўкай давалі нырца, ажно пенныя слупы ўзляталі ўгору. Крышталёвае басейнавае дно гарэла, падсвечанае святлом знізу, святло прабівала тоўшчу віна, і ў ім былі відаць срабрыстыя плывучыя целы. Выскоквалі з басейна ўшчэнт п'янымі. Рогат звінеў пад калонамі і грымеў, як у лазні.

З усяе гэтае мітусні запомніўся адзін ушчэнт п'яны жаночы твар з пустымі вачыма, але і ў пустаце гэтай была нейкая мальба, і ўспомнілася адно толькі слова — «Фрыда»!

У галаве ў Маргарыты пачало кружыцца ад віннага водару, і яна сабралася ўжо ісці, але кот адмачыў у басейне нумар, які затрымаў Маргарыту. Бегемот нешта пачараваў ля Нептунавай пашчы, і адразу ж шыпучая шумлівая маса шампанскага выцекла з басейна, а Нептун пачаў струменіць цёмна-жоўтую хвалю, якая не пенілася і не шыпела. Пані завішчалі і закрычалі:

— Каньяк! — кінуліся ад басейна за калоны. Праз некалькі секунд басейн быў поўны, і кот, тройчы перакуліўшыся ў паветры, рынуўся ў каньяк. Ён вылез, адфыркаўся, гальштук на ім раскіс, пазалота зляцела з вусоў, і не стала бінокля. Паўтарыць Бегемотаў нумар адважылася тая выдумшчыца-краўчыха і яе кавалер, невядомы малады мулат, і яны абое кінуліся ў каньяк, але тут Кароўеў падхапіў Маргарыту пад руку, і яны пайшлі ад купальшчыкаў.

Маргарыце здалося, што яна дзесьці ляцела і бачыла там у вялізных каменных сажалках цэлыя горы вустрыц. Потым ляцела над шкляной падлогаю, пад якой гарэлі пякельныя печы, ля якіх завіхаліся д'ябальскія белыя кухары. Потым недзе яна, ужо не разумеючы нічога, бачыла цёмныя сутарэнні, дзе гарэлі нейкія свяцільнікі, дзе дзяўчаты падносілі мяса, якое шыпела на вуголлі, дзе вялікімі кубкамі пілі за яе здароўе. Потым яна бачыла белых мядзведзяў, якія ігралі на гармоніках і танцавалі камарынскую на эстрадзе. Фокусніка-саламандру, які не гарэў у каміне... І другі раз у яе пачало не хапаць сілы.

— Апошні выхад,— прашаптаў ёй заклапочана Кароўеў,— і мы вольныя.

Яна ў суправаджэнні Кароўева зноў апынулася ў бальнай зале, але цяпер тут не танцавалі, і госці незлічоным натоўпам збіліся між калон, вызвалілі сярэдзіну залы. Мар-

гарыта не памятала, хто дапамог ёй узысці на ўзвышэнне, якое з'явілася на вызваленым месцы. Калі яна ўзышла на яго, здзіўлена пачула, што дзесьці гадзіннік адбіваў поўнач, хаця ёй здавалася, што поўнач даўно прамінула. Разам з апошнім ударам невядома адкуль чутнага гадзінніка на натоўпы гасцей найшло глухое маўчанне.

Тады Маргарыта зноў угледзела Воланда. Ён ішоў, акружаны Абадонам, Азазелам і яшчэ некалькімі, падобнымі на Абадону, чорнымі і маладымі. Маргарыта цяпер угледзела, што насупраць яе ўзвышэнне было падрыхтавана і Воланду. Але ён на яго не ўзышоў. Уразіла Маргарыту тое, што Воланд з'явіўся на гэты свой апошні вялікі выхад у тым самым адзенні, у якім быў у спальні. Тая самая брудная залапленая сарочка звісала ў яго на плячах, на нагах былі зношаныя пакаёвыя туфлі. Воланд быў са шпагаю, але гэтай аголенай шпагаю ён карыстаўся замест кійка.

Воланд накульгваў. Ён спыніўся ля свайго ўзвышэння, і адразу Азазела апынуўся перад ім з місай у руках, а ў гэтай місе Маргарыта ўгледзела адрэзаную чалавечую галаву з выбітымі пярэднімі зубамі. Працягвала панаваць абсалютная цішыня, і парушыў яе толькі адзін раз незразумелы ў гэтых умовах званок, які нагадваў той, калі звоняць у дзверы.

— Міхаіл Аляксандравіч,— ціха звярнуўся Воланд да галавы, і тады павекі забітага расплюшчыліся, і на мёртвым твары Маргарыта, якая аж скаланулася, убачыла жывыя, напоўненыя думкамі і пакутамі вочы.— Усё збылося ці не? — працягваў Воланд і глядзеў галаве ў вочы.— Галава адрэзана жанчынаю, паседжанне не адбылося, і жыву я ў вашай кватэры. Гэта — факт. А факты — самыя ўпартыя рэчы на свеце. Але цяпер інтарэс мае наступнае, а не тое, што адбылося ўжо. Вы заўсёды былі прыхільнікам той тэорыі, што пасля таго, як адрэзана галава, жыццё ў чалавеку канчаецца, ён ператвараецца ў прах і адыходзіць у нябыт. Мне прыемна паведаміць вам пры гасцях, хаця яны самі доказ іншае тэорыі пра тое, што ваша тэорыя грунтоўная і дасціпная. Дарэчы, усе тэорыі варты адна аднае. Ёсць сярод іх і такая, што кожнаму будзе аддзячана ў адпаведнасці з яго вераю. Няхай збудзецца гэта! Вам адысці ў нябыт, а мне радасна будзе з чашы, у якую вы ператвараецеся, выпіць за існаванне!

Воланд падняў шпагу. Адразу ўсё на галаве пацямнела, скурчылася, потым паадвальвалася кавалкамі, вочы зніклі,

і хутка Маргарыта ўбачыла ў місе жаўтлявы, з ізумруднымі вачыма і жамчужнымі зубамі, на залатой ножцы чалавечы чэрап. Адчынілася накрыўка.

— Адзін момант, месір,— сказаў Кароўеў, калі перахапіў запытальны Воландаў позірк,— ён будзе перад вамі. Я чую ў гэтай магільнай цішыні, як парыпваюць яго лакіраваныя туфлі і як звініць келіх, які ён паставіў на стол, апошні раз выпіўшы шампанскага. Ды вось і ён.

У залу ўваходзіў новы адзінокі госць і накіроўваўся да Воланда. Знешне ён нічым не адрозніваўся ад шматлікіх астатніх гасцей-мужчын, акрамя аднаго: госць ажно хістаўся ад хвалявання, і гэта было прыкметна здалёк. На ягоных шчоках гарэлі плямы, і вочы трывожна бегалі. Госць быў ашаломлены, і гэта зусім натуральна: яго ўражвала ўсё і галоўным чынам, вядома, Воландава адзенне.

Аднак сустрэлі госця надзіва ласкава.

— А, мілы барон Майгель,— прыветна ўсміхнуўся і загаварыў Воланд з госцем, вочы ў якога мітусіліся і лезлі на лоб,— я шчаслівы паказаць вам,— Воланд звярнуўся да гасцей,— шаноўнага барона Майгеля, які служыць у Камісіі відовішчаў на пасадзе знаёмцы чужаземцаў са славутымі мясцінамі сталіцы.

Тут Маргарыта замерла, таму што раптоўна пазнала гэтага Майгеля. Ён некалькі разоў сустракаўся ёй у маскоўскіх тэатрах і ў рэстаранах. «Пачакайце...— падумала Маргарыта,— ён, атрымліваецца, памёр таксама?» Але ўсё адразу высветлілася.

— Мілы барон,— працягваў Воланд і радасна ўхмыляўся,— быў такі добры, што як толькі даведаўся пра мой прыезд у Маскву, адразу пазваніў мне і прапанаваў свае паслугі адпаведна сваёй спецыяльнасці. Зразумела, што я меў гонар адразу запрасіць яго да сябе.

У гэты час Маргарыта ўбачыла, як Азазела перадаў місу з чэрапам Кароўеву.

— Ага, дарэчы, барон,— раптам, інтымна прыцішыўшы голас, прамовіў Воланд,— разнесліся чуткі пра вашу надзвычайную цікаўнасць. Гавораць, што калі злучыць яе з не меншай балбатлівасцю, то на гэта нельга не звярнуць увагі. Мала таго, злыя языкі ўжо пусцілі пагалоску — даносчык і шпіён. Але і гэтага мала, ёсць меркаванне, што гэта паслужыць прычынай вашага канца не пазней чым праз месяц. Дык вось, каб пазбавіць вас гэтага доўгага чакання, мы рашылі прыйсці вам на дапамогу і выкарысталі тую акалічнасць, што вы самі напрасіліся да мяне ў госці якраз

дзеля таго, каб падгледзець і выслухаць усё, што толькі можна.

Барон стаў бялейшы за Абадону, які быў надзвычай белатвары ад нараджэння, а потым адбылося нешта дзіўнае. Абадона аказаўся ля барона, зняў на імгненне акуляры са свайго твару. У тое самае імгненне нешта вогненна блiснула ў руках Азазелы, нешта ціха ляпнула, быццам пляснулі ў ладкі, барон пачаў падаць на спіну, пунсовая кроў хлынула ў яго з грудзей і заліла накрухмаленую рубашку і камізэльку. Кароўеў падставіў чашу пад струмень і перадаў, напоўненую, Воланду. Мёртвае баронава цела было ўжо на падлозе.

— Я п'ю за ваша здароўе, панове,— ціха сказаў Воланд, падняў чашу і дакрануўся да яе губамі.

Пасля гэтага адбылася метамарфоза. Знікла залапленая сарочка і зношаныя туфлі. Воланд аказаўся ў нейкай чорнай хламідзе са сталёваю шпагаю на баку. Ён хутка падышоў да Маргарыты, падаў чашу і загадаў:

— Пі!

У Маргарыты закружылася галава, яе павяло ўбок, але чаша ўжо была ля губ, і нечыя галасы, а чые — яна не магла разабрацца, шапнулі ў вуха:

— Не бойцеся, каралева... Не бойцеся, каралева,— кроў даўно пайшла ў зямлю. І там, дзе яна была, ужо растуць вінаградныя гронкі.

Маргарыта з заплюшчанымі вачыма каўтнула, і салодкі агонь прабег па яе жылах, у вушах зазвінела. Ёй здалося, што глушаць крыкам пеўні, што дзесьці іграюць маршы. Натоўпы гасцей пачалі страчваць сваё аблічча. І фрачнікі, і жанчыны рассыпаліся ўшчэнт. Гнiллё на вачах у Маргарыты запаланіла залу, і ў ёй запахла пограбам. Калоны рассыпаліся, патухлі агні, усё сцялася, прапалі фантаны, цюльпаны і камеліі. А засталося тое, што і было — сціплая ювелiршына гасцёўня, з прачыненых дзвярэй якое падала палоска святла. У гэтыя прачыненыя дзверы і ўвайшла Маргарыта.

## Раздзел 24

### ВЯРТАННЕ МАЙСТРА

У Воландавай спальні ўсё было гэтакае самае, як і да балю. Воланд у сарочцы сядзеў на ложку, і толькі Гела не расцірала яму нагу, а на стале, дзе раней гулялі ў шахматы,

стаўляла вячэраць. Кароўеў і Азазела знялі фракі і сядзелі за сталом, а побач з імі, вядома, мясціўся і кот, які не хацеў развітвацца са сваім гальштукам, хаця ён зусімператварыўся ў анучку. Маргарыта, хістаючыся, падышла да стала і абаперлася на яго. Тады Воланд паклікаў яе, як і тады, да сябе, паказаў, каб села побач.

— Ну што, вас ушчэнт замучылі? — спытаўся Воланд.

— Ды не, месір,— адказала Маргарыта ледзь чутна.

— Ноблес обліж,— сказаў кот і наліў Маргарыце нейкай празрыстай вадкасці ў шклянку для лафіту.

— Гэта гарэлка? — слаба спыталася Маргарыта.

Кот ажно падскочыў на крэсле ад крыўды.

— Злітуйцеся, каралева,— захрыпеў ён,— хіба я дазволіў бы сабе наліць пані гарэлкі? Гэта — чысты спірт!

Маргарыта ўсміхнулася і памкнулася адсунуць шклянку.

— Піце смела,— сказаў Воланд, і Маргарыта адразу ўзяла шклянку ў руку.— Гела, сядай,— загадаў Воланд і растлумачыў Маргарыце: — Ноч поўні — святочная ноч, і я вячэраю з малою кампаніяй блізкіх мне людзей і слуг. Дык як вы маецеся? Як прайшоў гэты цяжкі баль?

— Цудоўна! — затрашчаў Кароўеў.— Усе зачараваныя, закаханыя, зніштчаныя! Гэтулькі тактоўнасці, гэтулькі ўмення, чароўнасці і шарму!

Воланд моўчкі падняў шклянку і чокнуўся з Маргарытаю. Маргарыта пакорліва выпіла, думаючы, што на месцы і сканае ад спірту. Але нічога дрэннага не здарылася. Жывая цеплыня разлілася ў яе ў жываце, нешта мякка таўханула ў патыліцу, вярнулася сіла, быццам яна прачнулася пасля доўгага моцнага сну, акрамя гэтага адчула, што галодная, як ваўчыца. Успомніла, што не ела нічога з учарашняе раніцы, і есці захацела яшчэ мацней. Яна пачала прагна каўтаць ікру.

Бегемот адрэзаў кавалак ананаса, пасаліў яго, наперчыў, з'еў, і пасля гэтак спраўна кульнуў другую чарку, што ўсе заапладзіравалі яму.

Маргарыта выпіла другую чарку, і свечкі ў свечніках загарэліся ярчэй, у каміне пабольшала полымя. Хмелю Маргарыта зусім не адчувала. Яна кусала белымі зубамі мяса, цешылася сокам, які цёк з яго, і глядзела, як Бегемот намазвае гарчыцаю вустрыц.

— Ты яшчэ вінаграду наверх пакладзі,— ціха сказала Гела і таўханула ката ў бок.

— Папрашу мяне не вучыць,— адказаў Бегемот,— ведаю, як паводзіць сябе за сталом, ведаю!

— Ах, як прыемна вось гэтак вячэраць, пры агні, па-свойску,— трашчаў Кароўеў,— з блізкімі табе...

— Не, Фагот,— пярэчыў кот,— баль мае сваю асалоду і размах...

— Ніякае асалоды там няма і размаху таксама, а гэтыя дурныя мядзведзі і тыгры ў бары сваім ровам давялі мяне да мігрэні,— сказаў Воланд.

— Слухаю, месір,— сказаў кот,— калі вы лічыце, што размаху не было, то і я адразу таксама буду гэтак лічыць.

— Ты глядзі! — адказаў Воланд.

— Я пажартаваў,— пакорліва адказаў кот,— а што датычыць тыграў, то я загадаю, каб іх зарэзалі і засмажылі.

— Тыграў не ядуць,— сказала Гела.

— Вы так думаеце? Тады прашу выслухаць,— адазваўся кот, заплюшчыўся ад задавальнення, і расказаў, як аднойчы ён блукаў па пустыні дзевятнаццаць дзён і адзінае, чым харчаваўся, гэта было мяса забітага ім тыгра. Усе з цікавасцю слухалі гэты займальны расказ, а калі кот скончыў, усе хорам ускрыкнулі:

— Хлусня!

— І што самае цікавае ў гэтай хлусні,— сказаў Воланд,— што яна — хлусня ад першага да апошняга слова.

— Ага, хлусня? — ускрыкнуў кот, і ўсе падумалі, што ён пачне пярэчыць, але ён толькі ціха сказаў: — Гісторыя рассудзіць нас.

— А скажыце,— звярнулася да Азазелы Марго, якая ажыла пасля спірту,— вы застрэлілі яго, гэтага былога барона?

— Вядома,— адказаў Азазела,— як яго не застрэліць? Яго абавязкова трэба застрэліць.

— Я гэтак хвалявалася! — усклікнула Маргарыта.— Гэта здарылася неспадзявана.

— Нічога нечаканага не было,— запярэчыў Азазела, а Кароўеў завыў і занэндзіў:

— Як тут не хвалявацца? У мяне ў самога лыткі затрэсліся! Бух! Раз! Барон на бок!

— У мяне ледзь не істэрыка была,— дадаў кот і аблізаў лыжку з ікрою.

— Мне вось што не зразумела,— гаварыла Маргарыта, і залатыя іскаркі ад крышталю ззялі ў яе ў вачах,— няўжо звонку не чуваць было музыкі і наогул грукату ад гэтага балю?

— Вядома, не было чуваць, каралева,— растлумачыў

Кароўеў,— гэта трэба рабіць так, каб не было чуваць. Гэта акуратненька трэба рабіць.

— Вядома, вядома... Справа ў тым, што гэты чалавек на лесвіцы... Калі мы ішлі з Азазелам... І другі ля пад'езда... Я думаю, што ён цікаваў за вашай кватэрай...

— Правільна, правільна!..— крычаў Кароўеў.— Правільна, дарагая Маргарыта Мікалаеўна! Вы пацвярджаеце мае падазрэнні! Сапраўды, ён вёў назіранне. Я сам спачатку падумаў, што гэта які-небудзь прыват-дацэнт ці закаханы, які чакае на лесвіцы. Але не, не! Нешта трывожыла маё сэрца! Ён вёў назіранне! І другі ля пад'езда таксама! І той, што ў падваротні, таксама!

— Вось цікава, калі вас прыйдуць арыштоўваць? — сказала Маргарыта.

— Абавязкова прыйдуць, чароўная каралева, абавязкова! — адказаў Кароўеў.— Сэрцам чую, што прыйдуць. Не цяпер, вядома, у свой час прыйдуць. Але думаю, што нічога цікавага не атрымаецца.

— Вой, як я расхвалявалася, калі гэты барон упаў,— гаварыла Маргарыта, і відаць было, што яна дасюль перажывае забойства, якое бачыла ўпершыню ў жыцці.— Вы, мабыць, добра страляеце?

— Нармалёва,— адказаў Азазела.

— А на колькі крокаў? — задала Маргарыта Азазелу не зусім зразумелае пытанне.

— А гэта, калі глядзець, у што,— справядліва адказаў Азазела,— адно — трапіць малатком у шкло крытыку Латунскаму, другое — яму ў сэрца трапіць.

— У сэрца! — усклікнула Маргарыта і схапілася за сваё.— У сэрца! — паўтарыла яна глухім голасам.

— Што гэта за крытык Латунскі? — спытаўся Воланд і прымружана паглядзеў на Маргарыту.

Азазела, Кароўеў і Бегемот неяк сарамліва апусцілі вочы, а Маргарыта адказала:

— Ёсць адзін такі крытык. Сёння вечарам я разнесла яму кватэру.

— Вось табе і маеш! А за што?

— Ён, месір,— растлумачыла Маргарыта,— загубіў аднаго майстра.

— А навошта было самой старацца? — спытаўся Воланд.

— Дазвольце мне, месір! — ускрыкнуў кот радасна і ўсхапіўся.

— Ды сядзі ты,— буркнуў Азазела і ўстаў,— я сам зараз з'езджу...

— Не! — усклікнула Маргарыта.— Не, прашу вас, не трэба гэтага, месір!

— Як хочаце, як хочаце,— адказаў Воланд, а Азазела сеў на сваё месца.

— Дык дзе мы спыніліся, дарагая каралева Марго? — гаварыў Кароўеў.— Ага, сэрца. У сэрца ён трапіць,— Кароўеў паказаў сваім доўгім пальцам на Азазелу,— на выбар, у любое перадсэрдзе ці ў любы жалудачак.

Маргарыта не адразу зразумела, а калі да яе дайшло, ускрыкнула:

— Дык іх не відаць!

— Дарагая,— трашчаў Кароўеў,— у тым увесь і цымус, што іх не відаць! А ў адкрыты прадмет кожны можа трапіць!

Кароўеў дастаў з шуфлядкі стала пікавую сямёрку, падаў Маргарыце, папрасіў адзначыць пазногцем адно з ачкоў. Маргарыта пазначыла верхняе правае. Гела схавала карту пад падушку і крыкнула:

— Гатова!

Азазела, які сядзеў задам да падушкі, дастаў з кішэні фрачных штаноў аўтаматычны пісталет, паклаў дула на плячо і стрэліў, не адварочваючыся да падушкі, чым весела спалохаў Маргарыту. З-пад прастрэленае падушкі дасталі карту. Пазначанае Маргарытаю ачко было прабіта.

— Не хацелася б сустракацца з вамі, калі ў вас у руках рэвальвер,— гулліва паглядаючы на Азазелу, сказала Маргарыта. Яна любіла людзей, якія ўмеюць рабіць што-небудзь па-сапраўднаму.

— Дарагая мая каралева,— пішчаў Кароўеў,— я нікому не раіў і не раю сустракацца з ім, нават калі ў яго не будзе ніякага рэвальвера ў руках! Клянуся гонарам былога рэгента і запявалы, што ніхто не павіншаваў бы гэтага сустрэчнага.

Кот насуплена сядзеў, пакуль адбываўся вопыт са стралянінай, і раптам аб'явіў:

— Бяруся перакрыць рэкорд з сямёркай!

Азазела ў адказ штосьці прабурчаў. Але кот быў упэўнены і запатрабаваў адразу два рэвальверы. Азазела дастаў другі рэвальвер з другое задняе кішэні, пагардліва скрывіў рот і разам з першым перадаў хвальку. Пазначылі два ачкі на сямёрцы. Кот доўга меркаваўся, адвярнуўшыся ад падушкі. Маргарыта заткнула вушы пальцамі, сядзела і

глядзела на саву, якая драмала на каміннай паліцы. Кот стрэліў з абодвух рэвальвераў, пасля гэтага адразу віскнула Гела, забітая сава ўпала з каміна, і спыніўся пабіты гадзіннік. Гела, у якой адна рука была акрываўленая, завыла і ўпілася кату ў поўсць, а ён ёй у валасы, і яны клубком пакаціліся па падлозе. Адзін з келіхаў упаў са стала і пабіўся.

— Адцягніце ад мяне гэтую ашалелую ведзьму! — завываў кот і адбіваўся ад Гелы, якая сядзела верхам на ім. Забіяк разнялі, Кароўеў падзьмухаў на прастрэлены Гелін палец, і той загаіўся.

— Я не магу страляць, калі гавораць пад руку! — крычаў Бегемот і стараўся прымайстраваць на ранейшае месца вылуплены на спіне вялізны камяк поўсці.

— Магу паспрачацца,— сказаў Воланд і ўсміхнуўся Маргарыце,— што гэтую штуку ён усмаліў знарок. Ён страляе даволі няблага.

Гела з катом памірыліся і ў знак гэтага прымірэння пацалаваліся. Дасталі з-пад падушкі карту. Ніводнае з ачкоў, акрамя прастрэленага Азазелам, не было закранута.

— Не можа гэтага быць,— гаварыў кот і глядзеў праз карту на святло ад свечніка.

Вясёлая вячэра працягвалася. Свечкі аплывалі ў свечніках, па пакоях хвалямі расплывалася сухое духмянае цяпло ад каміна. Маргарыта наелася, і яе ахапіла адчуванне задаволенасці. Яна глядзела, як шызыя абараначкі дыму з Азазелавае сігары плылі ў камін і як кот ловіць іх на кончык шпагі. Ёй нікуды не хацелася ісці, хоць было ўжо позна. Калі меркаваць па ўсім, што адбылося, было ўжо гадзін шэсць раніцы. Маргарыта выкарыстала паўзу і нясмела сказала Воланду:

— Відаць, мне час ужо... Позна...

— Куды вы спяшаецеся? — спытаў Воланд ветліва, але стрымана. Астатнія прамаўчалі, прытварыліся, што захапіліся колцамі сігарнага дыму.

— Ага, пара,— зусім збянтэжана паўтарыла Маргарыта і азірнулася, быццам шукала адзежыну. Тое, што яна голая, пачало бянтэжыць яе. Яна ўстала з-за стала. Воланд моўчкі зняў з ложка свой зашмальцаваны халат, і Кароўеў накінуў яго на плечы Маргарыце.

— Дзякуй вам, месір,— ледзь чутна прамовіла Маргарыта і запытальна паглядзела на Воланда. Той у адказ усміхнуўся ёй ветліва і абыякава. Чорная нуда раптоўна падступіла пад Маргарыціна сэрца. Яна адчула сябе абма-

нутаю. Ніякае аддзякі за ўсе яе паслугі на балі ніхто, відаць, і не збіраўся ёй прапаноўваць, ніхто і не затрымліваў яе. А між тым яна цудоўна ведала, што ісці ёй адсюль болей няма куды. Згадка пра тое, што ёй давядзецца вярнуцца ў асабняк, выклікала ў душы выбух адчаю. Самой напрасіцца, як спакусліва раіў Азазела ў Аляксандраўскім садзе? «Не, ніколі!» — сказала яна сама сабе.

— Усяго вам добрага, месір,— прамовіла яна, а сама падумала: «Каб толькі выбрацца адсюль, а там дайду да рэчкі і ўтаплюся».

— Сядзьце! — раптам загадаў Воланд.

Маргарыта змянілася з твару і села.

— Можа, хочаце што-небудзь сказаць на развітанне?

— Не, нічога, месір,— ганарліва адказала Маргарыта,— акрамя таго, што калі яшчэ вам патрэбная, то гатова выканаць усё, што вы захочаце. Я зусім не ўтамілася, і мне весела было на балі. Такім чынам, калі б ён працягваўся яшчэ, я ахвотна падстаўляла б сваё калена дзеля таго, каб яго цалавалі вісельнікі і забойцы.— Маргарыта глядзела на Воланда як скрозь заслону, вочы яе напоўніліся слязьмі.

— Правільна! Вы гаворыце правільна! — моцна і страшна сказаў Воланд.— Гэтак і трэба!

— Гэтак і трэба! — рэхам паўтарыла Воландава світа.

— Гэта было выпрабаванне,— сказаў Воланд,— ніколі і нічога не прасіце! Ніколі і нічога, асабліва ў тых, хто мацнейшы, чым вы. Самі прапануюць і самі ўсё дадуць. Сядайце, ганарлівая жанчына.— Воланд сарваў цяжкі халат з Маргарыты, і яна зноў апынулася побач з ім на ложку.— Ну, Марго,— працягваў Воланд, і голас у яго памякчэў,— чаго вы хочаце за тое, што сёння ў мяне былі гаспадыняй? Чаго хочаце за тое, што правялі гэты баль голай? Як вы ацэньваеце ваша калена? Якія страты ад маіх гасцей, якіх вы толькі што назвалі вісельнікамі? Кажыце! І цяпер не саромейцеся, бо я прапанаваў.

Маргарыціна сэрца закалацілася, яна цяжка ўздыхнула, пачала думаць.

— Ну, чаго вы, смялей! — падахвочваў Воланд.— Будзіце сваю фантазію, падганяйце яе! Адна толькі прысутнасць пры забойстве гэтага нягодніка-барона вартая таго, каб чалавека ўзнагародзілі, асабліва калі гэты чалавек — жанчына. Ну?

Дух заняло ў Маргарыты, і яна хацела выказаць запаветнае жаданне, вымавіць даўно падрыхтаваныя словы, але раптам пабялела, разявіла рот, вылупіла вочы. «Фрыда!

Фрыда! Фрыда! — стаяў крык у вушах, надакучлівы, умольны.— Мяне завуць Фрыда!» І Маргарыта, заікаючыся, загаварыла:

— Значыць, я магу папрасіць... папрасіць адну паслугу?

— Запатрабаваць, запатрабаваць, мая донна,— адказаў Воланд і ўсміхнуўся з разуменнем,— запатрабаваць адну паслугу!

Ах, як спрытна і выразна Воланд падкрэсліў, паўтараючы Маргарыціны словы,— «адну паслугу»!

Маргарыта ўздыхнула яшчэ раз і сказала:

— Я хачу, каб Фрыдзе перасталі прыносіць тую насоўку, якой яна задушыла дзіця.

Кот пусціў вочы пад лоб і ўздыхнуў шумна, але нічога не сказаў, мабыць, памятаў, як закруціла за вуха на балі.

— Калі ўлічыць,— загаварыў Воланд,— што магчымасць атрымаць вамі хабар ад гэтае дурніцы Фрыды, вядома, выключаецца — гэта было б несумяшчальна з вашай каралеўскаю годнасцю,— я нават не ведаю, што тут рабіць. Застаецца толькі адно — набраць ануч і затыкаць імі ўсе шчыліны ў маёй спальні!

— Пра што вы гаворыце, месір? — здзівілася Маргарыта, калі пачула гэтыя сапраўды незразумелыя словы.

— Цалкам згодны з вамі, месір,— умяшаўся ў гаворку кот,— менавіта анучамі! — і кот раззлавана грукнуў па стале.

— Я гавару пра міласэрнасць,— тлумачыў свае словы Воланд і не адводзіў ад Маргарыты вогненнага вока.— Часам яна пралазіць скрозь самыя вузенькія шчылінкі нечакана і каварна. Вось чаму я і гавару пра анучы.

— І я пра гэта кажу! — усклікнуў кот і на ўсякі выпадак падаўся далей ад Маргарыты, прыкрыў лапамі выпацканыя ў ружовы крэм свае вострыя вушы.

— Пайшоў прэч,— сказаў яму Воланд.

— Я кавы яшчэ не піў,— адказаў кот,— як гэта я пайду? Няўжо месір у святочную ноч гасцей дзеліць на два гатункі? Адны — першае, а другія — як гаварыў гэты скнара буфетчык, другое свежасці?

— Змоўкні,— загадаў яму Воланд і спытаўся ў Маргарыты: — Вы, калі меркаваць па ўсім, чалавек надзвычай добры? Высокамаральны чалавек?

— Не,— гучна адказала Маргарыта,— я ведаю, што гаварыць з вамі можна толькі шчыра і скажу адкрыта: я чалавек легкадумны. Папрасіла за Фрыду толькі таму, што незнарок абнадзеіла яе. Яна чакае і верыць, што я дапамагу.

І калі яна застанецца падманутая, мне не будзе спакою ўсё жыццё. Нічога не зробіш! Гэтак атрымалася.

— А,— сказаў Воланд,— гэта зразумела.

— Дык вы зробіце? — ціха спытала Маргарыта.

— Ніколі,— адказаў Воланд,— справа ў тым, дарагая каралева, што тут адбылася блытаніна. Кожнае ведамства павінна займацца сваёй справай. Не пярэчу, нашы магчымасці вельмі вялікія, намнога большыя, чым думаюць некаторыя не вельмі празорлівыя людзі...

— Вядома, намнога большыя,— не ўтрываў кот, які, мабыць, ганарыўся вельмі гэтымі магчымасцямі.

— Замоўкні, чорт пабяры! — сказаў яму Воланд і працягваў гаварыць Маргарыце: — Але які сэнс рабіць тое, што павінен рабіць нехта іншы, другое ведамства, як я сказаў? Таму я гэта рабіць не буду, а вы зробіце самі.

— А хіба маё жаданне збудзецца?

Азазела іранічна, коса зірнуў сваім крывым вокам на Маргарыту, непрыкметна пакруціў рыжаю галавою і фыркнуў.

— Ды рабіце, вось марока мне,— прамармытаў Воланд, пакруціў глобус і пачаў прыглядацца да нейкае дэталькі, бо, відаць, у час гаворкі з Маргарытаю займаўся яшчэ і нейкаю сваёй справай.

— Ну, Фрыда...— падказаў Кароўеў.

— Фрыда! — пранізліва крыкнула Маргарыта.

Дзверы расчыніліся, і растрапаная, голая, але ўжо зусім цвярозая жанчына з адчайнымі вачыма ўбегла ў пакой і працягнула рукі да Маргарыты, а тая велічна сказала:

— Табе даруецца. Насоўку болей прыносіць не будуць.

Пачуўся крык Фрыды, яна ўпала на калені на падлогу ніцма і распласталася перад Маргарытаю крыжам. Воланд махнуў рукой, і Фрыда знікла з вачэй.

— Дзякуй вам, бывайце,— сказала Маргарыта і ўстала.

— Ну што ж, Бегемот, не будзем нажывацца на непрактычнасці чалавека ў святочную ноч,— загаварыў Воланд. Ён завярнуўся да Маргарыты: — Такім чынам, гэта не лічыцца, я нічога не рабіў. Што вы сабе хочаце?..

Настала маўчанне, і перапыніў яго Кароўеў, які зашаптаў Маргарыце на вуха:

— Алмазная донна, цяпер вам раю быць разумнаю! А то ўдача можа і знікнуць.

— Я хачу, каб мне зараз, у гэтую самую хвіліну, вярнулі майго каханка, майстра,— сказала Маргарыта, і твар яе сцяла сутарга.

І адразу ў пакой уварваўся вецер гэтак, што полымя свечак у свечніках легла, цяжкая фіранка на акне адсунулася, адчынілася акно, а ў далёкай вышыні паказалася поўня, але не ранішняя, а начная. Ад падаконніка на падлогу разаслалася зялёная хустка начнога святла, і ў ім з'явіўся начны Іванаў госць, які называўся майстрам. Ён быў у сваім бальнічным адзенні — у халаце, у туфлях і чорнай шапачцы, з якою не разлучаўся. Няголены твар сутаргава крывіўся, ён па-вар'яцку,спалохана зіркаў на агонь свечак, а месячны струмень кіпеў вакол яго.

Маргарыта яго пазнала адразу, застагнала, пляснула рукамі і пабегла да яго. Яна цалавала яго ў лоб, у губы, тулілася да яго калючае шчакі, і слёзы, якія яна доўга стрымлівала, цяклі ручаямі па яе твары. Яна паўтарала адно толькі слова, недарэчна паўтарала яго:

— Ты... ты... ты...

Майстар адхіліў яе ад сябе і глуха прамовіў:

— Не плач, Марго, не муч мяне. Я цяжкахворы,— ён ухапіўся рукамі за падаконнік, быццам збіраўся ўскочыць на яго і ўцякаць, выскаліў зубы, прыглядзеўся да тых, хто сядзеў, і закрычаў: — Мне страшна, Марго! У мяне зноў пачаліся галюцынацыі...

Плач душыў Маргарыту, яна шаптала, душачыся словамі:

— Не, не, не... не бойся нічога... я з табою... я з табою...

Кароўеў спрытна і непрыкметна падапхнуў майстру крэсла, і той сеў на яго, а Маргарыта ўпала на калені, прыціснулася да боку хворага і гэтак заціхла. Ад хвалявання яна не заўважала, што была ўжо не раздзетая, на ёй цяпер быў шаўковы чорны плашч. Хворы нагнуў галаў і глядзеў на зямлю сумнымі хворымі вачыма.

— Сапраўды,— загаварыў Воланд пасля маўчання,— яго сапраўды моцна скалечылі.— Ён загадаў Кароўеву: — Дай, рыцар, гэтаму чалавеку чаго-небудзь выпіць.

Маргарыта ўпрошвала майстра дрыготкім голасам:

— Выпі, выпі! Ты баішся? Не, не, павер мне, што табе дапамогуць!

Хворы ўзяў шклянку і выпіў тое, што было ў ёй, але рука яго здрыганулася, і апусцелая шклянка зазвінела асколкамі ля яго ног.

— На шчасце! На шчасце! — зашаптаў Кароўеў Маргарыце.— Глядзіце, ён пачынае ўжо ачуньваць.

Сапраўды, позірк хворага зрабіўся не гэтакі дзікі і трывожны.

— Гэта сапраўды ты, Марго? — спытаў месячны госць.

— Не сумнявайся, гэта я,— адказала Маргарыта.

— Яшчэ! — загадаў Воланд.

Пасля таго як майстар асушыў другую шклянку, яго вочы ажылі і зрабіліся разумнымі.

— Ну вось, цяпер іншая справа,— сказаў Воланд і прымружыўся,— цяпер і пагаварыць можна. Хто вы будзеце?

— Цяпер я ніхто,— адказаў майстар, і рот ад усмешкі толькі скрывіўся.

— Вы адкуль зараз?

— З вар'яцкага дома. Я — псіхічнахворы чалавек,— адказаў прышэлец.

Ад гэтых слоў Маргарыта не стрымалася і заплакала зноў. Потым выцерла вочы і закрычала:

— Жахлівыя словы! Жахлівыя словы! Ён майстар, месір, я вас папярэджвала пра гэта! Вылечце яго, ён заслугоўвае гэтага!

— Вы ведаеце, з кім зараз размаўляеце,— спытаўся ў прышэльца Воланд,— у каго вы зараз знаходзіцеся?

— Ведаю,— адказаў майстар,— маім суседам у вар'яцкім доме быў гэты хлопчык, Іван Бяздомны. Ён расказаў мне пра вас.

— Ну, вядома, вядома,— адказваў Воланд,— я меў радасць сустракацца з гэтым маладым чалавекам на Патрыярхавых сажалках. Ён мяне ледзь самога да вар'яцтва не давёў, даказваў, што я не існую! Але вы верыце, што гэта на самай справе я?

— Даводзіцца верыць,— сказаў прышэлец,— вядома, спакайней было б лічыць, што вы проста праява галюцынацыі. Выбачайце,— спахапіўся майстар.

— Ну, што ж, калі спакайней, то і лічыце,— ветліва адказаў Воланд.

— Не, не! — спалохана загаварыла Маргарыта і трэсла майстра за плячук.— Апамятайся! Перад табою сапраўды ён!

Кот і тут не вытрываў:

— Хіба я адзін падобны на галюцынацыю. Звярніце ўвагу на мой профіль, асветлены поўняй.— Кот палез пад месячнае святло і хацеў нешта яшчэ сказаць, але яго папрасілі сціхнуць, і ён адказаў: — Добра, добра, я гатовы замоўкнуць. Я буду маўклівая галюцынацыя.— І замоўк.

— Скажыце, калі ласка, чаму Маргарыта называе вас майстрам? — спытаўся Воланд.

Той усміхнуўся і сказаў:

— Гэта даравальны недахоп. Яна надта добрае думкі пра той раман, які я напісаў.

— Пра што рамана?

— Пра Понція Пілата.

Тут зноў захісталіся, заскакалі агеньчыкі на свечках, забрынчаў на стале посуд,— гэтак моцна засмяяўся Воланд, але смехам гэтым нікога не спалохаў і не здзівіў. Бегемот чамусьці пачаў апладзіраваць.

— Пра што, пра што? Пра каго? — загаварыў Воланд пасля таго, як перастаў смяяцца.— Вось цяпер? Гэта нечувана! І вы не знайшлі іншае тэмы? Дайце мне пагля-дзець,— Воланд працягнуў руку ўгору далоняй.

— На жаль, я не магу гэта зрабіць,— адказаў майс-тар,— таму што я спаліў яго ў печцы.

— Даруйце, не веру,— адказаў Воланд,— гэтага не можа быць. Рукапісы не гараць.— Ён завярнуўся да Беге-мота і прамовіў: — Ану, Бегемот, давай сюды раман.

Кот імгненна ўсхапіўся з крэсла, і ўсе ўгледзелі, што ён сядзеў на тоўстым стосе рукапісаў. Верхні экземпляр кот з паклонам падаў Воланду. Маргарыта затрымцела і закрычала, усхваляваная да слёз:

— Вось ён, рукапіс! Вось ён!

Яна кінулася да Воланда і ў захапленні дадала:

— Усемагутны! Усемагутны!

Воланд узяў у рукі пададзены яму экземпляр, пакруціў яго, адклаў убок, без усмешкі паглядзеў на майстра. А той невядома чаму зноў засумаваў, неспакойна ўсхапіўся з крэс-ла, заламаў рукі і пачаў мармытаць, скаланаючыся ўсім целам і звяртаючыся да поўні:

— І нават месячнай ноччу мне няма спакою... Нашто было трывожыць мяне? Божа літасцівы, божа літасцівы...

Маргарыта ўхапілася за бальнічны халат, прытулілася да яго, і сама пачала мармытаць адчайна і слёзна:

— Божа, чаму табе не дапамагае лякарства?

— Нічога, нічога, нічога,— шаптаў Кароўеў і віўся ва-кол майстра,— нічога, нічога... Яшчэ шкляначку, і я за кампанію з вамі...

І шкляначка падміргнула пры месячным святле, блісну-ла і дапамагла гэтая шкляначка. Майстра зноў пасадзілі на крэсла, і твар у хворага зрабіўся зноў спакойны.

— Ну, цяпер усё зразумела,— сказаў Воланд і пастукаў доўгім пальцам па рукапісе.

— Усё зразумела,— пацвердзіў кот, які забыўся, што абяцаў быць маўклівым галюцынацыяй,— цяпер галоўная

лінія гэтага опуса мне відна наскрозь. Што ты сказаў, Азазела? — звярнуўся ён да маўклівага Азазелы.

— Я кажу,— прагугнявіў той,— што добра было б цябе ўтапіць.

— Злітуйся, Азазела,— адказаў кот,— і не падказвай гэтую думку майму валадару. Павер мне, што тады я пачаў бы кожную ноч наведваць цябе ў гэтакім самым месячным адзенні, як і бедны майстар, іківаў бы табе, і клікаў бы за сабою. Як бы ты адчуваў сябе, Азазела?

— Ну, Маргарыта,— зноў загаварыў Воланд,— кажыце пра ўсё, што вам трэба.

Маргарыціны вочы ўспыхнулі, і яна ўмольна звярнулася да Воланда:

— Дазвольце мне пашаптацца з ім?

Воланд кіўнуў галавою, і Маргарыта прыпала да вуха майстра, штосьці зашаптала яму. Чуваць было, што той адказаў ёй:

— Не, позна. Нічога болей не хачу ад жыцця. Акрамя таго, каб бачыць цябе. Але табе ізноў раю — пакінь мяне. Са мною ты загінеш.

— Не, не, не пакіну,— адказала Маргарыта і звярнулася да Воланда: — Прашу вас зноў вярнуць нас у падвал у завулку на Арбаце, і каб лямпа гарэла, і каб усё было як і раней.

Тут майстар засмяяўся, абхапіў праставалосую Маргарыціну галаву, сказаў:

— Ай, не слухайце бедную жанчыну, месір. У гэтым падвале даўно ўжо жыве іншы чалавек, і наогул не бывае гэтак, каб усё стала ранейшым...— Ён прытуліўся шчакою да галавы свае сяброўкі, абняў Маргарыту і пачаў мармытаць: — Бедная, бедная...

— Не бывае, вы гаворыце? — сказаў Воланд.— Гэта праўда. Але мы паспрабуем,— і ён прамовіў: — Азазела!

Адразу са столі ўпаў на падлогу разгублены, амаль звар'яцелы грамадзянін у споднім, але чамусьці з чамаданчыкам і ў шапцы. Ад страху гэты чалавек калаціўся і прысядаў:

— Магарыч? — спытаўся Азазела ў таго, што ўпаў з неба.

— Алаізій Магарыч,— адказаў той, калоцячыся.

— Гэта вы, пасля таго як прачыталі артыкул Латунскага пра раман гэтага чалавека, напісалі на яго скаргу, дзе паведамлялі, што ён дома хавае забароненую літаратуру? — спытаўся Азазела.

Грамадзянін пасінеў і заліўся слязьмі.

— Вы хацелі заняць яго кватэру? — як толькі мог ласкава прагугнявіў Азазела.

У пакоі пачулася, як зашыпела разлютаваная кошка, і Маргарыта завыла:

— Памятай ведзьму, памятай! — учапілася ў твар Магарыча пазногцямі.

Усе разгубіліся.

— Што ты робіш? — пакутліва закрычаў майстар.— Марго, не ганьбі сябе!

— Пратэстую, гэта не ганьба! — крычаў кот.

Маргарыту адцягнуў Кароўеў.

— Я ванну паставіў...— ляскаючы зубамі, крычаў скрываўлены Магарыч і ад перапалоху пачаў вярзці абы-што.— Адна толькі пабелка... купарвас...

— Гэта добра, што паставілі ванну,— адобрыў Азазела,— яму патрэбны ванны.— І крыкнуў: — Вон!

Тады Магарыча перакуліла і выкінула са спальні Воланда дагары нагамі ў адчыненае акно.

Майстар вытрашчыў вочы і шаптаў:

— Аднак гэта, мабыць, не раўня таму, пра што расказваў Іван! — Вельмі ўражаны, ён азірнуўся і нарэшце сказаў кату: — Прабачце... гэта ты... гэта вы...— ён зблытаўся, не ведаў, як звярнуцца да ката,— вы той самы кот, што сядзеў у трамваі?

— Я,— пацвердзіў задаволены кот і дадаў: — Прыемна чуць, што вы гэтак ветліва звяртаецеся да ката. Катам звычайна чамусьці гавораць «ты», хоць ніводзін кот ні з кім ніколі не піў на брудэршафт.

— Мне чамусьці здаецца, што вы не зусім і кот...— нерашуча адказаў майстар.— Мяне ўсё роўна пачнуць шукаць з бальніцы,— нясмела дадаў ён Воланду.

— Чаго гэта яны будуць шукаць! — супакоіў Кароўеў, і нейкія паперы і кнігі апынуліся ў яго ў руках.— Гэта гісторыя вашай хваробы?

— Ага.

Кароўеў кінуў гісторыю ў камін.

— Няма дакументаў, няма і чалавека,— задаволена прамовіў Кароўеў,— а гэта — дамавая кніга вашага забудоўшчыка?

— Яна-а...

— Хто тут прапісаны? Алаізій Магарыч? — Кароўеў дзьмухнуў на старонку дамавое кнігі.— Раз, і няма яго, і прашу запомніць, і не было. А калі забудоўшчык здзівіцца,

скажаце яму, што Алаізій сасніўся. Нейкі Магарыч? Ніякага Магарыча не было,— і прашнураваная кніга засталася ў руках у Кароўева.— Вось яна і ў шуфлядзе ў забудоўшчыка.

— Вы правільна сказалі,— гаварыў майстар, уражаны акуратнаю работаю Кароўева,— калі няма дакумента, то няма і чалавека. Вось таму мяне і няма, бо няма дакумента.

— Прашу прабачэння,— ускрыкнуў Кароўеў,— гэта якраз і ёсць галюцынацыя, вось ён, ваш дакумент,— і Кароўеў падаў майстру дакумент. Потым ён закаціў вочы і соладка прашаптаў Маргарыце: — А вось і ваша маёмасць, Маргарыта Мікалаеўна,— і ён уручыў Маргарыце сшытак з абгарэлымі краямі, засохлую ружу, фотаздымак і асабліва шаноўна ашчадную кніжку,— дзесяць тысяч, як вы і паклалі, Маргарыта Мікалаеўна. Нам чужое не патрэбна.

— У мяне хутчэй адсохнуць лапы, чым я дакрануся да чужога,— надзьмуўшыся, усклікнуў кот і затанцаваў на чамадане, каб утаптаць у яго ўсе рукапісы злашчаснага рамана.

— І ваш дакуменцік таксама,— працягваў Кароўеў, падаючы Маргарыце дакумент, а потым з пашанаю далажыў Воланду: — Усё, месір!

— Не, не ўсё,— адказаў Воланд і адарваўся ад глобуса.— Куды скажаце дзець вашу світу, мая дарагая донна? Асабіста мне яна не патрэбна.

Тут у адчыненыя дзверы ўбегла Наташа, як і была голая, пляснула рукамі і закрычала Маргарыце:

— Будзьце шчаслівыя, Маргарыта Мікалаеўна! — яна заківала галавой майстру і зноў звярнулася да Маргарыты: — Я ведала, куды вы ходзіце.

— Хатнія работніцы ўсё ведаюць,— адзначыў кот і шматзначна падняў лапу,— памылка думаць, што яны сляпыя.

— Чаго ты хочаш, Наташа? — спыталася Маргарыта.— Вяртайся ў асабняк.

— Душачка, Маргарыта Мікалаеўна,— умольна загаварыла Наташа і стала на калені,— папрасіце іх,— яна зірнула на Воланда,— каб пакінулі мяне ведзьмаю. Не хачу я болей у асабняк! Ні за інжынера, ні за тэхніка не пайду! Мне пан Жак учора прапанову зрабіў на балі,— Наташа раскрыла кулачок і паказала нейкія залатыя манеткі.

Маргарыта запытальна паглядзела на Воланда. Той кіўнуў галавою. Тады Наташа кінулася на шыю Маргарыце, звонка яе пацалавала, пераможна ўскрыкнула і вылецела праз акно.

На Наташыным месцы апынуўся Мікалай Іванавіч. Ён меў ужо чалавечае аблічча, але быў надзвычай засмучаны, мабыць, нават і раззлаваны і засмучаны.

— Вось каго я адпушчу з асаблівым задавальненнем,— сказаў Воланд і з агідаю паглядзеў на Мікалая Іванавіча,— з асаблівым задавальненнем, бо ён тут зусім лішні.

— Я вельмі прашу выдаць мне пасведчанне,— загаварыў Мікалай Іванавіч і ўвесь час дзіка азіраўся навокал,— дзе я правёў мінулую ноч.

— Наконт чаго? — сурова спытаўся кот.

— Каб паказаць у міліцыі і жонцы,— цвёрда сказаў Мікалай Іванавіч.

— Пасведчанняў мы звычайна не выдаём,— адказаў кот і надзьмуўся,— але вам, няхай будзе па-вашаму, выключэнне зробім.

І не паспеў Мікалай Іванавіч апамятацца, як голая Гела ўжо сядзела за пішучай машынкаю, а кот дыктаваў ёй:

— Гэтым сведчым, што Мікалай Іванавіч правёў памянёную ноч на балі ў сатаны, быў прыцягнуты туды ў якасці транспартнага сродку... пастаў, Гела, дужку! У дужках напішы «япрук». Подпіс — Бегемот.

— А дата? — піскнуў Мікалай Іванавіч.

— Дат не ставім, з датаю папера будзе несапраўдная,— адазваўся кот, падмахнуў паперку, аднекуль здабыў пячатку, як і належыць, падыхаў на яе, адціснуў на паперы слова «заплачана» і ўручыў паперу Мікалаю Іванавічу. Пасля гэтага Мікалай Іванавіч знік бясследна, а на яго месцы з'явіўся нечаканы чалавек.

— Гэта яшчэ хто? — гідліва спытаўся Воланд і рукою засланіўся ад святла свечак.

Варэнуха апусціў галаву, уздыхнуў і ціха сказаў:

— Адпусціце назад. Не магу быць вампірам. Я ж тады разам з Гелаю Рымскага ледзь насмерць не ўходаў. А я не крывапіўца. Адпусціце.

— Што гэта за трызненне? — зморшчыўся і спытаўся Воланд.— Які яшчэ там Рымскі? Што ён вярзе?

— Не хвалюйцеся, калі ласка, месір,— адазваўся Азазела і звярнуўся да Варэнухі: — Хаміць не трэба па тэлефоне. Хлусіць па тэлефоне не трэба. Зразумела? Больш гэтым займацца не будзеце?

Ад радасці ў галаве ў Варэнухі ўсё змяшалася, але твар засвяціўся, і ён, ужо не памятаючы, што гаворыць, мармытаў:

— Сапраўды... я хачу сказаць, ваша вя... адразу пасля абеду...— Варэнуха прыціскаў рукі да грудзей, умольна глядзеў на Азазелу.

— Ну добра, дадому,— адказаў той, і Варэнуха растаў.

— А цяпер усе пакіньце мяне аднаго з імі,— загадаў Воланд і паказаў на майстра і Маргарыту.

Воландаў загад быў выкананы імгненна. Воланд крыху памаўчаў і звярнуўся да майстра:

— Ага, значыць, у арбацкі падвал? А хто будзе пісаць? А мары? Натхненне?

— У мяне не будзе болей ніякіх мар і натхнення,— адказаў майстар,— нішто мяне навокал не цікавіць, акрамя яе,— ён зноў паклаў руку на Маргарыціну галаву,— мяне зламалі, мне сумна, і я хачу ў падвал.

— А ваш раман? Пілат?

— Ён мне ненавісны, гэты раман,— адказаў майстар,— я залішне шмат перанёс з-за яго.

— Я прашу цябе,— жаласна папрасіла Маргарыта,— не гавары гэтага. За што ты мучыш мяне? Ты ведаеш, што я ўсё сваё жыццё ўклала ў тваю работу,— Маргарыта, звярнуўшыся да Воланда, дадала: — Не верце яму, месір, ён надта змучаны.

— Але трэба нешта апісваць,— гаварыў Воланд.— Калі вы цалкам выкарысталі пракуратара, ну, тады пачніце апісваць хаця б гэтага самага Алаізія.

Майстар усміхнуўся.

— Гэтага Лапшоннікава не надрукуе, ды гэта і не цікава.

— За што вы будзеце тады жыць? Давядзецца жабраваць.

— Ахвотна, ахвотна,— адказаў майстар, прытуліў да сябе Маргарыту, абняў яе за плечы і дадаў: — Яна адумаецца, пакіне мяне...

— Не думаю,— скрозь зубы прамовіў Воланд і працягваў: — Дык вось, чалавек, які прыдумаў гісторыю пра Понція Пілата, адыходзіць у падвал, збіраецца сесці там ля лямпы і быць жабраком?

Маргарыта адхілілася ад майстра і палымяна загаварыла:

— Я зрабіла ўсё, што змагла, я шаптала яму пра самае спакуслівае, а ён і ад гэтага адмовіўся.

— Тое, пра што вы яму шапталі, я ведаю,— запярэчыў Воланд,— але гэта не самае спакуслівае. Я вам скажу,— з усмешкаю звярнуўся ён да майстра,— ад вашага рамана будуць яшчэ вам сюрпрызы.

— Гэта вельмі сумна,— адказаў майстар.

— Не, не, не, не сумна,— сказаў Воланд,— страшнага болей нічога не будзе. Ну, Маргарыта Мікалаеўна, усё зроблена. У вас да мяне ёсць якія-небудзь прэтэнзіі?

— Што вы, што вы, месір!

— Тады вазьміце гэта на памяць,— сказаў Воланд і дастаў з-пад падушкі невялікую залатую падкову, усыпаную алмазамі.

— Не, не, за што!

— Вы хочаце паспрачацца са мною? — з усмешкаю спытаўся Воланд.

Маргарыта паклала падкову на сурвэтку, завязала яе вузлом, бо ў плашчы кішэняў не было. Яна азірнулася на акно, у якім ззяла поўня, і сказала:

— Вось чаго я не разумею... Чаму гэта ўсё поўнач, поўнач, а павінна быць ужо раніца?

— Святочную поўнач можна і падоўжыць,— адказаў Воланд.— Ну, жадаю вам шчасця!

Маргарыта малітоўна працягнула абедзве рукі да Воланда, але не пасмела наблізіцца да яго і ціха ўсклікнула:

— Бывайце! Бывайце!

— Да сустрэчы,— сказаў Воланд.

І Маргарыта ў чорным плашчы, майстар у бальнічным халаце выйшлі ў калідор ювеліршынае кватэры, у якім гарэла свечка і дзе іх чакала Воландава світа. Гела несла чамадан, у якім быў раман і небагаты Маргарыцін скарб, кот дапамагаў Геле. Ля дзвярэй на лесвіцу Кароўеў пакланіўся і знік, а астатнія пайшлі праводзіць па лесвіцы. Яна была пустая. Калі ішлі па пляцоўцы трэцяга паверха, там штосьці мякка шлёпнула, але на гэта ніхто не звярнуў увагі. Ля самых дзвярэй з шостага пад'езда Азазела дзьмухнуў угору, а як толькі выйшлі на двор, куды не даставала святло поўні, убачылі чалавека ў ботах і ў кепцы, які спаў, і спаў, відаць, мёртвым сном, а таксама вялікую чорную машыну з патушанымі фарамі, якая чакала ля пад'езда. Скрозь лабавое шкло цьмяна віднелася аблічча грака.

Ужо збіраліся садзіцца, як Маргарыта адчайна ўскрыкнула:

— Божа, я згубіла падкову!

— Сядайце ў машыну,— сказаў Азазела,— і пачакайце мяне. Я зараз вярнуся, толькі разбяруся, у чым справа.— І ён вярнуўся ў пад'езд.

А справа была ў тым: крыху раней, да выхаду Маргарыты і майстра з іх праважатымі, з кватэры № 48, якая

была пад ювеліршынай кватэрай, на лесвіцу выйшла сухенькая жанчына з бітонам і сумкаю ў руках. Гэта была тая самая Анечка, якая ў сераду разліла, на бяду Берліёза, алей ля круцёлкі.

Ніхто не ведаў, ды, пэўна, ніколі і не даведаецца, чым займалася гэтая жанчына ў Маскве і за што яна існавала. Вядома пра яе было толькі тое, што яе кожны дзень можна было ўгледзець то з сумкаю, то з бітонам, а то і з сумкаю і з бітонам адначасна — альбо ў нафталаўцы, альбо на базары, альбо ля варот дома, альбо на лесвіцы, а часцей за ўсё на кухні ў кватэры № 48, дзе і жыла Анечка. Акрамя таго, а нават і найбольш было вядома, што дзе не з'яўлялася б альбо не знаходзілася Анечка — там адразу ўсчынаўся скандал, акрамя ўсяго, мела яна мянушку «Чума».

Чума-Анечка прачыналася чамусьці надзвычай рана, а сёння наогул успаролася ні свет ні зара, а палове першае. Павярнуўся ключ у дзвярах, Анеччын нос высунуўся з іх, а потым высунулася і ўся яна цалкам, грукнула за сабой дзвярыма і ўжо наважылася рушыць кудысьці, як на верхняй пляцоўцы грукнулі дзверы, нехта паляцеў уніз, наскочыў на Анечку, адкінуў яе ўбок гэтак, што яна ўдарылася патыліцай аб сцяну.

— Куды гэта цябе чорт нясе ў адных падштаніках? — завішчала Анечка, ухапілася за патыліцу. Чалавек у адной бялізне, з чамаданчыкам у руцэ і ў кепцы, з заплюшчанымі вачыма адказаў Анечцы дзікім сонным голасам:

— Калонка! Купарвас! Адна пабелка колькі каштавала! — І, заплакаўшы, раўнуў: — Прэч!

Тут ён кінуўся бегчы, але не ўніз, а назад — угору, туды, дзе было выбіта нагою эканаміста шкло ў акне, і праз акно дагары нагамі вылецеў на двор. Анечка і пра патыліцу забылася, ахнула і кінулася да акна. Яна легла жыватом на пляцоўку, высунула галаў праз акно, чакала, што ўбачыць на асветленым ліхтаром асфальце чалавека з чамаданам, які забіўся насмерць. Але на асфальце на дварэ зусім нічога не было.

Заставалася меркаваць, што сонная і дзіўная асоба паляцела з дому як птушка і не пакінула пасля сябе ніякага следу. Анечка перахрысцілася і падумала: «Ну, сапраўды, кватэра нумар пяцьдзесят! Не дарэмна людзі гавораць!.. Ай ды кватэрка!..»

Не ўспела яна так падумаць, як дзверы зноў ляпнулі, і другі хтосьці пабег зверху. Анечка прытулілася да сцяны і ўбачыла, як нейкі даволі салідны грамадзянін са свіня-

чым тварам, як здалося Анечцы, шмыгнуў паўз яе і гэтаксама, як і першы, вылецеў з дома праз акно і не думаў забівацца аб асфальт. Анечка забылася ўжо, чаго выйшла, куды збіралася ісці, засталася на лесвіцы, хрысцілася, вохкала, размаўляла сама з сабой.

Трэці, без бародкі, з круглым паголеным тварам, у талстоўцы, выбег зверху праз нейкі час і гэтаксама вылецеў праз акно.

Трэба з гонарам сказаць, што Анечка была надзвычай цікаўная і вырашыла пачакаць, ці не здарацца новыя дзівосы. Дзверы наверсе зноў адчыніліся, і цяпер зверху сыходзіла цэлая кампанія, але не бягом, а звычайна, як і ўсе людзі. Анечка адбегла ад акна, сышла да сваіх дзвярэй, хуценька адамкнула і схавалася за імі, а ў пакінутай шчылінцы засвяцілася яе цікаўнае вока.

Хтосьці хворы не хворы, але белы з твару, зарослы шчэцщю, у чорнай шапачцы і ў нейкім халаце сыходзіў зверху няцвёрдаю хадою. Яго клапатліва вяла пад руку нейкая кабетка ў чорнай расе, як здалося Анечцы ў прыцемку. Кабетка не то босая, не то ў нейкіх празрыстых, мабыць, замежных, туфлях, зусім парваных. Цьфу ты! Што ў туфлях? Ды кабетка ж голая! На самай справе раса накінута проста на голае цела! «Ай ды кватэрка!» У душы ў Анечкі усё аж звінела ад радасці, ад прадчування, як яна раскажа пра ўсё ўбачанае суседзям.

Следам за дзіўнаю кабеткаю ішла зусім голая, з чамаданчыкам у руцэ, а ля чамаданчыка ўвіваўся вялізны чорны кот. Анечка ледзь нешта не піскнула, працерла вочы.

Апошнім ішоў маленькага росту кульгавы чужаземец з крывым вокам, без пінжака, у белай фрачнай камізэльцы і пад гальштукам. Уся гэтая кампанія паўз Анечку пайшла ўніз. Але нешта ўпала на пляцоўку.

Анечка паслухала, пакуль крокі заціхлі, як змяя, выслізнула з-за дзвярэй, бітон паставіла ля сценкі, упала жыватом на пляцоўку і пачала мацаць рукамі. У руках у яе апынулася сурвэтка з нечым цяжкім. Вочы ў Анечкі палезлі на лоб пасля таго, як яна разгарнула сурвэтку. Анечка падносіла да самых вачэй каштоўнасць, і вочы ў яе гарэлі зусім воўчым агнём. У галаве ў Анечкі круцілася завіруха:

«Ведаць нічога не ведаю!.. Да пляменніка? Ці распілаваць яе на кавалкі?.. Каменьчыкі можна павыкалупліваць... І па адным каменьчыку: адзін на Пятроўку, другі на Смаленскую. І — ведаць нічога не ведаю, і чуць нічога не чула!»

Анечка схавала знаходку за пазуху, схапіла бітон і ўжо

збіралася ырнуць назад у кватэру, адкласці сваё падарожжа ў горад, але перад ёю вырас, д'ябал яго ведае адкуль, той самы з белаю грудзінаю і без пінжака і ціха шапнуў:

— Аддавай падкоўку і сурвэтку.

— Якую яшчэ падкоўку-сурвэтку? — спыталася Анечка і даволі ўдала прытварылася.— Я ніякае сурвэткі не бачыла. Вы, грамадзянін, п'яны, ці што?

Белагруды моўчкі цвёрдымі, як поручні ў аўтобусе, і гэтакімі самымі халоднымі пальцамі сціснуў Анечку за горла гэтак, што зусім перакрыў ёй паветра. Бітон упаў на падлогу. Распрануты чужаземец крыху патрымаў Анечку без паветра і зняў пальцы з шыі. Анечка хлебанула паветра і ўсміхнулася:

— А, падкоўку? — загаварыла яна.— Зараз! Дык гэта ваша падкоўка? А я гляджу, ляжыць у сурвэтцы... Знарок падабрала, каб ніхто не падняў, а то потым і след прастыне!

Чужаземец атрымаў сурвэтку і падкоўку, пакланіўся Анечцы, моцна пацісну ёй руку і пачаў дзякаваць з моцным акцэнтам:

— Я вельмі ўдзячны вам, мадам. Падкоўка мне — дарагая як памяць, і дазвольце вам за тое, што зберагл яе, уручыць дзвесце рублёў.— І ён дастаў грошы з камізэлькі і аддаў іх Анечцы.

Тая адчайна ўсміхалася і толькі ўскрыквала:

— Ах, дзякуй вам вялікі! Мерсі, мерсі!

Шчодры чужаземец у адзін мах пераскочыў цераз цэлы лесвічны пралёт уніз, але перш чым канчаткова змыцца, крыкнуў знізу ўжо без акцэнту:

— Ты, ведзьма старая, калі чужую рэч падымеш, у міліцыю яе аддавай, а не хавай за пазуху!

Анечка чула ў галаве звон і мітусню ад усіх гэтых здарэнняў на лесвіцы і доўга яшчэ па інерцыі працягвала крычаць:

— Мерсі! Мерсі! Мерсі!

А чужаземца даўно і след прастыў.

Не было на двары і машыны, Азазела вярнуў Маргарыце Воландаў падарунак, развітаўся і спытаў, ці зручна ёй сядзець, а Гела з прыцмокам пацалавалася з Маргарытаю, кот таксама пацалаваў руку, праважатыя памахалі рукою майстру, які мёртва і нерухома прытуліўся ў кутку сядзення, махнуў граку, і адразу расталі ў паветры, каб нават і па лесвіцы не хадзіць. Грак уключыў фары, выехаў у вароты паўз мёртва заснулага чалавека ў падваротні. І агні вялікае

чорнае машыны зніклі сярод іншых агнёў на бяссоннай і шумнай Садовай вуліцы.

Праз паўгадзіны ў падвале маленькага доміка ў адным з Арбацкіх завулкаў, у першым пакоі, дзе ўсё было як і да страшнае асенняе ночы мінулага года, за сталом, які не быў засланы аксамітным настольнікам, пад лямпаю з абажурам, ля якой стаяла вазачка з ландышамі, сядзела Маргарыта і плакала ад пералсытага ўзрушэння і ад шчасця. Сшытак, скручаны агнём, ляжаў перад ёй, а побач высіўся стос некранутых сшыткаў. Домік маўчаў. У суседнім маленькім пакойчыку на канапе, накрыты бальнічным халатам, ляжаў і моцна спаў майстар. Яго роўнае дыханне было нячутным.

Маргарыта наплакалася, узялася за некранутыя сшыткі і знайшла тое месца, што перачытвала перад спатканнем з Азазелам пад Крамлёўскаю сцяною. Маргарыце не хацелася спаць. Яна гладзіла рукапіс, як гладзяць любімага ката, пакручвала ў руках, аглядала з розных бакоў, спыняла позірк то на тытульным аркушы, то на апошняй старонцы. Да яе раптам прыйшла жахлівая думка, што ўсё гэта вараўба, што вось зараз сшыткі знікнуць, што яна апынецца ў сваёй спальні ў асабняку і што пасля таго, як прачнецца, ёй давядзецца ісці тапіцца. Але гэта была апошняя думка, водгук доўгіх, пералсытых ёю пакут. Нічога не знікала, усемагутны Воланд быў сапраўды ўсемагутны, і, колькі хоча, магла Маргарыта перагортваць іх і цалаваць і перачытваць словы:

— Цемра, якая насунулася з Міжземнага мора, накрыла ненавісны пракуратару горад... Сапраўды, цемра...

# Раздзел 25

## ЯК ПРАКУРАТАР СПРАБАВАЎ ВЫРАТАВАЦЬ ЮДУ З КАРЫЯФА

Цемра, якая насунулася з Міжземнага мора, накрыла ненавісны пракуратару горад. Зніклі вісячыя масты, якія злучалі храм са страшнаю Антоніевай вежаю, абрынулася з неба прорва і заліла крылатых багоў над гіпадромам, Хасманейскі палац з байніцамі, базары, караван-сараі, завулкі, сажалкі... Знік Ершалаім — вялікі горад, быццам і не існаваў на свеце. Усё праглынула цемра, якая напалохала ўсё жывое ў Ершалаіме і наваколлі. Дзіўную хмару прыгнала з мора пад канец чатырнаццатага дня вясновага месяца нісана.

Яна ўжо насунулася, навалілася сваім чэравам на Лысую Гару, дзе каты спехам забівалі пакараных, яна навалілася на Ершалаімскі храм і яго наваколле, спаўзла дымнаю лавінаю з гары і затапіла Ніжні Горад. Яна цякла праз акенцы і заганяла з крывых вуліц людзей у дамы. Яна не спяшалася аддаваць сваю вільгаць і аддавала толькі святло. Як толькі дымнае чорнае варыва распорваў агонь, з непрагляднага мораку ўзлятала ўгору вялізная глыба храма з зіхатлівым лускавіністым дахам. Агонь патухаў імгненна, і храм патанаў у чорнай прорве. Некалькі разоў ён паўставаў з яе, потым зноў правальваўся, і кожны раз гэты правал суправаджаўся катастрафічным грукатам.

Наступныя мігатлівыя водсветы выхоплівалі з прорвы супрацьлеглы храму на заходнім узгорку палац Ірада Вялікага, і страшныя слепавокія статуі ўзляталі пад чорнае неба і працягвалі да яго рукі. Але нябесны агонь зноў знікаў, і цяжкія грамавыя ўдары заганялі залатых ідалаў у цемру.

Лівень хлынуў раптоўна, і тады навальніца перарасла ва ўраган. На тым самым месцы, дзе апоўдні каля мармуровае лаўкі ў садзе гутарылі пракуратар і першасвяшчэннік, ударам, падобным на гарматны стрэл, як палачку, зламала кіпарыс. Разам з вадзяным пылам і градам на балкон пад калоны гнала сарваныя ружы, лісце магнолій, маленькія галінкі і пясок. Ураган катаваў сад.

У гэты час пад калонамі знаходзіўся толькі адзін чалавек, і чалавек гэты быў пракуратар.

Цяпер ён не сядзеў у крэсле, а ляжаў на ложы ля нізенькага маленькага стала, на якім стаялі страва і віно ў збанах. Другое ложа пуставала з другога боку стала. Ля пракуратаравых ног стаяла непрыбраная чырвоная, быццам крывавая, лужына і валяліся чарапкі.

Слуга, які перад навальніцаю падаваў на стол пракуратару, чамусьці разгубіўся ад яго позірку, расхваляваўся з-за таго, што нечым не дагадзіў, і пракуратар раззлаваўся на яго, пабіў збан аб мазаічную падлогу са словамі:

— Чаму ў вочы не глядзіш, калі падаеш? Хіба ты штонебудзь украў?

Чорны твар афрыканца ажно пашарэў, у вачах з'явіўся смяротны жах, ён увесь затрымцеў і ледзь не пабіў другі збан, але пракуратараў гнеў знік гэтак жа хутка, як і ўспыхнуў. Афрыканец кінуўся прыбіраць асколкі і выціраць лужыну, але пракуратар махнуў рукой, і раб знік. А лужына засталася.

Цяпер афрыканец у час урагану схаваўся ў нішы, дзе

размяшчалася статуя белае голае жанчыны са схіленай галавой. Ён баяўся паказвацца на вочы і адначасна празяваць той момант, калі пракуратар можа паклікаць яго.

Пракуратар, які ляжаў у прыцемку, сам наліў сабе віна ў чашу, піў доўгімі глыткамі, час ад часу браў хлеб, крышыў яго, каўтаў маленькія кавалачкі, з'ядаў вустрыцы, жаваў лімон і зноў піў.

Калі б не шум вады, не грамавыя ўдары, якія, здавалася, гатовы разбіць дах палаца, калі б не грукат граду, які малаціў па прыступках балкона, тады можна было б пачуць, што пракуратар нешта мармыча, размаўляе сам з сабою. І калі б гарэла пастаяннае святло, а не гэтае навальнічнае, назіральнік убачыў бы, што на пракуратаравым твары з пачырванелымі ад бяссоння і ад віна вачыма відаць нецярплівасць, што пракуратар не толькі глядзіць на дзве белыя ружы, якія патанулі ў чырвонай лужыне, але і ўвесь час паварочвае твар у сад насустрач вадзяному пылу і пяску, што ён кагосьці чакае, вельмі чакае.

Прайшло крыху часу, і вадзяная сцяна перад пракуратаравымі вачыма пасвятлела. Як не лютаваў ураган, і ён пачаў слабець. Галлё болей не трашчала і не падала долу. Грукат грому і ўсплёскі маланкі заціхалі. Над Ершалаімам плыла ўжо не фіялетавая з белаю аблямоўкаю коўдра, а звычайная шэрая ар'ергардная хмара. Навальніцу адганяла да Мёртвага мора.

Цяпер асобна чуўся і дажджавы пошум, і шум вады ў жалабах і па прыступках тае лесвіцы, па якой пракуратар ішоў удзень аб'яўляць прысуд на плошчы. Нарэшце пачуўся і заглушаны дасюль фантан. Святлела. У шэрай заслоне, якая адступала на ўсход, з'явіліся сінія вокны.

І ў гэты час здалёк, прарываючыся скрозь пошум слабенькага дажджу, данесліся да пракуратаравага слыху гук труб і стракатанне соцень конскіх капытоў. Пракуратар пачуў гэта, варухнуўся, і твар яго ажыў. Ала вярталася з Лысае Гары. Калі меркаваць па гуку, яна праязджала па той самай плошчы, дзе быў аб'яўлены прысуд.

Нарэшце пачуў пракуратар і доўгачаканыя крокі, і шлёпанне па лесвіцы, якая вяла на верхнюю пляцоўку саду перад балконам. Пракуратар выцягнуў шыю, вочы яго радасна заблішчалі.

Паміж мармуровых ільвоў паказалася спачатку галава ў башлыку, а потым і ўшчэнт мокры чалавек у прыліплым да цела плашчы. Гэта быў той самы чалавек, што перад прысудам шаптаўся з пракуратарам у цёмным пакоі палаца

і які сядзеў на трохногай табурэтцы ў час пакарання і забаўляўся з дубчыкам.

Чалавек, не зважаючы на лужыны, перайшоў садовую пляцоўку, ступіў на мазаічны балкон і, падняўшы руку, сказаў зычным голасам:

— Пракуратару здароўя і радасці! — Прышэлец гаварыў па-латыні.

— Багі! — усклікнуў пракуратар Пілат.— На вас няма сухой ніткі! Які ўраган! Прашу вас да мяне. Змяніце адзенне, зрабіце ласку.

Прышэлец зняў башлык з мокрае, з прыліплымі да лба валасамі, галавы, усмешка з'явілася на яго паголеным твары, і ён пачаў адмаўляцца ад пераадзявання, пераконваў, што дожджык яму не пашкодзіць.

— Не хачу і слухаць нават,— адказаў Пілат і пляснуў у ладкі. Гэта ён выклікаў слугу і загадаў яму паклапаціцца аб прышэльцу, а потым падаваць гарачую страву. Каб пераапрануцца, высушыць валасы, пераабуцца, прышэльцу спатрэбілася няшмат часу, і хутка ён з'явіўся на балконе ў сухіх сандалях, у сухім барвовым вайсковым плашчы і з расчэсанымі валасамі.

У гэты час сонца вярнулася ў Ершалаім і, перш чым нырнуць у Міжземнае мора, слала апошнія промні на зямлю ненавіснага пракуратару горада і залаціла прыступкі балкона. Фантан канчаткова ажыў і заспяваў на поўную моц, галубы вылецелі на пясок, гулькалі, пераскоквалі цераз абламаныя галінкі, нешта клявалі ў мокрым пяску. Чырвоную лужыну прыбралі, сабралі чарапкі, на стале дымілася мяса.

— Я слухаю загад пракуратара,— сказаў прышэлец, калі падыходзіў да стала.

— Загаду не будзе, пакуль вы не сядзеце за стол і не вып'еце віна,— зычліва сказаў пракуратар Пілат і паказаў на другое ложа.

Прышэлец прылёг, слуга наліў яму ў чашу густога чырвонага віна. Другі слуга асцярожна нахіліўся над Пілатавым плячом, наліў віна яму. Пасля гэтага пракуратар махнуў рукою, каб слугі зніклі.

Пакуль прышэлец піў і еў, пракуратар пацягваў пакрысе віно і прыплюшчана глядзеў на госця. Чалавек, які прыйшоў да Пілата, быў сярэдняга веку, з прыемным, круглым, дагледжаным тварам, мясістым носам. Валасы невядома якога колеру. Яны высыхалі і святлелі. Нацыянальнасць прышэльца было цяжка вызначыць. Асноўнай прыкметай

твару было хутчэй за ўсё дабрадушша, якое, між іншым, парушалі вочы, нават не самі вочы, а тое, як глядзеў прышэлец на субяседніка. Звычайна маленькія свае вочы прышэлец хаваў пад прыплюшчанымі, крыху незвычайнымі, нібы прыпухлымі, павекамі. І ў шчылінках гэтых вачэй свяцілася нязлосная хітрынка. Трэба думаць, што пракуратараў госць разумеў гумар. Але часам гэты гумар знікаў з прыплюшчаных вачэй, пракуратараў госць расплюшчваў вочы і глядзеў на свайго субяседніка нечакана проста ў твар, нібыта хацеў лепей разгледзець нейкую непрыкметную плямку на носе ў субяседніка. Гэта займала адно імгненне, потым павекі апускаліся, і з-пад іх зноў свяцілася дабрадушша і дасціпны розум.

Прышэлец не адмовіўся ад другое чашы віна, з задавальненнем з'еў некалькі вустрыц, варанай гародніны, кавалак мяса.

Пасля таго як пад'еў, ён пахваліў віно:

— Цудоўная лаза, пракуратар, але гэта не «Фалерна».

— «Цэкуба», трыццацігадовае,— ветліва адазваўся пракуратар.

Госць прытуліў руку да сэрца, адмовіўся болей есці. Тады Пілат наліў у сваю чашу, госць зрабіў тое самае. Абодва адлілі са сваіх чаш у місу з мясам, і пракуратар прамовіў гучна з паднятаю чашаю:

— За цябе, кесар, бацька рымлян, самы дарагі і найлепшы з усіх людзей!

Пасля гэтага дапілі віно, і афрыканцы прыбралі са стала страву, пакінуўшы толькі садавіну і збаны. Зноў узмахам рукі пракуратар адправіў слуг і застаўся са сваім госцем адзін пад каланадай.

— Ну,— загаварыў Пілат ціха,— што вы можаце сказаць пра настрой у гэтым горадзе?

Ён міжволі зірнуў туды, дзе за садовымі тэрасамі, унізе, дагаралі і каланады, і пляскатыя дахі, пазалочаныя апошнімі сонечнымі промнямі.

— Я думаю, пракуратар,— адказаў госць,— што настрой людзей у Ершалаіме зараз здавальняючы.

— Можна ручацца, што бунтаў болей не будзе?

— Ручацца можна,— адказаў госць, ласкава пазіраючы на пракуратара,— за адно толькі ў свеце — за магутнасць вялікага кесара.

— Няхай багі даруюць яму доўгае жыццё,— адразу ж падхапіў Пілат,— і агульны мір.— Ён памаўчаў і працягваў: — Вы мяркуеце, што цяпер можна вывесці войска?

— Думаю, што кагорта Маланкавага можа пайсці,— адказаў госць і дадаў: — Добра было б, каб перад выхадам яна прайшла па горадзе.

— Слушная думка,— адобрыў пракуратар,— паслязаўтра я яе адпушчу і сам паеду, і — клянуся вам пірам дванаццаці багоў, ларамі клянуся — я многа аддаў бы, каб мог зрабіць гэта сёння!

— Пракуратар не любіць Ершалаім? — дабрадушна спытаўся госць.

— Злітуйцеся,— усміхаючыся, усклікнуў пракуратар,— няма горшага месца на зямлі. Я не кажу нават пра прыроду! Я кожны раз хварэю, калі мне даводзіцца сюды прыязджаць. Ды гэта паўбяды. Але гэтыя святы — магі, чараўнікі, цудатворцы, гэтыя чароды багамольцаў... Фанатыкі, фанатыкі! Чаго варты адзін гэты месія, якога яны пачалі раптам чакаць у гэтым годзе! Кожную хвіліну думаеш, што станеш сведкам непрыемнага кровапраліцця. Увесь час перамяшчаць войскі, чытаць даносы і паклёпы, палавіна якіх напісана на цябе самога! Пагадзіцеся, што гэта сумная работа. О, калі б не служба імператару!..

— Сапраўды, святы тут цяжкія,— пагадзіўся госць.

— Усёй душою жадаю, каб яны як мага хутчэй скончыліся,— энергічна дадаў Пілат.— Тады я змагу, нарэшце, вярнуцца ў Кесарыю. Паверце, гэтае вар'яцкае Ірадава збудаванне,— пракуратар махнуў рукой уздоўж каланады, і стала зразумела, што ён гаворыць пра палац,— канчаткова зробіць мяне вар'ятам. Я не магу начаваць у ім. Свет не ведаў гэтакае недарэчнае архітэктуры! Але вернемся да справы. Першае, гэты пракляты Вар-раван вас не турбуе?

Вось у гэты час госць і зірнуў сваім незвычайным позіркам на пракуратараву шчаку. Але той сумнымі вачыма глядзеў удалечыню, пагардліва моршчыўся, аглядаў частку горада, якая прасціралася ў яго пад нагамі і патанала ў надвячорку. Патух і госцеў позірк, і павекі яго заплюшчыліся.

— Трэба думаць, што Вар цяпер зрабіўся як ягня,— загаварыў госць, і маршчынкі з'явіліся на круглым твары.— Яму няёмка цяпер бунтаваць.

— Занадта знакаміты? — з усмешкаю спытаўся Пілат.

— Пракуратар, як і заўсёды, тонка разумее пытанне!

— Усё роўна,— заклапочана сказаў пракуратар, і доўгі палец з чорным камянём у пярсцёнку падняўся ўгору,— трэба будзе...

— Пракуратар можа быць спакойны, пакуль я ў Іудзеі, Вар не ступіць і кроку, каб за ім не ішлі па пятах.

— Цяпер я спакойны, як і заўсёды спакойны, калі вы тут.

— Пракуратар занадта добры!

— А цяпер прашу мне паведаміць пра пакаранне,— сказаў пракуратар.

— Што канкрэтна цікавіць пракуратара?

— Натоўп не спрабаваў выказваць абурэнне? Гэта, вядома, галоўнае.

— Зусім не,— адказаў госць.

— Вельмі добра. Вы самі пераканаліся, што яны былі мёртвыя?

— Пракуратар можа быць упэўнены.

— Скажыце... а пітво ім давалі перад тым, як распяць на слупах?

— Давалі. Але ён,— тут госць заплюшчыў вочы,— адмовіўся яго выпіць.

— Хто? — спытаўся Пілат.

— Даруйце, ігемон! — усклікнуў госць.— Я не сказаў? Ноцры.

— Вар'ят! — сказаў Пілат і зморшчыўся. Пад левым вокам у яго заторгалася жылка.— Паміраць ад сонечнае спякоты? Чаму ён адмовіўся ад таго, што належыць па законе? Як ён адмаўляўся?

— Ён сказаў,— госць зноў заплюшчыў вочы,— што дзякуе і не вінаваціць за тое, што ў яго адабралі жыццё.

— Каго? — глухім голасам спытаўся Пілат.

— Гэтага ён, ігемон, не сказаў.

— Ці не спрабаваў ён што-небудзь прапаведаваць салдатам?

— Не, ігемон, ён цяпер быў маўклівы. Адзінае, што ён сказаў, што з усіх шматлікіх недахопаў чалавечых цяпер лічыць галоўным баязлівасць.

— Чаму гэта было сказана? — пачуў госць голас, які неспадзявана надламаўся.

— Гэтага нельга было зразумець. Ён наогул паводзіў сябе дзіўна, як, дарэчы, і заўсёды.

— Што дзіўнае было?

— Ён увесь час спрабаваў паглядзець у вочы то аднаму, то другому і ўвесь час неяк разгублена ўсміхаўся.

— І болей нічога? — спытаўся ахрыплы голас.

Пракуратар грукнуў чашаю, наліў сабе віна. Ён апаражніў яе да дна і загаварыў:

— Справа ў тым: хаця мы і не можам выявіць цяпер,

прынамсі, якіх-небудзь прыхільнікаў альбо прадаўжальнікаў, але нельга паручыцца, што іх няма зусім, нельга.

Госць нахіліў галаву і ўважліва слухаў.

— І каб не здарылася якіх-небудзь сюрпрызаў,— працягваў пракуратар,— я прашу вас неадкладна і ціха прыбраць з зямлі целы ўсіх трох пакараных і пахаваць іх таемна, каб не засталося ні слыху ні дыху.

— Слухаю, ігемон,— сказаў госць і ўстаў. — Калі справа гэтакая складаная і адказная, дазвольце мне ехаць тэрмінова.

— Не, прысядзьце,— Пілат рухам рукі спыніў госця,— ёсць яшчэ два пытанні. Другое — вашы вялікія заслугі на самай цяжкай пасадзе начальніка сакрэтнае службы пры пракуратары Іудзеі даюць мне прыемную магчымасць далажыць пра гэта ў Рыме.

Госцеў твар у гэты час паружавеў, ён устаў і пакланіўся пракуратару.

— Я толькі выконваю свой абавязак на імператарскай службе!

— Але я хацеў бы папрасіць, каб вы, калі вам прапануюць перавод па службе адсюль з павышэннем, адмовіліся і засталіся тут. Мне нізавошта не хацелася б разлучацца з вамі. Няхай вас неяк інакш узнагародзяць.

— Я шчаслівы, што служу пад вашым кіраўніцтвам, ігемон.

— Мне прыемна гэта. Цяпер трэцяе пытанне. Яно пра гэтага, як яго... Юду з Карыяфа.

Госць стрэльнуў у пракуратара сваім адметным позіркам і адразу патушыў яго.

— Кажуць, што ён,— працягваў пракуратар ціішэй,— быццам бы атрымаў грошы за тое, што гэтак прыязна частаваў звар'яцелага філосафа.

— Атрымае,— ціха паправіў пракуратара Пілата начальнік сакрэтнае службы.

— Многа грошай?

— Гэтага ніхто не ведае, ігемон.

— Нават вы? — сваім здзіўленнем ігемон пахваліў.

— Нават я,— спакойна адказаў госць.— Але тое, што ён атрымае гэтыя грошы сёння вечарам, гэта я ведаю. Сёння яго выклікаюць у палац да Каіфы.

— Ах, прагны стары з Карыяфа,— з усмешкаю сказаў пракуратар.— Ён жа стары?

— Пракуратар ніколі не памыляецца, але цяпер ён памыліўся,— ветліва запярэчыў госць,— чалавек з Карыяфа малады.

— Праўда? Ахарактарызаваць яго можаце? Фанатык?
— Ды не, пракуратар.
— Ага. Яшчэ што-небудзь?
— Вельмі прыгожы.
— Яшчэ? Магчыма, мае да нечага вялікую схільнасць?
— Цяжка пра гэта даведацца ў такім вялікім горадзе, пракуратар...
— Э, не, не, Афраній! Не прымяншай сваіх заслуг.
— Ёсць у яго адна схільнасць, пракуратар.— Госць на долю секунды прымоўк.— Ён прагны да грошай.
— Чым ён займаецца?
Афраній паглядзеў угору, падумаў і адказаў:
— Ён працуе мянялам у лаўцы ў свайго сваяка.
— А, вунь яно што,— пракуратар замоўк, азірнуўся, ці няма каго на балконе і потым ціха прамовіў: — Вось у чым справа — я маю звесткі, што яго сёння ноччу зарэжуць.
У гэты час госць не толькі кінуў свой позірк на пракуратара, але і затрымаў яго на ім, а потым адказаў:
— Вы, пракуратар, занадта добрае думкі пра мяне. Я, мабыць, не заслугоўваю, каб вы дакладвалі пра мяне. Я не маю гэтакіх звестак.
— Вы заслугоўваеце самае высокае ўзнагароды. Але звесткі такія ёсць,— адказаў пракуратар.
— Дазвольце мне пра гэта не гаварыць, бо яны выпадковыя, недакладныя і ненадзейныя. Але мне трэба ўсё прадбачыць. Гэтакая пасада ў мяне, а больш за ўсё я веру свайму прадчуванню, яно мяне ніколі не падманвала. Звесткі такія, што хтосьці з невядомых сяброў Га-Ноцры, абураны страшнаю здрадаю гэтага мянялы, змовіўся з сябрамі забіць яго ноччу, а грошы, атрыманыя за здраду, падкінуць першасвяшчэнніку з запіскай: «Вяртаю праклятыя грошы».
Болей сваіх нечаканых позіркаў начальнік сакрэтнае службы на ігемона не накіроўваў, слухаў яго прымружана, а Пілат працягваў:
— Уявіце, як прыемна будзе першасвяшчэнніку ў святочную ноч атрымаць гэтакі падарунак?
— Вельмі непрыемна,— усмешліва адказаў госць,— я нават думаю, пракуратар, што з-за гэтага атрымаецца вялікі скандал.
— І я гэтак думаю. Таму і прашу вас заняцца гэтым, значыць, забяспечыць ахову Юды з Карыяфа.
— Загад ігемона будзе выкананы,— сказаў Афраній,— але я павінен супакоіць ігемона: зладзейскую задуму надзвычай цяжка выканаць. Гэта ж трэба падумаць толькі,—

госць азірнуўся і працягваў: — Высачыць чалавека, зарэзаць яго, ды яшчэ ведаць, колькі атрымаў, ды і грошы вярнуць Каіфу, і ўсё за адну ноч? Сённяшнюю?

— Як бы там ні было, яго зарэжуць сёння,— упарта паўтарыў Пілат,— у мяне прадчуванне, гавару вам! Не было выпадку, каб прадчуванне мяне падманвала,— сутарга сцяла пракуратараў твар, і ён коратка пацёр рукі.

— Слухаюся,— пакорліва адказаў госць, устаў і раптам спытаўся сурова: — Значыць, зарэжуць, ігемон?

— Зарэжуць,— адказаў Пілат,— і спадзяванне толькі на вашу выключную здольнасць.

Госць паправіў папругу пад плашчом і сказаў:

— Гонар маю, жадаю здароўя і радасці!

— Пачакайце,— ціха ўсклікнуў Пілат,— я зусім забыў! Я ваш даўжнік!..

Госць здзівіўся:

— Праўда, пракуратар, вы мне нічога не павінны.

— Як гэта не павінен! Калі я ўязджаў у Ершалаім, памятаеце, натоўп жабракоў... я хацеў яшчэ грошы сыпануць ім, а ў мяне не было, і я ўзяў у вас.

— Пракуратар, гэта дробязь зусім!

— І пра дробязь трэба памятаць.

Пілат азірнуўся, падняў плашч, які ляжаў за ім на крэсле, узяў з-пад яго скураны мяшок і падаў госцю. Той узяў, схаваў пад плашч і пакланіўся.

— Я чакаю,— сказаў Пілат,— даклада пра пахаванне, а таксама пра справу Юды з Карыяфа сёння ноччу, чуеце, Афраній, сёння. Канвой атрымае каманду будзіць мяне, як толькі вы з'явіцеся. Я вас чакаю.

— Гонар маю,— сказаў начальнік сакрэтнае службы, завярнуўся і выйшаў з балкона. Пачуўся хруст мокрага пяску ў яго пад нагамі, потым пачуўся грукат ботаў па мармуры паміж ільвоў, потым зніклі яго ногі, тулава, і, нарэшце, знік і башлык. І толькі цяпер пракуратар заўважыў, што няма сонца і пачалося змярканне.

## Раздзел 26

### ПАХАВАННЕ

Магчыма, гэтае змярканне і было прычынаю таго, што пракуратар перамяніўся з выгляду. Ён быццам пастарэў відавочна, згорбіўся, акрамя таго, зрабіўся нервовым. Адзін

раз ён нават азірнуўся і чамусьці скалануўся, паглядзеўшы на пустое крэсла, дзе ляжаў толькі плашч. Надыходзіла сяточная ноч, вечаровыя цені рабілі сваю работу, і, мабыць, стомленаму пракуратару здалося, што хтосьці сядзіць у незанятым крэсле. Пракуратар спалохаўся — крануў плашч, кінуў яго, забегаў па балконе, падбягаў да стала, хапаўся за чашу, спыняўся і пачынаў раўнадушна глядзець на мазаічную падлогу, нібы спрабаваў прачытаць нешта напісанае.

Сёння двойчы яго апаноўвала сумота. Ён паціраў скроню, у якой ад ранішняга болю застаўся толькі тупы, гнятлівы ўспамін. Пракуратар усё спрабаваў зразумець, што з'яўляецца прычынаю яго душэўных пакут. І ён хутка зразумеў гэта, але хацеў падмануць самога сябе. Цяпер ён разумеў, што ўдзень штосьці незваротна страціў, і цяпер страту гэтую ён хоча апраўдаць нейкім дробным і нікчэмным учынкам. Падман быў у тым, што пракуратар стараўся пераканаць сябе, быццам цяперашні вечаровы загад не менш значны, чым ранішні прысуд. Але з гэтага нічога не выходзіла.

На адным з паваротаў ён раптоўна спыніўся і свіснуў. У адказ на гэты свіст у прыцемку загрымеў густы сабачы брэх, і з саду выскачыў на балкон вялізны, вастравухі, шэры сабака з аброжкам з пазалочанымі бляшкамі.

— Банга, Банга,— слаба крыкнуў пракуратар.

Сабака стаў на заднія лапы, а пярэднія паклаў на плечы гаспадару, ледзь не паваліўшы на падлогу, і лізнуў яго ў шчаку. Пракуратар сеў у крэсла, Банга, высунуўшы язык і цяжка дыхаючы, лёг ля гаспадаровых ног, і радасць у сабачых вачах была ад таго, што скончылася навальніца, адзінае ў свеце, чаго баяўся бясстрашны сабака, а таксама ад таго, што ён тут, побач з тым чалавекам, якога любіць і паважае і лічыць самым магутным ва ўсім свеце, валадаром усіх людзей, дзякуючы якому і сябе самога сабака лічыў істотаю незвычайнаю, вышэйшаю і асаблівaю. Але пасля таго, як улёгся ля ног, хаця і не глядзеў на гаспадара, а глядзеў у змяркальны сад, сабака адразу зразумеў, што яго гаспадара спасцігла бяда. Таму ён устаў, зайшоў збоку і пярэднія лапы і галаву паклаў пракуратару на калені, забрудзіўшы плашч мокрым пяском. Гэтым Банга, мабыць, хацеў суцешыць свайго гаспадара ў бядзе і запэўніць, што ён застаецца з ім. Гэта ён імкнуўся сказаць і позіркам скошаных на гаспадара вачэй, і наструненымі вушамі. Гэтак абодва яны, і сабака і чалавек, якія любяць адзін аднаго, сустрэлі святочную ноч на балконе.

Тым часам пракуратураў госць меў шмат клопату. З верхняе пляцоўкі перад балконам ён сышоў на наступную тэрасу саду, завярнуў направа і выйшаў да казармаў, якія размяшчаліся на тэрыторыі палаца. У гэтых казармах і размяшчаліся тыя дзве кентурыі, якія прыйшлі разам з пракуратарам на свята ў Ершалаім, а гэтаксама таемная пракуратарава служба, якой камандаваў той самы госць. Госць пабыў у казармах нядоўга, не больш за дзесяць хвілін, у гэты час з варот казармы выехалі тры падводы, нагружаныя далакопным інструментам і бочкаю з вадой. Падводы суправаджалі пятнаццаць чалавек у шэрых плашчах, конна. З гэтакім суправаджэннем падводы выехалі з тэрыторыі палаца праз заднія вароты, пакіравалі на захад, праз вароты ў гарадской сцяне выбраліся спачатку на Віфлеемскую дарогу, прайшлі па ёй на поўнач да перакрыжавання ля Хеўронскіх varotaў і толькі тады рушылі па Яфскай дарозе, па якой удзень праходзіла шэсце з асуджанымі на пакаранне. У гэты час ужо сцямнела і над небакраем узыходзіў месяц.

Неўзабаве пасля таго, як паехалі вазы з канвоем, пакінуў тэрыторыю палаца конна і пракуратараў госць, пераапрануты ў цёмны паношаны хітон.

Госць накіраваўся не за горад, а ў горад. Праз нейкі час можна было ўбачыць, што ён пад'язджае да крэпасці Антонія, якая размяшчалася на поўначы і недалёка ад вялікага палаца. У крэпасці госць пабыў таксама нядоўга, а потым яго можна было ўбачыць у Ніжнім Горадзе, на яго крывых і заблытаных пакручастых вулачках. Сюды госць ужо прыехаў верхам на муле.

Госць добра ведаў горад і вельмі хутка адшукаў патрэбную яму вулачку. Яна называлася Грэцкаю, бо на ёй размяшчалася некалькі грэцкіх крамак, у тым ліку і тая, у якой прадавалі дываны. Менавіта ля гэтае крамкі госць спыніў свайго мула, злез і прывязаў яго за колца ля варот. Крамка была ўжо замкнёная. Госць зайшоў праз варотцы, якія былі побач з уваходам у крамку, і трапіў у невялікі квадратны дворык, абстаўлены хлеўчукамі. Ён пакіраваў у двары за вугал і апынуўся ля мураванае тэрасы жылога дома, абвітага плюшчом, агледзеўся. У доміку і ў хлявах было цёмна, агню яшчэ не запальвалі.

Госць ціха паклікаў:

— Ніза!

У адказ зарыпелі дзверы, і ў вечаровых прыцемках на тэрасе паказалася маладая жанчына без пакрывала. Яна нахілілася над парэнчамі тэраскі, трывожна ўзіралася, спраба-

вала пазнаць, хто прыйшоў. Пазнала прышэльца, прыветна ўсміхнулася яму, заківала галавой, махнула рукою.

— Ты адна? — ціха па-грэцку спытаўся Афраній.

— Адна,— шапнула жанчына на тэрасе.— Муж раніцай паехаў у Кесарыю.— Тут жанчына азірнулася на дзверы і дадала шэптам: — Але служанка дома.— І яна дала знак, што можна зайсці. Афраній азірнуўся і ступіў на мураваныя прыступкі. Пасля гэтага жанчына і ён зніклі ў доміку.

У гэтае жанчыны Афраній пабыў зусім мала, не болей чым пяць хвілін. Пасля гэтага ён пакінуў домік, спусціўся з тэрасы, ніжэй насунуў на вочы башлык і выйшаў на вуліцу. У гэты час у дамах ужо запальвалі святло, перадсвяточнае стоўпатварэнне было яшчэ даволі вялікае, і Афраній на сваім муле знік у плыні пешаходаў і конных. Далейшы яго шлях нікому невядомы.

Жанчына, якую назваў Афраній Нізаю, як толькі засталася адна, адразу ж пачала пераапранацца. Яна спяшалася. Але як ні цяжка было ёй адшукваць патрэбныя рэчы ў цемры, святла яна не запальвала і служанку не клікала. Толькі пасля таго як сабралася і на галаве было цёмнае пакрывала, у доміку пачуўся яе голас:

— Калі будуць пытацца мяне, скажы, што пайшла ў госці да Энанты.

Пачулася бурчанне старое служанкі ў цемры:

— Да Энанты? Ай, гэтая Энанта! Забараніў жа муж хадзіць да яе! Зводня яна, твая Энанта! Вось скажу мужу...

— Ну, ну, ну, замоўкні,— адазвалася Ніза і, як цень, выслізнула з доміка. Нізіны сандалі загрукалі па плітах у дворыку. Служанка незадаволена зачыніла дзверы на тэрасу. Ніза пакінула свой дом.

У гэты самы час з другога завулка ў Ніжнім Горадзе, завулка пакручастага, які тэрасамі спускаўся да адной з гарадскіх сажалак, з варотцаў звычайнага доміка, які глухой сцяной выходзіў у завулак, а вокнамі на двор, выйшаў малады чалавек з акуратна падстрыжанай барадой у белым чыстым кефі, які падаў на плечы, у новым святочным блакітным таліфе з кутасікамі ўнізе і новых рыпучых сандалях. Гарбаносы прыгажун, які прыбраўся перад вялікім святам, ішоў бадзёра, абганяў прахожых, якія спяшаліся дадому на святочную вячэру, глядзеў, як запальваліся адно за адным вокны. Малады чалавек накіроўваўся па дарозе, якая вяла паўз базар да палаца першасвяшчэнніка Каіфы, які размяшчаўся ля падножжа храмавага ўзгорка.

Праз нейкі час можна было бачыць, як ён зайшоў у варо-

ты Каіфавага двара, а крыху пазней — як ён выходзіў адтуль.

Пасля наведвання палаца, у якім ужо палалі свяцільнікі і факелы, дзе панавала святочная мітусня, малады чалавек пайшоў яшчэ весялей і заспяшаўся назад у Ніжні Горад. На тым самым рагу, дзе вуліца ўлівалася ў базарны пляц, у бурлівасці і штурханіне яго перагнала нейкай прытанцоўваючай хадой лёгкая жанчына ў чорным пакрывале, апушчаным на самыя вочы. Калі жанчына абганяла прыгажуна, яна на нейкае імгненне адкінула пакрывала, апякла позіркам, але не запаволіла кроку, а, наадварот, пайшла хутчэй, быццам хацела ўцячы ад таго, каго перагнала.

Малады чалавек не толькі заўважыў жанчыну, не, ён нават пазнаў яе, а пасля таго як пазнаў, здрыгануўся, недаўменна паглядзеў услед і адразу ж кінуўся даганяць. Ён ледзь не збіў з ног нейкага прахожага са збаном у руках, дагнаў жанчыну, цяжка дыхаючы ад хвалявання, паклікаў яе:

— Ніза!

Жанчына завярнулася, прымружылася, на твары ў яе адбілася халодная незадаволенасць, і суха адказала па-грэцку:

— А, гэта ты, Юда? А я не адразу пазнала цябе. Але добра. У нас ёсць прыкмета, што той, каго не пазнаюць, будзе багатым...

Юда хваляваўся гэтак, што сэрца яго аж трапятала, як птушка пад чорным покрывам, Юда спытаўся перарывістым шэптам, каб не чулі прахожыя:

— Куды ты ідзеш, Ніза?

— А навошта табе? — Ніза запаволіла хаду і звысоку глядзела на Юду.

У Юдавым голасе пачулася нейкая дзіцячая інтанацыя, ён разгублена зашаптаў:

— Але як гэта?.. Мы ж дамовіліся. Я хацеў зайсці да цябе. Ты сказала, што ўвесь вечар будзеш дома...

— Ай, не, не,— капрызна адказала Ніза, адтапырыла ніжнюю губу, а Юду здалося, што яе твар, самы прыгожы твар ва ўсім свеце, зрабіўся яшчэ прыгажэйшы,— мне стала сумна. У вас свята, а мне што рабіць? Сядзець і слухаць, як ты ўздыхаеш на тэрасе? І баяцца, што служанка пра ўсё раскажа мужу? Не, не, і я вырашыла пайсці за горад паслухаць салаўёў.

— Як за горад? — спытаўся разгублена Юда.— Адна?

— Вядома, адна,— адказала Ніза.

— Дазволь мне суправаджаць цябе,— папрасіў Юда, задыхаючыся ад хвалявання. У галаве ў яго затуманілася,

ён забыўся пра ўсё на свеце і з мальбою глядзеў у блакітныя, а цяпер, здавалася, чорныя Нізіны вочы.

Ніза нічога не адказала і пайшла шпарчэй.

— Чаму ты маўчыш, Ніза? — жаласна спытаўся Юда, параўняўшыся з ёй.

— А мне не будзе сумна з табою? — раптам спыталася Ніза і спынілася. Цяпер у галаве ў Юды зусім зацьмілася.

— Ну, добра,— злітавалася нарэшце Ніза,— пойдзем.

— А куды, куды?

— Пачакай... зойдзем у гэты дворык і дамовімся, а то я баюся, што ўбачыць хто-небудзь са знаёмых і потым скажуць, што я была з палюбоўнікам на вуліцы.

І зніклі з базара Ніза і Юда. Яны шапталіся ў падваротні нейкага двара.

— Ідзі ў маслінны маёнтак,— шаптала Ніза, нацягваючы пакрывала на вочы і адварочваючыся ад нейкага чалавека, які з вядром якраз заходзіў у двор,— у Гефсіманію, за Кедрон, зразумеў?

— Ага, ага, ага.

— Я пайду першая,— працягвала Ніза,— а ты не бяжы ўслед, адстань. Калі пяройдзеш ручай... ты ведаеш, дзе грот?

— Ведаю, ведаю...

— Пройдзеш паўз маслічны прэс угору і заварочвай да грота. Я буду там. Але не смей ісці следам, май цярпенне, пачакай тут.— З гэтымі словамі Ніза выйшла з падваротні, быццам і не была там, не гаварыла з Юдам.

Юда пастаяў нейкі час адзін, спрабаваў ачомацца. Падумалася пра тое, як ён растлумачыць сваю адсутнасць на святочнай вячэры ў сваякоў. Юда стаяў і выдумляў, што схлусіць, але ад хвалявання нічога не мог прыдумаць, а ногі самі міжволі вынеслі яго з падваротні.

Цяпер ён змяніў накірунак, ён не ішоў у Ніжні Горад, а завярнуў назад да Каіфавага палаца. Свята ўжо ўступіла ў горад. Вакол Юды ў вокнах ужо не толькі гарэла святло, але і чуліся галасы. Тыя, хто спазняўся, крычалі на вослікаў, падганялі іх. Ногі самі неслі Юду, і ён не заўважыў, як паўз яго праляцелі страшныя замшэлыя вежы Антонія, ён не чуў трубнага рыкання ў крэпасці, не звярнуў ніякае ўвагі на конны рымскі патруль з факеламі, які трывожным святлом асвятліў яго дарогу.

Юда выйшаў з вежы, завярнуўся назад, угледзеў, што ў страшэннай вышыні над храмам запаліліся два гіганцкіх пяцісвеччы. Іх Юда разгледзеў слаба, яму здалося, што над Ершалаімам запалілі дзесяць фантастычных лампад, якія

супернічалі са святлом адзінае лампады, якая ўсё вышэй уставала над Ершалаімам,— з поўняю.

Але зараз нішто не цікавіла Юду, ён спяшаўся да Гефсіманскіх варотаў, яму хацелася хутчэй выйсці з горада. Часам яму здавалася, што наперадзе, між постацей прахожых прытанцоўвае знаёмая постаць, вядзе яго следам. Але гэта быў падман — Юда разумеў, што Ніза намнога перагнала яго. Юда прабег паўз крамку мяняльшчыкаў, трапіў нарэшце ў Гефсіманскія вароты. Ён гарэў ад нецярпення, але павінен быў затрымацца. У горад уваходзілі вярблюды, потым ехаў конны сірыйскі патруль, які Юда пракляў у думках...

Але ўсё канчаецца. Скончыўся і горад, нецярплівы Юда быў ужо за гарадскою сцяной. Леваруч Юда ўбачыў маленькія магілкі, каля іх некалькі паласатых шатроў з багамольцамі. Юда перайшоў залітую месячным святлом пыльную дарогу і накіраваўся да кедронскага ручая, каб перайсці цераз яго. Вада ціха цурчала пад Юдавымі нагамі. Па каменьчыках ён пераскочыў на гефсіманскі бераг і з вялікаю радасцю ўбачыў, што дарога ў садзе бязлюдная. Непадалёку відаць былі вароты маслліннага маёнтка.

Пасля душнага горада Юду ўразіў дурманны водар вясновае ночы. З саду цераз агароджу наплывала хваля паху мірту і акацый з гефсіманскіх палян.

Вароты не ахоўваліся нікім, нікога пад імі не было, і праз некалькі хвілін Юда спяшаўся подбегам у таямнічым цяні пад разложыстымі аграмаднымі маслінамі. Дарога ішла ўгору, Юда цяжка дыхаў, на імгненне вынырваў з цемры на ўзорыстыя месячныя дываны, якія нагадвалі яму тыя дываны, якія ён бачыў у раўнівага Нізінага мужа ў краме. Праз нейкі час мільганула леваруч ад Юды паляна, масліčны прэс з цяжкім каменным колам і куча нейкіх бочак. У садзе не было нікога. Работа скончылася ўдзень, і цяпер над Юдам заліваліся салаўіныя хоры.

Да мэты Юду было зусім блізка. Ён ведаў, што справа ў цемры зараз пачуе ціхі шэпт падаючай у гроце вады. Гэтак і адбылося, ён пачуў вадзяны шэпт. Рабілася ўсё халадней.

Тады ён прыцішыў хаду і ціха паклікаў:

— Ніза!

Але замест Нізы ад тоўстага маслінавага ствала адліпла і выскачыла на дарогу мужчынская каржакаватая постаць, нешта бліснула ў яе руцэ і адразу ж патухла. Юда слабенька ўскрыкнуў, кінуўся ўцякаць, але другі чалавек заступіў яму дарогу.

Першы, які быў наперадзе, спытаўся ў Юды:

— Колькі табе заплацілі? Гавары, калі жыць хочаш!

Спадзяванне ўспыхнула ў Юдавым сэрцы, і ён адчайна ўскрыкнуў:

— Трыццаць тэтрадрахмаў. Усё ў мяне з сабою. Вось грошы! Бярыце, але жывым пакіньце!

Пярэдні чалавек імгненна выхапіў з Юдавых рук кашалёк. І ў тое самае імгненне за плячыма ў Юды ўзляцеў нож і, як маланка, ударыў закаханага пад лапатку. Юду кінула наперад, рукі з сагнутымі ў крук пальцамі ўскінуліся ўгору. Пярэдні чалавек злавіў Юду на свой нож і да самага тронка ўсадзіў яго ў Юдава сэрца.

— Ні... за...— не сваім, звонкім і чыстым маладым голасам, а голасам хрыплым і глухім прамовіў Юда і болей — ніводнага гуку. Цела яго гэтак моцна ўдарылася аб зямлю, што яна загудзела.

Тады трэцяя постаць з'явілася на дарозе. Гэты трэці быў у плашчы і ў башлыку.

— Паспяшайцеся,— прамовіў ён. Забойцы хутка запакавалі кашалёк разам з запіскаю, пададзенаю трэцім, у скуру і завязалі накрыж вяроўкаю. Другі запхнуў пакунак за пазуху, і абодва забойцы кінуліся з дарогі ў бакі, і цемра праглынула іх між маслін. Трэці тым часам прысеў ля забітага, зазірнуў яму ў твар. У цемры ён быў надзвычай белы, як крэйда, нейкі прыгожа адухоўлены.

Праз некалькі секунд нікога жывога на дарозе не было. Мёртвае цела ляжала з раскінутымі рукамі. Левы ступак трапіў якраз пад месячнае святло, і таму кожны раменьчык быў добра бачны на сандалі. А ўвесь Гефсіманскі сад у гэты час гудзеў ад салаўіных спеваў. Куды накіраваліся тыя двое, што зарэзалі Юду, нікому невядома, але куды пайшоў трэці, у башлыку, вядома. Са сцежкі ён скіраваў у маслінны гушчар і пачаў прабірацца на поўдзень. Ён пералез цераз садовую агароджу збоч ад галоўных варотаў, у паўднёвым кутку, там, дзе выпалі верхнія камяні ў муры. Неўзабаве ён быў на беразе Кедрона. Тады ён ступіў у ваду і нейкі час ішоў па ёй, пакуль не ўбачыў абрысы двух коней і чалавека ля іх. Коні гэтаксама стаялі ў вадзе. Вада цякла, абмывала іхнія капыты. Канавод сеў на аднаго каня, чалавек у башлыку ўскочыў на другога, коні павольна пайшлі па вадзе, і было чуваць, як пахруствала пад капытамі каменне. Потым коннікі выехалі з вады, выбраліся на ершалаімскі бераг і паехалі ступой пад гарадскою сцяною. Тады канавод паехаў наперад і знік з вачэй, а чалавек у башлыку спыніў каня, злез з яго на пустэльнай дарозе, зняў свой плашч, вывернуў яго,

дастаў з-пад плашча пляскаты шлем без пер'я, надзеў яго. Цяпер на каня сеў чалавек у вайсковай хламідзе і з кароткім мячом на бядры. Ён крануў павады, і гарачы кавалерыйскі конь паімчаў рыссю, пакалыхваючы конніка. Шлях у яго быў кароткі — коннік пад'язджаў да паўднёвых варотаў Ершалаіма.

Пад аркаю варотаў танцавала і мітусілася неспакойнае полымя ад паходняў. Вартавыя салдаты з другой кентурыі Маланкавага батальёна сядзелі на каменных лаўках і гулялі ў косці. Яны ўсхапіліся на ногі, як угледзелі вайскоўца, але той махнуў ім рукой і паехаў у горад.

Горад быў заліты святочнымі агнямі. У кожным акне трымцела полымя свяцільнікаў, навокал гучалі словы, зліваючыся ў адзіны хор. Зрэдку пазіраючы ў вокны, коннік мог убачыць людзей за святочнымі сталамі, на якіх ляжала казлінае мяса, стаялі чашы з віном між місаў з горкімі травамі. Коннік пачаў насвістваць нейкую песеньку і прабіраўся рыссю далей па вулачках Ніжняга Горада, кіраваў да Антоніевае вежы, зрэдку пазіраў на вядомыя ўсяму свету пяцісвеччы, якія палалі над храмам, альбо на поўню, якая вісела вышэй, чым пяцісвеччы.

Палац Ірада Вялікага не прымаў ніякага ўдзелу ў святкаванні апошняе велікоднае ночы. У гаспадарчых пабудовах палаца, якія выходзілі на поўдзень і дзе размясціліся афіцэры рымскае кагорты і легат легіёна, свяціліся агні, там адчуваўся нейкі рух і жыццё. Пярэдняя частка, у якой быў адзіны жыхар,— пракуратар,— уся, са сваімі каланадамі і залатымі скульптурамі, быццам аслепла пад белаю поўняю. Тут, у сярэдзіне палаца, панавалі цемра і цішыня. І туды пракуратар, як і гаварыў Афранію,ісці не захацеў. Ён загадаў паслаць пасцель на балконе, там, дзе абедаў, дзе раніцай вёў допыт. Ён лёг на прыгатаванае ложа, але сон не хацеў прыходзіць да яго. Голая поўня нізка вісела на небе, і пракуратар не адводзіў ад яе позірку на працягу некалькіх гадзін.

Прыкладна апоўначы сон злітаваўся над пракуратарам. Пракуратар пазяхнуў, зняў папругу з шырокім сталёвым нажом у похвах, паклаў яго на крэсла побач з ложам, зняў сандалі і выпрастаўся. Банга адразу ўзлез да яго на пасцель і лёг побач, галава да галавы, і пракуратар, паклаўшы руку на сабачую шыю, заплюшчыў нарэшце вочы. Толькі пасля гэтага заснуў і сабака.

Ложа знаходзілася ў прыцемку, захінутае ад поўні калонаю, але ад прыступак з ганка да ложа цягнулася месячная стужка. І ледзь толькі пракуратар страціў сувязь з усім, што

было навокал, ён адразу рушыў па асветленай сцяжынцы і пайшоў па ёй угору, проста да поўні. Ён спрасонку нават засмяяўся ад шчасця, што ўсё атрымалася гэтак цудоўна і непаўторна на празрыстай блакітнай дарозе. Ён ішоў у суправаджэнні Бангі, а побач з ім ішоў вандроўны філосаф. Яны спрачаліся пра нешта складанае і значнае, і ніводзін не мог перамагчы. Яны ні ў чым не пагаджаліся адзін з адным, і таму спрэчка была гэтакая цікавая і бясконцая. Відавочна, што сённяшняе пакаранне аказалася звычайным непаразуменнем — бо вось ён, філосаф, які выдумаў зусім неверагодную рэч накшталт тае, што ўсе людзі добрыя, ішоў побач, а значыць, ён жывы. І, вядома, зусім жахліва было нават і падумаць, што гэтакага чалавека можна пакараць. Пакарання не было! Вось у чым была галоўная асалода ад гэтага падарожжа ўгору па месячнай лесвіцы.

Вольнага часу было гэтулькі, колькі хочацца, і навальніца будзе толькі пад вечар, і баязлівасць, вядома, адна з самых страшных чалавечых заган. Гэтак гаварыў Іешуа Га-Ноцры. Не, філосаф, я табе запярэчу: гэта самая страшная загана.

Напрыклад, не збаяўся ж цяперашні пракуратар Іудзеі, былы трыбун у легіёне, калі ў Даліне Дзеў лютыя германцы ледзь не загрызлі Крысабоя-Веліканa. Але даруйце, філосаф! Няўжо вы, разумны чалавек, думаеце, што з-за чалавека, які зрабіў злачынства супраць кесара, загубіць сваю кар'еру пракуратар Іудзеі?

— Так, так,— стагнаў, усхліпваў спрасонку Пілат.

Вядома, загубіць. Раніцай сёння яшчэ не загубіў бы, а цяпер, ноччу, калі ўсё ўзважыў, загубіць. Ён адважыцца на ўсё, каб выратаваць ад пакарання ні ў чым не вінаватага дзівакаватага летуценніка і доктара!

— Цяпер мы з вамі будзем заўсёды разам,— гаварыў яму ў сне абшарпаны філосаф-бадзяга, які невядома якім чынам паўстаў на дарозе ў конніка з залатым кап'ём.— Калі адзін, то, значыць, і другі побач! Успомняць мяне, адразу ж і цябе ўспомняць! Мяне, падкідыша, бацькі якога невядомыя, і цябе — сына караля-астролага і дачкі млынара, прыгажуні Пілы!

— Ды ты ўжо не забудзься, успомні пра мяне, сына астролага,— прасіў спрасонку Пілат. І пасля таго як старац-спадарожнік з Эн-Сарыда даў згоду кіўком галавы, жорсткі пракуратар Іудзеі плакаў і смяяўся скрозь сон.

Усё гэта было добра, але абуджэнне было жахлівае. Банга загырчаў на поўню, і слізкая, быццам аблітая алеем,

блакітная дарога перад пракуратарам нібы правалілася. Ён расплюшчыў вочы, і першае, што ўспомніў, было пакаранне. Пакаранне адбылося. Першае, што зрабіў пракуратар, гэта сціснуў аброжак Бангі, потым хворым позіркам адшукаў поўню і ўбачыў, што яна крыху адышла ўбок і паблякла. Яе святло перамагло непрыемнае мігатлівае святло, якое блішчала на балконе перад самымі вачыма. У руках у кентурыёна Крысабоя палала і курадыміла паходня. Крысабой са страхам і злосцю касавурыўся на звера, які быў гатовы скочыць.

— Не чапаць, Банга,— сказаў пракуратар хворым галасам і кашлянуў. Ён засланіўся рукою ад полымя і працягваў: — І ноччу пры поўні мне няма спакою. О багі! У вас таксама дрэнная пасада, Марк... Салдат вы калечыце...

Марк здзіўлена глядзеў на пракуратара, і той апамятаўся. Каб згладзіць дарэмна сказаныя словы спрасонку, пракуратар сказаў:

— Не крыўдуйце, кентурыён. Мне, паўтараю, яшчэ горш. У чым справа?

— Да вас начальнік тайнае службы,— спакойна паведаміў Марк.

— Клічце, клічце,— прачысціўшы кашлем горла, загадаў пракуратар і пачаў босымі нагамі намацваць сандалі. Полымя замітусілася на калонах, загрукалі кентурыёнавы калігі па мазаіцы. Кентурыён выйшаў у сад.

— І пры поўні мне няма спакою,— скрыгануўшы зубамі, сам сабе прамовіў пракуратар.

На балконе замест кентурыёна паказаўся чалавек у башлыку.

— Банга, не чапаць,— ціха сказаў пракуратар і сціснуў сабаку загрывак.

Перш чым гаварыць, Афраній, як і звычайна, азірнуўся навокал і адступіў у цень, пераканаўшыся, што няма нікога чужога, акрамя Бангі, ціха сказаў:

— Прашу аддаць мяне пад суд, пракуратар. Ваша праўда. Я не змог зберагчы Юду з Карыяфа, яго зарэзалі. Прашу судзіць мяне і зняць з пасады.

Афранію здалося, што на яго глядзяць чатыры вокі — сабачыя і ваўчыныя.

Афраній дастаў з-пад хламіды закарэлы ад крыві кашалёк з дзвюма пячаткамі.

— Вось гэты мяшок з грашыма забойцы падкінулі ў дом першасвяшчэнніку. На гэтым мяшку кроў Юды з Карыяфа.

— Колькі там, цікава? — спытаў Пілат і нахіліўся да кашалька.

— Трыццаць тэтрадрахмаў.

Пракуратар усміхнуўся і сказаў:

— Мала.

Афраній маўчаў.

— Дзе забіты?

— Гэтага не ведаю,— спакойна, з годнасцю адказаў чалавек, які не разлучаўся са сваім башлыком,— раніцай сёння пачнём шукаць.

Пракуратар скалануўся, пакінуў у спакоі раменьчык на сандалі, які не зашпільваўся.

— А вы дакладна ведаеце, што ён забіты?

Пракуратар атрымаў кароткі адказ:

— Я, пракуратар, пятнаццаць гадоў на рабоце ў Іудзеі. Я пачаў службу пры Валерыю Граце. Мне не абавязкова трэба бачыць труп, каб сказаць, што чалавек забіты, і таму я вам зараз дакладаю, што чалавек, якога звалі Юдам з Карыяфа, некалькі гадзін таму зарэзаны.

— Прабачце мяне, Афраній,— адказаў Пілат,— я яшчэ не прачнуўся як след, таму і сказаў гэта. Я дрэнна сплю,— пракуратар усміхнуўся,— і ўвесь час сню месячны промень. Уявіце, як смешна, быццам бы я хаджу па гэтым промні. Такім чынам, я хацеў бы ведаць, што вы думаеце пра гэта? Дзе вы збіраецеся яго шукаць? Сядайце, начальнік тайнай службы.

Афраній пакланіўся, падсунуў крэсла бліжэй да ложа і сеў, грукнуўшы мячом.

— Я збіраюся шукаць яго непадалёку ад маслічнага прэса ў Гефсіманскім садзе.

— Ага, ага. А чаму менавіта там?

— Ігемон, я думаю, Юда забіты не ў самім Ершалаіме і не далёка ад яго. Ён забіты пад Ершалаімам.

— Лічу вас адным з лепшых майстроў свае справы. Я не ведаю, як наконт гэтага ў Рыме, але ў калоніях роўнага вам няма. Растлумачце чаму?

— Нават думкі не дапускаю,— ціха гаварыў Афраній,— каб Юда даўся каму-небудзь у рукі ў горадзе. На вуліцы ціха не зарэжаш. Выходзіць, яго павінны былі завабіць у які-небудзь падвал. Але служба ўжо шукала яго ў Ніжнім Горадзе, і несумненна знайшла б. Яго няма ў горадзе, за гэта я ручаюся. Калі б яго забілі далёка за горадам, то пакунак з грашыма не маглі б гэтак хутка падкінуць. Яго забілі паблізу горада, куды змаглі выманіць.

— Не разумею, як гэта можна было зрабіць.

— Сапраўды, пракуратар, гэта самае цяжкае пытанне, і нават я не ведаю, ці здолею гэта разблытаць.

— Сапраўды, загадка! Святочным вечарам веруючы ідзе невядома чаго за горад, пакідае святочнае застолле і там гіне. Хто і як мог яго тады завабіць? Ці не жаночых рук справа? — раптам загарэўся пракуратар.

Афраній адказваў спакойна і важка:

— Ні ў якім выпадку, пракуратар. Гэта выключаецца. Трэба думаць лагічна. Каму патрэбна была Юдава смерць? Нейкія вандроўныя фантазёры, нейкі гурток, у якім не было ніякіх жанчын. Каб ажаніцца, пракуратар, патрэбны грошы, каб нарадзіць чалавека на свет таксама патрэбны грошы, але каб зарэзаць чалавека пры дапамозе жанчыны, трэба надта многа грошай, і ні ў якіх валацуг іх няма. Жанчына не ўдзельнічала ў гэтай справе, пракуратар. Нават болей, такое тлумачэнне забойства можа збіць са следу, замінаць следству і блытаць мяне.

— Я бачу, што ваша праўда, Афраній,— гаварыў Пілат,— і я толькі дазволіў сабе выказаць сваё меркаванне.

— На жаль, памылковае, пракуратар.

— Але як жа тады? — усклікнуў пракуратар і прагна паглядзеў у твар Афранію.

— Мяркую, што ўсё з-за грошай.

— Цудоўная думка! Але хто і за што мог прапанаваць яму ноччу грошы за горадам?

— Не, пракуратар, не так. У мяне ёсць адзінае меркаванне, і калі яно не спраўдзіцца, то іншага і прыдумаць не магу.— Афраній нахіліўся да пракуратара і шэптам дадаў: — Юда хацеў схаваць хрошы ў надзейным, толькі яму вядомым месцы.

— Даволі дасціпнае тлумачэнне. Відаць, яно гэтак і было. Цяпер я разумею: яго выманілі не людзі, а ўласная думка. Ага, ага, праўда.

— Сапраўды. Юда быў недаверлівы. Ён хаваў грошы ад людзей.

— Ага, вы сказалі, у Гефсіманіі. А чаму менавіта там вы збіраецеся яго шукаць — гэтага, прызнацца, я не разумею.

— О, пракуратар, гэта прасцей за ўсё. Ніхто не будзе хаваць грошы на дарозе, на адкрытых і пустэльных месцах. Юда не быў ні на дарозе ў Хеўрон, ні на дарозе ў Віфанію. Яму трэба было ціхае ўтульнае месца, дзе растуць дрэвы. Гэ-

та проста. А гэтакіх месцаў, акрамя Гефсіманіі, пад Ершалаімам няма. Далёка ён ісці не мог.

— Вы цалкам пераканалі мяне. Тады што рабіць зараз?

— Я неадкладна пачну шукаць забойцаў, якія высачылі Юду за горадам, а сам тым часам, як ужо гаварыў, пайду пад суд.

— За што?

— Мая ахова згубіла яго ўчора на базары пасля таго, як ён выйшаў з палаца Каіфы. Як гэта здарылася, не разумею. Такога ў маім жыцці не здаралася. Назіранне было наладжана адразу пасля нашай размовы. Але на базары ён некуды перакінуўся, зрабіў пятлю і знік бясследна.

— Зразумела. Аб'яўляю вам, што я не бачу патрэбы аддаваць вас пад суд. Вы зрабілі ўсё, што маглі, і ніхто на свеце,— тут пракуратар усміхнуўся,— не змог бы зрабіць лепей за вас! Пакарайце сышчыкаў, якія згубілі Юду, але і тут я хацеў бы, каб пакаранне не было строгае. Урэшце, мы зрабілі ўсё, каб паклапаціцца пра гэтага нягодніка! Ага, я забыўся спытаць,— пракуратар пацёр лоб,— як гэта яны ўмудрыліся падкінуць грошы Каіфу?

— Бачыце, пракуратар... Гэта не вельмі цяжка. Мсціўцы зайшлі ззаду палаца, дзе завулак вышэй, чым задні двор, і перакінулі пакунак цераз плот.

— З запіскаю?

— З запіскаю, як вы і меркавалі, пракуратар. Дарэчы,— тут Афраній сарваў пячаткі з пакунка і паказаў начынне пракуратару Пілату.

— Злітуйцеся, што вы робіце, Афраній, пячаткі, відаць, храмавыя.

— Пракуратару не трэба з-за гэтага хвалявацца,— адказаў Афраній і згарнуў пакунак.

— Няўжо ўсе пячаткі ёсць у вас? — спытаўся Пілат і засмяяўся.

— Інакш не можа і быць, пракуратар,— зусім сур'ёзна і нават сурова адказаў Афраній.

— Уяўляю, што тварылася ў Каіфы?

— Сапраўды, пракуратар, гэта выклікала вялікае хваляванне. Яны адразу паклікалі мяне.

Нават у цемры відаць было, як бліснулі Пілатавы вочы.

— Гэта цікава, цікава...

— Асмелюся запярэчыць, пракуратар, цікавага было мала. Сумная і нудная справа. Калі я спытаўся, ці не плацілі каму-небудзь грошы ў палацы Каіфы, мне адказалі, што гэтага не было.

— Нават так? Ну, што ж, не плацілі дык, значыць, не плацілі. Тым цяжэй будзе знайсці забойцаў.

— Сапраўды, пракуратар.

— Ага, Афраній, вось што мне прыйшло ў галаву: можа, ён самагубствам жыццё скончыў?

— Ды не, пракуратар,— адказаў Афраній і нават адкінуўся ў крэсле,— выбачайце, але гэта зусім неверагодна!

— Ды ў гэтым горадзе ўсё можа быць! Я гатовы пайсці ў заклад, што зусім хутка распаўзуцца і такія чуткі.

Тут Афраній зірнуў на пракуратара, падумаў і адказаў:

— Гэта можа быць, пракуратар.

Пракуратар, відаць, ніяк не мог адкаснуцца ад гэтага забойства чалавека з Карыяфа, хаця ўсё было ясна, і ён прамовіў нават летуценна:

— А мне б хацелася ўбачыць, як яны яго забівалі.

— Забілі яго досыць умела, пракуратар,— адказаў Афраній і крыху іранічна паглядзеў на пракуратара.

— Адкуль вы гэта ведаеце?

— Паглядзіце на пакунак, пракуратар,— адказаў Афраній,— я ручаюся, што Юдава кроў хлынула струменем. Мне давялося, пракуратар, за сваё жыццё пабачыць забітых.

— Ён болей не ўстане?

— Не, пракуратар, ён устане,— з усмешкаю, па-філасофску сказаў Афраній,— калі труба Месіі, якога тут чакаюць, прагучыць над ім. Але да гэтага ён не ўстане.

— Хопіць, Афраній! З гэтым пытаннем ясна. Пяройдзем да пахавання.

— Пакараныя пахаваны, пракуратар.

— Ну, Афраній, судзіць вас было б сапраўднае злачынства. Вы заслугоўваеце найвышэйшую ўзнагароду. Як было?

Афраній пачаў расказваць і паведаміў, што ў той час, як ён сам займаўся справай Юды, каманда таемнае службы, якою кіраваў яго памочнік, была вечарам на ўзгорку. Аднаго цела на вяршыні яна не знайшла. Пілат здрыгануўся і прамовіў хрыпла:

— Ах, як я пра гэта не здагадаўся!

— Не варта турбавацца, пракуратар,— сказаў Афраній і працягваў далей: — Целы Дзісмаса і Гестаса з выклеванымі драпежнымі птушкамі вачыма забралі і адразу кінуліся шукаць трэцяе. Яго хутка знайшлі. Нейкі чалавек...

— Левій Мацей,— не запытальна, а пераканана прамовіў Пілат.

— Ён, пракуратар...

— Левій Мацей хаваўся ў пячоры на паўночным схіле Лысай Гары, чакаў, пакуль сцямнее. Голае цела Іешуа Га-Ноцры было ў яго. Калі варта зайшла ў пячору з паходняй, Левій зрабіўся злосным і адчайным. Ён крычаў, што не зрабіў злачынства, што кожны чалавек мае права пахаваць пакаранага злачынца, калі захоча, і што гэта не караецца законам. Левій Мацей гаварыў, што не хоча разлучацца з нябожчыкам. Ён быў расхваляваны, нешта крычаў, прасіў, пагражаў і праклінаў...

— Яго давялося арыштаваць? — пахмура прамовіў Пілат.

— Не, пракуратар, не,— вельмі спакойна адказаў Афраній,— дзёрзкага вар'ята ўдалося супакоіць, растлумачыць, што нябожчык будзе пахаваны.

Левій, калі да яго дайшоў сэнс сказанага, супакоіўся, але заявіў, што нікуды не пойдзе і хоча ўдзельнічаць у пахаванні. Ён сказаў, што нікуды не пойдзе, нават калі яго пачнуць забіваць, ён нават прапаноўваў хлебны нож, які быў у яго.

— Яго прагналі? — здушана прамовіў Пілат.

— Не, пракуратар, не. Мой памочнік дазволіў яму ўдзельнічаць у пахаванні.

— Хто з вашых памочнікаў кіраваў гэтым? — спытаўся Пілат.

— Талмай,— адказаў Афраній і трывожна дадаў: — Магчыма, ён памыліўся?

— Працягвайце,— адказаў Пілат,— памылкі не было. Я наогул пачынаю губляцца, Афраній, я, відаць, маю справу з чалавекам, які ніколі не памыляецца. Гэты чалавек — вы.

— Левія Мацея ўзялі на воз разам з целамі пакараных і праз дзве гадзіны былі ў пустэльнай цясніне на поўнач ад Ершалаіма. Там каманда на змену тры гадзіны капала глыбокую яму і ў ёй пахавала траіх пакараных.

— Голых?

— Не, пракуратар,— каманда ўзяла з сабою дзеля гэтага хітоны. На пальцы пахаваным былі надзеты пярсцёнкі. Іешуа з адной насечкаю. Дзісмасу з дзвюма, Гестасу з трыма. Яму засыпалі, закідалі каменнем. Апазнавальны знак Талмай ведае.

— Ах, каб мог я прадбачыць! — пракуратар загаварыў і зморшчыўся.— Мне трэба было б пабачыць гэтага Левія Мацея...

— Ён тут, пракуратар.

— Пахавальнай камандзе прашу выдаць узнагароду.

Сышчыкам, якія згубілі Юду,— вымова. А Левія Мацея зараз жа да мяне. Мне трэба падрабязнасці па справе Іешуа.

— Слухаюся, пракуратар,— адазваўся Афраній і пачаў адступаць, кланяючыся пракуратару, а пракуратар пляснуў у ладкі і крыкнуў:

— Да мяне, сюды! Свяцільнік у каланаду!

Афраній ужо ўваходзіў у сад, а за плячыма Пілата ў руках слуг мільгалі агні. Тры свяцільнікі на стале паўсталі перад пракуратарам, і месячная ноч адразу ж адступіла ў сад, быццам Афраній павёў яе за сабой. Замест Афранія на балконе з'явіўся маленькі худы чалавечак побач з гігантам кентурыёнам. Гэты другі перахапіў пракуратараў позірк, адступіў назад і адразу знік у садзе.

Пракуратар прыглядаўся да прышэльца прагнымі і крыху спалоханымі вачыма. Гэтак глядзяць на таго, пра каго чулі многа, пра каго думалі і хто, нарэшце, з'явіўся.

Чалавеку было гадоў пад сорак, учарнелы, абшарпаны, у засохлай гразі, глядзіць па-воўчы з-пад ілба. Адным словам, прывабнага мала, больш падобны на жабрака, якіх шмат таўчэцца на тэрасах храма альбо на базарах шумнага і бруднага Ніжняга Горада.

Маўчанне працягвалася доўга і парушана было дзіўнымі паводзінамі прыведзенага да Пілата. Ён змяніўся з твару, пахіснуўся і, калі б не паспеў ухапіцца бруднаю рукою за край стала, упаў бы.

— Што з табою? — спытаўся ў яго Пілат.

— Нічога,— адказаў Левій Мацей і зрабіў гэтакі рух, нібы нешта пракаўтнуў. Худая, голая, брудная шыя набухла і зноў апала.

— Адказвай, што з табою,— паўтарыў Пілат.

— Я стаміўся,— адказаў Левій і панура паглядзеў на падлогу.

— Сядзь,— прамовіў Пілат і паказаў на крэсла.

Левій недаверліва паглядзеў на пракуратара, рушыў да крэсла, спалохана зірнуў на пазалочаныя білцы і сеў не на крэсла, а побач з ім на падлогу.

— Растлумач, чаму не сеў на крэсла? — спытаўся Пілат.

— Я брудны, я вымажу яго,— сказаў Левій, гледзячы долу.

— Зараз табе дадуць пад'есці.

— Я не хачу есці,— адказаў Левій.

— А хлусіць нашто? — ціха спытаўся Пілат.— Ты не еў цэлы дзень, а магчыма, і болей. Добра, не еш. Я паклікаў цябе, каб ты паказаў мне нож, які быў у цябе.

— Салдаты адабралі яго ў мяне, калі вялі сюды,— сказаў Левій і дадаў панура: — Вы мне яго аддайце, мне яго трэба вярнуць гаспадару, я ўкраў яго.

— Нашто?

— Каб вяроўкі перарэзаць,— адказаў Левій.

— Марк! — крыкнуў пракуратар, і кентурыён увайшоў пад калоны.— Дайце мне яго нож.

Кентурыён дастаў з похваў на папрузе брудны хлебны нож, падаў яго пракуратару, а сам выйшаў.

— У каго ўзялі нож?

— У хлебнай крамцы ля Хеўронскіх варотаў, як увойдзеш у горад злева.

Пілат паглядзеў на шырокае лязо, паспрабаваў на палец, ці востры нож, і сказаў:

— Пра нож не турбуйся, нож вернуць у краму. А цяпер мне трэба другое: пакажы хартыю, якую ты носіш з сабою і дзе запісаны словы Іешуа.

Левій ненавісна паглядзеў на Пілата і гэтак нядобра ўсміхнуўся, што твар у яго зусім скрывіўся.

— Усё хочаце адабраць? І апошняе, што маю? — спытаўся ён.

— Я не сказаў табе — аддай,— адказаў Пілат,— я сказаў — пакажы.

Левій папоркаўся за пазухай і дастаў скрутак пергаменту. Пілат узяў яго, разгарнуў, разаслаў паміж агнёў, прымружыўся і пачаў вывучаць малавыразныя чарнільныя знакі. Цяжка было расчытаць гэтыя нязграбныя радкі, Пілат крывіўся, нагінаўся да самага пергаменту, вадзіў пальцам па радках. Яму ўдалося разабраць, што напісанае ўяўляе блытаны ланцужок нейкіх выказванняў, нейкіх дат, гаспадарчых запісаў і паэтычных урыўкаў. Сёе-тое Пілат расчытаў: «Смерці няма... Учора мы елі салодкія вясновыя бакуроты...»

Пілат крывіўся ад напружання, прымружваўся, чытаў: «Мы ўгледзім чыстую раку жыццёвае вады... Чалавецтва будзе глядзець на сонца скрозь празрысты крышталь...»

Раптам Пілат здрыгануўся. У апошніх радках пергаменту ён разабраў словы: «...большая загана... баязлівасць».

Пілат скруціў пергамент і рэзка падаў яго Левію.

— Вазьмі,— сказаў ён, памаўчаў і дадаў: — Ты, я бачу, кніжнік, і няма чаго табе аднаму бадзяцца, як жабраку і валацугу. У мяне ў Кесарыі ёсць вялікая бібліятэка, я даволі багаты чалавек і хачу ўзяць цябе на службу. Ты будзеш раскладваць і захоўваць папірусы, будзеш накормлены і адзеты.

Левій устаў і адказаў:

— Не, я не хачу.

— Чаму? — спытаўся пракуратар і насупіўся.— Ты мяне не любіш, баішся мяне?

Ранейшая нядобрая ўсмешка скрывіла твар Левія, і ён сказаў:

— Не, таму, што ты мяне будзеш баяцца. Табе не лёгка будзе глядзець мне ў вочы пасля таго, як ты яго забіў.

— Змоўкні,— адказаў Пілат,— вазьмі грошай.

Левій адмоўна паківаў галавой, а пракуратар працягваў:

— Ты, я ведаю, лічыш сябе вучнем Іешуа, але я скажу, што ты нічога не засвоіў з таго, чаму ён вучыў цябе. Во, калі б гэта было так, ты ўзяў бы хоць што ў мяне. Май на ўвазе, што ён перад смерцю сказаў, што нікога не вінаваціць,— Пілат шматзначна падняў палец, твар яго перасмыкаўся.— І сам ён абавязкова ўзяў бы хоць што-небудзь. Ты жорсткі, а той не быў жорсткі. Куды ты пойдзеш?

Левій раптам падышоў да стала, упёрся ў яго рукамі, паглядзеў ліхаманкавымі вачыма на пракуратара і зашаптаў:

— Ты, ігемон, ведай, што я ў Ершалаіме зарэжу аднаго чалавека. Мне хочацца сказаць табе пра гэта, каб ты ведаў, што кроў яшчэ будзе.

— Я сам ведаю, што яна яшчэ будзе,— адказаў Пілат,— ты не здзівіў мяне сказаным. Ты, вядома, хочаш зарэзаць мяне?

— Цябе мне зарэзаць не ўдасца,— адказаў Левій, скалячыся ўсмешкаю,— я не гэтакі дурань, каб на гэта разлічваць, але я зарэжу Юду з Карыяфа, я на гэта аддам астатак жыцця.

Тут задавальненне адбілася ў пракуратаравых вачах, ён падазваў бліжэй да сябе пальцам Левія Мацея і сказаў:

— Гэта табе не ўдасца зрабіць, не турбуйся. Юду сёння ноччу ўжо зарэзалі.

Левій адскочыў ад стала, дзіка азірнуўся і выкрыкнуў:

— Хто гэта зрабіў?

— Не будзь раўнівым,— з ухмылкаю адказаў Пілат і пацёр рукі,— я ведаю, што былі ў яго прыхільнікі і акрамя цябе.

— Хто зрабіў гэта? — шэптам паўтарыў Левій.

Пілат адказаў яму:

— Я зрабіў.

Левій разявіў рот, вылупіўся на пракуратара, а той сказаў ціха:

— Гэтага, вядома, мала, але я ўсё ж зрабіў.— І дадаў: — Ну, а цяпер возьмеш што-небудзь?

Левій падумаў, палагаднеў і нарэшце прамовіў:

— Загадай даць мне кавалак чыстага пергаменту.

Прайшла гадзіна. Левія не было ў палацы. Цяпер ранішнюю цішыню парушаў толькі ціхі шум крокаў ва́ртавых у садзе. Поўня хутка зліняла, на другім баку неба віднелася плямка ранішняе зоркі. Свяцільнікі даўным-даўно патухлі. На ложы ляжаў пракуратар. Ён паклаў руку пад шчаку і спаў і дыхаў нячутна. Побач з ім спаў Банга.

Гэтак сустракаў світанак пятнаццатага нісана пяты пракуратар Іудзеі Понцій Пілат.

## Раздзел 27

### КАНЕЦ КВАТЭРЫ № 50

Калі Маргарыта дачытала да апошніх слоў раздзел: «...Гэтак сустракаў світанак пятнаццатага нісана пяты пракуратар Іудзеі Понцій Пілат»,— настала раніца.

Чуваць было, як у дворыку ў галінах вярбы і ліпы вялі вясёлую, узбуджаную ранішнюю размову вераб'і.

Маргарыта ўстала, пацягнулася, і толькі зараз адчула, якое змучанае яе цела і як яна хоча спаць. Цікава адзначыць, што душа Маргарыціна была ў поўным спакоі. Думкі не рассыпаліся, яе зусім не трывожыла, што яна правяла незвычайную ноч. Яе не хвалявалі ўспаміны, што ноччу яна была на балі ў сатаны, што нейкім цудам ёй вярнулі майстра, што з попелу ўзнік раман, што зноў усё апынулася на сваіх месцах у падвале, з якога выгналі ябедніка Алаізія Магарыча. Адным словам, знаёмства з Воландам не прынесла ёй ніякай псіхічнай шкоды. Усё было так, як быццам і павінна было быць.

Яна пайшла ў суседні пакой, пераканалася, што майстар спіць моцна і спакойна, патушыла непатрэбную ўжо настольную лямпу і сама выпрасталася ля супрацьлеглае сценкі на канапцы, засланай старою парванаю прасцінаю. Праз хвіліну яна заснула, і нічога ёй у тую раніцу не снілася. Маўчалі пакоі ў падвале, маўчаў увесь маленькі домік забудоўшчыка, і было ціха ў пустым завулку.

А ў гэты час, гэта значыць суботнім досвіткам, не спаў цэлы паверх адной маскоўскай установы, і вокны яго, якія выходзілі на заасфальтаваную вялікую плошчу, якую спецы-

яльныя машыны, паволі снуючы туды-сюды, чысцілі шчоткамі, свяціліся поўным святлом, якое перамагала святло ранішняга сонца.

Увесь паверх быў заняты следствам па справе Воланда, і таму лямпы гарэлі ноч напралёт у дзесяці кабінетах.

Уласна, усё было зразумела з учарашняга дня, з пятніцы, калі давялося закрыць Вар'етэ пасля знікнення яго адміністрацыі і ўсяго, што адбылося там напярэдадні ў час знакамітага сеанса чорнае магіі. Але справа ў тым, што ўвесь час бесперапынна паступалі на бяссонны паверх усё новыя і новыя матэрыялы.

Цяпер следству па гэтай дзіўнай справе, ад якой увачавідкі патыхала д'ябальшчынаю, ды яшчэ з дадаткам нейкіх гіпнатызёрскіх фокусаў і відавочнага крыміналу, трэба было ўсе розныя і заблытаныя здарэнні, якія адбыліся ў розных канцах Масквы, зляпіць у адзін камяк.

Першы, каму давялося пабыць у зіхоткім ад электрычнага бяссоння паверсе, быў Аркадзій Апалонавіч Семпляраў, старшыня Акустычнай камісіі.

Пасля абеду ў пятніцу ў ягонай кватэры, якая была ў доме каля Каменнага моста, пачуўся тэлефонны званок, і мужчынскі голас папрасіў да тэлефона Аркадзія Апалонавіча. Жонка, якая падышла да тэлефона, незадаволена адказала, што Аркадзію Апалонавічу нездаровіцца і што ён прылёг адпачыць і падысці да апарата не можа. Аднак Аркадзію Апалонавічу падысці да апарата ўсё ж давялося. У адказ на пытанне, адкуль пытаюцца Аркадзія Апалонавіча, голас у тэлефоннай трубцы коратка сказаў адкуль.

— Адну секундачку... зараз... секундачку...— прашчабятала звычайна вельмі пагардлівая жонка старшыні Акустычнай камісіі і стралою паляцела ў спальню падымаць з ложка Аркадзія Апалонавіча, які пякельна мучыўся ад успамінаў пра ўчарашні сеанс і пра начны скандал, якім суправаджалася выгнанне з яго кватэры саратаўскай сваячкі.

Праўда, не праз секунду, але і не праз мінуту, праз чвэрць мінуты Аркадзій Апалонавіч, у адной пантофлі на левай назе, у споднім, ужо быў ля апарата і сакатаў у яго:

— Ага, гэта я... Слухаю, слухаю...

Жонка яго, якая на гэты час забылася пра ўсе мярзотныя злачынствы супроць вернасці ёй, якія ўчыніў Аркадзій Апалонавіч, са спалоханым тварам вызірала ў калідор, совала пантофляй у паветра і шаптала:

— Пантофлю адзень, пантофлю... Ногі прастудзіш,—

у адказ на што Аркадзій Апалонавіч адмахваўся босай нагой, люта вытрэшчваў вочы і мармытаў у тэлефон:

— Ага, ага, ага, я разумею, як жа... Зараз выязджаю...

Увесь вечар Аркадзій Апалонавіч прабыў на тым самым паверсе, дзе ішло следства. Размова была цяжкая, непрыемная, бо давялося зусім шчыра расказваць не толькі пра гэты надзвычай непрыемны сеанс і бойку ў ложы, але заадно і пра Міліцу Андрэеўну Пакабацька з Ялохаўскае вуліцы, і пра саратаўскую сваячку, і шмат пра што яшчэ, расказваць пра што Аркадзію Апалонавічу была самая сапраўдная пакута.

Само сабою зразумела, што сведчанне Аркадзія Апалонавіча, інтэлігентнага і культурнага чалавека, які быў сведкам гэтага брыдотнага сеанса, сведкі талковага і кваліфікаванага, які цудоўна абмаляваў і самога таямнічага мага ў масцы, і двух яго нягоднікаў-памагатых, які добра памятаў, што прозвішча мага Воланд,— вельмі дапамагло следству. Супастаўленне сведчанняў Аркадзія Апалонавіча з іншымі, сярод якіх былі і сведчанні пань, якія пацярпелі ў час сеанса (тае, у фіялетавай бялізне, якая ўразіла Рымскага і іншых), і кур'ера Карпава, якога пасылалі ў кватэру № 50 на Садовую вуліцу,— уласна, адразу вызначылі і тое месца, дзе трэба шукаць віноўніка ўсіх гэтых прыгод.

У кватэры № 50 пабылі, і неаднойчы, і не толькі старанна аглядалі яе, але праступвалі нават сцены, аглядалі каміны, шукалі тайнікі. Але гэтыя мерапрыемствы ніякага выніку не далі, і ні разу ў кватэры нікога застаць не ўдалося, хаця і зусім зразумела было, што ў кватэры хтосьці ёсць, нягледзячы на тое, што ўсе асобы, якія займаліся чужаземцамі, што прыязджаюць у Маскву, рашуча і катэгарычна сцвярджалі, што ніякага чорнага мага Воланда ў Маскве няма і быць не можа.

Ён нідзе не зарэгістраваўся пасля прыезду, нікому не паказваў свайго пашпарта альбо іншых папер, кантрактаў і дагавораў, і ніхто пра яго нічога не чуў! Загадчык праграмнага аддзела Відовішчнай камісіі Кітайцаў кляўся і бажыўся, што ніякае праграмы выступлення ніякага Воланда зніклы Сцёпа Ліхадзееў яму на зацвярджэнне не прысылаў і нічога пра прыезд Воланда Кітайцаву не тэлефанаваў. Таму яму, Кітайцаву, і не вядома, і не зразумела, як у Вар'етэ Сцёпа дазволіў гэтакі сеанс. Калі гаварылі, што Аркадзій Апалонавіч на свае вочы бачыў гэтага мага на сеансе, Кітайцаў толькі разводзіў рукамі і падымаў вочы ў неба. І нават па адных вачах Кітайцава было відаць і можна было смела сцвярджаць, што ён чысты, як крышталь.

Той самы Прохар Пятровіч, старшыня галоўнай Відовішчнай камісіі...

Дарэчы, ён вярнуўся ў свой касцюм адразу, як толькі міліцыя зайшла ў кабінет, на бязмежную радасць Анне Рычардаўне і на вялікае здзіўленне дарэмна патурбаванае міліцыі. Яшчэ дарэчы: як толькі вярнуўся на сваё месца ў свой паласаты касцюм, Прохар Пятровіч цалкам адобрыў усе свае рэзалюцыі, якія касцюм напісаў за час яго кароткай адсутнасці.

...Дык вось, той самы Прохар Пятровіч зусім нічога не ведаў ні пра якога Воланда.

Атрымлівалася, воля ваша, нешта несусветнае: тысяча гледачоў, увесь штат Вар'етэ, нарэшце, Семпляяраў Аркадзій Апалонавіч, адукаванейшы чалавек, бачылі гэтага мага гэтак, як і праклятых яго асістэнтаў, а між тым нідзе яго знайсці няма ніякае магчымасці. Дык дазвольце запытацца: ён скрозь зямлю праваліўся, ці што пасля таго выступлення, ці, як сцвярджаюць некаторыя, зусім не прыязджаў у Маскву? Але калі дапусціць першае, то няма сумнення, што ў правал ён захапіў і ўсю галоўку адміністрацыі Вар'етэ, а калі другое, то ці не атрымліваецца, што сама адміністрацыя няшчаснага тэатра ўчыніла нейкую мярзотнасць (успомніце толькі пабітае акно ў кабінеце і паводзіны Тузабубен!) і бясследна знікла з Масквы.

Трэба аддаць належнае таму, хто ўзначальваў следства. Зніклага Рымскага адшукалі надзвычай хутка. Варта толькі супаставіць паводзіны Тузабубен ля таксаматорнага прыпынку каля кінематографа з часам, напрыклад, калі скончыўся сеанс і калі мог знікнуць Рымскі, каб неадкладна даць тэлеграму ў Ленінград. Праз гадзіну быў атрыманы адказ (у пятніцу вечарам), што Рымскі знойдзены ў нумары чатырыста дванаццатым гатэля «Асторыя», на чацвёртым паверсе, побач з нумарам, дзе спыніўся загадчык рэпертуару аднаго з маскоўскіх тэатраў, якія гастралююць у Ленінградзе, у тым самым нумары, дзе, як вядома, шэра-блакітная мэбля з золатам і цудоўнае ваннае аддзяленне.

Рымскі, які хаваўся ў шафе для адзення чатырыста дванаццатага нумара «Асторыі», быў адразу ж арыштаваны і дапытаны ў Ленінградзе. У Маскву прыйшла тэлеграма, якая паведамляла, што фіндырэктар не ў сваім розуме, нічога толкам адказаць не можа ці не хоча і просіць толькі аднаго, каб яго схавалі ў браніраваную камеру і паставілі пры ёй узброеную варту. З Масквы тэлеграмай было загада-

на прывезці Рымскага ў Маскву, таму Рымскі пад аховай і выехаў у пятніцу вечарам на цягніку.

Пад вечар у пятніцу знайшлі і след Ліхадзеева. Ва ўсе гарады паслалі тэлеграмы з запытам пра Ліхадзеева, і з Ялты быў атрыманы адказ, што Ліхадзееў быў у Ялце, але вылецеў на аэраплане ў Маскву.

Адзіны след, які не ўдалося знайсці, гэта быў след Варэнухі. Вядомы літаральна ўсёй Маскве знакаміты адміністратар нібыта скрозь зямлю праваліўся.

Адначасова давялося займацца і здарэннямі ў іншых месцах Масквы, не толькі ў тэатры Вар'етэ. Давялося разбіраць выпадак са спевамі «Слаўнага мора» служачымі (дарэчы: прафесару Стравінскаму ўдалося прывесці іх да ладу праз дзве гадзіны пасля нейкіх уколаў), з асобамі, якія давалі іншым альбо ва ўстановы замест грошай чортведама што, а таксама з асобамі, якія пацярпелі ад гэтага.

І само сабой зразумела, што самым непрыемным і загадкавым з усіх выпадкаў быў крадзеж галавы памёрлага літаратара Берліёза проста з труны ў грыбаедаўскім доме, сярод белага дня.

Дванаццаць чалавек вялі следства, збіралі, быццам на пруток, усе петлі гэтай праклятай справы, раскіданай па ўсёй Маскве.

Адзін са следчых прыехаў у клініку да прафесара Стравінскага і найперш папрасіў спіс асоб, якія трапілі на лячэнне за апошнія тры дні. Такім чынам былі знойдзены Міканор Іванавіч Босы і бедны канферансье, якому адрывалі галаву. Імі, дарэчы, займаліся мала. Цяпер лёгка было вызначыць, што гэтыя двое — ахвяры аднае шайкі, якую ўзначальвае таямнічы маг. А вось Іван Мікалаевіч Бяздомны следчага надзвычай зацікавіў.

Дзверы Іванкавай палаты № 117 адчыніліся пад вечар у пятніцу, у пакой зайшоў малады, круглатвары, спакойны і далікатны чалавек, зусім не падобны на следчага і разам з тым адзін з самых лепшых следчых у Маскве. Ён убачыў пабялелага з твару і абвялага маладога чалавека, які ляжаў на ложку, у вачах не было ніякай цікавасці да ўсяго, што адбывалася навокал, яны глядзелі на нешта ўдалечыні ці ў сябе самога.

Следчы ласкава назваўся і сказаў, што зайшоў да Івана Мікалаевіча, каб пагаварыць пра пазаўчарашняе здарэнне на Патрыярхавых сажалках.

Ой, як бы трыумфаваў Іван, каб следчы з'явіўся да яго раней, ну, скажам, ноччу з серады на чацвер, калі Іван ня-

стомна і палка дамагаўся, каб паслухалі яго расказ пра здарэнне на Патрыярхавых сажалках. Цяпер збылася яго мара — дапамагчы злавіць кансультанта, яму не трэба было ні за кім бегаць, да яго самога прыйшлі з-за гэтага, каб выслухаць яго расказ пра тое, што здарылася ў сераду вечарам.

Але Іванка, на жаль, зусім змяніўся за той час, што прамінуў пасля гібелі Берліёза. Ён гатовы быў ахвотна і ветліва адказваць на ўсе пытанні следчага, але абыякавасць адчувалася ў Іванкавым позірку і ў яго інтанацыі. Паэта болей не хваляваў лёс Берліёза.

Перад прыходам следчага Іванка драмаў лежачы, і перад ім паўставалі дзіўныя малюнкі. Ён бачыў дзіўны незразумелы горад, які не існуе, з глыбамі мармуру, точанымі каланадамі, з зіхатлівымі на сонцы дахамі, з чорнаю, пануpaю і бязлітаснаю вежаю Антонія, з палацам на заходнім узгорку, патанулым амаль да дахаў у трапічнай садовай зеляніне, з бронзавымі зіхатлівымі скульптурамі над зелянінай, ён бачыў пад сценамі гэтага старажытнага горада закаваныя ў браню рымскія кагорты кентурыі.

Скрозь дрымоту перад Іванам паўставаў нерухомы чалавек у крэсле, паголены, са змучаным жоўтым тварам, чалавек у белай мантыі з чырвоным падбоем, які з нянавісцю глядзеў у раскошны і чужы сад. Бачыў Іван і бязлесы жоўты ўзгорак з апусцелымі слупамі з перакладзінамі.

А здарэнне на Патрыярхавых сажалках болей Івана Бяздомнага не хвалявала.

— Скажыце, Іван Мікалаевіч, а вы самі далёка былі ад турнікета, калі Берліёз упаў пад трамвай?

Ледзь прыкметная абыякавая ўсмешка чамусьці варухнула Іванавы губы, і ён адказаў:

— Я быў далёка.

— А гэты клятчасты быў ля самага турнікета?

— Не, ён сядзеў на лаўцы непадалёку.

— А вы добра памятаеце, што ён не падыходзіў да турнікета ў той час, калі ўпаў Берліёз?

— Памятаю. Не падыходзіў. Ён, разваліўшыся, сядзеў.

Гэта было апошняе пытанне следчага. Пасля іх ён устаў, падаў Івану руку, пажадаў хутчэй вылечыцца і выказаў спадзяванне, што хутка прачытае яго новыя вершы.

— Не,— ціха адказаў Іван,— я болей вершаў пісаць не буду.

Следчы ветліва ўсміхнуўся, дазволіў сабе сказаць, што цяпер у паэта невялікая дэпрэсія, але яна хутка пройдзе.

— Не,— ціха адказаў Іван і глядзеў не на следчага, а

ўдалечыню, туды, дзе патухаў небакрай,— гэта ўжо ніколі не пройдзе. Вершы, якія я пісаў, дрэнныя вершы, і цяпер я гэта зразумеў.

Следчы пайшоў ад Іванкі з каштоўным матэрыялам. Ідучы па нітачцы падзей з канца да пачатку, удалося нарэшце дабрацца да таго, адкуль пачаліся ўсе падзеі. Следчы не сумняваўся, што ўсе здарэнні пачаліся з забойства на Патрыярхавых сажалках. Вядома, ні Іванка, ні гэты клятчасты не папіхалі пад трамвай няшчаснага старшыню МАССАЛІТа, фізічна, калі можна сказаць, яму не дапамагаў ніхто. Але следчы быў пераканаты ў тым, што Берліёз кінуўся пад трамвай альбо ўпаў пад яго загіпнатызаваным.

Так, матэрыялу было ўжо многа, і было вядома, каго і дзе лавіць. Ды справа ў тым, што злавіць ніякім чынам не ўдавалася. У гэтай тройчы праклятай кватэры № 50, няма сумнення, нехта быў. Часам гэтая кватэра адказвала то траскучым, то гугнявым голасам на тэлефонныя званкі, часам у кватэры адчыняліся вокны, і былі чуваць гукі патэфона. А між тым кожны раз, калі туды накіроўваліся, там нікога не заставалі. А былі там і неаднойчы, у розную пару сутак. Мала гэтага, па кватэры хадзілі з сеткаю, правяралі ўсе закуткі. Кватэра даўно ўжо была падазроная. Ахоўвалі не толькі той уваход, што быў праз падваротню, але і чорны ўваход; акрамя гэтага, на даху ля комінаў была пастаўлена ахова. Сапраўды, кватэра № 50 хуліганіла, а зрабіць нічога не маглі.

Гэтак усё цягнулася да паўночы з пятніцы на суботу, калі барон Майгель, адзеты ў вячаровы касцюм і лакіраваныя туфлі, урачыста зайшоў у кватэру № 50 як госць. Роўна праз дзесяць хвілін пасля гэтага кватэру № 50 наведалі без усякіх званкоў, але не толькі гаспадароў там не знайшлі, а і самога барона Майгеля, нават і следу яго.

Дык вось, як гаварылася ўжо, справа цягнулася такім чынам да суботняга світанку. А тут паступілі новыя і надзвычай цікавыя звесткі. На маскоўскім аэрадроме прызямліўся шасцімесны пасажырскі самалёт, які прыляцеў з Крыма. Сярод іншых з яго высадзіўся адзін дзіўны пасажыр. Гэта быў малады грамадзянін, дзіка зарослы шчэццю, які дні тры не мыўся, з гарачымі, чырвонымі і крыху спалоханымі вачыма, без багажу і апрануты даволі дзіўна. Грамадзянін быў у папасе, у бурцы, надзетай на начную сарочку, і ў сініх скураных, навенькіх, толькі купленых пантофлях. Ледзь толькі ён выйшаў з самалёта, да яго падышлі. Гэтага грамадзяніна чакалі ўжо, і праз нейкі час незабыўны дырэктар Вар'етэ

Сцяпан Багданавіч Ліхадзееў быў перад следчымі. Цяпер стала вядома, што Воланд пранік у Вар'етэ пад выглядам артыста пасля таго, як загіпнатызаваў Сцёпу Ліхадзеева, а потым умудрыўся выкінуць Сцёпу з Масквы за бог ведае якую колькасць кіламетраў. Матэрыялу прыбывала, але лягчэй не рабілася, а, наадварот, стала цяжэй, бо было відавочна, што авалодаць асобаю, якая вытварае такія штучкі, як са Сцёпам Ліхадзеевым, будзе нялёгка. Між іншым, Ліхадзееў, па яго просьбе, быў пасаджаны ў надзейную камеру, а перад следствам паўстаў Варэнуха, якога арыштавалі на ўласнай кватэры, куды ён вярнуўся пасля амаль двух сутак.

Нягледзячы на абяцанне Азазелу не хлусіць, адміністратар пачаў якраз з хлусні. Хаця надта строга яго караць за гэта нельга. Азазела ж забараніў яму хлусіць і падманваць па тэлефоне, а ў гэтай сітуацыі размова ішла без тэлефоннага апарата. Вочкі ў Івана Савельевіча бегалі, ён гаварыў, што ўдзень у чацвер напіўся адзін у сваім кабінеце ў Вар'етэ, пасля пайшоў не памятае куды, што дзесьці яшчэ піў старку, а дзе — не памятае, недзе валяўся пад плотам, а дзе — зноў не памятае. Толькі пасля таго, як адміністратару растлумачылі, што ён сваімі недарэчнымі, дурнымі паводзінамі перашкаджае весці важнае следства і за гэта будзе адказваць, Варэнуха заплакаў і зашаптаў дрыготкім голасам, азіраючыся, што хлусіць ён таму, што баіцца помсты воландаўскае шайкі, у руках у якое ён ужо пабыў, і што ён просіць, моліць, каб яго заперлі ў бранірávанай камеры.

— Цьфу ты чорт! Вось далася ім гэтая браніраваная камера! — прамармытаў адзін са следчых.

— Іх добра напалохалі гэтыя нягоднікі,— сказаў той следчы, які пабыў у Іванкі.

Варэнуху як маглі супакоілі, сказалі, што ахоўваюць, і тады высветлілася, што ніякае старкі ён не піў пад плотам, а што білі яго двое, адзін ікласты і рыжы, а другі таўстун...

— Ага, на ката падобны?

— Ага, ага, ага,— шаптаў, заміраючы ад страху і кожную секунду азіраючыся, адміністратар і расказваў далей падрабязнасці, як ён прабыў амаль два дні ў кватэры № 50 у якасці крывапіўцы-наводчыка, што ледзь не стаў прычынай смерці фіндырэктара Рымскага...

У гэты час прывялі фіндырэктара, якога прывезлі ў ленінградскім цягніку. Аднак гэты дрыжачы ад страху, псіхічнахворы пасівелы стары, у якім цяжка было пазнаць былога фіндырэктара, нізавошта не хацеў гаварыць праўду і аказаўся вельмі ўпартым. Рымскі пераконваў, што ніякай Гелы не

бачыў у сваім акне ноччу, гэтаксама, як і Варэнухі, а проста яму стала нядобра, і ён не памятае, як паехаў у Ленінград. Відаць, і гаварыць не варта, што сваё сведчанне фіндырэктар закончыў просьбаю схаваць яго ў браніраванай камеры.

Анечку арыштавалі ў той час, калі яна спрабавала ўсунуць касірцы на Арбаце дзесяцідоларавую паперку. Расказ Анечкі пра тое, як з акна на Садовай выляталі людзі і пра падкоўку, якую, як яна гаварыла, падняла, каб аддаць у міліцыю, слухалі ўважліва.

— Падкоўка сапраўды была залатая і з брыльянтамі? — спыталіся ў Анечкі.

— Хіба я брыльянтаў не ведаю,— адказала Анечка.

— Але ж вы гаворыце, што даў ён вам чырвонцы?

— Хіба я не ведаю чырвонцаў,— адказвала Анечка.

— А як яны тады ў долары ператварыліся?

— Нічога не ведаю ні пра якія долары і не бачыла я ніякіх долараў,— віскліва адказвала Анечка,— я маю права! Мне далі ўзнагароду, я за яе паркаль куплю...— і панесла адразу малацільню, што не можа адказваць за домакіраўніцтва, якое развяло на пятым паверсе нячыстую сілу, якая жыцця не дае.

Тут следчы замахаў на Анечку пяром, таму што яна ўжо зусім надакучыла, напісаў ёй пропуск на зялёнай паперцы, і тады на радасць усім Анечка выйшла з памяшкання.

Потым чарам пайшлі людзі, у тым ліку і Мікалай Іванавіч, толькі што арыштаваны з-за дурасці свае жонкі, якая заявіла пад раніцу ў міліцыю, што яе муж знік. Мікалай Іванавіч не вельмі здзівіў міліцыю, калі паклаў на стол здзеклівае пасведчанне, што час ён прабавіў на балі ў сатаны, і сваімі расказамі, як ён вазіў у паветры голую работніцу Маргарыты Мікалаеўны кудысьці купацца да чарцей на раку, і як перад гэтым з'явілася ў акне голая Маргарыта Мікалаеўна. Праўда, тут ён быў не зусім дакладны, напрыклад, палічыў лепш не гаварыць, што з'явіўся ў спальню з выкінутаю сарочкаю і што назваў Наташу Венераю. З яго слоў атрымлівалася, што Наташа вывалілася з акна, асядлала яго і павалакла з Масквы...

— Вымушаны быў падпарадкавацца гвалту,— расказваў Мікалай Іванавіч і закончыў свае байкі просьбаю жонцы нічога не гаварыць. Гэта яму паабяцалі.

Сведчанне Мікалая Іванавіча дало магчымасць высветліць, што Маргарыта Мікалаеўна і яе работніца Наташа зніклі бясследна. Былі прыняты меры, каб адшукаць іх.

Гэтак следствам, якое не спынялася ні на хвілінку, і адзначылася суботняя раніца. У горадзе ўжо блукалі самыя розныя чуткі, у якіх было толькі крышку праўды, але яе падмазвалі вялізнаю хлуснёю. Гаварылі, што быў сеанс у Вар'етэ, пасля якога ўсе дзве тысячы гледачоў выскачылі на вуліцу ў чым маці нарадзіла, што накрылі друкарню фальшывых паперак чараўніка на Садовай вуліцы, што нейкая шайка выкрала пяцёх загадчыкаў з сектара відовішчаў, што міліцыя іх адразу ж знайшла, і яшчэ шмат такога, што і паўтараць нават не хочацца.

Тым часам набліжаўся поўдзень, і тады там, дзе вялі следства, пачуўся званок. З Садовае паведамілі, што праклятая кватэра зноў падае прыкметы жыцця. Было сказана, што з сярэдзіны адчынялі вокны, што чуваць былі гукі піяніна і спевы, што бачылі ў акне чорнага ката, які сядзеў на падаконніку і грэўся на сонцы.

Каля чатырох гадзін спякотным днём вялікая кампанія мужчын, апранутых у цывільнае адзенне, высадзілася з трох машын воддаль ад дома № 302-біс на Садовай вуліцы. Тут група раздзялілася на дзве меншыя, адна пайшла цераз двор проста ў шосты пад'езд, а другая адчыніла другія, звычайна забітыя дзверы, якія вялі на чорны ўваход, і абедзве пачалі ўзыходзіць па розных лесвіцах у кватэру № 50.

У гэты час Кароўеў і Азазела, Кароўеў ужо ў звычайным сваім адзенні, не ў святочным фраку, сядзелі ў сталоўцы ў кватэры, канчалі снедаць. Воланд, як і звычайна, быў у спальні, а дзе быў кот — невядома. Але з кухні чуўся грукат каструлек, і можна было падумаць, што Бегемон знаходзіцца там і зноў, як і звычайна, нешта вытварае.

— А што гэта за крокі на лесвіцы? — спытаўся Кароўеў, забаўляючыся лыжачкай у кубачку з чорнаю каваю.

— А гэта ідуць нас арыштоўваць,— адказаў Азазела і кульнуў кілішачак каньяку.

— А, ну-ну,— адказаў на гэта Кароўеў.

Тыя, што ішлі па лесвіцы, былі ўжо на трэцім паверсе. Там нейкія два водаправодчыкі рамантавалі батарэю ацяплення. Прыйшоўшыя перакінуліся з водаправодчыкамі шматзначнымі позіркамі.

— Усе дома,— шапнуў адзін водаправодчык, пагрукваючы малатком па трубе.

Тады пярэдні адкрыта дастаў з-пад палы чорны маўзер, а другі побач з ім — адмычкі. Наогул тыя, хто ішоў у кватэру, былі як след падрыхтаваны. У двух з іх у кішэнях былі тоненькія шаўковыя сеткі, якія лёгка разгортваюцца. Яшчэ

ў аднаго — аркан, яшчэ ў аднаго — марлевыя маскі і ампулы з хлараформам.

Умомант адамкнулі першыя дзверы ў кватэру № 50, і ўсе апынуліся ў пярэднім пакоі, а дзверы, якія грукнулі ў кухні, сведчылі, што другая група па чорным уваходзе падышла своечасова.

Сёння калі не поўная ўдача, то хоць частковая была відавочна. Па ўсіх пакоях імгненна рассыпаліся людзі і нідзе нікога не знайшлі, але затое ў сталоўцы знайшлі астаткі толькі што пакінутага недаедзенага сняданка, а ў гасцёўні на камінна́й палічцы побач з крыштальным збанам сядзеў вялізны чорны кот. Ён трымаў у сваіх лапах прымус.

Увайшоўшыя ў гасцёўню даволі доўга моўчкі глядзелі на гэтага ката.

— Мугу... сапраўды здорава...— шапнуў адзін з прыйшоўшых.

— Нічога не парушаю, нікога не чапаю, рамантую прымус,— нядобразычліва надзьмуўся і прамовіў кот,— і яшчэ павінен папярэдзіць, што кот старажытная жывёла, якую нельга чапаць.

— Выключна чыстая работа,— шапнуў адзін з прышэльцаў, а другі прамовіў гучна і выразна:

— Ну, недатыкальны і гаворачы кот, калі ласка, сюды!

Разгарнулася і ўзвілася шаўковая сетка, але той, хто кінуў яе, наздзіў усім, не патрапіў і захапіў ёю толькі збан, які са звонам упаў і пабіўся.

— Рэміз! — крыкнуў кот.— Ура! — і, адставіўшы ўбок прымус, выхапіў з-за спіны браўнінг. Ён імгненна прыцэліўся ў бліжэйшага супрацоўніка, але ў таго раней, чым кот, паспеў стрэліць, бліснула ў руцэ агнём, і адначасна са стрэлам з маўзера кот упаў уніз галавой з каміннае паліцы на падлогу, кінуў прымус і браўнінг.

— Усё скончана,— прамовіў кот і соладка разлёгся ў крывавай лужыне,— адыдзіце ад мяне на секунду, дайце мне развітацца з зямлёй. О мой сябра Азазела! — прастагнаў той, хто сцякаў кроўю.— Дзе ты? — кот паглядзеў патухлымі вачыма на дзверы ў сталоўку.— Ты не прыйшоў да мяне і не дапамог у час няроўнага бою. Ты кінуў беднага Бегемота, прамяняў яго на шклянку — праўда, вельмі добрага — каньяку! Ну што ж, няхай мая смерць будзе на табе, а я пакідаю табе свой браўнінг...

— Сетку, сетку, сетку,— трывожна зашапталі навокал. Але сетка чортведама чаму зачапілася ў некага ў кішэні і не хацела вылазіць.

— Адзінае, што можа выратаваць смяротна параненага ката, гэта глыток бензіну,— прамовіў кот і, пакуль была замінка, прыклаўся да прымуса і напіўся бензіну. Адразу з-пад верхняе левае лапы перастала цячы кроў. Кот усхапіўся жывы і бадзёры, схапіў прымус пад паху, гоцнуў назад на камін, а адтуль, абдзіраючы шпалеры, палез па сцяне і праз дзве секунды апынуўся высока над прышэльцамі, на жалезным карнізе.

Рукі імгненна ўчапіліся за гардзіну і абарвалі яе разам з карнізам, і сонца хлынула ў цёмны пакой. Але ні жулікавата ачунялы кот, ні прымус не ўпалі. Кот не кінуў прымуса, умудрыўся разам з ім пераскочыць на люстру, якая вісела пасярод пакоя.

— Лесвіцу! — крыкнулі ўнізе.

— Выклікаю на дуэль! — закрычаў кот, пралятаючы над галовамі на разгайданай люстры. У руках зноў апынуўся браўнінг, а прымус ён прыладзіў на рагу люстры. Кот лятаў, як маятнік, і страляў па прышэльцах. Грукат скалануў кватэру. На падлогу пасыпаліся асколкі з люстры, трэснула промнямі люстэрка на каміне, паляцеў пыл ад тынкоўкі, заскакалі па падлозе парожнія гільзы, палопаліся шыбы ў вокнах, з прастрэленага прымуса пачало пырскаць бензінам. Цяпер і гаворкі не магло быць, каб захапіць ката жывым, і прышэльцы трапна і шалёна стралялі ў яго ў адказ з маўзераў у галаву, у жывот, у грудзіну, у спіну. Страляніна выклікала паніку на асфальце ў двары.

Але працягвалася гэтая страляніна не доўга і сама сабой заціхла. Справа ў тым, што ні кату, ні аператыўнікам яна не прынесла ніякае шкоды. Не аказалася не толькі забітых, але нават і параненых, усе, у тым ліку і кот, былі цэлыя. Нехта з прыйшоўшых, каб праверыць гэта, разоў пяць стрэліў у галаву праклятай жывёліне, і кот бойка адказаў цэлаю абоймаю. Як і раней, ніякага эфекту. Кот пагойдваўся на люстры, размахі якое паволі меншалі, дзьмухаў у дула браўнінга і пляваў сабе на лапу. У тых, што стаялі ўнізе на двары, было поўнае недаўменне. Гэта быў ці не адзіны з выпадкаў, калі страляніна не мела ніякага выніку. Можна было дапусціць, што ў ката браўнінг цацачны, але пра маўзеры аператыўнікаў гэтага не скажаш. Першая катовая рана было не што іншае, як фокус і свінскае прытворства, гэтак жа, як і піццё бензіну.

Паспрабавалі яшчэ раз злавіць ката. Кінулі аркан, ён зачапіўся за адзін рог люстры, яна ўпала. Ад удару скалануўся ўвесь дом, але толку з гэтага не было. Прысутных абдало

пырскамі крыштальных асколкаў, а кот пераляцеў у паветры і ўсеўся высока пад столлю наверсе на пазалочаную люстравую раму над камінам. Ён нікуды не збіраўся ўцякаць, наадварот, седзячы на раме, зноў пачаў гаворку.

— Я зусім не разумею,— гаварыў ён зверху,— чаму са мною гэтак груба абыходзяцца...

І гэту гаворку перабіў нечакана цяжкі голас, які пачуўся невядома адкуль.

— Што адбываецца ў кватэры? Мне перашкаджаюць працаваць.

Другі, непрыемны і гугнявы голас адазваўся:

— Зноў, вядома, Бегемот, чорт бы яго ўзяў!

Трэці, траскучы галасок сказаў:

— Месір! Субота. Сонца заходзіць. Нам пара.

— Прабачце, не магу больш гутарыць з вамі,— сказаў кот з люстра,— нам пара.— Ён кінуў свой браўнінг і выбіў абедзве шыбы ў акне. Потым лінуў бензіну, і гэты бензін сам успыхнуў хваляю аж да столі.

Загарэлася неяк надзвычай хутка і моцна, як не бывае нават і ад бензіну. Адразу ж задыміліся шпалеры, закурылася гардзіна на падлозе, і пачалі тлець рамы пабітых вокнаў. Кот скочыў, мяўкнуў, пераляцеў з люстра на падаконнік і знік з яго разам са сваім прымусам. Звонку пачуліся стрэлы. Чалавек, які сядзеў на жалезнай пажарнай лесвіцы насупраць ювеліршыных вокнаў, абстраляў ката, калі той пералятаў з падаконніка на падаконнік, каб дабрацца да вадасцёкавай трубы на рагу дома. Па гэтай трубе кот узляцеў на дах. Там яго безвынікова абстраляла ахова пры комінах, і кот расстаў у заходзячым сонцы, якое залівала горад.

У кватэры ў гэты час загарэўся паркет пад нагамі ў прышэльцаў, і ў агні, на тым самым месцы, дзе валяўся прытварака паранены кот, паказаўся труп барона Майгеля з задраным угору падбародкам і шклянымі вачыма. Выцягнуць яго з агню ўжо не было магчымасці.

Пераскакваючы па гарачым паркеце, збіваючы агонь далонямі з плячэй і грудзей, аператыўнікі адступілі з кабінета ў пярэдні пакой. Тыя, што былі ў спальні і ў сталоўцы, выбеглі праз калідор. Прыбеглі і тыя, што былі на кухні, кінуліся ў пярэднюю. Гасцёўня ўжо была поўная дыму і агню. Нехта на хаду паспеў набраць нумар пажарнай часткі, коратка кінуў у трубку:

— Садовая, трыста два-біс!

Больш нельга было затрымлівацца. Полымя вырвалася ў пярэдні пакой. Дыхаць стала цяжка.

Як толькі з вокнаў у зачараванай кватэры выбіла першыя струменьчыкі дыму, у двары пачуліся адчайныя чалавечыя крыкі:

— Пажар! Пажар! Гарым!

З розных кватэр людзі пачалі крычаць у тэлефоны:

— Садовая! Садовая, трыста два-біс!

У той час, калі на Садовай пачуліся страшныя сэрцу ўдары і звон чырвоных доўгіх машын, якія імчалі з усіх канцоў горада, людзі, што мітусіліся на двары, бачылі, як разам з дымам з акна на пятым паверсе вылецелі тры цёмныя, як здалося, мужчынскія постаці і адна постаць голае жанчыны.

## Раздзел 28

### АПОШНІЯ ПРЫГОДЫ КАРОЎЕВА І БЕГЕМОТА

Ці сапраўды былі там постаці, ці гэта толькі здалося ўражаным ад перапалоху жыхарам няшчаснага дома на Садовай, вядома, ніхто дакладна сказаць не можа. Калі і былі яны, то куды накіраваліся, таксама ніхто не ведае. Дзе яны разышліся, мы таксама сказаць не можам, але дзесьці праз чвэрць гадзіны пасля пажару на Садовай у люстраных дзвярах Таргсіна на Смаленскім базары з'явіўся высокі грамадзянін у клятчастым касцюме, а з ім вялікі чорны кот.

Спрытна ныраючы між прахожых, грамадзянін адчыніў дзверы магазіна. Але тут маленькі, кастлявы і зусім не гасцінны швейцар паўстаў на дарозе і незадаволена сказаў:

— З катамі нельга!

— Прашу прабачэння,— засакатаў высокі і прыклаў вузлаватую руку да вуха, як глухі,— з катамі, кажаце? А дзе вы бачыце ката?

Швейцар вытрашчыў вочы, і было чаго: ніякага ката ля ног у грамадзяніна не аказалася, а з-за яго пляча ўжо высоўваўся і рваўся ў магазін таўстун у парванай шапачцы, сапраўды, з твару крыху падобны на ката. У руках у таўстуна быў прымус.

Гэтая парачка чамусьці не спадабалася швейцару-мізантропу.

— У нас толькі на валюту,— захрыпеў ён раззлавана і глядзеў з-пад кудлатых, быццам выедзеных моллю броваў.

— Дарагі мой,— пасыпаў словамі высокі і заблiскаў пабітым пенснэ,— а адкуль вы ведаеце, што яе ў мяне няма? Па адзенні мяркуеце? Ніколі не рабіце гэтага, шаноўнейшы

сторож! Вы памыліцца можаце, і вельмі моцна. Перачытайце яшчэ раз хаця б гісторыю знакамітага каліфа Гарун-аль-Рашыда. Але зараз я адкідаю гэтую гісторыю ўбок, а хачу сказаць вам, што паскарджуся на вас загадчыку і раскажу яму пра вас такое, што з-за гэтага давядзецца развітацца вам са сваёй службаю паміж люстранымі дзвярыма.

— У мяне, магчыма, поўны прымус валюты,— увязаўся горача ў гаворку падобны на ката таўстун, які гэтак і пёрся ў магазін.

А ззаду падпірала раззлаваная публіка. З нянавісцю і сумненнем гледзячы на дзіўную парачку, швейцар саступіў з дарогі, і нашы знаёмыя, Кароўеў і Бегемот, апынуліся ў магазіне. Тут яны спачатку агледзеліся навокал, і потым звонкім голасам, які чуваць было ў кожным закутку, Кароўеў аб'явіў:

— Цудоўны магазін? Вельмі, вельмі добры магазін!

Публіка адвярнулася ад прылаўкаў і чамусьці здзіўлена паглядзела на таго, хто гаварыў, хаця хваліць магазін у яго былі ўсе падставы.

Сотні штук паркалю самай разнастайнай расфарбоўкі відаць былі на палічных клетках. За імі высіліся міткалі і шыфон, сукно фрачнае. Колькі бачыць можна было, стаялі штабялі каробак з абуткам, і некалькі грамадзянак сядзелі на маленькіх услончыках з праваю нагою ў старым туфлі, а леваю — у новай бліскучай лодачцы, якою яны заклапочана прытупвалі на дыванку. Дзесьці ўглыбіні спявалі і гралі патэфоны.

Але Кароўеў і Бегемот абмінулі ўсе гэтыя спакусы і пакіравалі да стыку кандытарскага і гастранамічнага аддзелаў. Тут было прасторна, грамадзяне ў берэтах і хусцінках не напіралі на прылавак, як у паркалёвым аддзеле.

Малога росту, зусім квадратны чалавек, паголены да сінявы, у рагавых акулярах, у новенькім капелюшы, не пакамечаным і без падцёкаў на стужцы, у бэзавым паліто і лайкавых рыжых пальчатках, стаяў ля прылаўка і нешта ўладарна мычэў. Прадавец у чыстым белым халаце і ў сіняй шапачцы абслугоўваў бэзавага кліента. Вострым нажом, падобным на той, што Левій украў у хлебніка, ён здзіраў з вільготнае ружовае ласасіны яе, падобную да змяінай, са срэбным водбліскам, скуру.

— І гэты аддзел цудоўны,— урачыста адзначыў Кароўеў,— і чужаземец сімпатычны,— ён зычліва паказаў пальцам на бэзавую спіну.

— Не, Фагот, не,— задумёна адказаў Бегемот,— ты,

мілы, памыляешся. На твары ў бэзавага джэнтльмена, пасмойму, нечага не хапае.

Бэзавая спіна здрыганулася, але, мабыць, выпадкова, бо не мог ведаць чужаземец, пра што гаварылі па-руску Кароўеў і яго спадарожнік.

— Карошы? — строга пытаўся бэзавы пакупнік.

— Міравая! — адказаў прадавец, какетліва калупаючы нажом пад скураю.

— Карошы люблю, дрэнны — не,— сурова гаварыў чужаземец.

— Вядома! — з захапленнем адказваў прадавец.

Тут нашы знаёмцы адышлі ад чужаземца з яго ласасінаю да краю кандытарскага прылаўка.

— Горача сёння,— сказаў Кароўеў маладзенькай чырванашчокай прадаўшчыцы і не атрымаў ніякага адказу.— Па чым мандарыны? — запытаўся тады ў яе Кароўеў.

— Трыццаць капеек за кіло,— адказала прадаўшчыца.

— Усё кусаецца,— уздыхнуў Кароўеў,— ах, ах...— ён крыху падумаў і запрасіў свайго спадарожніка: — Еш, Бегемот.

Таўстун узяў свой прымус пад паху, ухапіў верхні мандарын з пірамідкі, з'еў яго адразу са шкуркаю і ўзяўся за другі.

Прадаўшчыца жахліва спалохалася.

— Вы звар'яцелі! — закрычала яна, і чырвань сышла ў яе з твару.— Чэк давайце! Чэк! — і выпусціла з рук цукерачныя шчыпцы.

— Душачка, мілачка, прыгажунька,— засіпеў Кароўеў, наваліўшыся на прылавак і падміргваючы прадаўшчыцы,— не пры валюце мы сёння... што зробіш! Але, клянуся вам, што наступны раз, і не пазней чым у панядзелак, аддам усё наяўнымі! Мы ж тут непадалёку, на Садовай, дзе пажар...

Бегемот праглынуў трэці мандарын, сунуў лапу ў замыславатае збудаванне з шакаладных плітак, выхапіў адну, ніжнюю, з-за чаго ўсё збудаванне ўпала, і праглынуў шакаладку разам з абгорткаю.

Прадаўцы ў рыбным аддзеле нібы акамянелі са сваімі нажамі ў руках, бэзавы чужаземец завярнуўся да рабаўнікоў, і высветлілася, што Бегемот быў несправядлівы: у бэзавага не не хапала нечага на твары, а, наадварот, хутчэй было лішняе — абвіслыя шчокі і мітуслівыя вочкі.

Прадаўшчыца ўжо пажаўцела з твару і пранізліва закрычала на ўвесь магазін:

— Палосіч! Палосіч!

Публіка з паркалёвага аддзела рушыла на гэты крык, а Бегемот адышоў ад кандытарскае спакусы і сунуў лапу ў бочку з надпісам: «Селядзец керчанскі асаблівы», дастаў пару селядцоў і пракаўтнуў іх, толькі хвасты выплюнуў.

— Палосіч! — паўтарыўся адчайны крык з-за кандытарскага прылаўка, а з-за рыбнага прылаўка гыркнуў прадавец у эспаньёлцы:

— Што ж ты, гад, робіш?!

Павел Восіпавіч ужо спяшаўся на месца здарэння. Гэта быў салідны з выгляду мужчына ў чыстым белым халаце, як хірург, і з алоўкам, які тырчаў з кішэнькі. Павел Восіпавіч, відаць, чалавек быў спрактыкаваны. Калі на бягу ўгледзеў у роце ў Бегемота хвост трэцяга селядца, ён імгненна ацаніў становішча, усё зразумеў, не пачынаючы з нахабамі ніякае гаворкі, махнуў рукой удалечыню і скамандаваў:

— Свішчы!

На рог Смаленскае вылецеў швейцар з люстраных дзвярэй і заліўся злавесным свістам. Публіка пачала акружаць нягоднікаў, і тады ў справу ўмяшаўся Кароўеў.

— Грамадзяне! — тонкім дрыготкім голасам закрычаў ён.— Ды што ж гэта робіцца? Ась? Дазвольце ў вас запытаць! Бедны чалавек,— Кароўеў падпусціў жалю ў голас і паказаў на Бегемота, які плаксіва скрывіўся,— бедны чалавек цэлы дзень рамантуе прымусы: ён згаладаў... а валюту адкуль яму ўзяць?

Павел Восіпавіч, звычайна стрыманы і спакойны, крыкнуў сурова:

— Ты перастань! — і махнуў удалечыню нецярпліва. Тады свісток у дзвярах заліўся яшчэ весялей.

Але Кароўева не збянтэжыла ўмяшанне Паўла Восіпавіча, ён працягваў:

— Адкуль? — пытаюся я ва ўсіх! Ён змучаны ад голаду і ад смагі! Яму горача. Ну ўзяў, бядак, паспрабаваць мандарын на тры капейкі. І вось яны ўжо свішчуць, як салаўі вясной у лесе, турбуюць міліцыю, адрываюць яе ад справы. А яму можна? Га? — і тут Кароўеў паказаў на бэзавага таўстуна, і ў таго на твары праступіла моцная трывога.— Хто ён такі? Га? Адкуль ён прыехаў? Чаго? Нам сумна было без яго? Запрашалі мы яго, ці што? Вядома,— саркастычна крывіў рот і крычаў, як толькі мог, былы рэгент,— ён, бачыце, у бэзавым святочным касцюме, ад ласасіны аж распух, напханы валютай, а нам, нам?! Крыўдна мне! Крыўдна! Крыўдна! — роў Кароўеў, як шафер калісьці на вяселлі.

Уся гэтая дурная, нетактоўная і, мабыць, палітычна шкодная прамова прымусіла гнеўна ўздрыгваць Паўла Восіпавіча, але, як гэта ні дзіўна, па вачах прысутных было заўважна, што ў вельмі многіх людзей яна знаходзіць разуменне. А калі Бегемот, прытуліўшы брудны падраны рукаў да вачэй, трагічна ўсклікнуў:

— Дзякуй, дарагі таварыш, заступіўся за беднага! — здарыўся цуд. Прыстойны ціхенькі дзядок, апрануты бедна, але чыста, які купляў тры міндальныя піражныя ў кандытарскім аддзеле, раптам перамяніўся. Вочы яго ўспыхнулі баявым агнём, ён пачырванеў, кінуў кулёк з піражнымі на падлогу і крыкнуў:

— Праўда! — дзіцячым тоненькім голасам. Потым ён схапіў паднос, скінуў з яго астаткі разбуранай Бегемотам шакаладнай эйфелевай вежы, узмахнуў ім, левай рукой сарваў з чужаземца капялюш, і правай ударыў па лысай галаве. Пачуўся гук, як быццам з грузавіка скідаюць долу ліставое жалеза. Таўстун пабялеў, адхіснуўся назад і сеў у бочку з керчынскімі селядцамі, выбіў з-пад сябе фантан лёку. Адбыўся адначасна і другі цуд. Чужаземец, як толькі праваліўся ў бочку, на чыстай рускай мове без усякага акцэнту закрычаў:

— Забіваюць! Міліцыя! Мяне бандыты забіваюць! — ён, мабыць, ад перапуду раптоўна авалодаў да гэтага часу невядомаю моваю.

Тады спыніўся швейцараў свіст, у натоўпе ўсхваляваных пакупнікоў замільгалі, набліжаючыся, два міліцэйскія шлемы. Але шкодны Бегемот, нібы з балеі ў лазні на палок, лінуў з прымуса бензінам на кандытарскі прылавак, і ён успыхнуў сам. Полымя шуганула ўгору і пабегла ўздоўж прылаўка, зжыраючы па дарозе прыгожыя папяровыя стужкі на кошыках з садавінаю. Прадаўшчыцы з піскам кінуліся ўцякаць з-за прылаўкаў, і ледзь толькі выскачылі з-за яго, успыхнулі на вокнах шторы і на падлозе загарэўся бензін. Публіка адразу ўзняла адчайны крык, шарахнулася назад з кандытарскага, знесла непатрэбнага Паўла Восіпавіча, а з-за рыбнага на сваіх прыгожанькіх ножках цугам уцякалі да чорнага выхаду прадаўшчыцы. Бэзавы грамадзянін ледзьве вылупіўся з бочкі, увесь у слізкім лёку, пераваліўся цераз сёмгу на прылаўку і падаўся следам. Зазвінела і пасыпалася шкло ў дзвярах, выдушанае натоўпам, а абодва нягоднікі — і Кароўеў, і Бегемот — кудысьці зніклі, а куды — нельга было зразумець. Потым ужо прысутныя на пачатку пажара ў Таргсіне на Смаленскім расказвалі, што быццам абодва

хуліганы ўзляцелі пад столь і там нібы лопнулі, як дзіцячыя паветраныя шары. Гэта, вядома, вельмі сумніцельна, але чаго не ведаем, таго не ведаем.

А ведаем мы, што роўна праз хвіліну пасля здарэння на Смаленскім і Бегемот, і Кароўеў ужо апынуліся на тратуары бульвара якраз ля дома грыбаедаўскай цёткі. Кароўеў спыніўся ля рашоткі і загаварыў:

— Га! Ды гэта ж пісьменніцкі дом! Ведаеш, Бегемот, я многа цікавага і добрага чуў пра яго. Звярні ўвагу, мой сябра, на гэты дом. Прыемна думаць, што пад гэтым дахам хаваецца і спее цэлая прорва талентаў.

— Як ананасы ў аранжарэях,— сказаў Бегемот і, каб лепей палюбавацца на крэмавы дом з калонамі, стаў на бетонны падмурак агароджы.

— Праўду кажаш,— згадзіўся са сваім неразумным спадарожнікам Кароўеў,— і аж соладка-жудасна робіцца пад сэрцам, калі думаеш пра тое, што ў гэтым доме зараз спее будучы аўтар «Дон-Кіхота», альбо «Фаўста», альбо, чорт мяне забяры, «Мёртвых душаў»! Га?

— Аж страшна падумаць,— пацвердзіў Бегемот.

— Ага, дзіўных рэчаў можна чакаць з парнікоў гэтага дома, які аб'яднаў пад сваім крылом некалькі тысяч самаахвярных, што вырашылі аддаць без астатку жыццё служэнню Мельпамене, Палігімніі і Таліі. Ты ўяўляеш, які шум пачнецца, калі хто-небудзь з іх для пачатку падорыць публіцы «Рэвізора» альбо «Яўгенія Анегіна»!

— Запраста можа быць,— пацвердзіў Бегемот.

— Сапраўды,— працягваў Кароўеў і заклапочана падняў палец,— але! Але, гавару я гэта і паўтараю — але! Калі на гэтыя далікатныя цяплічныя расліны не нападзе які-небудзь мікраарганізм, не падточыць ім корань, і яны не загніюцца! А гэта здараецца з ананасамі! Ай-я-яй, як здараецца!

— Дарэчы,— пацікавіўся Бегемот і ўсунуў сваю круглую галаву праз дзірку ў каванай агароджы,— што гэта яны робяць на верандзе?

— Абедаюць,— растлумачыў Кароўеў,— дадам яшчэ, мой мілы, што тут нядрэнны і даволі танны рэстаран. А я між тым, як і кожны турыст перад далёкім падарожжам, маю вялікае жаданне пад'есці і выпіць вялікі ледзяны куфаль піва.

— І я таксама,— адказаў Бегемот, і абодва нягоднікі рушылі па сцяжынцы пад ліпамі проста да веранды рэстарана, які не прадчуваў бяды.

Белатварая і сумная грамадзянка ў белых шкарпэтках і белым берэціку з хвосцікам сядзела на венскім крэсле там, дзе ў зяляніне трыльяжа быў зроблены ўваход на веранду. Перад ёй на звычайным канторскім стале ляжала канторская кніга, у якую грамадзянка, невядома навошта, запісвала тых, хто заходзіў у рэстаран. Менавіта гэтая грамадзянка і спыніла Кароўева і Бегемота.

— Вашы пасведчанні? — яна здзіўлена глядзела на пенснэ Кароўева, а таксама на прымус і на парваны Бегемотаў локаць.

— Тысячу разоў выбачайце, якое пасведчанне? — спытаўся Кароўеў здзіўлена.

— Вы — пісьменнікі? — у сваю чаргу запыталася грамадзянка.

— Несумненна,— з гонарам адказаў Кароўеў.

— Вашы пасведчанні? — паўтарыла грамадзянка.

— Красуня ты мая,— пачаў пяшчотна Кароўеў.

— Я вам не красуня,— перапыніла яго грамадзянка.

— А як шкада,— расчаравана сказаў Кароўеў і працягваў: — Ну, калі вы не хочаце быць красуняй, а гэта было б прыемна, можаце і не быць. Але вось што, каб пераканацца, што Дастаеўскі пісьменнік, трэба ў яго патрабаваць пасведчанне? Ды вазьміце на выбар старонак пяць з любога рамана, і вы без пасведчання пераканаецеся, што ён пісьменнік. Ды я думаю, што пасведчання ў яго ніколі і не было! А ты як думаеш? — звярнуўся Кароўеў да Бегемота.

— Магу ў заклад пайсці, што не было,— адказаў той, паставіў прымус побач з кнігай і выцер пот на закураным ілбе.

— Вы — не Дастаеўскі,— сказала грамадзянка, якую збіваў Кароўеў з панталыку.

— Ну, як сказаць, як сказаць,— адказаў той.

— Дастаеўскі памёр,— сказала грамадзянка, але неяк няўпэўнена.

— Пратэстую! — горача ўсклікнуў Бегемот.— Дастаеўскі несмяротны!

— Вашы пасведчанні, грамадзяне,— сказала грамадзянка.

— Злітуйцеся, гэта, урэшце, смешна,— не здаваўся Кароўеў,— ды не пасведчанне вызначае пісьменніка, а тое, што ім напісана! Адкуль вы ведаеце, якія задумы раяцца ў маёй галаве? Альбо ў гэтай галаве? — ён паказаў на Бегемотаву галаву, з якой той адразу зняў шапачку, каб грамадзянка лепш разгледзела яе.

— Прапусціце, грамадзяне,— ужо раззлавана сказала яна.

Кароўеў і Бегемот саступілі ўбок і прапусцілі нейкага пісьменніка ў шэрым касцюме, у летняй, без гальштука, рубашцы, белы каўнер якое шырока ляжаў паверх каўняра пінжака, з газетаю пад пахай. Пісьменнік прыветна кіўнуў грамадзянцы, на хаду паставіў у падсунутую яму кнігу нейкі значок і пайшоў на веранду.

— Шкада, не нам, не нам,— сумна загаварыў Кароўеў,— а яму будзе ледзяны куфаль піва, пра які мы, бедныя падарожнікі, гэтак марылі з табой. Становішча нашае сумнае і бязвыхаднае, і я не ведаю, што нам рабіць.

Бегемот горка развёў рукамі, надзеў шапачку на круглую галаву, густа аброслую валасамі, вельмі падобнымі на кашэчую поўсць. І ў гэты момант нямоцны, але ўладны голас прагучаў над галавою ў грамадзянкі:

— Прапусціце, Соф'я Паўлаўна.

Грамадзянка з кнігаю здзівілася; скрозь зеляніну трыльяжа ўзнікла белая фрачная грудзіна і бародка клінком. Чалавек прыветна глядзеў на двух падазроных абарванцаў і, нават болей, жэстам запрашаў іх. Аўтарытэт Арчыбальда Арчыбальдавіча быў рэч прадметная ў рэстаране, якім ён ім загадваў, і Соф'я Паўлаўна пакорліва спыталася ў Кароўева:

— Як ваша прозвішча?

— Панаеў,— ветліва адказаў той. Грамадзянка запісала прозвішча і запытальна паглядзела на Бегемота.

— Скабічэўскі,— прапішчаў той і чамусьці паказаў на свой прымус. Соф'я Паўлаўна запісала гэта і падсунула кнігу наведвальнікам, каб яны распісаліся. Кароўеў насупраць прозвішча «Панаеў» напісаў «Скабічэўскі», а Бегемот супраць Скабічэўскага напісаў «Панаеў».

Арчыбальд Арчыбальдавіч, наздзіў Соф'і Паўлаўне, з прыязнаю ўсмешкаю павёў гасцей за лепшы столік у супрацьлеглым канцы веранды, туды, дзе быў самы густы цень, да століка, побач з якім весела ззяла сонца ў адным з трыльяжных прарэзаў у зеляніне. Соф'я Паўлаўна здзіўлена міргала, доўга разглядала дзіўныя запісы, якія зрабілі нечаканыя наведвальнікі ў кнізе.

Афіцыянтаў Арчыбальд Арчыбальдавіч здзівіў не меней, чым Соф'ю Паўлаўну. Ён сам адсунуў крэсла ад століка, запрасіў Кароўева сесці, міргаў аднаму, штосьці шаптаў другому, і два афіцыянты замітусіліся вакол новых гасцей, адзін з якіх свой прымус паставіў побач з парыжэлым чаравікам на падлогу.

Адразу знік са століка стары настольнік у жоўтых плямах, у паветры, пахрумстваючы крухмалам, узляцеў, бялейшы за бедуінскі бурнус, другі, а Арчыбальд Арчыбальдавіч ужо шаптаў ціха, але выразна, у самае вуха Кароўеву:

— Чым будзем частавацца? Балычок ёсць спецыяльны... з архітэктарскага з'езда ўрваў...

— Э-э... вы дайце нам наогул закусачку... э...— дабрадушна прамармытаў Кароўеў і адкінуўся на крэсла.

— Разумею,— заплюшчыўшы вочы і шматзначна адказаў Арчыбальд Арчыбальдавіч.

Афіцыянты, калі ўбачылі, як абыходзіцца з сумніцельнымі наведвальнікамі шэф рэстарана, ужо без усякага сумнення ўзяліся за справу. Адзін падаваў запалку Бегемоту, які дастаў з кішэні недакурак і сунуў яго ў рот, другі падляцеў са звонам зялёнага шкла і паставіў побач з прыборамі келіхі, лафітнікі і тонецькія келіхі, з якіх гэтак добра піць пад тэнтам нарзан... не, забягаючы наперад, скажам: піўся нарзан пад тэнтам незабыўнае грыбаедаўскае веранды.

— Філейкаю [illegible] рабчыкаў магу пачаставаць,— музычна муркаў Арчыбальд Арчыбальдавіч. Госць у пабітым пенснэ цалкам адобрыў прапановы камандзіра брыга і добра глядзеў на яго праз непатрэбнае шкельца.

Белетрыст Петракоў-Сухавей з жонкаю, якія абедалі за суседнім столікам і даядалі эскалоп, з уласцівай пісьменнікам назіральнасцю, заўважыў паслужлівасць Арчыбальда Арчыбальдавіча і надта здзівіўся. А яго жонка, даволі паважная пані, нават прыраўнавала пірата да Кароўева і лыжачкай пагрукала...— што ж гэта такое, нас затрымліваюць... час марожанае падаваць! У чым справа?

Аднак Арчыбальд Арчыбальдавіч падараваў Петраковай чароўную ўсмешку, накіраваў да яе афіцыянта, а сам не пакідаў дарагіх гасцей. Ой, разумны быў Арчыбальд Арчыбальдавіч! А назіральны не меней, чым пісьменнікі. Арчыбальд Арчыбальдавіч ведаў пра сеанс у Вар'етэ і пра шмат іншых выпадкаў за гэтыя дні чуў, але, у адрозненне ад іншых, паўз вушы не прапускаў ні слова «клятчасты», ні слова «кот». Арчыбальд Арчыбальдавіч адразу здагадаўся, хто яго наведвальнікі. А калі здагадаўся, то, вядома, сварыцца з імі не захацеў. А Соф'я Паўлаўна — вось табе маеш! Гэта трэба дадумацца, не пускаць гэтых двух на веранду! Хаця што з яе возьмеш.

Петракова пагардліва тыцкала лыжачкаю ў раскіслае марожанае, незадаволена глядзела, як столік перад нейкімі

двума прыдуркамі, нібы ў казцы, абрастае ежаю. Да бляску памытае лісце салаты ўжо тырчэла з вазы са свежаю ікрою... імгненне — і з'явілася на знарок падсунутым суседнім століку запацелае срэбнае вядзерца...

Толькі пасля таго як пераканаўся, што ўсё зроблена як мае быць, толькі пасля таго як у афіцыянтавых руках прыляцела накрытая патэльня, у якой нешта вуркатала, Арчыбальд Арчыбальдавіч дазволіў сабе пакінуць двух загадкавых наведвальнікаў ды і то шапнуў ім:

— Прабачце, на хвілінку! Сам пракантралюю філейчыкі.

Ён паляцеў ад століка і знік ва ўнутраным уваходзе ў рэстаран. Калі б які-небудзь назіральнік далей прасачыў, што робіць Арчыбальд Арчыбальдавіч, то гэта здалося б яму загадкавым.

Шэф накіраваўся зусім не на кухню назіраць, як гатуюць філейчыкі, а ў рэстаранную кладоўку. Ён адамкнуў яе сваім ключом, замкнуўся, дастаў са скрыні з ільдом асцярожна, каб не забрудзіць манжэты, два ладныя балыкі, запакаваў іх у газетную паперу, акуратна перавязаў вяровачкай і паклаў. Потым у суседнім пакоі праверыў, ці на месцы яго летняе паліто на шаўковай падкладцы і капялюш, і толькі пасля гэтага пайшоў на кухню, дзе кухар старанна гатаваў абяцаныя гасцям філейкі.

Трэба сказаць, што дзіўнага і загадкавага ў дзеяннях Арчыбальда Арчыбальдавіча зусім не было, і дзіўнымі дзеяннямі іх мог назваць толькі павярхоўны назіральнік. Учынкі Арчыбальда Арчыбальдавіча лагічна выцякалі з папярэдняга. Веданне апошніх падзей, а галоўным чынам фенаменальнае чуццё Арчыбальда Арчыбальдавіча падказвалі шэфу грыбаедаўскага рэстарана, што абед яго наведвальнікаў будзе хоць і багаты і раскошны, але даволі кароткі. І чуццё, якое не падманвала былога флібусцьера, не падвяло і на гэты раз.

У той час, калі Кароўеў і Бегемот чокаліся другі раз кілішкамі цудоўнае халоднае маскоўскае двойчы ачышчанае гарэлкі, з'явіўся на верандзе потны і ўсхваляваны Боба Кандалупскі, вядомы ў Маскве сваім усёзнайствам, і адразу ж прысеў да Петраковых. Боба паклаў свой пульхны партфель на столік, адразу ж усунуў губы ў вуха Петракову і зашаптаў нешта спакуслівае. Пані Петракова сама памірала ад цікаўнасці і падставіла сваё вуха да масленых Бобавых губ. А той зрэдку азіраўся, як злодзей, і шаптаў, шаптаў, можна было пачуць толькі асобныя словы:

— Клянуся богам! На Садовай, на Садовай,— Боба за-

гаварыў яшчэ цішэй: — Не бяруць кулі! Кулі... кулі... бензін... пажар... кулі...

— Вось бы гэтых хлусоў, якія разносяць плёткі,— абураная, мацней, чым хацелася б Бобу, загудзела сваім кантральтавым голасам пані Петракова,— вось ім трэба было б растлумачыць! Але нічога, іх паставяць на сваё месца! Якія шкодныя плёткі!

— Якія плёткі, Антаніда Парфір'еўна! — усклікнуў засмучаны недаверам жонкі пісьменніка Боба і зноў засвістаў: — Гавару вам, кулі не бяруць... А цяпер пажар... Яны ў паветры... у паветры,— Боба шыпеў і не падазраваў, што тыя, пра каго ён расказвае, сядзяць побач з ім і маюць асалоду ад яго свісту.

Хаця гэтая асалода хутка скончылася. З унутранага рэстараннага ўваходу на веранду імкліва выйшлі трое мужчын, туга падпяразаныя рамянямі, у крагах і з рэвальверамі ў руках. Пярэдні крыкнуў звонка і страшна:

— Ні з месца! — І яны адразу ж пачалі страляць па верандзе, цэлячыся ў галаву Кароўеву і Бегемоту. Тыя, па кім стралялі, адразу ж расталі ў паветры, а з прымуса ўдарыў агнявы слуп проста ў тэнт. Нібыта пашча з чорнымі краямі з'явілася ў тэнце і пачала распаўзацца ва ўсе бакі. Агонь праскочыў праз яе і пачаў падымацца да самага даху грыбаедаўскага дома. Папкі з паперамі, якія ляжалі на акне на другім паверсе ў рэдакцыі, раптам успыхнулі, следам занялася штора, і тут агонь загудзеў, нібы яго раздзімалі, слупамі пайшоў унутр цётчынага дома.

Праз некалькі секунд па асфальтавых дарожках, якія вялі да чыгуннае рашоткі на бульвары, адкуль у сераду вечарам прыйшоў нікім не зразумелы Іванка, цяпер беглі недаабедаўшыя пісьменнікі, афіцыянты, Соф'я Паўлаўна, Боба, Петракова, Петракоў.

Арчыбальд Арчыбальдавіч нікуды не спяшаўся і не ўцякаў, ён зараней выйшаў праз бакавы ўваход і, як капітан, які павінен пакідаць карабель апошнім, стаяў спакойна ў летнім паліто з шаўковаю падкладкаю, з двума балыковымі бярвенцамі пад пахай.

## Раздзел 29

### ЛЁС МАЙСТРА І МАРГАРЫТЫ ВЫЗНАЧАНЫ

Перад заходам сонца высока над горадам на мураванай тэрасе аднаго з самых прыгожых у Маскве будынкаў, пабудаванага амаль паўтары тысячы гадоў назад, знаходзіліся двое: Воланд і Азазела. Іх не было відаць знізу, з вуліцы, бо іх засланяла ад чужога вока балюстрада з гіпсавымі вазамі і гіпсавымі кветкамі. А ім горад быў відаць увесь да краёў.

Воланд сядзеў на складной табурэтцы, апрануты ў сваю чорную сутану. Яго доўгая шырокая шпага была ўваткнута між дзвюх пліт тэрасы вертыкальна, так што атрымаўся сонечны гадзіннік. Цень ад шпагі няўмольна доўжыўся, падпаўзаў да чорных туфляў на нагах у сатаны. Воланд падпёр востры падбародак кулаком, сагнуўся на табурэтцы, падклаў адну нагу пад сябе і неадрыўна глядзеў на неабдымнае зборышча палацаў, вялізных дамоў і маленькіх, асуджаных на знос будынін.

Азазела быў не ў сучасным уборы, без пінжака, кацялка, лакіраваных туфляў; апрануты ў чорнае, як і Воланд, ён нерухома стаяў непадалёку ад свайго валадара, гэтак, як і ён, не адводзіў вачэй ад горада.

Воланд загаварыў:

— Які цікавы горад, ці не праўда?

Азазела паварушыўся і адказаў з павагаю:

— Месір, мне болей падабаецца Рым.

— Ну, гэта ў каго які густ,— адказаў Воланд.

Праз нейкі час зноў пачуўся яго голас:

— А чаго гэты дым там на бульвары?

— Гэта гарыць Грыбаедаў,— адказаў Азазела.

— Трэба думаць, што гэтая неразлучная парачка Кароўеў і Бегемот пабылі там?

— У гэтым няма ніякага сумнення, месір.

Зноў настала маўчанне, абодва з тэрасы глядзелі, як у вокнах, якія выходзілі на захад, на верхніх паверхах успыхвала адлюстраванне разламанага сонца. Воландава вока гарэла гэтаксама, як адно з вокнаў, што выходзіла на захад, хаця Воланд сядзеў плячыма да сонца.

Але тут штосьці прымусіла Воланда завярнуцца ад горада і звярнуць увагу на круглую вежу, якая была ў яго за плячыма на даху. Са сцяны яе выйшаў абарваны, выпацканы ў гліну пануры чалавек у хітоне, у самаробных сандалях, чорнабароды.

— Во! — усклікнуў Воланд і насмешліва паглядзеў на

прышэльца.— Меней за ўсё можна было чакаць цябе тут! Ты чаго з'явіўся незапрошаны, але чаканы госць?

— Я да цябе, дух зла і валадар ценяў,— адказаў прышэлец і з-пад ілба варожа паглядзеў на Воланда.

— Калі ты да мяне, то чаму не вітаешся, былы зборшчык падаткаў? — загаварыў Воланд.

— Таму што я не хачу, каб табе здаровілася,— з выклікам адказаў прышэлец.

— Табе з гэтым давядзецца зміруцца,— запярэчыў Воланд, і ўсмешка скрывіла яго рот,— не ўспеў ты з'явіцца, як ужо ляпнуў глупства, і я табе скажу, у чым яно,— у тваёй інтанацыі. Ты гаворыш гэтак, быццам не прызнаеш ценяў, а таксама зла. А ты, будзь ласкавы, падумай, што рабіла б тваё дабро, каб не было зла, і як бы выглядала зямля, каб з яе зніклі цені? Цені атрымліваюцца ад прадметаў і ад людзей. Вось цень ад маёй шпагі. Але бываюць цені ад дрэў і ад жывых істот. Ці не хочаш ты абадраць увесь зямны шар, знесці з яго ўсе дрэвы і ўсё жывое з-за твае фантазіі мець голы свет? Ты дурны.

— Я не буду з табой спрачацца, стары сафіст,— адказаў Левій Мацей.

— Ты і не можаш са мной спрачацца, таму што я сказаў ужо: ты дурны,— адказаў Воланд і спытаўся: — Ну, гавары коратка, не стамляй мяне, чаго ты хочаш?

— Ён прыслаў мяне.

— Што ён загадаў перадаць табе, раб?

— Я не раб,— яшчэ больш зазлаваў Левій Мацей,— я яго вучань.

— Мы гаворым з табою на розных мовах, як заўсёды,— адазваўся Воланд,— але рэчы, пра якія мы гаворым, ад гэтага не мяняюцца. Ну?..

— Ён прачытаў створанае майстрам,— загаварыў Левій Мацей,— і просіў цябе, каб ты забраў з сабою майстра і ўзнагародзіў яго спакоем. Няўжо табе гэта цяжка зрабіць, дух зла?

— Мне нічога не цяжка зрабіць,— адказаў Воланд,— і табе гэта добра вядома.— Ён памаўчаў і дадаў: — А чаму ж вы не бераце яго да сябе, да святла?

— Ён не заслужыў святла, ён заслужыў спакой,— журботным голасам сказаў Левій.

— Перадай, што будзе зроблена,— адказаў Воланд і дадаў, пры гэтым вока яго загарэлася: — І пакінь мяне тэрмінова.

— Ён просіць, каб тую, што кахала яго і пакутавала з-за

яго, вы забралі таксама,— упершыню Левій паглядзеў на Воланда ўмольна.

— Без цябе мы ніяк не здагадаліся б пра гэта. Ідзі.

Левій Мацей знік адразу пасля гэтага, а Воланд паклікаў Азазелу і загадаў:

— Ляці да іх і ўсё ўладзь.

Азазела пакінуў тэрасу, і Воланд застаўся адзін.

Аднак быць яму аднаму доўга не давялося. Пачуўся тупат па плітах на тэрасе і ажыўленая гаворка, і перад Воландам з'явіліся Кароўеў і Бегемот. Цяпер прымуса ў таўстуна не было, нагружаны ён быў іншымі прадметамі. Пад пахаю ў яго быў невялікі пейзажык у залатой раме, на руцэ вісеў кухарскі, напалову згарэлы халат, а ў другой руцэ ён трымаў цэлую сёмгу са скураю і хвастом. Ад Кароўева і Бегемота патыхала гарэлым, Бегемотава морда была ў сажы, а шапачка напалову абгарэла.

— Салют, месір! — крыкнула неўгамонная парачка, і Бегемот замахаў сёмгаю.

— Якія прыгажуны,— сказаў Воланд.

— Месір, уяўляеце, мяне палічылі марадзёрам,— радасна і ўзбуджана закрычаў Бегемот.

— Калі меркаваць па прынесеным табою,— адказаў Воланд і паглядзеў на ландшафцік,— ты і ёсць марадзёр.

— Паверце, месір...— пачаў задушэўна Бегемот.

— Не паверу,— коратка адказаў Воланд.

— Месір, клянуся, я гераічна спрабаваў выратаваць што толькі можна было, і вось усё, што ўдалося адваяваць.

— Ты лепш скажы, чаму загарэўся Грыбаедаў? — спытаўся Воланд.

Абодва, Кароўеў і Бегемот, развялі рукамі, паднялі вочы ў неба, а Бегемот закрычаў:

— Не разумею! Сядзелі мірна, зусім ціха, абедалі...

— І раптам — трах, трах! — падхапіў Кароўеў.— Стрэлы! Ашалелыя ад страху, мы з Бегемотам кінуліся ўцякаць на бульвар, даганялы следам, мы кінуліся ў Ціміразеўку!..

— Але адчуванне абавязку,— умяшаўся Бегемот,— перамагло наш брыдкі страх, і мы вярнуліся.

— Дык вы вярнуліся? — сказаў Воланд.— Ну, вядома, тады будынак згарэў ушчэнт.

— Ушчэнт! — горка пацвердзіў Кароўеў.— Гэта значыць зусім ушчэнт, месір, як вы і сказалі. Адны галавешкі.

— Я накіраваўся,— расказваў Бегемот,— у зал пасяджанняў, гэта той, што з калонамі, месір, спадзяваўся выцягнуць што-небудзь каштоўнае. Ах, месір, мая жонка, ка-

лі б яна толькі была ў мяне, яна дваццаць разоў рызыкавала б застацца ўдавою! Але, на шчасце, я нежанаты, і скажу вам шчыра — шчаслівы, што не жанаты. Ах, месір, хіба можна прамяняць халасцяцкую волю на цяжкае ярмо!

— Зноў глупства мелеш,— сказаў Воланд.

— Слухаюся і працягваю,— адказаў той,— ага, вось ландшафцік. Болей нічога нельга было ўзяць, полымя шуганула мне ў твар. Я пабег у каморку, выратаваў сёмгу. Пабег на кухню, выратаваў халат. Я лічу, месір, што зрабіў усё, што толькі мог, і не разумею, чаму ў вас гэтакі скептычны твар.

— А што рабіў Кароўеў у гэты час, калі ты марадзёрнічаў? — спытаў Воланд.

— Я дапамагаў пажарнікам, месір,— адказаў Кароўеў і паказаў на парваныя штаны.

— Ну, калі гэтак, то давядзецца будаваць новы будынак.

— Ён будзе пабудаваны, месір,— адазваўся Кароўеў,— запэўніваю вас.

— Што ж, застаецца толькі пажадаць, каб ён быў лепшы, чым стары,— заўважыў Воланд.

— Гэтак яно і будзе, месір,— сказаў Кароўеў.

— Вы мне паверце,— дадаў кот,— я самы сапраўдны прарок.

— Нарэшце мы вярнуліся, месір,— дакладваў Кароўеў,— і чакаем вашых загадаў...

Воланд устаў са свае табурэткі, падышоў да балюстрады і доўга маўчаў, адзін, завярнуўшыся плячыма да свае світы, глядзеў удалячынь. Потым адышоў ад краю, зноў сеў на табурэтку і сказаў:

— Загадаў ніякіх не будзе — вы выканалі ўсё, што змаглі, і больш пакуль што мне вашы паслугі не патрэбны. Можаце адпачываць. Зараз прыйдзе навальніца, апошняя навальніца, яна скончыць усё, што трэба скончыць, і мы рушым у дарогу.

— Вельмі добра, месір,— адказалі абодва гаеры і зніклі дзесьці за круглаю цэнтральнаю вежаю, якая размяшчалася пасярод тэрасы.

Навальніца, пра якую гаварыў Воланд, ужо збіралася над небакраем. Чорная хмара ўстала на захадзе і да палавіны адрэзала сонца. Потым яна накрыла яго цалкам. На тэрасе пасвяжэла. Яшчэ праз нейкі час зрабілася цёмна.

Гэтая цемра, якая насунулася з захаду, накрыла вялізны горад. Зніклі масты, палацы. Усё знікла, быццам гэтага ні-

колі і не было на свеце. Па ўсім небе прабегла вогненная нітка. Потым горад скалануўся ад удару. Удар паўтарыўся, і пачалася навальніца. Воланда не стала бачна ў імжы.

## Раздзел 30

### ПАРА! ПАРА!

— Ты ведаеш,— гаварыла Маргарыта,— якраз калі ты заснуў учора ноччу, я чытала пра цемру, якая прыйшла з Міжземнага мора... і гэтыя ідалы, ах, залатыя ідалы! Яны чамусьці мне ўвесь час не даюць спакою. Мне здаецца, што і зараз лье дождж. Ты адчуваеш, як пасвяжэла?

— Усё гэта добра і міла,— адказаў майстар, ён курыў і разганяў рукою дым,— і гэтыя ідалы, бог з імі... але што далей будзе, зусім не зразумела!

Гаворка гэтая адбывалася перад заходам сонца, якраз тады, калі да Воланда на тэрасу з'явіўся Левій Мацей. Акенца ў падвале было адчынена, і калі б хто-небудзь зазірнуў у яго, ён здзівіўся б з таго, як выглядаюць субяседнікі. На Маргарыце проста на голае цела быў накінуты чорны плашч, а майстар быў у бальнічнай бялізне. Было гэта таму, что Маргарыце зусім не было чаго адзець, бо ўсе яе рэчы засталіся ў асабняку, і хаця гэты асабняк быў непадалёку, вядома, нечага было і думаць, каб пайсці туды і забраць рэчы. А майстар, усе касцюмы якога знайшліся ў шафе, нібы ён нікуды і не выязджаў, проста не хацеў адзявацца, гаварыў Маргарыце, што вось-вось пачнецца тварыцца нейкае несусветнае глупства. Праўда, ён быў упершыню паголены, калі лічыць ад тае асенняе ночы (у клініцы яму бародку падстрыглі машынкаю).

Пакой таксама выглядаў дзіўна, разабрацца ў гэтым хаосе было цяжка. На дыване ляжалі рукапісы, яны былі і на канапе. Валялася нейкая кніга на крэсле. На круглым століку стаяў абед, паміж закуссю некалькі бутэлек. Адкуль узяліся гэтыя стравы і пітво, было невядома і Маргарыце, і майстру. Калі яны прачнуліся, усё гэта было ўжо на стале.

Пасля таго як праспалі да суботняга надвячорка, і майстар, і яго сяброўка адчувалі сябе добра, і толькі адно нагадвала пра ўчарашнюю прыгоду — у абодвух балелі скроні. З псіхікай у абодвух адбыліся вялікія перамены, у гэтым бы пераканаўся кожны, паслухаўшы размову ў падвальнай кватэры.

Але падслухоўваць не было каму. Дворык таму і быў добры, што заўсёды пуставаў. З кожным днём ліпы, якія гусцелі зелянінай, і вярба за акном па-вясноваму пахлі, і ветрык заносіў гэты пах у падвал.

— Фу ты чорт! — нечакана ўсклікнуў майстар.— Падумаць толькі...— ён патушыў недакурак у попельніцы і сціснуў галаву аберуч.— Не, паслухай, ты разумны чалавек, і вар'яткаю не была... Ты сапраўды верыш, што мы ўчора былі ў сатаны?

— Веру,— адказала Маргарыта.

— Вядома, вядома,— іранічна сказаў майстар,— цяпер, выходзіць, замест аднаго вар'ята аж два! І муж і жонка.— Ён падняў рукі ўгору і закрычаў: — Не, гэта чортведама што, чорт, чорт, чорт!

Замест адказу Маргарыта ўпала на канапу, ад смеху аж задрыгала нагамі, потым ускрыкнула:

— Ой, не магу! Ой, не магу! Ты глянь толькі, на каго ты падобны!

Яна насмяялася, пакуль майстар сарамліва падцягваў бальнічныя кальсоны, і сказала сур'ёзна:

— Ты зараз міжволі сказаў праўду. Чорт ведае што гэта, і чорт, павер мне, усім распарадзіцца! — Вочы яе раптоўна загарэліся, яна падхапілася, затанцавала на месцы і пачала ўскрыкваць: — Якая я шчаслівая, якая я шчаслівая, што згаварылася з ім! О д'ябал, д'ябал!.. Давядзецца вам, мой мілы, жыць з ведзьмаю! — пасля гэтага яна кінулася да майстра, абхапіла яго за шыю і пачала цалаваць у губы, у нос, у шчокі. Віхры нерасчасаных валасоў кудлаціліся на майстры, і лоб і шчокі ў яго загарэліся ад пацалункаў.

— Ты і сапраўды стала падобная на ведзьму.

— Я не адмаўляюся,— сказала Маргарыта,— я ведзьма і вельмі гэтым задаволена.

— Ну, добра,— сказаў майстар,— няхай ведзьма. Вельмі добра! Мяне, выходзіць, укралі з лякарні... Таксама цудоўна! Вярнулі сюды, дапусцім і гэта... Ну, няхай нас і не пачнуць шукаць... Але скажы ты мне, на міласць богу, за што мы будзем жыць? Калі я гавару пра гэта, я клапачуся толькі пра цябе, павер мне!

У гэты момант у акенцы паказаліся тупаносыя чаравікі і ніжняя частка штаноў у палосачку. Затым гэтыя штаны сагнуліся ў каленях, і святло дня загарадзіў нечы тоўсты зад.

— Алаізій, ты дома? — спытаўся голас наверсе, недзе над штанамі, над акном.

— Ну, пачынаецца,— сказаў майстар.

— Алаізій? — спыталася Маргарыта і падышла бліжэй да акна.— Яго арыштавалі ўчора. А хто пра яго пытаецца? Як ваша прозвішча?

У адно імгненне зад і штаны зніклі, і чуваць было, як грукнулі варотцы, пасля ўсё стала па-ранейшаму. Маргарыта ўпала на канапу і зарагатала гэтак, што слёзы выступілі на вачах. Пасля таго як супакоілася, твар у яе моцна змяніўся, яна загаварыла сур'ёзна і, гаворачы, з'ехала з канапы долу, падпаўзла да каленяў майстра, глядзела яму ў вочы, гладзіла па галаве.

— Як ты пакутаваў, бедны, як ты пакутаваў, бедны ты мой! Пра гэта ведаю толькі я адна. Паглядзі, у цябе белыя валасы і вечная складка ля губ! Мой адзіны, мой мілы, не думай ні пра што! Табе занадта многа давялося думаць, і цяпер за цябе буду думаць я. І я ручаюся, ручаюся, што ўсё будзе толькі добра!

— Я нічога не баюся, Марго,— раптам адказаў ёй майстар, падняў галаву, і яна ўбачыла яго такім, якім ён быў тады, калі пісаў пра тое, чаго ніколі не бачыў, але пра што дакладна ведаў, што гэтак было,— я не баюся, таму што я ўжо ўсё перажыў. Мяне многа палохалі, і ўжо няма чым спалохаць. Але мне шкада цябе, Марго, вось у чым фокус, вось чаму я і паўтараю адно і тое. Апамятайся! Нашто табе калечыць сваё жыццё, звязвацца з хворым і жабраком? Вяртайся дадому! Шкадую цябе, таму гэтак і гавару.

— Эх ты, ты,— Маргарытаківала растрапанаю галавою,— эх ты, малаверны няшчасны чалавек. Я з-за цябе ўчора ўсю ноч трэслася голая, я страціла сваю прыроду, памяняла яе на новую, некалькі месяцаў я сядзела ў цёмнай каморцы і думала толькі пра адно — пра навальніцу над Ершалаімам, я выплакала свае вочы, а цяпер, калі звалілася на галаў шчасце, ты мяне праганяеш? Ну што ж, я пайду, пайду, але ведай, што ты жорсткі чалавек! Яны спустошылі тваю душу!

Горкая пяшчота захліснула майстрава сэрца, і, невядома чаму, ён заплакаў, уткнуўшыся тварам у Маргарыціны валасы.

А яна плакала, шаптала, цалавала яго, і пальцы яе трымцелі на скронях майстра.

— Ах павуціна, павуціна, на вачах у мяне сівее твая галава... ах мая, мая шматпакутная галава! Паглядзі, якія ў цябе вочы! Пустыня ў іх... А плечы, плечы прыгнутыя цяжарам... Скалечылі, скалечылі...— Маргарыта ўсё болей і болей блыталася ў гаворцы, скаланалася ад плачу.

Тады майстар выцер вочы, падняў з каленяў Маргарыту, устаў сам і сказаў цвёрда:

— Хопіць! Ты прысарамаціла мяне. Я больш ніколі не збаюся і не буду гаварыць пра гэта, супакойся. Я ведаю, што мы абое ахвяры свае душэўнае хваробы, якую я, магчыма, перадаў і табе... Што ж, мы разам і будзем трываць яе.

Маргарыта прытулілася да вуха майстра губамі і зашаптала:

— Клянуся табе сваім жыццём, клянуся ўгаданым табой сынам астролага — усё будзе добра.

— Ну, хопіць, хопіць,— адазваўся майстар, засмяяўся і дадаў: — Вядома, калі людзі абрабаваныя ўшчэнт, яны шукаюць ратунку ў незямной сіле! Што ж, згодны шукаць і там.

— Ну вось, ну вось, ты ранейшы, ты смяешся,— адказала Маргарыта,— і ну цябе к чорту з тваімі вучонымі слоўкамі. Незямная ці зямная — мне ўсё роўна! Я хачу есці.

І яна павалакла майстра за рукаў да стала.

— Я не ўпэўнены, што гэтая ежа не праваліцца зараз скрозь зямлю альбо не вылеціць праз акно,— гаварыў той зусім спакойна.

— Яна паляціць!

І ў гэты час у акенцы пачуўся гугнявы голас:

— Мір вам.

Майстар здрыгануўся, а прывычная ўжо да незвычайных прыгод Маргарыта ўскрыкнула:

— А, гэта ты, Азазела! Ай, як добра, як хораша! — і шапнула майстру: — Вось бачыш, нас не пакінулі! — і кінулася адмыкаць дзверы.

— Ты хоць захініся,— крыкнуў ёй услед майстар.

— Напляваць мне на гэта,— адказала Маргарыта ўжо з калідорчыка.

І вось ужо Азазела пакланіўся, павітаўся з майстрам, бліскаў на яго сваім крывым вокам, а Маргарыта ўсклiквала:

— Ах, як я рада! Я ніколі гэтак не радавалася ў жыцці? Выбачайце, Азазела, што я голая!

Азазела прасіў не турбавацца, запэўніў, што ён пабачыў не толькі голых жанчын, але нават жанчын з аблупленаю скураю, ахвотна прысеў да стала, паставіў у куце ля печкі нейкі скрутак у цёмнай парчы.

Маргарыта паслужліва наліла Азазелу каньяку, і той ахвотна выпіў яго. Майстар не спускаў з Азазелы вачэй, зрэдку пад сталом шчыпаў сябе за левую руку. Але гэта не дапамагала. Азазела не раставараўся ў паветры, ды ў гэтым,

па праўдзе гаворачы, не было і неабходнасці. Нічога страшнага ў рыжаватым, невялікага росту чалавечку не было, хіба што вока з бяльмом, але гэта бывае і без усякіх чараў, ды адзенне не зусім прывычнае — нейкая раса альбо плашч, але калі задумацца, то і такое адзенне можна ўбачыць. Каньяк ён таксама піў спраўна, як і ўсе нармальныя людзі, поўнымі чаркамі, і не закусваў. Ад гэтага самага каньяку ў майстра зашумела ў галаве, і ён пачаў думаць.

«Не, праўда Маргарыцінa! Вядома, перада мной пасланец д'ябла. Ды я ж сам не пазней як учора ноччу даказваў Івану, што той сустрэў на Патрыярхавых менавіта сатану, а цяпер чамусьці спалохаўся і пачаў мармытаць, плесці штосьці пра гіпнатызёраў і пра галюцынацыі. Якія тут к чорту гіпнатызёры!»

Ён пачаў прыглядацца да Азазелы і пераканаўся, што ў вачах у таго ёсць нейкі клопат, нейкая думка, пра якую ён пакуль што маўчыць. «Ён не проста ў госці, ён з'явіўся з нейкім даручэннем»,— думаў майстар.

Назіральнасць не падманула яго.

Пасля таго як выпіў трэцюю шклянку каньяку, які на Азазелу зусім не дзейнічаў, госць загаварыў:

— Даволі ўтульны падвальчык, чорт пабяры! Адно толькі пытанне ўзнікае, што ў ім рабіць, у гэтым падвальчыку?

— Пра гэта і я гавару,— засмяяўшыся, адказаў майстар.

— Навошта вы мяне трывожыце, Азазела? — спыталася Маргарыта.— Як-небудзь!

— Што вы, што вы! — усклікнуў Азазела.— Я і не думаў вас трывожыць. Я і сам ведаю — як-небудзь. Ага! Ледзь не забыўся... Месір прывітанне вам перадаваў і таксама загадаў перадаць, што запрашае вас на невялікую прагулянку, калі, вядома, вы захочаце. Дык што вы скажаце?

Маргарыта пад сталом штурхнула майстра.

— З вялікім задавальненнем,— адказаў майстар, разглядаючы Азазелу, а той працягваў:

— Мы спадзяёмся, што і Маргарыта Мікалаеўна не адмовіцца ад гэтага?

— Я не адмоўлюся,— сказала Маргарыта, і зноў яе нага праехала па майстравай назе.

— Цудоўная рэч! — усклікнуў Азазела.— Вось гэта я люблю! Раз-два — і гатова! Не тое што тады ў Аляксандраўскім садзе.

— Не ўспамінайце пра гэта, Азазела! Я тады была дурная. Ды мяне не трэба надта і вінаваціць — не кожны ж дзень сустракаешся з нячыстаю сілаю!

— Вядома,— пацвердзіў Азазела,— каб кожны дзень, гэта было б прыемна!

— Мне і самой падабаецца хуткасць і аголенасць,— гаварыла Маргарыта,— хуткасць і аголенасць... Як з маўзера — раз! Ах, як ён страляе! — ускрыкнула Маргарыта, звяртаючыся да майстра.— Сямёрка пад падушкай, і ў любое ачко! — Маргарыта пачала п'янець, і вочы ў яе разгарэліся.

— Я зноў забыўся,— крыкнуў Азазела і ляпнуў сябе па лбе,— зусім закруціўся! Месір прыслаў вам падарунак,— тут ён звярнуўся да майстра,— бутэльку віна. Прашу заўважыць, што гэта тое самае віно, якое піў пракуратар Іудзеі. Фалернскае віно.

Вядома, гэта выклікала вялікую цікаўнасць у майстра і ў Маргарыты. Азазела дастаў з чорнае пахавальнае парчы зусім ззелянелы збан. Віно нюхалі, налілі ў шклянкі, глядзелі скрозь яго на святло ў акне, якое знікала перад навальніцаю. Бачылі, як усё фарбуецца ў крывавы колер.

— За здароўе Воланда! — усклікнула Маргарыта і падняла сваю шклянку.

Усе ўтраіх выпілі са шклянак па вялікім глытку. Адразу перадпавальнічнае святло пачало патухаць у вачах майстра, перахапіла дыханне, ён адчуў, што прыходзіць канчына. Ён бачыў яшчэ, як смяротна пабялелая Маргарыта працягвае да яго рукі, падае галавой на стол, а потым спаўзае на падлогу.

— Забойца...— успеў яшчэ крыкнуць майстар. Ён схапіў нож са стала, каб ударыць Азазелу, але рука бездапаможна слізганула па настольніку, усё ў падвале пафарбавалася ў чорны колер, а потым і зусім знікла. Ён упаў дагары і, падаючы, рассек скуру на скроні аб рог бюро.

Калі атручаныя заціхлі, Азазела пачаў дзейнічаць. Найперш ён кінуўся ў акно, і праз некалькі імгненняў быў у асабняку, у якім жыла Маргарыта Мікалаеўна. Заўсёды пунктуальны і акуратны, Азазела хацеў праверыць, ці ўсё выканана як належыць. Усё аказалася ў поўным парадку. Азазела бачыў, як сумная жанчына, якая чакала свайго мужа, выйшла са свае спальні, раптоўна пабялела, схапілася за сэрца, крыкнула бездапаможна:

— Наташа! Хто-небудзь... да мяне,— упала на падлогу ў гасцёўні, не дайшоўшы да кабінета.

— Усё ў парадку,— сказаў Азазела. Праз імгненне ён быў ля мёртвых закаханых. Маргарыта ляжала, уткнуўшыся тварам у дыванчык. Сваімі жалезнымі рукамі Азазела пера-

вярнуў яе, як ляльку, тварам да сябе і прыгледзеўся да яе. На яго вачах твар у атручанай мяняўся. Нават у прыцемках, якія насунуліся, было відаць, як знікала часовая касавокасць, жорсткасць, грубаватасць твару. Твар нябожчыцы пасвятлеў, нарэшце памякчэў, аскал перастаў быць драпежным, а зрабіўся проста жаночым пакутлівым аскалам. Тады Азазела разняў яе белыя зубы і ўліў у рот некалькі кропель таго самага віна, якім і атруціў. Маргарыта ўздыхнула, пачала ўставаць без дапамогі Азазелы, села і слаба спыталася:

— За што, Азазела, за што? Што вы зрабілі са мной?

Яна ўбачыла ляжачага майстра, здрыганулася і прашаптала:

— Гэтага я не чакала... забойца!

— Ды не ж, не,— адказаў Азазела,— зараз і ён устане. Ах, чаму вы ўсе гэтакія нервовыя!

Маргарыта паверыла яму адразу, гэтакі пераканаўчы быў голас у рыжага дэмана. Яна ўсхапілася, дужая і жывая, і памагла напаіць ляжачага віном. Той расплюшчыў вочы, цяжка зірнуў і з нянавісцю паўтарыў сваё апошняе слова:

— Забойца...

— Ах! Знявага звычайна з'яўляецца ўзнагародай за добрую работу,— адказаў Азазела.— Няўжо вы сляпы? Ну разгледзьцеся хоць зараз!

Тут майстар устаў, зірнуў навокал жывым і светлым позіркам і спытаўся:

— Што абазначае ўсё гэта?

— Яно абазначае,— адказаў Азазела,— што нам пара. Ужо гром ґрыміць, вы чуеце? Цямнее. Коні б'юць капытамі, дрыжыць увесь маленькі сад. Развітвайцеся з падвалам, развітвайцеся хутчэй.

— А, разумею,— сказаў майстар і азірнуўся,— вы нас забілі, мы мёртвыя. Ах, як гэта разумна! Як гэта ў час! Цяпер я зразумеў вас!

— Ах, злітуйцеся,— адказаў Азазела,— ці гэта вас я чую? Ваша сяброўка называе вас майстрам, вы думаеце, дык як жа вы можаце быць мёртвым? Хіба для таго, каб лічыць сябе жывым, трэба абавязкова сядзець у падвале ў адной толькі рубашцы і бальнічным споднім? Гэта смешна!

— Я зразумеў усё, што вы гаварылі,— ускрыкнуў майстар,— не прадаўжайце! Ваша праўда тысячу разоў!

— Вялікі Воланд,— пачала дапамагаць яму Маргарыта,— вялікі Воланд! Ён прыдумаў усё намнога лепш, чым я. Але толькі раман, раман,— крычала яна майстру,— раман забяры з сабой, куды б ты толькі не ляцеў!

— Не трэба,— адказаў майстар,— я ведаю яго на памяць.

— А ты ні слова, ніводнага слова з яго не забудзеш? — пыталася Маргарыта, прыціскалася да каханка і выцірала яму кроў са скроні.

— Не хвалюйся! Я цяпер нічога і ніколі не забуду,— адказаў майстар.

— Тады агонь,— крыкнуў Азазела.— Агонь, з якога ўсё пачалося, і якім мы ўсё канчаем.

— Агонь! — страшна крыкнула Маргарыта. Акенца ў падвале грукнула, ветрам адагнала ўбок штору. У небе весела і коратка грымнула. Азазела ўсунуў кіпцюрыстую руку ў печку, дастаў куродымную галавешку і падпаліў настольнік на стале. Потым стос старых газет, а затым рукапіс і фіранку на акне.

— Гары, гары, ранейшае жыццё!

— Гарыце, пакуты! — крычала Маргарыта.

Пакой ужо пакалыхваўся барвовымі слупамі, і разам з дымам вылецелі з дзвярэй трое, узбеглі па мураванай лесвіцы наверх і апынуліся ў дворыку. Першае, што яны ўбачылі, гэта забудоўшчыкаву кухарку, якая сядзела на зямлі; побач была рассыпана бульба і некалькі пучкоў цыбулі. Кухарку можна было зразумець. Трое чорных коней храплі ля хлеўчука, дрыжалі і капытамі ўзбівалі зямлю фантанамі. Маргарыта ўскочыла першая, за ёй Азазела, апошнім майстар. Кухарка застагнала, хацела падняць руку, каб перахрысціцца, але Азазела грозна крыкнуў з сядла:

— Адрэжу руку! — Ён свіснуў, і коні, ломячы галіны ліпы, урэзаліся ў чорную хмару. Адразу з акенца ў падвале паваліў дым. Унізе пачуўся слабы няшчасны кухарчын крык:

— Гарым!..

Коні імчалі ўжо над дахамі Масквы!

— Я хачу развітацца з горадам,— крыкнуў майстар Азазелу, які ляцеў наперадзе. Гром праглынуў канец майстравага сказа.

Азазела кіўнуў галавой і пагнаў свайго каня галопам. Насустрач летунам імкліва неслася хмара, але яшчэ не сыпала дажджом.

Яны ляцелі над бульварам, бачылі, як разбягаюцца постаці, як хаваюцца ад дажджу. Падалі першыя кроплі. Яны праляцелі над дымам — усім, што засталося ад Грыбаедава. Яны праляцелі над горадам, які ўжо залівала цемра. Над імі ўспыхвалі маланкі. Потым дахі змяніліся зелянінаю.

Тады толькі лінуў дождж і ператварыў летуноў у тры вялікія пухіры.

Маргарыце ўжо было знаёма адчуванне палёту, а майстру — не, і ён здзівіўся таму, як хутка яны апынуліся ля мэты, у таго, з кім ён хацеў развітацца, таму што яму больш не было з кім развітвацца. Ён адразу пазнаў скрозь дождж будынак клінікі Стравінскага, раку і добра вывучаны ім бор на другім беразе. Яны прызямліліся ў гаі на паляне, непадалёк ад клінікі.

— Я пачакаю вас тут,— крычаў Азазела, склаўшы рукі рупарам, і то знікаў, то ўзнікаў пры святле маланкі ў шэрай сцяне,— развітвайцеся, толькі хутчэй!

Майстар і Маргарыта саскочылі з коней і паляцелі, замільгалі, як вадзяныя цені, праз клінічны сад. Яшчэ праз некалькі імгненняў майстар прывычнаю рукою рассоўваў рашотку на акне палаты № 117. Маргарыта ішла следам. Яны зайшлі да Іванкі, нікім не прыкмечаныя пад грукатанне і завыванне навальніцы. Майстар спыніўся ля ложка.

Іванка ляжаў нерухома, як і тады, калі ўпершыню глядзеў на навальніцу ў доме свайго спачыну. Ён не плакаў, як мінулы раз. Калі ён разгледзеў як след цёмную постаць, якая ўварвалася да яго з балкона, ён прыўстаў, працягнуў рукі і сказаў радасна:

— А, гэта вы, а я ўсё чакаю, чакаю вас. Вось і вы, мой сусед.

Майстар адказаў яму:

— Я тут! Але болей вашым суседам, на жаль, не буду. Я адлятаю назаўсёды, таму і прыйшоў, каб развітацца.

— Я пра гэта ведаю, я здагадаўся,— ціха адказаў Іван і спытаў: — Вы сустрэлі яго?

— Сустрэў,— сказаў майстар,— я прыйшоў развітацца з вамі, бо вы былі апошнім і адзіным чалавекам, з кім я гаварыў у апошні час.

Іванка пасвятлеў і сказаў:

— Гэта добра, што вы сюды заляцелі. Я слова сваё стрымаю, вершыкаў больш пісаць не буду. Мяне цяпер іншае цікавіць,— Іванка ўсміхнуўся і ненармальнымі вачыма глядзеў паўз майстра,— я іншае хачу напісаць. Я тут, пакуль ляжаў, ведаеце, пра многае перадумаў і многае зразумеў.

Майстар расхваляваўся з-за гэтых слоў, прысеў на краёк Іванкавага ложка:

— Вось гэта добра, добра. Вы пра яго працяг напішаце!

Іванкавы вочы загарэліся.

— А хіба вы самі не будзеце? — ён апусціў галаву і задумліва дадаў: — Ай, ды чаго я пытаюся,— Іванка коса зірнуў на падлогу, паглядзеў спалохана.

— Ага,— сказаў майстар, і голас яго здаўся Іванку незнаёмым і глухім,— я ўжо болей не буду пісаць пра яго. Я буду заняты іншым.

Скрозь пошум навальніцы пачуўся свіст.

— Вы чуеце? — спытаўся майстар і ўстаў з ложка.

— Навальніца шуміць...

— Не, гэта мяне клічуць, мне пара,— растлумачыў майстар і ўстаў з пасцелі.

— Пачакайце! Яшчэ адно слова,— папрасіў Іван,— а вы яе знайшлі? Яна не здрадзіла вам?

— Вось яна,— адказаў майстар і паказаў на сцяну. Ад белае сцяны ступіла цёмная Маргарыта і падышла да ложка. Яна доўга глядзела на юнака, і ў вачах у яе была скруха.

— Бедны, бедны,— нячутна прашаптала Маргарыта і нахілілася да пасцелі.

— Якая прыгожая,— без зайздрасці, але з сумам і нейкім замілаваннем прамовіў Іван,— бачыш, як у вас усё добра атрымалася. А вось у мяне не гэтак.— Тут ён падумаў і задумліва дадаў: — Хаця, магчыма, і гэтак...

— Гэтак, гэтак,— прашаптала Маргарыта і зусім нахілілася,— вось я вас пацалую ў лоб, і ўсё ў вас будзе як належыць... вы мне паверце, я ўсё бачыла, я ведаю.

Юнак абхапіў яе за шыю, і яна пацалавала яго.

— Бывай, вучань,— ледзь чутна прамовіў майстар і пачаў раставаць у паветры. Ён знік, з ім разам знікла і Маргарыта, зачыніліся за імі краты на балконе.

Іванка захваляваўся. Ён сеў на ложку, трывожна азірнуўся, нават застагнаў, загаварыў сам з сабою, устаў. Навальніца бушавала мацней і мацней і, мабыць, растрывожыла яго душу. Хвалявала яго таксама і тое, што за дзвярыма ён сваім прывыклым да цішыні слыхам улавіў паспешныя крокі, глухія галасы за дзвярыма. Ён клікаў, нерваваўся, уздрыгваў:

— Праскоўя Фёдараўна!

Праскоўя Фёдараўна ўжо заходзіла ў пакой, запытальна і трывожна глядзела на Іванку.

— Што? Што такое? — пыталася яна.— Навальніца хвалюе? Ну, нічога, нічога... Зараз дапаможам. Зараз я доктара паклічу.

— Не, Праскоўя Фёдараўна, не патрэбна доктара клі-

каць,— сказаў Іванка і неспакойна глядзеў не на Праскоўю Фёдараўну, а на сцяну,— са мной нічога такога. Я разбіраюся цяпер, вы не бойцеся. Вы мне лепш скажыце,— задушэўна спытаўся Іван,— а што там зараз побач у сто васемнаццатым пакоі здарылася?

— У васемнаццатым? — перапыталася Праскоўя Фёдараўна, і вочы ў яе забегалі.— Ды нічога там не здарылася.— Але голас быў фальшывы, Іванка адразу змікіціў і сказаў:

— Эх, Праскоўя Фёдараўна! Вы такі чалавек праўдзівы... Вы думаеце, я бушаваць пачну? Не, Праскоўя Фёдараўна, не будзе гэтага. Вы лепш шчыра скажыце. Я скрозь сцяну адчуваю.

— Сканаў ваш сусед,— прашаптала Праскоўя Фёдараўна, не могучы пераадолець сваю праўдзівасць і дабрату, і спалохана зірнула на Іванку, асветленая святлом маланкі. Але з Іванкам нічога страшнага не здарылася. Ён шматзначна падняў палец і сказаў:

— Я гэтак і ведаў! Я запэўніваю вас, Праскоўя Фёдараўна, што ў горадзе зараз сканаў яшчэ адзін чалавек. Я нават ведаю хто,— тут Іванка таямніча ўсміхнуўся,— гэта жанчына.

## Раздзел 31

### НА ВЕРАБ'ЁВЫХ ГАРАХ

Навальніцу бясследна прагнала, быццам арка, стаяла перакінутая над усёй Масквой вясёлка, піла ваду з Масквыракі. У вышыні, на ўзгорку, між двума гаямі відаць былі тры цёмныя постаці. Воланд, Кароўеў і Бегемот сядзелі на чорных конях у сёдлах, глядзелі на распрасцёрты за ракою горад у сонечных шкляных водсветах у тысячах вокнаў, звернутых на захад, на пранікавыя вежы Дзявочага манастыра.

У паветры зашумела, і Азазела, у хвасце якога ляцелі майстар і Маргарыта, апусціўся разам з імі каля групкі тых, хто чакаў.

— Давялося патурбаваць вас, Маргарыта Мікалаеўна і майстар,— загаварыў Воланд пасля невялічкага маўчання,— але вы не будзеце мець да мяне прэтэнзіі. Не думаю, каб вы пашкадавалі. Ну што ж,— звярнуўся ён толькі да майстра,— развітвайцеся з горадам. Нам пара,— Воланд паказаў рукою ў чорнай пальчатцы з раструбам туды, дзе

бясконцыя сонцы плавілі шкло за рэчкаю, дзе над гэтымі сонцамі ўставаў туман, дым, пара ад разагрэтага за дзень горада.

Майстар саскочыў з сядла, падбег да абрыву на ўзгорку. Чорны плашч цягнуўся за ім па зямлі. Майстар пачаў глядзець на горад. У першыя імгненні да сэрца падступіў шчымлівы смутак, але вельмі хутка ён змяніўся саладкавай трывогай, вандроўным цыганскім хваляваннем.

— Назаўсёды! Гэта трэба асэнсаваць,— прашаптаў майстар і аблізаў сухія патрэсканыя губы. Ён пачаў прыслухоўвацца і запамінаць усё, што адбываецца ў яго душы. Яго хваляванне, як здалося, перайшло ў пачуццё глыбокае кроўнае крыўды. Але яна была нямоцная, знікла і чамусьці змянілася ганарлівым раўнадушшам, а яно — прадчуваннем пастаяннага спакою.

Група коннікаў моўчкі чакала майстра. Яны назіралі, як чорная высокая постаць на краі абрыву махае рукамі, то падымае галаву, быццам хоча працяць сваім позіркам увесь горад, зазірнуць за краі яго, то апускае, нібы разглядае вытаптаную рэдкую траву пад нагамі.

Перапыніў маўчанне засумавалы Бегемот.

— Дазвольце мне, мэтр,— загаварыў ён,— свіснуць перад дарогаю на развітанне.

— Ты спалохаеш пані,— сказаў Воланд,— і, акрамя таго, не забудзь, што на сёння ўсе твае выбрыкі скончыліся.

— Ах не, месір,— адазвалася Маргарыта, якая сядзела на сядле, як амазонка, села зручней і звесіла да зямлі востры шлейф,— дазвольце яму, няхай свісне. Мяне апаноўвае сум перад дальняй дарогаю. І гэта натуральна, ці не праўда, месір, нават тады, калі чалавек ведае, што ў канцы гэтае дарогі яго чакае шчасце? Няхай ён пацешыць нас, а то я баюся, што скончыцца слязьмі, і ўсё будзе сапсавана перад дарогай!

Воланд кіўнуў Бегемоту, той вельмі ажывіўся, саскочыў з сядла, уклаў пальцы ў рот, надзьмуў шчокі і свіснуў. У Маргарыты ў вушах зазвінела. Конь ускінуўся на дыбкі, у гаі пасыпаліся сухія галіны, узляцела цэлая чарада вераб'ёў і варон, слуп пылу панесла да ракі, і відаць было, як на рачным трамваі, які праплываў якраз паўз прыстань, у пасажыраў сарвала некалькі шапак у ваду.

Майстар здрыгануўся ад свісту, але не азірнуўся, пачаў махаць яшчэ хутчэй рукамі, падымаў іх угору, нібы пагражаў гораду. Бегемот ганарыста азірнуўся.

— Свіснута, не спрачаюся,— паблажліва сказаў Ка-

роўеў,— сапраўды свіснута, але, калі гаварыць аб'ектыўна, свіснута даволі сярэдне!

— Я ж не рэгент,— з гонарам і пакрыўджана адказаў Бегемот і нечакана падміргнуў Маргарыце.

— А дай я паспрабую па старой звычцы,— сказаў Кароўеў, пацёр рукі, падзьмухаў на пальцы.

— Ты глядзі мне толькі,— пачуўся суровы Воландаў голас з каня,— толькі каб без калецтва!..

— Месір, паверце,— адазваўся Кароўеў і прытуліў руку да сэрца,— толькі і пажартую, усяго...— Тут ён раптоўна выцягнуўся ўгору, быццам гумавы, з пальцаў правае рукі скруціў нейкую замыславатую фігуру, закруціўся, як вінт, потым нечакана раскруціўся і свіснуў.

Гэтага свісту Маргарыта не пачула, але яна ўгледзела яго ў той час, як яе разам з гарачым канём адкінула сажняў на дзесяць убок. Побач з ёй з коранем выдрала дуб, а зямля патрэскалася да самае ракі. Вялізны кавалак берага з пристанню і рэстаранам вынесла ў раку. Вада ў ёй закіпела, гайданулася, і на супрацьлеглы адлогі бераг выкінула цэлы рачны трамвай разам з пасажырамі. Да ног захропшага Маргарыцінага каня ўпала забітая рэгентавым свістам галка.

Майстра спалохаў гэты свіст. Ён схапіўся за галаў і пабег да кампаніі, якая чакала яго.

— Ну што ж,— звярнуўся да яго Воланд з вышыні свайго каня,— усё заплачана згодна з рахункам? Развіталіся?

— Развітаўся,— адказаў майстар, супакоіўся і паглядзеў у твар Воланду адкрыта і смела.

І тады над гарамі пранёсся страшны трубны Воландаў голас:

— Пара! — і пранізлівы свіст, і рогат Бегемота.

Коні рвануліся, коннікі падняліся ўгору і паімчалі. Маргарыта адчувала, як яе шалёны конь грызе і цягне за цуглі. Воландаў плашч разгарнуўся над усёй кавалькадай, гэтым плашчом пачало захінаць вечаровы небасхіл. Калі на нейкае імгненне чорны плашч аднесла ўбок, Маргарыта на ляту азірнулася і ўбачыла, што ззаду няма не толькі рознакаляровых вежаў з аэрапланам над імі, але няма ўжо і самога горада, які апусціўся ў зямлю і пакінуў пасля сябе адзін толькі туман.

# Раздзел 32

## ДАРАВАННЕ І ВЕЧНЫ СПАКОЙ

Божа, мой божа! Якая журботная зямля на змярканні! Якія таямнічыя туманы над балотамі! Хто блукаў у гэтых туманах, хто шмат пакутаваў перад смерцю, хто лятаў над гэтай зямлёй і насіў на сабе непасільны цяжар, той ведае. І ён без жалю пакідае зямныя туманы, балацінкі і рэчкі, знясілены, ён аддаецца з лёгкім сэрцам у рукі смерці, бо ведае, што толькі яна — адна...

Чароўныя чорныя коні і тыя стаміліся і імчалі сваіх седакоў павольней, і непазбежная ноч пачала даганяць іх. Калі адчуў яе за плячыма, прыціх нават неўтамонны Бегемот, учапіўся кіпцюрамі за сядло, ляцеў маўклівы і сур'ёзны з распушаным хвастом.

Ноч пачала накрываць чорнаю хусткаю лясы і лугі, ноч запальвала цьмяныя агеньчыкі дзесьці далёка ўнізе, цяпер ужо не цікавыя і не патрэбныя ні Маргарыце, ні майстру, чужыя агеньчыкі. Ноч перагнала кавалькаду, церусілася на яе зверху і сеяла то там то сям у зажураным небе белыя плямы зорачак.

Ноч гусцела і ляцела побач, хапала коннікаў за плашчы, зрывала іх з плеч і выкрывала падманы. І калі Маргарыта, абвеяная прахалодным ветрам, расплюшчвала вочы, яна бачыла, як мяняюцца аблічча ўсіх, хто ляціць побач да сваёй мэты. Калі насустрач ім з-за краю лесу пачала ўставаць барвовая поўня, усе падманы канчаткова зніклі, упалі ў балота, патанула ў балотах і зачараванае прывіднае адзенне.

Наўрад ці можна было цяпер пазнаць Кароўева-Фагота, самазванца-перакладчыка пры таямнічым кансультанце, якому непатрэбны былі ніякія пераклады, у тым, хто цяпер ляцеў побач з Воландам праваруч ад майстра. На месцы таго, хто ў абшарпаным цыркавым адзенні пакінуў Вераб'ёвы горы пад прозвішчам Кароўева-Фагота, цяпер імчаў, ціха пазвоньваючы залатым ланцугом павадоў, цёмна-фіялетавы рыцар з насупленым, вечна няўсмешлівым тварам. Ён упёрся падбародкам у грудзіну, ён не глядзеў на поўню, яго не цікавіла зямля, ён думаў толькі пра нешта сваё, летучы побач з Воландам.

— Чаму ён гэтак перамяніўся? — спыталася Маргарыта ціха пад ветраны посвіст у Воланда.

— Рыцар гэты калісьці няўдала пажартаваў,— адказаў Воланд і завярнуў да Маргарыты свой твар з адным бліску-

чым вокам,— яго жарт, калі ён гаварыў пра святло і пра цемру, быў не зусім добры. І рыцару давялося пажартаваць пасля гэтага намнога болей, чым ён меркаваў сам. Але сёння такая ноч, калі закрываюцца рахункі ўсіх даўгоў. Рыцар свой доўг выплаціў і рахунак закрыў!

Ноч адарвала і пушысты хвост у Бегемота, садрала з яго шэрсць і развеяла яе камякі па балотах. Той, хто быў катом, цяпер аказаўся худзенькім юнаком, дэманам-пажам, лепшым шутом, які хоць калі быў на свеце за ўвесь час. Цяпер заціх і ён і ляцеў нячутна, падстаўляў свой малады твар пад святло, якое струменіла поўня.

Збоч ад усіх ляцеў, паблісквaючы сталлю даспехаў, Азазела. Поўня перамяніла і яго твар. Бясследна зніклі недарэчныя, непрыгожыя іклы, і крывое вока аказалася фальшывым. Вочы ў Азазелы былі аднолькавыя, парожнія і чорныя, а твар белы і халодны. Цяпер ляцеў сапраўдны Азазела, як дэман бязводнае пустыні, дэман-забойца.

Сябе Маргарыта не магла бачыць, затое яна бачыла, як перамяніўся майстар. Валасы яго ў месячным святле бялелі і запляліся ў касу, і яна ляцела ў паветры. Калі вецер расхіляў плашч майстра, Маргарыта бачыла на яго батфортах зорачкі шпораў, якія то патухалі, то загараліся. Гэтак, як і юнак-дэман, майстар ляцеў і не зводзіў вачэй з поўні, але ўсміхаўся ёй, нібы добрай знаёмай і любімай, і нешта мармытаў сам сабе, як прывык рабіць у пакоі № 118.

І, нарэшце, Воланд ляцеў таксама ў сваім сапраўдным аблічы. Маргарыта не змагла б сказаць, з чаго зроблены павады ў яго каня, і думала, што, магчыма, гэта месячныя ланцужкі і сам конь — толькі глыба цемры, а грыва гэтага каня — хмара, а шпоры конніка — белыя значкі зорак.

Гэтак ляцелі моўчкі доўга, пакуль сама мясцовасць унізе не пачала мяняцца. Зажураныя лясы патанулі ў зямной цемры і пацягнулі за сабою цьмяныя нажы рэчак. З'явіліся і пачалі паблісквaць валуны, а між імі зачарнелі прорвы, куды не даставала месячнае святло.

Воланд спыніў свайго каня на камяністай, сумнай, пляскатай вяршыні, і тады коннікі рушылі далей ступою, слухалі, як коні трушчаць падковамі каменне і крэмень. Поўня асвятляла пляцоўку ярка і зялёна, і Маргарыта хутка разгледзела ў пустэльнай мясцовасці крэсла, а на ім белую постаць чалавека. Магчыма, ён быў глухі альбо занадта задумаўся. Ён не чуў, як дрыжала зямля пад цяжарам коней, і коннікі не патрывожылі яго, калі пад'ехалі.

Поўня добра дапамагала Маргарыце, свяціла лепей, чым

электрычны ліхтарык, Маргарыта бачыла, што чалавек, які здаваўся сляпым, пацірае рукі і невідушчымі вачыма глядзіць на поўню. Цяпер ужо Маргарыта бачыла, што побач з цяжкім каменным крэслам, на якім паблісківаюць у месячным святле нейкія іскаркі, ляжыць вялізны вастравухі сабака і гэтаксама трывожна, як і гаспадар, глядзіць на поўню. Ля ног у чалавека ляжаць чарапкі, і расцякаецца нявысахлая чорна-чырвоная лужына.

Коннікі спынілі коней.

— Ваш раман прачыталі,— загаварыў Воланд і завярнуўся да майстра,— і сказалі толькі адно, што ён, на жаль, не скончаны. Дык вось, мне хацелася паказаць вам вашага героя. Амаль дзве тысячы гадоў сядзіць ён на гэтай тэрасе на вяршыні і спіць, але калі надыходзіць поўня, бачыце, яго пачынае мучыць бяссонне. Яно мучыць не толькі яго, але і яго вернага вартавога сабаку. Калі гэта праўда, што баязлівасць — самы цяжкі чалавечы недахоп, то, бадай, сабака тут не вінаваты. Адзінае, чаго баяўся смелы сабака, гэта навальніцы. Але той, хто любіць, павінен падзяляць лёс таго, каго ён любіць.

— Што ён гаворыць? — спытала Маргарыта, і на спакойным яе твары адбілася спачуванне.

— Ён гаворыць адно і тое,— пачуўся Воландаў голас.— Ён гаворыць, што і пры месяцы яму няма спакою і што ў яго дрэнная пасада. Гэтак ён гаворыць заўсёды, калі не спіць, а калі спіць, то сніць адно і тое ж — месячную дарогу і хоча пайсці па ёй, каб пагаварыць з арыштантам Га-Ноцры, таму што, як ён сцвярджае, нечага не дагаварыў тады, даўно, чатырнаццатага чысла вясновага месяца нісана. Але, на жаль, на гэтую дарогу яму выйсці чамусьці не ўдаецца, і да яго ніхто не прыходзіць. І яму нічога не застаецца, як размаўляць самому з сабой. Хаця патрэбна і нейкая разнастайнасць, і да свае гаворкі пра поўню ён часам дадае, што больш за ўсё на свеце ненавідзіць сваю несмяротнасць і вялікую славу. Ён сцвярджае, што ахвотна памяняў бы свой лёс на лёс валацугі і абарванца Левія Мацея.

— Дванаццаць тысяч поўняў за адну поўню калісьці, ці не занадта многа? — спыталася Маргарыта.

— Паўтараецца гісторыя з Фрыдай? — сказаў Воланд.— Але, Маргарыта, не турбуйце сябе дарэмна. Усё будзе па-справядлівасці, на гэтым трымаецца свет.

— Адпусціце яго! — раптам пранізліва закрычала Маргарыта, гэтак, як яна крычала тады, калі была ведзьмай, і ад гэтага крыку сарваўся камень у гарах і паляцеў з пад-

скокамі ў бездань, аглушаючы горы грукатам. Маргарыта не магла сказаць, ці гэта быў грукат ад каменя, ці водгулле сатанінскага смеху. Як бы яно ні было, але Воланд смяяўся, пазіраў на Маргарыту і гаварыў:

— Не трэба крычаць у гарах, ён усё роўна прывык да абвалаў, і гэта яго не патрывожыць. Вам не трэба прасіць за яго, Маргарыта, таму што за яго папрасіў ужо той, з кім ён хоча пагаварыць.— Тут Воланд зноў завярнуўся да майстра і сказаў: — Ну што ж, цяпер вы ваш раман можаце скончыць адным сказам!

Майстар нібы чакаў гэтага, пакуль стаяў нерухома і глядзеў на пракуратара. Ён склаў рукі рупарам і крыкнуў гэтак, што рэха пракацілася па бязлюдных і бязлесых гарах:

— Вольны! Вольны! Ён чакае цябе!

Горы ператварылі майстраў голас у гром, і гэты гром іх разбурыў. Праклятыя скалістыя горы рассыпаліся. Засталася толькі тэраса з каменным крэслам. Над чорнаю прорваю, у якую праваліліся сцены, паўстаў неабдымны горад з уладарнымі над ім зіхоткімі ідаламі над пышным садам, які вырас за многа тысяч месяцаў. Проста да гэтага саду працягнулася доўгачаканая пракуратам месячная дарога, і першы кінуўся бегчы па ёй вастравухі сабака. Чалавек у белым плашчы з крывавым падбоем устаў з крэсла і нешта крыкнуў хрыплым, сарваным голасам. Нельга было разабрацца, плача ён ці смяецца і што крычыць. Відаць было толькі, што следам за сваім адданым вартаўніком па месячнай дарозе імкліва пабег і ён.

— Мне туды, за ім? — спытаўся неўгамонны майстар і тузануў за павады.

— Не,— сказаў Воланд,— навошта ж даганяць тое, што ўжо скончылася?

— Тады, выходзіць, туды? — спытаў майстар, завярнуўся і паказаў назад, туды, дзе саткаўся нядаўна пакінуты горад з манастырскімі пранікавымі вежамі, з разбітым ушчэнт сонцам у аконным шкле.

— Таксама не,— адказаў Воланд, і голас яго пагусцеў і пацёк над скаламі.— Рамантычны майстар! Той, каго гэтак прагне пабачыць выдуманы вамі герой, якога вы самі толькі што адпусцілі, прачытаў ваш раман,— тут Воланд завярнуўся да Маргарыты: — Маргарыта Мікалаеўна! Нельга не паверыць таму, што вы хацелі прыдумаць майстру найлепшую будучыню, але, сапраўды, тое, што я прапаноўваю вам, і тое, пра што прасіў Іешуа за вас таксама,— яшчэ лепш. Пакіньце іх удваіх,— сказаў Воланд, нахіліўся са свай-

го сядла да майстра і паказаў услед пракуратару,— не будзем ім перашкаджаць. І магчыма, яны пра што-небудзь і дамовяцца,— тут Воланд махнуў рукой на Ершалаім, і той знік.

— І там таксама,— Воланд паказаў назад,— што рабіць вам у падвальчыку? — Тут патухла пабітае сонца ў шыбах.— Навошта? — працягваў Воланд пераканаўча і далікатна.— О тройчы рамантычны майстар, няўжо вы не хочаце гуляць удзень са сваёй сяброўкаю пад вішнямі, якія пачынаюць зацвітаць, а вечарам слухаць музыку Шуберта? Няўжо вам не будзе прыемна пісаць пры свечках гусіным пяром? Няўжо вам не хочацца, як Фаўсту, сядзець над рэтортаю ў спадзяванні, што вам удасца зрабіць новага гамункула? Туды, туды! Там чакае вас дом і стары слуга, свечкі гараць ужо, а хутка яны патухнуць, таму што вы зараз сустрэнеце світанне. Па гэтай дарозе, майстар, па гэтай! Бывайце! Мне час.

— Бывайце! — адным крыкам адказалі Воланду Маргарыта і майстар. Тады чорны Воланд напрасткі кінуўся ў бездань, і следам за ім прашумела і яго світа. Раптоўна зніклі скалы, сама пляцоўка і месячная дарога да горада Ершалаіма. Зніклі і чорныя коні. Майстар і Маргарыта ўбачылі паабяцанае світанне. Яно пачыналася адразу пасля начное поўні. Майстар са сваёй сяброўкаю ў бляску першых сонечных промняў ішоў па мураваным замшэлым мастку. Яны прайшлі па ім. Ручай застаўся ззаду ў верных каханкаў, яны ступалі па пясчанай дарозе.

— Слухай цішыню,— гаварыла Маргарыта майстру, і пясок шаптаў у яе пад босымі нагамі,— слухай і цешся тым, што ў цябе адбіралі пры жыцці,— цішынёй. Глядзі, вунь наперадзе твой вечны дом, які табе дадзены як узнагарода. Я бачу ўжо венецыянскае акно і як уецца вінаград, ён падымаецца да самага даху. Вось твой дом, твой вечны дом. Я ведаю, што вечарам да цябе прыйдуць тыя, каго ты любіш, хто цябе цікавіць і хто цябе не засмуціць. Яны будуць іграць, яны будуць спяваць, ты ўбачыш, якое святло ў пакоі ад запаленых свечак. Ты будзеш засынаць у сваім вечным каўпаку, засынаць з усмешкаю на твары. Сон зробіць цябе дужым, ты будзеш мудра разважаць. А прагнаць мяне ты не зможаш ужо. Сон твой буду ахоўваць я.

Гэтак гаварыла Маргарыта і ішла з майстрам да вечнага дома, і майстру здавалася, што Маргарыцціны словы плюскочуць і шэпчуць гэтак, як шаптаў пакінуты ззаду ручай, і памяць майстра, балючая, уся сколатая калючкамі памяць

пачала патухаць. Хтосьці адпускаў майстра на волю, як ён толькі што адпусціў створанага ім героя. Гэты герой праваліўся ў прорву, пайшоў назаўсёды, атрымаўшы дараванне ў ноч перад нядзеляй, сын караля-астролага, люты пяты пракуратар Іудзеі, коннік Понцій Пілат.

## Эпілог

Але што адбывалася потым у Маскве пасля таго, як у суботні вечар перад захадам сонца Воланд пакінуў сталіцу, знік разам са сваёй світай з Вераб'ёвых гор?

Пра тое, што доўга яшчэ па ўсёй сталіцы каціўся гул ад самых неверагодных чутак, якія вельмі хутка перакінуліся нават у далёкія і глухія мясціны ў правінцыі, і гаварыць не варта. Небыліцы гэтыя нават непрыемна паўтараць.

Аўтар гэтых праўдзівых радкоў у цягніку ў Феадосію чуў расказ пра тое, як у Маскве дзве тысячы чалавек выйшлі з тэатра голыя і ў гэтакім выглядзе раз'ехаліся па дамах на таксі.

Шэпт «Нячыстая сіла...» чуўся ў чэргах у малочных, у трамваях, у крамах, у кватэрах, на кухнях, у цягніках, і дачных і міжгародніх, на станцыях і паўстанках, на дачах і на пляжах.

Найбольш развітыя і культурныя людзі ў гэтых расказах пра нячыстую сілу, якая наведала сталіцу, вядома, удзелу не прымалі і нават насміхаліся з іх і спрабавалі абразуміць расказчыкаў. Але факт, як гавораць, застаецца фактам, і адмахнуцца ад яго без тлумачэнняў нельга: хтосьці ўсё ж пабыў у сталіцы. Адно вуголле, якое засталося ад Грыбаедава, ды і шмат іншага гэта пацвярджала.

Культурныя людзі сталі на бок следства: працавала шайка гіпнатызёраў і чараваўшчальнікаў, якія цудоўна валодаюць сваім майстэрствам.

Захады злавіць шайку ў Маскве і за яе межамі, вядома, былі зроблены неадкладна і энергічна, але, на вялікі жаль, вынікаў не далі. Той, хто называў сябе Воландам, са сваімі памагатымі знік, і ў Маскву болей не вяртаўся, і нідзе болей не аб'яўляўся. Зусім натуральна ўзнікла меркаванне, што ён уцёк за мяжу, але і там нідзе не выявіўся.

Следства па яго справе працягвалася доўга. Як не кажы, а справа была жахлівая! Акрамя чатырох спаленых дамоў

і соцень звар'яцелых людзей, былі і забітыя. Пра двух можна сказаць дакладна: гэта Берліёз і няшчасны служачы з Бюро па азнаямленні чужаземцаў са знакамітасцямі Масквы, былы барон Майгель. Яны былі забітыя. Абгарэлыя косці другога былі знойдзены ў кватэры № 50 на Садовай вуліцы пасля таго, як патушылі пажар. Так, былі ахвяры, і гэта патрабавала расследавання.

Але былі і яшчэ ахвяры, ужо пасля таго, як Воланд паехаў са сталіцы, і ахвярамі гэтымі сталі чорныя каты.

Штук сто гэтых мірных, адданых чалавеку і карысных жывёлін былі застрэлены альбо знішчаны іншымі спосабамі ў розных месцах краіны. Дзесятка паўтара страшэнна збітых катоў былі дастаўлены ў аддзяленні міліцыі ў розных гарадах. Напрыклад, у Армавіры адзін з гэтых ні ў чым не вінаватых звяркоў быў прыведзены ў міліцыю са звязанымі пярэднімі лапамі нейкім грамадзянінам.

Падпільнаваў гэтага ката грамадзянін у той момант, калі жывёліна са зладзейскім выглядам (а што зробіш, што ў ката гэтакі выгляд? Гэта не таму, што ён дрэнны ад прыроды, а таму, што каты баяцца, каб хто-небудзь з істот дужэйшых, чым яны,— сабакі альбо людзі,— не прычынілі шкоды ці крыўды. І адно і другое зрабіць не цяжка, але, паверце, гонару ў гэтым мала. Зусім мала!), дык вось са зладзейскім выглядам кот збіраўся шуснуць чагосьці ў лапух.

Грамадзянін, навалі́ўшыся на ката, зрываў з шыі гальштук, каб звязаць яго, і грозна мармытаў:

— Ну! Значыць, цяпер да нас, у Армавір,прыехалі, паны гіпнатызёры? Не, тут вас не спалохаліся. Ды вы не прытварайцеся нямым. Мы ўжо ведаем, што вы за цаца!

Цягнуў у міліцыю грамадзянін ката за пярэднія лапы і ногцам прымушаў, каб той ішоў на задніх.

— Вы,— крычаў грамадзянін пад хлапчукоўскі свіст,— перастаньце дурнем прытварацца! Не выйдзе! Ідзіце, як і ўсе ходзяць!

Чорны кот толькі закочваў пакутліва вочы. Пазбаўлены слова, ён ніяк не мог апраўдацца. Выратаваннем сваім звер абавязаны ў першую чаргу міліцыі і сваёй гаспадыні, паважанай старэнькай удаве. Ледзь толькі ката прывялі ў аддзяленне, там пераканаліся, што ад грамадзяніна дабравата тхне гарэлкаю, таму ў яго сведчанні ўсумніліся. А тым часам бабулька пачула ад суседзяў, што яе ката замялі, пабегла ў міліцыю і ўспела ўпору. Яна расхваліла ката, сказала, што ведае яго пяць гадоў, яшчэ з таго часу, як той быў кацянём, ручаецца за яго як за сябе самую, даказала, што

ён ніколі нічога благога не рабіў і ў Маскву не ездзіў. Як нарадзіўся ён у Армавіры, гэтак у ім вырас і навучыўся лавіць мышэй.

Ката развязалі і вярнулі гаспадыні, але ён паспеў хапіць гора: спазнаў на сваёй скуры, што такое памылка і паклёп.

Акрамя катоў, невялікія непрыемнасці спасцiглі сяго-таго і з людзей. Адбылося некалькі арыштаў. У ліку іншых часова затрыманы былі ў Ленінградзе — грамадзяне Вольман і Вольпер, у Саратаве, Кіеве, Харкаве — трое Валодзіных, у Казані — Волах, а ў Пензе, і зусім невядома чаму,— кандыдат хімічных навук Ветчынкевіч. Праўда, вялікага росту, вельмі смуглы брунет.

Папаліся таксама ў розных месцах, акрамя гэтага, дзевяць Каровіных, чатыры Кароўкіны і два Караваевы.

Нейкага грамадзяніна ссадзілі,звязанага,з севастопальскага цягніка на станцыі Белгарад. Грамадзянін гэты задумаў пацешыць спадарожнікаў картачнымі фокусамі.

У Яраслаўлі, якраз у абед, у рэстаран зайшоў грамадзянін з прымусам у руцэ, які ён толькі што забраў з рамонту. Абодва швейцары, як толькі ўгледзелі яго, кінуліся ўцякаць, а следам за імі ламанулі і ўсе наведвальнікі рэстарана і служачыя. Пры гэтым у касіркі не зразумела якім чынам знікла ўся выручка.

Было яшчэ многа ўсякага, чаго і не запомніш. Шмат у каго балелі галовы.

Яшчэ і яшчэ раз трэба аддаць належнае следству. Уся работа была зроблена не толькі дзеля таго, каб злавіць злачынцаў, але і дзеля таго, каб растлумачыць усё, што яны навытваралі. І ўсё было вытлумачана, і тлумачэнне гэтае нельга не прызнаць і талковым, і бясспрэчным.

Прадстаўнікі следства і вопытныя псіхіятры вызначылі, што члены злачыннае шайкі, магчыма, нават адзін з іх (пераважна падазрэнне клалася на Кароўева) былі нечуванае сілы гіпнатызёрамі, якія могуць паказваць сябе не на тым месцы, дзе яны на самай справе знаходзяцца. Акрамя гэтага, яны маглі ўнушыць іншаму чалавеку, што нейкія рэчы альбо людзі знаходзяцца на тым месцы, дзе іх на самай справе няма, і, наадварот, прыбіралі з поля зроку тыя рэчы і людзей, якія на самай справе прысутнічалі.

У святле гэтага тлумачэння адразу ўсё становіцца на свае месцы, нават найбольш хваляваўшая ўсіх таямнічая недаступнасць ката, абстралянага ў кватэры № 50 у час спробы затрымаць яго.

Ніякага ката, вядома, на люстры не было, ніхто і не думаў адстрэльвацца, стралялі па пустым месцы, у той час як Кароўеў, які ўнушыў, што кот дражніцца з люстры, мог спакойна знаходзіцца ззаду за стралкамі і цешыцца сваёй вялізнай, але злачынна выкарыстанай магчымасцю ўнушэння. Ён, вядома, разліў бензін і падпаліў кватэру.

Ні ў якую Ялту, вядома, Сцёпа Ліхадзееў не лятаў (гэтакае штукі не можа вытварыць нават і Кароўеў) і тэлеграм адтуль не адбіваў. Пасля таго як ён страціў прытомнасць у ювеліршынай кватэры, спалоханы фокусам Кароўева, які паказаў яму ката з марынаваным грыбком на відэльцы, ён праляжаў у ёй да таго часу, пакуль Кароўеў здзекліва не насунуў на яго лямцавы капялюш і не адправіў на маскоўскі аэрадром з папярэднім унушэннем, а загадзя ўнушыў і супрацоўнікам крымінальнага вышуку, што той вылазіць з севастопальскага аэраплана.

Праўда, крымінальны вышук Ялты сцвярджаў, што бачыў босага Сцёпу і пасылаў наконт яго тэлеграмы ў Маскву, але ніводнай копіі іх у справе знайсці не ўдалося, з чаго зрабілі сумны вывад, што гіпнатызёрская шайка валодае здольнасцю гіпнатызаваць на вялізнай адлегласці, і не толькі асобнага чалавека, а нават і цэлыя групы. З такімі здольнасцямі злачынцы маглі давесці да вар'яцтва нават людзей з самай трывалай псіхічнай устойлівасцю.

Што тут ўжо казаць пра гэтакія дробязі, як калода карт у чужой кішэні ў партэры, зніклыя жаночыя сукенкі, берэт, які мяўкае, і астатняе нешта падобнае. Гэта можа любы прафесіянал-гіпнатызёр сярэдняе сілы і на любой сцэне, у тым ліку і няхітры фокус з адрываннем галавы ў канферансье. Кот, які ўмее гаварыць,— таксама глупства. Каб паказаць гэтакага ката людзям, варта ведаць асновы чэравагаварэння, а наўрад ці трэба сумнявацца, што прафесійны ўзровень Кароўева значна вышэйшы за азы.

Сапраўды, справа тут не ў калодах з картамі, не ў фальшывых пісьмах у партфелі ў Міканора Іванавіча. Усё гэта дробязі. Гэта ён, Кароўеў, пагнаў пад трамвай Берліёза на верную смерць. Гэта ён давёў да вар'яцтва няшчаснага паэта Івана Бяздомнага, ён прымусіў яго трызніць і пакутліва сніць старажытны горад Ершалаім і спаленую сонцам Лысую Гару з трыма пакаранымі на слупах. Гэта ён і яго шайка прымусілі знікнуць з Масквы Маргарыту Мікалаеўну і яе хатнюю работніцу, прыгажуню Наташу. Дарэчы, гэтай справай следства займалася вельмі ўважліва. Трэба было высветліць, ці гэтыя жанчыны былі ўкрадзены шайкай

злачынцаў, ці ўцяклі добраахвотна разам з імі. Грунтуючыся на бесталковых і блытаных паказаннях Мікалая Іванавіча, маючы на ўвазе дзіўную запіску Маргарыты Мікалаеўны, у якой яна піша мужу, што ідзе ў ведзьмы, улічваючы, што Наташа знікла зусім без адзення, следства зрабіла вывад, што гаспадыня і хатняя работніца былі загіпнатызаваны, як і многія іншыя, і ў такім выглядзе выкрадзены шайкай. Узнікла, відаць, і зусім правільная думка, што злачынцаў прывабіла прыгажосць абедзвюх жанчын.

Але вось што засталося для следства загадкаю — гэта прычына, якая прымусіла шайку ўкрасці псіхічнахворага, які называў сябе майстрам, з бальніцы. Гэтага высветліць не ўдалося, гэтаксама як і прозвішча хворага. Гэтак і застаўся ён пад мёртваю клічкаю: «нумар сто васемнаццаты з першага корпуса».

Такім чынам усё было растлумачана, і расследаванне наогул скончылася.

Прайшло некалькі гадоў, і грамадзяне пачалі забываць пра Воланда, пра Кароўева і астатніх. Адбыліся многія перамены ў жыцці тых, хто пацярпеў ад Воланда і яго памагатых, і якія б нязначныя ні былі гэтыя перамены, але пра іх нельга не сказаць.

Напрыклад, Жорж Бенгальскі пасля трох месяцаў выйшаў з лякарні, але службу ў Вар'етэ пакінуў у самы гарачы час, калі публіка валам валіла па білеты,— памяць пра чорную магію і пра яе выкрыццё была жывучая. Кінуў Бенгальскі Вар'етэ, бо разумеў, што выходзіць кожны вечар да дзвюх тысяч чалавек, якія цябе пазнаюць і будуць здзекавацца, пытацца, як лепш яму: з галавой ці без галавы? — занадта пакутліва.

Акрамя ўсяго, страціў канферансье значную частку сваёй весялосці, якая гэтак неабходна яго прафесіі. Засталася ў яго цяжкая непрыемная прывычка кожную вясну пры поўні чамусьці трывожыцца, раптоўна хапацца за шыю, спалохана азірацца і плакаць. Прыпадкі гэтыя праходзілі, але ўсё ж займацца ранейшаю прафесіяй ён не мог, і канферансье пайшоў на заслужаны адпачынак, жыў на тое, што назбіраў, і грошай яму павінна было хапіць гадоў на пятнаццаць.

Ён пакінуў работу і болей ніколі не сустракаўся з Варэнухам, які займеў вялікую папулярнасць і любоў за сваю неверагодную, нават у асяроддзі тэатральных адміністратараў, ветлівасць і добразычлівасць. Кантрамарачнікі яго інакш і не называлі, як родным бацькам. У які б час

і хто б ні пазваніў у Вар'етэ, заўсёды ў трубцы быў чуваць мяккі, але сумны голас: «Слухаю вас»,— а ў адказ на просьбу паклікаць да тэлефона Варэнуху, ён адказваў: «Я слухаю вас». Але затое і цярпеў Іван Савельевіч ад свае ветлівасці!

Сцёпу Ліхадзееву больш не даводзілася гаварыць па тэлефоне з Вар'етэ. Яго неадкладна пасля бальніцы, дзе ён прабыў восем дзён, перакінулі ў Растоў, там ён атрымаў накіраванне на пасаду загадчыка вялікага гастранамічнага магазіна. Ходзяць чуткі, што ён зусім перастаў піць партвейн і п'е толькі гарэлку, якая настоена на смародзінавых пупышках і таму намнога паздаравеў. Гавораць яшчэ, што стаў маўклівым і абмінае жанчын.

Выгнанне Сцяпана Багданавіча з Вар'етэ не прынесла тае радасці Рымскаму, пра якую ён гэтак прагна марыў некалькі гадоў. Пасля лякарні і Кіславодска зусім дзядок, у якога трэслася галава, фіндырэктар падаў заяву аб звальненні з Вар'етэ. Цікава, што нават гэту заяву прывезла ў Вар'етэ жонка Рымскага. Сам Рыгор Данілавіч не адважыўся нават удзень пабыць у тым будынку, дзе бачыў ён асветленае месяцам трэснутае шкло ў акне і доўгую руку, якая даставала да ніжняга шпінгалета.

Пасля звальнення з Вар'етэ фіндырэктар паступіў у дзіцячы лялечны тэатр у Замаскварэччы. У гэтым тэатры яму ўжо не давялося па справах акустыкі сутыкацца з Аркадзіем Апалонавічам Семпляяравым. Таго як бач перакінулі ў Бранск і прызначылі загадчыкам грыбанарыхтоўчага пункта. Ядуць цяпер масквічы салёныя рыжыкі і марынаваныя баравічкі і не нахваляць іх, і надзвычай рады гэтай перастаноўцы. Справа былая, і можна сказаць, што не было ладу ў Аркадзія Апалонавіча з гэтай акустыкай, і як ён ні стараўся палепшыць яе, яна была гэтакая, як і раней.

Да асоб, якія адхрысціліся ад тэатра, акрамя Аркадзія Апалонавіча, трэба аднесці і Міканора Іванавіча Босага, хаця той ніяк і не быў звязаны з тэатрам, акрамя любові да бясплатных білетаў. Міканор Іванавіч не толькі не ходзіць ні ў які тэатр ні за грошы, ні дарэмна, але нават з твару мяняецца, калі заходзіць гаворка пра тэатр. І не меней, чым тэатр, а нават болей узненавідзеў ён паэта Пушкіна і таленавітага артыста Саву Патапавіча Куралесава. Таго гэтак, што калі ўгледзеў у мінулым годзе ў газеце аблямаваную чорным аб'яву, што Сава Патапавіч раптоўна памёр у самым росквіце,— Міканор Іванавіч зарадаваўся так,

што ад радасці ледзь не адправіўся следам за Савам Патапавічам і зароў: «Гэтак яму і трэба!» Нават болей, у той самы вечар Міканор Іванавіч, якога смерць артыста навяла на многія цяжкія ўспаміны, адзін, на пару з поўняю, якая асвятляла Садовую, страшэнна напіўся. І з кожнаю выпітаю чаркаю доўжыўся ланцуг ненавісных асоб, і былі ў гэтым ланцугу Дунчыль Сяргей Герардавіч, і прыгажуня Іда Геркуланаўна, і той рыжы гаспадар байцоўскіх гусей, і шчыры Канаўкін Мікалай.

Ну, а што здарылася з тымі? Злітуйцеся! Нічога з імі не здарылася ды і здарыцца не магло, бо іх ніколі не было, як не было сімпатычнага канферансье, і самога тэатра, і старое скупое Парахоўнікавае цёткі, якая згнаіла валюту ў пограбе, і залатых труб не было, і нахабных кухараў. Усё гэта толькі снілася Міканору Іванавічу пад уплывам нягодніка Кароўева. Адзіны жывы чалавек, які ўлез у гэты сон, менавіта і быў толькі Сава Патапавіч — артыст, і ўплёўся ён толькі таму, што засеў у памяці ў Міканора Іванавіча з-за таго, што часта выступаў па радыё. Гэты быў, а астатніх не было.

Дык, магчыма, не было і Алаізія Магарыча? Э, не! Гэты не толькі быў, а нават і зараз існуе, і якраз на той пасадзе, ад якое адмовіўся Рымскі, на пасадзе фіндырэктара Вар'етэ.

Алаізій апамятаўся пасля візіту да Воланда прыкладна праз суткі ў цягніку дзесьці пад Вяткаю, пераканаўся, што ў замарачэнні чамусьці паехаў з Масквы без штаноў, але, незразумела нашто, з украдзенаю дамавою кнігаю забудоўшчыка. За вялізныя грошы Алаізій купіў у праваднiка зашмальцаваныя штаны і з Вяткі пакіраваў назад. Але доміка забудоўшчыка ўжо не было. Старэнькае барахло злізала агнём. Алаізій быў чалавек прадпрымальны. Праз два тыдні ён ужо жыў у цудоўным пакоі ў Брусавым завулку, а праз некалькі месяцаў сядзеў у кабінеце Рымскага. І гэтак як раней Рымскі пакутаваў з-за Сцёпы, гэтак цяпер Варэнуха пакутуе з-за Алаізія і марыць Іван Савельевіч толькі пра адно, каб гэтага Алаізія прыбралі куды-небудзь з Вар'етэ, таму што, як шэпча часам Варэнуха ў інтымнай кампаніі, «гэтакае свалаты, як гэты Алаізій, ён быццам ніколі не сустракаў у жыцці і што быццам ад гэтага Алаізія можна чакаць усяго, чаго хочаш».

Магчыма, адміністратар і не аб'ектыўны. Нічога благога Алаізій не робіць, і наогул нічога, хіба толькі што прызначыў на месца буфетчыка Сокава іншага. Андрэй Фокавіч

памёр ад рака печані ў клініцы Першага МДУ месяцаў праз дзевяць пасля з'яўлення Воланда ў Маскве...

Так прайшло некалькі гадоў, і забыліся праўдзіва апісаныя ў гэтай кнізе падзеі, патухлі ў памяці. Але не ва ўсіх, не ва ўсіх!

Кожны год, як толькі настае пара вясновае святочнае поўні, адвячоркам з'яўляецца пад ліпамі на Патрыярхавых сажалках чалавек гадоў трыццаці альбо трыццаці з гакам. Рыжаваты, зялёнавокі, сціпла апрануты чалавек. Гэта — супрацоўнік Інстытута гісторыі і філасофіі, прафесар Іван Мікалаевіч Паныроў.

Пад ліпамі ён заўсёды сядае на тую самую лаўку, на якой сядзеў тады вечарам, калі даўно забыты ўсімі Берліёз апошні раз у сваім жыцці ўбачыў поўню, якая распалася на кавалкі.

Цяпер яна цэлая, звечара белая, а потым залатая, з цёмным каньком-дракончыкам на ёй, плыве над былым паэтам Іванам Мікалаевічам і адначасна стаіць на адным месцы ў вышыні.

Івану Мікалаевічу ўсё вядома, ён ўсё ведае і разумее. Ён ведае, што ў маладосці стаў ахвярай злачынных гіпнатызёраў, лячыўся пасля гэтага і вылечыўся. Але ведае ён таксама і сёе-тое, з чым саўладаць не можа. Не можа ён саўладаць з гэтаю вясноваю поўняю. Як толькі прыходзіць яе пара, як толькі пачынае расці і наліваецца золатам свяціла, якое калісьці вісела вышэй за два пяцісвеччы, робіцца Іван Мікалаевіч неспакойным, нервуецца, апетыт губляе і сон, чакае, пакуль настане поўня. І калі яна самая поўная, ніщто не можа ўтрымаць Івана Мікалаевіча дома. Адвячоркам ён ідзе на Патрыярхавыя сажалкі.

На лаўцы Іван Мікалаевіч ужо адкрыта размаўляе сам з сабою, курыць, глядзіць то на поўню, то на добра памятны яму турнікет.

Гадзіну, а то і дзве сядзіць гэтак Іван Мікалаевіч. Потым устае і заўсёды адным і тым маршрутам, праз Спірыдонаўку, з пустымі невідушчымі вачыма ідзе ў арбацкія завулкі.

Ён праходзіць паўз нафтакрамку, заварочвае там, дзе пахілены стары газавы ліхтар, падкрадаецца да рашоткі, за якою раскошны, яшчэ голы сад, а ў ім — пафарбаваны поўняю з таго боку, дзе выступ з акном на тры рамы, і цёмны з другога боку — гатычны асабняк.

Прафесар не ведае, што цягне яго да рашоткі і хто жыве ў гэтым асабняку, але ведае, што працівіцца пры поўні

не мае сэнсу. Акрамя таго, ён ведае, што ў садзе, за рашоткаю, ён убачыць адно і тое.

Ён убачыць на лаўцы пажылога і саліднага чалавека з бародкаю, у пенснэ і з крыху парасячым абліччам. Іван Мікалаевіч заўсёды застае гэтага жыхара асабняка, які з выглядам летуценніка таксама глядзіць на поўню. Івану Мікалаевічу вядома, што, налюбаваўшыся поўняй, чалавек абавязкова перавядзе позірк на вокны на другім паверсе і будзе глядзець у чаканні, што яны адчыняцца, і на падаконніку з'явіцца нешта незвычайнае.

Усё, што будзе потым, Іван Мікалаевіч ведае на памяць. Цяпер трэба лепей схавацца за рашоткаю, бо мужчына пачне круціць галавою ў бакі, туманлівым позіркам штосьці шукаць у паветры, захоплена ўсміхацца, а потым раптам усплясне рукамі ад нейкага салодкага суму, а потым даволі моцна будзе мармытаць:

— Венера!.. Венера! Ай, які я дурань!..

— Божа! Божа! — пачынае шаптаць Іван Мікалаевіч за рашоткаю і неадрыўна глядзіць на таямнічага незнаёмца.— Вось яшчэ адна ахвяра поўні... Так, гэта яшчэ адна ахвяра, гэтакая, як і я.

А мужчына будзе гаварыць далей:

— Ай я дурань! Чаму, чаму я не паляцеў з ёй? Чаго спалохаўся, стары асёл? Паперку выпісаў! Цярпі, цярпі цяпер, стары ёлупень!

Гэтак будзе працягвацца да таго часу, пакуль не грукне акно на ніжнім паверсе ў асабняку, там, дзе цёмна, не з'явіцца ў ім нешта белаватае і не пачуецца непрыемны жаночы голас:

— Мікалай Іванавіч, дзе вы? І што за выдумка! Малярыі хочаце? Ідзіце чай піць!

Мужчына, вядома, ачнецца і адкажа прытворным голасам:

— Паветрам, паветрам хачу падыхаць, душачка мая! Вельмі ж паветра добрае!

Ён устае з лаўкі, крадком грозіць кулаком акну і валачэцца дадому.

— Хлусіць ён, хлусіць, божа, як ён хлусіць! — мармыча Іван Мікалаевіч і адыходзіць ад рашоткі.— Не паветра вабіць яго ў сад. Ён бачыць у гэтую пару нешта на месяцы і ў акне. Дорага заплаціў бы я, каб ведаць, якую Венеру ён страціў і цяпер марна ловіць у паветры рукамі, шукае яе?

І вяртаецца прафесар дадому зусім хворым. Жонка

прытвараецца, што не заўважае гэтага, падганяе яго легчы спаць. Але сама яна не кладзецца, глядзіць горкімі вачыма на соннага. Яна ведае, што досвіткам Іван Мікалаевіч прачнецца з пакутлівым крыкам, пачне плакаць і кідацца. Таму і ляжыць ля лямпы перад ёй пад сурвэткаю прыгатаваны шпрыц у спірце і ампула густога чайнага колеру.

Бедная жанчына, звязаная з цяжкахворым, цяпер свабодная і можа не хваляваца, можа спакойна заснуць. Іван Мікалаевіч пасля ўколу будзе спаць спакойна са шчаслівым тварам і сніць невядомыя ёй сны, узнёслыя і шчаслівыя.

Будзіць вучонага і прымушае яго крычаць у месячную ноч адно і тое. Ён бачыць ненатуральнага, нейкага бязносага ка́та, які падскоквае, вухкае і коле кап'ём у сэрца прывязанаму да слупа і звар'яцеламу Гестасу. Але не гэтакі страшны кат, як ненатуральнае асвятленне ў сне, святло ідзе ад хмары, якая кіпіць і падае на зямлю, як гэта бывае толькі ў час сусветных катастроф.

Пасля ўколу ўсё мяняецца. Ад ложка да акна рассцілаецца шырокая месячная дарога, і на гэту дарогу выходзіць чалавек у белым плашчы з крывавым падбоем і пачынае ісці на месяц. Побач з ім ідзе нейкі малады чалавек у парваным хітоне і са знявечаным тварам. Падарожныя пра нешта гавораць, спрачаюцца, хочуць пра нешта дамовіцца.

— Божа, божа,— гаворыць чалавек у плашчы і паварочвае пагардлівы твар да свайго спадарожніка.— Якое няўдалае пакаранне. Але ты мне скажы, калі ласка,— твар з пагардлівага робіцца ўмольным,— скажы, яго ж не было! Малю цябе, скажы, не было?

— Ну, вядома, не было,— адказвае хрыплым голасам спадарожнік,— гэта табе здалося.

— І ты можаш паклясціся ў гэтым? — умольна просіць чалавек у плашчы.

— Клянуся! — адказвае спадарожнік, і вочы ў яго чамусьці ўсміхаюцца.

— Больш мне нічога не трэба! — ахрыплым голасам ускрыквае чалавек у плашчы і ўзыходзіць усё вышэй да месяца, вядзе за сабой і свайго спадарожніка. За імі ідзе спакойны і велічны вялізны вастравухі сабака.

І тады месячная дарога закіпае, пачынае разлівацца белай плынню ва ўсе бакі. Поўня валадарыць і раскашуе, танцуе і шалее. Потым з плыні ўзнікае незвычайнае прыгажосці жанчына і выводзіць да Івана за руку зараслага

барадой чалавека, які спалохана азіраецца. Іван Мікалаевіч адразу пазнае яго. Гэта — той нумар сто васемнаццаты, яго начны госць. Іван Мікалаевіч у сне падае яму руку і прагна пытаецца:

— Дык, значыць, гэтак і скончылася?

— Гэтак і скончылася, мой вучань,— адказвае нумар сто васемнаццаты, а жанчына падыходзіць да Івана і гаворыць:

— Вядома, гэтак. Усё скончылася, і ўсё канчаецца... І я вас пацалую ў лоб, і ў вас усё будзе добра.

Яна нахіляецца да Івана і цалуе яго ў лоб, і Іван падаецца насустрач і ўглядаецца ёй у вочы, але яна адступае, адступае і ідзе разам са сваім спадарожнікам да поўні...

Тады поўня пачынае шалець, яна абрынае на Івана струмені святла, яна распырсквае святло ва ўсе бакі, у пакоі пачынаецца месячная паводка, святло хвалюецца, падымаецца вышэй, затоплівае ложак. Вось тады і спіць Іван са шчаслівым тварам.

Раніцаю ён прачынаецца маўклівы, але зусім здаровы і спакойны. Яго зраненая памяць супакойваецца, і да наступнае поўні прафесара не растрывожыць ніхто: ні бязносы забойца Гестаса, ні люты пяты пракуратар Іудзеі, коннік Понцій Пілат.

*1929—1940*

# ЗМЕСТ



**Булгакаў М. А.**

Б 90 Майстар і Маргарыта: Раман: Пер. з рус. А. Жука; Прадм. М. Тычыны.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 365 с., іл.— (Скарбы сусвет. літ.).

ISBN 5-340-00971-8 (беларус.).

Сусветна вядомы раман Міхаіла Булгакава (1891—1940) «Майстар і Маргарыта» ўпершыню выдаецца на беларускай мове.

**Б** $\frac{\textbf{8820000000—100}}{\textbf{М 302(03)—94}}$ **121—94** **ББК 84(2Рос-Рус)6**

СКАРБЫ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ



*Літаратурна-мастацкае выданне*

МІХАІЛ БУЛГАКАЎ

*Майстар і Маргарыта*

Раман

*Рэдактар І. П. Дабрыян*
*Мастак А. І. Цароў*
*Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд*
*Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо*
*Карэктар К. А. Крукоўская*

Здадзена ў набор 13.09.93. Падп. да друку 15.07.94. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афс. друк. Ум. друк. арк. 19,32. Ум. фарб.-адб. 19,74. Ул.-выд. арк. 21,32. Тыраж 6000 экз. Зак. 499.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.